# КАСТУСЬ КІРЭНКА

## ЗБОР ТВОРАЎ У ТРОХ ТАМАХ

ТОМ

# 3



## ВЕРШЫ, ПАЭМЫ, АПАВЯДАННІ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1988

# ВАНДРОЎНАЕ ШЧАСЦЕ

## Рыбацкая паэма

Калі і як гэта пачалося?

За прамяністымі маякамі маленства схаваўся ў сініх незабудках духмяны стромісты бераг; пераліваецца, вызваньвае песню лета задумны Сож; і нешта такое роднае, такое бясконца дарагое раптам прынясе далёкі ўспамін, што сэрца ажно заные і балюча зашчыміць, нібыта забаіцца: а можа, тое ўсё лепшае ўжо даўно аджыло, даўно страчана...

Дзіўна... Далібог, дзіўна...

Хіба ж такое можа стацца, каб аджыло самае дарагое?..

Хіба ж сэрцу было б чым узнаўляць свае сілы, было дзеля чаго трывожыцца і радавацца, калі б самага дарагога ў яго не стала?.. Старонка родная, сіні бераг, цішыня плёсаў, плёскат хваль, тумановыя світанкі, сонца на ўсходзе, зялёныя зоры, водар лугоў... Усё, як адна несціханая, невыказная песня, звініць і нясе мілы напеў праз жыццё.

Калі ж гэта пачалося? З якой хвіліны вядзе сваю сцежку зачараванасць красою бацькоўскага краю, смутак па мясцінах непаўторных і незабыўных, дзе пляскотныя хвалі, бы казачныя самацветы, сыплюцца, наплываюць на пахкі аер, дзе серабрыстая плотка весела падміргвае вокам, быццам мае сказаць табе нешта дужа таемнае і святое?

З якой хвіліны прыйшла ў душу неўтаймаваная асцярога — каб ніколі не страціць гэтае шчодрасці зямлі, гэтага бясконцага хараства?

З якой хвіліны прыйшло ў душу адчуванне, што ты — жывая часцінка сваіх светлых рачных абшараў, сваіх сонечных і грымотных небасхілаў, сваіх патаемных сцяжыначак-пуцявінак да самага шчаслівага берага?

Гэтую кнігу я назваў рыбацкай паэмай, а паэму — светлым іменем «Вандроўнае шчасце». Бо ў ёй і папраўдзе — сказ пра сходжаныя і нясходжаныя рыбацкія дарогі, пра рыбацкія вандроўкі і рыбацкія прыгоды.

Пра пясчаныя віры, дзе гуляе між глыбінёю і травамі і ўсміхаецца мудрай усмешкаю нязлоўлены асілак-лешч.

Пра шчаслівыя кручкі і блешні, якіх сабралася ў скрынках і на сыноў, і на ўнукаў, і на праўнукаў.

Пра зялёную гарошыну, пра душагубку-хістанку, пра хітрую маляўку, пра шчупака-насарога...

Але я ніколі не ўзяўся б за пяро, калі б маёй рукою не кіравала бязмежная любасць. Любасць да наскіх азёраў і рэк, да палёў і пушчаў, да сіняга і хмарнага неба над імі, да рос і дажджынак на іх, да гукаў і галасоў роднай зямлі, да бясконцай яе красы.

Калі гэта пачалося — тое, што людзі называюць «охота пуще неволи», а мы — рыбакі — сваім шчасцем?

Калі гэта пачалося — што не сядзіцца чалавеку дома, што гатовы ён кінуцца і ў буры, і ў завеі, абы толькі ўбачыць свае вабныя, любыя мясцінкі, паслухаць шэпат сітнягоў і посвіст ветру, падыхаць дымам рачнога цяпельца?

Калі гэта пачалося — што ўсю зямлю чалавек па сардэчнаму праву пачаў лічыць сваёй роднай матуляй?

*

Цяпер і ў вёсцы, і ў горадзе столькі рыбакоў, што падумаць часам боязна: дзе ім усім хопіць тае рыбы? Амаль у кожнай хаце — вудачкі, спінінгі, рагулькі, кружкі, блешні, катушкі, лескі, грузілы, паплаўкі, бляшанкі, вядзерцы, рукзакі, багорчыкі, пешні, ледарэзы і яшчэ гэтулькі іншага ўсялякага начыння — і назваў усіх не згадаеш.

Калі ў лагодную зімовую нядзелю выйдзеш на лёд Мінскага мора — аж цёмна робіцца ўваччу, столькі там бывае розных людзей! І пажылыя, і зусім яшчэ юныя, і дзядулі з барадамі, і жанчыны, і нават сарамлівыя маладажоны. І ўсе дзяўбуць лёд, і ўсе ловяць, і ловяць, і ловяць.

Ловяць...

Сядзяць над пелькамі цалюткі дзень — што праўда, дык праўда.

А з чым дамоў вяртаюцца?

З чым... Як гэта хто разумее — з чым.

Вяртаюцца з пахам снежнага сіверу і марозу, з новай казкай пра самую запаветную пельку, якое сёння не знайшоў (замяло завеяй!), але якую абавязкова знойдзе наступным разам і ўжо тады «дакажа» ўсім рыбакам. Вяртаюцца з надзеямі (вось толькі зраблю новую блешню!),

з вобразамі для новых сноў, з наіўнымі, амаль дзіцячымі лятункамі...

Вяртаюцца расчырванелыя, стомленыя, часта сумныя, разгубленыя, амаль панурыя, часцеў за ўсё з пустымі вядзерцамі і рукзакамі... І ўсё ж — шчаслівыя.

Кпяць з іх, а яны шчаслівыя.

Крычаць на многіх дома жонкі і дзеці («і не абрыдла табе па снягах цягацца!..», «пашанаваўся б хоць трохі са здароўем, сам жа ведаеш, які ты...»), а яны — шчаслівыя!..

Вось для гэтых няўрымслівых шукальнікаў непрызнанага рыбацкага шчасця, якое ведае і шануе толькі той, хто адчуў яго ў сваёй душы, для непаседлівых вандроўнікаў, улюбёных у кожную травінку над бруістым рачным струменем, у кожны жывы подых роднага наваколля,— мне і захацелася напісаць сваю кнігу.

З імі, шчаслівымі ўдачнікамі і няўдачнікамі, хочацца пагаварыць пра нашы мілыя рыбацкія клопаты, пра свае рачныя паходы.

І для пачатку спяшаюся заспакоіць тых, хто турбуецца, ці не занадта многа ў нас цяпер распладзілася аматараў-рыбакоў:

— Не бойцеся! Гэтыя людзі не зробяць шкоды роднаму краю. І вудачкі іхнія, і спінінгі, і рагулькі, і іншыя няхітрыя снасці — гэта толькі іх спадарожнікі ў шчасці пабыць, пабачыцца, пагутарыць і параіцца з дарагою прыродай.

*

Было гэта пагодлівым чэрвеньскім днём. Крадучыся, каб не бачыла маці, збегаў я рана-раненька ў так званы Лог — роў за нашымі агародамі. У самай упадзіне рова, у зялёнай бязладнай гушчэчы вырастае гонкі ляшчыннік — ствол ля ствала, з гнуткімі і тугімі парасткамі-хлудамі. Там я выбраў і выразаў сабе першае сваё вудзільна. Ачысціў ад кары, прынёс пацiхеньку дахаты, схаваў пад страхою павеці. Паплавень з леташняй сітніны ўжо ляжаў у мяне ў кішэні. Меў я і кручок — яго даў мне анучнік за старое рыззё. Не было толькі лескі. Але я бачыў, як сукаюць леску з конскіх валасоў. Белы наш конь якраз стаяў ля павеці. Даўно ўжо ў думках рыхтаваўся я да адказнай аперацыі — здабыць з конскага хваста пучок так патрэбнага мне валосся. Ды ўсё не асмельваўся. Але ў тую раніцу, напэўна, я даспеў-такі для важнага подзвігу. Пад-

сунуўся да каня, збоку ўзяўся за хвост. Конь даверліва пераступіў з нагі на нагу. Я выбраў з сярэдзіны хваста самы доўгі пучок валасоў, наматаў на руку і тузануў з усіх сіл. Каня быццам падмянілі — як ад раптоўнага стрэлу, узвіўся задам аж пад самую страху. І з гарачым полымем у вачах я пакаціўся на свежае пілаванне за варотамі. Колькі там ляжаў — не ведаю. Калі ж ачнуўся, то не думаў, дзе і што ў мяне баліць, бо з радасцю ўбачыў: пучок конскага валосся ў руцэ!

Пад вечар я ўжо быў на Сажы. Ці злавіў я тады якой-небудзь рыбы? Не памятаю. Але што назаўсёды ўрэзалася ў душу, дык яно — як жывое: высокае ўзвалле над Сажом, пясчаная сцяжыначка ўніз, вялікая, імклівая плынь, чыстая, пасечаная іскрамі бруя́ на вострым крамені, водарныя лугі за Сажом і рэха... Рэха з таго дня застаецца самым мілым маім успамінам... За Сажом шаргаталі косы, перагукваліся мянташкі, чуліся вясёлыя галасы і смех, часам аж да самага неба ўставала над паплавамі задуменная дзявочая песня. Усё гэта зліваласяў адно шырокае водгулле, адбівалася ад сцяны цёмнага лесу за лугамі і вярталася да ракі звонкім і гулкім шматгалосым рэхам. Я таксама не маўчаў: там, за Сажом, недзе сушылі сена і мае бацька з маці, і мне дужа хацелася, каб яны пачулі, які я шчаслівы.

— Я тут! Я тут! Э-гэ-эй!.. Гэй! — крычаў я, і рэха прыносіла хуткі і вясёлы адказ. І мне здавалася, што і паласатыя акуні, і лянівыя падкаменшчыкі слухаюць музыку наваколля і радуюцца разам са мною...

Вось так гэта і пачалося.

Вось тады я і захварэў гэтай чароўнай адвечнай хваробаю — рачною тугою — на ўсё жыццё.

З таго дня і лічу сябе членам шматмільённай сям'і аматараў-рыбакоў, неўтаймоўных вандроўнікаў.



Рыбаком завуць кожнага, хто калі-небудзь узяў у рукі вуду. І тыя, хто мала што пра рыбакоў ведае, звычайна лічаць, што самае галоўнае для іх — паболей налавіць рыбы.

А ці ж гэта так?

Тыя звычайныя рыбакі, да якіх належу і я, рэдка калі мелі падставу асабліва хваліцца сваёй здабычаю. Бо мы

не выбіралі спецыяльных мясцін для свайго рыбацкага палявання, для нас не гадуюцца ў агароджаных азярынах тлустыя карпы, нам не выпадала бываць на зарыбленых азёрах запаведнікаў... Ды нам гэта і не трэба... Сапраўднаму рыбаку не трэба тое, што даецца ў рукі само. Сапраўднага рыбака цікавяць нечаканасць, прыгода, адкрыццё, спадзяванне, знаёмства з новымі краявідамі, выяўленне сваёй знаходлівасці і цярплівасці, здабытая ў пошуках уцеха... Бо калі ў люты сівер або пад шумлівым ліўнем рыбак шыбуе з вудамі на раку, ці спадзяецца ён хоць трохі на нейкую ўдачу? Не. І ўсё ж ён кіруецца да запаветнага вірка, затокі або старыцы, цярпліва чакае і чакае, аж да самага цёмнага не пакідае думаць пра цудоўную хвіліну, калі паплавень раптоўна нырне пад цёмную хвалю, а сэрца рыбацкае зойдзецца ў салодкай трывозе... І што ж, калі сёння ён гэтага не дачакаўся... Затое ў яго засталася мара, надзея, засталося ў вачах дрыготкае трымценне зялёнай чараціны, за якой (далібог, не прымроілася!) прасунуўся, узняўшыся з глыбіні, каля самага ягонага паплаўня вялізны прыгажун галавень. І не раз яшчэ пакліча рыбака тая зялёная чараціна, і не раз яго сэрца заб'ецца радасцю чароўнага чакання...

І калі-небудзь, прагаласаваўшы на глухім лясным скрыжаванні, ён сядзе ў аўтобус з сапраўднай рыбацкай удачаю. Ці заўважаць людзі яго настрой? Не, мусіць, не заўважаць. «Во і музы́ка з'явіўся»,— скажа, як было ў мінулую нядзелю, які-небудзь малады піжоністы рагатун, паказаўшы на зялёную рыбакову скрыню. Рыбак не пакрыўдзіцца, не абразіцца. Музы́ка дык музы́ка — няхай сабе і так. Ён шчыра ўсміхнецца ў адказ і радасна ўспомніць сваё сённяшняе ўдачлівае рачное вандраванне. І на самай справе му́зыкаю адгукнецца на яго думкі ўласнае гулкае сэрца.



А ўсё ж — чую — нехта з маіх субяседнікаў нецярпліва просіць слова. А ўсё ж, кажа ён, не лішне было б павесці размову і аб самім нашым інтэрасе: аб рэках і рыбах, аб вудах і прынадах, аб рыбаках і рыбацкіх здарэннях — хіба ж гэта не цікава?

Ну што ж. Мне і самому карціць пра ўсё пагаварыць. І яшчэ парадавацца тым-сім і зноўку паслухаць тое-сёе. І нешта ўзнавіць у памяці для дружбакоў і самога сябе.

## МАЕ РЭКІ І АЗЁРЫ

Першая рака ў кожнага рыбака, самая лепшая і самая непаўторная,— тая, ля якой ён нарадзіўся.

Там неаднойчы яму неяк па-асабліваму ўзыходзіла сонца, зусім не так, як дзе-небудзь потым,— узыходзіла на духмяныя росы, у самыя вочы, у самае сэрца, і, безумоўна ж, толькі з усходу. Там і хвалі шапталі пра нешта самае запаветнае, чаго яшчэ нідзе і ні ў кога не было. Там і сцежкі над вадою вадзілі ў самае цудоўнае захапленне ў свеце.

Для мяне такою ракою быў і застаецца мой летуценны і казачны, мой ціхі і велічны, мой добры і ласкавы Сож... Успамінамі пра гэтую цудоўную беларускую раку я і пачну сваю размову.

### СОЖ

— Цяпер не тое... Што гэта за рака, што за рыба... Вось раней было! Во якая рыба лавілася! А якая зрывалася!..— Чалавек шырока разводзіць рукамі.— От гэта была рыба!..

Такое слова часта можна пачуць ад старэйшых людзей.

Ну, якая рыба лавілася — вядома: гэтую бачылі.

А якая зрывалася?

О-о-о!.. Зрывалася, безумоўна,— во-о-ось такая!.. Зрываецца заўсёды самая вялікая.

Гэтак ва ўсіх рыбакоў.

Але, уявіце, быў у мяне адзін знаёмы рыбалоў, які заўсёды дакладна ведаў, якая рыба ў яго сарвалася. Без ноткі гумару, зусім сур'ёзна, нават злуючы, калі хто-небудзь пацiскаў плячамі, ён гаварыў:

— От бяда! От бяда! Не давёў да берага двух шчупакоў. Адзін быў тры кілаграмы пяцьсот сорак сем грамаў, а другі — чатыры дзвесце.

А што ж. Калі баіць, дык баіць...

Але пры чым тут Сож?

Можа, і ні пры чым...

Але Сож і на самай справе цяпер не той, што быў калісьці. І прыгожы, і па-ранейшаму вясёлы, і рыбы ўсялякае хапае. І ўсё ж рака зараз, безумоўна, «не тая». Як паўнаводна каціўся ён, мой мілы Сож, пад кручамі мелавых берагоў, шырока разліваючы рукавы пад сінія лясы

за лугамі! Якія бяздонныя вотматы, глыбокія віры, шырачэзныя плёсы раскідваліся перад вачамі!

Я памятаю, дзе былі абрэзы яго вады,— цяпер там засталіся вышчарбленыя плынямі мелавыя прыступкі, над якімі згорбіліся каржакаватыя вязы: ім цяжка ў засушанай зямлі. А калісьці ж іх раскідзістае голле мылася ў празрыстай Сажовай вадзе.

Два разы — у сорак першым і ў сорак трэцім гадах нашага стагоддзя — прайшла па Сажы бязлітасная бура — вайна. Перавярнулі бомбы і снарады яго берагі, перарэзалі акопы і капаніры яго дзярністыя ўзваллі. А колькі вынішчылі чужынцы лясоў паабапал Сажа! Партызан баяліся фашысты — дык бамбілі, выразалі, высякалі бары і дубровы. Закопваліся ў зямлю перад наступам савецкіх войск — то таксама нішчылі лясы, псавалі берагі, лугі, яры, крыніцы.

Доўга будзе памятаць наша зямля варожую ліхую навалу!

Сож стаў намнога вузейшы, памялеў; дзе падзеліся яго бяздонныя глыбіні, яго бурныя, пеністыя віры, па якіх калісьці нават вопытныя плытагоны баяліся ганяць плыты.

Пра які ж Сож гаварыць — пра той, што быў, ці пра той, што ёсць?

Мусіць, лепей не загадваць — бо ці абыдзешся без таго, каб не сказаць пра мінулае? А ўжо ж пра тое, што ёсць,— безумоўна, само сабою.

Мой Сож, у той мясціне, дзе я нарадзіўся, каля вёскі Гайшын непадалёк ад Слаўгарада,— рака незвычайнага хараства і рыбнага багацця. Правы бераг — высокі і стромы, часам — у зарасніках арэшніку і дубняку, а часцей — зацененый засенню маладых бароў. Левы — ніжэйшы, але сухі і водарны; тут шырока рассцілаюцца заліўныя лугі — са шматлікімі азярынамі, старыцамі, расцяробамі, пясчанымі грывамі і грудкамі, за якімі стаяць, нібы стаміўшыся, задумныя векавыя дубровы.

Добра тут рыбаку сустракаць летнія адвячоркі. Сонца ўжо схаваецца за гарою, павее свежасцю з крынічлівых яроў, а па лузе ўсё яшчэ гуляюць цёплыя праменістыя ўсмешкі. Духмяная цішыня густа наплывае з-за вербалозаў на раку — нават у глеістых пячурках пад берагам сціхла, не заляскоча бруістая вада. Змоўклі дзённыя птахі; папялова-шэры падворлік, што ўвесь дзень млява кружыўся над сітнягамі, выглядаючы здабычу і адцяг-

ваючы ўвагу рыбака, і той са свістам крыл нырнуў у заценены бор. Над ракою, як бы ўзіраючыся ў наваколле, ступае ціхая, светлая задума. У такія хвіліны рыбак, знаёмы з Сажом, добра памятае: трэба стаіць дыханне! У такія хвіліны пакідае глыбіні і пачынае перадсуцемкавы ход за спажываю самая магутная прыдонная рыба. Зачараваная цішынёю, яна амаль без асцярогі падыходзіць блізенька пад берагавыя травы і разбуялыя над вадою вербалозы. Паволі пасоўваецца супраць цячэння, падбіраючы прыбіты да адхоністых рачных абрэзаў усялякі корм. Вось у такія адвячоркі часцей за ўсё і выпадае рыбаку перажыць тое шчаслівае хваляванне, якое не дасць яму потым ні на хвілінку заснуць каля ціхага, прыжмуранага цяпельца...

Але, бадай, калі б і ўдалося рыбаку трохі прыкархнуць, прымасціўшы галаву на сухі дзёран, то ўсё роўна яго хутка пабудзяць сцішана-ўладарныя шолахі і галасы світанку. Яшчэ дзе-нідзе падае голас нястомны начны валацуга — дзяркач, але ўжо яго перабівае там і сям то залівістая песня жаваранка, то ўрачысты трубны кліч жураvoў, то кароткае «кэ-кэ» глухаркі, што выводзіць сваіх дзяцей насустрач промням сонца на пясок высокай грывы... З боку пасівелых за ноч расцяробаў наплывае на бераг ракі парны празрысты туманок — ён так хутка асядае, што рыбак не паспее яшчэ і ачомацца, як увесь бераг пачынае граць гарэзлівымі водбліскамі пагодлівага летняга золаку. Рыбак спяшае хутчэй закінуць свае вуды. Ён ведае: скора з-за сіняга лесу, адразу і раптоўна, як на арэлях, гайданецца над азярынкамі і серабрыстымі плёсамі сонца; і трэба не ўпусціць некалькіх дарагіх хвілін перад гэтым чаканым момантам. Паплавень, спачатку добра бачны ў дробных ад ранішняга ветрыку хвалях, нечакана пачынае ісці насустрач плыні, потым тарганецца разок-другі, як быццам задумаецца, і раптам глыбока знікне пад цёмнай вадою. Рыбак усхвалявана бярэ вуду ў рукі. Зараз пачуецца рэзкі і настойлівы націск мірона — волата прыдонных рачных шляхоў. Вудзільна сагнецца ў дугу, а леска зазвініць, як тонкая струна. І хто ведае — можа, толькі дзынкне абарваны яе канец, і рыбак, які так любіць вясёлае сонца, зашэпча: пачакай, сонейка, не ўзыходзь, а можа, удача яшчэ і паўторыцца...

Хоць Сож і страціў многа сваёй паўнаводнай красы, усё ж і сёння ён — адна з найлепшых рэк у маім краі. Скажу без хвальбы, што нідзе, ні ў адной рацэ Беларусі,

не спатыкаў я такой смачнай рыбы, як наша, Сажовая. Пясчанае, нібы залатое, дно, чыстая, амаль крынічная вада, а жвіровыя перакаты, а высечаныя струменямі пячуркі ў мелавых адхонах, а лазовыя засені над маўклівай глыбінёю! — ёсць тут дзе разгуляцца і пажыраваць любой рыбе. І нездарма ўсе старыя рыбакі ў адзін голас абвяшчаюць, што, дзе б ні давялося ім сказаць, што яны ад Сажа, усюды ў нашай акрузе прасілі і просяць іх прывезці пакаштаваць цудоўнай Сажовай рыбы.



«Сынок, прыязджай! Пайшоў язь». Такую кароткую тэлеграму прысылала мне маці кожнай вясною пасля таго, як я асталяваўся на жыхарства ў сталіцы. Гэта была яе маленькая хітрасць: часцей бачыць мяне каля сябе ў роднай хаце. Бо яна добра ведала: што-што, а гэтае паведамленне адразу падыме мяне ў дарогу.

Хоць маці мая і была заўсёды працаўніцай розных негаспадарскіх заняткаў, але рыбацкае маё захапленне ўсё ж шанавала. Калі пасля яе тэлеграмы я прыязджаў у свой Гайшын, яна падрабязна пераказвала мне вясковыя рыбацкія навіны, перадавала ўсё, што чула ад суседзяў-рыбакоў і нерыбакоў. І вось я хапаў з-пад страхі арэхавую сваю вуду і кідаўся на Сож, туды, дзе — ведаў і па сваіх успамінах, і па расказах маці — чакае мяне вясновы ўладар перакатаў — язь.

Язь на Сажы — рыба, пра якую ходзяць сапраўдныя легенды. І які ён бывае асілак — самыя моцныя рве лескі; і які мудры ды хітры — здалёк чуе рыбака небяспечнага і рыбака-недарэку; і які ён жартаўнік — цэлы дзень можа з прынадаю цвяліцца, а ўзяць не возьме.

Я нічога не дадам да гэтых легендаў, а скажу толькі, што ў маім рыбацкім шчасці язю належыць найпершае месца. Неяк так здарылася, што першай вялікай рыбаю, якую мне ўдалося злавіць на сваю няхітрую дзіцячую вуду, быў язь. То адбылося ў час касьбы. Стаяў ясны, асмужлівы поўдзень. Мы раскідалі з бацькам копы — перасушыць пасля дажджу. «Перадых, сынок!» — сказаў, калі ўсё было зроблена, бацька і ўзяўся за капшук. Я подбегам скіраваўся да Сажа — там, на беразе, у канцы нашай палоскі, ляжала ў траве прыхаваная мною вуда. За якую хвіліну налавіў цэлую жменю конікаў. Кручок быў вялікаваты — ну што ж, конікаў хапала, я насадзіў іх на

кручок, можа, не менш чым паўдзесятка, і, прымасціўшыся за кустом, кінуў у самую быстру. Не паспеў апамятацца, як у тым месцы, куды ўпалі конікі, паверхня вады ўзбурлілася шырокім пляскотным кругам. І ў той жа момант леска наструнілася і зазвінела. Перапалохаўшыся, я стаў цягнуць вуду на сябе і тут зразумеў, што на кручку сядзіць нешта дужа вялізнае.

Потым, калі чалавек становіцца вопытным рыбаком, ён усё разглядае аналітычна: як рыба брала, як ён падсякаў, як цягнуў і, нарэшце (так часцей за ўсё бывае),— чаму не выцягнуў. А ў навічка ўсё адбываецца па-божаму наіўна. Я не ведаю, як выводзіў таго першага свайго язя, але памятаю, што ўвесь быў перапэцканы рачным ілам і сурам, калі ў руках маіх апынулася хвацкая серабрыстая рыбіна.

Самі разумееце, што са мной рабілася: забыўшыся пра ўсё на свеце, я з той рыбінаю кінуўся да бацькі. І, мусіць, нешта крычаў, бо ён, устрывожаны, ужо бег мне насустрач.

«А братачка ты мой... Язь! — сказаў бацька.— Няўжо сам? От рыбалоў! От рыбалоў!»

Пасля гэтага выпадку і бацька, які сам не любіў займацца рыбалкай, але дужа любіў пабываць на прыродзе, часта хадзіў са мной на Сож. Ён садзіўся на які-небудзь пенчучок ці зялёны грудочак пад вязам, улюбёна ўзіраўся ў «лазурыну нябесную», як называў воды Сажа з адбіткамі берагавой зеляніны і неба, і, пакуль я, закасаўшы штаны, вандраваў пры беразе, сумна выводзіў песні пра казакоў, што ішлі на вайну. І выразаў мне і маім малодшым брацікам драўляныя цацкі.



Самая цудоўная часіна на Сажы — канец мая і пачатак чэрвеня, калі язь, адціраваўшы, пачынае нагульваць сваю сілу. Як хораша ў гэты час выглядае прырода! Колькі эмоцый можа выклікаць любое падарожжа на раку!

Абавязкова трэба быць на беразе з самага ранняга світання. Сож паважна і плаўна коціць поўныя вясновыя воды. Цішыня. Яшчэ павявае ад сырога лугу пранізлівым халадком. Рака здаецца зусім апусцелай. Толькі дзе-нідзе пырсне рачная драбяза — празрыстымі іскрамі пад лёгкім сінім туманочкам.

Але вось з-за лугавых расцяробаў, з-за вежаў сасновага бору, прабіўся і выскачыў на прастор залаты агеньчык-

прамень. Сонца яшчэ не відно, яно вынырне з-за далягляду толькі праз нейкі момант, а на рацэ і на лузе, як па камандзе, ужо ўсё загаварыла, заспявала, ажыло. Рассеялася туманковая смуга, і вось — глядзіце, глядзіце,— як змянілася водная паверхня! Што гэта за істота паказала з вады чорны хіб, бульканула, аж зазвінеў хвалісты круг, і знікла? А там разануў плынь шырокі хвост, а вунь лабатая галава высунулася, павярнулася — чмок, чмок! — тоўстыя губы хапаюць мятліцу.

Гэта пачаў гуляць язь.

Пасля ціру, які на Сажы бывае звычайна ў сярэдзіне мая, згаладнелы язь выходзіць з глыбінь, дзе ён адпачываў, на паўнаводныя, імклівыя перакаты. Тут найбольш знаходзіць ён ежы, каб вярнуць сабе сілы, страчаныя пры ціраванні. Усё ідзе ў яго рацыён — і лічынкі, і мятліца, і ўсялякія зярняты, якія трапляюць у раку з палёў разам з дажджавой вадою.

У гэты час язь бывае не толькі непераборлівы ў ежы, але і занадта смелы, нават неасцярожны. Мусіць, яго вельмі даймае голад, бо — як я ўпэўніўся — часта ён амаль зусім не звяртае ўвагі на рыбака, кідаючыся на любую прынаду.

Асабліва любіць язь хрушча, бярэ яго заўсёды безадмоўна. Хоць многія і рыбакі, і аўтары рыбацкіх легенд сцвярджаюць, што на хрушчоў больш і часцей за ўсё палюе галавень, я ніяк з гэтым не магу пагадзіцца. Бо толькі язь — і які язь! — трапляўся мне на вядомага ўсім хрушча. А можа, так бывае толькі на Сажы? Ці, можа, і праўда, што галавень не любіць жыць там, дзе збіраецца многа язёў?

У тую пару, калі на маладзенькай лістоце бярозак і дубкоў з'яўляецца мноства хрушчоў, язь выходзіць на паляванне з самага сіняга золаку. Асабліва ён любіць раніцы, якія пачынаюцца з ціхіх і парных світанкаў. Невыказную асалоду можна атрымаць у такія вясновыя дні.

Для таго, каб дарэмна не траціць часу на пошукі стаянак язёў, я прыдумаў (безумоўна, з дапамогай рыбацкай інтуіцыі) адзін зусім просты спосаб. Набраўшы хрушчоў у жменю, стараўся закінуць іх як мага далей ад берага. Траплялі на ваду не ўсе — частка паспявала расправіць крыльцы і паляцець. Імклівая быстра падхоплівала хрушчоў, што пападалі на ваду, гнала ўніз. І вось яны плывуць далей і далей, а ты ідзеш па беразе і пільна глядзіш на раку — дзе ж ён абесціцца, той язь? Усё ціха,

спакойна, Сож як быццам анямеў. І раптам — вось яно! Глядзі, глядзі, што там робіцца! Вось адна цёмная спіна, вось другая, булькнулі і зніклі. А вунь галава торкаецца з вады, зявае — раз і два, хутчэй схапіць хрушча, хутчэй! Які-небудзь момант — і вада затаўклася і закіпела, язі, як ачмурэлыя, кідаюцца на хрушчоў. Цяпер спяшайся — рыхтуй сваю вуду. Насаджвай хрушча на кручок так, каб джала выходзіла на паверхню. І закідвай. Не паспееш міргнуць вокам, як твой хрушч знікае пад вадою. Чакай, не гарачыся, не цягні, леска яшчэ правісае. Але вось пачынае наструньвацца, ідзе ў глыбіню. Цяпер сячы!



Падсечаны язь, які б ён ні быў вялікі, паводзіць сябе, як кажуць іхтыёлагі-аматары, не дужа спартыўна. Ён не кідаецца ўбок так імкліва і ўпарта, як беласпёр, не ціснее леску рашуча і настойліва да самага дна, як мірон, не шалее і не выяўляе такой самаахвярнай адвагі, як галавень... Але ён валодае немалой сілаю і не дапускае ніякіх з сабою жартаў. Паспрабуй толькі цягнуць яго да сябе груба і «без понятия», і леска твая адразу ж дзынкне коратка і жаласліва, як бы спяваючы «бывай». У самым пачатку свайго рыбацкага захаплення, калі на хрушча браліся экземпляры па два і тры кілаграмы, я неаднойчы стаяў над вадою разгублены, слухаючы такі спеў лескі... Але бывалі, праўда, і хвіліны захаплення — у тых выпадках, калі ўдавалася стрымаць сваю нецярплівасць. Не паспяшаешся, дасі язю прытаміцца, пакідацца, павалтузіцца ў глыбіні, і ён сам выходзіць на паверхню і паслухмяна — губы над вадою,— сунецца да берага. Вось ён буйной галавою, як стомлены віцязь, прылёг на пясок. І шкада трохі чарнаспіннага прыгажуна, і недарэчна дзіка робіцца ад думкі, што ачомаецца ён хутчэй, чым ты паспееш падбегчы і аберуч схапіць за гэтую прыгожую галаву...



Як я ўжо сказаў раней, першага свайго язя я злавіў на конікаў. І таму потым, бывала, амаль заўсёды выкарыстоўваў гэтую прынаду. Ужо зусім нядаўна я ўбачыў, як прыманьваюць, і сам навучыўся прыманьваць язя на параны гарох. На гарох язь бярэ на працягу амаль усяго сезона — з тае пары, калі рака, увайшоўшы ў берагі, ачыс-

ціцца ад муту, і аж да першых добрых замаразкаў. Удалыя рыбалкі на гарох бываюць на Бярозе, ёсць магчымасць дабіцца поспеху на Нёмане і Дняпры.

І ўсё ж самыя лепшыя мае ўспаміны належаць тым вёснам, калі на Сажы лавіў язя на хрушчоў.

Наогул, Сож назаўсёды застанецца ў маёй памяці як самая шчодрая рака майго маленства і маладосці.

Тут я ўпершыню пачуў песні пра гаротную няпоўную рэчаньку, пра вярбу ў полі і крынічку пад ёю, пра казака, што не вярнуўся да маці з паходу... Разліваліся вясною паводкі — і які ён багаты быў тады, Сож, на прыгоды, на песні, на хвалюючае адкрыццё новых з'яў прыроды. Яшчэ і сёння, калі пройдзеш па яго берагах, пачуеш галасы піянерскіх і камсамольскіх злётаў, салдацкіх паходаў, у якіх удзельнічаў і сам.

З вясны да самай позняй восені захоўваюць надсажоўскія лугі, лясы і разлогі палёў такое прыволле і красу, якімі не можаш ні надыхацца, ні налюбавацца.

Вунь, як лернік здарожаны, згорбіўся над узваллем, апусціў сівую галаву, задумаўся старэзны дуб. Аб чым ён думае? Можа, аб тым часе, калі быў малады? Успомніў, як кідаліся да яго пад ногі бялявыя плыні бяздоннай глыбіні і сом часам вухаў хвастом па тых плынях, нібы хацеў падужацца і з маладым дубам, і з бязвусым рыбаком, што часта любіў сядзець з вудаю каля гэтага дуба. І сёння яшчэ вірыцца тут глыбокая цёмная вада. І, можа, бачыць у ёй дуб адбітак гадоў ваеннай віхуры, калі секлі тут і гэты бераг, і яго, дубава, сэрца грымотныя жалезныя маланкі.

А вунь маладзенькі хмызнячок выскачыў на жоўты пясчаны плёс. Адна смелая бухматая сасонка выбралася ажно да самай бруістай вады. І не баіцца, што дзень і ноч плюскоча каля яе нястомны струмень, выбівае з-пад ног жоўты пясок і вымывае яе белыя карэньчыкі...

Не адзін раз я спыняўся з вудаю каля гэтай сасонкі, прыхінаўся спіною да яе камля, закідваў за пясчаны карніз кручок з чарвяком. Як правіла, заўсёды з глыбіні, падмануты цішынёю, выходзіў да майго кручка сівалобы вандроўнік-лешч. От ужо калі салодка замірала сэрца! Здаецца, прыліпнуў бы зусім да сасонкі, не зважаючы на яе калючыя іголкі, так хацелася, каб лешч, нічога небяспечнага для сябе не заўважыўшы, падняў нарэшце майго чарвяка. Нават і сасонка пачынала хваляваца, шамацела, як кальчугай, зялёнымі стрэлкамі.

Але толькі аднойчы дачакаўся я ад таго мудрага ляшча жаданае ўвагі.

Прыйшоў я тады да сасонкі перад навальніцай — на небе за ракою клубіліся густыя папяловыя хмары. Калі я сцішыўся, закінуўшы вуду, за Сажом, над мелавой гарою, ужо грымнулі перуны. Праз хвіліну густой сцяною там ударыў лівень. Сюды, цераз Сож, далятালі пакуль што толькі асобныя буйныя кроплі. І, хоць вада пад хмарамі многа пацямнела, я адразу ж убачыў на пясчаным дне знаёмага свайго ляшча. Нетаропка, але смела і ўпэўнена ён скіраваўся да кручка, стаў тырчма — губамі ўніз, падняў з дна, пажаваў, як бы смакуючы, чарвяка, падумаў трохі, падумаў — і вось — нарэшце! — рашуча пайшоў, заглытваючы чарвяка, у глыбіню. Вось зараз, зараз буду падсякаць! Але ў той жа момант я ўбачыў на беразе дзікую козачку. Яна апынулася тут побач з маёй сасонкай. Патанцавала на пяску тонкімі ножкамі і падыбала ў ваду. Але далёка не зайшла, спынілася. Там, на другім баку ракі, дзе паласавалі лес чырвона-жоўтыя маланкі, раптам узняўся страшэнны гул, падобны на гул вадаспада. Мусіць, гэта і спыніла козачку. Перасмыкаючы вушкамі, яна ўстрывожана ўслухоўвалася ў той гул, узіралася туды, куды, мусіць, хацелася ёй хутчэй пераплысці. Што там? Я нарэшце зразумеў, што там за гул. Гэта збягала ўніз з белай гары суцэльная лавіна навальнічнай каламуці. Козачка спалохана трымцела блізка ля мяне ў вадзе, а ў гэты час на лесцы адчуўся настойлівы і нецярплівы націск ляшча. Што было рабіць? Ваяваць з рыбаю і спудзіць казулю? Не, казулю скрыўдзіць я не мог. Грымелі перуны, козачка з надзеяй глядзела за Сож, а лешч усё ніжэй прыгінаў да вады маё вудзільна. І раптам — дрынк! — леска з адным паплаўнём выскачыла з вады. Затое козачка нарэшце асвойталася з незнаёмым гулам, пасмялела, пакруціла галоўкай, нібы адкідваючы апошні страх, пайшла ўглыб, углыб і паплыла. Праз некалькі хвілін яна выйшла з вады на другім беразе і хутка знікла ў арэшнікавым гушчары.

*

Кожны, хто пабываў на берагах Сажа, згодзіцца са мною, што гэтая зямля — не перабольшваючы — незвычайная. Як бы ні бралася рыба, усё роўна не стрывае рыбак, пакіне вуду, узыдзе на гару, сядзе на чабаровы грудок

між арэшнікамі і соснамі і аддасца ва ўладу малюнкаў, фарбаў і гукаў цудоўнай надсажоўскай зямлі. Цягне мядовым настоем з пакошаных у расцяробах лугавін, над грывамі вучацца лятаць маладзенькія падворлікі, Сож уздыхае на поўныя грудзі пад шчодрым сонцам, а недзе збоку ацяжэлая сцяна жыта пахне маладым, найсмачнейшым у свеце свежым хлебам... Аднекуль, нечакана і зіхотна, з'явіцца перад вачамі рыбака чароўная постаць — казачная каралева летуцення, празрыстая, як Сажова вада, і бязгучная, як размова прамянёў... І вось ужо крочыць рыбак па ўладарным узмаху яе рукі — «пастой, пастой, красуня, пойдзем разам, усю зямлю возьмем у сэрца, як адвечны пасаг: і званкі, і смолкі, што вызвоньваюць, здаецца, песню кахання і незабыўных сустрэч, і бяссмертнікавы пах церпкі, і крыніцы ў ярах, і гоман лесу — там збудуем сабе хатку, лясны будан, і ніхто не будзе за нас шчаслівейшы...». Як зачараваны, ідзе рыбак па беразе, так лёгка яму дыхаецца, так горнецца душа да кожнай травінкі і лісточка, да кожнага гуку над люстранай вадою! Ідзі, ідзі, рыбак, убірай у сэрца чарадзейную сілу надсажоўскіх краявідаў. Толькі цішэй ступай над кручаю паміж двух дубоў — там, абсыпаная кветкамі лета, высіцца зялёная брацкая магіла. Перад сваімі ўцёкамі прыгналі сюды фашысты сорак палонных чырвонаармейцаў і закатавалі на гэтай вышыні. Мусіць, каб бачылі страшную іх лютасць нашы байцы, што рыхтаваліся наступаць цераз Сож, і спалохаліся. Але памыліліся фашысты! Не спалохаліся байцы, а з яшчэ большай нянавісцю ўдарылі па лютым ворагу. І кінуліся фашысты наўцёкі, пакінуўшы на вышыні акрываўленыя ахвяры свайго шалёнага зверства.

Байцы ў той жа дзень пахавалі братоў-чырвонаармейцаў, насыпалі паміж двума цяністымі дубамі высокую магілу. Нярэдка гучыць тут задумная песня пра казака, над якім, калі хавалі, пасадзілі баявыя таварышы «чырвоную каліну». «Эй, расці, расці — расці, расці, чырвоная каліна»,— з водгаласам плыве над Сажом урачысты наказ сяброўскай памяці. І зямля абсыпае брацкую магілу вясною і летам медуніцамі і рамонкамі, дзікай вікаю і бяссмертнікам, белай бярозкаю і малачаем.

Вясною цалюткімі днямі над гэтай магілаю, прыладзіўшыся ў зялёных вершалінах высокіх дубоў, зязюлі прарочаць стагоддзі вясновай радасці для нашай роднай зямлі, а вечарамі заліваюцца ў суседніх вербалозах салаўі. І со-

ладка замірае сэрца рыбака, калі ідзе ён за сваёй каралевай летуцення і ўсхвалявана спыняецца каля водарнага кургана між дубоў, не падазраючы нават, што гэта магіла...

Калісьці і я, зачараваны пяшчотным голасам зямлі, пакінуў сваю вуду на беразе і пайшоў на заклік таямніцы, што загучала ў сэрцы. Пахлі даспелыя суніцы на ўзваллі, перазвоньваліся ў арэшніку вёрткія берасцянкі, душным настоем лесу веяла ад палянак, усюды навокал перашэптвалася, спявала, у нешта ўслухоўвалася, да нечага спяшалася, пра нешта напамінала неўтаймоўная радасць лясного жыцця... У той дзень мая каралева летуцення пераатварылася ў рэальную каралеву бясконцага смутку. Як біблейская Ева, светлая і зіхотная, але ўся такая сапраўдная, жывая, яна сядзела на карме чоўна і выкручвала ад вады цяжкую белявую касу. Сонца не паспела яшчэ высушыць бліскотныя кроплі на яе дрыготкіх плячах і грудзях. Кожная жылка, здавалася, свяцілася блакітам неба і вады, і такой пяшчотай і ласкай павеяла ад яе красы, што я не стрымаўся і сам сабе вымавіў дарагое дзявочае імя.

Я ўпэўнены — яна не магла пачуць майго шэпту. Але, мусіць, да яе дайшла яго тужлівая гарачыня. Рукі спыніліся, каса залатой хваляю сыпанулася на плячо, дзяўчына ўстрывожана ўзняла галаву... Засаромлены, я падаўся ў зялёную гушчэчу дубнякоў. Колькі разоў пасля таго прыходзіў я на гэты бераг? Хай даруюць мне леснікі, калі на многіх кражыстых соснах убачаць выразанае сцізорыкам адно і тое ж дзявочае імя... Праўда, дзяўчына мая так ніколі і не даведалася, як сумаваў я калісьці па яе белявых косах, па яе зіхотнай красе. Можа, гэта і добра. Але хай яна ведае: я навек удзячны ёй за летуценныя вандроўныя дні, за казачны бераг, за пачуццё трывожнай недаступнасці шчасця, якое бывае ў жыцці кожнага чалавека, напэўна, адзін толькі раз...

*

Але, але...— чую нецярплівы голас майго субяседніка — але ж ты ўзяўся гаварыць пра рыбацкае шчасце. Дык жа гавары, не адхіляйся...

Рыбацкае шчасце...

Якое ж яшчэ лепшае можа быць рыбацкае шчасце...

Ах, ну вядома ж, трэба і пра рыб... Праўда, праўда, трэба і пра рыб...

Акрамя язя вадзілася і яшчэ водзіцца ў Сажы многа іншых рыб. Галавень, плотка, шчупак, лешч, акунь, мірон, падуста, беласпёр, чырванапёрка, піськіж, мень, лінь, уклейка, ёрш, падкаменшчык...

Калісьці, як быў студэнтам, прыехаўшы на канікулы, я любіў узяць у рукі кошык, вуду — і гайда пехатою ўзабрадкі за Сож! Адзежу ў кошык, кошык — над галавою ў адной руцэ, вуда — у другой — і вось ужо мацаеш пад нагамі дно на так званых Вузеньківх на знаёмым перакаце. Вада пад самую бараду, плынь амаль валіць з ног, але трымаешся, ідзеш, ідзеш далей, і, хоць зрэдку, бывалі выпадкі, аступішся, трапіўшы ў яму, нырнеш з галавою, але, выскачыўшы, думаеш толькі пра адно: хоць бы не выпусціць з рук кошыка і вуды...

За Сажом, трохі ніжэй гэтага перакату, за нашым Вусцем (тут зліваецца з Сажом глыбокая старыца), ёсць даўжэзнае возера Усохі.

У гэтым возеры колькі водзіцца чырванапёрак! Вясёлыя, зіркастыя, гарэзлівыя, прамяністыя, яны адзін час так мяне прываражылі, што толькі імі і займаўся. Возьмеш авадня або коніка, закінеш кручок за сітнягі, чырканеш ім па вадзе — і вось яно, як у казцы: аднекуль з-за стройных чарацін вымільгне чырвона-залацістая маланка, паплавень затрымціць, заскача і павольна-павольна, па самым версе, паплыве ўздоўж насцярожанага сітнягу. Роўненькая рысачка праменіцца на вадзе. Ці ты ўзялася, чырванапёрая, ці толькі цвялішся? Хутка скончыцца запас лескі, што загадаеш рабіць рыбаку? Стоп! — як быццам пачула залацістая жартаўніца — паплавень спыняецца, робіць невялікі круг і, танцуючы, гэтак жа спаважненька ідзе назад. Ну, ідзі, ідзі, паглядзім, што яшчэ яна прыдумае, мая зіхатлівая хітруха. Гуляй, чырванапёрая, я люблю твае вясёлыя жарты, але не забывай — можа не стрываць рыбацкая рука, свісне арэхавае вудзільна, і вострая тонкая сталь балюча секане па ўсмешлівых тваіх губах!

Хоць вельмі часта вяртаўся я дахаты з пустым кошыкам, але ніколі не мог адмовіцца ад салодкай спакусы — паназіраць за хітрай гульнёю чырванапёрых азёрных красунь. І да сённяшняга дня жыве ў вачах танец лёгкага паплаўня на люстранай роўнядзі возера, і здаецца: свеціцца мне з-пад той роўнядзі цёплая, даверлівая ўсмешка аранжавых зыркіх вачэй.

*

Наогул, на маім Сажы было ў мяне вандровак даволі многа, і досыць цікавых. Сож на Слаўгарадчыне багаты вірамі і шырокімі паваротамі, у якіх утварыліся так званыя вотматы — глыбокія зацішныя ямы. У вотматах і каля іх заўсёды любіць трымацца ўсялякая добрая донная рыба — шчупакі, ляшчы, акуні, плоткі і нават самы. Неаднойчы меў я на гэтых вотматах добры поспех, асабліва з блешняю і на донную закідушку. Неаднойчы адпачываў тут душою, заначаваўшы на ажынавай выспе і слухаючы, як за дрыготкім цяпельцам раскрываецца ва ўсёй сваёй пяшчотнай шчырасці начная зямля... Я і вам раю пабываць на гэтых мясцінах...

Аднак калі вы хочаце паспытаць сапраўднага спартыўнага шчасця — то трэба ісці на перакаты. Гэтыя перакаты звычайна бываюць залаціста-пясчаныя, з рэдкімі травянымі падбіўкамі каля берагоў. Часта перакаты перабіваюцца мелавымі адхонамі, глеістымі ўпадзінамі, крамянёвымі паясамі і карнізамі, па якіх імкліва коціцца бруістая і досыць глыбокая вада. На такіх участках ракі водзіцца тая рыба, якая надоўга можа прымусіць біцца рыбакова сэрца. Тут на захадзе сонца вылятае з вады фарсун-галавень, каб паказаць свой спрыт і сілу, з ранку да вечара бухае, аглушаючы малечу, беласпёр, і мірон-вусач паўзе ля самага дна, гатовы скрышыць любую снасць. Тут і падуста дзёрзка выйдзе цэлай чарадою на самы сонечны жвірок, як быццам запрашаючы рыбака паспаборнічаць з ёю ў дасціпнасці і хітрыні; і добры акунь раптам можа так цісkануць леску, што і рука закалоціцца; і, калі патрапіш, адна за адною пойдзе да тваё прынады рыба, якую ў нас завуць — ляскуха, а ў іншых месцах — падлешчаўка.

Як лаўчэй лавіць яе, гэтую рыбу?..

Як лавіць... Ці ж толькі ў тым і клопат — каб злавіць?.. Як лавіць — пра гэта напісана не ў адным дапаможніку, нямала ёсць аматараў падказаць спосабы, якімі лягчэй знішчыць воднае жыхарства. Але я думаю, што ў кожнага сапраўднага рыбака павінны быць свая практыка і сваё захапленне, свая радасць і свой сум. Трэба толькі, каб ён ведаў, на якой сцяжынцы спаткаюць яго найцікавейшыя нечаканасці і прыгоды. І я запрашаю яго пабываць на маім Сажы — там, дзе крыніцы бруяць з-пад самых ног на беразе; дзе зоры, адбіўшыся ў начной вадзе,

як быццам казачныя залатыя рыбкі, раптам гайдануцца і пакоцяцца пад сонныя чараты, трывожачы нечаканасцю збянтэжанага рыбака; дзе можаце калі-небудзь падужацца з такім няўклюдаю-сомам, што і ні блешні, ні лескі не пашкадуеце — бог з імі, з тымі блешнямі і лескай, набудуцца новыя, а вось успаміны пра ўпартую барацьбу з магутным асілкам за ніякія грошы не купіш...

Прыязджайце ўсе, хто зацікавіцца, з добрым, шчырым сэрцам на мой Сож, і зямля надсажоўская сустрэне вас ласкай і гасціннасцю. І калі па-шчыраму і па-добраму, дык рад з вамі пазнаёміцца і здружыцца, і дзеля агульнай нашай радасці — вось яны, перадаю вам свае рыбацкія адрасы.

*

Вотмата каля Жураўкінага рова — гэтую мясціну вы лёгка знойдзеце, спусціўшыся па рацэ да самага крайняга двара вёскі Гайшын. Двор гэты стаіць на высокім узгор'і між бяроз і належыць бакеншчыку Аўхіму. Тут на Сажы, прыткнуўшыся да пясчанага берага, заўсёды стаіць гурт лодак і чаўнакоў. У гэтым месцы Сож робіць круты, шырокі паварот; з другога, лугавога берага ў раку амаль да сярэдзіны ўразаецца доўгая пясчаная каса, якая на быстры абрываецца глыбокай цёмнай вадою. Якраз на самым развароце раку сустракае мелавая гара, таму дно між пясчанай касою і правым берагам выглядае як суцэльнае крамяністае ложа з вялізнымі мелавымі заваламі і глыбамі. Вада ў многіх месцах віруе і пеніцца, выганяючы на паверхню занесеныя з другога боку залацістыя пясчынкі. Да ўсяго трэба дадаць, што якраз насупраць вотмата да Сажа выбягае крынічлівы роў — Жураўкіным чамусьці завецца. Можа, калісьці тут былі глухія мясціны і любілі ў гэтым рове вадзіцца ці спыняцца журавы? Ці мо адбылося калісьці тут якое-небудзь здарэнне з журавом-жураўкам, і ў знак народнага шкадавання або захаплення людзі назвалі роў імем любімай, лагоднай птушкі?

Вясною, калі на палях і лугах збіраецца, шукаючы сабе выйсця, бурная снегавая вада, і ў дні вясновых і летніх навальніц з Жураўкінага рова ў Сож імкнуць шумлівыя, засураныя і ўзмутнелыя патокі. Яны прыносяць у раку ўсялякі, напэўна, вельмі багаты і прыдатны для рыбы корм. Бо амаль заўсёды ля гэтага Жураўкінага рова,

у вадзе,— ну, сапраўдны рыбны базар: туды-сюды снуюць, таўкуцца на самай водмелі чародкі малечы, у якія нярэдка ўрываюцца, несучы вэрхал і спусташэнне, шчупак або галавень; крыху далей за пясчаным жоўтым поясам, дзе пачынае цямнець глыбіня, павольна вандруюць касякі паласатых акунёў; віравокія ляскухі то выйдуць з мелавых сховаў на ўскаламучаны жвірок, то скоцяцца, як па нечай камандзе, назад, углыб...

У вотмаце насупраць Жураўкінага рова на спінінг і жыўца можна ўпаляваць любога з вядомых у беларускіх рэках драпежнікаў — шчупака, акуня, галаўня і беласпёра. Толькі самоў даўно тут не бачылі— занадта змялелаю для самоў і шумліваю стала цяпер гэтая мясціна.

На муху, коніка, чарвяка, матыля або мятліцу ля Жураўкінага рова можна лёгка злавіць уклейку, плотку, пад'язка, галаўня, падусту, ляскуху, піськіжа, яльчыка.

Тут, у вотмаце, як я ўжо сказаў раней, заўсёды поўна чаўнакоў, душагубак, пласкадонак. Можаце пераехаць сабе на другі бок, паспрабаваць шчасця там, можаце, заякарыўшыся, пастаяць з прынадаю на самай быстры́. Ну і, нарэшце, калі не пашанцуе з рыбацкаю ўдачаю, не перажывайце. Кіньце вуды на дно лёгкага чаўнака, выйдзіце на лугавы бераг, агледзьцеся, прыслухайцеся, і хараство фарбаў і гукаў надсажоўскай зямлі падорыць душы вашай асалоду, намнога даражэйшую, чым той рыбацкі трафей...



Трохі ніжэй Жураўкінага рова цячэнне Сажа робіцца павольнейшым. Перакат з мелавым і жвіровым дном паступова пераходзіць у мяккае пясчанае рэчышча. Сож сваім правым цячэннем утварае магутную глыбокую завоіну. Гэта — так званая Прыстань. Тут здаўна прыставалі пасажырскія параходы, і ў сённяшнія вечаровыя і ранішнія хвіліны, грымотна вырваўшыся з-за зялёнага павароту, тут на хвіліну прыпыняюць свой палёт ды ізноў узвінаюцца на крылах імклівыя «Ракеты».

Здавалася б, рыба павінна далёка абыходзіць гэтую і небяспечную для яе, і няўтульную тэрыторыю. Але як ні дзіўна, а шумная прыстанская завоіна заўсёды была адной з лепшых рыбных мясцін. Шчупак, язь, акунь, добрая плотка, ды і лешч, зусім проста займаюць тут свае асоб-

ныя месцы, і калі рыбак хоць трохі назіральны і спрактыкаваны, то хутка зразумее, дзе і як прымяніць сваю прыладу і снасць. Гэтаму спрыяе выразна акрэслены рэльеф дна, які лёгка можна вызначыць па карце плыняў, што няспынна адмалёўваецца на паверхні вады. Не абміне рыбак сваёй увагаю і водную расліннасць — бо хіба ж спрактыкаванаму воку не будзе адразу ясна, што не толькі драпежнік-шчупак або акунь, але і ціхадум-лешч можа цікаваць зараз за спажываю вунь за той дарожкаю з жоўтых гарлачыкаў, якія то на хвілю ўскінуцца, то надоўга хаваюцца пад націскам глыбокай плыні? А вось за гэтымі даўжэзнымі зялёнымі пасмамі, што плыняць па жвіры па самым дне,— што хаваецца за імі? Не можа быць, каб не стаяла ва ўпадзіне за гэтым пасівелым жвірком чарнаспінная чарада падустаў, не шпацыраваў, падымаючыся часам пад самую паверхню, прыгажун галавень...

Як я ўжо казаў, Прыстань наша — адна з самых багатых рыбаю мясцін. Многія рыбакі мелі тут прыемныя сюрпрызы і нечаканасці, і сам я належу да іх ліку. Калі ўспомніць самых вялікіх шчупакоў, якіх я ўпаляваў на Сажы, дык добрая палова будзе з гэтай самай Прыстані. Прычым кідаліся яны на блешню нярэдка нават з той каламутнай хвалі, якую толькі што перад гэтым узнялі лопасці парахода або вінты «Ракеты». Вось гэтая акалічнасць заўсёды мяне здзіўляла, і я і да сёння не магу яе растлумачыць. Што ўсялякай рыбе даспадобы такія глыбокія, вірлівыя мясціны, як прыстанская завоіна, гэта зразумела. Асабліва калі ўлічыць, што вышэй яе знаходзіцца крамяністы, мелавы перакат, адкуль заўсёды коціцца ўніз усялякая спажыва. Але каб рыба — і драпежная, і ціхамірная, нават палахлівая,— так звычайна, прывычна адносілася да таго, што дзеецца кожнага дня на Прыстані, дзе столькі і грукату, і беганіны, і людскіх галасоў,— гэтаму я, прызнацца, заўсёды дзівіўся і дзіўлюся.



Пікаварня і Вузенькія — яшчэ дзве мясціны на маім Сажы, якія я па шчырасці хацеў бы перадаць кожнаму свайму новаму сябру-рыбаку.

Мусібыць, нашы прашчуры калісьці кавалі на гэтых узгорках над ракою пікі, бо з глыбейшых пластоў узвалістага берага ў Пікаварні часта ў дні паводак вымываюцца

з'едзеныя ржою частачкі жалезных вырабаў, спечаныя жалезная руда і вуголле.

Час здорава папрацаваў над тым, каб засыпаць рэчышча Сажа тоўстымі пясчанымі наносамі, і ўсё ж рачное дно ў раёне Пікаварні шмат дзе засталося няроўным, вышчарбленым, парэзаным карнізамі і раўчукамі. Мо таму і любяць бадзяцца тут міроны-вусачы, выходзячы з ніжэйшых ям. Узяць іх можна лепей за ўсё на простыя донкі-закідушкі, прынамсі, я часцей за ўсё так і рабіў. У канцы гаці, якая зроблена ў гэтай мясціне невядома для чаго (на думку гора-спецыялістаў, гаці спрыяюць паглыбленню дна; на справе ж атрымліваецца ўсё наадварот: вырваўшы я́му на канцы гаці, вада зганяе пясок і ўтварае мель у іншым месцы), можна на гарох, хрушча і коніка прыманіць язя і галаўня. А ніжэй гаці, між зараснікаў травы і за імі, поўна бывае плотак і іншай драбязы. Але часам за травою можа ўзяцца і добры лешч.

Яшчэ на якога паўкіламетра ніжэй Пікаварні пачынаюцца мясціны паўнаводнай быстры, віраватых ям, застоенага травяністага ціхаводдзя. Яны завуцца ў нас — Вузенькія. Чаму гэтыя мясціны так назвалі? Ці не таму, што Сож тут выглядае як быццам трохі вузейшым? Ці мо таму, што з правага, высокага мелавога берага ўразаюцца ў раку вузкія, як кінжалы, мелавыя раўчукі? Дык вось, гэтыя Вузенькія заўсёды вабілі мяне не столькі магчымасцю здабыць багатыя рыбацкія трафеі, колькі цікавасцю новых рыбацкіх адкрыццяў, абумоўленых прыроднымі асаблівасцямі гэтай мясціны.

Ад Пікаварні да Вузенькіх Сож правае сваё цячэнне нясе па мелкаводным пясчаным плёсе, а левым праразае глыбокую і досыць шырокую дарогу паўз глеіста-чорны лугавы бераг. Плынь вады, справа адносна запаволеная, часам аж шалее злева, пад зараснікамі вербалозаў, што густа навісаюць над вадою з крутых лугавых абрываў. Таму рака на гэтым участку мае выгляд таго несамавітага лука, які робяць вясковыя дзеці. Калі левы, абрывісты бераг Сажа з яго імклівай плынню — амаль як струна, то правы бераг тут складаюць невялікія затокі, пясчаныя выступы, травяністыя затоны.

Але малюнак раптам зусім мяняецца на Вузенькіх: правы, пясчаны бераг рэзка пераходзіць у мялова-крамянёвы. Прыкладна каля нейкіх паўсотні метраў рака, якая тут трохі звужана, нясецца па жвіры, крэйдзе і крамянях. Сож наводзіць сябе, як неаб'езджаны скакун, на якога

нечакана ўскінулі тугое сядло,— імкнецца вырвацца з непрывычных ціскоў. І хутка яму гэта ўдаецца — рэчышча зноў робіцца шырэйшым, імклівасць плыні спадае, пачынаецца больш-менш ціхая глыбіня. На другім беразе адкрываецца так званае Вусце — з Сажом злучаецца старое рэчышча, старыца, якая адсюль цягнецца на некалькі кіламетраў пад лес, што сінее за лугамі.

Спадзяюся, што кожнаму больш-менш дасведчанаму рыбаку ясна, якія спрыяльныя для рыбнага жыхарства ўмовы стварыла прырода, даўшы рацэ такі разнастайны рэльеф дна і берагоў, такую характэрную зменлівасць плыняў і глыбінь.

Застаецца яшчэ толькі дадаць, што ўсе гэтыя мясціны — ці на ціхаводдзі, ці на быстры́ — заўсёды багатыя ўсялякай расліннасцю. Нават на крамянях цвёрдага, як ток, дна перакату на Вузенькіх віюцца, быццам нейкія казачныя бароды, пасмы зялёнага моху і плакун-травы.

З ям, якія пачынаюцца за Вузенькімі, і з паўнаводнага Вусця многія насельнікі глыбінь у пошуках ежы імкнуцца падняцца на вышэйшыя крамяністыя і пясчаныя перакаты. Рыба, асабліва белая, наогул ад вясны да восені вельмі любіць трымацца на перакатах. А тут, у гэтых мясцінах, ёсць для яе адна асаблівая прывабнасць — вышэй Вузенькіх паўз луг цягнецца той глыбокі падводны шлях пад лазовай цёмнай навесай, аб якім я гаварыў вышэй. Язю і галаўню, мірону, падусту і плотцы такое прывolле — сапраўдны рай. Але і ляшчу таксама ёсць тут і добрая схова, і добры наедак. Таму ўчастак ракі ад Пікаварні да Вузенькіх і самі Вузенькія застаюцца ў маёй памяці як месца самых неверагодных рыбацкіх сюрпрызаў. Ну, напрыклад, ці паверыў бы я каму-небудзь, калі б гэта не здарылася бачыць і перажыць самому, што на звычайную, самаробную, з грубай лескаю вуду можна, не сыходзячы з месца, злавіць адразу цэлага паўдзесятка добрых ляшчоў? Ляшчы браліся старыя, з пажоўклай рудаватай лускою асілкі, і браліся адзін за адным на агрызак чарвяка, проста, можна сказаць, з-пад ног у праводку, што для гэтае рыбы з'ява не такая і звычайная.

Такім здарэнням можна даць тлумачэнне толькі адно: кручок з насадкай трапляў на самы ход рыбы, і трапляў якраз на самую запаветную іх пуцявінку.

Але рыбалка на Вузенькіх мае некаторыя свае асаблівасці: тут з берага можна што-небудзьупалявацць толькі на закідушку. Прытым — іменна толькі што-небудзь.

А калі хочаш узяць добрую рыбу — павінен забрысці ў ваду па калені, а часам і глыбей, закідваць вуду так, каб кручок спускаўся на плыні якраз пад самым тым абрэзам, што аддзяляе берагавую зону ад зоны плыннай глыбіні. Гэта, калі палюеш за доннаю рыбай, такою, як лешч. А калі хочаш паганяцца за язем ці галаўнём, якія трымаюцца ў вышэйшых слаях вады, то тут без забрадкаў тым больш не абыдзешся, а правай руцэ дастаецца натаміцца яшчэ больш, бо чым далей на быстру закідаеш кручок з прынадай, тым болей шанцаў будзе на поспех.



Перакат на Вузенькіх даўпадобы мне яшчэ і таму, што вышэй яго (а можа, больш дакладна — у самым яго пачатку?) я знайшоў (літаральна вымацаў нагамі) брод — пераход па другі бок Сажа. Не магу з упэўненасцю сказаць, што кожны, хто пажадае, так вось і пяройдзе тут цераз Сож. Бо ісці трэба дакладна выверaным маршрутам, мяняючы напрамкі руху,— то ўгору кіруешся, то ўніз, то наперад напрасткі прабіваешся, то раптам і назад адступіш, каб зрабіць крок убок і затым рухацца далей. Карацей кажучы, брод гэты трэба адкрыць сабе самому, а гэта, безумоўна, не лёгка. Але не сумняваюся, што сапраўдны рыбак-шукальнік, трапіўшы на Вузенькія, паспрабуе вымацаць для сябе гэты пераход цераз раку.

Дык вось, брод на Вузенькіх выручаў мяне даволі часта, і карыстаўся я ім з вялікай ахвотай і прыемнасцю. Бываюць жа такія выпадкі на самым што ні на ёсць пэўным месцы: прыйдзеш — а там ужо нехта раскінуў свае вуды. Альбо вецер б'е не з патрэбнага боку — дзьме якраз у твар, хваля падбівае паплавень да берага, не дае кручку ісці там, дзе трэба. Альбо ў іншыя дні вельмі людна, шумна бывае на ўлюбёным тваім беразе — паўрад ці прыманіш што-небудзь пры такім тлуме... Там жа, за шырокай імклівай вадою,— настоеная водарам лугавая цішыня, гушчэча вербалозаў вартуе пад сваёй засенню розныя нечаканасці цёмнай глыбіні...

Перабраўшыся на левы, лугавы бераг Сажа, вы трапляеце на вельмі здабычлівыя рыбацкія мясціны. Яны палюбіліся мне здаўна і цягнулі да сябе сваёй затоенасцю і таямнічасцю. Бераг гэты часцей за ўсё абрывісты, круты, амаль на ўсім працягу зарослы вербалозамі, ажыннікам,

драсёнам; духата, як у джунглях, нават сцяжыначкі нідзе не відаць. Але вы не губляйцеся і не бойцеся падрапацца, прадзіраючыся праз гэтыя джунглі,— дзе-нідзе паміж зараснікамі над абрывам і вадою ёсць чыстыя лапікі, хутка вы знойдзеце сабе адзін з іх па свайму густу; разбірайце свае прылады, прыгледзьцеся, дзе і як прымасціць вуды, нажыўляйце кручкі і закідайце...

Вы ўжо, вядома, зразумелі, што мы апынуліся на тых мясцінах, пра якія ўспаміналі раней: ад Прыстані праз Пікаварню да Вузенькіх мы неаднойчы любаваліся супрацьлеглым, левым, наструненым, як цеціва лука, берагам, дзе імкне глыбокая, моцная, паўнаводная плынь пад шырознаю засенню вербалозавых кустоў.

Так, гэта і ёсць той падводны шлях, на якім вашу насадку можа падабраць такі асілак, пра якога вы, магчыма, нават і не снілі. Сачыце пільна за вашымі вудамі, бо тут здаралася неаднойчы і такое: не паспееш ахнуць, як вудзільна блісне на рагульцы — гоп! — і знікае, нібы ў прорве, у крутой — проста з берага! — глыбіні. І яшчэ: не засмучайцеся, калі пасля падсечкі, нягледзячы на ўсе вашыя намаганні, леска будзе ісці не да вас, а на быстрынную плынь,— вы хочаце ўтрымаць нейкага асілка, а ён, не падымаючыся са дна, цісне, цісне, і ваша леска глуха пяе, пяе... хлоп! усё!.. Не засмучайцеся, вы не адзін такі небарака. Не засмучайцеся, а лічыце сябе ўдачнікам, бо хіба ж гэта не ўдача — на ўсё жыццё мець такі хвалюючы, такі драматычны ўспамін!

Сам характар берага — рэзкая строма, глыбіня і адразу імклівая быстра́ — падказвае, што лескі на вашых вудах павінны быць з добрым грузам, які будзе трымаць кручок на самым дне або блізка ля яго. Вудзільна трэба пакласці так, каб леска размяшчалася ўсцяж берага. Для гэтага варта паставіць дзве рагулькі: адну на абрэзе вады, і на гэтай рагульцы будзе ляжаць само вудзільна (так, каб канец яго быў як мага далей ад берага), а другую — над вашымі рукамі, падтрымліваць камель вудзільна. Так вы можаце паставіць на пэўнай адлегласці адну ад аднае і дзве, і нават тры вуды. З дапамогай тых жа рагулек можна дабіцца, каб кручкі з насадкаю былі размешчаны на рознай адлегласці ад берага і або ляжалі на самым дне, або, штораз падбітыя плынню, круціліся каля яго.

Ну, а якую ж параіць вам насадку? — гэта ж, мусіць, таксама ўваходзіць у мае абавязкі? Дык вось — бярыце параны гарох, прасяную кашу, печаную бульбу. І на кру-

чок добра, і на прынаду згадзіцца. А яшчэ бярыце звычайнага чарвяка і конікаў налавіце. Больш нічога не трэба. Стаіцеся ў зацішку паміж вадою і зялёнай страхой вербалозаў. І чакайце. Цярпліва чакайце, І я ўпэўнены — вялікая рыбная дарога накіруе на спатканне з вамі не аднаго свайго падарожніка. А які з іх — мірон, лешч, язь або галавень — пераблытае вашы вуды, парве самую лепшую вашу леску або паломіць вудзільна — гэтага я дакладна не ведаю...

За Сажом, на тым беразе, куды вы перабраліся, славяцца ў нас і іншыя рыбныя мясціны. Я назаву вам самыя вядомыя. Вусце, Дубенская дарога, Мосцік, Калоддзе, Кліны. Наогул, можна ажно да самага Слаўгарада ісці ўгору па рацэ і многа ў якіх месцах убачыць прыдатныя для рыбалкі куточкі. Мяне звычайна яны не падводзілі ніколі. Упэўнены, што і вам прынясе толькі радасць кожны ваш крок над сажовымі завадзямі і вірамі. І ўпэўнены, што, пабываўшы на Сажы, вы ніколі не забудзеце яго чароўнай, яго светлай, яго задуменнай красы. Дзе-небудзь запахне зямля незабудкамі — і вы згадаеце ціхія мурожныя сцяжыначкі паабапал Жураўкінага рова; дыхне вецер у твар пахам чабору — ізноў зашуміць вам адзінокай сасонкай чабаровы курган ля Вузенькіх; дымам цяпельца павее — і ажыве ў памяці ваша апошняя ноч на засажоўскіх лугах... А магчыма, дзе-небудзь спыніць вас як быццам незразумелая заклапочанасць-трывога: адкуль раптам пачуўся вам нейкі знаёмы ўладарны кліч, адкуль запахла такім знаёмым летнім водарам? Доўга будзеце стаяць, успамінаючы, і, магчыма, не ўспомніце... Што ж, і не трэба ламаць галаву. І гэтая трывога, і гэты водар, і гэты кліч — усё гэта багацце, якое мы заўсёды носім у сваім сэрцы, і ўсё яно ад Радзімы, і ўсё ад знаёмых, ад сходжаных, пазнаных і дарагіх яе куткоў.



Мінула шмат часу, палюбіў я многа рэк, а Сож усё ж застаецца ракой, лепшай між усіх, і вабіць, і цягне да сябе зноў і зноў.

А можа, гэта родную маці хочацца наведаць, пастаяць пад позіркам яе цёплых вачэй? Пагаварыць з маленствам, пахадзіць па сцяжынках юнацтва, успомніць нешта непаўторнае, дарагое?

Як бы там ні было, а кожнае лета выбіраеш хоць некалькі дзён і спяшаешся на запаветныя берагі. Мне нічога не трэба ад любага майго Сажа — толькі стоішся пад навіслай над вадою зялёнай купінай, закінеш вуду, пройдзеш позіркам па зіхотнай, пругкай і зменлівай плыні, і раптам зноў успыхне і паплыве прад вачамі неаджытая, бясконца заклікальная каралева летуцення. Як і заўсёды, павядзе яна рыбакова сэрца ў сіне-дрыготкую, мройную далячынь. Устанеш: «Пачакай мяне, вуда, пачакай, дай палячу яшчэ раз у нязведаны край, у край нязгаснай мары...» А нехта ці нешта падказвае: што ты, чаго ты, дзе ты, куды ты, даўно ўжо ты там пабываў, даўно ўжо ўсё ведаеш...

Так, пабываў... Так, ведаю...

А ўсё ж! А ўсё ж!..

— А ўсё ж! А ўсё ж! — крыкнеш мімаволі, нечакана для самога сябе, зачаравана ступаючы між блакітных незабудак.

— А ўсё ж!.. А ўсё ж!..— пойдзе голас па разложыстай пойме. І аднекуль у вобразе рэха прыйдзе адказ, і не верыцца, што гэта рэха, бо чуецца, быццам нехта крычыць табе з-за поймы ад зялёнага дрымотнага лесу:

— Сож! Сож! Сож!

Сож...

«Что ми шимуть, что ми звенить довечя рано пред зорями?» — амаль заўсёды чуліся мне на яго берагах адвечныя словы, несучы непазбыўную радасць і трывогу...

Сож... Сож...

Песняй і заклікам ісці ў родную светлую даль жыве ў маім сэрцы імя гэтай светлай беларускай ракі.

## ДЗВЕ СВІСЛАЧЫ, ДЗВЕ БЯРОЗЫ

У Беларусі — дзве дачушкі Свіслачы,
Дзве дачкі старэйшыя — Бярозы.
Між палёў, між пушчаў,
між балотных выспачак —
Плыняць воч крынічных слёзы.
Слёзы, слёзы, церпкія, глыбінныя,
А чаму вас губы просяць?..
Трубяць трубы жураўлінымя
У задуманую просінь...

Дзве Свіслачы. Дзве Бярозы.

Адна Свіслач — на заходняй мяжы Беларусі. Мястэчка Свіслач, побач — Берастовіца, на самай мяжы — Крын-

кі... Крыху на захад, ужо ў Польшчы,— Сакулка, Кнышын... За імі — сам Беласток...

Не з вудай там хадзіць давялося, не любавацца краявідамі.

Помніцца — цэлы дзень гналіся нашы войскі за фашыстамі, якія адступалі. І вось — прыпынак. Зачапіўся вораг за пустынны, зажураны бераг невялікай рачулкі. Люта зачапіўся. Ледзь улеглася дзянная пыльная спякота — расхадзіліся ў цемры жнівеньскія зарніцы. Б'юць адсюль і адтуль гарматы. Грыміць неба, стогне зямля. Ударыць сполахі зарніц, загрукочуць маланкі выбухаў. Дзе жыццё, дзе смерць? Дзе незваротнае прадонне, дзе сцежка ў святло?

Нарэшце ўгаманіліся сполахі зарніц. Прырода стамілася, захацела прыкархнуць. А людзям нельга было адпачываць. Страшным ударам раўнулі нашы гарматы па ўсім фронце, як бы аддаючы апошні салют тым, хто загінуў тут у гэтую ноч. Вораг ужо не меў сілы стрымаць наш націск, але ён яшчэ мог і хацеў ад нас адарвацца. А гэтага нельга было дапусціць. І некалі было нам пахаваць загінуўшых сяброў. Хутчэй наперад, хутчэй!

— Пахавайце іх, пахавайце, родныя! — прасілі байцы тутэйшых вяскоўцаў, сваіх братоў-беларусаў.

— Ідзіце, любыя, ганіце ворага. Не гаруйце... Пахаваем...

Вось так запомнілася мне гэтая заходняя Свіслач. Грозна рванулася ўперад зведаўшая і пакуты, і гора, і трыумфальныя перамогі наша армія. Плакалі над забітымі героямі жанкі. Ціха, самотна журыліся берагі рэчкі Свіслач. І белаю трывогаю, і жальбою гайдалася на яе плынях аглушанае, знявечанае ў страшным катле вайны нематлівае рачное жыхарства...



Другая Свіслач.

На другой Свіслачы — стаіць Мінск.

Прызнаюся, доўгі час я неяк зусім не заўважаў гэтае ракі. Пасля шырокага, паўнаводнага, празрыстага, прамяністага Сажа Свіслач здавалася нейкай прыкрай недарэкай. Не хацелася нават ракою яе называць.

Захоплены хараством свайго Сажа, я надзвычай доўга ігнараваў усе іншыя рэкі. Для мяне яны як быццам і не існавалі.

Не ведаю, як доўга, жывучы ў Мінску, я заставаўся б адарваным ад яго блізкіх і далёкіх ваколіц, калі б не сустрэўся мне чалавек, які ўмеў да самазабыцця любіць і цаніць хараство беларускай прыроды.

То быў крытык Уладзімір Агіевіч.

Улюбёны ў свой край паляшук, выдатны знаўца чароўных з'яў бясконца разнастайнага жыцця зямлі, Агіевіч валодаў талентам перадаваць сваё захапленне любому чалавеку.

Ён і ўгаварыў мяне пазнаёміцца з мінскаю Свіслаччу.

Па дарозе на Асіповічы, за Пухавічамі, ёсць невялікая вёска і станцыя Талька. Не ведаю, чаму, як і калі Агіевіч палюбіў гэтую Тальку. Можа, за прыгожую назву? Ён вельмі любіў усё прыгожае. Але менавіта вось гэтая Талька і была той першай мясцінаю на Свіслачы, куды мы з ім па яго рашэнню паехалі.

Было якраз самае світанне, калі мы скочылі з падножкі вагона на пясчаны перон станцыі Талькі. Я скочыў трохі няўдала: адарваўся лямчук рукзака. Таму адразу спыніўся: хоць як-небудзь паправіць сваю рыбацкую торбу. Агіевічу не цярпелася: «Хутка ты ці не? Пайшлі!..» — «Ідзі, я даганю!..» Агіевіч пайшоў.

Я крыху прыладзіў свой лямчук і пашыбаваў наўздагон за таварышам. Вёска Талька яшчэ спала. Гэта быў якраз той самы час, калі ноч ужо болей не ноч, а дзень — яшчэ не дзень. Усё навокала яшчэ такое маўклівае і заціšанае, кожны куст і кожная страха вырасталі з сіняга золаку, як вартавыя чагосьці незвычайнага і таямнічага. Днём тут хадзілі б людзі, гулялі б дзеці, і па іх тварах, вачах, позірках, галасах ведаў бы, які ў іх клопат, якія ў іх думы. А вось на світанні! Адчуваеш нейкую разгубленую адзіноту, нейкую як бы вінаватасць за гэтую глыбокую цішыню. Што тоіцца перад табою за кожным акном, цёмным і, здаецца, зусім безжыццёвым, якой радасцю ці смуткам пачнецца тут ранак, весела ці з журбою расчыняцца на вуліцу дзверы з тае ці іншае хаты?

Так я думаў, ідучы па вуліцы Талькі, калі з боку аднае хаты пачуўся гаркотны плач. Вось і здарэнне. Я паціху падышоў да тае хаты. А гэта на прызбе, пахіляючы галаву над грэбенем, прычэсвалася маладая дзяўчына і не плакала, а так журботна спявала. Песні гэтакай я ніколі не чуў, можа, нават дзяўчына сама яе склала. Але нешта дужа знаёмае па настроі загучала ў яе спеве. І раптам прыгадалася сяло, далёкае адсюль,— я ўспомніў твар

дзяўчыны, якую бачыў толькі аднойчы. То было на Смаленшчыне. Тая дзяўчына надрыўна, горка рыдала: немцы забілі яе маці, а больш нікога роднага ў яе на свеце не засталося.

Камандзірам часці, што вызваліла сяло дзяўчыны, быў пажылы сівавусы палкоўнік, былы будзёнавец. Шкада яму стала дзяўчыны, як свае дачкі. Выцер ён слёзы ў Марусі — так звалі дзяўчыну — і залічыў яе на палкавую кухню. Усе байцы і афіцэры ведалі, якое гора перажыла Маруся, і шкадавалі яе, як любую сваю сястру. Маруся патрохі пачала супакойвацца, ведама ж, маладосць, і прыгажосць яе стала яшчэ больш прыкметнай. Не адно салдацкае сэрца ўздыхала па ёй. Можа, яна і стала б калі-небудзь у жыцці шчасліваю. Ды пры наступленні цераз Віслу кухня палкавая трапіла пад артылерыйскі налёт. І не стала добрай салдацкай сястрыцы Марусі...

Я стаяў зараз як укопаны, слухаў сіратлівую песню дзяўчыны ў Тальцы, і жудасна было мне чуць у яе спеве столькі жалю ад таго далёкага Марусінага плачу. Адкуль і як прыходзіць да людзей амаль адзін і той жа голас чалавечай гаркоты і скрухі? Ці гэта вайна зрабіла ўсіх аднолькавай душэўнай жальбою з'яднанымі, ці гэтую дзяўчыну ў Тальцы, як і смаленскую Марусю, лютыя чужынцы таксама пакінулі сіратою, адзінокаю ў цэлым свеце?..

Не ведаю, чаму так стала, але пабываць у Тальцы мяне пасля таго цягнула часта. І заўсёды я стараўся прайсці каля знаёмай хаты. Але, на жаль, дзяўчыны тае болей не чуў і не бачыў...



Свіслач у тым месцы, дзе стаіць вёска Талька і дзе ў яе ўпадае невялічкая рэчка з такою ж самаю назвай,— не надта ўжо і цікавая. Сказаць праўду, мне яна і зусім спачатку не спадабалася. Голыя, часта забалочаныя берагі, амаль пустынны краявід мала могуць імпанаваць вандроўніку, які прывык да бясконцай змены і багацця рачных пейзажаў. Але мы ў сваіх паездках доўга каля Талькі не затрымліваліся. Ад Талькі да Пухавіч па рацэ — кіламетраў каля сарака. Далекавата! Аднак жа хутка гэтыя сорак кіламетраў сталі нашым пастаянным і звычайным маршрутам — спінінг у рукі, і пайшоў! І трэба ска-

зац, што пасля Талькі на Свіслачы пачынаюцца вельмі прыгожыя і цікавыя мясціны: прасторныя заліўныя лугі з дубовымі грывамі і азярынамі, задуменныя дубровы на даляглядзе і мройнае неба над сасновымі хмызнякамі, якія часта збягаюць з пясчаных абрываў амаль у самую ваду. Свіслач тут хоць і мала чым падобная на такую шыракаводную раку, як Сож, але мае багата сваіх асаблівых уласцівасцей: частыя і крутыя павароты ўтвараюць тут многа ціхаплынных віроў; то тарфяністыя, то пясчаныя поймы дораць рэчышчу або цёмнае, заінелае дно, або светлыя, цёплыя жаўтапёсы; невялікая шырыня ракі дае магчымасць лёгка разгарнуць і чытаць старонку за старонкай кнігу яе багацця — з глыбінямі, плынямі, травамі, вербалозамі, адхонамі, вірамі.

Ад Пухавіч да Талькі Свіслач цячэ па малалюднай, амаль пустыннай мясцовасці. Толькі дзве вёскі — Блужа і Гарадзень — сустракаюцца на шляху (на правым беразе), ды і тыя выходзяць да самай Свіслачы ўсяго асобнымі дварамі. Мне падабалася хадзіць па адзначаным маршруце. Бо надта ж таямніча выглядаюць берагі Свіслачы паміж гэтымі вёскамі. Асабліва калі рака ўваходзіць у глухія прамежкі лясоў, ці нырае ў высокія чараты прылужжаў, або цячэ пад векавымі дубамі ўзгоркавых сухадолаў. Заўсёды ў такіх мясцінах чакаеш якой-небудзь прыгоды, якога-небудзь здарэння. І што ж, калі тая прыгода пакуль што табе не сустрэлася,— усё роўна верыш і чакаеш: абавязкова штосьці незвычайнае павінна нарэшце здарыцца!

Хоць, сказаць па праўдзе, на маршруце, пра які ідзе гаворка, ніколі не было ў мяне значных рыбацкіх удач, усё ж магу сцвярджаць, што Свіслач тут — рака вельмі рыбная. Бо хоць лавіць надта не лавіў, але бачыў і назіраў вялікую рыбу неаднойчы. Напэўна, таму і наведваў гэтыя куткі даволі часта. Бо наогул рыбак, па маю думку, часцей і больш за ўсё захапляецца той ракою, якая дала яму калі-небудзь многа надзей і спадзяванняў. Свіслач, бадай, і па сённяшні дзень такая для мяне рака. Бо не магу ўспомніць, каб прывёз адсюль якія-небудзь асаблівыя трафеі, а вось малюнкі, што прымушалі сэрца заходзіцца ад захаплення, мусіць, доўга яшчэ будуць радаваць рыбацкія летуценні. Ніколі не забыць вялізнага касяка ляшчоў, які бачыў непадалёк ад вёскі Гарадзень. Я ішоў тады са спінінгам і, акрамя як пра шчупака, акуня і беласпёра, больш ні пра што не думаў. Таму, калі выйшаў

з-за куста на адным павароце, каб закінуць блешню пад другі бераг,— то спачатку не звярнуў увагі на вялізныя залацістыя засланкі, што паволі пасоўваліся па пясчаным плёсе. Але праз момант я ўсё зразумеў, ад збянтэжанасці хацеў кінуцца назад, аднак не мог скрануцца з месца. Вось быў малюнак — такога ні да гэтага, ні пасля і ні на адной рацэ я болей не бачыў! Колькі прайшло на тым свіслацкім плёсе ляшчоў! Іх была, можа, цэлая тысяча. Касяк выходзіў з глыбіні і сунуўся па асветленым сонцам жаўтапёсе якраз паўз самы той бераг, дзе я стаяў. Крайнія, тыя, што маглі мяне заўважыць, бокам, бокам падаваліся далей, углыб, і пад іх націскам трохі завальваўся ўвесь касяк. Але новыя дзесяткі ляшчоў усё выплывалі з глыбіні і выплывалі. Сонца на мелкаводдзі адбівалася праменнем ад іх залацістых бакоў, і таму ўвесь плёс, здавалася, свяціўся сотнямі прамяністых люстэркаў. Я баяўся варухнуцца, нават міргнуць вокам, і мо таму хутка ўся рака загайдалася перада мною ў залацістым, палаючым полымі. Вочы заплюшчыліся самі сабой...

Калі праз хвіліну я зірнуў на раку зноў, касяка на плёсе ўжо не было. Але край яго — цэлая лінія велічных, магутных, шырозных рыб — яшчэ праглядваўся на схіле глыбіні, пацвярджаючы, што ўсё бачанае перад гэтым было не сон.

Я ўпэўнены, што ні адзін рыбак не ўтрымаўся б перад спакусаю пабываць тут хоць яшчэ раз пасля такога выпадку. Не ўтрымаўся, безумоўна, і я — і неаднойчы затойваўся за вербалозамі пясчанага плёса, чакаючы, ці не выйдуць з таямнічае глыбіні на сонца бачаныя мною ляшчы. Не, яны не выйшлі. А я ўсё ж зноў і зноў збіраў вуды і ехаў, і прабіраўся на знаёмы свой рачны паварот, і ўсё гэта пачынала жыць у маёй душы, як казка, як легенда, як песня, у якой быў пачатак, а не можаш дазнацца канца...

Свіслач, колькі я пра яе чуў і ведаю, заўсёды была багатая не толькі ляшчамі. Заўсёды яна славілася, як рака самай разнастайнай белі — тут у мностве водзяцца плоткі, галавень, пад'язак, падлешчаўка, уклейка, чырванапёрка і нават рэдкая для нашых рэк красуня шамая, сястра ўклейкі, але значна большая за яе памерам. Яна заходзіць сюды з нізоўяў Дняпра. Прытым — менавіта сюды, у Свіслач, больш нідзе, акрамя Бярозы, праз якую шамая і трапляе з Дняпра ў Свіслач, гэтае рыбы я не сустракаў.

Як я ўжо адзначаў, па маршруце Талька — Пухавічы часцей за ўсё мне давялося хадзіць са спінінгам: у тыя гады мне вельмі падабаўся гэты занятак. Але, як ні дзіўна, якраз ад гэтага занятку на Свіслачы менш за ўсё засталося ў мяне якіх-небудзь уражанняў... Сапраўдныя спінінгавыя бітвы з глыбакаводнымі драпежнікамі былі потым на Бярозе, за Барысавам, вышэй Паліка, на Пцічы, на Гайне, на Лепельскіх азёрах — Свіслач жа найбольш помніцца сцішанымі закуткамі, дзе адна за адною тапілі паплавень пладкі, дзе галавень гарцаваў, як стаеннік, падабраўшы кручок з гарошынай, а на галачку чорнага хлеба трапіўся аднойчы такі лешч, за якім і сягоння гнаўся б да самага вусця, калі б ведаў, што здолееш учапіцца за абарваную леску...

Праўда, гэта не азначае, што ў Свіслачы зусім няма шчупакоў або акунёў. Яны ёсць, ёсць нават беласпёр (або жэрах), і, прызнацца, не адну гадзіну прастаяў я, кідаючы блешню на выбух гэтых беласпёраў, але, на жаль, колькі з блешняю тут ні паляваў — так і не спаткаўся з якой-небудзь прыгодай, пра якую хацелася б расказаць.



Непадалёк ад Пухавіч упадае ў Свіслач (з левага яе боку) невялікая рэчка Балачанка. Сёння, праўда, рэчкаю яе назваць цяжка. Бо перасохла яна, абмялела пасля таго, як перакапалі яе мацапураўскія плугі ў дні нечага неразумнага захаплення выпрамленнем рэк. У ранейшыя ж дні гэта была хоць і невялікая, вузкая, здавалася — ступі і пераступіш,— аднак вельмі ўся ямістая, зацененая, з карчамі, з калоддзем, з пячуркамі, крынічлівая рэчка. І, безумоўна, кожны, хто аддаваў колькі-небудзь сваёй увагі Свіслачы ў раёне Пухавіч і ніжэй, да Талькі, не мог не зазірнуць аднойчы і на Балачанку. А пабываўшы адзін раз, абавязкова потым наведваў яе часта, нават у тым выпадку, калі нічога тут і не ўпаляваў на свае вуды. Я сустракаў многіх такіх рыбакоў і сам быў адным з іх. І тлумачыцца гэта тым, што Балачанка — рэчка-легенда, рэчка-казка. Дастаткова толькі прайсціся па яе берагах, каб адразу — ці ад спатканага вясковага рыбалова, ці ад пастушка-падлетка — даведацца, што Балачанка і Свіслач — рэчкі не звычайныя, не такія, як усе, а самыя славутыя на гэтай зямлі. Бо сам «дзядзька Якуб хадзіў па берагах,

вудзіў тут, і — ого! — каб хто іншы вывуджваў такую рыбу!..» — «Не-е, такое, як дзядзьку Якубу, нікому больш, паверце, не траплялася...»

Славутасць не пакідае Балачанку з таго часу, калі гэтыя мясціны ўпадабаў для адпачынку вялікі песняр Беларусі Якуб Колас. «Вунь бачыце дубы? Трое іх якраз на пагорак узышло... Дык пад тым, што старэйшым выглядае, бліжэй да рэчкі, дзядзька Якуб падоўгу пра нешта думаў, бывала, ці ў сшытак нешта піша, ці чытае...» — «А вось гэтаю сцяжынкай ён заўсёды да ракі спускаўся...» — «Любіў дзядзька Якуб пагутарыць з людзьмі, ці з роўным па гадах, ці з меншым за сябе, але калі ўжо з вудаю прытоіцца, тады, барані бог... нават малы які, блазнюк неразумны, і той не дазволіў бы сабе ўзнепакоіць дзядзьку...»

«А памятаеш, якога дзядзька Якуб язюка вывалак? От бо штука была, дык штука!» — «Браце, хто ж таго не памятае!..»

Так, дапаўняючы адзін аднаго, расказвалі пра Якуба Коласа пажылыя дзядзькі з вёскі Балачанка, з якімі мы сустрэліся на рыбацкай сцяжынцы ў тым месцы, дзе рэчка Балачанка ўпадае ў Свіслач. Я слухаў іх усхваляваныя галасы, і на памяць прыходзілі радкі з коласаўскага верша «Вусце», прысвечанага гэтым цудоўным мясцінам:

Я зноў жыву ад горада ўдалі,
Дзе я знайшоў куток у сваім гусце,
І весела мне робіцца, калі
Я ў мыслях зноў прайдуся па зямлі,
Дзе туліцца закінутае Вусце.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Над горкаю, бы срэбраны равок,
Паблісквае на сонцы Балачанка.
І хіліць так утульны беражок,
Так добра там, прылёгшы на пясок,
Папесціцца ружовым летнім ранкам!
Як волаты, за рэчкаю дубы
Шатры свае раскінулі над долам.
Зірнеш на іх — гвардзеец з іх любы!
А гордыя вяршаліны-чубы
Не кланяюцца непагадзі чолам.

Якуб Колас вельмі любіў бываць тут да вайны — летам 1937 года ён правёў свой адпачынак у невялічкім пасёлачку Вусце, дзе і нарадзіліся адзначаны аднайменны верш і многа якія іншыя творы. І пасля вайны Колас не забываў сваіх балачанскіх і свіслацкіх берагоў. Хоць пасёлачка Вусце тут ужо не было — яго жыхары перасяліліся ў вёс-

ку Балачанку,— але стаялі на тых жа месцах, перажыўшы ўсе нягоды, магутныя волаты-дубы, чакалі ў госці свайго волата-песняра; бяздоннае сіняе неба нараджала і адбівала ў рачной роўнядзі люстраныя хмурынкі, і, нібы сталкі сярэбранай шамаі, яны як быццам перабіралі звонкія струны на плынях; пяшчотным спакоем дыхалі настоеныя жывіцай і чабаром родныя закуткі; і здавалася песняру, што ўсё засталося такім, як было і калісьці раней,— нібыта не было ні пажараў, ні крыві, і сябры яго не загінулі, а вось хутка пазлятаюцца сюды зноў, як было да вайны, а самая лепшая сяброўка Марыя Дзмітрыеўна стане побач і цёплаю ўсмешкаю папросіць песняра праспяваць новую песню жыцця... І пясняр хутчэй настройваў струны ліры і, шукаючы запаветнага слова і запаветнай мелодыі, ішоў у свае дубы, у чабор, у павевы Блужскага бору, у чараты, у горкія пахі алешнікаў над вадою, у спатканні з дарагімі, і даўно знаёмымі, і незнаёмымі, але заўсёды роднымі людзьмі...

«Вось тут спыняецца яго машына...— паказваюць і расказваюць балачанскія жыхары...— Вось тут ён блукае, пад гоманам гэтых вершалін... Вось тут часта падоўгу стаіць на адным месцы, думае нейкую думу... А вось тут, на Свіслачы, з гэтай вось мурожнай купінкі, часам закідвае сваю вуду...»

Месца, дзе зліваецца Балачанка са Свіслаччу, па сваёй маляўнічасці можа паспаборнічаць з многімі выдатнымі куткамі наскай зямлі. Калі ідзеш правым берагам Свіслачы, то не можаш абмінуць увагаю не то затоку, не то завоіну на супрацьлеглым баку, над якою спляліся вяршынямі вязы, ляшчэўнік і дубняк, утварыўшы над вадою высокую зялёную арку. Праўда, адразу можна і не здагадацца, што гэта вусце Балачанкі. Але ступіш некалькі крокаў, так, каб у берагавых зарасніках адкрылася светлая прагаліна,— і перад вачамі за Свіслаччу паўстаюць шматлікія малюнкі, так пяшчотна апетыя лірай Якуба Коласа. Злева — над Балачанкаю — шырокі луг і векавыя дубы над люстэркам чыстай вады, што бліскае між чаратамі і кугою. Справа — пясчаныя грывы і сасновыя баравыя ўскраіны — з пахкімі чаборовымі курганамі. І тонкая смуга аж да самых сініх крыніц небасхілу, і водар лета ад цёплай расквітнелай зямлі...

Але найбольш адчуваеш хараство балачанскіх куткоў, калі ідзеш па левым беразе Свіслачы і, быццам у жывы сонечны палац, трапляеш у пойму Балачанкі, дзе, як сказаў

пясняр, «смалісты пах разносіцца такі, што п'еш яго ў ветравым павеве». За плячамі — думнае гудзенне Блужскага бору, перад вачамі — духмяны аксаміт лугоў; з аднаго боку — спакойная роўнядзь Свіслачы, з другога — як мудрыя філосафы, маўклівыя з выгляду,— цэлай сям'ёю дубы... Добра разумееш, чаму гэты кут калісьці так прыйшоўся даспадобы Якубу Коласу. Тут добра яму думалася, лёгка забывалася ўсё непатрэбнае, неістотнае, нязвыклае і пісалася — ад сэрца, глыбока і шчыра...

У сваіх рыбацкіх паходах па Свіслачы мы неаднойчы бывалі і ля вусця Балачанкі. Але ніколі не закідвалі тут сваіх вудаў. Бывала, спынішся, услухаешся ў голас зямлі, адчуеш у душы арганную музыку велічных коласаўскіх строф, і захочацца пакланіцца ўсім чароўным куткам, што бачылі, чулі і натхнялі песняра і сёння ўжо сталі для кожнага з нас не проста дубамі і барамі, не проста кручамі і курганамі, а помнікамі, манументамі дарагой для ўсяго народа песеннай славы...

Не разматваючы вудаў, падыходзілі да гушчэчы берагавых зараснікаў над Балачанкай. Расхіналі ляшчыннік і дубняк, прадзіраліся да вады. Непадалёк ад упадзення ў Свіслач ёсць на Балачанцы схаваны ў цёмнай засені брадок. Па ім пераходзілі на другі, узгорысты, пясчаны бераг, аддавалі чэсць коласаўскім дубам і крочылі далей... І боязна было хоць чым-небудзь парушыць свяшчэнную музыку мудрай коласаўскай цішыні і коласаўскага роздуму, што луналі над свіслацкімі і балачанскімі берагамі.

З гэтай жа прычыны, сустракаючыся з дзядзькам Коласам у Мінску, я заўсёды саромеўся прызнацца яму, што пабываў у ягоных балачанскіх кутках. Думалася: а раптам сваім прызнаннем нетактоўна ўварвуся ў нешта сцішана-запаветнае, недазволена дакрануся да якойсьці душэўнай святасці, што належыць назаўсёды толькі яму аднаму, і тым парушу сонечную знітаванасць душы песняровай з вобразамі дарагой зямлі... З цягам часу, пасля смерці Якуба Коласа, я стаў сумнявацца: а ўсё ж ці добра было, што ні разочку не пагаварыў пра Балачанку з дзядзькам Якубам, магчыма, яму было б прыемна даведацца, што і яшчэ адзін чалавек усёй душой палюбіў тое, чаму так радаваўся і чым узвышаўся ён сам праз усё жыццё. Не ведаю, хто з нас думаў больш правільна: ці той ранейшы вандроўнік-рыбак, намнога маладзейшы, ці сённяшні, больш сталы, які пачаў многа ў чым сумнявацца... не ведаю, не ведаю...



Паміж Балачанкай і Пухавічамі характар Свіслачы зусім не мяняецца — усюды сустракаюцца мясціны, дзе можна палавіць плотку, прынадзіць галаўня або язя, паспрабаваць вытрымку на ляшча, пасцёбаць блешняй. Мне ўдавалася часам злавіць некалькі шчупакоў насупраць вёскі Слабада, што стаіць зусім побач з Пухавічамі, паддурыць добрых акунёў у вусці ракі Цітаўкі (упадае ў Свіслач на самай ускраіне мястэчка), добра паваяваць з плоткаю ніжэй і вышэй Пухавіцкага моста.

Праўда, варта адзначыць, што рака Свіслач наколькі багатая рыбаю ў гэтых мясцінах, настолькі і капрызная ў сваіх паводзінах. Рэдка тут які-небудзь тыдзень вада стаіць у адным узроўні. Сёння закідаеш вуды ў затоцы, дзе аж па самыя макаўкі затоплена куга, а назаўтра прыходзіш — і бачыш тут пясчана-заіленую мелізну, вада рэзка спала. Або — наадварот — вады нечакана і адразу прыбудзе столькі, што і прыбярэжны альшэўнік стаіць у ёй па калені... Не падступіцца да жаданых мясцін...

«Віноўніцай» такой няўстойлівасці воднага рэжыму трэба лічыць кардонную фабрыку, размешчаную на Свіслачы прыкладна кіламетраў за пяць вышэй Пухавіч. Фабрыка для патрэб вытворчасці мае сваё ўласнае вадасховішча. Хоць яно і невялікае, але вады, якая ў ім збіраецца, дастаткова для таго, каб у любы час была патрэба яе спусціць,— і вось таму ўчастак ракі, блізкі да кардоннай фабрыкі, і перажывае даволі часта непрыемную водную працэдуру. Ці трэба казаць, што гэтая няспынная зменлівасць у рэжыме воднага балансу вельмі ўплывае на паводзіны рыбы — яна робіцца насцярожанай і палахлівай. Да таго ж вада, што ідзе ўніз шумлівым наступам, уздымае з дна ўсялякую каламуць, сур і пясок, і для многіх рыб — якраз для той самай белі, якой больш за ўсё тут і водзіцца,— гэта зусім нездарова. Рыба амаль хварэе, яна часам нават перастае карміцца, таму і не дзіва, што часта вашы паплаўні на самых здабычлівых месцах стаяць без аніякага руху праз цалюткі дзень — як быццам у рацэ ўсё вымерла...



Але, на жаль, слова «вымерла» стасуецца да Свіслачы, як, між іншым, у апошні час і да многіх іншых рэчак і рэк,— не толькі «фігуральна». На жаль, часта рачное жы-

харства Свіслачы вымірае ў самым літаральным сэнсе гэтага слова. А дакладней, дык яно вынішчаецца — раўпадушна, свядома, цвяроза і без ніякае літасці знішчаецца «ў імя высокіх мэт» — так апраўдваюць сябе тыя, хто, будуючы новыя, звязаныя з хіміяй прадпрыемствы, не прымушае сябе патурбавацца пра ачыстку атрутных сцёкаў, скіроўваючы іх проста ў Свіслач.

Страшныя малюнкіназіраюць часта вясною жыхары падсвіслацкіх вёсак ад Мінска і да Пухавіч і нават яшчэ ніжэй. Калі ўзломіцца лёд і схлыне першая паводка, па берагах Свіслачы нельга, бывае, прайсці — так яны ўсеяны самай рознай загубленай рыбай. Гэта ў зімовыя дні, калі рыбе пад тоўшчай ледзянога панцыра і так цяжка бывае без прытоку свежага паветра, нехта з мінскіх магільшчыкаў прыроды па-зладзейску спусціў у Свіслач атруту з якой-небудзь фабрыкі ці завода... І вось паводка выкрывае вынікі гэтага злачынства... Плывуць на льдзінах, ляжаць прыбітыя да берагоў ляшчы і плоткі, язі і галаўні, шчупакі і акуні... На адлегласці больш, можа, чым сто кіламетраў на рацэ знішчана ўсё жывое... а вінаватых няма... нейкі злодзей, які зрабіў такую чорную справу, не толькі застаецца непакараным, а нават, магчыма, атрымаў яшчэ і прагрэсіўку за так званае «перавыкананне» плана...

Раней (не так ужо і даўно і не гэтак і нядаўна, а прыблізна — пятнаццаць — семнаццаць год таму назад), зачуўшы для сябе што-небудзь нядобрае, свіслацкая рыба знаходзіла выратаванне ў прытоках Свіслачы. У раёне Пухавіч, вышэй і ніжэй па цячэнні, такія яе прытокі — Волма, Цітаўка, Балачанка, Талька. Ціха, спакойна плыніліся іх чыстыя воды: то высяцца над імі ў бястрывожнай задуме векавыя дубровы, то цягнуцца шырокія, з лугамі і пашамі поймы, а то палі каласамі шэпчуцца над самай вадою. Хто пабываў на гэтых рэках у часы, калі іх хараство, прывабнасць нікім яшчэ не былі згвалчаны, той згодзіцца са мною, што меў сапраўднае шчасце — і душою зліцца з лернай непаўторнасцю чароўных з'яў прыроды, і — задаволіць няўтольную рыбацкую прагу да ўсё новых адкрыццяў і прыгод. Асабліва цікавая была Волма — рэчка надзвычай прыгожая, і задумная, і звонкая, і светлая, і з празрыстай засенню,— яна адчувалася заўсёды, як жывая, здавалася, з ёй можна было нават пагаварыць... Глыбокія ціхаводныя ямы, частыя павароты, то шырокія плёсы, то звужаныя, з быстрачком гарлавінкі, і ўсюды — з багатай расліннасцю, стваралі добры прытулак для самай рознай

рыбы — ад няўклюднага сома да непаседлівых ельчыка і верхаводкі...

Але ўся бяда ў тым, што пра Волму, Балачанку і іншыя прытокі Свіслачы як пра звычайныя нармальныя рэчкі сёння можна гаварыць толькі ў мінулым часе. Бо цяпер яны — усяго толькі больш ці менш занесеныя пяском ці ілам канавы. Са страшнымі пашчамі магутныя канавакапальнікі, самых вялікіх памераў балотныя плугі па нечаму загаду нявечылі прыволле гэтых рэчак, ператваралі іх у каламутныя вадасцёкі ад пункта «а» да пункта «б». На берагах гэтых новых так званых рэчак высяцца бясформенныя завалы выкінутай з глыбіні чорна-белай зямлі, якая густа зарасла глухой крапівой і ўсялякім іншым пустазеллем. А ў выраўненых пад струну рэчышчах не тое што рыбе, а нават якой-небудзь казюрцы і той цяжка знайсці сабе ахоўны прытулак. Дзеля чаго ўсё гэта зроблена тут і многа дзе робіцца яшчэ і цяпер? Дзеля якой мэты нішчыцца прыродная веліч зямлі? Якой асаблівай логікай або разлікамі, якой надзвычайнай мэтазгоднасцю кіруюцца тыя, хто аддае каманду нявечыць і руйнаваць прыгажосць, што стваралася вякамі і якое потым нічым не вернеш і нічым не заменіш?.. Такія пытанні даўно ўжо хвалююць нашу грамадскасць. Не адзін раз і ў друку нават пыталіся людзі пра гэта. Але, на жаль, ніхто ніколі не даў адказу. Больш таго, часам немагчыма нават дазнацца, па чыёй волі загублена тая ці іншая рака. І яшчэ больш: паспрабуй дазнавацца, дык і на адваката гэтых загубцаў нарвешся — і будзе табе па самую завязку: што ты і не разумееш патрэб часу, і патураеш усяму адсталаму і коснаму, і наогул такі ты і сякі... Я і сёння не чакаю пачуць адказ на горкія пытанні.

Але, як і тысячы людзей, не магу стрымацца, гледзячы, як паглынаюцца, засыпаюцца зубатымі каўшамі векавечныя крынічкі і крыніцы, нішчыцца краса рачных краявідаў, засыхае, перастае радзіць зямля вакол былых паўнаводных рэк,— і яшчэ, і яшчэ раз пытаю: нашто і кім усё гэта робіцца, нашто?

Тым болей што побач з бяздушнымі знішчальнікамі існуюць людзі і цэлыя арганізацыі, якія маюць задачу ратаваць прыроду, у прыватнасці рэкі, і якія шмат чаго робяць, каб іх уратаваць,— знішчальнікі ператвараюць рэкі ў бязводныя канавы, а ратавальнікі будуюць плаціны, каб затрымаць ваду ў вадасховішчах; знішчальнікі атручваюць у рэках усё жывое, а ратавальнікі засяляюць рыбаю новыя

вадаёмы, не шкадуюць ні сіл, ні энергіі, каб усё жывое наноў ажывіць...

Дзеля чаго ж дазваляецца сёння знішчаць тое, што заўтра трэба будзе ратаваць, аднаўляць, вяртаць у жыццё? Дзе ж, нарэшце, той гаспадар, без дазволу якога ніхто не пасмее крануць нават маленечкую цалю роднай зямлі?..

Свіслач і яе прытокі, якія знаходзяцца намнога бліжэй да зацікаўленых сталічных арганізацый, чым іншыя рэкі, здавалася б, павінны былі найболей адчуваць прыхільную да сябе ўвагу. А між тым, калі можна так сказаць, «сталічным» рэкам чамусьці больш, чым якім іншым, не шанцуе. Дзіву даешся, з якой паслядоўнай абыякавасцю назіраюць некаторыя адказныя людзі за няспыннай нядоляю гэтых рэк. Як быццам бы так вось і трэба, каб адны пабольш спускалі ў іх атрутнага бруду, а іншыя пераварочвалі экскаватарамі іх рэчышчы і берагі, парушалі назаўсёды запаветную суладнасць непаўторна-жыццёвых праяў прыроды...



І ўсё ж... І ўсё ж рыба ў Свіслачы водзіцца...

На прыкладзе Свіслачы і яе прытокаў можна яшчэ раз упэўніцца, колькі бязмежнасці і прагі ў жыцця і наколькі інтэнсіўная і магутная сіла прыстасавальнасці ў самых, здавалася б, безабаронных і слабых насельнікаў нашай планеты... Рыба ў Свіслачы жыве...

Часам трапіцца прапахлая газаю, часам — нашпігаваная такімі хіміка-сінтэтычнымі пахамі нашай эпохі, якіх і пазнаць не здолееш,— і ўсё ж такі рыба змагаецца за існаванне, яна жыве.

Факт, які розных людзей можа настроіць на розныя меркаванні.

Адны — тыя, што прывыклі глядзець на рэкі як на сцёкавыя канавы,— могуць самазадаволена сказаць: «Ну от, вы нас вінавáціце, што мы забруджваем рэкі і знішчаем іх насельнікаў, а рыба — глядзіце! — рыба — жыве!» Другія падумаюць: «І ўсё ж злачынцам не ўдаецца і не ўдасца ніколі загубіць усё жывое — жыццё ўсё ж застанецца вечна, нягледзячы на існаванне самай неверагоднай раўнадушнасці...» Давайце ж і мы, рыбакі, усёй душой парадуемся, убачыўшы, як высунецца з сіняй глыбіні хітравокая плотка і, нібы вітаючы гаспадара вуды, дзеўбане губамі ў яго каляровы, лёгкі, з пенапласту, паплавец...

Хоць і не ўсюды (ёсць такія мясціны за трыццаць — сорак кіламетраў ніжэй Мінска, дзе рака так атручана і забруджана, што не хутка, мусіць, ажыве і праявіцца яе фауна), але Свіслач і яе прытокі могуць і сягоння яшчэ парадаваць рыбака. Прынамсі, на Свіслачы на ўчастку Пухавічы — Талька, на не кранутай экскаватарамі Цітаўцы, ды і на Волме — каля Вугальца, ля Чырвонага Берага, пад Іванічамі і яшчэ вышэй, на кавалачках, якія чамусьці засталіся нераскапанымі,— можна папалянаць летам на ляшча, галаўня і язя, а восенню — на плотку, падлешчаўку і зноў жа на ляшча. Выглядайце мясцінкі, дзе за кугой ці на падсечаным плынню павароце ўтвараюцца віркі з адваротным цячэннем або з ціхастойнымі завоінкамі, як бы нечым аддзеленымі ад асноўнай плыні. Закідайце аднудзве вуды і не спяшайцеся рабіць вывадаў, калі вашы паплаўні доўга не будуць падаваць ніякага жадання затрымцець на нібыта спыненай плыні. Цярпліва чакайце. Бо раптам, як бывае тут амаль заўсёды, можа настаць хвіліна, якая шчодра аддасць за вашу настойлівасць. Свіслач такая. То яна маўчыць, нібы зачараваная сонная красуня, то, як быццам вінаватая, ачнецца і пачне выказваць сваю бязмежную шчодрасць.

На кожнай рэчцы, нават на самай незнаёмай, рыбаку хочацца хутчэй натрапіць на мясціны, дзе не застанецца дарэмным яго чаканне. Кожнаму не церпіцца як найхутчэй знайсці такую завоінку ці вірок, дзе ходзіць, безумоўна ж, самая хітрая і самая магутная рыба...

На Свіслачы, рэчцы, якая мае багата сваіх прыхільнікаў і аматараў, нямала ёсць мясцінак, што хаваюць, напэўна, не адну хвалюючую гісторыю. Ідзіце па беразе і ўважліва прыглядайцеся да самых патаемных куточкаў, іменна ў самых патаемных куточках вы і знойдзеце сляды рыбацкіх прыпынкаў. Тут можаце спыняцца. Дарэмна рыбакі тут не сядзелі. Тут абавязкова была і, магчыма, часта бывае ў кагосьці добрая ўдача.

Аднак жа калі прызнацца шчыра, то мне вельмі рэдка хацелася спыняцца на чужых вытаптаных мясцінах. Я чамусьці не верыў у іх. І, мусіць, таму ніколі на іх і не шанцавала. Заўсёды я ішоў шукаць куточак па свайму густу. Галоўнае для мяне — каб мясцінка нічым не кідалася ў вочы, каб мог тут адчуць сябе сам-насам з прыродай. Каб мог паверыць, што нарэшце застаўся ў абсалютнай адзіноце. Бо — скажыце шчыра! — хіба часам на адзіноце не адчуваеш сябе звязаным з усім светам больш, чым у людскім

гармідары і мітусні? Мне здаецца, што мы таму часам і бываем жорсткімі і раўнадушнымі да іншых, што вельмі рэдка застаёмся на адзіноце.

Як я ўжо гаварыў раней, Свіслач не часта радавала мяне рыбацкімі трафеямі. І ўсё ж я любіў і люблю пабываць на яе берагах. Яна мне тым і падабалася заўсёды, што давала прытулак душэўнаму роздуму, радавала таямнічай зажуранасцю сваіх чароўных куткоў. Потым я пазнаёміўся з рэкамі, не менш прыгожымі і прывабнымі, і пра іх таксама не змагу не сказаць сардэчнага слова. Але ж Свіслач пасля Сажа жыве ў маім усведамленні як найшчырэйшая мая сяброўка. І перад тым як апынуцца на беразе Бярозы. якой ніяк не абмінеш, ідучы па маляўнічых закутках Свіслачы, я працягну размову аб Свіслачы, падняўшыся вышэй Мінска. Тут пасля ўпадзення ў Свіслач яе невялікіх. але порсткіх, крынічлівых прытокаў — Ратамкі, Вячы і Чарнушкі — жалезабетонная плаціна перагарадзіла Свіслач і ўтварыла шырокую водную прастору. Гутарка пойдзе пра вадасховішча, якое сталічныя жыхары з улюбёнасцю назвалі Мінскім морам.

## МІНСКАЕ МОРА

Плывеш, куды сэрца табе загадала —
ад хат Ганалеса па срэбнае шчасце.
На якары цяжкі баркас загайдала
над Белаю ямай, паблытаўшы снасці.

Радкі гэтыя належаць выдатнаму беларускаму паэту, шчыраму аматару прыроды Анатолю Вялюгіну. Як добра адчуў ён хараство і значнасць марской прасторы, створанай рукамі чалавека ў той мясціне, дзе вялікую ваду бачылі адно толькі ў кароткія дні веснавой паводкі.

Калі яшчэ толькі пачыналі насыпаць плаціну, памятаю, былі такія недаверлівыя, якія зусім шчыра смяяліся з гэтае работы: ну што тут будзе за вада, што гэта за рэкі — дзве-тры карчаватыя яміны, два віркі, астатняе — пясочак жоўты. І сапраўды. Вельмі ўжо несамавіта выглядала нават Свіслач, а не тое што якая-небудзь там Чарнушка. Губляліся паясочкі-рэчкі ў абшарах балот, на якіх то там. то сям узнімаліся тарфяныя бурты, трымцеў асіннік ды шапацела над тарфянымі кар'ерамі пажоўклая куга.

Якое ж было дзіва і якая радасць мінчанам, калі праз нейкія два гады з невялікай, здавалася, зусім мізэрнай ва-

ды атрымалася вялізнае вадасховішча — ну, безумоўна ж, мора! — мора! — а інакш як было назваць такую вялікую водную прастору. І на самай справе, выгляд у вадасховішча — як у сапраўднага мора: і супрацьлеглага берага часам не ўбачыш за туманнай смугою, і хвалі ў непагоду ідуць адна за адной з белымі грабянямі, і чайкі то кружаць і таўкуцца з крыкам над рыбацкімі чаўнамі, то гойдаюцца на спакойнай роўнядзі каля жвіровых пляжаў...

Жыхары нашай сталіцы даўно ўжо літаральна «задыхаліся» без вады. Я кажу не пра тую ваду, якую мы п'ём, хаця і яе Мінску заўсёды не хапала. Але больш тут ідзе гутарка пра ваду, каля якой можна пабудаваць санаторыі і дамы адпачынку, піянерскія лагеры і пансіянаты, турысцкія базы і лодачныя станцыі. Вось такая вада нарэшце пад Мінскам і з'явілася. І хоць кожны разумеў, што морам вадасховішча можна назваць толькі ўмоўна, але што з таго? — сіняя прастора жыве, дыхае, плюскоча, рассыпаецца жывым срэбрам пад пагодлівым сонцам, б'е ў борт лодкі, казыча голае цела пяшчотнай прахалодай, абсыпае з ног да галавы сярдзітымі пырскамі амаль марскога шторму...

Можна смела сказаць, што з'яўленне Мінскага мора памяняла шмат якія варункі ў жыцці многіх мінчан. Багата хто з іх адразу забыўся пра іншыя, хай сабе і лепшыя, моры — Чорнае, Балтыйскае ці якое там яшчэ. Тысячы мінчан цяпер адпачываюць толькі тут, каля свайго блізкага мора. Ну, а рыбакі? І ў рыбакоў маршруты паездак змяніліся. Мінскае мора, нядоўга пабыўшы загадкай, стала для іх і прывабнай, і безадмоўнай рыбацкай мясцінай.



На здзіўленне рыбакам, Мінскае мора адразу ж, як толькі яго поўнасцю залілі, выдала сваім аматарам такія нечуваныя шчодрыя ўловы, пра якія і зараз яшчэ, калі ўжо тое даўно мінулася, ходзяць сапраўдныя легенды.

Першаю рыбаю, якая пайшла літаральна валам на спінінгавыя блешні, на жыўца і нават на чарвяка, былі шчупакі. Колькі павазілі іх з Мінскага мора! Нават не рыбакі, пачуўшы пра такое дзіва, кідаліся ў магазіны купляць снасці і любым спосабам кіраваліся хутчэй на мора. Асобныя з такіх шукальнікаў неверагодна таннай здабычы, падышоўшы да вады, нават не ведалі, з якога канца што па-

чынаць. Матляліся па беразе, хадзілі, пыталіся, перапытвалі. Іх з'едліва высмейвалі, кпілі з іх, але яны на кпіны не адказвалі: ім патрэбен быў мех шчупакоў, і яны цярпліва і настойліва лезлі ў ваду са сваімі нязграбнымі нажыўкамі. І ўявіце, вельмі часта дабіваліся свайго — везлі дадому немалыя трафеі... Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што сярод гэтых няўмек былі і сумленныя людзі, проста пачынаючыя рыбакі, якія потым сталі сапраўднымі аматарамі прыроды.

Можна было толькі здзіўляцца: адкуль у Мінскім моры адразу з'явілася столькі шчупакоў ды і ўсякае іншае рыбы? Але адказ, мне здаецца, тут просты: Свіслач, Ратамка, Вяча і Чарнушка, над рэчышчамі якіх сабралася вялікае вадасховішча,— рэчкі, пра якія можна сказаць: малыя, ды ўдалыя. Тут выварочваліся часам такія экземпляры шчупакоў, акунёў і плотак, якімі і на вялікіх рэках не грэх пахваліцца. На Ратамцы і Свіслачы траплялася таксама нават ладная стронга.

На абшарах, дзе зараз шуміць Мінскае мора, яны былі рэчкамі з выразным балотна-нізінным характарам — з мноствам паваротаў, раўчукоў, пячурак, запруджаных карчэўем ямак і ямачак, травяністых, дрыгвяністых выспачак, пад якімі плынілі бруістыя струмені. Наўрад ці можна ўявіць сабе лепшыя ўмовы для жыцця падводнаму жыхарству. Да таго ж — рэдка хто ведаў, што на заціснутых чаратамі і сітнягамі ямачках, на зацененых альшэўем падмоінах гэтых рэк водзіцца нямала ўсялякае і вялікае, і малое рыбы,— таму яна і пладзілася і падрастала тут, як у закінутым, неапалоханым царстве.

Акрамя таго, Мінскае мора заліло вялікую плошчу торфараспрацовак з іх шматлікімі кар'ерамі, дзе, безумоўна, вадзілася многа ўсякае рыбы, асабліва шчупакоў.



Прывыкшы вандраваць па рэках і азёрах далей ад Мінска, я нешта доўга не вельмі ахвотна згаджаўся ехаць на Мінскае мора. Асабліва летам, калі разам з пахам запалавелага жыта і гулам соснаў над зялёнымі сцяжынкамі прыходзіла ў сэрца неадольная прага вандраванняў, шчырых, сардэчных сустрэч з дабратою дарагой прыроды. Таму ўспамінаюцца толькі некалькі выпадковых летніх наведванняў Мінскага мора са спінінгам і лічаныя паездкі сюды

з вудаю — адразу пасля зімы, пакуль яшчэ рэкі не ачысціліся ад муту вясновага разводдзя.

Але затое ўзімку Мінскае мора стала для мяне месцам надзвычай запамінальных, хвалюючых перажыванняў. Уласна кажучы, калі б не Мінскае мора, дык я, магчыма, і не ведаў бы, што такое захапленне рыбалкаю зімой. А зімовая рыбалка — гэта я цяпер смела кожнаму скажу — не толькі адна з магчымасцей не перапыняць сувязі чалавека з жыццём прыроды, але і адзін з найцікавейшых жыццярадасных заняткаў. Скажу нават больш: рыбалка зімою, на маю думку, значна цікавейшая за летнюю, хоць і бяднейшая, меней дае рыбаку здабычы ў выглядзе так званых трафеяў, але затое яна патрабуе ад рыбака значна больш кемлівасці і знаходлівасці, нават мужнасці і вынослівасці,— а выхаванне гэтых якасцей хіба можна параўнаць чалавеку з якім-небудзь іншым набыццём? Возьмем адзін звычайны зімовы дзень рыбака-аматара, паглядзім, з якіх клопатаў, трывог, пошукаў, з якой працы ён складаецца. З самай першай хвіліны гэтага новага дня і да яго заканчэння рыбак — у актыўным, бадзёрым настроі, у няспынным руху і добрай, суцяшальнай занепакоенасці. Каб своечасова трапіць на любімую сваю раку ці возера, ён павінен падняцца яшчэ амаль ноччу — на досвітку, сам сабе згатаваць снеданне, падрыхтаваць сябе ў дарогу. Потым ён ідзе, чакае аўтобуса або спяшаецца на электрычку. Прыбыўшы на месца, часта ў завіруху, праз снег і сівер, спяшаецца знайсці якраз тую мясцінку на заснежаным лёдзе, дзе мінулы раз (або, магчыма, нават летась!) яму пашанцавала,— і ўявіце сабе, як гэта бывае часам нялёгка і колькі павінен рыбак трымаць у памяці розных прыкмет і арыенціраў, каб не збіцца з правільнага кірунку. Знайшоўшы, як яму здаецца, якраз тую самую мясцінку, рыбак робіць пелькі, і добра, калі гэта па першалёдку, а самай лютай зімою, калі лёд таўшчэ на паўметра,— хіба гэта не сапраўдная работа? Лункі гатовыя — і вось рыбак увесь у чаканні, усё яму цяпер за нішто — і мароз, і завея, і не будзе ў яго крыўды ні на зіму, ні на раку або возера, калі за ўвесь дзень нават ні разочку не пацягне пад лёд паплавок яго вудачкі, не ўдарыць акунь па блешні. Да самага вечара будзе ён дзяўбці лёд — рабіць новыя пелькі, да самага вечара будзе жыць з ім радасная надзея...

І міжволі застаюцца ў яго вачах казачныя ўзоры бухматага інею на кропах прыбярэжных дрэў, або танец мяцеліцы — як гіканне зацугленых, але нястрымных скакуноў,

або неадольнае белае наступленне свежай, мяккай парошы, калі здаецца, што ўся зямля ўзнімае цябе да самага сонца над духмянай, сіверпай белізною... Часта такі рыбацкі дзень на холадзе, на ветры любяць параўноўваць са сваім цёплым, з мяккай пасцеллю, лагодным і ўтульным днём гарадскія сібарыты. З пагардлівай усмешкай глядзяць яны на людзей стомленых і заінелых, якія ў цяжкіх сваіх рыбацкіх даспехах цягнуцца ўвечары дадому. Для сібарытаў гэтыя людзі — дзівакі. Ніхто з іх нават і думкі такой не дапускае, каб вось так і самому калі-небудзь паспрабаваць засіверыцца на заснежаным возеры або рацэ... А шкада... Чаго-чаго, а інфарктаў і саматужных дамашніх трагедый стала б у жыцці значна менш...

Маё захапленне зімовай рыбалкаю пачалося з усхваляванага здзіўлення хараством зімовай прыроды. Згадайце шчыра, хіба не было такога ж і з вамі: дзесяткі разоў вы нешта бачылі, і сустракалі, і пазнавалі, і віталі, і абыякава праходзілі міма, пакуль нарэшце ўсё тое ж самае не прыйшло аднойчы да вас у зусім іншым — у прыўзнятым, святочным, у велічна-ўрачыстым асвятленні. Як быццам бы нанова, толькі што, нешта такое незвычайнае нарадзілася... Так вось здарылася і ў мяне: і ў маленстве, жывучы ў вёсцы, бачыў зіму ва ўсіх яе праявах, і на вайне — і па сіверных шляхах нахадзіўся, і ў снягах поўзаў, і пад начным марозным небам выглядаў на небасхіле зорку салдацкага шчасця... А што зіма можа аднойчы здзівіць і захапіць так, што і слова не вымавіш перад яе чароўна-дзівосным хараством,— гэтага не ведаў. Можа, часу не было заўважыць яе прывабнасці? Ці занадта цяжкія выпадалі сустрэчы з зімовымі явамі, каб зачаравацца імі?.. Як бы там ні было — а вось аднойчы дамовіліся мы з адным вясёлым рыбаком выехаць зімовай нядзеляю на Мінскае мора, і з таго часу зіма ўладарна ўвайшла ў маё сэрца, падзяліўшы па-роўнаму яго сімпатыі з іншымі часінамі года.

Над Мінскім морам стаяла ў той дзень ясная, бязветраная, марозная пагода. За гады свайго чалавекатворнага існавання мора набыло ўжо досыць шырокую папулярнасць, і таму на яго лядовай раўніне, як маку, было насеяна людзей. Яны раскідаліся па ўсім моры то асобнымі купкамі, то цэлымі рыбацкімі базарамі, рэдка якія мясціны заставаліся незанятымі. І гэтая густая заселенасць дапамагала вызначыць берагавыя контуры вадасховішча, яго параўнальную грандыёзнасць, хоць уся прастора і мора, і зямлі да небасхілу была густа як бы выраўнена суцэльным бела-

снежным покрывам. І трэба сказаць — нішто сабе складалася ўражанне! Аж дух захапляла, калі ўпэўніваўся, што асобныя ледзь прыкметныя людскія постаці, якія далёка маячылі на гарызонце,— гэта ўсё яшчэ рыбакі нашага Мінскага мора!

У той першы дзень наведання Мінскага мора ніякай рыбалкі ў мяне, канечне, не атрымалася — я нават не ведаў, як робіцца звычайная пелька для вудачкі. Таму хутка стаў прычынай страшнага гневу майго прыяцеля — бо, не даўшы яму да канца расставіць сцяжкі на шчупака, без усякай кансультацыі ўзяўся прасякаць пельку і адразу ўпусціў яго пешню пад лёд.

Затое — божа мой! — колькі навокал праз цэлы дзень свяцілася сонцаў у кожнай крышталькай ільдзінцы, якой вясёлкай пералівалася пара над свежымі пелькамі, якімі прамяністымі ў чыстай сонечнай сінечы вымалёўваліся постаці рыбакоў. Праменілася неба, і праменілася зямля, мароз сціскаў лёд, і ён працяжна войкаў, не то ад асалоды, не то ад гневу, і водгулле то тут, то там кацілася ад берага да берага; з вёскі, з-за мора, чуліся гукі бубнаў і вясельная пад гармонік песня; заінелую рабіну над кручаю востра абселі снегіры, і, здавалася, яна гайдаецца і звоніць да самага неба гулкімі чырвонымі званамі; лыжнікі праклалі раўнюткую бліскотную дарожку ажно пад лясны небасхіл, і там, пад тым небасхілам, нехта спяваў песню, і звонкая радасць спевака, здавалася, кацілася да ўсіх рыбакоў па гэтай простай, як прамяністая лінія, лыжні... І ў дадатак да ўсяго — пад вечар загаварыла пелька: нешта спачатку, нібы іголкаю, укалола ў блешню, потым добра стукнула, а праз некалькі хвілін... Гоп!.. Што гэта?.. Раптам незразумелая сіла падкінула мяне над пелькаю, і сам не памятаю, як вылецеў на лёд першы мой зімовы трафей — можа, з паўкілаграма чырванапёры акунь. «І шанцуе ж недарэкам і няўмекам... такі гарбыль...» — расчаравана сказаў, убачыўшы таго акуня, мой прыяцель, які ўсё не мог забыць гісторыю з упушчанай пад лёд пешняй...

Безумоўна, вечарам, едучы ў электрычцы дадому, менш за ўсё хацелася гаварыць з кім-небудзь пра рыбалку як пра магчымасць за цэлы дзень заарканіць аднаго, хай сабе і добрага, акуня. Рабілася нешта сорамна: чым жа гэты акунь горшы за тых, што не пакваліліся на маю блешню і засталіся жыць у непралазным сваім карчэўі?.. Дзіўныя думкі для аматара... Звычайна такія сентыментальнасці прыходзяць толькі ад нервовай стомы... Але над усім

стаяла асалода переражытага зімовага дня, і каму-каму, а сабе, вядома, можна было сказаць шчыра: наўрад ці ўтрымаешся ў наступную нядзелю, каб не паехаць на гэтае скутае марозам, але жывое, жыццярадаснае мора...



Калі прыязджаеш на лёд Мінскага мора зараз, пасля многіх зімовых з ім сустрэч, то ўжо на кожны яго куток пазіраеш, як на нешта для цябе не толькі знаёмае, а нават блізкае, роднае. Вунь глядзеў калісьці на высокую кручу і дзівіўся, як яна можа заставацца не засыпанаю снегам нават у злосныя лютаўскія завеі,— і гэта ўжо не проста без ніякага імені пясчаная круча, а Лысы востраў, што, нібы цяжкі айсберг, стаў на вечны якар пры выхадзе з Ратамскай затокі, каб служыць добраю аховаю ад вятроў «марскіх» і касякам рыбы, і вандроўнікам-рыбакам.

А вунь Вышка на заходнім беразе мора — калі пайсці на яе ад Лысага вострава, трапіш спачатку на славутую Белую яму — яна яшчэ і да таго, як залілося вадасховішча, была вядомая рыбакам: на гэтай яме і тады бралі на жыўца гарбылёў-акунёў і паўпудовых шчупакоў. Мора як быццам усё схавала і як быццам усё выраўняла, здавалася б — дзе тут знойдзеш тую Белую яму. Але рыбакі ўсё знаходзяць дакладна... Далей будуць кар'еры з іх васьмі — дзесяціметровай глыбінёю, а яшчэ далей — між Вышкаю і вёскай Лапаравічы — не менш славутая, чым Белая яма, Крыніца — з мноствам вакол яе карчоў і затопленага кустоўя, у якіх так любяць вадзіцца самых розных калібраў акуні. Яшчэ далей, за Лапаравічамі, вунь за тымі, як кажуць тапографы, «пануючымі» над морам трыма высокімі хрыбтамі — так званы Заслаўскі мост, пад якім зліваецца з морам рака Вяча... Ёсць рыбакі, якія толькі гэтыя мясціны і наведваюць, яны і па заснежаным лёдзе зусім дакладна правядуць вас над самым рэчышчам Вячы аж да таго месца, дзе яна зліваецца (ці злівалася калісьці) са Свіслаччу. І тады вы, пайшоўшы ад Заслаўскага моста, убачыце перад сабою аж некалькі самых розных астравоў. Сярод іх найбольш вядомы — Вялікі востраў. Прыкладна на цэлы кіламетр расцягнуўся ён паміж мясцінкай, якая завецца Затопленым садам, і другім, меншым — Птушыным (або інакш — Змяіным) востравам. Рэчышча Вячы віецца якраз каля гэтых двух астравоў —

Вялікага і Птушынага. Там і тут сустракаюцца такія частыя перапады глыбінь, многа на дне «марскім» затопленых кустоў і нават (як бачым па назве мясціны) сад ёсць затоплены...

Далей — усцяж паўднёвага берага мора ёсць яшчэ некалькі невялічкіх астраўкоў, а потым — вялікая вольная прастора ажно да электрастанцыі, да шлюзаў на плаціне..

Цікава ў нядзелю выйсці на самую сярэдзіну Мінскага мора, стаць у яго цэнтры і паглядзець, як кажуць, на ўсе чатыры вятры. Хоць у выхадныя дні мора бывае ўсеяна людзьмі ад берага да берага, усё ж можна заўважыць, што маса гэтая людская — зусім не аднародная. Каля Выратавальнай станцыі і каля так званай Яршоўкі, непадалёк ад плаціны і каля самай Ратамкі, каля Птушынага вострава, зусім блізка ад вас, бліжэй да цэнтра,— звычайна збіраюцца самыя густыя, ажно цёмныя натоўпы. Гэта — яршатнікі, найбольш мнагалюдная секцыя рыбакоў-аматараў. Яны настолькі няўрымслівыя і ўпартыя, што, напэўна, нават вогненнае каменне з неба не здолела б іх сагнаць з месца. Першымі, яшчэ па цёмнаму, прыязджаюць яны на свае пелькі і пазней за ўсіх збіраюцца дадому...

Каля Вялікага вострава і ў Затопленым садзе, каля Лапаравіч і ў Свіслацкай затоцы за вёскаю Ганалес (ёсць там дуб з бусліным гняздом, якога з цэнтра мора, на жаль, нельга ўбачыць) — мясціны, дзе любяць засесці не такія, праўда, незлічоныя, як яршатнікі, але таксама шматлікія ахвотнікі падражніцца з плоткаю.

Больш у цэнтры мора, ля мясцін, дзе сыходзяцца пад тоўшчаю вады былыя рэчышчы Свіслачы, Вячы і Ратамкі — раскідаюць свае сцяжкі паляўнічыя на шчупакоў. Гэтых пазнаць зусім не цяжка: цэлымі днямі, бывае, стаяць яны на адным месцы без ніякага руху, чакаючы, калі шчупак знойдзе і схопіць пад лёдам пастаўленага імі жыўца. Скінуўшы сцяжок, шчупак дае знаць шчукару, што пара яму стрымгалоў бегчы па лёдзе да тае патрывожанай пелькі. І рыбак бяжыць — усё мора назірае тады за яго радасцю і расчараваннем, бо часцей за ўсё бывае, што, весела дабегшы да пелькі, рыбак знаходзіць на сваім кручку толькі пажаванага або парэзанага жыўца...

Ну, а вось гэтыя рэдкія «скараходы», што мала сядзяць на адным месцы, а ўсё больш топчуць снег ды круцяць новыя пелькі,— хто яны? Гэта — аматары самага, на мой погляд, цікавага спорту: ахвотнікі з дапамогаю блешні па-

гаварыць пад лёдам з акунём і шчупаком. Да гэтых рыбакоў належу і я. Сярод усіх рыбакоў-аматараў блясніль-шчыкі, трэба сказаць, самыя няўдачлівыя людзі. Не часта, зусім не часта хто-небудзь з іх можа пахваліцца сваёй удачай. І ўсё ж яны не кідаюць любімага занятку. Бо гэта і на самай справе займальны спорт: няспынна хадзіць, шукаць, прыкмячаць мясціны, высякаць пешняю або круціць калаўротам новыя і новыя пелькі, выпрабоўваць усё новыя блешні. І... размаўляць з рыбаю... Так-так, размаўляць — бо толькі ўмельства рыбака паказаць акуню сваю блешню, «даць» такую яе «гульню», якой акунь «патрабуе»,— толькі гэта і можа сабраць вакол пелькі паласатых асілкаў, што хоць і не заўсёды на блешню кінуцца, але добра па ёй пастукаюць, як бы вітаючы рыбака.

На Мінскім моры нямала было ў мяне такіх «размоў» з акунямі, і, напэўна, сказаць пра гэта яшчэ давядзецца трохі пазней. А зараз зноў мяне цягне вярнуцца ў нізоўе Свіслачы. Па ім хочацца перабрацца на берагі ракі, якая ў закуцці звонкіх берагоў прымае Свіслач у сваё лона, як маці любую дачку.



Хоць ад Талькі, дзе мы пачалі знаёміцца са Свіслаччу, да вусця ракі яшчэ досыць далёка і многа па яе берагах сустракаецца выдатных, прыгожых мясцін — усё ж я не стану доўга тут затрымлівацца.

Па-першае, проста таму, што Свіслач ніжэй Талькі па характару свайму зусім не адрозніваецца ад той, якую мы бачылі вышэй. А па-другое, Свіслач у сваім нізоўі часткова ператворана ў вадасховішча, а часткова ў тое, што пасля вадасховішча застаецца...

Рыбакам вядома, што пасля вадасховішча застаецца ад ракі. Застаецца ўчастак, узровень і паводзіны вады ў якім заўсёды залежаць ад паводзін вадасховішча: закрыюць шлюзы — і ніжэй плаціны вада рэзка спадае, агаляюцца перакаты, мялеюць ямы; адкрыюць шлюзы — і вада з грукатам, з пенаю, з брудам імчыцца ўніз... Не любіць рыба жыць на такіх участках...

Ну, а што скажаш пра вадасховішча, якое цягнецца па Свіслачы ад станцыі Лапічы да вёскі Вяззе? Прыгожае, паўнаводнае, рыбаю бывае багатае... Але нядоля Свіслачы стала яшчэ ў большай ступені нядоляю гэтага вадасхові-

шча. Уяўляеце сабе, якую страшэнную пакуту і гібель нясе ў вадасховішча, дзе вада амаль зусім не рухаецца, той атрутны бруд, які нават у рацэ — з яе быстрацечнай плынню — губіць усё жывое?.. На вадасховішчы каля Вяззя давялося мне быць усяго два разы — з зімовай вудаю — як заўсёды, з блешняю. Першы раз, па першалёдку, акуні весела і задзірыста стукалі па блешні. А другі раз — маўчала ўсё, як «на хаўтурах»... «Паглядзіце пад лёд»,— сказалі мясцовыя жыхары... Паглядзелі... Пад лёдам усё было бела ад загубленай рыбы...

Даруй жа мне, Свіслач, даруйце, маляўнічыя берагі вадасховішча ля Вяззя, даруйце, што не магу тут спыніцца. Не магу тут спыніцца, бо не магу вам дапамагчы... Пайду далей, пайду аж да самага вусця твайго, Свіслач, пайду пеша, заходзячы ў кожны меднастволы бор, у бярозавыя і дубовыя гаі, якія яшчэ стаяць на тваіх берагах. Пайду пеша, убіраючы ў душу, запамінаючы ўсё хараство, бо не ведаю, што тут будзе праз некалькі год, што ад тваё красы застанецца...

Пры вусці Свіслачы-ракі, узабраўшыся на высокі пагорак, стаіць мястэчка Свіслач. Доўгі драўляны гарбаты мост, старажытная цішыня беларускага паселішча, прыветлівыя, шчырыя, лагодныя, памяркоўныя людзі... Я люблю заходзіць у гэтае ціхае, утульнае, добрае мястэчка.

Тут, ля мястэчка Свіслач, рака Свіслач зліваецца з ракой Бярозай. Тут, над берагамі дзвюх рэк прырода столькі сабрала красы, спакою, летуценнасці і чароўнасці добрага смутку!

Даруй, Свіслач, развітваюся з табой, спяшаю на берагі Бярозы.

## БЯРОЗА (БЯРЭЗІНА)

У Янкі Купалы — Бяроза.

«Плыве ў свет рака Бяроза, плыве сягоння, як і ўчора...» «Плыве рака Бяроза плаўна, плыве, мінае горы, долы...»

У Петруся Броўкі — Бяроза.

«Калі ён пачуе, як ворагі скачуць, калі ён пачуе сірочыя плачы ля рэчкі Бярозы — душу яго слёзы запаляць».

У Пятра Глебкі — Бяроза.

«Ёсць на Беларусі, за ракой Бярозай, ціхая хаціна з вокнамі у сад».

У Пімена Панчанкі — Бяроза.

«Бяроза, помніш ты, як твой пакутны сон парушыў Ленін перуновым клічам...» — у вершы «Бяроза»...

У Беларускай Савецкай Энцыклапедыі — Бярэзіна...

Хай даруюць мне наймудрыя ўчарашнія і сённяшнія лінгвісты — усё ж нельга не пагадзіцца з роднымі славутымі песнярамі: у народзе, у людзей, што жывуць па берагах ракі, з веку ў век гавораць — Бяроза, і песняры пялі — Бяроза...

Бяроза... Хоць, спусціўшыся па Свіслачы, мы выйшлі на яе берагі ўжо ў тых мясцінах, дзе на поўную сілу разліваюцца яе глыбокія воды, я пачну сваё вандраванне па Бярозе далёка ў яе вярхоўі, дзе не кожнаму даводзіцца пабываць, а красы дзе не на аднаго чалавека...

Ёсць золата дубоў — такое звонкае ў задуменні восені, як бывае ў смутку самы лепшы ўспамін пра дні юнацтва. Цішыня апанавала прыроду — здаецца, усё наўкола замерла: ні маланак стрыжоў над пясчанай кручаю; ні галасу качкі за пачарнелымі вербалозамі; ні шолаху чаратоў, ні шэпту лісця, нават струменістай бруі не чутно — вада, як свінцовая, здаецца, спыніла свой бег, застыла на месцы, і няма ў ёй нічога-нічога жывога... Але глянеш на залатыя вежы дубоў — і раптам бухнуць, загрымяць, загудуць яны басавітымі радаснымі званамі, і ўсё зноў па-ліпнёваму ажыве прад вачамі: плыве над Бярозай зіхатлівы з хмурынкамі поўдзень; то жывіцай, то чабаровым настоем дыхае з кручы высозны бор; і пад гэтай пяшчотаю весела смяецца вада, уся светлая, уся адкрытая,— пабач, пабач, заклікае, якія багацці тояцца ў маёй глыбіні. І выходзіць на пясчанае мелкаводдзе дужы і зграбны прыгажун галавень, як дазорца-выведчык ці правадыр-завадзіла, а за ім наплывае гарэзная чарада яго трохі меншых братоў. І весела і адкрыта-проста глядзяць яны ўсе табе ў вочы, і ты, збянтэжаны, забываешся пра вуды, а толькі думаеш, каб не ўпусціць моманту, добра ўгледзецца ў іх прыгажосць, бо здасца раптам, што яны такія ж, як ты, вандроўнікі і гэтак жа, як ты, улюбёныя і ўслуханыя ў несціханую зялёную песню лета...

Ёсць чэрвеньскія зацішкі адвячорка перад кароткай навальніцай — як вусцішная хваля чакання перад атакай. Так раптам маўкліва-ціха стане на рачных берагах; па люстранай паверхні Бярозы, хоць неба па-над ёй зусім-зусім сіняе, чыстае, раптам пабягуць сталёва-халодныя цені; рака як быццам паніжэе, як быццам сціснецца, нібы

чакае аднекуль якогасьці ўдару... Што гэта? — ніяк не можаш зразумець... І раптам выразна-пагрозліва даляцяць з-за недалёкага лесу навальнічныя грымоты. Не паспеюць яны адшалясцець над яшчэ біскотнай ракою, а вось ужо выскачыла над лесам напалову асветленая сонцам хмара, і зялёна-сінія стрэлы маланак вылятаюць з яе глыбокіх схованў, як усмешкі раззлаванай чараўніцы... Хмара на вачах расце, шырыцца, папялова-дымнае яе кавадла ўжо набегла на сонца. Нечакана налятае вецер, але хмара ўпарта ідзе яму насупраць, насупраць, займае амаль палову неба, і вунь як гулка забарабанілі па вадзе па рачным павароце буйныя, дымныя кроплі. А яшчэ міг — і суцэльная залева, пад якой стаіш як апантаны, хавае ўсё ад вачэй, здаецца, не будзе такому пеклу ніколі канца...

Аднак жа што за дзівосныя праявы ў чэрвеньскіх гэтых навальніц! Як імкліва налятае бурная грымотная калацеча, так імкліва і, здаецца, зусім неўпрыкмет яна сама ад сябе ачышчае прастору, пакідаючы парную духмянасць на зямлі і блакітную цеплыню ў высокім небе... Яшчэ колькі хвілін таму над Бярозай крыжавалі адна адну перуновыя бліскавіцы; быццам у сярэбраны бубен, білі ў люстраную паверхню ракі тугія білы нястрымнага ліўня; а зараз — вунь як чыстым золатам вызвоньваецца захад; салаўі, бы па камандзе, заліліся ліхаманкавым спевам у лазняках; рака ажыла — вось адзін круг разышоўся па вадзе, вось другі, вось бухнуў беласпёр на бруістым адкосе, а вось і паплавок твой ажывае — цюкнула нешта раз, цюкнула яшчэ, і раптам — а дзе ж ён? — няўжо гэта ён гайдаецца ў глыбіні адбіткам вячэрняе зоркі з-за сіняй яліны?..

А ёсць жураўліныя спатканні летуценных світанкаў першай вясны.

Непадалёк ад тых мясцін ля Докшыц, дзе з крынічлівых нетраў пачынае свой шлях Бяроза,— ніжэй возера Медзазол, праз якое яна праходзіць бачным, чыстым струменем; а пасля — паміж схаваным у лясах урочышчам Ліпск і Бягомлем; а яшчэ ніжэй — ад балацянай вёскі Ускрам'е праз Броды і ажно да Паліка — яшчэ аднаго возера, якое перасякае Бяроза,— на глухіх чарацяных лугах ёсць чароўныя жураўліныя закуткі, пра якія, калі давядзецца хоць аднойчы пабачыць іх таемнае жыццё, не забудзеш праз усе свае дні.

Жураўліная радасць, жураўліная туга...

Каму не сціскалася сэрца — і заўсёды так нечакана! —

калі з яшчэ цёплага неба восені загучыць і тужлівае, і жалкотнае «кур-лы-кур-лы». І хто не адчуваў у душы бясконцага замілавання і радасці, пачуўшы тое ж «курлы» пасля зімы над скаржанелай, але пахкай ад глыбінных сокаў зямлёю, якая так прагне новага жыцця і новага росквіту. Адзін і той жа спеў, але колькі хаваецца ў ім для нас адценняў! Я неаднойчы думаў пра таямніцу гэтага жураўлінага «курлы» — што з ім нас родніць, чаму, нават не бачачы, куды кіруецца жураўліны клін, мы беспамылкова пазнаём — з выраю ён ляціць ці ў вырай?

Але ж калі амаль кожнаму даводзілася поўніцца і тугою, і радасцю ад пачутага жураўлінага спеву, зноў і зноў перажываючы з гэтым спевам гарачую сваю любасць да роднай старонкі, то не кожнаму выпала бачыць, як перажываюць свой смутак і сваё шчасце самі жураўлі.

Асабліва казачна-светлая іхняя радасць пасля вяртання з выраю ў куток нараджэння.

Я ўбачыў святло такой радасці на заціснутых паміж дрымучымі лясамі лугах па дарозе на Палік і з той хвіліны ні адной вясны не мог прапусціць, каб там не пабываць, і быў шчаслівы нават і ў выпадках, калі пазніўся на гэтае свята,— усё роўна чуліся ў душы яго веліч, урачыстасць і яго простая, няхітрая прывабнасць.

Было тады — першы раз — тою парою, калі Бяроза толькі-толькі ўвайшла ў берагі. Здавалася, ступі цяжэй на край багністага адхону — і рака ўраз перакуліцца, як хісткі кубак, напоўнены да самых краёў. Я прыехаў на Бярозу са спінінгам. Хоць звычайна мала надзеі на якую-небудзь удачу пры такой вялікай вадзе, ды ці ж можа рыбак, што ссумаваўся за зіму па знаёмых плёсах, не імкнуцца наведаць незабыўныя мясціны?

Як заўсёды, калі я трапляў на ўчастак ракі паміж Бродамі і Палікам, мяне цягнула да запаветнага вірыстага бука (так завуць на Бярозе круты, глыбакаводны рачны паварот) насупраць вёскі Уборак. Вёскі гэтае не відно ад ракі, яна схавана прыкладна за тры кіламетры ад Бярозы ў сцішаным лясным акружэнні. Але яе ведае кожны рыбак, хто са спінінгам ці з вудаю прабіраўся да Паліка напрасткі ад шашы Зембін — Бягомль. Ніяк, акрамя толькі як праз гэтую вёску, не патрапіш адразу выйсці ў такія глухія нетры, дзе чараты — у два тваё росты і зараснікам іх, здаецца, няма канца, дзе азярыны і старыцы ў сховах вербалозаў, дзе рачныя павароты ідуць адзін за адным так часта, што — колькі ні брыдзеш — нібы топчашся па ад-

ным месцы... Ад вёскі Уборак сюды вядзе адна ўсяго сцяжынка праз дрыгвяністы лес — хто яе заве ласінай, хто партызанскай. Зрэшты, і адны, мусіць, маюць рацыю, і другія. Такая тут гушчэча, незлічона — куп'я, здрадлівых балонак, задумлівых камарыных лабірынтаў у мокрых асінніках, у кустоўях іржавай асакі... Месіш нагамі гразь, выбіваешся з сіл, і раптам — чорная, невядома з якім сюрпрызам калюга перагароджвае шлях. Глядзіш разгублены — а яна ж чарнее і справа, і злева, і неяк так атрымалася, што і ззаду ўсё яна ж, і хоць не адзін раз хадзіў я тут па гэтай сцяжынцы, а часам доўга не мог разабрацца — куды ж ступіць, каб не праваліцца ў багну... І — праўда — толькі жыхар лясных гушчароў лось, напэўна, адчувае сябе тут бестрывожна... І праўда — толькі лясныя мсціўцы — партызаны, гаспадары навакольнай зямлі, што ведама была ім з маленства, маглі лічыць гэтую сцежку бяспечнай сваёй дарогай...

Непадалёк ад месца, дзе сцежка нечакана ўпіраецца ў самую ваду нізкага чарацянага берага Бярозы, ёсць высокі, сухі грудок з вячыстым магутным дубам і дубняковым і арэхавым падлескам. Вячысты дуб глядзіцца ў вірлівую плынь шырокага рачнога павароту. Не аднаго шчупака падхітрыў я сваёю блешняю пад засенню гэтага дуба. Таму і цяпер, выйшаўшы ад Уборка на раку, безумоўна, скіраваўся да прывабнай мясціны. А тым болей што ўжо вечарэла, а начаваць, калі даводзілася, я заўсёды спыняўся на тым грудку, пад тым дубам.

За час доўгай і досыць цяжкой прагулкі ад шашы да Уборка і потым ад Уборка да Бярозы я здорава такі падбіўся. Але ўсё ж спінінг свой наладзіў: рыбакам добра вядома, што гэта такое — першае спатканне з ракою пасля доўгай зімы. Ніякая сіла не прымусіла б стрымацца, не паспытаць рыбацкай удачы. Хутчэй, хутчэй вылятай з бляшанкі самая найлепшая блешня! — рукі дрыжаць, але звычна прымыкаюць блешню да павадка, а вочы адначасова і памагаюць рукам, і ад берага да берага ўсё вывучаюць на рацэ: дзе імкнуць і сутыкаюцца яе плыні, чаму гэта вунь пад тым берагам ваду так круціць, аж таўкуцца на паверхні бурбалкі, а чаму тут вось — як быццам безжыццёвая такая цішыня, і дзе ён зараз стаіць, аслабелы пасля ціру шчупак?

Шчупак між тым як быццам чакаў майго прыходу сюды. Каля самага берага, амаль, як кажуць, пад нагамі ён вывернуўся з глыбіні ўслед за блешняй і нават паспеў за-

чапіцца за трайнік. Праўда, тут жа, энергічна матлянуўшы дзюбастай галавою, сарваўся і даў імклівага нырца. Ну што ж, няхай сабе і так. Затое цяпер я ведаю, дзе сёння цягаць сваю блешню. Быць не можа, каб не напаткаў я тут таго драпежніка, які пакваліцца на такую ўдачлівую латунную падманку.

І сапраўды — на гэтым жа самым плёсе і яшчэ адзін шчупак кідаўся наўздагон за маім «порычам», а трэці, нарэшце, хапіўшы пашчаю амаль усю блешню, як ні выгінаўся, гарцуючы, і ні ляпаў зубастымі шчэлепамі, хутка апынуўся на беразе.

Між тым пачало ўжо змяркацца. Трэба было паклапаціцца пра начлег. Дуб мой ціха шумеў прада мною яшчэ не скінутым леташнім лісцём, думаў вясновую думу. Дума тая была мне такою цёплаю, даўно знаёмай: неаднойчы вясною я слухаў гэтую ягоную мерную думу. Была ў ёй мудрасць асілка, які ведае даўно і неабвержна: якія б стыхіі не ўзвірыліся навокал, а ён будзе заўсёды нязрушна стаяць на сваім месцы. Вось хутка дойдуць новыя сокі да кожнай пупышкі на яго галінках, стануць іх распіраць, каб зляцеў леташні ліст і праклюнуўся новы, і ад гэтага будзе яму балець, як баліць маломy дзіцяці, калі прарazaюцца зубы. І папросіць дуб пушчу прыслаць на яго галаву самыя злосныя вятры. Вятры прыляцяць з холадам, з сіверам, з вострым дажджом, будуць яго калаціць, біць, шкуматаць, ірваць, нявечыць. І зноў будзе яму балець, але не доўга: праз дзень-два адарвуцца ад галін леташнія лісты, выб'юцца зябкія новыя, вятры пакінуць груд, і зноў, хоць і стомлены да самых каранёў, будзе радавацца асілак дуб сваёй сіле, будзе спакойна стаяць, як адвечны вартавы, над зялёнай чарадою свайго падлеску, над цішай ракі і летуценнасцю азёрных лугоў...

Пад дубам зямля была нашчэнт перакапана, мусіць, дзікамі. Толькі некранутай засталася адна лапінка, бліжэй да абрыву каля шыпшынавага, з вострымі калючкамі, куста. Тут я і атабарыўся.

Нанасіў з дубняку і ляшчынніку леташняга лісця, сухога качарыжжа, распаліў цяпельца. Языкі полымя то ўсхліпвалі, спаткаўшыся з адсырэлай галінкай, то высока ўзляталі, прабегшы па дробным сушняку. Ноч і так была цёмная, а святло цяпельца зрабіла яе яшчэ цямнейшай. Здавалася, не на беразе ракі, не сярод лугоў і лясоў сядзіш зараз, падбіваючы кіёчкам недагарэлыя вугалінкі ў вогнішча, а недзе ў глыбокім падзямеллі. Памятаю, як

вусцішна было, якім смуткам шчымела душа, калі так вось заначаваў тут калісьці першы раз. Але нездарма я часта сюды наведваўся, адзін на адзін з прыродай заставаўся ў гэтай глухой мясціне. Сёння асветленая агнём спіна дуба, шыпшынавы куст і невялікая прастора паміж імі выглядалі мне самым утульным кутком на зямлі. Лёгкі пошум сухога лісця над галавой, рэдкае хлюпанне вады ў пячурках абрыву быццам адсоўвалі ад мяне цемру ночы, і я адчуваў сябе не адзінокай істотай, закінутай у загадкавую прастору, а часцінкай жыцця да драбніц вядомага наваколля.

Нечага і казаць, што я не адважваўся хоць трохі прыкархнуць на сырой, амаль волкай вясновай зямлі. Доўгі час займаўся тым, што пераглядаў свае блешні, перамацаў і падвастрыў на іх трайнікі. Пасля стаў перабіраць у памяці ўсе славутыя рыбныя мясціны адсюль да самага Паліка, спадзеючыся, што гэтага занятку хопіць ажно да ўсходу сонца.

Але, мусіць, я ўсё ж такі не вытрымаў і заснуў. Бо той чароўны гук, які пачуўся мне раптам у наструненай цішыні, мог пачуцца, напэўна ж, толькі праз сон. Толькі чалавек, які раптоўна па нейкай прычыне прачнуўся, мог быць у такім неспакоі, нават у трывозе, не ведаючы, ці папраўдзе з ім нешта было, а ці толькі ў сне.

Нейкі момант я ніяк не мог ачомацца. Але паступова ўсё стала на свае месцы — я ўбачыў амаль патухлае цяпельца і зразумеў, што сапраўды такі нейкі час праспаў, убачыў, што цемра ночы рассунулася,— быў сіні золак світанку, і з яго сінечы ўжо досыць выразна выступалі прыбярэжныя кусты за Бярозай, ляшчыннік за дубам і густая сцяна лесу.

Раптам у гэтай сінечы пачулася такое ўрачыстае, заклікальна-высокае, што ажно стрэлы халадочку стральнулі па спіне:

— Ку-у-у-ур-р-р-р... ур-у-у-р-р...

Прагучала паміж небам і зямлёю, быццам скацілася з сіняга воблачка за лесам і загайдалася над затуманенаю золакам ракою. А праз хвіліну зноў:

— Ку-у-у-ур-р-р... у-у-ур-р!..

Памыліцца было нельга: то, безумоўна, крык жураўлёў. Крык быў няпоўны, незакончаны, у ім не хапала таго завяршэння, да якога мы так прывыклі, праводзячы жураўлёў восенню і сустракаючы вясною. Але затое як яно гучала, гэта «ку-у-р»! Ніколі ў жыцці я не чуў у жураўлі-

ным крыку столькі сілы, столькі, я сказаў бы нават, упэўненай магутнасці. І да сённяшняга дня не магу падабраць слоў, каб імі перадаць усю гаму гучання таго ранішняга жураўлінага крыку. Я назваў бы яго пераразвонам сярэбраных труб, сугалоссем арганнай велічы. Але ж у ім выразна чулася і пяшчотная радасць жалейкі, нешта такое знаёмае, трапяткое, чаму не ведаеш назвы, але што заўсёды пачуеш у сваёй душы...

Прагучала і яшчэ раз гэтае «ку-у-ур», і некалькі хвілін над лугам панавала цішыня. Я чуў, як грукала маё сэрца, так я, стаіўшыся, чакаў, каб жураўліны крык прыйшоў да мяне зноў.

І ён прыйшоў. Але цяпер ён ужо быў не з воблака, а загрымеў так зблізку, ажно вушам закалола, быццам жуpавель стаяў недзе зусім побач у ляшчынніку і кідаў у свет, а можа, якраз і да мяне, свой світальны заклік.

Я пакінуў ля цяпельца рыбацкі рыштунак. Ступаючы ледзь не на адных пальчыках, пакіраваўся ў бок пачутага крыку. Мясцовасць тут была мне добра знаёмая: праз ляшчыннік вяла пратаптаная дзікамі і казулямі сцяжынка на адкрыты луг перад лесам. Аднекуль адтуль і прыйшоў жураўліны кліч, і нешта ж вельмі незвычайнае адбылося ў тым месцы, што яго ў такую рань нарадзіла. Тое, што я ўбачыў, прабіўшыся на другі край ляшчынніку, было настолькі нечаканае, што папраўдзе можна было падумаць: а ці не сон усё гэта, а калі не сон, дык ці не дзівосная казка?

Вакол азярынкі, быццам у няспынным урачыстым карагодзе, кружылася мноства жураўлёў. Спачатку я ўбачыў адны іх галовы — світальны туманок, наплыўшы ад ракі, схаваў на той момант птушыныя постаці. Але пад лёгкім ветрыкам туман час ад часу раптам як бы пасцілаўся белым прасцірадлам на зямлю, і тады на тым прасцірадле паўставалі перад вачамі зграбныя, урачыстыя жураўліныя пары. Пары — крыло да крыла — адна за адною чынна выступалі на адкрыты бераг азярынкі.

— Ку-у-у-ур-р-р! — зноў загрымела сярэбраная жураўліная труба.

І яшчэ вышэй:

— Ку-у-у-у-у-у-р-р-р!..

Не ўдалося ўгледзець, які з жураўлёў быў тут заклікальным трубачом.

А ўбачылася ясна — закідаючы галовы, адказвала кожная пара: ур-р, ур-р, ур-р!

— Ур-р, ур-р, ур-р!..— як сярэбраная сімфонія, каціла-ся над лугам.

Калі б гэтую мелодыю пачуў хто-небудзь незнаёмы з прыродай, то наўрад ці здагадаўся б, што гэта спяваюць жураўлі.

Ды ўрэшце мне і самому, хоць на ўласныя вочы бачыў усю карціну, неяк дзіўна было верыць, што гэта твораць тут свой неверагодны танец самыя звычайныя птахі. Шэра-папяловыя іх постаці здаліся спачатку надта высокімі — яны як бы плылі над зямлёю. Але гэта і папраўдзе было так: прытанцоўваючы доўгімі, тонкімі нагамі, жураўлі не-як зусім загадкава, амаль не развінаючы крылаў, раз-пораз адрываліся ад зямлі, узнімаліся, плылі над куп'істым до-лам. І таму, што праз роўныя прамежкі часу так рабіла кожная пара, здавалася, што гэта не жураўлі, а нейкія па-добныя на іх чароўныя істоты велічна снуюць вакол азя-рынкі. І столькі было радасці ва ўсім іх песенна-танца-вальным свяце, што цяжка было ўтрымацца — эх, каб сарвацца з месца ды кінуцца ў іх чароўнае кола, каб і само-му разам з імі вось так кружыцца над лугам і крычаць, крычаць аб шчасці спаткання з роднай вясновай зямлёю!..

Ранішні вецер між тым памацнеў. Адным сваім пары-вам ён раптам заслаў усё наваколле белым непраглядным туманам. Як быццам збіраў, збіраў яго над лугамі, над ра-кою ў вялізны мех, прынёс сюды ды і бухнуў без астатку на адну мясціну.

Прапаў луг, прапала азярынка, прапаў жураўліны круг. Ах, вецер, вецер, хоць бы ты хутчэй гнаў туман да-лей — на цёмны лес, на выжары, на імшары балотныя, хоць бы хутчэй вызваліў ты ад заслоны азярынку маю і маіх жураўлёў!

Сэрца білася, чакаючы сярэбранай трубы. Але жураў-лі, нібы не схаваў іх туман, а быццам зусім іх тут і не было, не падавалі нават і голасу. Зусім ужо разднела. Па-чало дробнымі густымі кроплямі сыпаць на твар, а жураў-лінай трубы не было. Я не ўтрымаўся: «Ку-у-у-р-р-р!» — колькі было сіл — крыкнуў на ўвесь луг, спадзеючыся, што выклічу сабе адказ. Але той крык цяжка патануў недзе зу-сім блізка ў імжыстай смузе, і нішто-нішто яму не адка-зала... Вось ужо і азярынка патроху адсланілася вачам, а казка не паўтарылася — жураўлінае свята толькі гайда-лася казачным уяўленнем, толькі хвалявала сэрца радас-ным успамінам...



Калі я пачынаў пісаць гэтую кнігу, то перада мною паўставала пытанне: ці пагодзяцца многія мае сябры, з якімі неаднойчы бываў на родных азёрах і рэках, каб прыгадваў у кнізе іх імёны і прозвішчы?

Нават вырашыў напісаць з гэтай прычыны спецыяльныя пісьмы.

Ды не заўсёды пісьмы траплялі да адрасатаў своечасова.

Адзін за адным пакідаюць дарагое жыццё добрыя, шчырыя людзі. Пакідаюць любыя рэкі, азёры, пакідаюць бяссонныя ночы, летуценныя світанкі, пакідаюць шчасце сонечных дзён. Пакідаюць сяброў, быццам не ведаюць, колькі жальбы ажыве ў сяброўскіх сэрцах заўсёды, як толькі зноў убачаць куткі, якія разам з імі адкрывалі, любілі і славілі...

Бяроза стала пасля Сажа самай вабнай для мяне ракою, напэўна, дзякуючы даўняй улюбёнасці ў яе красу чулых душою асобных маіх сяброў.

Сярод іх першым па праву трэба назваць Вячаслава Пятровіча Палескага.

Няма ўжо яго. Адспявалі трубы над яго магілкаю ў прыгожы, сонечны чэрвеньскі дзень.

Якраз у нядзелю адспявалі, калі павінен ён быў не на могілкі ехаць у пахавальным аўтобусе, а на Бярозу спяшацца — ніколі не мог ён заседзецца дома ў выхадныя дні, не мог стрымаць сваёй прагі сустрэцца з любімай ракою...

Аўтар чалавекалюбных п'ес, крынічнай чысціні сумлення, патрабавальны да сябе працаўнік. Негаваркі, заўсёды задуманы, як быццам нават пануры, здавалася часам, нават злосны — не кожнаму і паверылася б, што жыве ў ім трапяткая, сарамлівая, можа, нават па-дзіцячы наіўная душа паэта-вандроўніка,— Вячаслаў Пятровіч Палескі быў непараўнаным аматарам і ахоўнікам роднай прыроды. Паспрабаваў бы хто-небудзь пры ім бухнуць толам у рыбную яму ці бракан'ерскай сеццю зачапіць рачную тоню! Паспрабаваў бы хто-небудзь не там, дзе можна, распаліць вогнішча ці памучыць лес вострай сякерай!

Не дараваў бы ён такога!

І верыцца мне, што з удзячнасцю ўспамінаюць яго густы, крыху глухаваты голас берагі Бярозы і Друці, Эсы і Улы, Пцічы і Дзвінасы, Прыпяці і Нарачанкі, Мядзеля і Швакштаў, Сялявы і Лукомля — рэк і азёр, дзе, раскінуў-

шы свае нязграбныя, няўловістыя вуды, хадзіў ён нетаропкай хадою руплівага гаспадара.

Не паспеў я пры яго жыцці паслаць яму пісьмо, хай жа гэты рыбацкі некралог будзе і рэквіемам яму, і просьбай маёй — дазволь, дарагі Вячаслаў, успамінаць цябе на старонках нашай рыбацкай кнігі.



Бяроза ў сваім вярхоўі, а менавіта ў ваколіцах Ліпска, Ускрам'я, Бродаў, Паліка — на адлегласці, бадай, каля паўтараста кіламетраў,— цячэ ў большасці па нізкіх лугах, прабіваецца праз дрымучыя лясы, кружыцца па зарослых чэзлым бярэзнікам, асіннікам ды вербалознікам імшарах. Але нярэдка выбягае яна і на пясчаныя сухадолы, дзе над водамі ўзвышаюцца вясёлыя стромыя берагі з вежамі вячыстых дубоў. І на балацяных лугах там-сям паўстаюць перад вандроўнікам звонкія, чабаровыя груды. Арэшнікі, дубнякі, шыпшыннікі, вязы, часам нават і клёны збягаюцца на такія груды густа і дружна. Здаецца, зямля спецыяльна ўлічвала, якое шчасце будзе для вандроўніка пасля паходу па хісткіх купінах забалочаных нізін трапіць у духмяную, сухадольную засень.

Трэба сказаць, што вандраваць па берагах Бярозы ў яе вярхоўі вельмі і вельмі нялёгка.

Але трэба адзначыць: хто там павандраваў, той напэўна ж не мог тых мясцін не палюбіць.

Калі гаварыць пра менавіта рыбацкі занятак, то нідзе няма лепшага месца, чым вярхоўе Бярозы, для аматара палявання са спінінгам.

Частыя крутыя павароты-букі, як правіла, глыбокія і спакойныя; зарослыя гарлачыкамі вотматы; доўгія старыцы; цёмныя тарфяністыя віры, прычым, часта запруджаныя пачарнелым дубовым калоддзем і карчэўем,— такая тут рака. Хіба можна прыдумаць што-небудзь лепшае для жыцця самага рознага рыбнага прадстаўніцтва?

Я ведаю рыбакоў, якія заўсёды толькі сюды кіруюцца, каб памерацца хітрасцю з гарбылём-акунём, падцікаваць добрага язя, ляшча, плотку, галаўня.

Я ж праходзіў тут школу палявання са спінінгам. Бо нідзе не бачыў такога шчупаковага засілля, як тут. Нідзе не сустракаў такіх, як тут, зубастых рачных страшыдлаў.



Паляванне са спінінгам, на мой погляд,— гэта занятак смелых, цярплівых, улюбёных і знаходлівых.

Не ўсміхайцеся.

Не кожны адважыцца ранняй вясною ці позняй восенню кінуцца ў невядомасць няблізкага вандравання — з пагрозай трапіць пад сіберную халепу, прыняць сцюдзёную ванну ў тваністай багне, а потым, упэўніўшыся, што ні адна замочаная запалка не дасць жаданага агню, заначаваць на мокрай падсцілцы з леташняга лісця, саграючы тое лісце сваім скалатнелым целам.

Не кожны вытрымае праз цэлы дзень раз-пораз дратаваць раку блешняю, не толькі нічога не павадзіўшы на той блешні, а нават і не пачуўшы ніводнага па ёй удару. А такіх жа дзён у рыбацкай практыцы бывае не менш, чым удалых.

Не-не, той, хто не ўлюбёны ўсёй душою ў бясконца разнастайнае хараство роднай зямлі, каго не пагукала прага зведаць яе таямніцы, ні разочку не зазвінеўшы яму ў сне журлівым звонам берагавой крынічкі ці таемным пошапкам сітнягоў,— той не памяняе цеплыню і ўтульнасць звычнага дабрабыту на куп'істую, на няходжаную бездараж, на недаспаныя ночы, на млосную стому, на выпрабаванні,— навошта яно яму!

Ды і рака — яна, як наймудрая кніга, адкрываецца толькі таму, хто вельмі прагне яе зразумець, хто хоча і ўмее запомніць кожны яе закутак, дзе яна гулка ўскідваецца быстрою, а дзе ціха ўсхліпвае маркотнай плынню, дзе летуценна кружыцца пад берагамі, а дзе разбяжыцца, разгоніцца, наструніцца — ну, пявучая страла, дый годзе... І па характару кожнай яе мясцінкі — і свая падводная таямніца: толькі спрактыкаванае, знаходлівае вока можа ўбачыць, дзе блукае тут лешч залатабокі, а дзе шчупак затаіўся... Таму і здаралася спатыкаць такіх аматараў, што, патаптаўшыся па беразе гадзінку-другую, са злосцю кідаюць пад ногі ўчора купленыя вуды, плююцца:

— Шшорт!.. Дзе яна тут, іхняя рыба... Толькі дзень сапсавалі!..

Як жа — яны ж наслухаліся расказаў пра асаблівыя рыбацкія ўдачы, таму і вуды набылі. Лепей бы па паўлітэрку расціснулі...

Але добра, што і на паўлітэркі трохі ад жонак прыхавалі. Развяжуць такія дзівакі-аматары свае рукзакі (по-

венькія яны, новенькія і будуць з гэтага дня пыліцца дзе-небудзь у каморы), дастануць гарачыя прыпасы. Не-не ды і нагадае хто-небудзь потым:

— А памятаеш, на тым беразе... Нішто сабе накляваліся...

— Ат, ліха з ім,— скажа другі.— У такую даль ехаць... Можна і ў горадзе...

*

— Касілі косы-ы траву высокую-ю-у,
Падрэзалі кры-ылцы перапёлачцы-ы,
А гэта ж, лю-юдцы, не перапёлачка-а.
А гэта ж — дзіцятка-а маё роднае-э...

— Ой, бо-о-ж-жухна...

Ляжыць перапёлачка-а на траве ско-о-шанай,
На зямлю-у горкую-у галоўкай упала-а,
А гэта ж, лю-у-дцы, не перапёлачка-а,
А гэта ж дзіцятка-а маё, лю-у-дцы...
дзіцятка маё... хм-у-у... у-у...

— Ой, бо-о-ж-жухна...

— Сціхні, Дарка... Сціхні... Не вярэдзь душу, чуеш...

— І праўда... Хадзем, Дарка, па ваду. Пашано заварым... Ой, бо-ож-жухна...

Гаманілі за купай лазнякоў. Гаворка пявучая, не толькі плач-скарга жанчыны, кожнае слова — нараспеў...

Я адразу здагадаўся, што там за людзі. Ад берага да самага лесу па трохі прачаўраным лузе цягнулася шырокая паласа свежаскошаных пракосаў. Ужо другі год як гэтыя лугі косяць. Год пяць пасля вайны чамусьці не касілі. Мо таму, што мясціны прымыкаюць да зоны запаведніка?

Нарыхтоўваюць тут сабе сена далёкія ад Бярозы калгасы — вёрст за трыццаць — сорак прыязджаюць брыгады касцоў. Ставяць на беразе буданы і жывуць тут, пакуль не скідаюць у стагі ўсё, што можна сабраць між куп'я, кустоўя і азярын.

За лазнякамі, адкуль пачулася гамонка, стаялі буданы летась. Мусіць, стаяць яны ўжо і сёння.

Бразнулі вёдры, збіраюцца па ваду. Я паспяшаўся насустрач.

— Добры дзень, людцы.

Трое мужчын і пяць жанчын згурціліся каля кастра —

насупраць першага, самага вялікага будана. Двое жанок — адна з іх, мусіць, і ёсць Дарка — стаялі з вёдрамі ў руках. Астатнія сядзелі. На маё прывітанне ўсе, аднак, падняліся. Адказалі разам:

— Здароў будзь, чалавеча.

Не спыталі, хто я і што. Толькі цікаўнасць бачылася ў вачах.

— Цётачкі мілыя,— папрасіў я.— Пачакайце ісці па ваду — зараз закіну тут блешню, можа, убяру шчупака на вячэру.

— Добра, чалавеча, добра...— адказалі жанчыны проста і шчыра.

— Ды што ўжо тут... Закідайце,— і мужчыны адгукнуліся.

Усім гуртам падышлі да берага. Мусіць, хто-ніхто з іх і не бачыў яшчэ такой хітрай вуды, таму выстраіліся ў лінію пад самай стромай.

Сонца якраз заходзіла. Адна яго палавіна ўжо села за макаўкі ялін на даляглядзе. Другі бераг ракі яшчэ свяціўся, а тут, ля нас, легла на ваду цёмная палоска.

Па граніцы гэтай палоскі я і пусціў свой «норыч». Пусціў нездарма — я памятаў з мінулых вандровак, што якраз у такую пару дня, якраз па лініі святла і ценю на гэтым буку маю блешню неаднойчы спатыкалі ладныя шчупакі. Не можа быць, каб што-небудзь тут змянілася!

І праўда. Не прайшоў «норыч» і некалькі метраў, як пачуўся кароткі і рэзкі па ім удар. Удар быў досыць цяжкі, нават катушка падалася назад. Але на гэтым і ўсё. Блешня зноў пайшла лёгка і ходка. «Дзіва,— думаў я.— Так звычайна б'е вялікі шчупак, і рэдка калі ён дае маху. Няўжо з лёту паламаў кручкі?»

Але раптам — стоп! — блешня як бы ўпілася ў калоду, леска наструнілася і зазвінела, і калі б я і не бачыў сам, як сагнулася маё вудзільна, то мне нагадалі б пра гэта крыкі, што пачуліся за спіной.

— Пагляньце! А браточкі! У дугу гнецца, у дугу! Цягніце хутчэй! Цягніце!..

Я чуў гэтыя заклікі і спакойна ўсміхаўся. Быў задаволены, што не пралічыўся, папрасіўшы жанок пачакаць ісці па ваду,— вячэра такі будзе з юшкай. А што заарканены шчупак праз некалькі хвілін апынецца на беразе — у гэтым я быў больш чым упэўнены.

Трымаючы на месцы бунтоўнага драпежніка, пакрысе адпускаючы леску, каб даць яму ўдосталь навалтузіцца,

я ўжо добра сабе ўсведамляў, што там, на глыбіні, адбылося, і на памяць ведаў, як усё пойдзе далей. Бо такое было для мяне не ўпершыню.

Вялікі шчупак падсцерагае сваю здабычу, стаіўшыся ў засадзе, як правіла, заўсёды ў адным і тым жа аблюбаваным месцы. Ён ніколі не гоніцца за здабычай — гэты занятак не па яго «камплекцыі». Але ўсякая маляўка, якая па неасцярожнасці ці зачараваная падманнай цішынёю і спакоем рачнога дна, апынецца непадалёк ад шчупаковай пашчы,— ужо не будзе мець выратавання.

Той, што зараз гарцаваў з блешняю ў пашчы, падмануўся сам: са сваёй зацененай пазіцыі ён хоць і бачыў, як на экране, усё, што адбывалася на асветленай сонцам палосцы вады, ды, мусіць, таго-сяго і не разгледзеў — у прыватнасці, светлай капронавай лескі. Напэўна, капронавая леска ў яркай сонечнай вадзе настолькі злівалася з бліскамі плыні, што нават спрактыкаваныя вочы вопытнага гаспадара глыбіні нічога падазронага не заўважылі. Ды і «норыч» мой, які неаднойчы сваёй несамавітасцю выклікаў абурэнне ў рыбакоў-эстэтаў, мусіць, якраз добра падышоў пад такі выпадак — ніколі не паліраваная і нават пясочкам не нацёраная, замурзаная, з іржавымі і цёмнымі бакамі, блешня ў светлай вадзе, ды яшчэ з зацененага боку, напэўна, на самай справе нагадвала рыбку, што знянацку заплыла сюды.

Прыкмеціўшы жыўца, які рухаецца ў яго бок, вялікі шчупак загадзя раскрывае перад ім сваю вялізную пашчу. Так што разгублены жывец як быццам сам, «добраахвотна», заходзіць туды, адкуль выхаду для яго ўжо не бывае. Калі ж маляўцы ўдаецца ўсё ж адчуць небяспеку і яна хіснецца ўбок або калі ход жыўца крыху не супадае з лініяй падрыхтаванай пасткі, тады шчупак або паціху пасоўваецца, як цень, ёй насустрач, або робіць кароткі, заўсёды дакладны рывок і, схапіўшы жыўца, зноў апускаецца на сваё ранейшае месца.

Таму пры паляванні са спінінгам у такіх выпадках здаецца, што блешня раптам нібыта ўразаецца ў нейкую цяжкую калоду.

Гэткія малюнкі шчупаковых нападаў я назіраў на розных рэках і неаднойчы.

Але часам бывае, што вялікі шчупак, схапіўшы блешню, здраджвае сваёй прывычцы вяртацца на аблюбаваную пазіцыю і нечакана робіць вялікі скачок наперад па ходу блешні. Так здарылася сёння і з тым, што сядзеў зараз

на маім «норычы». Гэткі манеўр заўсёды сведчыць пра тое, што трайнік блешні трапіў у найбалючае месца шчупаковай пашчы — у самы яе куток. І гэта ж адначасова сігнал рыбаку аб тым, што трайнік знаходзіцца ў найбольш надзейным месцы — пры такой падсечцы шчупак хутчэй парве ў нявопытнага рыбака леску, чым сарвецца з яе сам.

Самае галоўнае для рыбака, калі ён зразумее, што на блешню «сеў» вялікі шчупак,— не хвалявацца і не спяшацца. Не заціскаць у руках катушку, убачыўшы, што леска не «по твоему хотению», а «по щучьему велению» пачынае заварочваць не туды, куды табе патрэбна. Трэба патрошкі адпусціць леску — хай сабе шчупак націскае, гэта ненадоўга. І калі ён спыніцца і стане на дне, як укопаны,— не трэба валачы яго сілаю; гэта таксама на нейкі кароткі момант.

Як правіла, праз адну-дзве хвіліны пасля свайго бурнага супраціўлення шчупак заўсёды поўнасцю адкрыта, на ўвесь рост, выходзіць на паверхню вады. Чаму кожны раз так бывае — не ведаю, магчыма, гэта яшчэ адна спроба драпежніка пазбавіцца ад болю?

Безумоўна, тое ж самае адбылося і сёння. Выклікаўшы самыя розныя «охі» і «ахі» маіх балельшчыкаў, шчупак ва ўсёй сваёй маляўнічасці з'явіўся на паверхні вады. Мужчыны і жанкі за маёй спіною нешта там крычалі, а мяне цікавіла толькі адно: дзе знаходзіцца блешня ў яго пашчы, бо я ж ведаў, што будзе праз нейкі момант. Праз некалькі секунд знаходжання шчупака на паверхні вады пачынаецца самае адказнае і самае небяспечнае ва ўсёй аперацыі, калі можна так сказаць, паляўнічага спаборніцтва рыбака са шчупаком.

Мае меркаванні спраўдзіліся: амаль уся блешня сядзела і на гэты раз у ніжнім кутку шчупаковай пашчы.

Значыцца, усё добра. Гэты шчупак, колькі б ён ні вараваў, не даб'ецца свайго, нягледзячы на ўсе далейшыя яго хітрыкі, усё пойдзе як па нотах.

Шчупак пакрасаваўся нейкі міг на вачах у людзей, і вось яно: як раптоўна з'явіўся, так маланкава ён і знік у глыбіні, і леска — дзыў! — звонка запела над вадой.

Выйшаўшы на паверхню вады і ўбачыўшы рыбака, шчупак пасля гэтага ўсёй сваёй разлютаванай сілаю пачынае ціснуць на дно. Націск такі страшэнны, што дастаткова рыбаку хоць на самы кароткі момант заціснуць, затрымаць катушку — і леска абавязкова будзе парваная!

Паколькі ў маёй практыцы такіх спаборніцтваў было нямала, я своечасова зрэагаваў на шчупаковы націск. Так, каб ён пры гэтым стамляўся і каб не было яму магчымасці поўнасцю ўжыць сваю яшчэ не растрачаную сілу, я, як кажуць рыбакі, патроху аддаваў шчупаку леску — бяры, кідайся, вядзі куды хочаш, паказвай свае драпежныя здольнасці.

Па тым, дзе хадзіла па рацэ наструненая леска, нават мае новыя знаёмыя, якія ніколі, магчыма, да гэтага і не бачылі такой карціны, мусіць, зразумелі ўсю напружанасць сітуацыі. Бо крыкі ў натоўпе мужчын і жанок сціхлі, чулася толькі стрывожанае іх дыханне.

Шчупак шалёным галопам (і ўсё прыціскаючыся да дна!) кінуўся спачатку супраць быстры; спыніўся, пайшоў шырокім кругам да супрацьлеглага берага; завярнуў на сярэдзіну, зноў ударыўся супраць плыні; але зноў спыніўся і раптам, як быццам прыняў нейкае канчатковае рашэнне, настойліва, рашуча павёў леску ўніз, уніз, уніз — ледзь паспяваў я ісці па беразе следам, бо далей адпускаць леску ўжо было немагчыма — яе заставалася на катушцы мала...

Як ні дзіўна, вялікія шчупакі чамусьці супраціўляюцца не так доўга, як гэтага можна было б ад іх чакаць. Часамі бывае, што намнога меншы падымае такі вэрхал на месцы, столькі ваюе, аж рэха пачынае хадзіць па берагах, а вялікі, важна, са страхавітай настойлівасцю паспрабаваўшы ўжыць магутную сілу, праз некалькі хвілін як быццам сам у сабе расчароўваецца, спыняецца і сціхае, здаецца, зусім абыякавы да свайго лёсу... Вось і гэты — націскаў, націскаў — уніз, уніз — і стаў... Ну што ж, цяпер можна паспрабаваць падмотваць леску... Цяжка, аднак шчупак кранаецца з месца, з кожным паваротам катушкі ідзе бліжэй да берага. Але ён яшчэ не падымаецца з глыбіні, ён яшчэ ідзе каля самага дна, і гэта сведчыць пра тое, што сілы ў яго яшчэ маюцца, што ён яшчэ можа гайдануць на цэлую тоню, каб толькі вызваліцца ад ненавіснага аркана... Ну, так і ёсць!.. Шчупак прайшоў паслухмяна некалькі метраў, і раптам — зум-зум-зум-зу-ум! — леска зноў напялася, як струна,— шчупак зноў з націскам пайшоў па дне, усё больш набіраючы хуткасць супраць быстры.

Але, як правіла, вось гэты апошні яго націск пасля таго, як ён хаця б некалькі метраў даў сябе правесці па рыбаковаму хаценню, ёсць ужо сапраўды апошняе яго

намаганне. Калі зараз не ўдасца яму сарвацца з блешні і леска вытрымае апошні націск — то гэта ўжо будзе азначаць, што вайна ў глыбіні скончана.

На гэты раз апошняга шчупаковага імпэту хапіла яшчэ на тое, каб прамчацца аж да самага цэнтра шырокага бука. Але затое, спыніўшы бег, ён ужо без аніякіх асаблівых маіх намаганняў паказаўся з глыбіні і пакорліва пайшоў да берага. Я выбраў мясцінку, дзе спуск да вады быў прыдатны для таго, каб потым лацвей падняцца з цяжкім грузам. Падвёў шчупака пад берагавы абрэз. Ён стаяў, прыцёршыся да глеістага карніза, настолькі абыякавы да ўсяго, што рабілася навокал, што можна было нават падзівіцца. Ні ўсхваляваныя крыкі мужчын і жанчын на беразе, ні нават тое, што над ім ужо схілілася постаць рыбака, на яго зусім не дзейнічалі. Я асцярожна паляпаў рукою па яго шырокай спіне. Але нават і гэта не выклікала аніякай рэакцыі — да таго ён стаміўся. І, чэснае слова, як заўсёды ў гэткіх выпадках, стала па-шчыраму сумна перад такім бездапаможным становішчам нядаўна яшчэ магутнага валадара падводных глыбіняў.

Але трэба было канчаць справу. Я дастаў з кішэні хусцінку, накінуў яе на стомленыя вочы шчупака. Каб не сорамна і не горка было яму бачыць, як груба разлучаюць яго з роднай яму стыхіяй...

У тую хвіліну, калі шчупак пакаціўся пад ногі шумлівага натоўпу касцоў, з-за лазнякоў выйшаў Вячаслаў Палескі. Ну вядома, ён і сёння не здрадзіў сваёй прывычцы, у руках у яго акрамя спінінга было яшчэ і некалькі кароткіх закідушак. Вельмі ж любіў ён закідушкі — памахае, памахае спінінгам, а тады дастане з рукзака нязграбныя свае донкі, расставіць іх па рацэ і чакае, як кажуць, «з мора пагоды». Ходзіць адзінокай вартай па беразе, прыпальвае папяросчыну ад папяросчыны. Глянуў бы хто-небудзь недасведчаны, то і не падумаў бы, што гэта рыбак — настолькі летуценны, далёкі ад практычных зямных заняткаў быў у яго тады выгляд... Безумоўна, такія «дзяжурствы» з закідушкамі давалі вынікі толькі выпадкамі, і часцей за ўсё Палескі даганяў сваіх напарнікаў з пустым рукзаком.

Падышоўшы да нашага гурту, Палескі, нічога не кажучы, шырока ўсім, хто тут стаяў, усміхнуўся. Гэтая адкрытая, шчырая ўсмешка заўсёды адразу ж збліжала яго з людзьмі — кожны прымаў яе як найцёплае прывітанне. Таму касцы сустрэлі яго, як даўняга добрага знаёмага.

— Ваапшчэ-та,— сказаў Палескі, паказваючы ў мой бок,— ваапшчэ-та, ён, мусіць, будзе даказваць, што гэтага шчупака злавіў сам...

— Сам, сам! — пачуліся галасы.

— Ваапшчэ-та,— працягваў мой добры, шчыры сябра, і ў гэтым любімым яго «ваапшчэ-та» адчуваў я і яго прабачэнне за тое, што зноў ён недзе затрымаўся, і яго радасць ад таго, што зноў мы будзем разам,— ваапшчэ-та, ён злавіць можа, але каб так...

Што было ў тым «але каб так», ніхто не зразумеў, акрамя мяне,— ён, вядома, намякаў на той шум, што стаяў на беразе, бо заўсёды больш за ўсё не любіў ніякага на рацэ шуму. Але, нягледзячы на такую сваю заўвагу, Палескі тут жа скінуў з плячэй рукзак, паклаў донкі і запусціў пад другі бераг сваю блешню. І тое, што там адбылося, прызнацца, было нават для мяне проста фантастычным — ледзь паспела яго блешня дакрануцца да вады, як адразу на ёй залапатаў, матляючы галавою, віхлясты, прагоністы шчупак.

Ці трэба казаць, што мая ўдача адразу намнога страціла сваёй прывабнасці ў вачах новых знаёмых. Дзіва што! — гэта ж толькі з'явіўся чалавек на беразе, толькі закінуў вуду — і на табе! — праз якуюсь хвіліну ўжо і рыбіна выгінаецца ў руках!

Шчупак быў не надта вялікі, але ж я ведаў, як рэдка трапляюць нават і такія на вуду майго сябра. І было сушчальна глядзець, з якой збянтэжанай усхваляванасцю знімае ён свайго шчупака з трайніка.

Нарэшце трайнік быў вызвалены, і, паклаўшы шчупака побач з маім, Палескі з выглядам філосафа праказаў да касцоў:

— Ваапшчэ-та, гэта нядрэнны бук...



Пакуль жанкі няўмела разбіралі рыбу (адразу было відаць, што гэтая работа ім амаль зусім незнаёмая), мужчыны нацягалі дроў — прыбітых паводкай у лазнякі цурбакоў і сухога галля.

Падвесілі над агнём вялікі саган, засыпалі ў ваду пшана.

Ну што ж, юшкі з пшаном есці не даводзілася. А можа, згатуецца нешта такое, што і самому потым паўтарыць захочацца...

Але за кулінарнай гэтай няхітрасцю хавалася не простая недасведчанасць людзей, якія, жывучы далёка ад ракі, можа, ніколі і не варылі тае юшкі.

Не, за гэтай прастатою і непатрабавальнасцю стаяла вялікае гора вайны, якое і многа год пасля давала сябе адчуваць у спаленых, абрабаваных, скатаваных фашыстамі вёсках надбярозаўскай старонкі.

— Мы ўсе тут — як з розных каласоў зярняты,— стаў гаварыць сухарлявы, нібы з жылістага дубовага камля высечаны, сталых год чалавек, якога ўсе звалі дзядзькам Якубам. Хоць па выгляду наўрад ці ён быў тут намнога старэйшы за некаторых іншых. Так, год сарака чалавек, не больш. Аднак нешта, мусіць, было такое, што хінула да гэтага чалавека ўсіх, хто тут быў,— і старэйшых, і маладзейшых. Усе з павагай яго слухалі.

— Можа, бачылі жыта пасля ліхалецця, калі не дало яму што-небудзь адкрасавацца і наліцца... Бярэш у рукі колас — а зярнят у ім адно-два, ну ад сілы трохі больш. Вось так і мы... Мала нас засталося пасля вайны... І сабраліся мы ў адну жменю хто адкуль,— гаварыў далей дзядзька Якуб.— Вось яны...— Дзядзька Якуб паказаў у бок будана, дзе трое жанок рассцілалі на вільчыку доўгія пасмы свежаскошанай асакі — мусіць, каб лепей засцерагчы сваё жыллё ад дажджу. Ім памагаў высокі, трохі кульгавы мужчына, ён выразаў тонкія лазовыя дубцы і заплятаў асаку, прымацоўваючы яе тымі дубцамі да асновы будана.— Яны з вёскі Гарэлае... А Васіль... Васіль!..— гукнуў дзядзька Якуб малодшаму, гадоў, можа, каля трыццаці чалавеку, які сядзеў побач з ім. І адразу ж нам растлумачыў: — Недачувае ён. Кантузіла на фронце. Дык ён, Васіль, з Іканаў. Напэўна ж, ведаеце вёску Іканы на Зембінскай шашы...

— Якая цяпер там вёска, дзядзька Якуб,— пачулася ад будана.— Адно што назва. Можа, і не ведаюць...

— Як жа, ведаем, чулі пра Іканы...

— Вот я і кажу. Не можа быць, каб не ведалі... Хоць і не адна яна была такая, але ж нешта і верыць не хочацца, каб дзе-небудзь яшчэ так адпакутавалі людзі...

— Ой, бож-жухна!..— з надрыўным споласам выгукнула старэйшая з жанчын, якая з вялікай драўлянай лыжкай стаяла над саганом, прабуючы варыва на смак. А другая, што памагала ёй кухарыць ды ўвесь час, было відаць, думала пра нешта сваё, тужлівае і пакутнае, раптам закалацілася і закрыла твар рукамі.

— Гэта Дарка мая,— сказаў дзядзька Якуб.— Яна, праўда, не з Іканаў. З суседняй вёсачкі. Але няшчасце Іканаў не мінула і яе. Як палілі ў Іканах фашысты людзей жыўцом, згарэў і яе сынок. Да цёткі прыбег, дык яго і зачынілі ў хаце каты. А мужык яе сувязны быў, ды потым у блакаду загінуў... Ну...— Дзядзька Якуб прыкметна захваляваўся.— Так... Была і ў мяне сям'я — жонка і дачка малая. У Ганцавічах жылі... Ды знайшоўся вылюдак, падказаў, што я ў партызанах, дык фашысты іх і прыхапілі... Замучылі... Вось мы пасля вайны і сышліся з Даркай...

Дарка, не хаваючыся, усхліпвала, уцірала слёзы канцом белай хусцінкі, накінутай на плечы.

— Колькі гадоў ужо мінула, а яна ўсё плача... вярэдзіць душу і сабе, і мне... Дарка, ну ці ж гэта ў цябе толькі... Вунь Васіль — ці ж яму лёгка было, вярнуўшыся з фронту, знайсці магільнае папялішча. Ні бацькі, ні маці, ні родных каго-небудзь — нікога не засталося... Сціхні, Дарка, далібог, прашу, сціхні...

Цяжкія былі ўспаміны людзей, спакутаваных ад варожай навалы. У кожнага засталася якая-небудзь болька, не даваў спакою ўспамін аб перажытым горы. Але найбольш хвалявалі згадкі аб трагедыі Іканаў. Гаварылі, і кожны з асаблівай сардэчнай жаласцю глядзеў на Васіля, выказваючы хоць чым-небудзь яму сваю спагаду. Больш за чатырыста чалавек, амаль усе жыхары вёскі Іканы, азалелі ў страшным пекле агню, што прынеслі ў Іканы гітлераўскія карнікі. Так навалач люта катавала народ за яго няскоранасць, за любоў да роднага краю. Шмат выпала выпрабаванняў на долю жыхароў надбярозаўскай старонкі. Але не меў тут вораг ні спакою, ні літасці. Усенародную помсту сустракаў ён усюды. «Не, ніхто не можа адолець людзей, якія прагнуць волі і таму адным сэрцам дыхаюць!» — горача прамовіў дзядзька Якуб. Сам ён быў партызанскім разведчыкам. Успамінае ён зараз сяброў па партызанскіх паходах, і ў кожным слове гучыць столькі душэўнай цеплыні, што аж зайздросна робіцца: вось каб быць адным з тых яго сяброў.

— Мала нас засталося: там адзін, як зернятка, там два, там не намнога больш. Але ж сабраліся разам, і гэта ўжо сіла. Паглядзіш — жыве жыццё, жыве і будзе жыць! Як на тым полі: пасееш жменьку зярнят — а вырастае палоска, а праз год з той палоскі — ужо і ніва шуміць, радуе вока... Але до!..— сказаў дзядзька Якуб.— Пара

і за юшку, вунь ужо Куліна з Даркай посудам бразгаюць, знакі падаюць. Гатовы вы, Дарка? — спытаў ён і сам сабе адказаў: — Ну вядома ж, гатовы, загаварыў я тут усіх! Пара!

Дарка з Кулінай разлілі ў місы юшку, на чысты абрус вылажылі кавалкі рыбы. Хапілі гарачага варыва. «Авоечкі!» — нехта войкнуў, пачуўся вясёлы смех, і ўжо — як і не было тых цяжкіх успамінаў — загаварылі ўсе раскавана, весела, з радасным аптымізмам і спакоем людзей, якія бяруць жыццё такім, якое яно ёсць, якія жывуць таму, што яны людзі, і як людзі,— заўсёды ведаюць, што яны заўсёды павінны жыць...

— А вы, скажу вам, хвацкі рыбак! — звярнуўся дзядзька Якуб да Палескага.— Папраўдзе, як падышлі вы, то спачатку ўсумніўся я, каб вам быў шанец. Ажно вы — раз, і гатова! Ого!

— Ваапшчэ-та бывае...— адказаў мой сябра і, адсёрбнуўшы гарачай юшкі, папярхнуўся. Усе весела засмяяліся. Але не было ў тым смеху ніякай крыўды, і Палескі, смеючыся і сам, паўтарыў: — Ваапшчэ-та бывае...

Хоць і не падобныя на звычайную, ды нейкаю дужа смачнаю здалася на той раз юшка, і добра было ўсім пасядзець-пагаварыць. Але ж стомленым за дзень людзям трэба было і адпачыць. Дзядзька Якуб гасцінна запрапанаваў нам заняць любы з іхніх буданоў. Але мы падзякавалі і адмовіліся. Тады Васіль прынёс да вогнішча ладнае бярэмя падсохлай травы. Мы развіталіся з добрымі новымі сябрамі і пачалі ўладкоўвацца на кароткі начлег.

Хутка над невялікім брыгадным лагерам запанавала цішыня. Мусіць, прыкархнулася трохі і нам, бо надта ж востра ўдарыла раптам у вочы нейкая зіхатлівая радасная паласа. То над Бярозаю ўставала незатуманеная зара новага летняга дня. Мы паціху падняліся і рушылі далей.

...Бываючы ў тых мясцінах, я на працягу доўгіх год з хваляваннем назіраў, як імкліва адраджалася жыццё ў Іканах і ва ўсіх вёсачках навокал. Не, не дабіліся ворагі свайго, не дабіліся. Не азалела жыццё там, дзе, як ім здавалася, яны яго напічэнт спапялілі. Засталася жменька ад іканаўцаў, але з франтоў вайны і з партызанскіх паходаў яны прынеслі такую мужнасць, якая і не снілася ні якім-небудзь падпальшчыкам, ні катам.

Сёння ўсіх, хто праязджае па дарозе Зембін—Бягомль, радуе ў Іканах вясёлы дзіцячы гомап каля новай школы,

краса яго новых вуліц, зладжанае, упэўненае жыццё яго насельнікаў.

Само сабой зразумела, што мяне ўвесь час цікавіла пытанне: а што ж стала з людзьмі, з якімі сустрэўся калісьці на Бярозе?

З радасцю даведаўся: усе жывыя, усе здаровыя, а ў Васіля дык нават і зусім усё наладзілася надзвычай добра: адкасалася ад яго франтавая немач, зараз ён добра чуе, стаў дужым, мажным мужчынам, бацькам траіх дзяцей.

Але ж асабліва хацелася дазнацца пра дзядзьку Якуба і Дарку.

Нядаўна я з імі пабачыўся. Праўда, жывуць яны цяпер далекавата ад мясцін свайго нараджэння — ажно ў Барысаве. Дзядзька Якуб, аказваецца, з маленства захапляўся музычнымі інструментамі. То жалейкі вырабляў, то цымбалы, то скрыпачкі ўсякія, то нават гармонікі на свой лад перайначваў.

У час вайны забылася гэта ўсё. Але як сцішылася толькі сэрца, то зноў пацягнула да ранейшага. Вось і перабраўся дзядзька Якуб у Барысаў, на фабрыку піяніна. Каб рабіць для людзей музыку, песню.

У дзядзькі Якуба і Даркі нарадзіўся і вырас сынок Андрэй. Скончыў дзесяць класаў і цяпер служыць у арміі. Служыць добра, і гэта вельмі радуе Дарку. Ды ўсё ж і да сённяшняга дня не можа яна пазбыцца ад слёз і жальбы па тым сыночку, якога спалілі каты ў агні. «Проста няма з ёю рады, не можа забыць...» — уздыхае дзядзька Якуб.

Ну што ж, такое, мусіць, і не забудзецца...



Высокія, амаль у два чалавечыя росты, чараты — уваб'ешся ў іх, прадзіраешся, прадзіраешся, шукаючы выхаду да берага ракі, і, нарэшце, валішся, задыханы, на пругкую іх сцяну трохі адпачыць.

Але падымаешся,— ды зноў тое ж самае: паліць сонца над галавою, забівае дыханне парная настоенасць чарацяных джунгляў, і раптам — гоп! — ступіў, здаецца, на травяністае ўлонне, а ўваліўся з усяго размаху ў нейкае прадонне. Ды што ж гэта за насланнё такое — калі ж яно скончыцца...

Вылазіш з ямы, а тут: тар-р-р-р-р! — нешта ўдарылазабарабаніла збоку; чуб-бух! — бухнула ўперадзе стрэламі; кі-ві-ві-вій! — валіцца аднекуль з вышыні.

Стоішся, услухоўваешся: што гэта? Але навокал,— як быццам усё пачутае толькі прымроілася,— насцярожаная, духатлівая цішыня...

Так «палохае» вандроўніка Бяроза непадалёк ад свайго ўпадзення ў возера Палік.

Нечапаныя, няходжаныя мясціны — тэрыторыя Бярозаўскага запаведніка.

Але не бойцеся гэтых мясцін. Вылазьце з ямы, якая вас напалохала, прысядзьце і добра прыгледзьцеся. Супакоішся, павядзеш вачамі сюды-туды, і вось табе і нечаканасць: трымцяць у высокім страі чараціны, а за імі — званлівыя, гуллівыя, сярэбраныя бліскоткі плыняць, плыняць, хаваюцца за густою, нізка пахіленай кронаю каржакаватай альхі. І само сабою адчуваецца, з якою сілай імкне зусім блізка перад табою вялікая маса вады. Дык гэта ж рака! Дык гэта ж ты ўжо выбраўся на бераг!

Прызнацца, у гэтых мясцінах рэдка калі патрапіш да ракі без якіх-небудзь прыгод. Але затое колькі слодычы дорыць Бяроза, усёй сваёй красою адкрыўшыся перад вачамі! Захаваная ў дрымучыя нетры лясоў і суцэльнае зялёнае буянне чаратоў, кугі і вербалозаў, яна ніколі не баіцца ні вятроў, ні бураў — таму, як чыстая слязіна радасці, свеціцца, пераліваецца кожная кропелька яе вады. Можа, толькі над Палікам калі-небудзь узарвецца прастора вятрамі, разгойдаюцца віхрастыя хвалі, і сярод той гайданіны хваль можна адразу вызначыць плынь Бярозы — глыбіня ніколі не дае ўзбунтавацьсябе так, каб яе нельга было пазнаць!

Але, безумоўна, рыбака-вандроўніка, які прывык хадзіць па зямлі, менш зацікавіць возера Палік, дзе не абыдзешся без чоўна ці баркаса, а на чоўне — што ты ўбачыш? — бадай, адну толькі плошчу вады ды няроўнае неба над ёй... Не, вандроўніку больш па сэрцы Бяроза з таямнічымі берагамі, якія на кожным кроку могуць раскрыцца, як старонкі самай цікавай, яшчэ не чытанай кнігі.

Вось і сёння — выскачыў з чаратоў, і закалацілася ад захаплення сэрца. Адзін ля аднаго тры крутыя букі, як тры сонечныя падковы, выпраменьваюць у зелянiну берагоў радасць цішыні і казачнай летуценнасці. Ці тут з вудай прытоішся, ці, забыўшыся пра яе, станеш разбіраць іерогліфы птушыных і звярыных слядоў на жоўтым пяску лукавіны, ці, прыжмурыўшы вочы, каб не так біла ў іх праменістае зіхаценне плыні, будзеш углядацца ў прыгажосць Бярозы і ўспамінаць прысвечаныя ёй паэ-

тамі радкі,— пачуццё здабытага шчасця не пакідае сэрца ні на хвіліну.

Аднак жа — вось цікава: што ж тады такое чуббухнула перад табою гулкім стрэлам, калі ты прадзіраўся праз чараты і гопнуўся ў нейкую яму?

Не будзем спяшацца. Пачакаем, пагледзімо, паслухаем.

Ага. Толькі, здаецца, хвіліну пасядзеў, стаіўшыся, між дзвюх алешын, стаўшы сам часцінкаю цішыні, што запанавала зноў, і вось — сюрпрыз. Пад самым абрывам берага, у плыннай засені — чорная блішчастая галава. Вочы пільныя, насцярожаныя, але і добрыя, даверлівыя. Бабёр. Ціха прабіраецца да сваёй хаткі, ад якой, спуджаны нядаўна, сігануў пад вадою аж на ўсю даўжыню бука.

Звычайна днём, пад яркім сонцам, бабры не выбіраюцца з хатак на адкрытую ваду. Свае рачныя прагулянкі яны робяць сінім адвячоркам, калі на ваду лягуць сцішаныя, прахалодныя цені. Тады іх можна ўбачыць і па адным, і парамі — спакойна аддаюцца плыні, п'юць асалоду цішыні і свежага паветра. Ноччу ім будзе многа работы: то паправіць хатку, то нарэзаць лазовых дубцоў для корму, то зрабіць новы патаемны ход, калі старыя па той ці іншай прычыне здаліся ім не надта бяспечнымі. Таму, пакуль не сцямнела, яны адпачываюць, песцяцца на адкрытай вадзе, карыстаючыся спадам спякоты.

Паколькі для свайго жыхарства бабры выбіраюць мясціны глухія, добра замаскіраваныя самой прыродай, іх жыццё рэдка калі перарываецца якой-небудзь трывогай. Як мне здаецца, яны па сваёй дабрыні і ціхамірнасці нават і не чакаюць ніадкуль ніякай для сябе крыўды. Здаралася, выйдзеш нячутна на бераг і бачыш: плывуць павольна ўніз па вадзе не то два чорныя карчы, не то нейкія незразумелыя стварэнні, праплываюць безуважна міма цябе, няма ім да твае постаці ніякай справы. Так і праплывуць, калі ты, не разабраўшыся, не ўздумаеш раптам гопнуць з абрыву да вады, неўспадзеўкі ўскалыхнуўшы ўвесь бераг. У такім выпадку бабры маланкава знікаюць пад вадой. І нярэдка перад тым як даць нырца, бабёр, кульнуўшыся ўніз галавою, гулка і гнеўна б'е па вадзе сваім шырокім цяжкім хвастом. Для папярэджання: мы, бабры, насельнікі мірныя, нікога не чапаем, але і мы не горш за іншых маем да сябе павагу.

Мусіць, таму і сёння, калі ты знячэўку грымнуўся ў яму (а то ж было не што іншае, як замаскіраваны бабровы ход), гулкае «чуб-бух» перад табою было такім па-

пераджальным бабровым гневам: маўляў, калі табе няма, акрамя як тут, іншага праходу, дык праходзь, але глядзі, куды ступаеш, не руйнуй чужыя збудаванні...

Ну, а што ж тое «тар-р-р-р-р», тое «кі-ві-віі»?

Яны — таксама ўстрывожаны адказ ціхага, мірнага закутка на тваё нечаканае сюды ўварванне.

«Тар-р-р-р-р» — як часты, доўгі, задзёрысты перагук барабана — песня-кліч жаўны, чорнага дзятла. Звычайна гэткім спевам жаўна абуджае лясныя ўскраіны вясной, калі так хочацца паведаміць усяму свету аб радасці свайго кахання. Летам жаўна больш маўчыць, каб не выдаць месца, дзе ў гняздзечку падрастаюць яе дзеткі. Але ў хвіліны небяспекі яна часам забывае пра асцярогу і, дзіўна гэта ці не, выказвае сваю трывогу клічам улюбёнасці, спевам закаханага сэрца.

А «кі-ві-віі» — так, мусіць, напярэджвала ўсіх, хто яе разумее, пільная каня. Кружачыся высока ў небе, убачыла, як ты груба гайсаеш па чаратах, і нарэшце не вытрымала, рэзкім поклічам апавясціла наваколле: сцеражыцеся, будзьце напагатове!

Паглядзі: вось і зараз яна кружыць у вышыні. Але палёт яе выказвае бесклапотны, нават трохі ленаваты спакой: ты зліўся з прыродай, ты маўкліва цікуеш за сваім паплаўком, нікога не трывожыш, ну і што ж, сядзі, усе насельнікі гэтага кутка разумеюць — ты ж таксама маеш права мець нейкае месца на зямлі.

І перад гэтай сцішанасцю, лагоднасцю прыроды так хораша, так мройна робіцца на сэрцы. І так хочацца крыкнуць дзівачцы плотцы, што выйшла з глыбокай засені і пачынае торкаць застылага на кручку чарвяка: любая, плыві далей, не кідайся на няхітры спадман. Але яна ўсё цвяліцца, яна ўсё смялей пачынае прабаваць нажыву. Тады падымаеш вуду, адсоўваеш чарвяка ад плоткі. І ціха смяешся сам сабе, калі яна, зіркнуўшы ў твой бок, як быццам незадаволеная, трасяне галавою, перш чым вярнуцца туды, адкуль прыйшла.



Забіраючыся ў самыя патаемныя, глухія куткі на Бярозе, я, прызнацца, доўгі час лічыў сябе першаадкрывальнікам іх непаўторнай красы. Ды і была падстава так думаць: нешта ні разочку не выпадала сустрэць тут жывую

душу — такога, як сам, няўрымслівага рыбака-вандроўніка.

Але вандроўнае шчасце тым і цікавае, што яно поўнае самых розных здарэнняў і нечаканасцей.

Аднойчы, знемагаючы ад стомы, прабіўся я праз чараты і алешнікі, вербалозы і крушыннікі, дубнякі і арэшнікі, густа аплеценыя рознакалёрнымі паясамі дзікаватага хмелю і ўзбуялых кветак, выйшаў да аднаго запаветнага бука. І ледзь не анямеў ад здзіўлення: на беразе з выглядам застылага, як манумент, летуценніка стаяў знаёмы мне чалавек, якога я раней мог уявіць сабе ў якіх хочаце абставінах, ды толькі не тут, сярод першабытнай, не для кожнага дасягальнай прыроды.

Бачыў яго ля створаных ім помнікаў: усхваляванага, з адкрытай сівой галавою, гатовага рынуцца ў бескампрамісную спрэчку за кожную рысачку створанага ім вобраза.

Чуў яго разважанні аб мастацтве, аб паэзіі, успаміны аб сустрэчах з вялікімі песнярамі, кампазітарамі, мастакамі.

Сустракаў яго на мінскіх праспектах, мадэрнага, імпазантнага, з моднай кульбачкаю ў руках, з шалікам, завязаным а ля гранд'артэ.

А каб спаткаць яго тут... Тут, дзе нават напамін аб моднай кульбе і стракатым шаліку гучаў бы, як грубая пацешка з вульгарнага анекдота... Тут, куды не проста прабіцца не тое што чараўніку лёгкай стэкі, а нават не кожнаму прывычнаму да цяжкіх паходаў чалавеку... У такое не паверыў бы ніколі, калі б не ўбачыў сваімі вачамі.

Але гэта было так. Ён быў тут. Стаяў задуманы, адухоўлены, засяроджаны, у позе чалавека, які раптам убачыў нешта такое, што яму боязна страціць, што трэба занатаваць у сэрцы як можна хутчэй і без астатку...

Пакуль ён стаяў у глыбокім задуменні, падставіўшы сівую галаву пад павевы спякотнага ветру, я вырашаў для сябе дзіўнае пытанне аб дзіўным яго з'яўленні ў гэтым, такім далёкім ад сталічнай пампезнасці, кутку. Што яго прымусіла пакінуць, хоць і часова, мяккае сядзенне свайго аўтамабіля, мастацкую майстэрню, трыбуны сходаў, тратуары праспектаў — і па малазведаных сцежках, праз гушчарную цемрадзь і дрыгвяністыя зараснікі поймы прадзірацца на глухі бераг Бярозы? Ці яму надакучыла адшараваная роўнядзь гарадскога асфальту і бясконца-нудныя, прымітыўна-маштабныя разважанні знаёмых пен-

сіянераў пры сустрэчах на так званай «інфаркт-штрасэ»? Ці да чорцікаў абрыдлі, кінулі ў тужлівую самотнасць затоена-мяшчанскія спрэчкі яго калег аб дзеляжы мастацкіх заказаў, аб арыгіналах і копіях, аб геніяльнасці і таленавітасці і да таго падобнае?.. Можа, і так... Але не ў гэтым, думалася мне, галоўнае. Не! А мусіць,— я глыбока быў у тым перакананы! — нават і багата надзелены творчай фантазіяй мастак не можа пражыць свой творчы век без папаўнення мастацкай фантазіі з невычэрпнай крыніцы вобразаў і эмоцый, якой з'яўляецца родная прырода.

Так я ўсхвалявана думаў і не памыліўся. Бо хутка пачуў словы, якія былі такія блізкія майму сэрцу, што ўрэзаліся ў яго назаўсёды.

— Прырода... Родная зямля... Які з рукатворных манументаў з самай дасканалай закончанасцю яго форм, з самым бліскучым увасабленнем яго замыслу, які, братачка, рукатворны манумент можа параўнацца паўнатой сваёй рэальна-мастацкай завершанасці з вечна жывымі тварэннямі, з геніяльнымі па сваёй простай і непрыдуманай разумнасці манументамі прыроды! Вунь, паглядзі на тыя вежы бору, паглядзі на падхмарную яліну, што нібы аддзялілася ад лесу, быццам захацела стаяць адна. А перад лесам — на бурныя завадзі зеляніны, на купы альхі і чаромхі, бясконцыя выбухі зараснікаў. Хіба ж, братачка, мог які-небудзь мастак скампанаваць у сваёй фантазіі што-небудзь лепей? Магчыма, нехта скажа, што ўсё тут выпадковае, што магла ж бура зламаць і гэтую яліну, і паводка з крыгамі зрэзаць гэтыя зараснікі, і знікла б карціна, і няма рацыі рабіць тут нейкія высновы. А я думаю наадварот. Ну што ж. Бываюць буры. Парушаецца ад іх хараство зямлі. Але прырода ніколі не спыняецца ў вечным сваім росце, у вечным абнаўленні і няспынным разумным сваім імкненні да жывой красы... Эх, братачка, скажу табе шчыра: калі б мог я хоць напалову пераняць ад прыроды яе майстэрства кампазіцыі, сюжэта, майстэрства ў выяўленні самай запаветнай сутнасці мастацкага замыслу... Калі б мог... Дзіўна, безумоўна... Але ў гэтай дзіўнасці ёсць для мяне нешта надзвычай важнае. Павер, братачка, ёсць!..

Такой была мая сустрэча на перадпаліковай Бярозе са скульптарам Заірам Ісакавічам Азгурам.

У першы момант, калі нешта вывела яго з задумення і ён павярнуўся ў мой бок, я, безумоўна ж, чакаў убачыць

і ў яго вачах тое самае здзіўленне, якое толькі што перажыў сам. Але, надзіва, я не ўбачыў такога здзіўлення.

— Здароў, братка Кастусь,— сказаў ён шчыра і проста, моцна пацiскаючы руку.— Тое, што я цябе тут пабачыў, братачка, сведчыць, што я нездарма цябе паважаў...

І мне стала сорамна ў душы. Вось яшчэ табе, чалавеку, адна нечаканасць і яшчэ адна моцная навука. Не думай пра людзей прасталінейна! Не вылучай сярод людзей сваю персону! Гэты вялікі мастак адразу ўбачыў у табе тое, што бачыў у самім сабе. Дык, значыць, ён лепей, чым ты, ведае, і чым жыве душа чалавека, і што яно такое — вось гэтая бязмежна чароўная краса роднай зямлі...

Пасля той сустрэчы не адзін раз мы бывалі з Азгурам на берагах Бярозы. Часам, выбраўшы вольны дзянёк, кіраваліся туды разам. Часам спатканні былі нечаканыя. Аднак і нечаканыя ніколі не былі выпадковымі, бо абодвух вабіла туды адно і тое ж. З аднолькава нязменнай прыцягальнай сілай клікалі прыгажосць і паэзія першароднай асновы ўсяго і ўсякага хараства на зямлі.

Блізкае знаёмства з любым чалавекам заўсёды ўносіць у душу што-небудзь новае, адметнае, хай хоць крупінку, але такога, чаго не было ў ёй раней. А знаёмства з Заірам Азгурам — з'ява і зусім асаблівая. Ніколі раней не сустракаўся я з такой цэласнасцю мастацкай натуры, з такой арганічнай гармоніяй вобразнага мыслення і тым імкненнем да ўласнага ўдасканальвання, якое Чэхаў выказаў у словах: «У чалавеку ўсё павінна быць прыгожае». Звычайна. Натуральна. Без позы. Без выхвалення. Проста — прыгожае: такое, як усё жывое на свеце — і шчодрая на хараство прырода, і мудрыя імкненні людзей, і створанае іх рукамі багацце зямлі. Прыгажосць формы. Прыгажосць зместу. Прыгажосць іх суадпаведнасці адно аднаму — натуральная, існая прыгажосць жыцця.

Праз колькі часу,— здаецца, праз дзень пасля адкрыцця ў Мінску помніка Янку Купалу,— я сустрэў Азгура ў скверы, ля доміка вялікага песняра. Была яшчэ ранняя раніца, ды па ўсім бачылася — Азгур паспеў ужо тут нахадзіцца. Твар яго выглядаў стомленым, заклапочаным. Ну, заклапочанасць яго мне была зразумела: учора зляцела пакрывала з манумента Купалу, тварэння Анікейчыка, а праз некалькі месяцаў тое ж адбудзецца на адной з найлюдных мясцін Мінска — на плошчы Якуба Коласа. Там устане постаць другога магутнага народнага сына, і дасць жыццё яго манументу няўрымслівы азгураўскі талент.

Праз некалькі месяцаў гэта адбудзецца, а хвалюецца Азгур ужо сягоння — творца заўсёды павінен хвалявацца,— на тое ён і творца.

Калі мы падышлі да помніка Купалу, я выказаў меркаванне: а ці нельга было б трошкі вышэй падняць купалаўскі манумент — ліпы ж, якія і сёння ўжо шумяць высока па-над ім, стануць яшчэ вышэйшыя,— як тады сярод іх будзе выглядаць помнік, ці не страціць ён у сваёй велічы?

— Не, братачка, не. Купала тым і вялікі, што ён заўсёды быў у гушчыні народу. Ён не прагнуў высокіх п'едэсталаў. Ён хацеў быць роўным з тымі, дзеля каго жыла яго песня... Ён і павінен застацца такім — кожны чалавек і праз многа вякоў павінен мець магчымасць падысці да яго і, як роўны з роўным, з ім пагаварыць...

То было ў чэрвені. А ў лістападзе на плошчу Якуба Коласа прыйшло мноства мінчан. Адкрыўся створаны Азгурам помнік — і ўсе ўбачылі Якуба Коласа ў жывой позе задумнага лерніка, летапісца, мысліцеля, песняра. Побач застылі ў бронзе незабыўныя коласаўскія героі. На ўсёй вялізнай плошчы вакол іх — маладыя дубы і бярозкі, хоць і скінулі лісце пад асенняй сцюжай, ды як быццам гаварылі сэрцам мінчан: мінецца зіма, і мы зазелянеем, а потым вырасцем, станем ціхай дубровай, і яшчэ цяплейшыя будуць вашы сустрэчы з любімым песняром... І мне ўявіўся той будучы малюнак, і я зразумеў, што бачылася Азгуру, калі ён тварыў і гэты помнік, і навакольную плошчу: ён бачыў Коласа на беразе Нёмана ці на свіслацкім грудку ля Балачанкі — як прыйшоў да іх пясняр і спыніўся падумаць,— падумаць над шляхамі жыцця на ўлонні такой дарагой яму прыроды, у акружэнні дарагіх яму людзей.

Скончылася ўрачыстасць, і мы паціху пайшлі з Азгурам вакол люднай коласаўскай плошчы.

Маўчалі.

Азгур быў занадта стомлены для таго, каб цяпер пра нешта з ім пагаварыць.

— А ведаеш, братачка...— раптам пачаў ён узрушана.— Ведаеш...

Я здагадаўся: пасля стольких дзён напружанага хвалявання яму хацелася перанесціся размоваю да мілых тых вобразаў, што заўсёды прыносяць у сэрца шчаслівы спакой.

— Ведаю,— адказаў я, смеючыся.— Сом?

Азгур таксама рассмяяўся.

— Сом? А што ты думаеш? А можа, будзе і сом...

У гэтага вялікага чалавека ёсць маленькая слабасць: ён нярэдка любіць прыпісаць сабе надзвычайныя рыбацкія ўдачы.

Вось так было і гэтым летам. Сустракаемся адзін раз на вуліцы. Здалёк крычыць:

— А ведаеш, братачка? Уяві сабе, я злавіў сома. На блешню. У тых, братачка, мясцінах.

— І шанцуе ж вам, Заір Ісакавіч. І вялікі?

— Тры кілаграмы.

Праз некалькі дзён чую:

— Кастусь, братачка, пачакай.

Рукаемся.

— А ведаеш, братачка. Уяві сабе, я ж злавіў сома. Восем кілаграмаў.

Яшчэ праз колькі часу сустракаемся на адных запросінах.

— А ведаеш, братачка,— паведамляе Азгур яшчэ з парога.— Уяві сабе. Я ж злавіў сома.

— Вялікі?

— Дванаццаць кілаграмаў!

— Дык што ж гэта робіцца, Заір Ісакавіч! Ловіце самоў, адзін за аднаго большых, а мяне забываеце. Гэта ж у вас ужо трэці сом!

— Трэці? Які трэці? — разгублена пытае Азгур.— Я ж злавіў, братачка, толькі аднаго сома...

І раптам ён усё прыгадвае, і мы весела смяёмся, інтрыгуючы і здзіўляючы астатніх гасцей. Але Азгуру ўсё ж крыху ніякавата перада мною, і ён нібыта перапрашае:

— А давай жа, братачка, як-небудзь збяромся. Даўнавата там не былі. Давай, а?

Ну безумоўна, безумоўна! Даўнавата не былі!

*

Як і ў кожнага вандроўніка-шукальніка, у сэрцы рыбака-аматара заўсёды жыве неўтаймоўная прага адкрыццяў, пошукаў новых, цікавых мясцін.

Вось таму і мяне з часам пацягнула з вярхоўяў Бярозы ўсё далей па яе цячэнні — да новых і новых даляглядаў і сцяжынак, да новых незнаёмых закуткаў на прывабных бярозаўскіх берагах.

Пасля Паліка характар Бярозы значна мяняецца. Хоць яна па-ранейшаму на працягу многіх кіламетраў усё яшчэ

плыніць свае воды па забалочаных або мокрых нізінах, аднак тут ужо няма тых амаль першабытных нетраў, якія вартуюць Бярозу вышэй Паліка. Левы бераг па яе цячэнні пакрысе робіцца вышэйшы, часам з'яўляюцца нават узгорыстыя стромы, дзе адна за адною выбягаюць да Бярозы то меншыя, то большыя вёскі. А потым і сам горад Барысаў.

Правы, ніжэйшы бераг таксама абжыты: на ім, мусіць, па волі чалавека мала засталося прытоеных глухіх куткоў, лугі наўсцяж шырокія, адкрытыя, прасторныя. Толькі з вясны бывае ціха на гэтых лугах — да часу, калі распачынаецца пара касьбы. Потым жа, пакуль не ўстануць на іх, закрываючы сабой далягляды, густыя, частыя рады высокіх стагоў, лугі жывуць увесь час рупатлівым, гаманкім жыццём.

На гэтым працягу Бярозы то да яе, то ўсцяж яе берагоў бягуць дзесяткі ўсялякіх дарог і сярод іх шаша Барысаў — Бягомль, якая перасякае раку. Людныя і машынныя сёння гэтыя дарогі. Тэхніка калгасная, тэхніка транзітная, лімузіны, матацыклы прыватныя. Зааўтамабілела наша старонка. Лёгка і проста сёння рыбаку-вандроўніку трапіць у любы патрэбны раён. Душа радуецца! Але...

Але, прабачай мне, Бяроза, нешта не захацелася доўга хадзіць па берагах, якія не-не дый скалыхнуцца ад імклівага і грукатнага руху машын. А з гэтым — і яшчэ адно насланнё: траскотныя маторкі. Здзіўляюся я часам: што за маторачныя людзі жывуць у Барысаве і ў блізкіх да яго вёсках. Напэўна, калі не ў кожнага, дык у любога другога — маторка. І снуюць, снуюць усё туды-сюды і ляцяць бастрымгалоў як апантаныя, куды і чаго — невядома. Баразнуюць, баранують раку, не даюць спакою нічому ў ёй жывому.

Не. Прайшоў я раз-другі ў напрамку ад Паліка да Барысава і, як кажуць, зматаў свае вуды... Ішоў і думаў накшталт якога-небудзь акына: вось і адкажы сабе, дзе яно, шчасце,— і машын многа на дарогах — шчасце, і цішыня на затоеных рачных поймах — шчасце, і быць адзін на адзін з чарацінай і сіняй хваляй — шчасце, і ўсюды, заўсёды бачыць людзей — шчасце...

З такім не то роздумам, не то спевам спыніўся я ля вёскі Весялова. Тут якраз пералятае цераз Бярозу паноў збудаваны пасля вайны высокі мост. І на ім у той дзень насцілалі для пешаходаў новыя, са смалістых шалёвак тратуары. Мост гэты падчас вайны ўзрывалі, палілі партызаны,

каб не пусціць варожыя падмацаванні для наступу на раёны партызанскіх брыгад. Узрывалі, палілі — балела душа... А затое сёння — як весела перагукваюцца сякеры ў руках майстроў, былых партызан. Ідзіце, людзі, па шырокім мосце, ступайце смела, дыхайце паветрам волі!

Парукаліся, пакурылі, пагаварылі. І падумалася з дакорам самому сабе: не, недарэмна прайшоў я і па гэтых берагах! Бо хіба ж не шчасце — пабачыцца, пагутарыць з героямі, пацісну ць іх рукі моцныя,— рукі, якім і агонь справядлівы, і зброя мсціўцаў былі падуладныя і якія, хоць і агрубелі ў баях вайны, не развучыліся штодня ствараць і малую, і вялікую красу на сваёй зямлі.

Ніжэй Весялова, калі ісці па левым беразе Бярозы, прымасцілася над яе поймаю вёска Студзёнка. Спачатку, калі ішоў тут, залюбаваўся шырокім прасцягам лугоў — якія яны маляўнічыя, прывольныя, як велічна выглядае за імі цёмнае крыло лесу на даляглядзе! Але нешта ўсё кружылася ў памяці: дзе ж раней яшчэ чуў гэтую назву — Студзёнка? Дзе?

Вось бывае навала! — прычапілася пытанне, як быццам з ім вырашаецца лёс усяго жыцця: дзе, дзе, дзе?

Спыніўся ля ціхага вотмятца, закінуў вуду, а ў галаве — Студзёнка, Студзёнка, Студзёнка.

Нешта кранула паплавок, павяло ўсцяж берага, пакінула. Зноў кранула. Зноў кінула. Быццам і там, у глыбіні, ці якая-небудзь ляскуха, ці падуста таксама вырашаюць для сябе неадчэпнае нейкае пытанне.

Так глядзеў, глядзеў я на паплавок і — раптам — гоп! — успомніў, зматаў вуду, скіраваўся на луг да пастуха.

— Дзядзечка, гэта не тая Студзёнка, дзе Напалеона білі?

— Тая, тая! — узрадаваўся дзядзька.— Вунь, глядзі, дзе лес прыбягае да вады. Там француз і гінуў, там яго і пабілі. Там і шапка Напалеонава недзе ляжыць у Бярозе. Згубіў, нябога, калі ўцякаў.

— А знайшлі шапку?

— Не знайшлі. Цяжкая, кажуць, ад крыві ды ад поту была шапка, як скінулася ў вір, то, мусіць, яе адразу пяском і замыла...

Ну, шапкі Напалеонавай я шукаць не стаў. А знайшоў помнік рускай славе на ўскраі вёскі. Пакланіўся нізка яго простай задумнасці, яго простай велічы. Падзівіўся: як усё на гэтай зямлі сугучнае адно аднаму — і рака, і лес, і луг,

і гэты помвік, і людзі, што жывуць, якія яны ўсе простыя, нетаропкія, някідкія, спакойныя. А сілы, а нязрушнасці ў гэтай простай спакойнасці — на любое выпрабаванне, на любы век хопіць!

Наогул, сярод усіх нашых беларускіх рэк — Бяроза рака асаблівая. Ні на адной нашай рацэ не адбывалася столькі жорсткіх баёў супраць чужынцаў-заваёўнікаў, як на Бярозе. Шведы, французы, пілсудчыкі, фашысты. Якой толькі навалачы не лезла на наш край, імкнучыся і яго заланіць, і праз яго абшары прарвацца да панавання над усёй Расіяй. І заўсёды на шляху захопнікаў, як суровая ваяўніца, уставала рака Бяроза. Гінула ўсё жывое на яе берагах, але і ворагі знаходзілі тут сабе магілу. А Бяроза зноў ажывала, адраджалася пад родным сонцам і зноў сваёй прыгажосцю чаравала ўлюбёныя ў яе сэрцы. Як вось і сёння — цячэ спакойная, лагодная, прывольная. І, нібы знакі неадольнай яе адвечнасці, адбіваюцца ў яе водах помнікі народнага гераізму і мужнасці амаль на кожным кроку — і ў любой вёсцы і горадзе, і на любым дарожным скрыжаванні. Чырвоныя слупкі над брацкімі магіламі, абеліскі, пачарнелыя ў дыме вайны, абвеяныя вятрамі чрэліквіі баявых паходаў на пастаментах... Спыніся, вандроўнік, на кожнай такой мясціне, бо гэта ж, таксама як і высокія дубы над ціхай заваддзю, як і зыркае вока плоткі ля чараціны, як і твая бяссонная ноч пад зорамі Млечнага Шляху,— усё гэта — Бяроза, Бяроза...



Няхай, аднак, не падумаюць рыбакі-аматары, што на ўчастку Палік — Барысаў зусім ужо і няма прыдатных для нашага рыбацкага занятку мясцінак. Яны ёсць. Вядома ж, нават і ў шумным, задымленым горадзе ў самай забруджанай рачулцы часам гарадскія рыбакі-бедакі наўздзіў усім вывуджваюць сапраўдную рыбіну... А тут жа ўсё-такі Бяроза! Хоць і шумна тут, хоць і тлумна, а вялікая рака застаецца ракою вялікай, пакуль цэлыя яе глыбіні — жыве ў іх і рыба.

Так што, патрапіўшы ў гэтыя мясціны, не губляйцеся, пачуўшы, як гудуць над Бярозай масты і дарогі, як скалануюцца вакол вас берагі і беражочкі,— ідзіце, шукайце з чарнільнай глыбінёю тарфяністы бук, атуленую чаратамі старыцу — і чакайце сваёй удачы...

Што ж да мяне — дык я падышоў аднойчы ў Барысаве да прыстані і, пабачыўшы, як вясёлы дзяцюк адвязвае ад прычала маленькі буксірок, нечакана для самога сябе спытаў, куды буксірок паедзе.

— А вам навошта? — запытаўся ў мяне юнак.— Так сабе ці па справе?

Я паказаў свой чахол з вудамі.

— Рыбу ловіце? А-а... Гэй, Іван,— паклікаў юнак матарыста.— Возьмем дзядзьку?

Іван падумаў.

— Толькі ўлічыце,— сказаў Іван нарэшце,— ідзём ажно за Беразіно. Нідзе раней спыняцца не будзем.

Улічыце! Яшчэ папярэджвае! Не ведаў ён, колькі ўжо часу я марыў патрапіць за тое Беразіно. А каб вось так, па рацэ,— дык гэта ж і зусім нібы сон цудоўны!

Буксірок раўнуў, як ракета, узбурліў, уздымаючы каламуць, неглыбокую ваду каля берага і выскачыў на сярэдзіну ракі.

Паехалі.

— Сядайце от сюды,— сказаў юнак, з якім я так шчасліва ўздумаў загаварыць на прыстані, і паказаў на выслізганую нагамі прыступку перад рулявой кабінай.— Тут цішэй. А то бачыце, што ў нас робіцца...

Палуба на буксірку выглядала сапраўды не надта каб самавіта — уся была зацярушаная пяском, жвірам, дробнымі асколкамі крамянёў.

— Возім гравій на будоўлі. От цяпер прывезлі сюды... А чаму не вымелі палубу? Дык жа зноў будзе тое ж самае. Зноў пясок, зноў гравій. Падчэпім новую барку — і на Бабруйск. А чаму ідзём паражнём? Дык жа ў Барысаве барку разгрузіць не паспелі...— Так сам у сябе пытаўся юнак і сам сабе, смеючыся вачамі, адказваў.— Ох-ха-ха! Ну і марудныя ж бываюць людзі! Пакуль разварушацца... Смяхоцце!

Я сеў на прыступку, дзе паказаў юнак, і стаў углядацца ў наваколле.

Юнак пайшоў, ды вярнуўся.

— Калі захочаце вылезці раней, то скажыце. Гукніце — Юзік-Гузік! Я падбягу. Не зважайце, што Іван там гаварыў. Ён спыніцца, ён добры.

Юзік-Гузік зноў пайшоў, але нешта зноў успомніў.

— А чаму завуся Юзік-Гузік? Дык жа прозвішча ў мяне такое: Гузік. А імя — Юзік. От і клічуць: Юзік-Гузік.

Каго толькі па імені, а мяне дык з прозвішчам. А чым дрэнна? Анічым... Яшчэ і лепей — адразу ўсё... Дык гукайце, калі што...

І цяпер ужо ён па-сапраўднаму рушыў у канец буксірка, заняўся там нейкай работай.

Пайшоў мілы Юзік-Гузік, а буксірок бег усё хутчэй і хутчэй; ад'ехалі, можа, якога паўдзесятка кіламетраў ад Барысава, скончыліся малюнкі гарадской «абжытасці» ў выглядзе бязладна нагрувашчанага бярвення па берагах ракі, нейкіх загародак з калючага дроту, струхлелых чаўноў, і пайшлі мясціны невыказна чароўнай прыроднай чысціні.

Прыгожая Бяроза ў сваім верхнім цячэнні, вышэй Паліка, але тут,— тут нават дых захапіла, калі адкрыліся шырокія, разложыстыя поймы з высокімі вартавымі барамі над імі, з сінім небам, з вясёлым сонцам, з хмызняковымі абрывістымі берагамі, з прасторам, з прыволлем, з водарам лугоў.

Калі ў сваім вярхоўі Бяроза выглядае ракою больш імшарна-балотнай, крыху, праўда, выбягаючы на ўзгорак ад Паліка да Барысава, дык тут яна ўжо — рака сапраўднага ўзвышша. Ну якраз як мой Сож — і правы бераг часта такі ж стромы, з сыпкімі кручамі і прамяністымі сасновымі хмызнякамі на іх; і мелавыя перакаты пачалі трапляцца; і левы бераг — з пясчанымі пляжнымі косамі, чабаровымі грывамі, з гонкай лазою, з ажыннікам да самай вады.

Часам на правым беразе, то над ракою, то воддалі ад яе, узнікалі асобныя хаты (пасты бакеншчыкаў) ці вялікія вёскі. І дарога (было відно, як ідуць машыны) нярэдка таксама набліжалася амаль да самай Бярозы. Але што цікава: Бяроза не выглядала тут зашумленай і затлумленай — наадварот, узнікала ўражанне, што яе прыгажосць яшчэ больш пахарашэла, нават палагоднела, здаецца, больш стала ў яе волі: куды ні глянеш — прасцяг, і прасцяг, і прасцяг. Ды і чым далей, тым усё паўнаводнейшая была Бяроза — захапляла шырыня яе плёсаў, бяздонная сінь глыбіні. Можна было б падзівіцца, як хутка рака набірае сілу. Але ў гэтым, між іншым, не было нічога дзіўнага: колькі таго часу, як мы адчалілі ад Барысава, а ўжо аж тры досыць поўныя рэчкі ўліліся на нашых вачах у Бярозу— Сха, Пліса, Бобр. А маленькія раўчукі? А крынічкі? Крынічак тут было поўна, як і на маім Сажы. Нават з буксірка ўсе да аднае яны заўважаліся — дзе толькі засвеціцца нібыта ўспацелы гліняста-мелавы беражок, дык так і ве-

дай: там, не сціхаючы, пульсуюць на паверхні сцюдзёныя струменістыя жылкі.

Захапленню маіму не было канца, і ўжо не адзін раз хацелася паклікаць Юзіка-Гузіка, каб высадзіцца на бераг. Ды ўсё стрымліваўся: не, трэба пачакаць, а можа ж, далей будзе яшчэ прыгажэй. Неўтаймоўная душа вандроўніка — як стала прывыкае яна да хараства! — усё ёй мала, усё ёй мала, столькі красы навокал, а яна прагне нечага новага, нечага большага.

Нарэшце з правага боку паказалася і яшчэ адна рэчка, што, вырваўшыся з густых хмызнякоў, кацілася ў рэчышча Бярозы. Спачатку яна ўбачылася то меншымі, то большымі сонечнымі зайчыкамі, якія выбліснулі між трыснягамі. А потым — перад самым носам буксірка — раптам засвяцілася, як шырокае чароўнае люстэрка, утвараючы разам з Бярозай глыбінную завадзь нястрымнага сонечнага святла. І было ў ёй такое ўсё яснае і светлае, такое ўсё дрыготка-таямнічае, і столькі было тут прывабнага для сэрца рыбака, што я не мог нарэшце стрымацца. «Юзік!» — гукнуў.

Юзік як быццам стаяў побач, назіраючы за мной.

— Юзік-Гузік! — адказаў ён.— А чаму я вас адразу пачуў? Дык жа я ведаў, што вы мяне тут паклічаце. А чаму якраз тут? Дык жа я сам люблю такое.— Што ён меў на ўвазе пад гэтым «такое» — Юзік-Гузік не растлумачыў, гаварыў далей:— А толькі раю я вам праехаць яшчэ трошкі. От пакажу вам бераг, дык гэта бераг. Душа запяе! А чаму не раю тут спыніцца? Дык жа гэта Уша. А ці ж вы не чулі ніколі пра гэтае месца?

Пра Ушу я чуў, а пра гэтае месца — не. Я запытальна зірнуў на Юзіка.

— Баюць людзі... А чаму баюць? Дык жа гэтага я не ведаю. А чаму не ведаю? Дык жа адкуль мне ўсё ведаць... Баюць людзі... А вы чыталі Купалаву «Бандароўну»? — Гэта, між іншым, было першае Юзікава пытанне не да самога сябе, а да мяне. Але, не чакаючы, пакуль я што-небудзь скажу, ён ізноў адказаў сабе сам:— Чыталі! Ну вядома ж, чыталі. Не можа быць, каб не чыталі!..— І Юзік усхвалявана, перамагаючы шум матора і плёскат хваляў, прадэкламаваў:

Тут як стрэліў пан Патоцкі
У лева яе вуха,—
Стала наша Бандароўна
І нема, і глуха.

Палілася кроў чырвона,
Сэрца абамлела,
Павалілась па зямельку,
Як бярозка бела.

Як панеслі Бандароўну
На вечна хаванне,—
Заігралі ўсе музыкі
Сумнае іграннe.

Як спушчалі Бандароўну
На той свет вялікі,
То яшчэ сумней зайгралі
Па-над ёй музыкі.

Юзік-Гузік аж наструніўся, аж пабялеў — відаць было, ён вельмі шчыра перажываў колішнюю трагедыю Бандароўны. Я не заўважаў яму, што ён дэкламуе асобныя радкі не так, як яны напісаны ў Купалы,— што з таго, што не так, калі жаль па дзяўчыне так хвалюе юнакова сэрца. Маўчаў я і далей, пасля таго як Юзік скончыў чытаць верш. Чакаў, каб ён абясціўся сам, бо адчуваў, што ён жа не сказаў яшчэ ўсяго, што ведае.

І праўда, пасля кароткай паўзы Юзік-Гузік, зноў задаючы сам сабе пытанні, загаварыў:

— Дык вось, баюць людзі... А хто скажа, што яно не так?.. Ніхто не скажа. Ды і тое — калі ж баюць людзі, дык чаму ж не верыць? Баюць людзі, што вось над Ушою гэтай і была магілка Бандароўны. Была магілка, а дзе яна? А няма цяпер магілкі. А чаму няма? Дык жа ведаеце — вайна была якая. Прыйшлі, кажуць, сюды фашысты, а з імі быў і ўнук ці нават праўнук пана таго Патоцкага. І што яму, кату, захацелася, га? Захацелася, як і родзічу яго струхлеламу, узяць сілком красу дзявочую. От падлюга, от падлюга! Га? Хіба ж не так? Ды толькі не тыя часы, не! Не далася дзяўчына. Кінулася ў лес партызанскі. А там жа хлопцы хвацкія былі, ого! А як жа іначай? Наляцелі хлопцы на ворагаў, і каюк таму ўнуку Патоцкаму...

Ну, а што далей? — запытаўся ў сябе Юзік.— А далей — ці паверыце, што надумалі прыблуды? Раскапалі магілку Бандароўны і закапалі ў ёй сваіх вылюдкаў, забітых з Патоцкім разам. Во што прыдумалі! Ох і гаравалі людзі, плакалі па Бандароўне. Як па жывой плакалі. А як жа іначай?.. А як жа іначай?.. Не магло быць іначай! І запалалі аднойчы ўночы крыжы бярозавыя белыя, што фашысты на зямлі той спакутаванай паставілі. І зраўнялі рукі людскія зямельку тую гаротную, ачысцілі ад духу паганага, заса-

дзілі лесам маладзенькім... Бачылі — там зараз крыло сасновае ўзвышаецца? То гэта ж над зямелькаю тою... Добрае там месца, ды толькі нешта сэрца сціскаецца... Жудкавата неяк... Я не застаўся б там нанач...

На гэтай журботнай ноце Юзік скончыў сваё апавяданне. Сціх. Сядзеў моўчкі, сумны. Я таксама не мог загаварыць, уражаны Юзікавым паданнем. Які, падумалася, дзівосны лёс у геніяльных твораў песняроў! Дзе той Канеў, дзе тое Берастэчка, дзе была тая Бандароўна?... А людзі, зачараваныя песняй Купалы, узялі яе кожны ў сваё сэрца, і кожнае новае пакаленне дае ёй новую бытнасць, сваё новае душэўнае асвятленне. Вось так і Юзік, і людзі, ад каго ён чуў сумны сказ пра Бандароўну.

Ніхто не ведае, дзе пачаўся гэты сказ, ці было ўсё так ці інакш, але галоўнае — жыве і ніколі не згасне полымя і песні Купалавай, і веры чалавека ў сваю непадкупную, неадольную волю...

Параходзік, як паслухмяны цягавіты конік, мерна тупацеў і тупацеў між маляўнічымі рачнымі берагамі. Адбягалі ад яго паварот за паваротам, а мне ўсё бачылася прамяністая завадзь пры сустрэчы Ушы з Бярозай, сасновая сіняя грыва і высокае неба над імі... Між іншым, якая слаўная звычка адвеку жыве ў нашым краі! — самае прыгожае месца аддаваць самаму прыгожаму ўспаміну. Згадалася так званая Асілкава крыніца на маім Сажы... Даўно-даўно было — жыў калісьці смелы асілак на той нашай зямлі. Нікога з бедных ды гаротных не даваў скрыўдзіць перад панамі. Як бацька родны ўсім паднявольным быў. І зненавідзелі яго паны, сабралі сваю сілу, усіх цівуноў, ды прыганятых, ды падпанкаў лютых, падцікавалі аднойчы асілка, калі ён, зморагы за дзень, карчуючы ляда, заснуў на Сажовым беразе. Напалі на соннага, абкружылі, навалі́ліся страшнай навалай на аднаго-адзінокага. А была ў таго асілка таямніца: як было яму цяжка, тады тры разы гукаў ён сваю маці. І, дзе б ні быў далёка, яна яго чула і насылала яму сваё блаславенне, і заўсёды з тым блаславеннем прыходзіла да асілка перамога. Вось і тут — крыкнуў асілак раз: «Маці мая, мамачка!» Ды не прыйшло ад маці адказу. Крыкнуў другі — і зноў не пачула яго маці. І трэці раз крыкнуў — і трэці не пачула. А то ж ворагі, панскія паслугачы, перш чым напасці на асілка, аглушылі, кінулі ў склеп глыбокі яго маці.

Мужна біўся асілак з панскім насланнём. Хоць і навалі́ліся знянацку, але доўга не паддаваўся асілак. Ды ўсё ж

адолелі яго ворагі. Знявечанага, пасечанага шаблямі ды секачамі, кінулі ў навальнічны роў. А тады і маці са склепа выпусцілі — ідзі палюбуйся на свайго асілка.

Прыбегла маці, убачыла, што зрабілі каты з яе любым сынам, ад гора і роспачы ўдарылася галавою аб зямлю, абліла сынава цела чыстымі, гарачымі слязамі. І стала дзіва: там, дзе ляжаў забіты асілак,— узняўся дуб малады, там, дзе ліліся матчыны слёзы,— забіла крынічка з-пад дуба, а сама маці — зязюляй стала.

Пацякла вада з крыніцы па рове да Сажа, і ажыў роў безжыццёвы: зазелянелі яго схілы, а паабапал паўсталі бярозкі белыя, светлыя — такія светлыя, што, няйначай, як кажуць людзі, то думы маці аб шчасці сыннім і мары асілка аб волі чалавечай.

І назвалі людзі тую крыніцу Асілкавай крынічкай. І пратарылі да яе і ля яе ў свет дарогу. І не было чалавека, хто б не папіў вады з тае крыніцы. І кожны раз — хто ні схіліцца над крыніцай, чуе: кукуе над тым дубам, над тымі бярозамі светлымі галасістая, звонкая зязюля. Кожнаму добраму чалавеку кукуе зязюля сто год жыцця, не меней; сто год жыцця, не меней — кожнаму шчыраму чалавеку...

У маленстве і я піў ваду з тае крыніцы... Калі быў пастушком, калі памагаў бацьку і маці ў полі — як бы далёка ні былі ад тае крыніцы, усё роўна пасылалі туды з біклажкай па ваду... Жывая тая Асілкава крыніца і сёння, толькі рэдка, на жаль, даводзіцца там бываць, можа, таму і сіл усё менее... Сёння выліваецца крыніца з-пад каранёў высачэзнага магутнага дуба, такога ж векавечнага, як і вybітая, урэзаная ў сухадол дарога, над якой ён стаіць. Ніколі не маўчаць чыстыя, слёзныя крынічныя струмені. Пра нешта ўсё гавораць, бегучы па зялёнай мураве ці па жвіры да Сажа. Пра што гавораць тыя крынічныя струмені? Ніколі ніхто не мог сказаць пра гэта пэўна. А толькі ўсе даўно добра ведаюць, як лёгка, як радасна робіцца на сэрцы, калі схілішся да тае крыніцы. Ці стома ў чалавека, ці скруха, ці нават след гора застаўся, а вып'е чалавек яе гаючай вады, пачуе голас зязюлі несціханай — і засвеціцца душа чыстымі промнямі радасці, як свецяцца белыя, светлыя бярозы паўз крынічны яр.

— Ку-ку! Ку-ку! — абудзіла мой успамін сапраўдная, не з падання, а з надбярозаўскага дубовага гаёчка, з гучным голасам зязюля.

— Ку-ку, ку-ку! — быццам у звон біла, і звон той рэхам пералятаў цераз Бярозу.

— Чуеце? Вось дзіва! Зязюля! Яшчэ кукуе! І жыта ўжо, здаецца, адкрасавала, а яна яшчэ не папярхнулася каласком! — узбуджана загаварыў Юзік-Гузік.— Эх, зязюля, зязюля. І чаму так люблю, як яна кувае! А? Ды толькі хіба ж я адзін? Не, дзе там я адзін! Па-мойму, як закувае зязюля — дык гэта ж бы голас мары нечай...

— Вы, далібог, паэт! — сказаў я Юзіку-Гузіку.— Вам, няйначай, трэба быць паэтам, Юзік!

— Паэтам? Як Купала? Ого, ці ж такую трэба мець навуку! Не. Я мараком хачу стаць. У мараходку пайду. Вось палётаю трохі па Бярозе — і ў мараходку. А? Што скажаце? Хіба ж гэта горш? Але гляньце, гляньце на той вунь бераг! — усклікнуў ён.— Любата якая, а?! Вось дзе раю вам спыніцца! Эх і бераг жа, бераг! Аж дух займае!

Юзік-Гузік падскочыў з прыступак, дзе быў прысеў каля мяне, і, здавалася, каб былі ў яго крылы, так і кінуўся б наперад, куды паказваў рукою. Я таксама падняўся. Зірнуў, і праўда: нездарма так заходзіцца Юзікава сэрца! Высокі, з сінімі шпілямі бор, а ўпрытык да яго — рослы дубовы гай узвышаецца справа, а ўнізе пад імі — праменіцца, свеціцца, аж забівае вочы пругкае срэбра Бярозы. Злева ад ракі — луг, ды такі бліскотны, што і зразумець спачатку немагчыма — што ж гэта? А то ж азярынкі паміж грудкамі: грудок — азярынка, грудок — азярынка, і так незлічона — як вочы зіхотныя; адбіваецца ў іх сонца, адбіваецца неба, адбіваюцца белыя аблачынкі — куды ім падзець столькі яснасці, столькі весялосці?

— Дзякуй табе, дзякуй, дружа Юзік,— сказаў я добраму свайму зычліўцу.— Папрасі, братка, Івана, каб ён спыніў на хвіліну машыну. Тут застануся...

— Заставайцеся, заставайцеся!..— Мусіць, дужа любіў Юзік гэтую мясціну, бо ўзрушанасць яго не праходзіла.— Хіба ж убачыце дзе-небудзь прыгажэйшае, а? Іван, Іван, прытыкайся, прытыкайся! — Юзік замахаў рукою да Івана, і той зараз жа павярнуў руль, быццам і не папярэджваў, што спыніцца толькі пасля Беразіно.

Параходзік паслухмяна прыцёрся да абрывістага берага. Юзік-Гузік спіхнуў з борта ў зялёны дзірван з незабудкамі канец пачарнелай дошкі — можна сыходзіць. Я з удзячнасцю паціснуў рукі сваім выпадковым, але такім шчырым, такім добрым сябрам.

— Бывайце. Шчасліва вам! — праводзіў мяне Юзік-Гузік.— А дарога да Беразіно ведаеце дзе? Пойдзеце напрасткі цераз бераг — і дарога. На любой машыне дакоціце ку-

ды трэба,— гаварыў Юзік, пакуль я сыходзіў.— І нас не забывайце! Не забудзеце, а, дзядзька?

— Не забуду! Не забуду! — крыкнуў я ўслед працавітаму параходзіку.— Хіба ж можна забыць, а? Хіба ж можна забыць? Не! Не! Такое не забываецца, а? Не забываецца, не забываецца!



Пакуль я ўскінуў на плечы свой рукзак ды ішоў, выглядаючы, дзе б лепей прымасціцца тут з вудамі, параходзік паспеў схавацца за густымі купамі зеляніны бліжэйшага павароту. Вада супакоілася, і рака ў яркіх, але прыціхлых промнях сонца, якое пайшло ўжо на захад, чыталася, як добра знаёмая, не раз прачытаная кніга. Спрактыкаванаму воку адразу бачылася, якімі хвалюючымі нечаканасцямі можа кожную хвіліну парадаваць рыбака гэтая бярозаўская мясціна. Пругкая, павольная плынь рачнога стрыжня ад падрэзанага супрацьлеглага берага скіроўвалася пад самы жвір пясчанай баравой стромы, дзе я знаходзіўся. Адсюль імкліва заварочвала пад чорны цяністы бераг дубовага гаю, падмывала, гайдаючыся, аголеныя карані, а тады выпроствалася, імкнула пасярэдзіне, разліваючы справа і злева ад сябе глыбакаводныя шырокія плёсы. Та-а-к, тут, дзе ні спынішся, чакай усякага — і лешч можа падысці такі, што ахнеш, і язь, і галавень, і нават судак асцярожны. Толькі не губляй дарэмна часу, падкінь пару жменяў распаранай пшаніцы ці гароху, не палянуйся — пакапайся пад тым вунь пясчаным, навіслым над вадою дзёрнам, здабудзь танклявых верацёнак хаця б з паўдзесятка і чакай запаветнай хвіліны на мяжы дня і ночы — на самым-самым захадзе сонца...

Аднак сёння вуды мае засталіся, як былі, у чахле.

Душа поўнілася пачуццём шчасця ад спаткання з цікавымі людзьмі, ад пачутага і пабачанага, і, магчыма, таму зусім не вабіла распачынаць рыбацкую гульню хай сабе з нават самай хітраю рыбай.

Не шукаючы сцяжынкі, проста па сыпучым, з дробнымі крамянямі пяску я ўзадраўся па край стромкай надрэчнай кручы. І апынуўся пад шатамі высознага меднастволага бору, у які, як чароўная малахітавая аздоба, укліняўся такі ж рослы і такі ж прасторны дубовы гай. Ціхі адвячорак пасля цёплага сонечнага дня напаўняў лес водарам

хвойнай смалы, пахам суніц, чабору, разамлелага за дзень лісця, зачаўраных і аджыўшых пасля спякоты кветак і траў. Пачыналася якраз і тая паверка птушыных галасоў, якой так зачароўвае лес у сцішаныя перадвячэрнія хвіліны.

Як быццам зляцеўшыся на нейкі найадказны экзамен альбо свята песні, лясныя спевакі імкнуліся прадэманстраваць самыя найлепшыя свае здольнасці. У кожным спеве, што распачынаўся то ў адным, то ў другім кутку лесу, столькі гучала запалу, натхнення, непадробнай замілаванасці і самазабыцця і разам з тым чулася такая сціпласць таварыскасці — каб не заглушаць сваім голасам суседа,— што нават зайздрасць брала...

Асабліва вылучаліся сярод усіх спевакоў дразды, а між іх — дрозд пеўчы і дрозд-белабровік. Мяне наогул заўсёды незвычайна хвалююць іх песні, а сёння дык яны так усцешылі, аж слёзы на вочы набягалі... Пачынаў пераклічку, як заўсёды, пеўчы дрозд. Ён быццам пытаўся: «Дзе вы, дзе вы, ці вы тут, браты мае, ці вы тут? Адгукніцеся, адгукніцеся!» Спяе поўную трэль і прыслухаецца, спяе і прыслухаецца... І вось — адказ: з глыбіні лесу чуецца звонкі голас чорнага дразда. Голас урачысты, узнёслы. «Я тут, я тут, хіба ж мог я пакінуць наш кут дзівосны, без вас застацца?» — здаецца, так адказваў ён брату. Але разам з тым у яго спеве гучала і нейкая журботнасць, нейкае нібы чагосьці шкадаванне, якое я аніяк не мог перадаць чалавечымі словамі. Журботнасць, сум, нават свае ўласныя, у чалавека наогул цяжка выказваюцца. А гэта ж — зразумець сум птушкі. Ды яшчэ ў такім лесе дзівосным, дзе ўсё настройвае на самае высокае пачуццё. Як тут зразумець, хоць сум тоіі і чуецца зусім выразна, ажно шчыміць ад яго душа... Але тое, што невымоўнае чалавеку, мусіць, добра ясна было дразду-белабровіку. Бо калі ўслед за чорным драздом ён пачаў сваю песню, я з першых жа яе пасвістаў пачуў самую шчырую братнюю спагаду. Прыкладна так: «Я разумею, я разумею, брат мой, табе не можа быць не сумна. Так, так. Але ж мы тут, з табой, заўсёды з табой, і паглядзі, як хораша навокал, паглядзі!..» Голас дразда-белабровіка паступова ўзвышаўся, мусіць, ён перадаваў брату сваю асалоду ад шчасця жыць у такім лесе, а потым і наогул белабровік зайшоўся спевам найвышэйшага радаснага экстазу. Яго падтрымаў пеўчы дрозд, які распачаў новую трэль, і чорны дрозд уважліва іх слухаў... І ўсё ж, калі ён зноў падаў голас, то нельга было заўважыць якіх-

небудзь змен у яго настроі — толькі, можа, да суму дадалося трохі летуценнасці, магчыма, ён задумаўся над тым, што сказалі яму браты...

У песенную размову драздоў, спачатку як бы нясмела, ды чым далей, тым усё больш настойліва, уключаліся іншыя лясныя насельнікі. Выразна чуліся галасы заранкі, пеначкі, валасянкі, лясного канька. Яны і ўсёй душою ўслухоўваліся ў размову сваіх больш гучных суседзяў — драздоў, шчыра выказвалі ім то сваю падтрымку, то сваю нязгоду, і адначасова як быццам памяркоўна раіліся паміж сабой. І так лёгка і зразумела даходзіла іх шчырасць да маёй душы. «Вій-вій» — ускліквала пеначка, і гэта перакладалася мне як «вой-вой» — як спалоханае яе здзіўленне; «тэйп-тэйп» — гаварыла яна далей, і мне чулася «такта» — як яе задаволенае сяброўскае ўхваленне. Валасянка выказвала свае пачуцці больш стрымана, задумана, здавалася, яна глядзіць на ўсё, што адбываецца, нібыта збоку. Але і ў яе «пінь-пінь-пінь» чулася ўпэўненая з нечым згода, а ў заканчэнні спеву, калі яна залівалася нястрыманай, радаснай трэллю — поўная ўцеха тым, што яе пачулі і прыслухаліся да яе пачуццяў. Што ж да лясного канька — дык таго наогул нельга было не зразумець: калі ён, пачынаючы свой спеў, высока ўзлятаў з дрэва і праспяваў яго, павісаючы ў паветры,— то тут без тлумачэнняў было ясна, што ён вельмі горача нечым узрушаны; і калі пасля таго канёк са спакойным заканчэннем трэлі апускаўся на суседняе дрэва — то было таксама ясна: ён усім сэрцам з усімі пагадзіўся і яму стала добра і весела.

Але калі б нават і пакрыўдзіліся на мяне лясныя птахі, я сказаў бы, што сярод усіх іхніх галасоў мяне найбольш уражваў самы ценькі, самы, можа, нягучны голас адробнай заранкі. Ды, мусіць жа, і самі лясныя спевакі адчувалі найвышэйшую да яе павагу. Бо калі яна пачынала сваю засяроджаную, задушэўную песню, яны ўсе хоць, можа, і не зусім змаўкалі, але ўважліва яе слухалі. Заранка ж таксама адчувала да сябе пільную ўвагу і з асалодай выводзіла доўгую, ціхую, заспакоеную трэль. У яе малінавачыстым, трапяткім голасе гучала адна толькі любасць — любасць з летуценнасцю, з замілаваннем, з падзякай за шчасце жыцця; інакшага не чулася ў безупынна пяшчотным спяванні заранкі — ну і як было ёю не заслухацца, як было не адказваць ёй сэрцам...

Мусіць, няма на свеце лепшай асалоды, чым тая, якую дорыць душы чалавека, вось так, як мне сёння, песенны

перадвячэрні лес. Захоплены галасамі несціханай птушынай сімфоніі, я зусім забыўся, што знаходжуся на рацэ, што ў мяне ў руках вуды, што я з'явіўся сюды не як збіральнік птушыных мелодый, а як просты рыбак. Прыхінуўся спіною да шырознага ствала сасны і слухаў, слухаў і не мог зварухнуцца, баючыся збіць з рытму хоць аднаго крылатага спевака.

З майго забыцця вывела мяне трывожнае, быццам водгалассе нейкага далёкага ўспаміну, вуханне балотнага бугая. «Ву-ух, ву-ух» — уварвалася ў зладжаную сімфонію лесу. «Ву-ух, ву-ух...» Бугай можа крычаць нават і зусім блізка, а здаецца, што вуханне даходзіць аднекуль здалёку, і робіцца так неспакойна, трывожна — з маленства такое ў мяне пачуццё ад крыку гэтай дзіўнай птушкі. Каго і пра што яна заўсёды папярэджвае, палохае? Можа, спяшае нагадаць, што дзень канчаецца, што насоўваецца ноч,— і хто гэтага яшчэ не заўважыў, пара яму апамятацца?

Вернуты такім чынам у сваю рэальнасць, я са здзіўленнем убачыў, што дзень і сапраўды скончыўся. Сонца, мусіць, яшчэ не зусім пакінула гэтую зямлю, бо ў вяршынях соснаў там-сям яшчэ ўскідваліся аднекуль залацістачырвоныя водбліскі яго промняў. Але на Бярозе і на лузе за ёю панавала ўжо суцэльная вячэрняя смуга. Над незлічонымі лугавымі азярынкамі, якія днём, бы зіхотныя пацеркі, пераліваліся ўсімі колерамі вясёлкі, зараз курыліся папяловыя дымы туманкоў. Як быццам нейкае вялікае войска абрала сабе луг сцішаным на ноч прыстанкам і зараз паціху гатуе па ўсім прывальным лагеры сваю паходную вячэру.

Туманкі былі так блізка адзін да аднаго, што асобныя з іх неўпрыкмет зліліся, захапілі кусты чаромхі, ракіты, лазнякі. І паступова сталі нагадваць дываны-самалёты, на якіх прыляцелі падзівіцца на нашу зямлю вандроўнікі з іншых арбіт. Адзін такі дыван-самалёт па нізінцы прыціснуўся ўпрытык да самай вады Бярозы.

Паспрабаваў вострым краем прабіцца далей, на імклівую плынь, але раптам вокамгненна адхіліўся, згарнуўся, падаўся назад. Паплыў паўз самы бераг, паўз чараты. Як быццам забаяўся перабірацца па невядомай рачной велічы.

Бяроза, між іншым, і сапраўды выглядала ў гэтыя хвіліны яшчэ больш велічна, чым днём. Плынь яе паспакайнела, пругкая быстрá, на самым стрыжні пасярэдзіне, як быццам некуды знікла, уся шырыня ракі выглядала адною су-

цэльнаю глыбіннаю лавай. Кацілася ўпэўнена, прывольна, адчуваючы сваю нястомную сілу. Над яе паверхняй часам узнікалі цёмныя рухомыя стаўбункі — камары таўклі мак; і над гэтымі стаўбункамі то там, то сям раптоўна разыходзіліся шырокія кругі. То, як кажуць рыбакі, «плавілася» рыба. Па тым, як узнікалі на вадзе кругі, беспамылкова можна было сказаць, каму яны належаць. Во паказаў сябе язь. Вунь гайдануў ваду галавень. А гэта ўсяго толькі плотка абвясцілася. А затое там вунь не абы-хто — сам лешч выйшаў, як быццам пацалаваў некага на рачной гладзі, цмокнуў гучна губамі. З цікавасцю назіраў я за гульнёю рыб і дзівіўся сам з сябе, што са мною стала: «Хай ужо заўтра, заўтра раненька адвяду душу»,— суцяшаў сябе штохвіліны.

Пачалі патроху насоўвацца суцемкі і на светлы бор. Пацягнула хвалямі вячэрняй прахалоды. Канцэрт лясных спевакоў разладзіўся — спачатку сціхлі дразды, за імі іншыя птахі. Толькі заранка не змаўкала, нястомна цвердзіла, што песенная пераклічка не можа быць скончана. «Не веру, не веру,— усё з той жа пяшчотай спявала яна,— не веру, не веру, што песня можа прыпыніцца. Песня на зямлі ніколі не мае канца!»

І праўда, заранка не засталася адзінокай. Ледзь сціхлі певуны лясныя, як падалі свае галасы спевакі ад ракі.

Спачатку здалося, што ў прыбярэжных за ракою кустах лазнякоў і чаромхі гулка абясціўся салавей. Трэлі ліліся звонкія, адборныя, густыя. На такія здольны толькі сапраўдны сталы майстар, які не адну вясну радаваў сваім голасам закаханых. Але патроху сталі ўлоўлівацца ў гэтых трэлях нейкія несуладнасці, хібы, стала адчувацца, што то не салаўіны спеў, а нейкая падробка пад яго. Ну, так і ёсць. Вось у той нібыта салаўіны спеў уварвалася каленца са спеву дразда-белабровіка, а вось пачулася ў ім трэль івалгі, а вось і дрыготкае спяванне заранкі прагучала. Усё ясна. Гэта так паказвае свае штукарствы дзівосная спявачка нашых лугоў балотная чарацянка. Ох і любіць жа яна падманўць слых спевам любой птушкі, ох і майстар жа яна на дзівосныя перайманні.

У маленстве, памятаю, мы на самыя розныя лады перакладалі мудрагелістыя спевы чарацянкі. Адзін з тых перакладаў мне ўспомніўся зараз, і, смеючыся сам сабе, я паўтарыў услед за чарацянкай:

— Цыган, цыган, цыган, ці ты шапку прадаў, прадаў?

Калі не прадаў, то на гняздо мне прынясі... Прынясі, цыган... Прынясі, цыган... Прынясі, прынясі, прынясі...

«Нясі... нясі... усім... усім...» — так, здаецца, заканчваўся спеў чарацянкі. «Усім-усім-усім» — адгукалася ў трыснягах і прыбярэжных нізінах.

Раптам на запытанне чарацянкі пачуўся гучны, адрывісты, як бы неабвержны адказ:

— Прадаў! Прадаў!

І, памаўчаўшы трохі, зноў:

— Прадаў! Прадаў!

То ўключыўся ў вячэрнюю птушыную размову дзяркач.

А за дзеркачом засквірчаў ляляк, і балотны бугай зноў аднекуль завухаў, і качкі з азярынак абясціліся — усё наваколле спяшалася падтрымаць веру заранкі, што песня не мае канца. І яшчэ — падкрэсліць, што кожная хвіля ў жыцці зямлі нашай па-свойму непаўторна дзівосная і прывабная.

Нельга было не адклікацца душою на чароўныя праявы ў бясконцай адухоўленасці прыроды. І падумалася: мусіць, вось у такія хвіліны і стварыў сваю першую, па-дзіцячы непасрэдную малітву чалавек. Адчуваў у душы невымоўны голас чагосьці нязведана высокага і наіўна названага ім незразумелым словам: бог. Але я ўпэўнены, што, вымаўляючы імя — бог, людзі заўсёды мелі на ўвазе чалавека, самага дарагога на зямлі чалавека — маці. Чалавека, які даў жыццё і ўсім, і ўсяму на зямлі.

І я вось зараз — слухаў перадначную размову галасістых птахаў, удыхаў смольную настоенасць бору разам з прахалодным туманком, глядзеў у адбітак дрыготкага ў вячэрняй Бярозе неба і таксама пачаў тварыць сваю малітву.

— Матуля, матуля! — само сабою вырвалася з сэрца.— Пачуй мяне здалёку, і паклон табе, і вечная табе слава! Паклон табе за тое, што дала мне непаўторнае жыццё. Слава табе і вечная падзяка за ўсё, за ўсё, што ўбачыў у свеце падараванымі табой вачамі, і за ўсё, што яшчэ прыму ў душу сваю, пакуль жыву. Паклон і за гэты краж сасновы шурпаты, на якім вось зараз ляжыць мая галава. І за шыгалле бору, што стала маёй пасцеллю. І за шаты сосен шапатлівых і сіняе неба, якімі я ўкрыўся яшчэ на адну ноч. Паклон табе і за светлую зорку, што загарэлася вунь над Бярозай і зазірае мне ў самае сэрца, тваімі вачамі зазірае, тваімі вачамі падбадзёрвае, як вястун добрага вандроўнага шчасця на зямлі.



Як я потым высветліў, бераг, на які мяне высадзілі Юзік-Гузік і сябрук яго Іван, знаходзіцца зусім побач з досыць вялікай вёскай Жукавец. Калі назаўтра, здаволіўшы сэрца ляснымі птушынымі мелодыямі і пошукамі рыбацкай удачы, я прайшоў трохі ўніз па беразе, то з ускраіны дубовага гаю адразу ўбачыліся хаты гэтай ціхай надбярозаўскай вёскі.

Адсюль, ад вёскі Жукавец, да мястэчка Свіслач (там калісьці, спусціўшыся па рацэ Свіслачы, я ўпершыню сустрэўся як вандроўнік з Бярозай) ладны кавалак адлегласці. Паміж Жукаўцом і мястэчкам Свіслач — калі сказаць мовай геаграфічных даведнікаў — населеныя пункты Блемачы, Жорнаўка, Беразіно, Святліца, Чырвоны Бераг, Гута, Якшыцы, Прыцерпа. Гэта — найбольш вядомыя, якія аніяк па шляху не абмінеш. Але ёсць і яшчэ вёскі і вёсачкі, што або адной-дзвюма хатамі выбягаюць з лясной засекі аж пад самую Бярозу, або раптам, калі лес расступіцца, замаячаць пад сонцам на даляглядзе, нібы ветразі нечаканых караблёў.

Вось гэты ўчастак Бярозы і прываражыў маю душу на ўсе апошнія гады.

Нельга сказаць, што вандраванні мае пасля таго прыпыніліся. Не. Вандроўнік не можа і дня пражыць без пошукаў новых сцежак, мясцін, уражанняў, прыгод. Абсягі рыбацкіх жаданняў маіх не скараціліся. Бо колькі ж іх у нашай старонцы — і ручаінак, і рэчак, і рэк, і азёр. Колькі ў кожнай мясціне сваёй красы. І цягне душу хоць на хвілінаčку да ўсёй красы далучыцца. Адно толькі трэба сказаць — дзе б ні апынуўся, пачынаеш параўноўваць убачанае з тым, што навек запомнілася і палюбілася,— з тым, напрыклад, што прыйшло ў душу на Сажы або што спаткаў на Бярозе...

Бяроза на ўчастку Жукавец — Свіслач, хоць нямала над ёй і дарог, і вёсак, і румы шумныя на берагах сустракаюцца, а ў Беразіно пералятае цераз яе заўсёды грукатлівая шаша з Мінска на Магілёў,— усё ж на гэтым участку яшчэ можа парадаваць сваёй незруйнаванай прыроднай прыгажосцю. Чым далей па цячэнні, тым усё большую набірае яна сілу. Прычым краявід, які так усцешыў маё сэрца ў птушынай дуброве ля Жукаўца,— характэрны для ўсяго ніжняга яе цячэння. Прасторныя, светлыя бары на правым беразе Бярозы чаргуюцца з дубовымі і бярозавымі

гаямі; левы бераг — лугавы, з мноствам азярынак і кучаравых птушыных зараснікаў — прымыкае на даляглядзе да сініх лясных масіваў, якія часам па высокіх грывах высылаюць на бераг сваіх разведчыкаў — разложыстыя дубы і ракіты. Дзе-нідзе дубы стаяць на беразе купкамі, па адным-два, а часам ад лесу да берага выстройваюцца роўненькай шарэнгай, як быццам іх нехта спецыяльна расставіў тут па строгім ранжыры.

Сама рака на гэтым участку — паўнаплынная і глыбокая. Рэдка сустрэнеш параўнальна мелкаводны перакат. Але ж рыбакам добра вядома, што цэлае лета, ажно да асенніх замаразкаў, усякая рыба любіць гуляць па такіх перакатах. Звычайна яны то з аднаго, то з другога боку зарастаюць самай разнастайнай воднай раслiннасцю — там дрыготка шалясціць пад націскам плыні чарот, там доўгія пасмы прыдоннай зеляніны раз-пораз выскачаць на хвілю на паверхню, хвалюючы фантазію рыбака, а там лазнякі збягаюць па пясчанай касе аж у самую быстру, і між імі спаборнічаюць у росце пахкі аер і куга...

На такіх вось бярозаўскіх перакатах — найлепшая ўцеха для аматараў самага спартыўнага, на мой погляд, спосабу перахітрыць асцярожную рыбу — так званай лоўлі ў праводку. Гэта — калі, не адпачываючы ні хвіліны, рыбак закідае нажыўку як мага далей ад берага, пускае яе ▪ плынню, пільнуе кожны ківок паплаўня і гатовы ў любую хвіліну зрэагаваць на хуткі манеўр абачлівага язя ці хітруна галаўня.

Спосаб гэты, на першы погляд, не надта ўжо і дасціпны — многія сённяшнія рыбакі могуць назваць яго першабытна-прымітыўным. Няхай сабе. Мне лоўля ў праводку падабаецца перш за ўсё тым, што яна вымушае заўсёды быць у руху, у вандроўцы. Заўсёды шукаеш новых мясцін, заўсёды ў паходзе. Для мяне такі занятак — сапраўдная асалода. І таму, зразумела, з усіх людзей, якія прыязджаюць ці прыходзяць на раку, залічыўшы сябе ў неспакойнае рыбацкае племя, мне найбольш імпануюць тыя, якімі кіруе, як і мной, такое ж вандроўнае захапленне. Бо што граху таіць — з песні слова не выкінеш — ёсць сярод аматараў-рыбакоў (і, на жаль, іх нямала) людзі, якія сваімі паводзінамі могуць выклікаць толькі здзіўленне і шкадаванне. Панакупляюць цэлыя пукі вудаў, панаробяць донак, рагулек, хітрых закідушак, з самымі рознымі, наймудрымі прыстасаваннямі, нават з электроннай апаратурай. Зоймуць цэлую гоню на беразе, сядзяць, нудзяцца, кідаюць у

раку ўсякія прысмакі і прынады — як найболей, як найболей павезці б ім адсюль рыбы. Што ў гэтым спартыўнага, што цікавага?..

Для мяне сапраўдны рыбак-аматар, рыбак-вандроўнік — гэта чалавек усяго з адною толькі вудай. У такога хапае часу і пагаварыць з табой, ды і падзяліцца ёсць чым — бо чым больш чалавек прайшоў, пабачыў, тым больш у яго назапасілася розных уражанняў і навыкаў і тым больш цягне яго на гутарку з іншым чалавекам.

Не магу адмовіць сабе ў жаданні сказаць колькі слоў пра аднаго з такіх прыемных для майго сэрца аматараў роднай прыроды — пра такога ж, як і я, вымяральніка рачных вёрстаў, шукальніка рыбацкай уцехі не ў колькасці злоўленай рабы, а ў шчырым яднанні з хараством роднай зямлі, красой яе азёр, рачулак, рэк, лугоў, бароў, з самымі найтаемнымі з'явамі непаўторна-нязменнай і бясконца непазнавальнай жывой прыроды.

Было аднойчы — пераседзеўшы пад парасонам ракіты нечаканы кароткі дождж на світанку, бег я па беразе да сваёй улюбёнай лукавіны каля вёскі Прыцерпы. Спяшаўся вельмі, бо якраз наставаў час кароткага ранішняга выхаду ямных ляшчоў на знаёмае мне мелкаводдзе. У гэты ранні час яны, заўсёды дакладна, хвіліна ў хвіліну, ідуць, бы на ўрачыстую прагулку, каля берагавых зараснікаў. Ідуць густа, ажно, здаецца, рачная трава варушыцца пад ударамі вострых плаўнікоў. Але час іхняга ходу такі кароткі! Рэдка калі, бывае, паспееш запыніць сваёй прынадай увагу двух ці трох залацістых волатаў — часцей за ўсё не здабыць, а заманіць толькі, каб, хоць і застаўшыся з пустымі рукамі, было што ўспамінаць: усё ж бег сюды недарэмна, усё ж майстэрства не падвяло, усё ж цісканула дык цісканула...

Як заўсёды ў такіх выпадках, калі вельмі спяшаешся, то стараешся не заўважаць навокал нікога і нічога. Ці сядзіць на беразе рыбак, ці стаіць — няхай сабе, табе не да яго, бо хвіліны ж ляцяць, а ты яшчэ не дасяг патрэбнага месца, і часу не павернеш, хоць і гадзіннік адгані...

Але адна рыбацкая постаць усё ж запыніла на сабе маю ўвагу. Не вонкавым сваім выглядам, не,— нічога такога адметнага ў ёй не было. Але паводзіны рыбака, яго рухі, яго засяроджанасць, у якіх праглядвала сапраўднае натхненне, яго нават узнёсласць, калі можна так выказацца пра звычайны празаічны занятак... То было мастацтва, далібог, мастацтва...

Чалавек як бы стаяў за дырыжорскім пультам — ці з

месца, ні ўправа, ні ўлева,— толькі тулава накіроўвалася згодна з узмахамі яго рук, а рукі — яны, здаецца, тварылі нейкую сімфонію: то плаўна хіталіся ў бакі, то ўзляталі над галавою, то кідаліся ўперад, быццам да нечага кагось заклікалі ці перадавалі камусьці нейкі загад...

Спачатку я падумаў, што чалавек, можа, з кім так размаўляе — няйначай, нехта стаіць на другім беразе, хутчэй за ўсё — жанчына. І чалавек, каб лепш перадаць сэнс сваіх слоў, якіх на адлегласці можна і не пачуць, падмацоўвае сказанае энергічнымі жэстамі. А чаму падумалася, што размаўляе чалавек з жанчынай? Ды зноў жа таму, што жэстыкуляцыя была наўздзіў эмацыянальная, трохі нават артыстычная. Так можна размаўляць толькі з жанчынай — паміж мужчынамі гаворка складваецца больш стрымана і проста...

Аднак, прыгледзеўшыся, я ўбачыў, што чалавек не проста жэстыкулюе. У руках у яго была вуда, з ёй вырабляў ён такія красамоўныя маніпуляцыі, і гэта мяне дужа зацікавіла. На ход ляшчоў я, мусіць, усё роўна ўжо спазніўся, таму вырашыў паназіраць за рыбаком.

Што ж то ў яго за вуда, адкуль столькі экспрэсіі, столькі самазабыцця?

Спыніўшыся каля адзінокай алешыны, я апусціў на дол свае прычындалы і паціху прытуліўся ля іх сам. Але дарэмна спадзяваўся пабыць тут незаўважаным. Хоць рыбак стаяў да мяне спіною, ды хутка адчуў, што за ім хтосьці наглядае. Такая ўжо інтуіцыя ва ўсіх без выключэння рыбакоў. Як быццам нейкае спецыяльнае жыве ў іх пачуццё — абавязкова рыбак заўважыць, што ён на беразе не адзін.

Сімфонія жэстаў спынілася. Чалавек паклаў вуду на мурожысты дзёран і павярнуўся да мяне.

Заставацца мне ў нязграбнай паставе пад алешынай было недарэчна. Я рашуча накіраваўся да рыбака.

А ён між тым таксама не застаўся на месцы. Наўздзіў мне раптам весела замахаў рукою і пайшоў насустрач.

— Добры дзень, добры вам дзень! — пачуў я яго дужы, хоць трохі глухаваты голас.— Якая сустрэча! Я ж вас ведаю, даўно ведаю!

Чалавек назваў маё імя, і праз хвілю мы ўжо моцна паціскалі адзін аднаму рукі. Хоць я, углядаючыся ў яго твар, аніяк не мог успомніць, дзе і калі мы з ім бачыліся.

Непаразуменне хутка рассеялася. Чалавека гэтага і сапраўды я ніколі нідзе раней не сустракаў. Але мяне ён такі

ведаў. Ведаў таму, што неаднойчы бываў у маім Гайшыне, рыбаліў на Сажы і нярэдка мяне там бачыў — то ў вёсцы, то з вудай на беразе.

— Вельмі хацеў з вамі пазнаёміцца, як вы прыязджалі ў сваю вёску,— гаварыў новы знаёмы, усё не выпускаючы маёй рукі.— Ды не выпадала — то мяне куды-небудзь панясе ветрам фантазіі, то вы раптам знікнеце...

Пры гэтых словах рыбак сказаў, хто ён, і я яшчэ раз падзякаваў свайму вандроўнаму шчасцю. Яшчэ раз яно дало мне магчымасць сустрэцца з чалавекам высокага душэўнага багацця, якім ужо вось колькі часу ён адорвае столькіх людзей. То быў Валерый Раеўскі, галоўны рэжысёр нашага славутага Купалаўскага тэатра, аўтар вядомых пастановак беларускай драматургіі. Ён назваў сябе, і мне раптам выразна і акрэслена пачуўся голас Малыша ў спектаклі па выдатнай п'есе Андрэя Макаёнка «Зацюканы апостал». Малыш чуйна прыслухоўваецца да голасу сваёй неўтаймоўнай душы. Малыш увесь у напружаным чаканні чагось няўлоўна-прыгожага, чаго так прагне яго сэрца... Малыш гатовы падарыць усяму свету сваю пякучую любоў, калі б толькі знайшоў для гэтага шляхі... Малышу і памерці не цяжка, бо перад ім Мара, якую ён так выразна адчувае ўсёй глыбінёю ўзбунтаванага сэрца...

Хай даруюць мне і шчыры мой сябар Андрэй Макаёнак, хто даў жыццё Малышу, і Барыс Луцэнка, аўтар сцэнічнага яго ўвасаблення, за маю такую, мажліва, аднабаковую інтэрпрэтацыю створанага імі вобраза.

Але менавіта вось такія асацыяцыі ажылі ў мяне на тым беразе Бярозы, дзе столькі было навокал святла і далягляду для зачаравання вандроўнага сэрца і дзе толькі што перада мною адбывалася такая хвалюючая пантаміма ўлюбёнага ў жыццё чалавека...

Звычайная праводачная вуда з невялікай і лёгкай алюмініевай катушкай, некалькі жменяў паранага гароху ў цэлафанавым мяшэчку ды рукзак з самымі неабходнымі рэчамі паходнага рыбацкага рэквізіту. Вось і ўсё багацце, якое я ўбачыў на беразе, калі мяне запрасіў да сябе мой новы сябар Валерый Раеўскі. Хоць пра параны гарох як пра выдатную прыманку я ўжо чуў і дагэтуль, але да сустрэчы з Раеўскім ніколі не ўяўляў сабе, якое гэта зручнае і надзейнае багацце ў руках рыбака. Язь, галавень, плотка, лешч — самыя распаўсюджаныя насельнікі нашых рэк,— яны, як выявілася, нічым больш так не любяць паласавацца, як салодкім гарохам... І ніякіх клопатаў рыба-

ку аб нарыхтоўцы і захаванні ўсялякіх там выпаўзкаў, чарвякоў, п'явак, лічынак, казюрак і гэтак далей... Гарох не займае многа месца і не патрабуе ніякай асаблівай да сябе ўвагі, яго можна напарыць дома, а можна зварыць і на беразе ракі ў паходнай алюмініевай конаўцы... Ды нават і лепш, калі згатуеш тут жа, дзе будзеш лавіць, на ціхім цяпельцы,— яшчэ цёплы, духмяны, ён сваім пахам так прыманьвае рыбу аж з далёкай адлегласці!.. Толькі здолей вызначыць на быстры дарогу, якой нязменна трымаецца язь, ды ўгадай паставіць паплавень якраз на тую глыбіню, дзе чакаюць сёння спажывы плотка і галавень. А яшчэ налаўчыся віртуозна валодаць вудаю, каб без лішняй валтузні і шуму кручок з гарошынай дакладна трапляў у самае патрэбнае месца...

Не ведаю, можа, на якіх-небудзь берагах ёсць і яшчэ здатнейшыя, чым Валерый Раеўскі, майстры гэтага адмысловага праводачнага палявання на гарох. А мне ж ні да яго, ні пасля не даводзілася сустрэцца з такой вытанчанай мастацкасцю ў рыбацкай справе.

— Вось я пакажу вам, як гэта робіцца. То ж вельмі проста, вельмі проста...

І я ўбачыў не здаля, а зблізку, як злятае з катушкі танюткая леска, як дакладна і зусім неўпрыкмет падае гарошына ў жвавую брую і як быццам сам сабою, а то ж па ўмелым пажаданні рыбака, паплавень становіцца якраз так, што нават самы асцярожны дотык рыбы да гарошыны не застанецца не заўважаны рыбаком...

Валерый выбраў з мяшэчка паўжменькі найменш прыдатных для кручка гарошын, зайшоў трохі вышэй таго месца, дзе мы стаялі, і, размахнуўшыся, сыпануў іх у ваду. З ценькім чэканнем, нібы дробны шрот, гарошыны ўпалі якраз на той адлегласці ад берага, куды можа дапяць гарошына на кручку. І без тлумачэнняў я зразумеў, што даляцець туды кручку з гарошынай дапамагае некалькі драбінак на павадку ды досыць ладны, але зграбны, з лёгкага пенапласту паплавень. Некалькі кароткіх рухаў вудзільнам, і вось паплавень прыняў становішча напаўнырнуўшага ў ваду плывунца — рыба, схапіўшы гарошыну, аніяк нават не адчувае, што гарошына злучана з нейкім прадметам наверсе.

Сонца яшчэ не ўзышло, хоць там, дзе яно павінна было з'явіцца, край неба набрыняў ужо вадкім, дрогкім золатам блізкага ўсходу. Пад гэтым золатам рака штоміг мяняла адценні — то цьмяна свяцілася сталёвымі водблічкамі бруі

пад берагам; то залацiста трымцела струменямi на самым сваiм стрыжнi; то раптам, як сарамлiвая дзяўчына, ахутвалася немаведама калi i як народжаным празрыстым туманком... Але ўвесь гэты час яна заставалася як бы нежывою — не тое што ўсплёску буйной рыбы, а нават якога-небудзь уклейчынага дзюбання нiдзе не заўважалася на яе паверхнi. Як быццам усё ў ёй вымерла альбо анiяк не магло прачнуцца ад якогась цяжкога, нездаровага сну...

Тым большай нечаканасцю былi для мяне ўсхваляваныя паводзiны Валерыя. «Падсак! Вунь там!» — раптам прашаптаў ён i паказаў рукою на адарваны ад берагавога схiлу дзёран. Сам жа, прыгнуўшыся, пачаў патроху падмотваць леску. Леска выразна зазвiнела, i я ўбачыў сагнуты ў дугу кончык вудзiльна.

Пакуль я, стараючыся не дужа тупацець па беразе, кiдаўся па падсак, заарканеная Валерыем рыба ўжо выйшла на паверхню. Па тым, з якой тэмпераментнасцю ваюе яна на вадзе, можна было амаль беспамылкова сказаць, што гэта галавень. Валерый то падмотваў леску, то зноў яе адпускаў, то анiяк не даваў ёй ходу, зацiснуўшы пальцам катушку,— здавалася, яму зусiм не да ахвоты разлучаць з роднай стыхiяй гэтую бунтоўную на кручку рыбу...

Але ж не быў бы то рыбак, калi б ён самахоць пазбавiў сябе ўдачы, нават па заклiку самага шкадавальнага настрою. Хутка падчэпленая Валерыем рыбiна апынулася за некалькi метраў ад берага. Хапануўшы свежага паветра, яна раз-пораз ныраЛа лабатай галавою ўнiз, усё, мусiць, не разумеючы, чаму i што не дае ёй апынуцца зноў у цёмнай глыбiнi. То i на самай справе быў галавень. Ладны i дужы — такога голымi рукамi не возьмеш, тут абавязкова патрэбен падсак.

Звычайна спрактыкаваныя рыбакi нiколi не дазваляюць каму-небудзь iншаму дапамагаць выцягнуць злоўленую рыбу на бераг. Аднойчы я наглядаў, як разгневаўся адзiн спiнiнгiст на дзядка-пастуха, якi, пабачыўшы, што пад бераг на блешнi падышоў вялiзны шчупак, гопнуўся, забыўшы пра ўсё, з крутога берага да вады. Дзядок шчыра хацеў дапамагчы спiнiнгiсту. Але атрымалася наадварот. Пачуўшы раптоўны вэрхал i шум, шчупак са страшэннай сiлай рынуўся зноў у глыбiню, пакiнуўшы спiнiнгiсту толькi канец абарванай лескi. Здавалася, вогненная лава вырвалася з вуснаў рыбака, калi ён напаўголаса скамандаваў: «Сядзь, дзед! Чуеш, сядзь, пракляты! I адкуль ты ўзяўся на маю галаву?!..»

І сапраўды, памагаць рыбаку, калі ён цябе аб тым не просіць, самая недарэчная справа. Ведаючы гэта, я моўчкі працягнуў Валерыю прынесены мною падсак. Але Валерый, захоплены гульнёю з магутнай рыбінай, шэптам прапанаваў мне: «Падрыхтуйцеся, падхопіце галаўня...»

Я, такім чынам, адразу стаў удзельнікам драматычнай рачной сцэны. Хоць ужо і меў немалы рыбацкі вопыт, але ад хвалявання, вядома ж, заўсёды нешта зробіш не так. Вось і зараз — падсак, апушчаны мною ў ваду, усё чамусьці слізгаў у бок ад бунтоўнай рыбіны. І хутка адбылося тое, чаго, безумоўна, ніхто з нас не чакаў, але што часта здараецца ў такіх выпадках: галавень, гулка ўзбурліўшы ваду, даў нырца — і толькі яго і бачылі.

«Вось дык недарэчнасць! Пры першым знаёмстве засведчыць такую сваю рыбацкую неспрактыкаванасць! І трэба ж, як на грэх...» — так думаў я, разгублена трымаючы ў руках падсак, што стаў раптам надта цяжкім, быццам нехта паклаў у яго пудовы камень.

Але замест папрокаў я раптам пачуў за спіною вясёлы голас:

— От лаўкач! От даў драпака! Не перажывайце так, дружа...— Валерый падышоў да мяне і працягнуў цыгарэту.— Хай гуляе, хай цешыцца воляй і жыццём... Ведаеце, дружа, мне нешта заўсёды бывае шкада адбіраць жыццё ў гэтай вось бездапаможнай рыбы — з халоднай, як кажуць, крывёю, але ўсё-такі з неадольнай прагай да існавання... Ды і, калі сказаць шчыра, непрактычна мне адразу напхаць здабычаю рукзак. Што мне з ёю рабіць? Навошта яна мне?.. Па-мойму, найпрыгажэйшае ў нашай справе — гэта мара. Мара і надзея, да якіх вядуць пошукі і пошукі. Новыя берагі, новыя рэкі — вось што цікава мне. Таму я і не хвалююся, нават рады, калі рыба перахітрue, сарвецца з майго кручка. Зараз вось гэты галавень бяжыць на іншы плёс, шукае бяспечнага месца. А я пайду на новы бераг, буду зноў імкнуцца знайсці сваю ўдачу і зноў буду ўкладваць усю душу ў хай сабе няхітры, але такі прывабны занятак. Душа ніколі не павінна застываць!..

З прыемнасцю слухаў я такія родныя майму сэрцу выказванні Валерыя. І зноў убачыў сцэну Купалаўскага тэатра і Малышта на ёй і пачуў яго палкі, бунтоўны голас — голас няўтольнага сэрца, якое спапяляе сябе ў пошуках праўды і волі, у пошуках адзіна патрэбнага чалавеку жывога чалавечага святла...

*

Прыйдзеш на чарговы і, як заўсёды, надзвычай важны сход братоў-пісьменнікаў, слухаеш аднаго за адным прамоўцаў, дзівішся са страшэннага патоку нікому не патрэбнай вады, што льецца і льецца на слухачоў з трыбуны... Не ведаш, як вырвацца з таго патоку...

І раптам намацаеш у кішэні зморшчаную, ссохлую на цвярдыш гарошыну... Дзіва... І як толькі туды запала. Але якім паратункам знайшлася яна табе зараз — кожнай жылкай адчуваеш, як вызваляешся ад душнай тлумнасці гаварыльні, ад прамоўнай нуды. Дастанеш гарошыну з кішэні, няўцям для суседзяў усміхнешся ад нясцерпнай прагі новых паходаў, і вось ужо замест патоку, што льецца з трыбуны,— як жывая, забруіць перад вачамі празрыстымі струменямі Бяроза...

Колькі разоў чаравала яна затуманенай цішынёю світанкаў, таемнымі шолахамі дрымучых прыбярэжных пушчаў, радасцю сонца, ветру, хваль, хараством птушыных мелодый, непаўторнымі снамі каля патухлага цяпельца і лятункамі, што выспелі на яе берагах.

Колькі засталося ў памяці сцежак і пуцявін — дзе мроі траў і дрэў, дзе звоны росаў і ліўняў, дзе галасы шчырых сэрцаў людзей, дзе ўсё было: невядомасці і перашкоды, стома і расчараванні, а засталося назаўсёды — адно толькі радаснае і добрае...

Бывала — выб'ешся з сіл, месячы вёрсты гразкай і сцюдзёнай вясновай каламуці, упадзеш на берагавы грудок, даючы сабе слова аніколі сюды больш і не з'яўляцца... Ды раптам загрыміць у небе прывітальны кліч. Убачыш — кружаць над яшчэ безжыццёвай поймаю ўсхваляваныя ад вяртання да родных мясцін птахі. Кружаць, радасна перамаўляюцца паміж сабою, з ракою, берагамі, што чакаюць новага для сябе ажыўлення. І з табою — адчуваеш — гавораць, і хоць не разумееш мовы крылатых вандроўнікаў, ды адчуваеш у сэрцы цёплы, дрыготкі струмень — нараджаецца слова ў адказ. І забываеш пра стому, устаеш і зусім па-іншаму бачыш і закарэлыя ў леташняй асенняй гразі крывалапыя ствалы вольхаў, і зацягнутыя ілам яшчэ няходжаныя сцяжыны, і халодныя хмары адвячорка над пустыннай Бярозай.

А бывала — прачнешся асенняй ранічкай і не можаш аніяк зразумець: дзе ты, і што з табою, і што ж тут адбылося за ноч з зямлёю? Учора вечарам дзівіўся на зала-

тую цеплыню захаду, прагна ўбіраў грудзямі яшчэ водарнае ад лета паветра лугоў, захапляўся густой зялёнай атавы, над якою, як бліскотныя іскрынкі, праносіліся, вырваўшыся з-пад берагавой кручы, стрыжы. А сёння — чаму прачнуўся ў цісках самотнасці і тугі? Ніяк не ўцяміш, адкуль наўкруг усё белае: і луг, і рака, і сцяжынка, што ўчора вытаптаў ля самай вады, і нават вуды, быццам зачахлілі іх у якуюсь сінтэтыку,— таксама белыя... І раптам праймае дрыжыкамі цела і так няўтульна стане на душы... І тут здагадаешся: дык то ж замаразак, то ж першы зазімак прыйшоў на зямлю!.. Прыйшоў няпрошана, нечакана, таму непрыветнай, тужлівай і самотнай здаюцца Бяроза і ўсё наваколле каля яе. Таму і сціскаецца душа. Быццам хтось нечакана і груба адабраў у яе вольную волю...

Аднак, як было не адзін раз і дагэтуль, і ў такія хвіліны ўпэўніваешся: прырода ніколі не застаецца без жыўлівага свайго суладдзя, без клапатлівай, усеабдымнай сваёй мудрасці і дабрыні. Прырода заўсёды дбае пра кожную істоту, пра кожную нават былінку на зямлі, а між усім іншым — і пра чалавека... Не паспееш пазавіхацца каля ўчарашняга цяпельца, ажыўляючы заінелыя мах-ныткі і вугалі, а ўжо чуеш: пабегла, пабегла над табою ў паветры лагодная імклівая хваля. Падымаешся і мружыш вочы ад іскрыстага снапа промняў, што імкнуць да цябе з усходу. Сонца яшчэ толькі выходзіць з-за небасхілу, яшчэ толькі краёчак яго паказаўся над залужжам, а промні бягуць, бягуць па зямлі — хутчэй, як найхутчэй вярнуць радасць усяму жывому!

Мінае колькі хвілін — і вось ужо задыміўся луг ад цёплых сярод шэрані праталін. Праталіны растуць, шырацца, разліваюцца насустрач сонцу, што ўстала на небасхіле. І раптам — быццам узмахнуў рукою нейкі чарадзей — луг зноў набыў сваю ўчарашнюю прывабнасць. Зноў свеціцца аксамітнай свежасцю атава, нібы толькі што народжаная, зіхаціць лістота лазнякоў, і Бяроза, што на золаку выглядала як закутая ў нябачныя ланцугі,— зноў дыхае свежасцю, святлом і летуценнем... І на сэрцы — адчуваеш — памякчэла, палагоднела і пасвятлела, так і хочацца яму прысягнуць на вернасць усяму-ўсяму роднаму, што так шчыруе наўсцяж і навокал.

— Гэй,— раптам чуеш з другога берага ракі.— Здароў, чалавеча! Жывы?.. Затрымалася душа ў целе?

— Жывы, жывы!

— А як думаеш, будзе нам удача ці не?
— Будзе, будзе!..
— Ну то і слава сонцу!

Чалавек на другім беразе ракі скідае шапку на жоўты пясок, набірае ў прыгаршчы вады і з асалодай плюхае ў твар. Бр-р! — здаецца, так і скаланешся ўсім целам. Але не. Робіш гэтакае ж ранішняе асвячэнне і сам, і цеплыня вады зліваецца з пяшчотнай цеплынёю сонца, і хоць ведаеш пэўна, што ўжо нядоўга пастаіць тут гэтая яшчэ як бы летняя лагода, а ўсё ж у душы зноў ажывае, зноў гучыць са звонам прывольных сонечных прастораў песня непаўторнага шчасця..

Бяроза... «Напаі мяне зорным водгуллем і святлом навальніц напаі. Абудзі ў маім сэрцы мару плынную і сонечны звон прарочы. Бяроза, глыбіннай мрояй жыла ты ў душы не раз. Застанься ж са мной назаўсёды як вечнай легенды кліч...»

Нават сам не разумееш, што то за словы, адкуль узяліся, як нашапталіся на зацішаным беразе Бярозы. І раптам: «А хіба ж усе словы зразумееш? А? А хто сказаў, што ўсе словы трэба разумець? Хіба ж не так? А?..»

Юзік-Гузік... Адкуль яго голас пачуўся?! То ж бяжыць буксірок, сунецца за ім бярліна, гляджу — ці не ўбачу вясёлы твар свайго прыдбанага на Бярозе прыемнага сябра? Не, не відаць Юзіка-Гузіка. Колькі разоў і раней прыглядаўся, а ўсё не відаць... Мусіць, дала яму пуцёўку Бяроза ў вялікі свет, у мараходку, у прасторы мораў-акіянаў. Панёс Юзік-Гузік у людзі свае легенды, хваляванні, надзеі. Шчаслівай дарогі!

Плюскоча каля ног празрыстая, бы глыбінная сляза, плынь, абуджае ўспаміны маленства пахкі аер. Заклікае некуды ўсё далей і далей прывольная сонечная бязмеж. З бесклапотнай адвагай кінуцца на пікі белых аблачынак стрыжы, а адтуль — у сталёвую балонку быстры, а з яе — стрыгануць вострымі крыламі пад самымі тваімі вачамі. Падымайся, вандроўнік! Не сядзі на месцы! Шукай сваю лепшую ўцеху, лепшую ўдачу! Перад табою Бяроза, любая твая рака, адна, можа, такая, апроч Сажа, на свеце.

І падымаешся, ідзеш і бачыш — няма на зямлі канца ні радасці, ні захапленню, няма канца ні красе, ні вольнасці берагоў, няма канца таямнічасці і вабнасці таго кутoчка зямлі, які завецца — Бяроза...

## РАЧУЛКА, ЯК ТВАЯ НАЗВА?

Колькі хадзіў па родным краі, ніколі не пераставаў здзіўляцца: чаму, скажыце, рэкі, народжаныя на адной і той жа зямлі, часам між адных і тых жа купін ці арабін, ну зусім-зусім упоплечкі, з-пад адных і тых жа каранёў,— чаму яны, набіраючы сілу, пачынаюць плыніць у адрозных кірунках, па зусім адрозных шляхах: адна спяшае на поўдзень, другая — на поўнач, адна — да цёплага мора, другая — да сцюдзёнага мора-акіяна?

Сож, Бяроза, Прыпяць.

Нёман, Вілія, Дзвіна.

Па звычайнай геаграфічнай карце, магчыма, і не ўпэўнішся, а калі паблукаеш ля іх вытокаў, то ўбачыш: з адной жа глыбіннай нетры выструменьваецца іх чароўная адвечная краса!..

Сёстры яны, але адны ўліваюць свае воды ў Дняпро і з ім бягуць да Чорнага мора, а другія скіраваліся, як бы і не падумалі, у абсягі Балтыкі, у сцюдзёныя паўночныя краі.

Чаму гэта так?

Пасля ўсіх разваг і назіранняў я прыняў для сябе толькі адно меркаванне.

Адбываецца гэта ад бязмежнай шчодрасці зямлі.

Як улюбёная ў сыноў і дачок маці знаходзіць у сабе мужнасці адпусціць іх ці то ў блізкія, ці ў далёкія шляхі — няхай нясуць у людзі атрыманыя ад маці розум і дабрыню,— так і зямля наша, поўная глыбінных сокаў жыцця, не шкадуе аддаць свае жыватворныя багацці ўсяму-ўсяму свету. Няхай толькі будзе іх жыватворнасць на радасць жывому працягу на зямлі, няхай толькі бяруць ад іх асалоду і сілу і чалавек, і птушка, і колас, і дрэва, і любая кветка, і любая былінка ў адвечнай празе ўзнаўляцца, прарастаць і красаваць.

І якой жа радасцю поўніцца душа, калі апынешся дзе-небудзь ля рыжскіх прычалаў, ці над маляўнічым залівам у Нідзе каля Клайпеды, ці пад спякотным небам чарнаморскіхліманаў. Як шырока і магутна зліваюцца з неабдымнай стыхіяй мораў дарагія нам ад калыскі нашы рэкі. Няхай сабе і не ўсе на зямлі ведаюць, дзе гэтыя рэкі нарадзіліся, а няма чалавека, што не захапляўся б іх красой і сілай, не спяваў бы ім сваіх песень, не лічыў бы іх роднымі, сваімі. Ды, калі па праўдзе сказаць,— яны ж такі і на самай справе родныя кожнаму куточку зямлі, дзе

працягваюць свой шлях. Бо ці ж набылі б яны сваю такую нескапчальную магутнасць, калі б лясы і пушчы, палі і балоты, яры і стэпы, дзе яны працякаюць, не папаўнялі б іх сваімі крынічкамі і крыніцамі, ручаінкамі, рачулкамі, рэчкамі ці хаця б проста раптоўнымі патокамі ад грымотных навальніц?

Цікава, радасна глядзець на рэкі, што набралі поўную сілу.

Мне яны заўсёды здаюцца не проста басейнамі, шчодрымі люстранай плыннай вадою, а жывымі, з сэрцам і душою, волатамі, якія нясуць у сабе столькі ўспамінаў і мараў, жалю і весялосці, парыванняў, спадзяванняў і веры, што гэтага хапае і хопіць кожнаму, хто хоць раз спыніўся ў захапленні перад імі і пакланіўся іх магутнай плыні.

Ці не таму, калі вандроўнік выбірае маршрут свайго чарговага падарожжа, то ў думках заўсёды бачыць не ручаінку з ціхімі замшэлымі берагамі, а разліваную роўнядзь шырокай ракі, берагі са стромымі адхонамі, букі і шырокія плёсы, віры і люстраную даль?

Выбіраў заўсёды такія маршруты і я. Але аднойчы, калі спадарожная машына пралятала з грукатам па драўляным гарбатым мосціку, пад якім празрыстым жэўжыкам бруілася ціхая лясная рачулка, нешта так настойліва ўдарыла ў сэрца, што я не здолеў стрымацца, забарабаніў рукамі па кабіне: спыніцеся, спыніцеся!

Спадарожнікі паглядзелі са здзіўленнем: што з чалавекам стала — ехаў-ехаў да ракі, а спыняецца на нейкай ручаінцы, і навошта тут тая вуда, і што наогул можна рабіць у такіх нетрах!

А я, прызнацца, і сам у першую хвіліну не ведаў, чаму тут захацелася спыніцца і што я буду тут рабіць.

Але як толькі машына знікла з вачэй і я застаўся адзін на адзін з прыглушанай цішынёю лесу і звонкім у гэтай цішыні булькатаннем лясной рачулкі — мне адразу ўсё стала зразумела і ясна.

Калыска! Выток!.. Убачыць, як жа ён усё-такі нараджаецца — пачатак жыцця і малых, і вялікіх рэк, а гэта ж, значыць, і пачатак радасці і маёй, і стольких людзей на свеце...

Я спусціўся каля мосціка да жвавай жывінкі, што так весела чулася па-за густою сценкаю асакі, расхінуў зялёныя сцяблiны — і як не ахнуў ад захаплення.

Перада мною была зусім і не рачулка, а сапраўдная, з

усімі адзнакамі непаўторнага вобліку рака. Такая вузенькая, што яе можна было і не разганяючыся перасігнуць адным скокам, яна між тым кожнай сваёй рысачкай давала ўяўленне аб тым характве, якое можа толькі ў дзесяткі ці ў сотні разоў павялічыцца, але да апошняй кроплі захавае сваю першароднасць. То ў адным месцы, вырваўшыся амаль з-пад лісцяў блёкату на ладны лапік жаўтапёсу, яна шчодра свяцілася ўсёй сілай прамянёў, што, як у фокусе, сабраліся ў кожным яе струменьчыку, у кожнай яе пясчынцы. То, нырнуўшы пад навіслы дзёран, як быццам спынялася, кружылася ў задуме, і цёмная яе паверхня хавала пад сабою нешта таемнае, як у сапраўднай глыбіні.

То, нібы ачнуўшыся, яна імкліва вынырала з-пад таго дзёрну, кідалася ўгрунь. Разлівалася іскрамі, наляцеўшы на камень-валун. А тады, не здолеўшы зрушыць яго з месца, аблятала імкліва гэты камень з двух бакоў, сярдзіта вырывалася ніжэй яго. Ды паступова стрымлівала хваляванне, супакойвалася, нібы ўспомніўшы пра сваю мэту, і зноў смяялася промнямі. Шырэй рассоўвала берагі, намывала гурбачкі пяску, на якія адразу ж садзіліся, весела танцуючы, пліскі, і спяшалася далей, нырала ў цёмную засень вольхаў і арабін.

Адтуль, з гэтай прытоенай засені, час ад часу даходзілі выразныя, аднак не зусім зразумелыя ўсплёскі вады. Ці зноў рачулка сустрэла якую-небудзь перашкоду, ці, наадварот, набірала большы разгон, можа, нават скідвалася вадаспадам у нейкую нізінку. Хацелася б зараз жа завярнуць туды, пабачыць, як яна яшчэ памяняла свой воблік, гэтая няўрымслівая лясная жвавачка. Але хай потым. Бо сонца ўжо добра павярнула з поўдня. А мне ж карцела ажыццявіць нечаканую сваю задуму — пабачыць, як ён і дзе ён, гэты жывы струменьчык, прабівае сабе з глыбіні зямлі шлях пад роднае сонца.

Золата пясчынак,
Золата пясчынак.
Як яно ўзлятае насустрач дню,
Працятае глыбінным выбухам звонкім
Упершыню, упершыню?
Якой сваёй песняй, якім вітаннем,
Якім пачуццём, якім пачуццём
Узбудзіцца сэрца
                    над плыннай калыскай —
Кропелькі чыстай першым жыццём?
Старонка мая, любая мая
                    харошка,

Казка мая і радасць мая.
Каб праз вякі заставацца з табою —
Стаў бы і я
святлом ручая.

*

Высозны меднастволы бор, з засені якога выбівалася рачулка, як быццам адчуваў і разумеў настрой маёй душы. Увесь такі наструнены, па-святочнаму светлы і ясны, ён, здавалася, ажно трымцеў кожнай сваёй гонкай вяршыняй ад жадання як найхутчэй адкрыць перада мною сваю чароўную гасціннасць.

Дзень быў зусім ціхі — ні шолаху ветрыку не чулася ні тут, унізе, ні ў блакітнай над соснамі вышыні. А бор — ну, няйначай, аднекуль з таемных схованў ішлі яго спеўныя хвалі — бор поўніўся няспыннай музыкай. Так-так, музыкай, інакш хіба мог я назваць яго стозвоннае сугалоссе, стозвоннае дыханне, задуменне, летуценне, мрою, мару, чаканне, надзею, заклік, водгалассе, таемнасць, адкрытасць і шчырасць,— усё, што выяўлялася ў бачным і нябачным, чутным і нячутным, схаваным і несхаваным, ва ўсім, што так неабдымна свяцілася і шчыравала па вачах пад сонцам ці адно толькі ўгадвалася недзе ў засені і глыбіні.

Той, хто хоць адзін разочак пазнаўся сам-насам з жыццём летніх баравых закуткаў, згодзіцца з думкай аб іх зусім адметным, непаўторным харастве. Што за цудоўная, што за дзівосная з'ява прыроды — гэтыя нашы такія песенныя, лагодныя, пяшчотныя і разам з тым такія велічныя, нават, можна сказаць, магутныя ў сваёй велічы беларускія бары!

З усіх сабораў ёсць сабор,
Дзе згодзен я маліцца:
У спелым леце, спелы бор,
Звіняць твае званіцы.

Упэўнены, што не аднаму мне ўспаміналіся гэтыя цудоўныя словы Анатоля Вялюгіна, калі перад вачамі адкрывалася і зацененая, і светлая, і загадкавая, і ўся для душы адкрытая, арганная ад музыкі меднастволай цішыні прастора наскага бору.

Успомніў я Анатоля Вялюгіна і сёння. Як жа трапна ўдалося яму перадаць самае істотнае: чысціню і светласць

яднання пачуццяў чалавека з паэзіяй прыроды, а ў асаблівасці — з паэзіяй лясной цішыні. Згадайце — хіба не здзіўляла вас заўсёды: бор стаіць у спішанасці, у задуменні, не схіснецца, як выліты з бронзы манумент, а прастора яго вакол вас невядома адкуль поўніцца гучнымі арганнымі галасамі. І няма, здаецца, навокал нічога такога адметнага, і ўсё-такі нешта бясконца несціханае ёсць. Што гэта такое? Ці то зліваюцца ў адно і ўтвараюць шырокія, глыбокія мелодыі самыя нязначныя, ледзь чутныя і часам нават зусім незаўважныя для чалавека шолахі іголіцы і сцяблінак, мурашыныя вандроўкі, звоны расін, перамовы затоеных у гушчарніку крынічак, пошумы птушыных крылаў, зумканне пчол, трымценне адарванай ад ствалоў бяросты, асцярожныя крокі лясных насельнікаў, подых зялёных вяршынь, гульня сонечных промняў у мярэжах галін і шмат чаго іншага, у чым адбіваецца жыццё лесу? Ці, можа, у баравой цішыні ёсць асаблівасць узнаўляць у чалавечай памяці ўсе найчароўнейшыя гукі з яе слыхавых скарбаў, са спеўнага таго багацця, якое заўсёды носіць у сабе чалавек, але часам не здагадваецца пра яго і сам?

Вось у такой цішыні спелага бору я накіроўваўся ўсё далей па беразе рачулкі. Хаця, сказаць, па самім беразе прайшоў я не доўга — пачалі сустракацца на шляху бязладна нагрувашчаныя завалы з карчэўя, з гнілых, паваленых дрэў і галля, праз якія пралезці проста было немагчыма. А часам, асабліва на нізкіх мясцінах, вакол рачулкі буяла пераплеценая, знітаваная драсёнам ды рачным хмелем гушчэча маладых асіннікаў, алешніку і арабін. Як быццам рачулка наўмысна імкнулася схаваць ад чужых вачэй свае таямніцы. Таму, патрымаўшыся трохі берага, каб зусім не выбіцца з сіл, я вырашыў ісці далей прасторай вольнага бору. Кіруючыся адным слыхам — пастаіш, пачуеш голас рачулкі ды і зноў наперад.

А там зноў спыняешся, і як бы ні звінелі, ні спявалі баравыя закуткі, а рачулка давала пра сябе знаць. Як быццам ведала пра маю задуму і мой клопат і ўвесь час падказвала з цёмнай гушчарні: «Я тут, чалавеча, ступай смела, я закрычу, калі пойдзеш не так, не дам табе збіцца...» І я ўсё больш упэўнена крочыў то па сівым, то па зялёным імху між соснаў і думаў: вось яшчэ дзіва дык дзіва! Вось яшчэ непаўторная, мусіць, асаблівасць баравой цішыні: у няспынным мностве сваіх гукаў нічога адметнага не траціць, кожнаму шолаху, ці ўсплёску, ці го-

ласу, ці спеву — запытанню, адказу ці летуценню — даваць сваю пэўную, надзейную хвалю, па якой баравыя гукі і даходзяць да нашай душы.

*

Калі ідзеш па лесе, угледжаны ці ўслуханы толькі ў адну якую-небудзь яго праяву, то заўсёды здаецца нечаканасцю апынуцца раптам на яго асветленай сонцам ускраіне. Асабліва там, дзе дрэвы выступаюць табе насустрач адно вышэй другога. Ну, а ў барах, як кожны мог заўважыць, а тым больш у так званых карабельных барах,— на ўскраінах заўсёды падпіраюць вышыню сосны самыя рослыя, самыя мажныя, расахатыя; з боку паляны ці поля, як сцяна, стаяць яны на варце баравога спакою.

Сённяшні мой бор не захацеў быць інакшым: ну зусім знянацку, аж ёкнула сэрца, замкнуліся за мною яго сховы, а перад вачамі адкрылася шырокая, на колькі ладных гоняў, маўклівая паляна. Яна была такая маўклівая пасля працяглай стозвоннай цішыні бору, ажно ўсю душу ніякаватасць праціла — не верылася, што на свеце можа быць гэткая бязмоўная, бязгучная, маўклівая цішыня. Яна была такая маўклівая, што нават добра чутны ў водгалассі бору голас рачулкі маёй зусім згубіўся,— вось якая была тая палянная маўклівая цішыня.

Збянтэжаны, я доўга стаяў на засеяным камянямі ўзгор'і — сюды якраз вывеў мяне бор. Многа камянёў было сабрана ў крушні, і гэта сведчыла аб тым, што перад вачамі не проста лясная паляна, а абжытая чалавекам зямля. Аднак крушні былі даўнія — зараслі шыпшыннікам і шорсткай травою. Асобныя ж камяні на здзірванелай ялавіне замшэлі і пазеляненелі. І разам з прыгнятальнай маўклівасцю, якая панавала навокал, гэтая бачная закінутасць зямлі выклікала настрой асаблівай самотнасці, было так не па сабе, так не па сабе.

Аднак хутка я заўважыў пакручастую лінію цячэння маёй рачулкі — хоць і чэзлыя, рэдкія, але досыць маляўнічыя на фоне голага абсягу зараснікі альхоўніку, чаромхі і лазняку.

Туды я і скіраваўся.

Рачулка мая ў тых зарасніках абясцілася вельмі хутка. Яшчэ не дайшоў да дзвюх прыкметных сваім ростам чаромхаў, як яна выбліснула мне насустрач, нібы кінутае на пясок бліскучае шкельца,— прамяністыя водбліскі

пырскалі зырка і зменліва, горача і несціхана, быццам рачулка не магла стрымаць радасці, што вось мы і спаткаліся зноў.

Аднак воблік рачулкі, у параўнанні з тым, што ўразіў мяне далёка адсюль у бары каля гарбатага мосціка, быў тут амаль непазнавальны. Калі там яна ўсімі сваімі абрысамі, усімі паводзінамі выяўляла ўжо нораў сапраўднай ракі, хоць яшчэ і вельмі недарослай,— дык тут рачулка, калі можна так сказаць, была яшчэ зусім без свайго характару. Яе льга было назваць проста сумай прамяністых кропляў, што няспынна радаваліся сваёй волі. Адчувалася, што яны вынырнулі на свет недзе зусім блізка і таму не паспелі яшчэ нават агледзецца, не паспелі яшчэ зразумець сваё вялікае прызначэнне.

Былі інакшыя тут і берагі. Супрацьлеглы ўяўляў з сябе вузкую палоску сіўцовай лугавіны, за якой паступова ўзвышалася да сцяны лесу шырокае поле, засеянае жытам,— хоць не схіснуўшыся стаяла запалавелая ніва, ды як жа не пазнаеш жыта! — хто з маленства прывык яго бачыць — ніколі ні з чым не зблытае яго паху, яго колеру, яго паставы, нават яго ціпіыні!.. Мой бераг узнімаўся над рачулкай адразу — сыпкі пясок, здавалася, так і з'ехаў бы ўніз, запрудзіўшы рачулку, калі б не падпіралі яго быццам знарок і як бы пад шнурочак укладзеныя белабокія валуны. Між гэтымі валунамі, а дзе-нідзе і сігаючы па іх, я хутка выскачыў да супрацьлеглага краю бору, увесь час радуючыся той іскрыстасці і светласці, якою адорваў мяне празрысты струменьчык. Але раптам валуны скончыліся, і я спыніўся, збянтэжаны: рачулка мая некуды знікла. Уперадзе валуноў паўз лес і далей цягнуўся зусім сухі лог, на якім і знаку не было ад тае рачулкі. Дзе ж яна, што з ёю стала? І тут я ўпершыню за час свайго знаходжання на паляне пачуў ценькі і шапатлівы голас — нешта жывое ў задуме выказвала маўклівай паляне сваё запаветнае і светлае.

Ці трэба казаць, якую буру пачуццяў выклікаў у мяне гэты ўражальны ў навакольнай маўклівасці голас. Як быццам адгукнулася і знайшлося даўно і, здавалася, беззваротна страчанае; як быццам аднекуль з'явілася тое жаданае, дарагое, пра што ўвесь час мроілася і снілася, але што аніяк не мог ні ўявіць сабе, ні знайсці...

Ціха ступаючы між камянёў, у боязі, што неасцярожным крокам парушу споведзь пачутага голасу, я спусціўся ўніз. Тут згрудзіліся, нахіліўшыся, некалькі алешын, а

над імі ўзвышалася разлапістая, кучаравая чаромха. Голас, што чуўся раней як задумлівае шапятанне, загучаў больш выразна, і што ж тут было гадаць — то быў голас крынічкі. Адзін толькі ўзмах рукі — я адхінуў убок волкую і пругкую сцябліну кугі між алешынамі, і вачам адкрыўся хвалюючы, незабыўны малюнак: зямля свяцілася, зямля гаварыла. Дзесяткі тонкіх, як сонечныя промні, струменьчыкаў, прабіваючы дол, ускідвалі пад сонца залатыя пясчынкі, падалі разам з імі на бліскотныя, нібы адпаліраваныя, каменьчыкі, што ўслалі зямлю трохі ніжэй, і ўсё пра нешта напеўна і згодна апавядалі, апавядалі, апавядалі.

Мне чамусьці здалося, што залатыя струменьчыкі павінны несці з сабою надта многа цеплыні: так горача было сэрцу ад іх усхваляванай мовы. Але не, яны былі сцюдзёныя. Дужа сцюдзёныя, нават прыліплыя да рукі пясчынкі пяклі сцюдзёнай пякучасцю, пакуль не саграваліся на руцэ і не ападалі назад у сваё размоўнае ўлонне.

З адпаліраванай камяністай пляцоўкі залацістыя крынічныя струменьчыкі падалі яшчэ ніжэй — мусіць, у самімі імі ўтвораную залатую крынічную студню. Тут яны супакойваліся, пакідалі на дне студні прынесеныя з сабою пясчынкі і ўжо зусім празрыстыя, толькі з адной сонечнай чысцінёю, пускаліся ў шлях далей, так пачынаючы адсюль чароўную лясную рачулку.

Захоплены і ўсхваляваны да глыбіні душы ўсім убачаным, я падышоў да залатой студні і — хіба ж мог утрымацца? — апусціўся перад ёй на калені, як, я ўпэўнены, зрабіў бы і робіць кожны, хто калі-небудзь сустракаецца з таямніцаю нашых светлых зямных крыніц. Ад студні павявала ў твар халадком і лагоднай свежасцю, водарам баравога смалістага настою і густа парослых навокал зёлак. А яшчэ веяла пахам зямной глыбіні і чагосьці такога невядомага, ад чаго пачынала кружыцца галава. Я паспяшаўся хутчэй прыпасці вуснамі да празрыстага глыбіннага пітва. Вада была колкая і сцюдзёна-пякучая — аж зубы занылі. Але што дзіўна: смак яе здаўся такі па-дарагому знаёмы — я нават разгубіўся, ніяк не могучы ўспомніць, што ён мне нагадвае. Дзе і калі яшчэ я піў такую ваду? Дзе? Я смакаваў дарагое і салодкае мне сваёй роднасцю пітво і ўслухоўваўся ў голас крынічкі: можа, ён хоць бы нечым падкажа мне адгадку? І тут, адарваўшыся ад студні, я ўбачыў на недалёкім ад крыніцы пагорку абгароджаны высокі камень і пры ім абеліск.

У мясцовасці, дзе я зараз знаходзіўся,— а гэта паміж Плешчаніцамі і Бягомлем,— нярэдка можна сустрэць такія камяні і абеліскі — напамін аб вялікім змаганні апошняй вайны, помнікі партызанам і воінам, што не пашкадавалі сваіх жыццяў у барацьбе з фашыстоўскай навалай. Амаль усюды яны стаяць пры дарогах, на скрыжаванні шляхоў, на людных месцах, дзе кожны можа пакланіцца паўшым героям... Гэты ж быў у глыбіннай лясной нетры, на паляне, пра якую мала хто і даведаецца калі-небудзь... Што ж то за помнік?.. Праз хвіліну я быў ужо там і ледзь толькі кінуў вачамі на выбітыя на камені словы, як на сэрца імкліва нарынула вогненнае пачуццё... Быццам працяты маланкай, я ўспомніў, дзе піў калісьці такога ж смаку ваду, як у гэтай палянлай крынічцы. З Асілкавай крыніцы каля майго Сажа!.. І ясна стала, пра што апавядае кожны пачуты сёння крынічны струмень, і што тоіцца ў маўклівай цішыні паляны, і чаму так здзічэлі, зараслі травою сабраныя калісьці крушні...

Сціплы і просты помнік словамі кароткага, але цяжкога, як сам камень, паведамлення сведчыў пра тое, што тут, на гэтай міжборовай зямлі, была калісьці вёска Дальва і што яе разам з усімі жыхарамі спалілі крывавыя каты-фашысты.

Дальва... Дык вось дзе калісьці мясцілася яна, вядомая сёння не аднаму чалавеку на свеце закатаваная чужынцамі вёска. Пра яе жахлівую трагедыю я чуў многа раней — пад званамі Хатыні на чорных мармуровых плітах высечана побач з імёнамі іншых ахвяр нашай зямлі і яе пакутнае імя. Але там, у Хатыні, сабраны боль дзесяткаў і соцень такіх вёсак, як Дальва, і ў агульным болю асобнае не так вылучаецца... А тут я стаяў перад тым асобным — сам-насам, адзін на адзін... Гэтая паляна і гэты бор... Яны не маглі, не маглі не запомніць назаўсёды страшэннай лютасці, што калісьці тут адбылася. Ці не таму асобныя сосны на ўскраі бору глядзяць на паляну пачарнелымі, як ад смутку, і пакарабачанымі вяршынямі, а пясчаны дол навакола помніка нагадвае яшчэ неастылы прысак вялікага вогнішча... Шалёнае віраванне агню і смерці, жудасныя крыкі і енкі немаўлят і іх мацярок... Яны не маглі, не маглі не застацца навечна ў насцярожанай, глухой палянлай маўклівасці, што запанавала тут калісьці пасля жорсткага катавання...

З такім адчуваннем стаяў я зараз перад жалобным помнікам і, здавалася, сам падаў над кулямі катаў, сам

курчыўся ў агні з невымоўным адчуваннем страшнага канца... Толькі крынічка не давала забыцца, што яшчэ жывы... Паступова пачынала даходзіць, пра што яна бясконца імкнецца сказаць... Зноў уявілася Асілкава крыніца на Сажы... Так-так, праўду ты кажаш, крынічка! — прагу жыцця нельга зніштчыць аніякімі катаваннямі; калі ёсць пачатак, будзе працяг, будуць біць струмені з-пад зямлі — будуць усё шырэй разлівацца і рэкі, будзе свяціць сонца, будуць нараджацца вольныя сэрцы — і ніколі не згасне чалавечае шчасце на свеце...

Крынічка, нібы ўспомніўшы хвіліны жорсткасці і запаліўшыся гневам, то бурліва ўзвышала свой голас, то, быццам задумаўшыся ў смутку і жальбе, пачынала шаптаць — ціха і журботна, то, напэўна, узрадаваўшыся, што праменіцца, сінее над ёю летняе неба, буяе зялянінаю зямля,— пачынала біць звонка і ўрачыста, як услаўляла ўсё, што тут жыло, жыве і жыць будзе... І пад гэты яе звон ужо не такой самотна-маўклівай пачынала выглядаць паляна. Выпешчанае рукамі новых людзей жыта хоць і стаяла ў акружэнні бору без шолаху і хвалявання, ды пад промнямі перадвячэрняга сонца так пахла, так пахла,— адчувалася, што хутка пачне падаць раса, каб асвяжаць і паіць прагаю прарастання новыя зярняты...



Пакуль я, спатыкаючы розныя нечаканасці, знаёміўся з рачулкай і яе вытокам, дзень амаль скончыўся. Промні сонца яшчэ прабіваліся на паляну, але толькі прабіваліся! Яны прыходзілі аднекуль далёка з захаду, з-за сцяны высокага бору, знаходзячы сабе дарогу ў прамежках паміж соснамі, і таму па ўсёй паляне штохвіліны мяняліся хвалі то ценяў, то святла. Настаў той момант летуценнага летняга адвячорка, які заўсёды настройвае на сцішанасць пачуццяў і думак. Уся істота ў такія хвіліны паддаецца лагоднай задуменнасці прыроды — сэрцу робіцца цёплацёпла і так добра-добра, як быццам яно ўсяго, чаго хацела, дасягнула і няма куды болей імкнуцца — толькі зліцца б вось зараз з пяшчотнай цішынёю зямлі і неба, лістоты і пахіленых каласоў, сцяжынак і льдзінак-хмарак, што зрэдку наплываюць на чысцюткую сінь у вышыні... Зліцца і ўлюбёна глядзець некуды ў неакрэсленую даль, без аніякіх хваляванняў, задумак, глядзець і чакаць... Чакаць,

пакуль не скаланешся раптам ад якогась шчымлівага пачуцця. Не адразу і ўсвядоміш, што пачуццё тое — адчуванне бязмежнай самотнасці. Душа сціскаецца ад смутку, чагосьці ёй прагнецца — чаго?.. Не адзін раз трэба зазнаць тое пачуццё, каб зразумець, што як бы ні ўлагоджвала, ні ўзвышала чалавека прырода, а яму ўсё ж цяжка заставацца надоўга без людзей — без іх галасоў і іх позіркаў, без самай нават звычайнай іх прысутнасці. А яшчэ калі так, як сёння ў мяне,— на месцы жахлівага чалавечага спусташэння...

Аднак жа дзень канчаўся, і ўсё мацней непакоіў мяне адзін клопат: дзе і як перабыць ноч? Хоць для вандроўніка клопат гэты — самы звычайны, ды яшчэ ў такую лагодную летнюю пару, калі і кожны кусцік начаваць пусціць і зара вячэрняя з зарой світальнай сыходзяцца, а ўсё ж... Занадта многа наплыло за дзень хвалюючых думак і пачуццяў, каб з імі заставацца тут, на месцы былой скатаванай вёскі, яшчэ і на ноч... Ці знойдзецца ў душы столькі могі, каб яна не схіснулася ў загадкавасці начной цемры, адкуль — хто здольны тое стрымаць? — могуць загучаць для яе роспачныя галасы немаўлят і мацярок, устаць вогненныя постаці з суровай мальбою ў вачах?..

Так я думаў, ідучы па здзірванелай сцежцы паўз жыта, калі раптам ізноў пачуў булькатанне маёй рачулкі. Якраз тут яна ўваходзіла ў бор, і зноў — вось дзіва! — голас яе, амаль зусім нячутны на паляннай прасторы, зноў вылучаўся выразна і ясна. За рачулкай, перад самай сцяною векавых кражоў, мясціўся лапік маладога падлеску — трохі вышэйшага чым у рост чалавека сасновага хмызняку. Куток выглядаў вельмі маляўніча. Цэлы рад высокіх таполяў з аднаго берага рачулкі цягнуўся вяршынямі да такога ж роўнага строю магутных дубоў на другім яе баку, адкуль — амаль па дубовых каранях — пачыналі бегчы на ўзвышша маладыя сасонкі. У адным месцы сасмякі перарываліся густой купай здзічэлых груш, бэзу, язміну і яшчэ нейкага кустоўя, ад якіх пад дубы спускалася ціхая пясчаная дарожка. Адразу было відаць, што зямля тут абжывалася калісьці чалавекам. Бо ўзгорак той з грушамі, язмінам і бэзам быў не чым іншым, безумоўна, як колішнім дварышчам. Ды і прысады дубоў і таполяў над рачулкай таксама не маглі ўзрасці самі па сабе такім роўным шэрагам.

Рачулка там, дзе да яе падыходзіла дарожка, перагароджвалася некалькімі ссівелымі валунамі. Утварылася

невялікая запруда, стрыманая вада знаходзіла сабе шлях між камення, бруілася, булькатала, звінела і, вырываючыся на волю, як бы трымала над сабою маленькае нягучнае рэха. І так ужо ўтульна, па-дамашняму, гаманіла пад купалам дубоў і таполяў тое рэха — адразу прыварожвала душу! Не хацелася нікуды адсюль адыходзіць — рай, дый годзе, дзе яшчэ — падумалася — знойдзеш мясцінку лепшую, каб правесці кароткую летнюю ноч?

Хутка на ўскраіне сасновага падлеску, непадалёк ад былога дворышча, я знайшоў сабе ціхі, цёплы і, я нават сказаў бы, летуценны куток. Наперад адсюль адкрывалася мне і рачулка, і прысады дубоў і таполяў па-над ёй, і ціхая дарожка, што ішла ад камянёвай пераправы ў самыя саснякі. Ззаду, за хмызняком, як бы ахоўваючы яго сваім крылом шырозным, маўчаў, пільна за ўсімназіраючы, і высока гудзеў векавы бор. А на доле — аж біла ў вочы — ну як быццам нехта спецыяльна збіраў тут стольскі багацця — густа квітнеў чабор, вакол яго купкамі шчыраваліся слёзкі, зыркалі медуніцы і нават, прымасціўшыся каля сасонак, весела хінуліся адзін да аднаго лясныя званкі...

З якой прыемнасцю апусціўся я на дол сярод гэтай водарнай летняй пекнаты!

Было ціха ў прыродзе і на сэрцы; хоць было, праўда, трохі і сумна, і вусцішна. Ці, калі больш дакладна, нешта дрыготкае ўваходзіла ў душу — і летуценна акрыляла яе пад сцішанай задумнасцю навакольнай зямлі, і ў той жа час нечым непакоіла, хінула ў журботнасць... Цяжка ў такія хвіліны ўсвядоміць — што дзеецца ў табе; адчуваеш толькі, што ўвесь час трымціць у душы нейкае няяснае пакуль што, але настойлівае жаданне — нібы нечага табе не хапае, нібы нешта заклікае кудысь...

Не ведаю, як у каго, а ў мяне такое вось пачуццё заўсёды выклікала трывожна-нястрымную прагу нешта рабіць. Калі б не насоўвалася ноч, то, безумоўна, не застаўся б сядзець на месцы. Абавязкова некуды б імкнуўся. Нечага шукаў, пра нешта хваляваўся. Не мог бы спыніцца, пакуль не схлынула б з душы хваля гэтага салодка-неспакойлівага, заклікальнага трымцення...

А зараз... не памятаю нават, як гэта здарылася... Галава сама сабою прымгнулася на цупкай галіне бухматай сасонкі... Мог жа ўладкавацца лепей — пакласці ва ўзгалоўе хаця б рукзак... дык не... не паспеў...

Многа чаго даводзілася і чытаць, і чуць пра сон чала-

вечы — які ён можа быць і раптоўны, і вокамгненны, і глыбокі, і моцны, і летуценны, і светлы, і лёгкі, і салодкі, і чараўнічы, і нават хвалююча-песенны, натхнёны... Але каб вось так, як сёння тут са мною сталася,— пра такое і не памроілася б, мусіць, ніколі...

Гэта ж, здаецца, ну толькі што — ну, можа, з якую хвіліну таму назад — назіраў, як заміраюць апошнія промні захаду; выглядаў, дзе б тут, можа, якое-небудзь цяпельца раскласці, каб было весялей... І раптам — нібы ў нейкай казцы — адчуваеш, што вось толькі што бачанае і чутае — гэта ўжо не толькі што бачанае і чутае, а гэта ўжо тое, што было... было... Было і прамінула, і ніколі не паўторыцца... А ўсё, што адкрываецца вачам зараз,— гэта ўжо зусім нешта іншае, як быццам ніколі нават не сустраканае.

Я, магчыма б, яшчэ і доўга не мог адплюшчыць вачэй, каб убачыць гэтае новае, іншае, калі б не ўдарыў мне аднекуль зусім зблізку такі любы з маленства, такі непаўторна-салодкі пах свежага пражма.

Божа, і бываюць жа такія дзівосы: ну калі яно тое было, калі тое пражмо пра́жыў! — на пастушыных сцежках развеяла ветрам дымкі тых кароткіх пражмовых цяпельцаў; а вось жа — як быццам тут яно, каля самых ног, вяселіцца, здаецца, тонкімі бялявымі язычкамі маленькае полымя, і смачна абпальваюцца маладыя асцюкі жытнёвых каласоў: яшчэ хвіліна — і пасыплюцца на шурпатую далоню салодкія, пахкія зярняты...

За часы сваіх вандраванняў прывык я да самых неверагодных нечаканасцей. Таму, мусіць, і зараз, калі расплюшчыў вочы, то не адчуў ані наймалога ў душы здзіўлення, хоць тое, што ўбачыў, было для мяне амаль фантастычнае: замест вечара, які, здавалася, вось толькі што калыхаўся за соснамі ціхім дагараннем апошніх промняў, у патыліцу мне біла яркае сонца новага вясёлага дня. Прытым — менавіта біла, без усялякіх перабольшанняў — біла! — так ужо высока гайдалася яно над зямлёю. Вось жа нікому не паверыў бы, што такое можа быць: за адно нейкае імгненне праспаў і цэлую, хоць і нядоўгую, летнюю ноч, і світанак новы з прывітальнымі перамовамі птахаў у адкрытай баравой цішыні, і нават усю задуму сваю — падгледзець ранішняе жыццё лясной рачулкі — таксама скасаваў беззваротна.

Але самае дзіўнае для мяне было ўсё ж не гэта. Самае дзіўнае — спакойна, бестурботна, з ціхай цікаўнасцю і нават дзелавіта гледзячы ў мой бок,— сядзела перада мною

ў абліччы трох жывых істот. То былі: малады чарнатвары мужчына (ну цыган, дый годзе, такіх нямала страчаецца між беларусаў, іх так і завуць — «свойскі цыган»), побач з ім, прыцёршыся да яго каленяў,— такі ж чыгункаваты, абгарэлы на сонцы хлопчык, а каля яго — маленькі сабачка — адно вуха, нібы лакатар, да хлопчыка, другое — у насцярожанасці — тырчком. Маляўнічая і, далібог, дзівосная карціна. А яшчэ пражмо! У руках у хлопчыка было самае непрыдуманае, самае сапраўднае, рэальнае — аж слінкі пацяклі! — пражмо. Задымленыя зярняты так звабліва выглядалі з абпаленых каласоў. І так моцна, так соладка пахлі! Дык, значыцца, то быў не цуд. Вось адкуль прыйшоў у мой сон і пабудзіў мяне родны, дарагі мне з маленства пражмовы пах!

У першы момант, расплюшчыўшы вочы, я збянтэжана імкнуўся растлумачыць сам сабе ўбачанае і таму, стараючыся нават не міргаць вейкамі, маўчаў. Як быццам яшчэ спаў.

Але сабачка, мусіць, адразу ж заўважыў, што я прачнуўся.

— Йяа! — голасна і задзірыста адрэкамендаваўся ён перада мною і тут жа паглядзеў у бок хлопчыка. Мусіць, хацеў упэўніцца, што зрабіў правільна. Яго вуха-лакатар пры гэтым пстрыкнула ўгору.

Хлопчык нічога не адказаў сабачку, нават не варухнуўся. Але нешта такое перадалося ад яго сабачку, бо той зноў сказаў сваё «йяа» ўжо зусім ціха, прымірэнча і, прылёгшы на пярэднія лапы, гэтак жа, як і хлопчык, пільна ўтаропіўся ў мяне.

Я прыўзняўся на локцях і прыветна ўсміхнуўся ўсёй мілай «троіцы».

Тады мужчына загаварыў.

— Гэта ж во ішлі мы,— сказаў ён, нібы апраўдваючыся,— ды і думаем: што з чалавекам?.. Ажно бачым — спіце вы... Ну, во і прыселі... Дай, кажу, пачакаем, можа, спатрэбімся нябогу...

— Йяа!..— услед за мужчынам бадзёра выгукнуў сабачка. Яму, відаць, абавязкова карцела пацвердзіць, што ўсё сказанае гаспадаром — чыстая праўда.

На гэты раз хлопчык не пакінуў без увагі паводзіны свайго дружбака. «Рэшт!» — сказаў сабачку з дакорам. І сабачка адразу павініўся: прыхінуўся да хлопчыка бліжэй, прыціснуўся да зямлі, склаў вушы. Але ў адносінах да мяне выгляд у яго застаўся смелы і незалежны. «Не

чапай нас,— здаецца, казалі яго гузікі-вочкі,— і мы цябе не зачэпім. А зачэпіш — дык вунь які ў мяне ёсць надзейны абаронца».

— Гэта во мой Казік, сынок...— казаў між тым мужчына далей.— А сам я ляснік тутэйшы... Ну, і Рэшт з намі...

Мужчына пагладзіў па галаве хлопчыка і кіўнуў вачамі ў бок сабачкі. Той весела завіляў хвастом і прыжмурыўся ад задавальнення.

Праз хвіліну я ўжо сядзеў у гурце маіх новых знаёмых, як іхні даўні дружбак. У некалькіх словах расказаў, як і чаго трапіў сюды і як нечакана для мяне прамінула ноч...

Казік, калі я скончыў гаварыць, ніякавата глянуў на бацьку і як бы крыху зачырванеўся. Гэта ўбачылася нават на яго да чарнаты абпаленым на сонцы твары. Ляснік, здавалася, не заўважыў позірку свайго сынка, але між тым усміхнуўся.

— Быва-а-е...— расцягваючы слова, сказаў ён. І раптам шырокай даланёю абхапіў Казікаву галаву і пяшчотна прыхінуў да сябе.— Бывае, а, Казік?..— гарэзна спытаў ён, зноў весела ўсміхаючыся. На што Казік таксама расплыўся ўсмешкаю і глыбей нырнуў пад бацькаву руку. Было відаць, што яны вельмі добрыя сябры і што калісьці, мусіць, нешта такое адбылося і з Казікам, прыкладна, як са мной... Рэшт пры гэтай сцэне, безумоўна, не застаўся абыякавы: ён хоць і не выгукнуў свайго «йяа», але ўвесь час задаволена варушыў абаранкам-хвосцікам і раз-пораз бліскаў гузічкамі-вочкамі то на Казіка, то на лесніка.

А ляснік, ужо загасіўшы ўсмешку ды па-ранейшаму трымаючы Казіка пад сваім крылом, загаварыў раптам неяк узбуджана, нават узнёсла:

— То ж з Казікам маім аднойчы было... Зямля тут у нас такая, ці што?.. Можа, лясовыя пахі такія моцныя?.. Пайшоў аднойчы Казік у лес...— Казіку, мусіць, было не вельмі прыемна тое, пра што распачаў бацька, дык ён памкнуўся вызваліцца з-пад бацькавай ласкі. Але ляснік са словамі «не саромся, Казік, бачыш, і ў дзядзькі ж так...» пагладзіў яго па чупрыне і працягваў: — Мы не баімся, калі ён адзін у лесе ходзіць... Бо лес Казік ведае не горш за мяне... Але як пайшоў Казік, дык і сонца зайшло, і ноч настала, а яго ўсё няма... Занепакоіліся мы... Ці мала што... У нас жа і з мядзведзем спаткацца не дзіва...

Здаралася... Ды яшчэ паглядзелі — і Рэшта няма... Як у ваду абодва...

Ну, пачалі мы іх шукаць па лесе... Паверце, ночачку ўсю праблукалі — і ані знаку... Ды раптам успомніў я пра Казікаву схову адну... вуду ён там сваю хаваў... Зазірнуў...— пуста... Ну, тады ўжо ўсё зразумеў. Кінуўся на Чырвоны груд, мясцінка ў нас тут ёсць непадалёку —ямінка ўтварылася там на рачулцы, вірок маленькі... Унадзіўся наш Казік туды хадзіць, рыбу вудзіць... Не дазвалялі мы яму часам, таму і вуду хаваў... Прыбягаю — аж так і ёсць... Спіць мой Казік пад соснамі, як анёлачак... І Рэшт ля яго... Прыхінуліся адзін да аднаго і спяць...

Ці трэба казаць, што і Казік і Рэшт адчувалі сябе пры гэтым апавяданні не надта каб асабліва. А найболей Рэшт. Уцягнуўшы галаву ў плечы, аж прыліп да зямлі. Як быццам ён быў самы вінаваты ў тым, што яны там з Казікам заснулі. Але ляснік, скончыўшы гаварыць, пападшчыў і Казіка, і Рэшта, і гэта іх шчыра падбадзёрыла. Падбадзёрыла настолькі, што Рэшт найгучней за іншыя разы выгукнуў сваё звонкае «йяа», даўшы ўсім зразумець, што хоць, можа, ён і зрабіў якую памылку, але заўсёды будзе са сваім сябрам, каб яго ахоўваць...

Разам са сваімі нечаканымі дружбакамі перажыў іхняе колішняе здарэнне і я. Няцяжка было ўявіць, што дзеелася ў сэрцы лесніка, пакуль ён шукаў па лясных закутках гэтага непаседлівага свайго ўлюбёнца Казіка...

Але, безумоўна, найбольш усхвалявала мяне ўпамінанне пра Казікаву вуду і ямінку-вірок на рачулцы... На Казіка я цяпер глядзеў ужо не як на простага хлопчыка, у якога, як і ва ўсіх яго аднагодкаў, жыве ў памкненнях прага да дзіцячых прыгод... Не... Я бачыў у ім будучага свайго брата-вадроўніка, чалавека з непатольным паглядам удалячынь. Бо калі ўжо на такой маленечкай рачулцы адшукаў ён дарагую для сэрца ўцеху, дык не можа быць, каб гэтая ўцеха не заваражыла яго сэрца назаўсёды...

Хутка ад Казіка і яго бацькі я даведаўся і пра тое, як знайсці Казікаву ямінку-вірок і якая дзівосная рыба Казіка там прычаравала. «Дзядзечка,— з захапленнем апавядаў Казік,— яна такая быстрая, такая быстрая... ну, няйначай, маланка... Ледзьве ўпадзе на ваду чарвяк... блісь! — і ўжо яе няма... Але трэба, дзядзечка, затойвацца... трэба падкрасціся, каб нават шолаху не было... Бо яна дужа асцярожная і зыркая... А як возьмецца — дык от дужая, адразу выцягці і не думай...» Так Казік, захлі-



Ілья Гурскі, Кастусь Кірэенка і Янка Брыль
на Трэцім з'ездзе пісьменнікаў СССР.
Масква, 1959 г.



Кастусь Кірэенка сярод студэнтаў
у час Дэкады беларускай літаратуры ў Таджыкістане.
1965 г.

паючыся ад радасці, расказваў, і я адразу зразумеў, што то за рыба. Безумоўна, то рэдкая для нашых краёў жыхарка крынічлівых рэчак — стронга. Калі я сказаў, што гэта, мусіць, стронга, Казік усхвалявана закрычаў: «Ага, ага, дзядзечка, стронга, стронга!..». І я пасля таго паглядзеў на Казіка ўжо з вялікай павагай. Бо сам я стронгі яшчэ ніколі не лавіў; чуў пра яе многа, нават неаднойчы спецыяльна на стронгу паехаць збіраўся і вуду спецыяльную зрабіў, але так на стронгавае паляванне і не трапіў...

Даведаўся я і пра тое, як завецца мая рачулка. «Тут, у нашым баку, яна яшчэ ніяк не завецца,— сказаў ляснік.— А далей ужо мае назву... Калі зойдзеце за шашу, то там убачыце вёсачку Жардзяжжа. Дык і рачулку там ужо так называюць — Жардзяжжа, і ўжо так яна і бяжыць аж у самую Дзвінасу...»

Добра і прыемна мне было сядзець з Казікам і яго бацькам і такім дасціпным іхнім ахоўнікам Рэштам. Але пакуль сядзелі ды гаварылі, дык сонца ўжо высока паднялося над борам. Пара было мне развітвацца з маімі новымі сябрамі. Ляснік, мусіць, адразу заўважыў на маім твары адбітак той заклапочанасці, якая заўсёды находзіць на чалавека, калі ён думае пра сваю дарогу.

— Дык, можа, да нас завіталі б, а? — нясмела спытаў ён.— Хоць на хвіліначку?.. Во зусім жа блізка... Падсілкаваліся б хаця...

— Йяа! — весела і прыязна абясціўся ўслед за леснікам Рэшт, і Казік, я заўважыў, таксама нешта хацеў сказаць, ды, мусіць, пасаромеўся. Але ўсім выглядам сваім паказваў, што яму таксама хацелася б, каб я пайшоў з імі.

Я шчыра падзякаваў за дарагое запрашэнне, але ў вёску не пайшоў — часу і так мала — і рашуча ўскінуў на плечы руксак. Але пры гэтым я мімаволі кінуў позірк на Казікава пражмо. Хоць яно ўжо астыла і пах яго быў не такі рэзкі і прыцягальны, але ўсё ж то было ні з чым непараўнанае пражмо... У час размовы нешта яно не так кідалася ў вочы; а зараз — ну хоць ты заплач! — так захацелася пакаштаваць яго салодкіх зярнят... Хоць забудзь усякі сорам ды і папрасі ў Казіка некалькі абсмажаных каласоў...

Але Казіка не трэба было прасіць, ён, мусіць, заўважыў мой позірк і зразумеў мой настрой. А можа, і без гэтага сам захацеў зрабіць тое, пра што я так усхвалявана падумаў... Ён працягнуў мне пражмо і сказаў пад вясёлыя

воклічы Рэшта: «Дзядзечка, вазьміце на дарогу... Я яшчэ напра́жу...» Ляснік задаволена заківаў галавою: «Вазьміце, вазьміце...» І я не мог утрымацца — абняў Казіка...

Па пясчанай дарожцы мы спусціліся да сівых валуноў, адкуль так пяшчотна чулася і закалыхала мяне ўчора рачулкавае рэха. Валуны па баках абраслі мохам, але зверху былі добра выслізганыя — ужо, мусіць, нямала часу яны выконвалі ролю кладкі; па іх адзін за адным мы і перайшлі на другі бок рачулкі. Ляснік як быццам прачытаў мае думкі, бо, калі мы спыніліся, каб развітацца, загаварыў:

— А можа, вам спатрэбіцца зноў калі пабываць у нашых мясцінах?.. Дык, завітаўшы, не абмінайце нас... Спытайце ў Востраве лесніка Антона, любы пакажа... Праўда, Казік?..

Казік зачырванеўся, кіўнуў галавою. І Рэшт зноў абясціўся: йяа, йяа!..

Забягаючы наперад, скажу, што пасля не адзін раз цягнула мяне ў гэты лясовы куток, на гэтую рачулку. І неаднойчы я тут пабываў — і адзін, і са сваімі сынамі. Многа папахадзіў з леснікам па запаветных яго сцяжынках. Многа чаго даведаўся — і светлага, і журботнага... Даведаўся, што дворышча тое, каля якога я так нечакана заснуў і праспаў летнюю ноч, было калісьці сядзібай Антонавага бацькі, таксама патомнага лесніка... Даведаўся, што калі закатавалі і спалілі Дальву, то па дарозе назад завіталі карнікі і на леснікову сядзібу... Сённяшняму лесніку было тады ад нараджэння прыкладна столькі ж, як зараз яго Казіку. І застаўся ён жывы толькі таму, што маці схапіла і выкінула яго праз акно ў гушчар язміну. Крыкнула: «Бяжы»,— і ён пабег... Ззаду чуліся стрэлы, а ён бег і бег па лесе... Калі сціхла страляніна, ён падкраўся да свае сядзібы і ўбачыў гарачае папялішча... Два дні і дзве ночы не адыходзіў потым адсюль, спадзеючыся пачуць голас маці ці бацькі... Дарэмна... Знайшла яго ў лесе родная цётка з Вострава, у яе ён і вырас...

Даведаўся я таксама, чаму ляснік ні словам не абясціўся пра гэта пры першай сустрэчы... «Ведаеце, бываць тут бываю часта... цягне ўслухацца ў цішыню... галасы родныя пачуць... А гаварыць пра той жах цяжка... Не хочацца нешта тое балючае вярэдзіць...» Праўда... Я разумеў лесніка... Мне і самому тады было б, мусіць, цяжка гаварыць пра жахлівае знішчэнне Дальвы — настолькі перахваляваласа душа каля дальвінскага помніка...

Ляснік і ўся яго сям'я — жонка Таццяна, старэйшая за Казіка дачка Волька, ну і, само сабой, Казік,— сталі для нас найдаражэйшымі сябрамі. Сыны мае, можна сказаць, выраслі разам з Казікам. Мы нават і назву лесу тутэйшаму светламу далі — Казікаў лес...

Але тое было потым, пасля... А зараз я паціснуў руку лесніку і Казіку, кінуў развітальнае слова Рэшту («Ну, трымайся, Рэшт!») і нырнуў у чаромхавыя зараснікі па цячэнні рачулкі. За спіной у мяне яшчэ колькі часу чулася залівістае Рэштава «йяа» — мусіць, Рэшт спяшаўся выказаць свае ўражанні аб нашай сустрэчы,— а потым зноў з усіх бакоў загаманіла звонкая баравая цішыня.



Чаромхавая гушчэча на берагах рачулкі скончылася гэтак жа рэзка, як і пачалася. Колькі хвілін таму назад я ступіў у яе проста з дарожкі, на якой засталіся мае новыя сябры. А тут яе буянне спыніў досыць узвышаны сухадол, на якім то дробнымі гуртамі, то паасобку ўзвышаліся магутныя сосны.

Рачулка мая, пакуль яна цякла пад сховай чаромхаў і пераплеценага з імі алешніку, мела берагі нізкія, амаль забалочаныя. Дзе і падступішся, дык нічога цікавага не ўбачыш: у густой цямравай засені рачулка выглядала як бязладна кінуты кімсьці і затаптаны ў гразь паясок. Толькі дзе-нідзе ажывала, узбуджана вырываючыся з-пад пераплыціўшых яе каранёў. Але затое як яна змянілася, калі выскачыла на сухадол! Няйначай, адчуваючы шчасце ад таго, што зноў выбілася пад сонца, яна гарэзна бліскала зваблівымі ўсмешкамі, смела кідалася на камяні, узбівала вакол іх празрыстыя, вясёлыя воблачкі. Тут усцяж досыць абрывістых пясчаных берагоў амаль суцэльнай лініяй ніціліся з зямлі вясёлыя прамяністыя бурбалкі. То білі крынічкі. І рачулка, з кожным крокам набіраючы сілы, бурліва свідравала то ў адным, то ў другім беразе пясчаныя пячуркі, якія дзе-нідзе пачыналі выглядаць ужо як сапраўдныя вірочкі.

Уся такая сонечная краса ляснога закутка — і гэтыя высокія меднаствольныя сосны, і вясёлая рачулка, і сугалоссе птушыных спеваў — так і вабіла спыніцца на сухадольным беражочку, пасядзець, палюбавацца навакольнай лагодай. А яшчэ ж так рупіла мне Казікава пражмо! Я і так

ужо, на хаду, не адзін раз вылушчваў і кідаў у рот салодкія яго зярняты. Не цярпелася хутчэй паласавацца дарагім пачастункам. Але я рашуча адкінуў гэтую спакусу. Мне трэба было абавязкова дайсці да Казікавайямінкі, дзе ён удачліва паляваў за стронгай. Хоць бы ўбачыць тую стронгу! І я не спыніўся пад званлівымі соснамі і рушыў далей.

Скончыўся прамяністы прасцяг сухадолля, зноў рачулку на некалькі часу праглынулі густыя зялёныя шаты хмызнякоў. І на супрацьлеглым беразе, і тут, на маім, аж да самай вады збегліся з высокіх баравін купы арахоўя, крушынніку, сасновых маладнякоў. У асобных мясцінах ледзьве я прадзіраўся праз іх сплячэнне. І мог бы збіцца з кірунку, калі б рачулка не давала пра сябе знаць то задзірлівым плёскатам плыні, калі яна адольвала якуюнебудзь перашкоду, то лагодным званочкам новай крынічнай бруі.

Але пастунова гушчарнік пачаў рассоўвацца, у вочы ўдарыла святло праменнай прасторы. Змардаваны ў духатлівай гарачыні зараснікаў, выскачыў я на прывольны лясны груд і застыў ад шчаслівага здзіўлення. Такая краса адкрывалася вачам! Да рачулкі з глыбіні бору спускалася расквечаная ўсімі колерамі лета ладная палянка, на якой, яе замыкаючы, урачыста ўзвышаліся па-над самай рачулкай тры велічна-гонкія сасны. Якіх толькі кветак не было на паляне! Чыстыя і палкія, асвечвалі паляну кветкі-зоркі — ну, няйначай, зляцелі сюды з начнога неба. І, нібыта ведалі, што застануцца на зямлі назаўсёды,— прынеслі з сабою і кавалачкі блакіту: ён весела свяціўся паміж імі ў ліловых і сініх галоўках паўночніку і лясных званкоў. Бліжэй да рачулкі траплялі на вочы задумлівыя зязюльчыны слёзкі і рослыя рамонкі. А чым вышэй — дык паляна аж гарэла ад буйной квецені крываўніку, і скрыпеню, і ажно цэлых палосаў высознага гарыцвету. Дух займала ад убачанага полымнага хараства, і я адразу зразумеў, што выйшаў на Чырвоны груд, дзе калісьці прыселі адпачыць ды і заснулі Казік з Рэштам. Безумоўна, то было так — бо вунь і яна, тая Казікава ямінка-вірок: адсюль, дзе я выйшаў на паляну, бачылася бурлівае кіпенне вады крыху вышэй трох соснаў. Там, у тым месцы, супрацьлеглы бераг рачулкі зарос суцэльнай сцяной дубнякоў. Хутчэй за ўсё калісьці там стаялі і дубы-волаты, бо, мусіць жа, то ад іх засталіся шырокія ссівелыя пні. І, напэўна, сённяшнія маладыя карані перапляліся пад берагам з не-

жывымі, але моцнымі каранямі былых асілкаў і нейкім чынам перапынялі вольны ход рачулкі, таму яна і вірылася як апантаная. Але паступова вада супакойвалася, аціхала, і хоць я яшчэ не мог убачыць, як яна цячэ далей, але адчуваў, што недзе там павінен быць плёс, дзе рачулка пасля сваёй барацьбы адпачывае.

Памятаючы Казікаў наказ — «але трэба, дзядзечка, затойвацца... трэба падкрасціся, каб нават шолаху не было»,— я амаль паўзком дасяг трох соснаў і з прыемнасцю апусціўся на сунічлівы дол пад іх ценем. Суніц пад соснамі было многа, даспелыя, духмяныя, яны так і прасіліся, каб на іх звярнулі ўвагу. Упершыню за ўсю доўгую раніцу я ўспомніў, што мне хочацца есці. Але я пакінуў суніцы на потым, бо ў руках у мяне было Казікава пражмо. Ды і асцярогу варта было захоўваць — я ж марыў усётакі хоць бы зірнуць на дзікую стронгу. А пачнеш убівацца за тымі суніцамі, то ці бераг гайданеш, ці кінеш цень на рачулку. А тады ўжо не спадзявайся — не пакажа сябе пільная стронга.

Сосны на самым краі берага далі свой ахоўны цень некалькім кусцікам ядлоўцу. Да іх я і падпоўз, расхінуў шорсткія галінкі і ўбачыў перад сабою не просты рачны вірок, а сапраўдны рачны цуд. Як я і меркаваў, рачулка, гнеўна бунтуючы пад дубняковым берагам, выбіла сабе адтуль і да соснаў досыць шырокую і глыбокую яміну. Утварыўся плёс: цяністы, вірлівы — з таго боку і сонечны, залацісты — тут, каля мяне. Пад супрацьлеглым берагам вада была цёмная, зялёная, яшчэ часам кіпела бурбалкамі, не бачылася ёй дна. А тут, да соснаў, яна ўжо кацілася лагодная, свяцілася золатам пясчанай водмелі, пераліваласе празрыстымі струменямі. Якія яшчэ патрэбны ўмовы, каб тут любіла вадзіцца нават самая асцярожная рыба?! Малайчына, Казік! Я цяпер ужо зусім не сумняваўся, што гэта і ёсць яго славутаяямінка-вірок. І нават пазайздросціў Казіку: я дык вось пабуду тут колькі хвілін ды і пайду, магчыма, назаўсёды, а Казік амаль кожны дзень мае магчымасць пабываць на сваёй чароўнай рыбацкай мясціне...

Успомніўшы Казіка, я нарэшце ўзяўся за яго падарунак. Як калісьці ў маленстве, скінуў на дол картуз, пахукаў на пражмо, церануў пругкімі каласамі аб далоню. Буйныя падсмажаныя зярняты пахка пасыпаліся на дно картуза. Церануў яшчэ раз, і яшчэ, і яшчэ; пучок звязаных сцяблінай каласоў стаў зусім лёгкі, а зярняты ўсё

сыпаліся, і гэта, як я ўспомпіў прыкмету, сведчыла, што ніва, з якой наламана пражмо, дасць багаты і шчодры ўраджай... Душа колішняга сялянскага падлетка радасна абудзілася ўва мне, і я доўга не спыняў сваёй прыемнай працы — так хацелася, каб зярняты сыпаліся з пражма без канца, абяцаючы людзям, што іх вырасцілі, бясконцую шчодрасць...

Але нарэшце каласы ўсё ж зусім апусцелі. Перасыпаючы зярняты з рукі на руку, я пачаў іх правейваць, дзьмухнуў — і лёгкія асцюкі аддзяліліся ад зярнят і ўзняліся ў паветра. Адзін асцюк, мусіць, з зярняткам, праляцеў ладную адлегласць і бясшумна ўпаў на ваду. І тут адбылося тое, чаго я так прагна чакаў: з цёмнай глыбіні выбліснула на жаўтапёс ружова-калёрная жывая бліскавіца, секанула па асцюку, адчула, што спадманулася, што гэта не матылёк і не мушка, і маланкава знікла, як быццам і не з'яўлялася зусім... Стронга... Мала хто з рыбакоў можа пахваліцца, што многа калі сустракаўся з гэтай найпрыгажэйшай рыбінай нашых рэк... Іншыя нават не ведаюць, што яна ў нас такая ёсць... Бо не кожнаму ўдаецца пабываць у мясцінах, дзе яна жыве. У такіх вось, можна сказаць, няходжаных лясных закутках, на рачулках, што бяруць свой пачатак і набіраюць сілу з самых чыстых сцюдзёных крыніц... Ды і выявіць стронгу не так проста: не на любую прынаду кінецца, не па любому спадману пакіне таемную схову...

Пазней, калі я неаднойчы пабываў у Востраве і назіраў за жыццём рачулкі разам з Казікам, нямала было ў мяне шчаслівых са стронгай спатканняў. На кручок падманьваў, праўда, рэдка, а калі і траплялася, дык стараўся як найхутчэй выпусціць красуню туды, адкуль прыйшла. Бо нешта заўсёды калацілася сэрца, калі бачыў, як пачынае млець у руках яе зграбнае пругкае цела, як меркнуць на сонцы светла-аранжавыя і сінія зоркі на ёй, якімі так красамоўна надарыла стронгу прырода... Але затое і прыгажосцю, і дасціпнасцю, і спрытам стронгі пазахапляўся дамолі. І неаднойчы цешыўся весела, калі ўдавалася перахітрыць хітруху, пацвяліўшыся з матыльком так, каб яна аж ірвалася за ім, узлятаючы над вадой, паказваючы ўсю сябе, прывабную, зіхатлівую... Падкінеш матылька ды і выхапіш яго з вады, і не можаш утрымацца ад смеху, калі скочыць яна ў паветра, а тады сярдзіта бліснe назад, узбурліўшы спакойную рачулку... Але для таго, каб так сталася, нямала давялося і па берагах папоўзаць, і

затойвацца, не дыхаючы, і ў расе купацца, і на сонцы патыліцу смаліць... Словам, прайсці ўсю навуку палявання за стронгай... У той жа дзень я яшчэ не меў такой навукі... І таму стронга, што кінулася па асцюк, была тады і першай для мяне, і апошняй. Колькі ні пстрыкаў потым асцюкамі на ваду, а стронга больш сябе не паказала. Мусіць, усё ж заўважыла небяспеку...

Ну што ж, для першага разу і гэта было багаццем — убачыў стронгу, штось уведаў пра яе нораў, а чаго яшчэ трэба рыбаку? Ужо не хаваючыся, я добра правеяў выцертыя з пражма зярняты і, цэлымі жменямі закідаючы ў рот, прагна падсілкаваўся салодкім пачастункам. Еў і дзякаваў Казіку за такую асалоду. А тады ўжо назбіраў у картуз суніц, заеў адну смакату другою і пачаў збірацца ў дарогу. Цяпер мне, бадай, ужо нечага было рабіць на рачулцы, я ўжо ведаў пра яе амаль усё, што хацеў. Асядлаў сябе рукзаком, развітаўся з Казікавай мясцінай, з соснамі, з Чырвоным грудом і рушыў праз лес напрасткі.

Рачулка, хоць я цяпер і не трымаўся яе берага, усё ж, як быццам клапоцячыся пра мяне, тады-сяды падавала свой голас. Я шчыра і нават з радасцю лавіў яго і з ім упэўнена крочыў праз бор. Але хутка я выйшаў на лясную дарогу. Па тым, як яна была ўезджана машынамі, зразумеў, што дарога якраз туды, куды мне трэба,— на шашу. Так яно і сталася. Неўзабаве я быў непадалёк ад таго месца, адкуль пачынаў знаёмства з рачулкай. Мінуў вёску Жардзяжжа, лес скончыўся, пайшло прывольнае жытнёвае поле, а за ім — шырокая лугавіна. Тут я зноў спаткаўся са сваёй рачулкай. Падышоў да моста, на дошчачцы прачытаў: р. Жардзяжжа, перайшоў на правы яе бераг. Засталіся збоку вёскі Пячное і Харошае, зноў пачаўся лес, і зноў вяла мяне рачулка праз усё новыя і новыя, і ўсё па-свойму такія адметныя баравыя закуткі. Спінінгам, які быў са мною, на невялікіх вірках рачулкі, хоць яны і выглядалі часам ужо досыць поўнымі, мне пакуль што не было чаго рабіць. Але ў мяне была цяпер мэта — дайсці з рачулкай да Дзвінасы, у якую, як мне сказаў ляснік, яна ўпадае. Бо так верылася ўсім сэрцам, што з адкрытай мною лясной крынічлівай чараўніцай дайду да чагось яшчэ больш казачнага, яшчэ больш прывабнага для вандроўнай душы.

## ДЗВІНАСА

Хто засыпаў пяскамі
Гэтыя старыя акопы?
Хто перавіў верасамі
Закаржэлыя раны зямлі?
Хто ўзнёс па-над імі
Прываблівы гоман сосен
І заклікальную, звонкую
Цішу лугоў?
Час засыпаў пяскамі
Старыя акопы.
Час перавіў верасамі
Закаржэлыя
Раны зямлі.
Час узнёс па-над імі
Прываблівы
Гоман сосен
І заклікальную, звонкую
Цішу лугоў...
Усё зрабіў час...

І яшчэ:

Дружа мой,
Дарагі мой паплечнік,
шчыры вандроўнік,

Адкажы,
Ці не было з табой часам
такое ж, як і са мной:

Ці не стаяў ты знямелы
Ад радаснага захаплення,
Адчуваючы,
што хочаш нешта выказаць,
Ды не можаш знайсці слова,—
Забыўшы,
Што тое слова
не трэба шукаць,
яно заўсёды жыве ў душы:
Самае звычайнае, самае святое —
Якім прызнаюцца ў каханні...

І яшчэ было хваляванне, і яшчэ...

Калі па цячэнні рачулкі Жардзяжжа выйшаў я на бераг Дзвінасы, то нешта такое невымоўнае адбылося ў сэрцы, ад чаго я раптам зусім забыўся, хто я такі і чаму блукаю з вудай па рэках...

Здаецца, і нічога ж незвычайнага не кідалася тут у вочы: як і многа дзе раней, гаманілі высока над галавою вершалінамі сосны, пярэсціла кветкамі пойма, дзе імклівa, а дзе, нібы ў задуменні, плынiла, хаваючы свае таямніцы, вада... А чаму і адкуль душу запоўніла пачуццё трапяткой святасці — нібы ў салодкім палоне бясконца ўрачыстай і

шчымліва-трывожнай радасці, ва ўладзе незразумелага, але разам з тым настойлівага і ўпэўненага чакання якогась для сябе адкрыцця?..

Праз некалькі часу, па шляху на Радзіму з далёкай вандроўкі з-за акіяна, давялося мне спыніцца ў Парыжы і з пашанай да Віктора Гюго апынуцца ў саборы Парыжскай богамацеры... Ішла ўрачыстая меса, гучалі трубы аргана, спяваў хор... Было нешта заклікальна-ўзнёслае ў пышным рытуале літургіі, але і нешта не пасавала маім пачуццям, нешта зусім для мяне далёкае блукала над галовамі ўдзельнікаў абедні... А можа, яно было далёкае не толькі для мяне? Можа, і сэрцы парыжан разам з маім не знаходзілі чагосьці ў гуках заспакоенай бахаўскай месы — якогась такога неназоўнага ўзрушэння, якойсьці такой ноты, што здольная перавярнуць усю душу?.. І раптам высокі арганны голас, нібы яго спыніла цяжкая перашкода, з рокатным уздыханнем пачаў пра нешта пытаць... І ў мяне пытаў, і ва ўсіх, хто тут стаяў побач,— пытаў настойліва, патрабавальна, як бы просячы яго ўратаваць... І тады я адчуў, як пачынае запаўняцца полымем маё сэрца, і зразумеў, што не змагу адсюль выйсці, пакуль не знайду ў сваёй душы на тое пытанне адказ...

Усе твары парыжан, мне здалося, павярнуліся ў тую хвіліну да мяне. І пад іх гарачымі позіркамі, пад рокатны голас аргана перада мной раптам паўсталі зраўняныя пяскамі на беразе ракі старыя акопы, перавітыя верасамі і дзеразою закаржэлыя раны зямлі; убачылася, як бурна цягнуцца ў рост дзябёлыя парасткі вербавых і чаромхавых пнёў і як пяшчотна падгортваецца пад іх чыстая, бы сляза, рачная плынь; убачыўся трапяткі і светлы лугавы прастор і бясхмарнае неба над ім; і пачулася... пачулася, як велічна грыміць у гэтым прасторы непаўторным заклікам берасцяная труба...

Пастушыная труба ўсё гучала і гучала, і аргана як быццам не стала, і не стала ні пышнай літургійнай скутасці, ні самога Парыжа. А былі толькі бязмежнае прыволле зялёных абсягаў, высока ў небе пяшчотнае летняе сонца і людзі пад ім, што прагнулі радасці і шчасця. І я стаяў сярод гэтых людзей і, не могучы вымавіць ні слова, крычаў: «Людзі мае, людзі мае, добрыя людзі! Ці знаеце вы, што за зямля адкрываецца перад вамі? То ж зямля, дзе не на адным світанку гарэлі ў пякельным агні Эсмеральды, дзе мільёны душ чалавечых ахвяравалі сабой дзеля бясконцай і шчодрай, адвечнай хады жыцця. Угледзьце-

ся, людзі добрыя, і ўслухайцеся сэрцамі ў гэту зямлю. Пагляньце, колькі красы ў ёй і дужасці для свету — для кожнага, для кожнага, хто прагне спатоліць сасмяглую ў нягодах душу!..»

Так, не могучы вымавіць ні слова, крычаў я парыжанам, і хоць не мог вымавіць ані слова, а здалося, што парыжане зразумелі, пра што я хацеў ім сказаць. Здалося — вочы іх пільна глядзелі ўсе на мяне... І здалося, што разам са мною яны з хваляваннем упершыню выходзяць на бераг наскае рэчкі Дзвінасы... Яны вымаўляюць прыгожае дзявочае імя — Дзвінаса — і з несхаванай радасцю ківаюць галовамі: ага, ага, то ж не менш мілагучна і пяшчотна, чым — Эсмеральда; яны разам са мною слухаюць, як арганна пяе ў пастушынай трубе бяроста, і суладна згаджаюцца вачамі са мной: ага, ага, арган прагучыць у месе і змоўкне, а музыка дарагой зямлі не сціхне, не замоўкне ні на адзін міг праз жыццё... Ага, ага, не сціхне, не змоўкне, пакуль будуць жыць у людскіх сэрцах самаахвярнасць і мужнасць, здольныя ўратаваць яе і ахаваць...

Вось так далёка ад Радзімы зноў я перажыў сваё першае спатканне з Дзвінасой...

*

Дзвінаса...

Напэўна, многія з нашых рыбакоў-аматараў ніколі і не чулі пра такую раку. Нават і тыя, хто наведваў з вудамі прыгожае Плешчаніцкае вадасховішча, не ўсе ведаюць, што яго ўтварыла для іх асалоды сціплая, малапрыкметная ў пачатку свайго цячэння Дзвінаса.

Усяго толькі каля пяцідзесяці кіламетраў працягваецца яе шлях ад той крыніцы, што выбіваецца з зямных нетраў паміж вёскай Камень і Плешчаніцамі, да таго міжбаровага прыволля, дзе радасна сустракае яе сваёй бурнай плынню імклівая Вілія.

Усяго каля пяцідзесяці кіламетраў! — калі з добрым настроем, дык рыбаку, які прагне хутчэй пазнаёміцца з усё новымі і новымі мясцінамі, няцяжка адолець такую адлегласць за адзін чэрвеньскі дзень. Але, магчыма, якраз таму, што цячэнне гэтае ракі такое кароткае,— можа, якраз таму прырода і вырашыла аддаць ёй усё найлепшае з назапашанага свайго хараства. На такім нядоўгім шляху яна ўліла ў Дзвінасу дзесяткі лясных рэчак, ручулак і раўчукоў і незлічонае мноства празрыстых рукавочкаў ад

нястомных крынічак і крыніц. І таму, набліжаючыся да ўпадзення ў Вілію, Дзвінаса, хоць і не мае выгляду ракі вялікай, але ўсцяж дэманструе сілу і ўпэўненасць сваёй хады: ці на мелізне пясчанага перакату, ці на цёмнай глыбіні — усюды яе плынь імкне смела, упэўнена, амаль ганарліва. Як бы хоча сказаць: я не магу быць інакшай, паверце, не магу, бо тое, што мяне жывіць,— не мае ні мяжы, ні канца!..

Непаўторна-дзівоснай аздобай Дзвінасы з'яўляецца яе пойма. Яна то шырока і прывольна разлягаецца паміж высознымі, амаль эпічнымі ў сваей велічнасці сасновымі барамі, то звужаецца, калі ад гэтых бароў, як бы не могучы ўтрымацца перад спакусай пакланіцца Дзвінасе, бягуць да яе рослыя дубы, гурты чаромхі і маладыя хмызнякі. І блакіт неба, здаецца, не на адной вышыні над ракою: то ён зніжаецца там, дзе яе абступае няўрымслівая зяляніна, то высока ўскідваецца над прасторай яе лугоў. І нельга не залюбавацца, наглядаючы, як пад зменлівым небам мяняе свае адценні і рака: то яна жмурыцца ў зялёных позірках, то загараецца мільёнамі блакітных усмешак, то, выскачыўшы на шырокі абсяг, уся аж зальецца бясконцай прамянёвасцю святла... А яшчэ над гэтай поймай — звонкая, заклікальная гаючасць цішыні... Цішыня такая, што чутна, як недзе на другім беразе чмель праціnae сабе хабатком дарогу да салодкага соку кветкі. Як лугавая курачка асцярожна расхінае перад сабою спяблінкі асакі. Нават як прамень шалясціць між лісця — прабіваецца палашчыцца на воднай плыні... Але яна і такая, гэтая цішыня, што чуеш, як сэрца тваё грукае штохвілі больш настойліва,— і супакойваючыся, і разам з тым гукаючы не спыняцца, ісці ўсё наперад, каб хутчэй даведацца, а што ж там далей, а што ж далей...

У той свой першы раз, калі па зацягнутых пяскамі і дзеразою старых акопах упершыню выйшаў я на Дзвінасу і пачуў пастушыную трубу, то не мог утрымацца, каб не пабачыць, а хто ж там так улюбёна далучае да звонкай цішыні наваколля свой берасцяны спеў... Бо і сам калісьці пастушком-падлеткам быў такі шчаслівы, калі пад маім дыханнем ажывала спевам простая берасцяная труба... І вось я спыніўся перад ужо немаладым чалавекам... Спакойна, зусім побач, пасвіўся яго статак, ні адна пярэстая не рабіла спробы сігануць куды-небудзь у шкоду... А пастух усё трубіў і трубіў: ту-гу-ту-ту-у... ту-гу-ту-у... ту-у... гу-ту-ту-у...

— Дзень добры вам. Каму вы так?..

Пастух адарваў берасцянку ад вуснаў.

— Каму?..— спытаў здзіўлена.— А гэта?!.— І шырока павёў рукою — на раку, на яе лугі і бары, на неба над ёю.

І я засаромеўся... І хоць так хацелася хоць бы на хвілiначку папрасіць тую трубу, каб прыпасці да яе вуснамі, каб успомніць мінулае, але не пасмеў... Бо дзе яно, за якім часам, тое маё пастухоўства... А раптам не паслухаецца цяпер мяне бяроста?.. Раптам выльюцца з яе гукі, якія парушаць такое любае сугалоссе гэтай чароўнай зямлі...

*

Калі рыбак адкрывае для сябе новую вабную мясціну, у яго сэрцы, як правіла, пачынаюць змагацца два пачуцці. З аднаго боку, яму хочацца, каб да пары да часу ніхто не ведаў пра яго запаветны куток. І не з-за боязі, што вось нехта прыйдзе і возьме сабе тое, што быццам належыць яму. А хутчэй — таму, што хочацца рыбаку як мага больш сам-насам пабыць са сваім, як яму здаецца, яшчэ нікім не зведаным хараством і багаццем зямлі; сам-насам пазнацца з самымі таемнымі праявамі напатканага ім дарагога куточка. Як у закаханага — абуджаецца цнатлівая прага ахаваць ад чужых вачэй знойдзенае шчасце.

А з другога боку, радасць першаадкрыцця, хвалюючая асалода ад усяго ўбачанага і перажытага так перапаўняюць душу, столькі гордасці за свой край прыходзіць у сэрца, што рыбак, як і кожны чалавек, не можа доўга насіць гэта схаваным у сабе; як найхутчэй карціць яму падзяліцца з кім-небудзь сваімі ўражаннямі, сваёй таямніцай.

Гэтак было і са мною.

З нецярплівасцю чакаў я сустрэчы з сябрамі, вярнуўшыся з Дзвінасы.

Усё стаялі перад вачамі стозвонныя векавыя бары, снілася Дзвінаса — з такімі драбніцамі, што дзіву даваўся: нават як снавалі ля ног мурашы, як сойка крычала, як выкідваўся за машкарою ялец... Дзвінасу я лічыў сваёй сапраўднай знаходкай... Захаваная ў плешчаніцкіх лясах, яна і на адлегласці свяцілася перада мною, як нікім не кранутым, не заплямлены ні хцівай думкай, ні хіжымі рукамі самацвет... Свеціцца, смяецца, пераліваецца ўсімі колерамі вясёлкі; уся такая адкрытая, чысцюткая, на

кожнай кропельцы — свая вабнасць, сваё сонца, свая любасць, свая цеплыня...

Першым маім сябрам, з якім я падзяліўся радасцю вандроўнай знаходкі, быў пісьменнік Мікола Ткачоў. Многія людзі яго добра ведаюць: і як аўтара таленавітых твораў пра герояў партызанскай вайны, і як выдатнага дзеяча нашай літаратурнай і выдавецкай справы, і як проста беззакорна-светлага чалавека. Але для мяне ён яшчэ — і мой шчыры прыхільнік па вандроўных паходах. Прызнаюся, мала давялося сустракаць такіх людзей, як мой Мікола,— якія б, як і ён, пачуўшы пра магчымасць пабачыць красу новых рачных берагоў, адразу былі б гатовыя рушыць у дарогу. Я добра ўяўляў сабе, з якой натхнёнасцю сустрэне ён расказ пра Дзвінасу. І не памыліўся. Доўга ён войкаў, як быццам крыўдаваў, што вось, маўляў, як яму не шанцуе: я ўжо такую любату пабачыў, а ён жа дык яшчэ не... Тады спытаў:

— І ты, значыцца, нічагусенькі там і не злавіў?..

— Не...

— Рука не паднялася?..

— Не...

— Тады едзем!.. Едзем!..

Праз які дзень мы выйшлі з сябрам на шашу за Мінскам, спынілі машыну, што кіравалася на Бягомль. Праз Лагойск і Плешчаніцы даехалі да Жардзяжжа. Адтуль з другім грузавіком, па шашы на Даўгінава дабраліся да вёскі Горна. Вёска Горна, як і Жардзяжжа, таксама была ўжо мне знаёмая: якраз сюды, па старой лясной грэблі, выбраўся я, калі вяртаўся з Дзвінасы.

Да канца дня было яшчэ не так і блізка. А над Горнам, нібы над ім спусціўся ўжо адвячорак, трымцела празрыста-сіняя асмугласць — адбітак калераў навакольных лясоў. Гэтая асмугласць прыдавала вёсцы выраз такой малаўнічай задуменнасці, што здавалася — то зусім не вёска, хаты якой прыгожа выструніліся паабапал чысцюткай брукаванкі, а дзявочая ў зялёных строях чародка, з якой зараз загучыць задушэўная песня. Не згаворваючыся, мы доўга стаялі на пясчаным узгорку на ўскраі сасновага бору. Глядзелі на вёску...

Я бачыў, адчуваў, як уразілі, амаль збянтэжылі майго сябра першыя малюнкі нашай вандроўкі. Не вельмі гаваркі наогул, сёння Мікола ўвесь час маўчаў — і я не вельмі па гэтым непакоіўся... Бо добра ведаў: ён не загаворыць ні пра што да таго часу, пакуль не перажыве ўсё

сам, пакуль не выспее ў душы пачуццё, што папросіць сабе слова... Так прайшлі па грэблі, так выйшлі да ракі...

Над Дзвінасою ўся адкрытая вачам далеч была заліта сінявым, як і над Горнам, але яшчэ зіхатлівым, моцным сонечным святлом. Я не мог бы сказаць, чаго больш жыло ў гэтым святле: пяшчотнасці той часіны дня, калі ўсё навакольле кожнай сваёй рысачкай як быццам імкнецца ўлагодзіць сонца, каб яно не так хутка кацілася да захаду, ці той нястрымнай, пераможнай радасці зямлі, у якой заўсёды жыве вера, што сонца, усемагутнае, гордае сонца, так палымяна закахана ў яе красу... Стромыя прыбярэжныя бары, высока ўзвінаючы сосны, лёгка неслі над сабою блакітны купал неба — так-так, здавалася, ён не стаяў на месцы, а плыў над рачною поймаю разам з бялявымі хмурынкамі. І таму рака пад гэтым плыткім блакітам нагадвала чароўную сонную красуню: здарожылася і спіць сабе салодкім сном, паклаўшы галаву на шырокае лісцё дуба, якое ён, нізка нахіліўшыся, працягнуў ёй у дужых руках... Як у казцы... Няйначай, як у казцы... Лёгкі ветрык веяў ад яе плыні, а яна спала, а яна спала...

Раптам, нібы для таго, каб сцвердзіць, што яна не спіць, рака абясцілася траскучым лопатам крылаў — з яе травяністай затокі ўзнялася крыжная качка. Зрабіла круг над затокай, праляцела над Дзвінасою, знікла за яе паваротам.

І тут пасля доўгага маўчання пачуўся голас Міколы:

— Братка, давай пастаім...

Сталі... Якраз на пахкім чабаровым грудзе, над самай Дзвінасой... Мікола прыхінуў да пянёчка спінінг і рукзак. Паморгаў вейкамі... Ён заўсёды так моргае, калі хвалюецца... І нечакана для мяне — запеў...

Веце-ер вей-е-э...
Ой, ве-е-це-ер вей-е-э...
Ды веце-ер па-а-вя-а-ва-а-е-э...
Ой, ве-е-еце-ер па-а-вя-а-ва-а-е-э...

Слухаць Міколава спяванне за якім-небудзь бяседным сталом даводзілася мне неаднойчы. Я ведаў, што ён гэта любіць і ўмее. Але каб вось так, між задумных лясоў, з чабаровага грудка — рацэ і лугу,— такое чуў упершыню. Як прыгожа, высока загучаў яго голас!.. Колькі было ў ім задушэўнай цеплыні!

Праспяваўшы адзін куплет, Мікола спыніўся. Так, між іншым, бывае ва ўсіх спевакоў — яны робяць паўзу, як быццам хочуць прыслухацца да саміх сябе.

І толькі ён спыніўся — адгукнулася, загаварыла лугавая шырыня. Не было канца рэху — яно ўрачыста і велічна пакацілася паміж сценамі лесу, пад блакітам неба, па рачных берагах. То аддалялася і гучала аднекуль адгалоссем, то магутна вярталася да нас зноў...

Мікола, было відаць, вельмі расхваляваўся... Але ён нібы хацеў пасапаборнічаць з рэхам... Павёў далей...

Мацi-ы ў до-о-нькі-ы...
Ой, ма-а-ці ў до-о-нькі-ы...
Ды пра жыцце-е-о пы-ыта-а-е-э...
Ой, ма-аці ў до-о-нькі-ы...
Ды пра жыцце-е-о пы-ы-та-а-е-э...
Спытай, ма-а-ці-ы...
Ой, спытай, ма-аці-ы...
Ды ў шэра-ае-э ву-у-ця-а-ці-і-ы...
Ой, спытай, ма-а-а-ці-ы...
Ды ў шэра-ае-э ву-у-ця-а-ці-і-ы...
Шэ-э-ра ву-у-ця-а-а...
Ой, шэ-э-ра-а-я ву-у-ця-а-а...
Ды на Дуна-а-і-ы на-а-чу-у-е-э...
Яна-а ж ма-а-йё-о...
Ой, яна-а ж ма-ёё-о...
Ды ма-ай-е-о го-ра-а-чка-а чуй-е-э...

Прагучала апошняя нота, адгуло, адхвалявалася рэха... І тады кожнай жылкай адчулася тое, што неяк не зусім акрэслена заўважалася раней: якая хвалюючая вартуе гэтую зямлю цішыня... Бадай, нідзе за часы сваіх вандраванняў не сустракаўся я з такой з'явай: каб цішыня так уздымала сэрца, так гукала кудысь удаль... Пазней, пры начлежным агні, мы ўспаміналі з сябрам гэтыя хвіліны і ўпэўніліся, што абодвух акрыляла адно і тое ж пачуццё... Калі Мікола скончыў сваю песню, мы, не сказаўшы адзін аднаму ні слова, пайшлі... Усё было перапоўнена звонкім якімсьці заклікапнем... Адна за адну прыгажэйшыя трапляліся на рацэ мясцінкі — каб і папесціцца душою, і паспрабаваць рыбацкай удачы,— а мы не маглі ўжо спыніцца...



Але, нарэшце, нібы захацеўшы назусім запаланіць сэрцы шукальнікаў, Дзвінаса ўсё ж паставіла нам заслон: паказала такі свой куток, праміпуць які было аніяк нельга... Гэтым сваім берагам, па якім мы ішлі, яна прыгарнулася да высокага, светлага ўскрайку бору. Адтуль весе-

ла збягалі да яе маладзенькія бухматыя сасонкі. Ну якраз як гарэзныя падлеткі, што сваволяць, не зважаючы на забарону матуляў... Было ўражанне, што сасонкам не цярпіцца з разгону кінуцца ў рачную плынь — абдацца яе прахалодаї... Ці хоць бы палюбавацца сабою ў люстры рачной вады... А можа, яны беглі навыперадкі, каб хутчэй спатоліць смагу водарам кветак, якіх безліч было насеяна па ўзгорку...

Другі бераг ракі быў значна ніжэйшы. Але таксама сухадольны. З яго пачыналася шырокая, раскінутая насцеж пойма — прывольны, з невялікімі люстэркамі-азярынкамі луг. Там ужо блукалі лёгкія перадвячэрнія цені. Мусіць, ад вышыні лесу, за якім асядала пацішэлае сонца. І таму з лугу веяла настроем шчырай летуценнасці: звонкая радасць і ціхі смутак — усё было зліта ў адно...

Мікола застыў на месцы...

— А?!.— спытаў узбуджана... А тады, па вачах убачыўшы маю згоду, сам сабе адказаў: — Тут!.. Далібог!..

Скінулі з плеч рукзакі... Агледзеліся... Мы ўжо даўно прывучылі сябе да правіла: так атабарыцца, каб меней нарабіць шкоды зямлі... На рыбацкім жа начлезе, безумоўна, не абыдзешся без цяпельца... А там, дзе пабудзе цяпельца, доўга, а можа, і ніколі, нічога не расце... Нарэшце ўбачылі... Стары акоп уздоўж бору, каля расахатай крайняй сасны... Тут ужо нехта начаваў — застаўся след ад вогнішча... Міжволі з удзячнасцю падумалася пра таго начлежніка: ён таксама думаў пра ашчаду да зямлі... Стары акоп, аж да краёў зацягнуты пяском, быў усцяж пераплецены каранямі дрэў, акрыўся верасам, там-сям віднеліся нават купкі званкоў... Але ў адным месцы, на сінявата-падзольным лапіку, было пуста... Так бывае... Можа, занадта глыбока прапаліла тут зямлю вайна... Чалавек, які начаваў да нас, расклаў сваё цяпельца якраз на гэтым лапіку... Полымя на полымя... Гэта не страшна... Жывое ён не крануў, яно павінна жыць...

Якія пачуцці выклікаў у майго сябра, былога партызана, выгляд гэтага акопа — пра тое я даведаўся пасля... А зараз ён нібы ўвесь сцяўся... Закурыў... І пачаў моўчкі наладжваць свой спінінг...

Чаму яго пацягнула ўсё ж памахаць блешняй — да занятку, які — я ж бачыў — так не пасаваў цяпер да настрою яго душы?.. Ды і наогул — я ж ведаў,— чым глыбей кранала яго сэрца краса ракі, тым меней звычайна ён браўся за вуду... Напэўна, тут адчуў зараз якоесь незвы-

чайнае ўзрушэнне... Якое абавязкова трэба было чым-небудзь пагасіць...

Падышлі на край берага. Мікола размахнуўся, кінуў блешню ў самую далёкую быстру. Пачаў падводзіць блешню да пясчанай водмелі. У празрыстай, як сляза, вадзе Дзвінасы ўсё бачылася, бы на яркім экране. Блешня паволі пасоўвалася ў чыстай плыні, і вось ад залатога дна аддзяліўся і пайшоў за ёю шчупак. Спакойна, нават абыякава, правёў блешню да самага жаўтапёсу, пастаяў, як быццам пра штось думаў, і гэтак жа спакойна пайшоў назад.

Мікола стаяў збянтэжаны.

— Слухай,— усхвалявана прамовіў ён.— Ты не заўважыў?.. Разумееш... Па-мойму, ён усміхаўся. Сумна ўсміхаўся...

— Заўважыў. Усміхаўся...

— Ніхто ніколі не паверыць... Але чаму ўсмешка была такая сумная?.. Ты ж бачыў?..

— Бачыў... Ведаеш... Мне здаецца, таму ён так сумна ўсміхаўся, што адчуў вялікую крыўду... Я ўпэўнены, ён ішоў і думаў: як можна ў асяроддзі такой красы — маніць...

— А ты, відаць, кажаш праўду... Праўду...

Ён разабраў свой спінінг. Мы яшчэ пастаялі, паўзіраліся ў ваду, ці не ўбачым таго шчупака. Тады пайшлі на свой акоп.

Сонца на тую пару ўжо зусім закацілася за лесавую сцяну за лугавой поймай. Над Дзвінасою і на нашым узгоркавым беразе яшчэ трымалася апошняе святло дня, але адчувалася, што неўзабаве пачне наплываць сутонне. Мікола пайшоў набраў у кацялок вады, я назбіраў сушняку. Навыбіралі буйнейшых каліваў чабору — заварыць чай. Хутка паміж намі зайграў вясёлы агеньчык цяпельца, зазвінела ў кацялку, падаграючыся, вада... Мы сядзелі, маўчалі... Я быў упэўнены, што Мікола не стрывае, загаворыць — не могуць жа не выказацца ўражанні дня... Бо ён тут упершыню...

Хоць я і чакаў і хоць быў упэўнены, што прамова яго будзе ўсхваляваная, але калі ён загаварыў, то крыху нават сумеўся. Настолькі горача гучалі яго словы.

— Ты разумееш... Слухай, братка... Калі я сёння глянуў на гэтыя акопы, пасля амаль казачнага, што мы паспелі пабачыць, ты ведаеш, пра што я падумаў?... Што на свеце ёсць адна вялікая праўда, якую мы носім у сэрцах,

але якую часам не здольныя ўсведамляць... Вось тая праўда: калі ў свеце ёсць для чалавека штосьці непаўторнае — дык толькі тое, што жыве ў красе роднай зямлі... Ты зразумей... Маці нараджае дзіця, складае яму свае песні — пра што яна летуценіць, што бачыць перад сабой?.. Ёй бачацца і ўяўляюцца галінка бярозы пад акном, жытні колас у полі, сінеча неба і сонца над імі; яна чуе жаваранка над праталінай і гоман дубровы сунічнай, пчаліны гуд па-над квеценню і плёскат хвалі рачной — усё, з чым і сама нарадзілася і жыла... І ў той красе зямной бачыць яна і чуе свайго дарагога ўлюбёнца... А калі ў гэтым акопе чалавек стаяў насмерць супроць ворага лютага — хіба ж не краса зямлі роднай была ў яго перад вачамі? Хіба ж не праз яе святло праменіліся яму і вочы маці, і нашчадка яго? Хіба ж не праз яе перадаваў ён ім апошнюю сваю любасць і вернасць?.. Эх, браце... Якое шчасце, што ўсё гэта ёсць у нас... І няхай падсвядома, а не дае чалавеку пра нешта забыцца!..

Я ўважліва слухаў Міколу, з хваляваннем углядаўся ў яго прасветлены натхненнем твар. І, усім сэрцам пагаджаючыся з тым, што ён сказаў, горача дзякаваў свайму мудраму жыццёваму лёсу... Дзякаваў за тое, што ён надзяліў мяне няўрымслівай прагай вандраванняў... І за тое, што на вандроўных сцежках і дарогах ніколі не пакідаў мяне аднаго... Без хараства і вернасці душ чалавечых — не пакідаў... Бо праўду сказаў мой сябра... Кожная маці, нарадзіўшы дзіця, бачыць у красе зямлі роднай і свайго ўлюбёнца... А гэтак жа і кожны чалавек — не можа бачыць сябе шчаслівым без паплечніка свайго — чалавека...

Між тым, пакуль Мікола гаварыў, а пасля мы трохі ў роздуме маўчалі, згатаваўся наш чай. Цяпельца раптам захліпала, рэзка запахла чабаром, і мы абодва аж войкнулі: хоць бы не выліласяя наша гатаванне на агонь... Мікола кінуўся знімаць кацялок з рагуліны... Разлілі чай у конаўкі, смакавалі чабаровы настой... Над Дзвінасой пачыналася новае шчыраванне прыроды: настала кароткая летняя ноч... Рэдкія яркія зоры выступілі на светла-дрыготкім небе... Дзяркач, супакойваючы, мусіць, сяброўку, лагодна падаваў яшчэ не натруджаны голас... Лёгка дыхаў бор — адпачываў... А тады — мусіць, павячэраўшы, сышлася недзе моладзь за ваколіцай на пагулянку — з-за Дзвінасы даляцела з дужымі падгалоскамі дзявочая песня.

Пасля чуўся адзін гармонік, а тады вясёлая гамана, а тады зноў гулкая песня... І Дзвінаса лёгка несла над са-

бою водгулле незмаўкальнага жыцця, і па тым, як звонка свяціліся пад зорамі яе струмені, адчувалася, што і яна, як і ўсё жывое на зямлі, разумее сваё непаўторнае шчасце...

— Ведаеш...— зноў абясціўся Мікола, калі трохі сціхлі начныя галасы.— Ведаеш... Бываюць мясціны, у якіх адразу чуеш нешта недакранальнае, нешта святое... Не, яны не для звычайнага якога-небудзь занятку... А толькі для душы, толькі для душы...

Любы мой дружа, як жа ён трапна выказаў тое, што адчуў, спаткаўшыся з Дзвінасою, і я! Не, недарма з усіх сваіх добрых сяброў не каму іншаму, а яму першаму адкрыў я сваю таямніцу!..

...Рана-раненька, як толькі зазвінелі першыя промні сонца, мы пастаялі над Дзвінасою, яшчэ раз услухаліся ў яе красу і рушылі дадому... Але былі ўпэўненыя, што яшчэ не адзін раз сюды вернемся, не адзін раз...

*

Бываюць жа рэкі...

Бываюць... Ёсць...

Ведае рыбак — ну нічога ж, нічога не зловіць ён на гэтай рацэ, і спрабаваць нават не будзе, каб што-небудзь злавіць, а цягне яна да сябе, сніцца, не дае спакою праз цэлы тыдзень — што з сабою парабіць рыбаку, як дачакацца той суботы і нядзелі...

Колькі носіць у сабе рыбак радасці, шчасця ад усведамлення, што такія рэкі ёсць!..

Неаднойчы, неаднойчы — і з сябрамі, і з дзецьмі сваімі — пабываў я на Дзвінасе...

Часцей за ўсё вярталіся адтуль, нават вудаў у вадзе не памачыўшы, а прыехаўшы, усё ж лічылі дні — ці скора патрапім да яе зноў... І ніхто ніколі і не падумаў, што мы перасталі быць рыбакамі...

Але аднойчы мой сын-школьнік, рыбак пачынаючы, а пачынаючым заўсёды карціць чым-небудзь пахваліцца, як апантаны, закрычаў пад цень дуба, дзе я толькі што адгарнуў новую старонку кнігі:

— Тата! Татачка! Глянь, што я злавіў!.. Ды хутчэй жа глянь!..

Я падхапіўся, глянуў і абмёр.

На кручку выгінаўся прыгожы і рэдкі, як і стронга, жыхар нашых рэчак — харыус.

Божа, ды што ж ты сабе дазволіў, сын мой, будучы мой вадроўнік!..

— Пусці!.. Чуеш?.. Хутчэй знімі з кручка і пусці!..— не менш узбуджана, чым сын, закрычаў я.

Сын, мусіць, убачыў у маіх вачах нешта такое, чаго ён яшчэ не бачыў ніколі і чаго, напэўна, не мог пакуль што зразумець...

Але ён таропка зняў з кручка дарагую рыбіну і асцярожна апусціў яе ў ваду.

Харыус стаяў на залатым пяску каля зялёнай сцябліны і знямела зяваў ротам...

І тады на мяне нешта найшло — нешта чамусьці пачало голасна вырывацца з душы старажытным гекзаметрам...

Рэчка, о рэчка, даруй нам, мая дарагая красуня,
Бо то ж не ён, не нашчадак мой, гэта прыдумаў —
Гэтую прагу — на нешта пакінуць кручок свой без жалю...

Раптам я пачуў перад сабою яшчэ больш узбуджаны, чым раней, голас сына:

— Пайшла!.. Пайшла!... Татачка, яна пайшла!..

Спачатку я не мог уцяміць, пра што ён крычыць. Але глянуў туды, дзе быў харыус, і ад мяне адсланілася тое нешта, што было найшло... Харыус паволі, паволі адплываў ад травіны. Ён яшчэ пачуваў сябе, як сп'янелы, але ён ужо варушыў плаўнікамі, значыць, будзе жыць... Нарэшце, крыху прыпыніўшыся, харыус матлянуў галавою, нібы вызваляючыся ад злоснай навалы, моцна ўзмахнуў гнуткім хвастом і знік у глыбіні...

— Пайшла!.. Пайшла!.. Знікла!..— зноў закрычаў сын.

Я паглядзеў на яго твар. Вочы ў малога шукальніка рыбацкага шчасця свяціліся нястрымнай радасцю... Ён нешта назаўжды зразумеў...

І мне зноў стала добра... Так добра!.. Я паверыў, што яны будуць жыць, нашы рэкі... Усе як песня крынічлівых лясоў — Дзвінаса...

*1976*

# АЛЁНА

**Паэма**

За нейкай мройнай
Сіняй рысай,
У нейкай яркай цемрыні,
Як здань,
                    мне светлы твар з'явіўся...
«Цярпі, мой родненькі...
Засні...»

І я заснуў...
Не, не!.. Я помню!..
Я не заснуў...
Я проста знік...
Я бег кудысь, імчаў нястомна,
Як ад зараду падрыўнік,

Што ўбачыў:
                    скончыў шнур дымецца...
Вось грымне выбух агнявы...
Адно ніяк не мог даўмецца:
Я мёртвы ўжо
                    ці йшчэ жывы?..

*

Пасля я «піць» стагнаў...
                                        Хоць кроплю
Вады... Вады!... Яшчэ! Яшчэ!..
Пасля — зноў бег...
                                Дзівіўся: попел
Чаму мне ног больш не пячэ?..

Чаму ад вогнішча,
якога
Абняць і вочы не маглі,
Не засталося больш нічога,
Апроч як бліску на зямлі...

Апроч распаленага пылу,
Што ціснуў грудзі, біў у скронь?..
Пасля —
нашчэнт
за небасхілам
Зноў папяліў мяне агонь...

*

І ўсё ж я, пэўна, ўнікнуў смерці,
Шчаслівы ўдачай на вяку...
Бо неспадзеўкі...
Па-над сэрцам
Адчуў я нейчую руку...

І голас нейкі ў яркім промні,
У несканчонай цішы дня —
Прасіў мяне:
— Успомні, ўспомні...
Успомні — як тваё імя?..

Успомні,— ўпрошваў ён,— адкуль ты?..
Куды хоць вестку перадаць?..
І я —
гарачкава,
пакутна
Ўсё нешта сіліўся згадаць...

*

І я згадаў...
Мне ўстала ўзвышша...
Атакі бераг...
Чорны брод...
Сцяна разрываў...

Гром...
І —
    ціша...
І над грудзямі — дол, як гнёт...

У вочы ўдарыў зноў шалёна
Агонь — пякельнаму раўня...
І ўспомніў я імя.
— Алё-на...—
Мне прашапталася імя...

— Алё-на! —
Свет увесь зялёны,
Здаецца, крыкнуў праз акно.
І я шаптаў: — Алё... Алёна...
Алёна...— Толькі ўсё адно...



Адно, адно на свеце слова,
Адно-адзінае імя —
Ўвесь дзень...
Вярнулася мне мова...
Ды гэта — ўсё,
Што ўспомніў я...

Я чуў — пыталі:
                    — Хто Алёна? —
Скажы, скажы нам —
                    хто яна?..—
Ды як за цяжкаю заслонай
Маўчала памяць...
                    Бы сцяна...

І як ні сіліўся, ні прагнуў —
Не мог я зрушыць той сцяны...
— Алё-на...—
То ад спёкі смягнуў...
То камянеў, што ледзяны...



І так з тым іменем дзявочым
Я жыў між небам і зямлёй.
З цярплівай стомай —
                    днём і ўночы
Стаялі людзі нада мной...

Я бачыў іх, калі вяртаўся
З гарачкі, быццам з небыцця...
Была
        ў іх позірках
                    зямля ўся
Праменнай весткаю жыцця...

Я бачыў іх... Плылі, як цені...
Як жураўліныя ключы...
І жаль было,
                    што іх цярпенню
Не здольны я дапамагчы...



Пасля
        ў дрымотных санвагонах,
Як нейкі цуд ці скарб які,
З дзявочым іменем — Алёна —
Мяне павезлі цягнікі.

Эвакастанцыі, шпіталі —
Няўзнак міналіся, бы ў сне...
Дзе ўжо нічога не пыталі,—
«Алёна!..» — клікалі мяне.

Гукалі сумна, ці ўлюбёна,
Ці нават з бояззю падчас...
І я шаптаў сваё «Алёна» —
Як звыклы, шчыры ўсім адказ...



Ажно край свету —
за Уралам
Ёсць гарадок: тайга і даль.
Куды, нарэшце, прыгайдала
Нас па чыгунках у шпіталь.

Былі ўсялякія — з калецтвам:
Хто без нагі, хто без рукі —
Між нас,—
як сорам чалавецтву —
У страшных ранах юнакі.

Былі такія, што чакалі:
Вось хвіля — і жыццё міне...
Але чамусьці
шкадавалі
Сярод усіх —
найбольш мяне.



Нібы прыйшла наперад чутка
Узрушыць той лясны куток,—
Каля мяне
стаяў у смутку
Мо ўвесь шпітальны гарадок.

Не, не бінты мае, не раны
Сабралі люд,— то бачыў я,—
А лёс мой дзіўны, нечуваны —
Маё дзявочае імя.

Стаялі, божкалі, тужылі,
І нехта войкнуў ад жанок:
— А што ж яны з табой зрабілі!
А як жа будзеш ты, сынок?!



І плакалі жанкі бясслёзна,
Усхліпы чуліся адны.
Увесь іх сум за час той грозны,
Усе іх болі ад вайны,—

Усё ў бядзе маёй паўстала...
Здаецца, крыкні я тады,
І гора горкае памалу
Ад іх адыдзе назаўжды...

А я ляжаў між іх, замглёны
Тугой душы...
                    Вачэй не ўзняць...
І што зрабіць я мог?
                              — Алё-на...—
Мог толькі ціха прашаптаць.



Настала скруха дзён шпітальных...
І колькі іх
                мінула, дзён?..
Такіх звычайных, аднастайных,
Нібыта ўсе —
                    па самы скон.

Ужо на спад плыло і лета,
Уральскай спёкі мройны дым.
А я ўсё быў — жывым сакрэтам
З дзявочым іменем маім.

Глядзеў людзям пакутна ў вочы,
Як быццам з нейкаю віной...
Але аднойчы...
Ўноч аднойчы
Збылося вешчае са мной.



Аднойчы ў ноч
ад навальніцы,
Што цемру крэмсала ажно,
Прачнуўся я...
Ляжаў...
Зарніцы
Кідалі водбліскі ў акно.

Нібы не грозячы нікому,
Ўсё ж папярэджвалі здаля...
Ды раптам —
ад удару грому
Аж скаланулася зямля...

Пярун... як выбух...
і раптоўна
Агнём ударыла праз шкло.
І светлым нечым...
бліскаў поўным...
Знянацку сэрца апякло...



І ў светлым тым,
як светлы помнік,
Я ўбачыў постаць між людзей...
І сам сабою крык:
— Успомніў!..—
Пякліва вырваўся з грудзей...

— Я помню ўсё!..—
Крычаў...
Спыніцца
Не мог —
бы цяжар спаў з плячэй,
Нібыта гнала бліскавіца
Сказаць усё, што знаў, хутчэй.

— Я помню ўсё!.. Завуць Алёнай
Яе!.. Яе на мне бінты!..—

Усім у той начы бяссоннай
Крычаў...
І з далечы ўлюбёна
Мне ззяла ты... Уся мне ты!..



Твае здалёк я ўбачыў вочы —
Няма ні ў кога
іх цяплей.
Твой воблік сонечны дзявочы —
Няма ні ў когачкі святлей.

Твой голас песенны, як гусліі,
Пачуў — няма
яго званчэй.
Тваё, як матчыныя, вусны —
Няма радней іх, гарачэй.

Тваіх я рук адданых ласку
Адчуў, што мой сцішалі боль.
Тваёй душы пяшчоту-казку —
Такой няма на свеце больш...



Я ўспамінаў і да знямогі
Крычаў —
за ўспышкамі ў акне.
І ўсе, хто мог устаць на ногі,
З палат спяшалі да мяне.

Спяшалі глянуць, як на дзіва,
Што ўзнікла з водбліскаў начы,—
Дзяжурны ўрач,
такі шчаслівы,
За ім і іншыя ўрачы,

Нібы вось тут для ўсіх адразу
Святое нешта ажыло...
І я расказваў ім, расказваў
Пра ўсё, пра ўсё —
што як было...



Як біўся ў стогне груд ракітны.
Грымеў атакай дымны лог...
Як жэр агонь
Мой танк падбіты...
А я
ўстаць з полымя не мог...

І я чакаў свой міг апошні...
Ды пехта ўзнік у тым агні...
І ўзяў на рукі...
І трывожна
Мне праказаў:
— Цярпі... Засні...

І з губ маіх крыві салёнай
Спадала шорсткая кара...
— Цярпі... То я з табой... Алёна...—
Мне чуўся голас.— Я... Сястра...



І я тады адплюшчыў вейкі
У свет, аглушаны пальбой.
І ўбачыў
сонечны навекі
Дзявочы воблік прад сабой.

Быў міг адзін,—
як знічкі зорнай
Пяклівы след,—
адзін быў міг! —
Я ўбачыў воблік непаўторны —
Больш у жыцця няма такіх!

Няма такіх, няма, не будзе...
Хоць пройдуць многія вякі...
Нідзе, нідзе, хай верыць людзі,
Не будзе сонечных такіх!..

*

Зямлю карэжыў, бы ўтрапёны,
Гром бою... Біў да неманы...
А ў чорным громе тым
Алёна
Мне клала белыя бінты.

Гарэў, канаў атакі бераг.
Мо стаў ужо й груган кружыць?
Ды я ў той міг
усё ж паверыў,
Што буду жыць,
што буду жыць.

Быў воблік сонечны са мною!..
Мяне далей ад смерці нёс...
Ды стаў раптоўна
над зямлёю
Прад намі выбух да нябёс...

*

І я заснуў... Не, не, ні блізка!..
Я не заснуў...
Я проста знік...
Я ўсё імчаў за нейкай рыскай,
Як ад зараду падрыўнік,

Што ўбачыў: зараз над загонам
Ускіне выбухам сцяну
Агню...
Паверце мне,
Алёну
Не пакідаў я там адну!..

Я проста ўсё шукаў адказу:
А дзе яна, а дзе яна?..—
Так я расказваў ім, расказваў —
Сябрам шпітальным —
давідна...



І кожны з іх
                    убачыў вочы —
Няма ні ў кога
                        іх цяплей.
Твой воблік сонечны дзявочы —
Няма ні ў когачкі святлей.

Твой голас песенны, як гуслі,
Пачуў —
                няма яго званчэй.
Твае, як матчыныя, вусны —
Няма радней іх, гарачэй.

Дзявочых рук адданых ласку
Адчуў, што мой сцішалі боль.
Тваёй душы пяшчоту-казку —
Такой няма на свеце больш.



І кожны з іх
                    з тугой зайздроснай
Глядзеў у мройны далягляд.
І, воблік бачачы дзівосны,
Казаў:
            — Шчаслівы ты, салдат!

І кожны —
                    як благаслаўлёны
Тваёй душой
                    на радасць жыць,
Казаў: — Ідзі ж, знайдзі Алёну
І шчасцем, браце, даражы!

І кожны мне жадаў удачы,
Не шкадаваў мне дабраты...
І я пад бліск маланак бачыў,
Як рада ты, як рада ты...



Вось так тады — ў начы грамовай —
Я стаў ізноў сабой самім.
Нібы народжаны нанова —
Спаткаўся з іменем сваім.

Ізноў, ізноў я стаў салдатам,
Бывалым вежавым стралком...
Бывай жа, белая палата,
Мой дарагі часовы дом,

Хаця і ў ласцы і выгодзе,
Бывай, бывай, лясны куток!..
Праз дзень
на фронт мяне праводзіў
Мо ўвесь шпітальны гарадок.



Праводзіў з радасцю —
як сына...
Дарыў усмешак на гады...
— Глядзі ж там, родненькі!..—
Жанчыны
Асцерагалі ад бяды...

І я адказваў ім паклонам...
І не бянтэжыла мяне,
Калі з пяшчотаю:
— Алёна...—
Хто-небудзь зноў мяне гукне.

Я знаў:
Алёна — перамога
Для іх, і дзён іх, і начэй...
А мне,
а мне няма нічога,
Нічога ў свеце даражэй...



Мікола Ткачоў і Кастусь Кірэенка.
Каралішчавічы, 1966 г.



Сустрэча з балгарскімі сялянамі.
Першы злева — Кастусь Кірэенка.
1969 г.

*

І вось і фронт... І тое ўзвышша...
Дзе бой грымеў па-над ракой...
Туга траншэй... Няпэўнасць цішы...
Трывожны пораху спакой...

Вось і сябры... Для абароны
Мацуюць дол, што грабары...
А дзе сястра?.. А дзе Алёна?..
Чаму маўчыце вы, сябры?..

...Алёна — блізка і не блізка...
...Адна навек і не адна...
Глядзі, браток...
Пад абеліскам —
Васьмёра мужных... І яна...

*

І вось пад зоркаю чырвонай
Стаю задумна над грудком...
Што ж ты маўчыш, мая Алёна?
Не сцішыш
                    болю майго ком?..

Што ж ты, скажы, не прычакала,
Ці ж здагадацца не магла?..
Мяне, як многіх, ратавала,
Сябе саму не зберагла...

Ляжыш пад коўдрай травяною,
Тужліва слухаеш лісты...
Хіба не знаеш —
                              што̀ са мною
Зрабіла, сонечная, ты?!

*

Няхай бы я ажно да скону,
Якая б сцежка ні была,
Насіў тваё імя, Алёна,
А ты жыла, а ты жыла...

Няхай бы мне і са слязою
І сум, і немач без надзей,
А ты б жыла —
свaёй красою
Павек прыгожыла людзей...

Няхай бы мне —
і ўсе напасці
З найгоршай доляю цяжкой,
А ты б жыла —
як вобраз шчасця —
Для ўсёй, для ўсёй сям'і людской...

*

Што ж мне цяпер рабіць, скажы ты?..
Аддаць імя тваё гадам?..
Не, не,
ў мінуласць, у нязбытнасць
Твайго імя я не аддам!

Тваё імя неразлучона
З маім, як будучынь мая...
Дзе ні пакліча хто — Алёна,—
Ўсім адгукнуся — гэта я...

Ці ў бітвах з ворагам сягоння,
Ці заўтра ў радасці зямной,
Заўжды імя тваё, Алёна,
Усюды будзе жыць са мной!..

*

З табою — хвіляю любою,
Каб людзі добрыцца маглі,
З табой, аддадаю табою,
Ісці я буду па зямлі.

Вачмі тваімі, як сваімі,
Глядзець я буду ў родны свет.
Рукамі чыстымі Радзіме
Прымаць вясновы першацвет.

Душой тваёю, як сваёю,
Заўсёды ясніцца і днець...
Над роднай, любай старанoю
Заранкай цёплай палымнець...



Стаю пад зоркаю чырвонай,
Па-над грудком зямлі нямой...
Як я хачу, мая Алёна,
Каб ты пачула голас мой!

Як я хачу, каб ты хоць зараз,
Пасля крыві, пасля трывог,
Пачула ўсё, пра што так марыў,
Пра што раней сказаць не мог,

Чаго раней сказаць не здолеў,
Чаго прамовіць не паспеў:
Што так бярог
з сардэчным болем
Адной, адной табе — мой спеў...



Хачу, каб знала, што не марна
Ў душу мне сонечна ўвайшла
І ўсю сваю самаахвярнасць
І вернасць ёй перадала.

Што ты жыла, жывеш і будзеш
Жыць, і праменіцца, і ззяць,
Пакуль жыве нам шчасце ў цудзе —
Аддана верыць і кахаць.

Пакуль нясе душа штодзённа
Агонь прызнання — праз гады...
Ты чуеш, любая Алёна? —
Адна —
цяпер і назаўжды...

*1983*

## ДЭКРЭТАМ СЭРЦА

Дэкрэтам сэрца
Я навек аддаў сябе
 прасторам родным,
Палеткам вольным,
 сінім рэкам і лясам.
І пад агністай зоркай пуцяводнай —
Сябе ўсяго —
 ў дэкрэты Леніна ўпісаў.

Дэкрэтам сэрца
Я навек прыйшоў у лёс людскі, у гоман весні,
У кожны ліст,
 у кожны промень
 і траву.
І ўсёй крывёй сваёй —
 аж да крывіначкі —
 прыйшоў у песню,
І не пайду з яе, пакуль жыву...

Дэкрэтам сэрца
Я святы наказ пакіну сыну:
Прайсці са славай
 па бацькоўскай светлай старане,
І за мяне любіць,
 усёй душой любіць сваю Айчыну,
І праслаўляць жыццё,
 якому я служыў,—
 і за мяне...

*1979*

## ЗДАЛЁКУ

Гэта было ля далёкай,
 ля польскай ракі, каля Віслы...
Гэта на ціхай раўніне
 на светлым на полі было...
Калі я ачнуўся і рану
 гарачай рукою заціснуў,—
Наўсцяж прамяністае неба
 кудысь нада мною плыло.

Каціласе весела ўдалеч
    высокая ў хвалях пшаніца,
І ярка
    чырвоныя макі
    на полі пшанічным цвілі.
А паміж макаў ляжалі
    і к сонцу вачыма, і ніцма
    Сябры мае ўсе,—
    і пялёсткі
    злятАлі на іх шынялі.

Сябры, як чужыя, глядзелі
    на светлае поле, на макі,
На кроў з-пад маёй гімнасцёркі,
    што густа шклянела на ёй.
І мне ўпершыню стала страшна,
    і я ўпершыню там заплакаў,
Ком слёз па-мужчынску глытнуўшы
    у той адзіноце сваёй.

Але дзесь за полем грымотна
    ударылі раптам гарматы,
І ў голасе іхнім пачуў я
    ратунак сабе і загад.
І паміж макаў патроны
    сабраў для свайго аўтамата,
І ўбачыў сяброўскія вочы —
    прыхільна ажыў іх погляд...

На полі далёкім ля Віслы
    той шлях, што агнём быў прастрочан...
Дзе вера вяла мяне ўперад,
    што месца ў страі йшчэ знайду...
Адтуль, з таго поля, дагэтуль,
    сяброў сваіх помнячы вочы,
Па клічу салдацкага сэрца
    далей ад самоты іду...

*1981*

## АПАСІЯНАТА

Светлы свет летуценняў...
Дума — свету наказ...
Мудра ўслуханы Ленін
У Бетховена сказ.

За акном, нібы зоркі,
Лісце скідвае сад.
Падмаскоўныя Горкі
Асвятліў лістапад.

Так шчасліввяцца вочы
З той святой чысціні.
Бачу —
позірк прарочы
У далёкія дні.

Голас вейнага скерца...
Люба слухаць дваім...
Чую —
Леніна сэрца
Б'ецца ў сэрцы маім...

Стань жа, дзень мой,
як свята
Аж па ўсёй старане!
Апасіяната
Зноў ідзе да мяне.

Пачуццё не на страту
Зноў прабуе ў агні.
Апасіяната —
Мне на ўсе мае дні!..

Голас чуйны, няспынны —
Струнны, ўдумлівы кліч...
Перад любай Айчынай
Задумены Ільіч...

Светлы свет летуценняў...
Як наказ адкрыцця...
Мудра слухае Ленін
Урачыстасць жыцця...

*1981*

## ЯКІМКА

Пісаў пісьмо матулі:
    — Адкажы,
Ці жыў яшчэ
    старэнькі наш Якімка,
Што майстраваў
    з дубовых таплякоў,
Сцвярдзелых на вякі
    на дне Сажовым,—
Мо самыя трывалыя на свеце
І гаманкія зрубы для крынічак?
Якімка, што хадзіў, нібы анёл,
Увесь у саматканым, у кужэльным,
Па схілах крутаяраў, па ярах,
І вызваляў крынічныя струмені
Ад на́плываў пясчаных, ад завалаў,
Каб лёгка ім было
    шлях прабіваць з глыбінь;
А потым ставіў свае зрубы
    ды ішоў далей,
Дзе землякі чакалі,
    каб хутчэй і ў іх
Забіла звонкая
    з зямлі крынічка...

— Навошта, сын мой,—
    запытала маці,—
Навошта табе ў горадзе Якімка,
Хіба замала там
    жывых крыніц?
— Хачу прасіць, каб вызваліў маю
У сэрцы плынь крынічную святую
Ад нейкага цяжа́ру, ад бяды...
Якія там завалы, я не знаю,—
Мо ад глухой будзённасці дакучнай,
Мізэрных замыслаў замест высокай дзеі,
Мо ад нуды размоў,
                    спраў недарэчных,
А можа, ад прыдуманых самім
Згрызотаў і пакуты — там, дзе трэба
У мужнасці адной шукаць адказу,
Ці, можа, дзесь у сэрца глыбіні
Бяздушнасці з'явіўся айсберг грозны,—

Але я чую, як завалы тыя
Затрымліваюць ход пачуццяў светлых.
Нялёгка стала ў свет ім прарывацца
І радасць славіць...
Праз два дні, не больш,
Мне напісала маці:
— Сыне, хоць Якімка
Ужо зусім стары і мала робіць
Крынічных зрубаў, ды калі яму
Сказала я пра смутак твайго сэрца,
Ён паківаў маркотна галавою:
— Нядобра гэта,— адказаў,— нядобра!..
Няможна жыць з балючасцю такой!..
І загадаў:
— Няхай хутчэй прыедзе!..

*1982*

## БЯРОЗЫ

Бярозы, летуценніцы гаёў,
Хіба я правініўся перад вамі,
Што сэрца ўраз заходзіцца маё,
Як стану перад белымі ствalамі?

Жывыя вы, не казачныя вы,
Узрошчаныя долаў родных сокам.
Чаму ж над вамі нават журавы
Падоўгу тужаць,
як ляцяць далёка?

Ці вы ўвабралі з вечнасці
ў сябе
Усю красу, усю прывабнасць краю?
Ці ў вашай мройнай,
сонечнай журбе
Ёсць радасць нейкая,
што ўсіх скарае?

А можа, сказ — як вёсны веснавацъ,
Як шчасна
сонца піць лісточкам клейкім,—

Нішто не можа лепей праспяваць,
Чым вашы берасцяныя жалейкі?..

Бярозы, летуценніцы гаёў,
Ізноў стаіў дыханне перад вамі...
І сэрца ўраз заходзіцца маё
Так соладка прад белымі ствaламі...

*1981*

* * *

Зімою сцюжнай я прыйшоў у свет.
Ці не таму заўсёды цеплыні жадаю,
Ці не таму заўсёды цеплынёю шчасны,
Ці не таму заўсёды цеплыню люблю.
Я так хачу, каб позіркам сваім,
І словам, і дыханнем ты няспынна
Была са мною,—
так хачу я ласкі
Тваёй —
пяклівa-ціхай і шчымлівай...

Прашу: стань з цёплымі рукамі
нада мной,
Як птушка з распасцёртымі крыламі
Па-над гняздом, дзе птушанё чакае,
Каб прагучаў хутчэй знаёмы кліч,—
Стань і гукні,—
да цёплых, родных вуснаў
Так прагну найхутчэй я дацягнуцца,
Сасмяглы ў смутку,
так хутчэй хачу я
Пітвом гаючым сэрца наталіць...

*1982*

## КАНЯ

Ці чулі вы, як плача ў лузе ка́ня,
Калі яе парушылі гняздо?
Здаецца, і світанак немым стане
Перад яе гаркотнаю бядой.

Хоць плач людскі гняце душу не меней,
Ды нам лягчэй —
спагадна ў грамадзе...
А птушка — хто яе цяплом сустрэне?
Хто ёй ад сэрца смутак адвядзе?

Аднойчы ўбачыў я на расцяробах,
Дзе прасвістаў бязлітасна свінец,
Як білася з галошаннем-жалобай
Малая птаха грудкай аб свінец.

З тае пары да скону дзён маліцца
Гатоў на сто ікон, на сто званоў,
Каб толькі пра той крык мне не забыцца,
Каб толькі не пачуць яго мне зноў.

Здаецца, свет стаіць на кволых ножках
Маркотнай кані ў час вечаравы,
Калі нясе яна сваю малую ношку —
Яечка —
ў новы схоў сярод травы.

*1981*

## МАЛАДЗІК

Як новы ў небе маладзік
У ноч святлом мігне,
Па ціхім беразе ракі
Прыйдзі спаткаць мяне.

Чакай, пакуль не скіне ён
Мне кладку на ваду,—
Пільнуй —
па светлай кладцы той
Раку я перайду...

Стаяў юнак цярпліва ноч,
Да ранніх жаўрукоў,
А новы ў небе маладзік
Над ім і не ўзышоў.

Чакаў яшчэ за ноччу ноч,
Стаяў, як вартаўнік,
Ды зноў
над берагам ракі
Не выйшаў маладзік.

Тады збянтэжаны юнак
Над жвірам, над пяском
У смутку роспачным сваім
Стаў сам маладзіком.

І ў небе засвяціўся ён
Жывым сярпом святла.
І ўбачыў з радасцю адтуль:
Каханая прыйшла!

Але не мог ён стаць ізноў
Шчаслівым юнаком.
А толькі мог каханай ён
Свяціць маладзіком.

Не мог і кліч падаць з нябёс,
А толькі з высі той
Праклаў ён кладку з серабра
Цераз раку прад ёй.

Дзяўчына, поўная тугі,
Мо сто разоў прайшла
Па кладцы той,
а юнака
Спаткаць і не змагла.

І стала так балесна ёй,
Так сэрца жаль апёк,
Што раптам пыхнула яна,
Бы яркі аганёк.

Дзе лес шуміць па-над ракой,
Заззяла-паплыла,—
То кветка-папараць тады
Там першы раз цвіла.

І з тых часоў — адзіны міг
З дубровы ці барка
Гарыць між траваў агапёк
У ноч маладзіка.

Адзін міг толькі, толькі міг,—
Быў аганёк і знік...
Ніхто не знае, дзе ён быў,
Знаў толькі —
маладзік...

*1981*

## ЯКІЯ ПРЫГОЖЫЯ ЛЮДЗІ

Якія прыгожыя людзі
Насустрач мне ўсюды ўстаюць.
Якія прыгожыя людзі
Мне рукі свае падаюць.
Якія прыгожыя людзі —
І юныя, і з сівізной.
Якія прыгожыя людзі
Ідуць у дарогу са мной.

Ці з працай цяжкою спазнацца —
Устануць без слова яны.
Ці трэба на подзвіг узняцца —
Заўсёды гатовы яны.
І ў шчасці, і ў радасці —
побач,
І ў дружбе, і ў справе любой,
І ў дні, калі стрэнеш жалобу,—
Падзеляць пароўну з табой.

Іду сярод іх і ў душы я
Трывожную думку нясу:
Няўжо ёсць пачвары такія,
Каб іхнюю знішчыць красу?
Няўжо ёсць хто-небудзь на свеце.
Што можа ім гора жадаць?
Крывавай бядзе, ліхалеццю
Прыгожыя сэрцы аддаць?!

Не, гэткага, веру, не будзе!
Знішчальна не ўстануць гады...
Такія прыгожыя людзі
Павінны мець шчасце заўжды.
Такія прыгожыя людзі
Павінны пад сонцам царыць.
Такія прыгожыя людзі
Народжаны вечнасць тварыць.

Іду сярод іх я,
і славу
Пяю ім,
і сэрца аддам
За права жыць з імі, за права
Служыць такім светлым людзям.
Я веру: свет быў наш і будзе,
І жыць будуць, як і жылі,—
Такія прыгожыя людзі
На гэтай чароўнай зямлі!

*1981*

## ВЕЖА

Падыміце тую вежу,
Тую вежу, як мярэжу,
Падыміце тую вежу,
Ды няхай вышэй імкне.
Тую вежу над дубровай,
Што пад хмаркай папяловай —
Сіняй хмаркай папяловай —
Стала марай для мяне.

Падыміце, падыміце
Вежу светлую ў блакіце.
Вежу светлую ў блакіце —
Усю ў сонца прамянях.
Не магу я без той вежы,
Без той вежы, як мярэжы,
Не магу я без той вежы
Аб наступных думаць днях.

Можна жыць без ласкі, чараў,
Без літаўраў і штандараў,
Без струны салодказвоннай,
Што бяссмерце нам пяе.
Але нельга жыць без мары,
Без святой, бясконцай мары,
Без трывожнасці ў той мары,
Без прачыстасці яе.

Нельга дня пражыць без высі,
Без хаця б маленькай высі,
Дзе для кожнага ўзняліся
Свае сонца і вясна.
Падыміце ж, падыміце
Вежу светлую ў блакіце,
Вежу светлую ў блакіце —
Стала марай мне яна.

*1981*

* * *

Ёсць вечнае райскае дрэва,
Ёсць слынны над морам самшыт.
Мне ж з бёрнаў засмоленых трэба
Вясёлую хату самшыць.

Няхай не спяваюць хвалу ёй,
Шкадуюць праніклівых слоў...
Затое заўсёды пачую
Ў ёй гул баравінных ствалоў.

Напэўна, што не залічуся
У шэраг сусветных святых...
Ну што ж... пацярплю... прычашчуся
У святасці сосен сваіх.

Чужое са зменлівым лікам
Развеецца,— дзе і сляды...
А роднае, светлае клікаць
Да радасці будзе заўжды.

*1981*

## ТОСТ

Няўжо гэта праўда —
    на песню ўжо й часу няма?
Якой жа ты будзеш,
    мая дарагая зіма?
Няўжо за бяседу
    не сядзем за дружным сталом?
Няўжо наша хата
    не загамоніць вуллём?
Не, ў гэта не верыў
    ніхто і ніколі між нас!
Заўсёды для песні
    былі і ахвота, і час.
Заўсёды, заўсёды
    дружыў з намі радасны смех,
І добрая чарка
    на крузе была не за грэх.
Няхай жа і зараз
    ад ног не сціхае памост,
Хай гоман вірыцца
    і з тостам страчаецца тост.
Няма ў нас прычыны
    тужыць і ўздыханні часціць,
Усё, што журыла,
    на лес на сухі хай ляціць.
Няхай будзе праца,
    няхай будзе клопатаў сто,
Але хай і песня
    усіх заклікае за стол.
З імпэтам, з настроем
    хай песня сяброўства ўстае,
Шчаслівай ахвоты
    бяседу дзяліць паддае.
І хай будзе з намі
    прыгожая мара заўжды —
Што ў думах, што ў сэрцах
    не згасне агонь малады!

*1981*

## ГРЫБНАЯ ПАРА

Пахнуць хлебам
маладзенькія апенькі,
Разанеш нажом —
і сыпануцца дружна ў кош.
Аж паглядзець на іх
краснагаловічак маленькі
На сцежку выбег,
што ў берэціку Гаўрош.

Мядзяны рыжык
толькі вынырнуў нібыта
З глыбінь зямлі —
яшчэ аж хмурыцца праз сон.
А вунь і самы ў свеце знакаміты
Сам баравік
з-пад моху вылез між сасон.

Пара грыбная...
Ці то ўзлесак, ці палянка —
Якая ўцеха
на распешчанай зямлі!
Там казлякі стаяць,
там падабабкі, там ваўнянкі,
А там грузды вунь
хвацка ўскінулі брылі.

Вандруй без стомы,
не давай нагам спачыну,
Спыніцца ў гэткі ранак —
найвялікшы мо з грахоў,—
Бо не заўсёды, не заўсёды
так шчыруюць баравіны,
Не, не заўсёды
так праменіць восень між імхоў.

Хадзем жа, кош мой!
Хоць паўнюткі ты да краю,
Але ж ты чуеш кліч? —
З усіх, усіх бакоў
Гукае, запрашае,
запытанні паўтарае
І радуецца папаўненню
войска грыбнікоў.

Хадзем да іх...
Па гулкім рэху сцежкі спросцім,
Усёй грыбною
Пройдзем старачой.
Хай сэрцу зноў пяройдзе,
зноў успыхне
казачнае штосьці
Ад непаўторнай
шчодрасці лясной...

*1981*

## УНУК

Чаканне з трывожнымі днямі,
Усё — для чаго, для чаго?
Для новага дзіва між намі,
Для звонкага крыку твайго.

Высокі, шчаслівы, адвечны
Крык першых трывог і надзей.
Як знак, што ў сям'і чалавечай
Адвечна —
дарога людзей.

І вось дзеля гэтай дарогі,
Адкрыўшы ўсім новы свой дар,
Устаў ты на ўласныя ногі —
Як новы зямлі гаспадар.

Упарта ступаеш, ступаеш,
Упэўненым робіцца крок.
І гневаешся —
не пускаюць
У свет таямніц, за парог.

Ну, што ж, калі звычка такая —
Стрымаць, каб не быў завадным...
Ну, што ж, брат, такое бывае
Не толькі з табою адным...

А ты не спыняйся, цягніся
Да клямкі,
ірвіся з дзвярэй.
А ты, брат, на волю імкніся,
Ідзі ўсё смялей і смялей!

Ідзі і не бойся ні ўпасці,
Ні нават ударыцца, ўнук.
Бо глянь, колькі з ласкай і шчасцем
Сустрэць цябе
цягнецца рук...

*1981*

## ДАСПЯВАННЕ

Не гаварыце гучна,—
сад даспеў...
Ад слоў неасцярожных
яблык падае.
А гоман спрэчкі —
згубнай кананадаю
Грыміць між дрэваў,
калі сад даспеў.

У даспяванні
мудрае жыццё
Сваю да свету
шчодрасць падсумоўвае.
Задумлівай, даверлівую моваю
Нясе нам любасць
мудрае жыццё.

Таму заўсёды
ў даспявання дні
Агнём маланак
далягляд не кроіцца.
Прырода прагне
сцішыцца, спакоіцца
І думай жыць
у даспявання дні.

Прашу ж вас, не забудзьце:
сад даспеў!
Не гаварыце гучна
нат хвілінаю...
Лепш заспявайце
ўслед за той дзяўчынаю...
Заўсёды ў радасць
саду
ціхі спеў...

*1981*

## ВЕЧАР

Дождж сціх, і запахла чаборам і доннікам.
Вяслуе ў задуме над рэчкай заход.
Далёкая песня...
Як мроя...
Пра конніка,
Што тут вось калісь ад'язджаў у паход.

Гукае дзяўчына зажурана:
— Косю...
З рукі абяцае вадой напаіць...
І голас... Знаёмы?.. Ці толькі здалося,
Што ў памяці ён
з дзён юнацтва стаіць?..

Нягучнае, думнае, добрае рэха
Нясе над залужжам нястоены жаль...
Вярнуцца заве... Хоць з тых дзён, як паехаў
Юнак,—
прамінула паўвека амаль.

Так соладка пахне ад берага доннікам,
І вечар праз хвілю
ўжо вочы самгне.
А песня не ціхне...
З тугою пра конніка...
Каго яна кліча?..
Няхай бы мяне...

*1981*

## ЛІСТАВЕЙНАЯ ДАРОГА

Пастуиова забываем
рып варот і родны двор,
Перапоўненыя маем
медуніцы і чабор,
Ранак сіні над Арэсай,
над Дзвіной ці над Сажом,
Поўню светлую над лесам,
хмарку цёплую з дажджом.
Паступова летуценім
болей дзівамі ад сноў,
Ловім водгуллі і цені —
чым далей ад перуноў!
Паступова, паступова —
толькі іншым на паказ
Для акрасы ўспомнім слова —
даўні бацькаўскі наказ...
А гады ляцяць — не вернеш
аніводнага назад,
Ў дол не кінутае зерне
не папоўніць дрэўцам сад.
А сыны ўзраслі і зараз
пойдуць з хаты ў цэлы свет,
Ці ты чуў —
пра што іх мары?
Што прамовіш ім услед?!.
І стаіш з тугою часам,
звінавачаны зусім —
Перад сонцам, перад часам,
прад жыццём сваім усім.
І суровая, як споведзь,
думка паліць, што агнём:
Як згубіў, як страціў повязь
і з зямлёй сваёй, і з днём?!.
Ліставейная дарога,
ліставейная пара...
Гэта так, мая трывога,—
сёння з сіверам зара...
Гэта так, мая трывога,—
хутка льдзінкі зазвіняць...
Але ты ў паход —
будзь строгай! —
не шкадуй мяне падняць.

Ёсць пуцінкі на разлогах,
зачакаліся даўно,
Ёсць ля берага рачнога
хата —
журыцца акно,
Ёсць парог у гэтай хаце,—
прычасціцца папрашу...
Загучы мне, песня маці,
загучы, ратуй душу!..

*1981*

## РЭАНІМАЦЫЯ

Хутчэй, браток, адплюшчы вочы!
Бо гэткай явы
ты яшчэ не бачыў.
Павер, не бачыў і не сніў
Ды і не мог сасніць такой.
Вунь — бог,
Бялюткі бог,
А ля яго —
мо сто багінь, няйначай,
І ў кожнай — німб,
святочны німб над галавой.

Ах, я адплюшчыў, я адплюшчыў,
Ах, даруйце, вы даруйце мне, багіні!
Дрыжу ад сораму:
Прад вамі я ляжу, нібы ў раі Адам...
А бог падаў ім знак,
І вось яны —
Імёны чую: Лены, Ядзі, Лоры, Ніны,—
Багіні светлыя,
Нясуць сваіх мне душ бальзам.

І вось яны,—
Як чараўніцы ў найчароўнай дзеі,—
Шчыруюць нада мной,
Бы нейкае ім знана адкрыццё.
І ўжо я маю сілу папытаць:
«А што са мной, а дзе я?..»

І маю сілы, каб пачуць:
"Дзе аддаюць назад жыццё..."

Назад жыццё?
Дык, значыць, нездарма я
па-юнацку
Гатовы быў заўжды
Аддаць сябе за прыгажосць.
Ах, недарэмна, недарэмна
Ўмеў я верай загарацца,
Што ўлада
над жыццём і смерцю
Ў прыгажосці ёсць!

Дык, значыць,
недарэмна
Сэрцам верыў я, што ўсюды
І гінуць ёсць за што
І ёсць дзеля чаго
На свеце жыць.
Дык, значыць,
О багіні светлыя,
Вярнулі вы мне сонечнае цуда
Яшчэ далей для вас
Аддана паслужыць?!.

Багіні ўсё снуюць,
І ўсё ўсміхаюцца
багіні.
А бог —
Пабачыў тыя ўсмешкі
І хутчэй махнуў рукой.
І знікла прыгажосць,
І я адзін ляжу,
Нібы ў якой пустыні,
Маўляў,
Патрэбны не багіні вам,
Патрэбен
вам спакой...

Ах, бог,
Хаця б жа раз,
Хоць тут,
Ты гнеў змяніў на міласць.

Хаця б жа тут
Не помніў
про грахі і пра пасты.
Хаця б жа раз
Ты зразумеў,
Што без красы, без прыгажосці мілай
Не можа быць жыцця,
Павер,
законнік ты святы!..

Ляжу і зіркаю вачыма
То на дзверы, то на шторы:
Ці ж хутка з'явяцца
Мае багіні
са смяшынкамі ў вачах.
І бачу —
ўзрадаваўся бог,
І бачу —
засвяціўся ясназоры,
І бачу —
выклікае да сябе
Дзяжурнага ўрача.

Смяецца бог...
Чаго, чаго смяецца так заўзята?..
Ды чую голас:
— Вось, калега... Каб тут часу не займаць,
Вязіце яго
скоранька
Ў звычайную палату...
Ён марыць пра багінь...
Дык што яго
ў рэанімацыі трымаць?!.

*1981*

## СПЕЎ

Як тая пчала —
без салодкага ўзятку,
Не магу я
застацца без песні.

Як тая крыніца —
з вадою крыштальнай,
Быць павінен я
з радасцю ў сэрцы.

З відна да цямна —
ўсё на крылах, на крылах,
З кветкі ў вулей,
ды з кветкі на кветку.
Хто спажыў яе соты —
пчала не пытае,
Прыйдзе дзень —
яна зноў у палёце.

Ад чысцюткіх глыбінь —
не шкадуючы моцы,
Усё прагне крыніца
пад сонца.
І ўсё звонка звініць...
П'юць ваду яе людзі
І не знаюць,
як цяжка
з зямлі прабівацца...

*1981*

* * *

Патрабуюць тэарэтыкі,
Знаўцы нашага палка,
Пашырэння геаграфіі
Паэтычнага радка.
Патрабуюць, пераконваюць,
Заклінаюць аж да слёз...
Ну і што ж,—
пераканаfamaння
Выпрабоўваем свой лёс...

І ляцім у даль з ахвотаю
У імклівых ІЛ і ТУ;
То на поўдні, то на поўначы —
Ловім словы на ляту.

І гучаць у вершах розныя
Адрасы і тут і там...
Геаграфія — бязмежная,
Тэарэтыкам — бальзам...

Стракацяць імёны, станцыі,
Назваў тых — да забыцця...
Толькі часам а ці згадваем
Пра бязмежнасць пачуцця?..

Пачуцця, навек адзінага,
Ці то ў Мінску, ці ў Маскве,—
Непаўторная паэзія
Толькі ім заўжды жыве;

Пачуцця, якое месціцца
Не за дальняй каляёй,
Не на Марсе, не на Месяцы,
А ў душы тваёй адной...

*1981*

## КАРОНЫ ВЫШЭЙ

**Легенда**

— О цар! — далажылі каліськці цару.—
Сын любы твой
здрадзіў табе, ўладару,—
Ад шчодрых тваіх, ад мілосных дароў,
Улады святой, што ад даўніх цароў,
І райскіх богданых пяшчотаў тваіх —
Пайшоў ён да чорных вачэй агнявых,
У беднай, у цёмнай хаціне курной
Цяпер ён, як смерд, з парабчанкай адной,
Стаіць на каленях, клянецца прад ёй,
Красе прысягае каронай тваёй...

Нахмурыўся цар,
пацямнеў горш за хмар,
І служкам гняўліва сказаў валадар:
— Ідзіце ж, не стойце, знайдзіце яго,
Я сам запытаю нашчадка свайго,

І горай, чым смерць,
будзе кара таму,
Хто лютасці хоча і смерці яму,
Хто словам хлуслівым запляміць жадаў
Таго,
каго сынам
бог вечны мне даў!..

Ударылі царскія слугі чалом,
Пабеглі, а беглі, аж голаў на злом,
І вось прывялі —
горды, страху ні ў знак,
Устаў перад тронам палоннік-юнак.
— Я ўсё табе даў,— цар сказаў юнаку.—
Цара ты нашчадак!..
Ніхто на вяку
Ніколі ў такія юнацтва гады
Не знаў, каб яго цалавалі сляды,
Ніхто столькі скарбаў не бачыў, як ты,
Ніхто не меў права на трон залаты...
Што ж ёсць яшчэ лепей
за царскае званне,
Дарожай, чым век над людзьмі панаванне?!.
— Каханне! — адказ юнака быў.— Каханне!
О цар мой! Нічога няма даражэй,
чым каханне!
Усё забяры, ды пакінь мне каханне!..

— Упарты сляпак! — сыну выгукнуў цар.—
Аддаўся ты ўладзе атрутлівых чар!..
Ты здрадзіў!..
А здраду — сам ведаеш ты —
Як грозна карае
гнеў царскі святы...
Прасі ж, пакуль можна,
грахоў даравання!
Што лепш табе — смерць?
Ці ў палац свой вяртанне?!
— Каханне! — зноў цвёрды адказ быў.
— Каханне!
О цар! Хай хоць смерць,
але будзе каханне!
Нічога не трэба мне,
толькі каханне!..

— Ну, што ж...—
З тварам змрочным,
гнявуліва-цяжкім,
Махнуў цар рукою служакам сваім.—
Ну, што ж...
Хай так будзе, як хоча ён сам...
Бог даў мне яго, богу я і аддам...
Завыюць над ім згаладала ваўкі...
Не трэба кароне нашчадак такі!
Бярыце яго! —
І ўжо кат, што тайком
З'явіўся раней,
стаў па-за юнаком,
І ўсім ужо роспачы ўчуўся дакор —
Нібы замахнуўся крывавы тапор,—
Як раптам —
ля сына —
ў адзенні сяўца
Убачыў цар грозны
свайго мудраца...

Адкуль ён паўстаў?
І як трапіў сюды?..
Даўно адляцелі былыя гады.
Зымшаніўся ўжо з тых часоў і палац,
Калі ён цару памагаў цараваць,
Калі кожнай хвіляй
шукаў яго цар —
Чакаў слова шчырага —
мудрасці дар...
А потым бядак пастарэў і аслеп
І горкім стаў царскі аслепламу хлеб,
І цар падарыў яму —
павадыра...
І вывелі старца
на поле з двара...
І вось ён вярнуўся...
Яшчэ ён жывы...
Стаіць над кіёчкам — як голуб сівы...

— Мудрэц! — мовіў цар.— Я цябе пазнаю...
Даўно ўсё было, ды я мудрасць тваю
Запомніў дагэтуль...
Дык як, адкажы,

Як быць мне, цару, калі сын стаў чужы,
Якою б ты карай яго пакараў —
Ці зграі б аддаў, ці ім поле араў?..

— О цар! — праказаў, уздыхнуўшы, мудрэц.—
Не гожы ты выбраў для сына канец!
Хоць я ўжо даўно і сляпы, і глухі,
Стары, як сівыя лясныя імхі,
Ды бачу я сэрцам і чую душой:
Не праўдай судзіў ты,
а крыўдай ліхой!
Скажы мне, о цар, і ўсе людзі, што тут
Былі, як па-грознаму дзееўся суд,
Вам вочы адкрыты ўсё бачыць,—
скажыце:
Ці і па сёння крычаць яшчэ ў жыце
У цёплай расе па начах перапёлкі?..
— Крычаць, наш мудрэц!..
— А ці ззяюць вясёлкі
Праз кроплі дажджу на зары па-над лугам?..
— Так, ззяюць вясёлкі...
— І весела цугам
Бягуць пад вясельнымі бомамі коні?..
І звон, на вяселле склікаючы, звоніць?..
І бераг рачны, дзе туманаў кудзеля
Вісіць між ляшчын, завіваецца хмелем?..
— Так, праўда, старэча...
І бомы на шыях
У коней звіняць, і туманы рачныя
Вісяць між ляшчын,
і хмель густа віецца
Для піва, што ў кубкі
на свята пальецца...

Тады адказаў мудры старац цару:
— Не ўсё падуладна табе, ўладару,—
Не можаш, не можаш,
хаця ты і цар,
Спыніць, каб не глянула сонца з-за хмар,
Не можаш спыніць, каб вясною ў лугах
Цвет-доннік, што сэрцы хвалюе, не пах,
Не можаш спыніць, каб для шчасця свайго
Не клікалі сэрцы адно аднаго,—
Не можаш, не можаш ты гэта зрабіць!

Дык як жа ты мог
за каханне судзіць,
За вернасць каханню так жорстка караць,
Жахлівую кару нашчадку абраць?!.

І ўсіх аж працяў невідучы пагляд
Старога,
калі загадаў ён:
— Гэй, кат,
Дык вызваль жа рукі ад путаў хутчэй,
Хай скіне юнак
цяжар смерці з плячэй,
Не трэба прызнання яму нічыйго,
Адно толькі сэрца —
суддзя для яго!..

І кат,— быццам быў тут сапраўдным царом
Не цар,
а стары гэты з павадыром,—
Ударам свайго тапара-цесака
Збіў путы цяжэрныя з рук юнака,
І мудры стары
крыкнуў —
гучна паўздзіў:
— Ідзі ж, наш юнача, да любай ідзі!..

І хлопец пабег — ажно дол загучаў.
А цар — галаву апусціў і маўчаў...

*1982*

* * *

Няхай каму-небудзь —
Вянкі ў пазалоце, салодкія мары.
Малочныя рэкі,
Кісельныя берагі.
А нам —
Хоць і тысячы год
Хай бы самае малае:
Сонца, і хмары,
І праца да стомы,
Ажно і да млоснай тугі.

А нам бы —
Хоць дом і будуем сабе
На-святочнаму новы
І хочам,
Каб край
Ганарыўся ўсім новым
жыццём,—
А нам да скапання
Хай б'е — у акно —
Тою простай
галінкай кляновай,
Што ў хаце маленства
Вітала нас
цёплым лісцём.

Ну што ж, калі выпала
Жыць пад нейтроннымі
Ў думках пякельных:
Ад неверагодных разлікаў,
Праектаў
Грыміць галава...
Было б толькі шчасце!
А шчасце — і ведаць, і верыць,
Што нельга, што нельга,
Жыць нельга
Ні хвілі
Без свету —
Дзе дрэвы,
вада
і трава!..

У міг,
Калі з чорнай зямлі
Устаюць архідэі,
А кветкавы пыл
Хабатком
Выбірае пчала,—
У гэткі вось міг
І раджаліся, мусіць, ідэі,
З якімі
спрадвеку
Ішоў чалавек да святла!

*1980*

## АЎСЯНАЕ ПОЛЕ

Чаму мяне цягнула кожным ранкам
Прайсці сцяжынкай па аўсяным полі?..
Якая для душы неспадзяванка
Чакала на тым сонечным прыволлі?..

Чаму я сустракаў тут —
хвіля ў хвілю
Штораз
і на адным і тым слядочку —
З паглядам, што гады як пацямнілі,
Сівенькую старэнькую з кіёчкам?..

Чаму яна падоўгу, нібы ўпотай,
Ў задуме, што пакутай бровы хмурыць,
Стаяла моўчкі ля былога дота
Каля замураванай амбразуры?..

Чаму, адтуль вяртаючыся полем,
Як бы ў душы прасветленая нечым —
Ступала з ціхім тварам
у прыволле
І нейкі шэпт шаптала свой старэчы?..

*1979*

## МАЦІ І ЖЫТА

Маці і жыта.
Два словы і два дарагія паняцці,—
І нараджэнне, і поўня жыцця —
захаваныя ў іх.
Маці і жыта. Жыта і маці.
Двойчы — і ў сэрцы,
і ў думках маіх.

Помню маленства гады,
час ліпнёвы бясхлебны.
Маці кладзе на плячо
паржавелы сярпок.

Ціха касу папраўляе
пад хусткаю зрэбнай
І прамаўляе ўздыхнуўшы:
— Пойдзем, сынок...

І, аббіваючы росы,
ступою павольнай
Крочым мы ў поле
аж пад небасхіл —
да канца
Ціхай дарожкі
на ўзлессі прывольным,
Дзе на палосачцы вырасла
грыўка жытца.

Час той — далёкі...
З явы сышоў ён вясковай...
Але і зараз —
у кожны свой міг, як тады,
Чую ўсім сэрцам
водар п'янлівы жытнёвы,
Смак той жытнёвы,
што не забыў праз гады.

Перш чым зажаць на вязьмо
жменю жыцінавачак кволых,—
Помню, адломвала маці
ад іх каласок.
І, памаўчаўшы хвіліну,
з тугой невясёлай
Мне падавала:
— Сілкуйся,
сынок...

З прагай вылушчваў я
цёплыя, мяккія зерні,
Дыхаў іх пахам,
пацiху здзімаў асцюкі...
Не, не было аніколі,
няма і цяпер мне
Дару такога,
як той быў —
з мазолістай любай рукі.

Многа гадоў адплыло,
	многа дзей пеužыта.
Многа і шчасця, і радасці
	стрэў у жыцці.
Ды над усім і заўсёды
	Маці і жыта —
Найдаражэйшае шчасце,
	лепш не знайсці.

Зараз,
	калі зажынаю
		даспелую ніву
Жыта свайго,
	дзе мяжа не відна,—
Бачу маці сваю
	у задуме руплівай
І ў дні нягоды
	быць мужным хачу, як яна.

Што ні спаткала б мяне,
	ліхаманка якая,—
Помню маці плячо,
	паржавелы сярпок.
Помню голас яе
	і заўсёды чакаю,
Што прагучаць зараз словы:
	— Пойдзем, сынок...

І якія б у свеце
	ні спакушалі багацці,
Найбагатшага скарбу
	для мяне ў гэтым свеце няма...
Маці і жыта. Жыта і маці.
Жыццё маё.
Радасць. Натхненне.
Песня сама...

*1980*

## ІМГНЕННЕ

Страляла батарэя. Біў па танку
Снарад — і танк гарэў. А насупроць
У жыце росным — як вітанне ранку —
Гукала перапёлка: «Шыць-палоць».

На ўзмежках людзі, нібы ў задуменні,
Паціху адыходзілі ў нябыт.
А дзесь для іх раджаліся праменні
І радасна ляцелі з-за ракіт.

Не зглелзець вокам, не абняць — навокал
Грымелі і дыміліся палі.
А ўсё ж аднекуль стомлена —
здалёку,
Каб напаіць іх, воблакі плылі.

І хоць, здаецца, ўсцяж запанавала
Смерць, па-вар'яцку ладзячы свой баль,
Ды зналі людзі: скончыцца навала!
Уся ў праменнях будзе гэта даль!

Не чулі мёртвыя, як сонца грэе,
Жывым жа не да гэтага было.
Усё па танках біла батарэя...
Гарматнае стагнала жарала...

*1981*

* * *

Як ён падаў, як упаў ён вобзем —
На карэнне чубам маладым...
Нават дуб-асілак пры дарозе
Здрыгануўся скрушна па-над ім.

Як стагнаў ён, як узняцца прагнуў,
Грыз зямлю, хапаў расу з травы...
Нават і груган — на кроў так прагны —
Прэч ляцеў,
бо чуў: салдат жывы.

Дзе ён поўз — чырвоны след ільсніцца...
Наплывае на той след смуга...
А вось гільзы —
                    зноў па чужаніцах
Біла аўтаматная чарга...

І ні ў век не ўверыш,
                    што змаглася
Прага сэрца — не здавацца, жыць...

А трава яшчэ не паднялася...
Хоць пайшоў ён... А трава ляжыць...
Пад крывёй,
                    прымятая,
                              ляжыць...

*1980*

## ПАТРОН

Змагаўся да апошняга патрона...
І вось ён тут,
                    апошні той патрон...
Нявыстраленым у ствале застаўся...

Шавеліць сіверам галлё бярозы,
Лісцё зжаўцелае ляціць на зброю,
Паўзе між дрэваў
                    глушыня па пушчы.

Чаму ж патрон той
                    у ствале застаўся?
Чаму не прагучаў апошнім стрэлам?
Што сталася з табою,
                    мой ваяча?

Ды вось — нашчадкі зналі каб навечна,
Што ён не здрадзіў прад хвілінай смерці
І смерць сустрэў як трэба —
                    не жахнуўся,—

Ляжыць яго прастрэленая каска
Ля вываратня спаленай сасны,
І сам ён тут, зусім непадалёку,
Ляжыць даўно-даўно... Ўсё спарахнела...
І толькі ціша,
хоць прайшло год столькі,
Здаецца, паўтарае яго голас...

І, ўбачыўшы ўсё гэта, я паціху
Сабе кажу:
— Ну што ж... Так можна... Можна —
Калі і я
не скарыстаю
свой патрон апошні...

*1980*

## РЭКАМЕНДАЦЫЯ

Навек запомніў аркушык паперы,
Хвалююць словы праз усе гады:
«Рэкамендую — ўпэўнены і веру:
Ён будзе верны партыі заўжды!»

На полі бою, на шляху агністым,
Дзе вал каціўся грозны да Масквы,
Так блаславіў
на званне камуніста
Мяне старэйшы сябра баявы.

Не раз пасля — у дні вайны і міру —
Рэкамендаваў паплечнікаў і я,
І шчасны быў, калі прымала шчыра
Іх у свой шэраг партыя мая.

І, каб сказаць пра веры сваёй меру,—
Як і мой сябра ў грозныя гады,
Пісаў я цвёрда:
«Упэўнены і веру:
Ён будзе верны партыі заўжды!»

*1980*

## НЕВЯДОМЫ САЛДАТ

Яго шукалі —
                    залпаў гром
Гукаў на полі бою.
Яго ж засыпала зямлёй
Пад зраненай сасною.

І ён застаўся — як жывы —
Для маці і нявесты.
Не, не загінуў, а ўсяго
Прапаў навек без вестак.

І толькі стромая сасна,
Што загаіла раны,
Шуміць і ўдзень і ўноч над ім —
Пра сум свой несціханы.

Ды гільзаў сінюю іржу
Тут часам выб'юць ліўні...
Ды ўсё гарыць ля сцен Крамля
Агонь
        аб незабыўным...

*1979*

## МАТЧЫНЫ КАЛЫСКІ

У матчыных, у просценькіх калысках
Люляліся героі ўсёй зямлі,
Што не здаліся ворагу пад Мінскам,
Што рубяжоў Масквы
                    не аддалі.

У памяць увайшло — вякам не сцерці...
Дзе Ленінград, дзе Курск, дзе Сталінград...
Мы паміралі
            самай лютай смерцю —
Абы Радзімы выканаць загад...

У матчыных, у просценькіх калысках
Раслі сыны-асілкі для эпох,
Што вогненнай дарогаю нябліскай
Дайшлі да самай слыннай з перамог.

Калыскі... З'еў агонь і іх, і нашы хаты...
А тыя, што люляюць і далей,—
Я б самым ганаровым экспанатам
Паставіў між рэліквій у музей.

Няхай бы ўсе
з зямным паклонам нізкім,—
Перш чым глядзець найгрозную
з гармат,
Глядзелі ў тую матчыну калыску,
Дзе ўзрос
свабоды праведнай салдат...

*1979*

## АРОЛ

У нетрах краю вёсачка лясная —
На вечнасць ці была б, ці не была?
Калі б не тая слава,
што ўзвінае
На пастаменце
гордага арла.

Не, не цару ён і не царанятам
Узнёс тут мармуровае крыло,
А тым, што ад лучыннай, курнай хаты
Прынеслі ў бітву душ сваіх святло.

Ужо вякі прайшлі з тае часіны,
З тае крывавай, з той ліхой вайны.
Ды не памеркла ўсё,
што для Айчыны
Зрабілі яе мужныя сыны.

Стаіць арол, узняў крыло заўзята,
Здаецца —
вось узнімецца ў палёт...
Не, не цароў ён,
не, не царанятаў
Высокай славай славіць,
а — народ!..

*1979*

## ВЕРНАСЦЬ

У вернасці людской няма пачатку —
У справах яна,
                    ў марах,
                              нават — снах.
І ў любасці, што дораць не з аглядкай,
І ў вечнасці, дзе ззяе Млечны Шлях.

Ідзі ў жыццё, трывог і шчасця повен,
Нясі жаданне —
                    з прагай і журбой,—
Каб цэлы свет
                    чуў сэрца твайго споведзь
Перад Радзімай і перад сабой.

Нясі жаданне —
                    сэрцам без астатку
Быць неразлучным з роднаю зямлёй.
Так, як няма у вернасці пачатку,—
Так хай не будзе і канца ніколі ёй...

*1979*

* * *

Стала зноў у свеце неспакойна.
Зноў для бою ўзводзяцца куркі.
Па крывавых планах новых войнаў
Барышы падлічваюць дзялкі.

Чуцен гул пагроз з-за акіяна.
Звар'яцелі картэры зусім...
І шкадуюць шчыра ветэраны,
Што тады,
                    хоць і смылелі раны,
Што тады не скончылі з усім.

Для людзей навек была б зарука,
Што не ўспыхне бітваў калаццё.
І заўжды-заўжды
                    сыноў і ўнукаў
Песціла б шчаслівае жыццё.

І заўжды лучыла б душы згода
На шляхах,
                    для свету дарагіх,
Каб забылі людзі пра нягоды,
Быццам і не ведалі пра іх...

Я стаю ўстрывожаны з усімі
І маўчаць таксама не магу.
Ветэраны любае Радзімы,
Дружбакі, героі, пабрацімы,
Разумею вашу я тугу.

Разумею і прашу: да скону
Памятайце ўсюды, што я ваш.
І ў змаганні за наш свет зялёны
Вы мяне не спісвайце ў тыраж.

Калі грымне новы гром —
                                        гукніце,
Я не затрымаюся, прыйду.
І з сабою ў строй —
                                не асудзіце —
І сыноў, і ўнукаў прывяду.

*1980*

## ЖАДАННЕ

У сусвет злятаць —
                        нібыта ў дом зайсці...
Так і хоча сэрца папрасіць:
Трошачкі пакіньце невядомасці,
Трошачкі пакіньце таямніц.

Хоць жыццё стварыць імкнёмся лёгкае —
Спіны і пад цяжарам не гнуць,—
Хай будзе заўсёды —
                                штось далёкае
І чаго не проста дасягнуць.

Клічуць кантыненты неабжытыя,
Між галактык —
зорныя каўшы.
А няхай і нашы далі жытнія
Нешта скрозь хаваюць для душы.

Любая, заўсёды з ласкай згодная,
Звыкласць хай цябе не закране,—
Хай заўжды душа твая пяшчотная
Трошкі тайнаў
тоіць для мяне...

*1979*

* * *

Я паклікаў цябе і павёў за сабой
Па няходжанай, па мурожнай сцяжынцы.
І ты не спытала,
куды і чаго
Мы ідзём,
і толькі трымцела рукою.

І калі мы спыніліся каля вады
І ты ўбачыла, як на галінцы каліны,
Так даверліва зырачы вочка на нас,
Корміць ціха сваё птушанятка заранка,—

Ты так доўга маўчала,
застыўшы нібы,
Што нагадваць мне стала
над рэчкаю помнік...
І я ўвесь здрыгануўся:
хоць слова скажы! —
Ты ж і мне і сусвету
патрэбна жывою!..

*1980*

* * *

Плылі зоркалёты высока ў небе,
А ўнізе пад імі ніва спела.
І дзявочая песня
аб новым хлебе,
Аб новым,
вялікім шчасці
пела.

Ішлі караблі ў пажаўцелым моры,
А ніва з радасцю іх вітала.
І ў светлых строях
былі прасторы,
Калі дзяўчына клін зажынала.

І бачылі хлопцы
з трасы касмічнай,
Як завіхаюцца людзі долс.
І чулі пах хлеба —
жытні, пшанічны,
І бегла ім сустрач
жніўнае поле.

*1980*

* * *

Кажаш ты —
і сотні год назад
Тут былі такія ж пералескі?
Акварэльнай сіні далягляд
І на сіні той — бары, як фрэскі?

Кажаш ты — і ў колішнія дні
Тут свяціла неба спелай поўняй?
І дзяўчаты грэлі хлопцам сны
Гэтакаю ж песняю чароўнай?

Кажаш ты — і ў даўнія часы
Тут гулі на травах лета гуслі?
І ў вачах не менш было красы,
І не менш гарэлі ўсмешкай вусны?

Кажаш ты... А я прашу: маўчы!
Ці ж калі ў вяках была хвілінка —
З гэтай вось касынкай на плячы,
На губах з зіхотнаю смяшынкай?

Ці ж хто-небудзь быў яшчэ калі
Шчаслівейшы за мяне на свеце?
Ці каго
вось так, як нас, вялі
Сцежкі па духмяным звонкім леце?

*1980*

* * *

Як бегла, як ляцела, як спяшала —
Было ўсё мала часу,
мала, мала.
Ах, ты чаму так коратка, спатканне,—
На светлае, на вечнае каханне?!.

Як смуткам, як жальбою, як слязою
Крычала, што зрабілася чужою,—
Так доўга, так бясконца, так няміла —
Хвіліна за хвілінай сэрца біла.

Ляглі на твар жальбы-пакуты цені,
Памерклі залатыя летуценні...
Калі цяпер
усё ў душы прачнецца?..
Калі наноў
камусьці адгукнецца?!.

*1979*

* * *

Не заклікайце ні па-ціхаму,
Ні гучнай іронай хвалой...
Мяне мой край
на мужнасць выхаваў
І гордасць даў
душы маёй.

Жывуць пачуцці непадкупныя,
Няма замены ім нічым.
Калі дзе ёсць святая купіна —
Дык толькі ў краі дарагім.

І хоць памёр бы я ў Амерыцы
Ці ў якой іншай старане,—
А сэрца ў край свой родны вернецца —
На сон на вечны ў Гайшыне...

*1979*

* * *

І хто пагарджаў ім, і хто зневажаў —
Усе прыйшлі ўславіць навечна:
Які ён быў рупны, як сеяў і жаў,
Які, маўляў, быў чалавечны.

А ён, спалатнелы, з усмешкай, з якой
Сустрэў міг пакуты апошні,
Ляжаў у труне і апошні спакой
Дарыў усім —
возьме хай кожны.

Не чуў ён, як хтось крывадушны над ім,
Сябе каб тут выценіць, пнуўся.
Ды раптам... што гэта? Здалося усім —
З труны ён — нібыта ўсміхнуўся.

І ўсе схаладнелі:
а раптам...— не, не!
Адплюшчыць ён гнеўныя вочы...

І словам, як брытвай, усіх краяне
Або — ўсім на страх зарагоча.

І ціха-паціху адгэтуль дамоў
Знікалі хітругі па купе...
І толькі аматар дзяжурных прамоў
Тоўк з потам
вяду сваю ў ступе...

*1980*

## СПЫТАЙСЯ

Спытайся ў братоў,
У сясцёр і нявестаў,
У шчырых сяброў
І паплечнікаў верных,
Што не забываюць
Ні сцежак юнацкіх,
Ні мараў, што ў сэрцах
Сумесна насілі,
Ні радасці стрэч
І вандровак шчаслівых
У светлае заўтра,
У свет непаўторны...

Спытайся —
Чаму
На цудоўнай вось гэтай,
На самай на слыннай
Зямлі партызанскай,
На кожнай дарозе,
На кожнай сцяжыне
І помнікаў столькі,
І абеліскаў,
І проста вянкоў
Па-над вокнамі хатаў...

Чаму тут па вёсках,
Абсягах бацькоўскіх,
Імкнуцца так людзі

Ўпрыгожыць старонку,
Зрабіць яе
Самай на свеце багатай
І самай прывабнай —
З лагодаю мілай...

Чаму кожны дзень,
А пры ўсякай нагодзе,
Гучыць
над старонкаю
Гэтулькі песняў.
Задумных і ціхіх,
Імклівых і звонкіх,
Вясёлых і светлых,
І бурных, і плынных,
А ў кожнай —
Гарачая прага да шчасця,
Бясконцая любасць
да маці-Радзімы...

*1981*

* * *

Не ў тыя рукі
трапіў чысты звон,
Што ў час бяды народнае вялікай —
Не да змагання, не да славы клікаў,—
Не ў тыя рукі
трапіў чысты звон...

Не ў тыя рукі трапіў востры меч,
Што не ахоўваў велічных парываў,
А грозьбай быў, караў несправядліва...
Не ў тыя рукі
трапіў востры меч!

Не ў тыя рукі трапіў той граніт,
Што не для вечных помнікаў героям,
А для бажніц
з ялейным аналоем —
Павылізаны быў з цярплівых пліт...
Не ў тыя рукі
трапіў той граніт!..

*1979*

## РАДЗІМА

Заўжды такая:
шырыня і далі,
З сінечай неба сонечнай без дна.
Заўжды ў легендах,
што вякі складалі,
Заўжды — як спеў юнацтва, як вясна.

Заўжды — што заклік:
пуцявінай роднай
Ляці па шчасце, крыўду адгані!..
А ёсць і гэткая:
трымціць пяшчотна
Уся ў маленькай, цёплай далані.

Кранецца воч, ціхутка песціць скроні,
Цяплом крывінкі ўспыхне ля шчакі.
Уся зямная ўцеха ў той далоні,
У ласцы
найдарожшай той рукі.

Жальбу знімае, гнеў раптоўна цішыць,
І боль у ёй спатоліцца спаўна...
Але няхай не думае хто іншы,
Што ў ласцы гэтай кволая яна.

Не! Праз вякі няма ані пачатку,
Ані канца вялікасці яе.
Хай толькі кіне час пра буру згадку —
Яна прад светам грознаю ўстае.

У самай светлай, у святой лагодзе
Сурова гоніць слабасць яна прэч.
І за народа праўду —
пры народзе
Ў тваю руку
ўкладзе адплаты меч...

*1980*

# МІЛАВІЦЫ

### Паэма

...І вось на ранку
                ля чаўноў збуцвелых
Я збіў з бухматых елак пульхны снег;
Пралез сярод ляшчынін
                        і на лёд
Паставіў пешні вострае лязо.
Быў сакавік...
                Як чыста і высока
Сінела над азёрнай даллю неба!
Якім ружовым, ціхім і марозным
Было яно на ўсходзе,
                        дзе ўрачыста,
Нібы на сваце весняга святла,
Пад небасхілам Мілавіцаў нашых,
Здаецца, з нейкай звонкае купелі
Ўставала сонца...
                Не, я не жадаў ніколі
Сярод людзей праслыць ідэалістам:
Патрапіўшы на лёд, не ленаваўся
Біць пелькі —
                каб удосталь, у ахвоту
Хутчэй нагаварыцца з акунямі,
А потым заарканіць добрай блешняй
Якога гарбыля, а мо і болей...—
Рыбак — усё ж рыбак...
                        Ды гэтым ранкам,
У гэтай цішы, перад гэтым ззяннем
Зямлі, і сонца, і блакітных высяў,
Што, як адно вялікаснае дзіва,
З трымценнем уваходзіла ў душу
І біла там — і соладка, і з болем,—
У гэты ранак
                я адкінуў пешню,
Прысеў на скрынку
                        і ў нямым здзіўленні
Перад красою шчодрай, непаўторнай
Застыў
        і доўга, доўга, бы скавапы,
Пацавала...
        у вочы любае красы...

— Эгей! Не спіш? — мне крыкнуў знедалёку
Мой сябра, мой паплечнік у паходах
Рыбацкіх... Ён ужо стаяў над пелькай,
І каля ног ягоных біўся цяжка
Акунь аб лёд...
Ну, што ж, пара, напэўна,
І мне за пешню і за вуду брацца...
Я выбіў
блізка сітніка
дзве пелькі
І, хукнуўшы на блешню, як вучылі
Калісь мяне ў маленстве дзед і бацька,
Пусціў яе пад лёд —
да дна, дзе ходзяць
Бадзягі паласатыя звычайна,
Шукаючы малька ці чарвячка...
І толькі варухнулася падманка —
Як нешта яе ціха, далікатна
Пагладзіла нібы,
пасля — кальнула,
Бы голкаю,
а потым — ну, няйначай
Пацалавала...
— Э-э, дык тут, брат, цаца...—
Падумаў я.—
Так цвеліцца з ахвярай
Адно гарбыль-асілак. Будзь жа пільны,
Рыбак!..
Ды не паспеў і войкнуць
Я сам сабе, як раптам, неспадзеўкі,
Без стуку, без рыўка, але магутна
Штосьці захапіла блешню, цісканула,
І вось табе —
абрывак жылкі тонкай
На рукі мае вылецеў з вады...
Эх ты ж, гарбыль...
Ну што цяпер рабіць нам...
Мне —
зноў апраўдвацца перад сябрам
За новую няўдачу,— зноў прыдумваць
Легенду пра цябе: чаму так хутка
Панёс ты блешню лепшую маю;
Табе — баліць,
і я ўяўляю добра,

Як носішся ты зараз вакол пелькі,
Не ведаючы, як сябе пазбавіць
Ад болю... Дык жа слухай, дружа,
Параду,—
(трэба ж мне як-небудзь
Віну сваю загладзіць прад табой),—
Плыві хутчэй
да той вунь чараціны —
Да самай моцнае
у чарацяным лесе;
Патрыся аб сцябло яе губамі,
І, хоць, магчыма, боль агнём апаліць,
Ты не зважай, бо знай — чым больш рашуча
Ты будзеш чараціну сваю тузаць,
Тым і хутчэй расстанешся з бядой,—
Падманка выпадзе,
зрабіў такімі
Я спецыяльна ўсе з латуні блешні —
Без зазубня кручкі на іх паставіў...
Бо горна мне, калі каму баліць...
Плыві ж, мой дружа,
і, калі хоць трохі
Ты даравяць мне сваю крыўду можаш,
То ўсё забудзь, запомні толькі хвілю,
Калі вініўся я перад табой;
Вось гэту хвілю памятай, бо лепей
Па-брацку, па-сяброўску развітацца,
Чым потым сэрцу жалем назаляць...
Так я казаў,—
амаль услых, напэўна,—
Кругляючы па лёдзе, як аслеплы,
Бо зноў мой сябра штосьці такое крыкнуў...
Маўляў, што здарылася, што з табою, дружа?..
Мо трэба дапамога часам?..—
Гэтак
Здалося мне... І я дастаў з кішэні
Бляшанку, каб другую блешню выбраць
Ды гэтым супакоіць майго сябра...
І ў гэты час заўважыў: штось раптоўна
І хутка адбылося з днём: на сонца
Набеглі доўгія палосы-цені,
Замурзалася на даляглядзе неба,
А на зямлі —
па ледзяной раўніне

Пабеглі язычкі пазёмкі колкай,
Залізваючы крупкай след ураз...
Што ж, дзіва тут няма: хоць і лагодна
Пачаўся сёння дзень сакавіковы,
Ды на прадвесні ўсякае бывае.
Не раз я розныя праявы бачыў
За свой рыбацкі некароткі век.
Было — што, зранку песцячы лагодай,
Пад вечар сакавік, як апантаны,
Так пачынаў марозіць — дых займала;
Было — што, пасля доўгага прыпынку,
Зноў сыпаў снегам, гойсаў завірухай,
Дарогі замятаў, лясы і поле
Па-новаму сумётамі ўпрыгожваў.
Як быццам не вясновы быў ён месяц,
А сын зімы...
Прадвесне... Час няпэўны...
Але заўсёды — кожны гэта скажа —
Такі жаданы, светлы для душы.
Хоць, можа, і якой праявай здзівіць,
Ды сэрца знае: ўсё мінецца хутка,
Зноў пераможа сонца, дні лагоды
Настануць...
                    Так сабе я думаў,
Калі прыладзіў новую падманку
І пельку прабіваў ля сітнягу.
А воблік дня між тым усё мяняўся:
Ужо на небе спрэс пабеглі хмары,
Лёд пацямнеў, усчаўся сцюжны вецер,
І вось —
                нібы сцяна, нібы заслона,
Ударыў снег,
                    бясконцы, валкі снег...

Снег біў і біў —
                        навокал аж вірыла,
Руку працягнеш — і яе не бачна,
Як ноччу ці ў тумане...
                                Хоць крычы,
Каб не згубіцца ў белай цемрыні...
І я такі пачаў на самай справе
Крычаць...
— Огой! Ты чуеш? Дзе ты? Адгукніся! —
Паклікаў сябра... Але ён раптоўна

Сам вынырнуў з завеі прада мной.
— Ну што? — сказаў, аддыхаўшыся.—
От сюрпрыз!..
Падумаць толькі! Быў пятчотны ранак,
І так усё напотырч... Што ж, браток, далей?
Мо пачакаем дзесь, пакуль аціхне?
— А між дубоў пакінуты стажок,
Што прамінулі мы, калі па ўзлессі
На лёд выходзілі? Мо ён нас ахавае?..—
Сказаў я, ўзрадаваны, што нарэшце
Ніщто не перашкодзіць быць нам разам
І што не трэба будзе снег нагамі
Мясіць, не знаючы, куды ідзеш...
— А што?! І праўда!.. Дык хадзем жа, дружа!
Там і счакаем...—
І, хапіўшы спехам
Усё сваё рыбацкае начынне,
Па свежым цаліку, пад завірухай,
Што вострым шротам
забівала вочы,
Мы рушылі, па памяці, на бераг,
Дзе між дубоў, на грыўцы лугавой,
Нам бачыўся прытулак ад пургі...
І хоць не так і проста было здзейсніць
Сваё жаданне —
хоць нямала ў гурбах
Мы пакружылі, ўзяўшыся за рукі,
Ды ўсё ж нарэшце мокрыя ад пары
І ад завеі, што ляпіла густа,
Мы ўзбіліся на ўзгорак пад дубамі
І там наткнуліся —
не, не маглі наткнуцца,
Мы проста вымацалі
ў снегавых сумётах
Стажок...
Ах, што то быў за момант!
Як быццам пасля доўгае надзеі
На ўратаванне — аж заныла сэрца
Ад радасці...
Пакінулі пад дубам
Мы ўсё начынне (потым хіба знойдзем!),
З ціхэйшага, заветранага боку
Ачысцілі куток ад снежнай гурбы,
Адгрэблі ў стозе яму, каб змясціцца

Удвох —
і ад душы сказаўшы «дзякуй»
Таму, хто тут стажок гэты паставіў,
Нырнулі ў сена пахкае...
О міг!
Шчаслівы міг!
Змакрэлыя да ніткі,
Да дрыжыкаў прасцюжаныя ветрам,
Адзін да аднаго, нібы ў акопе,
Калі халодзіць душу артналёт,
Прыціснуліся мы і доўга моўчкі
Смакталі цыгарэты ў адчуванні
Той асалоды, што дае спакой
Упэўненасці:
ты тут не адзін.

А кудаса між тым усё грымела;
Не цішала, а яшчэ болей злюча
Кацілася, ляцела, скавытала
Лавіна снежная...
Аж хутка нашу схову
Так замяло, што толькі для вачэй,
Каб назіраць, што робіцца вакол,
Маглі мы прабіваць сабе ў сумёце
Адтуліны...
— Як дзіўна створан свет...—
Нарэшце перарваў маўчанне наша
Мой сябра.— Побач з хараством
Паўстане часам гэткае страхоцце,
Што хоць заплач ад суму...
Як гэта?.. Скажы...
Вось і сягоння...
Хто б падумаць мог,
Што ў дзень,
які пачаўся так чароўна,
Без літасці ўварвецца раптам гэты
Раз'юшаны буран...—
Ён зацягнуўся прагна
І доўга цыгарэтаю... Напэўна,
Ізноў даў волю роздуму ці, можа,
Якомусь успаміну... А тады
Спаволена прамовіў...
— У жыцці
Звычайна хочацца забыць здарэнні,

Што здзекам прагучалі для душы...
Ды ўсё ж бываюць хвілі,
калі раптам
Так нешта секане па сэрцы, так паўстане
Ў вачах,
што аж калоціцца ў табе
Ўсё ад пачуцця някліваага...
Ты знаеш...
Калісьці вось такі, якраз як сёння,
Быў у мяне завейны дзень на фронце...

У час начной разведкі боем
Групе штурма
Ўдалося — раптам,
нават нечакана,
Заняць адну найважную з пазіцый —
Пануючую над участкам цэлым
Варожай абароны
вышыню...
І ўдарнай нашай роце,
Над якой
Прыняў камандаванне я ў тым штурме,
Далі загад:
хоць і за кошт жыцця,
А вышыню
да падыходу нашых
Больш моцных сіл —
не здаць назад чужынцам...
Любой цаной...
Любой цаной —
трымацца
На гэтай на патрэбнай вышыні...
Вось так, як сёння, ну, якраз як сёння,
Быў дзень сакавіка... Я помню:
дваццаць пяты...
З высокім небам, нават са смугою
На даляглядзе...
З сіняю хусцінай
Над хмаркай... Мо на ўсе, на ўсе нябёсы
Адной маленькай хмаркай...
Што навек запомніў —
Дык гэта сонца...
Наўкруга
Палала сонца...

Так прамяніста пачынаўся ранак,
Дзень ясны абвяшчаючы сабой...

Ты знаеш, і за многа-многа год
Чамусьці не памеркнулі ў душы
Пачуцці бурнай радасці і шчасця,
З якімі я глядзеў, нібы на дзіва,
На снег іскрысты —
Хоць і ў плямах чорных,
Ды нейкі, як святочны...
Свет святла,
Прадвесня свет,
Надзеяй цешыў сэрца...
І верылася ў той чароўны ранак,
Што свету гэтаму няма канца...

Але, хоць і збянтэжаны налётам
Начным,
Не мог, вядома, прымірыцца вораг
З балючай стратаю...
І хутка
Пачалося
Тое пекла,
Якое можна толькі асабіста
Пазнаць.
А выказаць у словах
Не дадзена нікому...
Цэлага паўдня
На нас кацілі люта контратакі,
Падтрыманыя шквалам артагню...

Ужо ляжалі, скурчаныя ў снезе,
Пад зыркім сонцам,
быццам немаўляты,
Што сціхлі пад матулінай пяшчотай,
Амаль паўроты хлопцаў...
Так прайшло паўдня...
А што было далей —
пра тое ўведаў
Я толькі потым...
Ты, вядома, чуў на фронце,
Як знедужэлы падае снарад?..
Нібыта шэпча ціха
Ён нешта перад тым, як цяжка ўздыбіць

Зямлю
і з громам, з лёскатам, са звонам
Прынесці гібель усяму жывому...
Так было і там...
Пачуў я ў перабежцы да траншэі,
Дзе сціх наш кулямёт,
такі пяшчотны
І палкі шэпт...

Ачнуўся ж у шалёнай
І сцюжнай завірусе: бы свінец,
Біў сівер па зямлі, і доўга зразумець
Не мог я —
што ж такое сталася са мной:
Быў прамяністы дзень,
быў бой за вышыню,
І раптам — гэта сцюжная пустэча,
Сумёт, з якога ледзьве свет свіціцца,
Шалёны снег, як бізуны цяжкія,
І поле, на якім —
грывастая пурга...

Пасля, ужо ў палатцы медсанбата,
Даведаўся я,
што было далей —
Услед за тым, як выбухам снарада
Быў кінуты змярцвела на акоп...
Яшчэ не прыпыняліся атакі...
Яшчэ агнём біў вораг звар'яцела...
І мала ужо ўцалела хлопцаў нашых...
Затым — знянацку наляцела бура,
Усё паблытаўшы, ўвесь засланіўшы свет...
Ды тут прыйшла раптоўна дапамога...—
Аж цэлы наш стралковы батальён
Закончыў бой за тую вышыню...
Ды гэта ўсё уведаў я пасля...

А там, тады, пад той навалай сцюжнай,
У нечаканай у завеі той,
Жахлівае пытанне не давала
Агойтацца душы:
Чаму адзін я ў полі?..
Дзе той акоп, куды я бег пад сонцам,
Каб ажывіць замоўклы кулямёт?..

Шукаць, хутчэй шукаць!..
Але пры спробе ўзняцца
З сумёта —
Страшны, востры боль
Працяў плячо... і ногі, як бярвенні,
Зусім мяне не слухалі...
Усё ж
Праз боль я адарваўся нейк ад снега...
Устаць не здолеў — дык папоўз...
Хоць і мяла пурга,
Ды і ў сутонні
ўсё ж нарэшце ўбачыў
Між свежых гурбаў — выпалены дол,
Разрывы чорныя,—
яшчэ іх не паспела
Засыпаць завірухай...
І напоў
Упаў у забыццё...
Знайшлі мяне
Сапёры, што, як толькі пацямнела,
Пайшлі рабіць сваю начную справу —
Паставіць
На «нейтралцы» мінныя заслоны...
І хутка ўжо ў руках сваёй медслужбы
Я быў з іх дапамогай...
Вось нібы і ўсё...

«Нібы»,— сказаў ён, трохі памаўчаўшы...
Як бачыш — і жывы, і ногі ходзяць,
І не адно вясёлае прадвесне
Спаткаў пад сонцам...
Ды сысці не можа
З душы
цень ад таго сакавіка...
Ад тых варонак, чорных, велічэзных
Паміж сягоў глухіх...
Ты знаеш, дружа...
Хаця і шчасце гэта —
жыць застацца,
А я не раз панаракаў на лёс
За тое, што не даў ён мне з сябрамі
Навек замоўкнуць там, на вышыні...
Знайшоўся чалавек,— адзін знайшоўся! —

Што аб'явіў віной маёй —
чаму я
Ўцалеў у той пякельнай калатні...
Маўляў, «і зампаліт загінуў,
і ад роты
Параненых —
як зернят засталося
У выбітым цапамі каласку,—
А ён — жыве...»
І я, паверыш, дружа,
Скрыплівы голас чую і дагэтуль:
«Чаму?..» «Чаму?..»
У шчасці міру, ў сонцы
Забудзецца нарэшце прыкры голас,
Здаецца, ззяе ўсё ў праменным свеце,
Ды раптам зноў, як нейкі цень,
прарвецца:
«Чаму?..» «Чаму?..»
З балючаю пакутай
Шукаю я тады сабе адказ...

Змоўк сябра...
Прагнаю зацяжкай
Глытаў падоўгу дым ад цыгарэты.
Збіваў з травінак пацеркі ад снегу,
Што звонку прабіваўся ў наш бярлог...
І я маўчаў... Я разумеў: не проста
Вось так адкрыць душу...
Няхай і з сябрам,
А ўсё ж не проста
зноў вярэдзіць боль,
Што ўжо ачах, аціх,
Незачапаны
Ніякай скрухаю праз шмат гадоў...
І я, магчыма, толькі б і паціснуў
Яго руку ў знак згоды майго сэрца
З яго настроем...
Калі б раптам сумна
Ён не спытаў:
— Ну, што маўчыш, мой дружа?..—
І гэтае пытанне,
як іскрынка,
Штосьузарвала і ў маёй душы...
Бо, покуль сябра вёў апавяданне

Пра свой такі трагічны сакавік,
Не мог пазбавіцца я ні на хвілю
Ад хвалявання, нават ад трывогі:
І мой адзін
далёкі, дзіўны боль
Ачнуўся і прасіў:
«Пусці, пусці!..»
І я, адчуўшы, як патрэбна зараз
Хоць крышачку спагады майму сябру,
Сказаў:
— А ведаеш, калісь са мною
Таксама штось такое адбылося...
Якраз як і ў цябе, ў сакавіку...
— Таксама? — нібы з нейкай асцярогай
Ці з бояззю перапытаў мой сябра...
— Так... сама...
Помню добра — на сканчэнне
Сакавіка
раптоўны снегавей,—
Ці лепш сказаў бы,— бура-шугавея
Аж трое сутак
намятала гурбы
На сцежкі, на траншэі, на дарогі,
На агнявыя рубяжы...
Адкопваць
Даводзілася танкі і гарматы,
Каб вызваліць са снежнага палону;
На пунктах назіральных,
у ахове —
Байцы мо з тою ж самаю павагай,
Што стэрэатрубу ці аўтамат,
Трымалі побач простую лапату —
Як зброю ад завеі...
Вось тады ў мяне
І адбылося сумнае здарэнне,
Якое параўнаў бы я з тваім...
На трэцім дні той самай завірухі
З найважнай весткай
для сваёй спецчасці
Вяртаўся я з задання...
Хоць вандроўку
Цяжэйшую не выснііў бы і ў сне,
Але загад «як найхутчэй дабрацца!»

Быў строгі...
І, паверыш, без трывогі
Нырнуў я ў пекла сцюжнае пургі...
Уперадзе было мо больш за трыццаць
Занесеных снягамі кіламетраў,
Ды што заносы, што віхуры злыя,
Калі і дужы ты і малады! —
Ты ж помніш сам,
ніхто з нас не баяўся
Падставіць твар пад буру,—
з небяспекай
Спаткацца вочы ў вочы...
А тым больш
Я верыў,
што калі дайду своечасова
Да штаба, дык, напэўна, не адзін
Мне чалавек руку пацісне...
Вось з такім
Настроем я прайшоў мо з паўдарогі,
Правальваўся ў сумёты, ледзь выцягваў
Са снегавое кашы ногі, задыхаўся
Ад халепы, ды ўсё ж ішоў, ішоў,
З упэўненасцю,
што цяжкое ды благое —
Усё ўжо там, адзаду, за плячмі...
Але ўяві —
Хоць неаднойчы вёрсты
Прамераў я раней па тым маршруце,
Ды ў завірусе недзе ўсё-ткі збіўся
З дарогі...
Бо знянацку ўбачыў,
Што нейкія мясціны пачаліся,
Якіх раней ніколі не страчаў...
Сам разумееш — як зайшлося сэрца,
Калі адчуў, што заблудзіў...
Я кінуўся шукаць
Знаёмы шлях — хоць рэдкія бярозы
Ад колішніх прысадаў... Ды слупы
З парванымі дратамі... Але дзе там!..
Сляды старыя пазаносіла... І мне
Нічога іншага не засталося,
Як толькі паглядаць часцей на компас
Ды верыць шчасцю...
Але тут, браток,

Зрабіў я два жахлівыя адкрыцці:
Адно — што я падбіўся, ўсё цяжэй
Было перастаўляць мненогі;
а другое —
Што дзень на спадзе, стала ўжо шарэць,
І я адзін, як у пустыні... Ды ў дадатак —
Змакрэлага да ніткі пачало
Мяне, бы ў ліхаманцы, калаціць...
Калі сказаць па праўдзе,
дык, магчыма,
Ад хвалявання ды ад страшнай стомы
Пачаў я траціць мужнасць... Ледзь валокся...
Куды?.. Абы не ўпасці... Не замерзнуць...
І вось тут, браток...
Пачуў я раптам блізка храп каня...
Ты быў у небяспеках, і ты знаеш,
Як настае раптоўнае здранцвенне,
Калі напружанасць спадае...
Так і я...
У мроі аб ратунку, аб збавенні,
Стаў, як змярцвелы... Больш не мог я
Ступіць ні кроку... Я чакаў з'яўлення
Каня...
І ён з'явіўся...
Набліжаўся
Да мяне вазок... І ў ім сядзеў
Знаёмы мне вайсковец... Так, яго я ведаў...
То быў начальнік сувязі
суседняй
Пяхотнай часці на перадавой...

— Таварыш падпалкоўнік...—
Я сказаў насустрач...
І ён глядзеў мне ў вочы. Чуў мой голас.—
Таварыш падпалкоўнік... Не пакіньце...
Ісці больш не магу...—
Конь глянуў у мой бок...
А падпалкоўнік... верыш... адвярнуўся...
Нібы не чуў —
не вымавіў ні слова...
Ужо ідуць і побач сані... Ногі млелі...
А вось і праглынае завіруха
Каня...
Усё... Як здань, як летуценне —

Прапаў вазок...
І я падумаў, што на гэтым
І скончыцца мая вайна —
ужо не выйсці
Адсюль...
Ды раптам... раптам, дружа...
На ўвесь абсяг
ад неба да зямлі —
Праз смутнае завейнае сутонне
Я ўбачыў твар... далёкай, любай маці...
І вочы...
Аж на цэлы, цэлы свет
Бязмежны позірк дарагіх вачэй...
Раўла пурга... Здавалася, яшчэ больш люта
Раўла і гойсала...
Але... але...
Я раптам, як падкінуты, ўсвядоміў,
Што ёсць яшчэ ў мяне выратаванне —
Ісці, ісці хутчэй па следу палазоў!..
І я пайшоў...
Ішоў — хоць дзе і поўз, і падаў,
Ды ад сапей вымацваў каляю,
І падымаўся зноў,
і зноў, як у гарачцы,
Змагаўся з бурай, з цемраю...
Пакуль...
Аднекуль не пачуў
зусім глухія
Людскія галасы...
Тады...
Тады на ўсю, што засталася, сілу
Пачаў гукаць...
І помню — падхапілі
Мяне пад рукі, паднялі, панеслі...
І помню — апрытомнеў я ў зямлянцы
У ясны ранак... Біла сонца ў вочы...
І помню — як хадзілі ля мяне
Байцы, артылерысты батарэі,
На агнявы рубеж якой я ўзбіўся...
І як усе дзівіліся яны,
Што здолеў я прайсці праз тую буру
Такую далеч...

— Ну, а што пасля?..

Пасля не сустракаў ты тога пеўня? —
Спытаў мой сябра,
калі я закончыў
Апавяданне і, глытнуўшы дыму,
Стараўся супакоіцца...
— Пасля?..
Ці сустракаў, пытаеш?.. А навошта?..
Скажы,
Каб не сягоннявіні выпадак —
Хіба ж успомнілі б
мы пра здарэнні нашы?..
Хіба не засланілася ўсё ліха,
Што выпала спазнаць нам калі-небудзь,
Бясконцай дабрынёй людзей, якая
Мільён разоў страчалася ў жыцці?!
— Так... Гэта так... Ды ўсё ж...
Як лёгка часам
Даруем мы...— Мне запярэчыў сябра,—
Як лёгка часам мы даруем жорсткасць...
Бесчалавечнасць нават...
Для чаго?..
Хаця...—
Ён праказаў у роздуме, нібы
Узважваў штосьці...—
Можа, ў тваіх словах
І праўда... Ў векапомным маі,
Калі грымелі залпы Перамогі,
Нат у слязах матуль асірацелых
Не боль людзям свяціўся, а прамень
Вясны вячыстай...
Мо і трэба сэрцу,
Каб яшчэ болей чуйным стаць,—
пазнаць і кроплю
Нялюдскасці ў тым неабсяжным моры
Дабра і радасці,
што людзі твораць разам
Ад нараджэння — для ўсяго, для ўсіх...
Так мы сядзелі, ўзвышаныя чыстым
Пачуццем дружбы, шчырага яднання,
Тым, што заўжды раджае
дзіва-шчодры
Спакой душэўнай светласці...
Калі
Адчулі раптам, што за нашай сховай —

За сценкаю духмянага стажка,
Штось адбылося новае ў прыродзе...
І, не чакаючы, прабілі сыпкі снег,
Каб адсланіць наш берлаг...
Свеце любы!
Што наўкруга адкрылася вачам!..
Хоць яшчэ дзе-нідзе ляцелі грыўкі
Пазёмкі, але ўся зямля так урачыста
Свяцілася празрыстай белізною,
Што ажно сэрца млела...
Ў небе зноў бясконца
Без межаў адкрываўся ўвесь блакіт,
І сонца, недзе блізка пасля поўдня,
Так ярасна праменіла, так ззяла,
Як быццам адчувала вінаватасць
Перад зямлёй за змрочны перапынак,
І зараз
светлыню сваю дарэшты
Імкнулася ёй, дарагой, аддаць...
— Ты бачыш, дружа?! —
Выгукнуў мой сябра.—
Ты бачыш шчасце?!.
— Бачу, дружа, бачу! —
У тон яму я адказаў з уздыхам.—
І слаўлю сэрцам гэты свет чароўны,
І хай і нас ён, непаўторны, блаславіць!..
І мы, як па камандзе безадмоўнай,
Імкліва абняліся перад сонцам...

Здаецца, прысягнулі на адданасць
Яму навечна,
аднаму яму...

Тады між гурбаў пад высозным дубам
З-пад снегу выграблі сваё начынне...
І хутка зноў спыніліся на лёдзе,
Шукаючы знаёмую мясціну,
Дзе пелькі ў нас былі,
каб іх прабіць папова
Каля засланых беллю сітнягоў...

Ды толькі —
так даверліва і так пяшчотна-шчыра,
Бы адчувала, што і мы з ім разам

Прайшлі святую дзею ачышчэння,
Глядзела на нас возера,
вітала адусюль,
Што, быццам у экстазе невымоўным,
Застылі мы
над роўняддзю прачыстай
І толькі што адно —
як вокліч хвалявання —
Маглі сабе прамовіць слова: «Не!..»
І гэта значыла —
што сёння мы не зможам
Да лёду
нават дакрануцца пешняй.
Хай спачывае яго гладзь пад коўдрай белай,
Хай некранутай сёння застанецца
Ягоная ў мільёнах самацветаў
Здабытая з пакутай чысціня!..
Гарэлі далі...
Сонцамі пад ногі
Плылі снягі...
Засіненае ўзлессе
Запахла цёплай хвояй...
Колькі крокаў —
І будзе выхад з возера —
каля чаўноў збуцвелых,
Дзе так звіняць празрыстыя сняжынкі,
Калі іх на ялінках закранеш...
Усхвалявана —
след у след, нібы алені,
Каб белізны не зачапіць залішне,
Ішлі мы, саграваючы маўчаннем,
Як немаўлятак, радасныя думы
Перад зямною роднаю красой...
І раптам — як заўсёды, неспадзеўкі,
Хоць і жадана...
Раптам па-над намі
Дзесь у вышынях адбылося дзіва:
Дзесь
першы
жаваранак
зазвінеў...
І заспяваў наш снег... І Мілавіцы нашы...
І сэрца
іх пачула галасы...

І мы спыніліся... І я спытаў у сябра:
— Ты мне сказаць дазволіш слова?
Ён адказаў: — Кажы!..

І праз снягі марозныя, праз цішу,
Што запанавала зноў над цаліком,
Як самы ашчаслівулены на свеце,
Я закрычаў на поўны дых грудзей:
— О Мілавіцы! О наш светлы
цуд азёрны!

Прымі паклон
За ўсю тваю святую дабрыню!
Мы пойдзем ад цябе
з яшчэ свяцейшай верай,
Што радасць непагасна на зямлі!
Што ўсюды і ва ўсім —
і ў чалавечых сэрцах,
І ў трапяткой душы
прыроды дарагой,—
Няхай сабе і ў муках, і пакутах,
А вечна будзе нараджацца шчасце,
Як вечна наша
прага да жыцця!..
Звінеў пад сонцам жаваранак...
То, здаецца, яшчэ ціха, квола...
А то знянацку —
галасіста, пераможна
Аднекуль голас па́даў з прамянёў...
— Ты чуеш? — запытаў мой сябра.—
Як ён кліча! Чуеш, дружа?
Ідзі за мной. Я пакажу, дзе звоняць яго крылы...
І я з любоўю адказаў:
— Я веру табе, веру, дарагі...

*1982*

* * *

Ну што, муза,
Пачнём і мы
Да ўсяго чалавецтва
Свае крыўды скіроўваць і скаргі? —
Маўляў, там нас не ўспомнілі,
Там абдзялілі,
Там не па-нашаму зрабілі нешта,
Там у нас не спыталі чагось,
Там не зразумелі,
А там, маўляў,— забылі адзначыць
Нашы былыя заслугі?!.
Ці яшчэ пашлём да людзей
Сведчанне сэрца,
Што мы не рассталіся назусім з маладосцю,
Умеем дружыць з радасцю
І шчыра ўзвышацца
Нават маленькай,
Найпростай удачай,
Умеем не заўважаць, дзе ў нас што забалела,
І сонечна марыць хай і пра мройнае шчасце?..
О муза, муза!
Дзякуй табе
За тваю таварыскую згоду!
Буду тваім паслухмяным слугой
І тваім дапаможцам
Адданым і верным,
Буду
Трываць і цярпець,
Пад цяжарам любым
Не ўпаду, не зламаюся...
Толькі не дай мне
Да той глухаты апусціцца,
Дзе ўжо няма
Ні людзей, ні іх мараў, ні смутку;
Толькі пакінь мне
Да самага скону,
Да хвілі апошняй
Веру, і смагу,
І прагу — жыццём захапляцца!..
О добрая муза!..

*1985*

# НАДЗЕЯ

## Паэма

Я прачнуўся ў ноч.
Я не мог заснуць...
Нейчы голас грaзіў мне здалёк...
— Можа, не мне?..—
Завошта?.. Завошта гразіць мне?.. Нашто?..
Не хацелася верыць...
— Табе!..—
Разбалелае засведчыла сэрца.—
Чуеш?!
Вось ён!..
Прыслухайся!..—
Голас пагрозны
Бэсціць народа твайго Перамогу...
Ганьбіць пралітую 'кроў
І пакуты людскія
І нават над помнікам жáльбы —
Брацкай магілай мільёнаў —
Шалее ў няпавісці...
А хіба ж не ты
Шчыра аддаў Ёй юнацтва сваё,
Дні маладыя у вогнішчы кідаў,
Кроўкай захліпваўся,
Браў на душу
Ліхалецці, цяжáры нягод
І нават з жыццём
Быў гатовы ахвярна расстацца,—
Толькі б у край твой і свет увесь цэлы
З радаснай той Перамогай
Навечна
Сонца і мірныя ліўні
прыйшлі па загоны,
Рунь у праменнях кусцілася,
Светла ўставалі сады,
Людзі сябрамі заходзілі
ў дом твой гасцінны,
І сыце было па стале...
Але чуеш?..
Вось ён!..
Прыслухайся!..—
Голас пагрозны

Кідае словы праклёнаў
на кожны твой крок,
Дзеткам і ўнукам тваім
Наклікае жахлівыя кары...
Завошта?.. Нашто?..
Сэрца пыталася,
Білася з болем,
Быццам набатны ўстрывожаны звон,
Гулка гайдала начную самоту...

Я падняўся.
Я выйшаў пад сінія зоры.
Трымцеў ужо золак.
Шамацелі пяшчотна
пад цёплай расою лісты.
Над краем плыла
неабсяжная, чуйная ціша.
І я спадзяваўся, я так спадзяваўся,
Што голас той сціхне,
Пакіне ў спакоі душу...
Але не...
Ён гучаў — і грозіў, і грозіў мне здалёк...
І сэрца гукала: — Ты чуеш?! Паслухай!
Паслухай!..
І тады мне згадаліся
ў выбухах чорных палі,
Над магіламі брацкімі
залпы гарачых ствалоў.
І гаркотныя слёзы
матуляў, што лютае пекла прайшлі,
І салдацкія клятвы —
сурова, маўкліва, без слоў.
І тады зноў
жахлівыя, немыя крыкі пачуў,—
Са скляпенняў гестапаўскіх
стогнамі ўдарыла ў твар.

І тады зноў паўсталі
шляхі агнявыя ўваччу,
І пад вёрстамі — вісельні...
вісельні... сотні ахвяр...
І тады...
І тады — сэрца ўпала,
нібыта ў якоесь прадонне,

І не стала чым дыхаць...
Сціскала ў грудзях...
І тады —
Я прасіў:
— Пацярпі, маё любае,
Не спыняйся,
Вось ранак ужо настае,
Хутка прыйдуць праменні,
Прынясуць табе цёплую ўсмешку вясны,
А за імі прымчыць Кацярынка,
І Дашута прыскочыць з пяшчотнаю песняй,
І Косцік на новым кляновым
прыедзе кані,
А за імі паважны наш Дзімка
сястрычку Настульку
Прывязе ў самаробнай каталачцы ў сад,
І тады — я ўжо знаю —
ты мужна асіліш свой боль,
І тады табе стане лягчэй,
Пацярпі ж, маё сэрца,
Не зважай на пагрозы,
Паглядзі — як ёнззяе, цудоўны наш свет!..
Узыходзіла сонца.
Так велічна, радасна, ясна
ўставала яно.
Афарбоўвала ў чыстае золата
даль над ракой.
Адмыкала для радасці свет,
адчыняла з вітаннем акно,—
Для жывога ўсяго
мірны, сонечны
несла спакой.
Цёпла дыхалі дрэвы.
Па-ранняму,
Востра
Запахла ў лістоце раса.
На пялёстках, здаецца, звінелі
праменняў званы.
І насустрач чароўным, нястрымным
вясны галасам
Нехта нёс сваю радасць...
А то — ўжо спяшаліся
ў сад наш — яны!
Дзеці.

Вясёлкі мае.
Колькі шчасця ў вачах іх,
Колькі ласкі,
Пяшчоты
Да ўсёй навакольнай красы!
Хто ж ім кары жадае?
За што?
Хто ў іх ворагаў бачыць?
Хто ім шле
                свае грозьбы здалёк?..
— Сястрычкі мае!
— Брацейкі!
Не стаптчыце пялёсткаў,
Хай белаю будзе зямелька,
Чысцюткай хай будзе!..—
Я знаю:
То кліч падае
                Кацярынка.
Гаспадынька.
Парадніца ў садзе.
І, хоць дзецям так хочацца
                кінуцца ўроссып,
Зазірнуць найхутчэй
                ва ўсе сада куткі,
Ды ўсё ж слухаюцца
                Кацярынкі,
Асцярожна
                ступаюць між дрэў...
І вядзе яна іх за сабой,
І ў жменькі гарачыя
Падбіраюць са сцежак
                пялёсткі,
Рассыпаюць на градкі —
Хай белаю
                будзе зямля!..
А тады — не ўтрымаліся —
Пырснулі смехам,
Штосьці вясёлае ўспомнілі,
Вакол хаты бягуць і гукаюць кагось,
А тады — каля кветак спыніліся,
Пчолак ранніх вітаюць,—
                самі пчолкамі ўюцца ля іх;
А тады — чую —
                звонка

Прыпыняе ўсіх голас Дашуты:
— Дзеці, дзеці, паслухайце:
А я песеньку новую склала!
Чуйце! Чуйце хутчэй!..—
І яны абступаюць сястрычку,
Падахвочваюць шчыра...
Бо што-што,
А новыя песні і казкі
Цэлымі днямі
Тут слухаць гатовы штораз!..

### *Песня Дашуты*

Татачка родненькі
Завязе мяне на каляровы луг.
А мамка пакажа,
Дзе расцвілі
Прыгажуткія кветкі.
І я спляту ім —
Татку і мамцы — па вяночку,
Бо яны ў мяне — самыя-самыя
Лепшыя ў свеце.

Татачка родненькі
Занясе мяне ў прамяністую ваду,
А мамка пад сонцам
Памые мне русыя коскі.
І я знайду ім
Чыстыя ў вадзе самацветы,
І будзе зіхацець для іх
Радасцю
Увесь паднябесны свет.

Татачка родненькі
Падыме мяне на дужых руках.
І я ўбачу ў вясёлых кветках
Светлую ў свеце дарогу.
І я пайду па ёй з таткам і мамкай
да шчасця,
І ўсе будуць рады
на цэлым свеце,
Што я вырасту добрай
І буду любіць усіх!..

Дашута пела.
А брызкачка-брызка
Настулька
Чмокала губкамі
І згаджалася весела:
«А-га, а-га...»
Косцік стаяў у захапленні
І гаварыў:
— Цудоўна!
Як усё прыгожа!..
А Дзімка ўключыў транзістар
І падбіраў у эфіры мелодыю
Пад Дашуціну песню...
І раптам —
З прыёмніка
Грымнулі словы пагрозаў,—
На ўсіх нас, на нашу краіну
Нацэльвалі крылатую смерць...
— Мы — звышсамыя!..—
Крычалі здалёку.
— Мы — не спынімся!..—
Крычалі здалёку.
— О'кей! Пануй над усім, наша сіла!..—
Крычаў звар'яцела паяц...
Дзеці нічога не ведалі.
Яны бачылі толькі сонца і радасць.
Дзеці пляскалі ў ладкі
Дашуце.
Смяяліся...
А голас грaзіў і грaзіў...
А голас грaзіў,—
І тады я яго пазнаў:
Гэта ж ён разбудзіў мяне
сёння ўначы...
Гэта ж ён прыгнятаў маё сэрца...
Захмарваў мне дзень...
Я пазнаў яго —
І тады, як не раз,
Мне ўявіліся
неба ракетныя высі,
І выццё паліцэйскіх сірэн,
і жахлівасць у гонцы дарог;
І забойцы наёмнага —
люты ашчэр уявіўся,

І ахвяраў адчай,
для якіх не заслона і бог...
І тады мне ўявіліся —
гром барабанаў вайны,
Ваяўнічасць парадаў,
заваёўнікаў маршы —
гіп-гоп! веры гуд! —
І вачэй генеральскіх
пагляд, як у ката, шкляны,
І нявольнікаў слёзы
пад сцягам жуды і пакут...
Амерыка...
Ты ж помніш, сэрца,
Як стаялі мы ў сумным здзіўленні
Перад тою зямлёй...
Як нямелі
Перад шаленствам дзялкоў,
Што падбівалі ў камп'ютэрах
Працэнты з людской крыві.
Загадалі яны камп'ютэрам,
і тыя лічаць, лічаць:
Колькі ў скляпеннях бомбаў,
колькі ракет.
За якія хвіліны
можна знішчыць
Адзін на ўсё чалавецтва свет.
Загадалі камп'ютэрам,
і тыя вядуць падлікі:
Колькі людзей выжыве,
а колькі — не.
Што стане з сям'ёй
чалавечай вялікай
У бязлітаснай, атамнай,
лютай вайне.
Хто панаваць будзе
над уцалелымі,
Хто стане бязмоўным,
вечным рабом,—
Усё падлічваюць
Дзялкі вайны...
Але ты ж помніш, сэрца,
Там — і гэта
Мы бачылі:
Як цалавалі маці сваіх немаўлят;

Як карміла
З лыжачкі
Бабуля ўнучку маленькую,
І дзьмухала ёй на кудзеркі,
І пяшчотна ўсміхалася ёй;
Як прасіў хлопчык
У нью-йоркскім парку,
Каб вавёрачка
Села на яго руку,
І бацька памагаў яму:
Цокаў вавёрачцы,
Як робім гэта і мы...
Помніш, сэрца,
Як ты мне падказвала словы,
І я звяртаўся да той зямлі:
О Амерыка,
І ў цябе ж ёсць прага радасці
І жаданне яе захаваць.
І ў цябе ж ёсць свет маленства,
Смех і песні ў чарадзе.
Звонкі мяч. І перагонкі.
І караблік на вадзе.
І ў цябе ж ёсць дзівы-казкі:
Дорыць скарбы чарадзей.
Летуценні, думы-мроі —
Аб святле на кожны дзень.
І ў цябе ж ёсць расставанні.
Смутак сэрцаў і спалох.
Тэлеграмы. І паштоўкі.
З дальніх сцежак і дарог.
Вунь праводзіць маці сына,
Вунь ступае пакрысе.
Ціха журыцца старая,
Як матулі ў свеце ўсе.
Вунь дзяўчына сарамліва
Пасылае хлопцу знак.
І, як многія на свеце,
Чырванее ўслед юнак.
Вунь капрызіць шустры бэбі,
Ручаняткай кліча...
— Мэм...
І ў цябе ж —
прамень натхнення
Ёсць для песень і паэм!..

Дык няўжо ж, няўжо, Амерыка,
Я паверу калі-небудзь, што ты
Можаш дапусціць,
Каб усё гэта знікла?
Няўжо ў цябе іншая Надзея —
Не на жыццё,
А на смерць?
Няўжо я паверу,
Што сваім катам і дзялкам вайны
Ты дазволіш
Страляць у маіх дзяцей,
Якія любяць свет у сонечнай радасці —
Гэтак жа, як і твае?!

Так,— ты помніш, сэрца,—
Мы гаварылі з табою тады —
У вочы самой Амерыцы;
Дык няўжо ж мы адмовімся
ад сваіх слоў, ад сваёй веры,
Пачуўшы адтуль крыкі пагроз?!.

У задуме, у роздуме
Я стаяў з устрывожаным сэрцам,
А за гэты час
Дзімка падабраў мелодыю,
І дзеці з усяе вуліцы
Стоўпіліся каля Кацярынкі
І спявалі песеньку пра мамку —
Мамачку-мамульку:

Сонейка прамністае,
Узнімайся весела!
Пра мамульку-мамачку
Слухай нашу песеньку!
Мамачку-мамульку
Род-ну-ю!
Мамку-дарагульку
Доб-ру-ю!

І сонца слухала іх
І шчыравала на ўсю моц,
Ажно людзі здзіўляліся:
Як зіхаціць зямля!

І людзі ўсміхаліся адзін аднаму,
І людзі віталіся, як лепшыя сябры,
І людзі неслі ў вачах святло дабрыні,—
Столькі дабрыні — што аж на цэлы свет!..

І тады мне паўсталі —
шляхі векапомнай вясны,
Дзень святой Перамогі:
як бурліў акіян наш людскі!
Як, адчуўшы, што стухла
ненажэрнае пекла вайны,
Людзі славілі шчасце —
жыццём даражыць праз вякі.

І тады мне паўсталі —
ад усмешак, ад радасных слоў
Светлыня; і абдымкі, і музыка,
песні без меж,—
Перамога!.. Ўвесь свет дарагі
нараджаўся, ўзнімаўся наноў,
Каб адно панавала ў жыцці
толькі кельма, сяўня і лямеш!..

Адкуль жа прыйшло,
Адкуль узялося
Столькі светлых пачуццяў,
Столькі ўсмешак і песень,
Столькі радаснай веры,
Жадання ствараць і тварыць —
Пасля чорных такіх ліхалеццяў,
Пасля згубнай такой вайны?!

— Сонца! — я пытаў.—
Адкажы, ты ж таксама
пазнала
На сабе
Праз стагоддзі
навалы ліхія,
І цябе ж неаднойчы
Хацелі
Заслонамі войнаў,
Бясконцых разрываў і выбухаў,
Цемраю хмарнай і чорнай
Адпрэчыць навекі ад свету,
Ад людзей з іхняй прагай жыцця.

Дзе ты сілу бярэш сваю, Сонца?..
Ці не баішся, што зараз
Загубяць дзялкі і цябе?!.

Сонца заместа адказу
Узнімалася ярка вышэй і вышэй,
Залівала святлом
Усё болей і болей прастораў,
Цалавала і кожны зялёны лісток,
І былінку,
і кволенькі парастак,
І бухматую кветку,
і з мядовым узяткам пчалу,
І дзяцей у іх шчасці,—
І ў гэтым буянні красы і святла
Я пачуў мне адказ...

Няхай сабе шалеюць
У марах лютых
Дзялкі вайны.
Няхай сабе шлюць хоць якія пагрозы.
Няхай падбіваюць рахункі
Іхнія камп'ютэры...
А сонца ўстае кожны дзень
Урачыста, велічна і пераможна
І з любасцю абнімае зямлю!
І падымаюцца пад праменнямі
новыя цікаўныя лісточкі,
Ідзе ў трубку,
зеляніцца пёрамі рунь,
Варушацца карані ў глебе,
мацуюць завязь сады,
Трымціць жаваранак у небе сінім,
І перапёлка прабуе голас —
ці чыста звініць?..

І, вітаючы вялікую любасць сонца,
Нясуць людзі ў будучыню
Вялікую сваю Надзею,
І пакуль яны пад аховай і любасцю
Народнай маёй Перамогі,—
Ніхто не спыніць людскога жыцця!..

*1985*

## ФРАНТАВЫЯ РЭКІ

Успомню грымотныя рэкі —
Маскоўскія Нару ці Шаню —
І мужная смеласць герояў
Наноў прад вачыма паўстане,
І голас таварыша чую:
— Агонь на сябе выклікаю!..—
І голасу даўняга
рэха
Ні ў дзень і ні ў ноч не змаўкае.

Успомню Угру ці Тарусу,
Калужскія Жыздру і Лужу,—
І бачу: над кручай высокай
Крыжастыя «юнкерсы» кружаць,
І бачу, як падае сонца
За дымам у травах мядовых,
І як медсястра,
Зноў пачую,
Мне шэпча гаючыя словы...

Прыйду на мяжу Беларусі —
Віхру́ прыгадаю і Проню,
І час — агнявымі званамі
У кожнай крывінцы зазвоніць,
І ўявіцца зноў, як жывое,
Далёкае ўсё франтавое,—
І боль, і надзея, і вера,
І страты са скрухай сваёю...

О любыя, светлыя рэкі,
Крыштальныя, чыстыя воды,
Даруйце, што звалі калісьці
Мы воднаю вас перашкодай;
Былі вы для нас рубяжамі,
І мелі мы горкае права
З усім,
Чым знішчаць толькі ўмелі,
Ісці на свае пераправы.

І мы вас бамбёжкамі білі,
Снарадамі шчодра кармілі,
І целамі паўшых, бывала,
Вас густа, як гаці, гацілі,

Не заўважалі ў атаках
Мы вашай нідзе прыгажосці,
Ішлі на крывавыя штурмы
З адвагай душы маладосці.

Дазвольце ж мне, рэкі, сягоння
Сказаць вам удзячнае слова
За вашу цярплівасць і мужнасць,
За вашу святую суровасць,—
Мы вашу прывабнасць губілі,
А вы нас вадзіцай паілі,
Мы вас агнямётамі крылі,
А вы нам сінь ранкаў дарылі;

А вы пасля боек гарачых
Няслі цішыню нам заўсёды,
Туман лугавы вечаровы
І ранкаў сівых прахалоду,
А вы ў нашы сны маладыя
Лятункі вясны пасылалі,
Абы толькі ўсталі хутчэй мы
Ды ворага лютага гналі!..

Стаю над люстранай вадою,
Гляджу на красу дарагую,
І з любасцю сэрца гарачай,
Якую ўвесь век берагу я,
Жадаю вам, любыя рэкі,
Адно толькі міру, спакою,
Адной толькі бітвы —
дзе травы
Сцяною стаяць прад касою.

Адзін толькі гром па-над намі
Хай чуецца — гром навальніцы,
Адны толькі ўспышкі трывожаць,
З-пад хмараў вандроўных
зарніцы.
Плывіце, крыштальныя рэкі,
Змагаркі зямлі і няскоры,
У самыя чыстыя далі,
У самыя светлыя моры!..

*1985*

## ШУРА ПАПОВА

Чаго ты ўсё снішся мне, Шура Папова,
Чаго ты мне снішся?
Пра што ты ўсё просіш балючасцю вуснаў,
А слоў я не чую?
Пра што так крычаць твае сінія вочы,
Чаго ўсё чакаюць?
Чаго ты махаеш мне белай рукою,
Куды ўсё праводзіш?

Шура Папова стаяла на скрыжаванні франтавых дарог, калі ў небе непадалёку з'явіліся драпежныя чорныя «юнкерсы». Дарогі былі пустынныя, адна яна, рэгуліроўшчыца, з сінімі вачыма летуценніцы, светлымі кудзеркамі гарэзніцы з-пад пілоткі, стаяла на растанях. Гэтай самай хвілінаю мы пад'ехалі да скрыжавання на машыне. Шура Папова весела ўзмахнула маленькімі чырвонымі флажкамі і нам, і насустрач самалётам, думаючы, што яны нашы... І раптам зямля ўздыбілася перад ёю ад выбухаў бомбаў... Адзін з чорных «юнкерсаў» аддзяліўся ад зграі драпежнікаў і з неадступнай жорсткасцю пачаў заходзіць у піке, вывальваючы смертаносны груз на сінія вочы, на светлыя кудзеркі, на лятункі юнацкія, на мроі няспраўджаных сноў...

І ўпала вясёлая Шура Папова
На жвір прыдарожны,
Прыняўшы цяжа́р, непасільную муку
На юнае сэрца,
Глядзелі ў здзіўленні сінюткія вочы
У сіняе неба
І не разумелі — навошта, завошта
Такая ёй кара?..

Я прабіўся праз выбухі бомбаў да Шуры Паповай, вызваліў з-пад жвіровага варонкавага завалу і ўзяў яе на рукі. Яна была лёгкая, як

бы пярынка з крыла гуся-
лебедзя. Нібыта ў гарачцы, я бег з гэтай светлай пярынкай на руках да самай машыны, вочы яе яшчэ былі як быццам жывыя і нібыта праменілі сінь цёплую, і здавалася, што вусны яе сонечна ўсміхнуліся мне, перамагаючы балючую пакуту, якая выступіла на смяртэльнай бледнасці шчок...
З грудзей дзяўчыны біў, пульсуючы, струмень яшчэ цёплай крыві, і я мацней прыціскаў яе да сябе, да свайго сэрца, каб спыніць гэты струмень, і з радасцю адчуваў, што ён памалу сціхае, і спадзяваўся, што данясу Шуру Папову да машыны, а тады мы даедзем да медсанбата, і там выратуюць яе жыццё, і сінія вочы зноў засвецяцца ўсяму свету, каб кожны з людзей, хто спаткаецца з ёю, верыў у сваю вялікую надзею...

Але я не ведаў, што нёс я ля сэрца
Ужо нежывую,
Не тую, гарэзную, Шуру Папову,
Што ззяла праменнем,
А толькі ўспамінак — прыгожы і чысты,
Як звонкае рэха;
Лятунак — якога і смерці адзнака
Змагчы не здалела...
Не ведаў, што там яшчэ, дзе яна ўпала
На жвір прыдарожны,—
Што там яшчэ сціхла крынічліва біцца
Дзявочае сэрца,
А вочы, што ўсмешку заўсёды дарылі,
Так і засталіся,
Яна не жыла на зямлі без усмешкі
І з ёй і памерла...

Над рэчкай, непадалёк ад таго скрыжавання,— мы выкапалі для Шуры Паповай на светлым узвышшы магілку. Каб магла яна бачыць усё наваколле, каб магла і бачыць і чуць поступ

нашых дывізій і армій,— як пайшлі мы ў вялікі паход наступлення — тут, на гэтых дарогах, дзе ўпала яна пад навалаю жорсткай... І лёгкай зямелькай яе мы магілку прыкрылі, каб сінім гарэзным вачам і вуснам з усмешкай не было аніколі ні горна, ні цяжка, і мужным салдацкім маўчаннем развітваўся кожны з яе гераічнай красою...

Что ж ты ўсё снішся мне, Шура Папова?
Чаго ты мне снішся?
Пра што так крычаць твае сінія вочы?
Чаго ўсё чакаюць?
Пытаю... Аж сорак гадоў так пытаю...
Хоць знаю напэўна,
Чаго ты махаеш мне белай рукою,
Куды ўсё праводзіш...
Праводзіш мяне ты на сцежкі людскія,
У свет чалавечы,
Крычыш, каб я помніў пра сіняе неба,
Ахоўваў ад катаў,
Гукаеш заўсёды ў красу веснавую,
У сонца, ў праменні,
Чакаеш, каб здзейснілі мы летуценні
Гадоў маладосці.
І з верай, што ўсё ты і чуеш і бачыш,—
Усюды, заўсёды —
Іду я вяшчальнікам дум тваіх светлых,
Сяўцом тваіх мараў,
Вясёлы, гарэзны твой позірк са мною
На кожнай дарозе,
Дзе песні, дзе крочыць у бурным паходзе
Юнацкае шчасце.
Я веру — сваімі флажкамі ты, Шура Папова,
Усіх бы вітала,
Я веру — наш край табе, Шура Папова,
У радасці сніцца,
Я веру — была б ты найлепшай між намі
Усюды, заўсёды,
Паклон жа і памяць табе аж навекі,
Салдат Перамогі
Шура Папова!..

*1985*

## КАМУ-НЕБУДЗЬ

Каму-небудзь
Трэба было і жыць астацца.
Каго-небудзь
Трэба было з вайны дачакацца.

Каму-небудзь
Трэба было без прывалу
Прыйсці адразу
Да вострых плугоў і сявалак.

І хаты ставіць,
І гарады будаваць нанова.
І сшыткі правіць,
І песціць гарачае слова.

Каго-небудзь
Трэба было каханнем
Зрабіць шчаслівым,
Хоць і згарэлі
у вайне спатканні.

Каму-небудзь
Трэба было ў клапотах
Рассейваць радасць,
Надзеіць сэрцаў палёты.

І верыць мужна,
І марыць пра заўтра
натхненна,
І ў далі засмужанай
Бачыць жыццё праменным...

Не дакарай жа
Сябе ты,
верны мой дружа,
Што не застаўся
З сябрамі ў карэльскіх сцюжах,

У Падмаскоўі,
На сталінградскіх кручах,
На беразе Шпрэе,
У Балтыкі хвалях зыбучых...

Ёсць дзеці і ўнукі,
Хто іх пад крыло сваё прыме? —
Вядзі іх нястомна
На сцежкі служэння Радзіме,

Любою парою
Вучы іх з ахвярнасцю знацца
І перад бядою
Ніколі нідзе не спыняцца...

*1984*

## ДА ПЕСНЯРА

Пакідае сявец
Для пасеваў насенне адборнае.
Высявае сявец
Зерні ў глебу найсамую чорную.

Вырывае з зямлі
Дачыста́ пустазелле шкадлівае.
Каб пасевы ўзышлі,
Сталі самай багатаю нівaю.

Адбірае каваль
Для падковы сталь звонкую, пругкую.
Доўга-доўга каваль
Ад душы па ёй молатам грукае.

Падбівае каня,
Летуценіць: каб быў ён не скораны.
І вятрам быў раўня,
І ўзвіваўся з маланкамі ўпоравень.

Ну а ты, мой пясняр,
Ты, што марыш пра ўсё адмысловае,—
Што зрабіў ты, пясняр,
Каб была твая песня агнёваю?

Каб лучылася ў ёй
Сэрцаў многіх надзейная сіла ўся?
Ды над цэлай зямлёй
Прамяніста, як сонца, свяцілася?!.

*1985*

## У ЦЁПЛЫМ ГАІ

У цёплым гаі
Дразды аб сонцы,
аб лістоце ў сонцы пелі.
І спевы звонам
звонкай раніцы звінелі
У цёплым гаі.

Было так лёгка
І так прывольна
пад іх шчодрае спяванне
Ісці ў дарогу,
у жывое даляглядаў ззянне,—
Было так лёгка!

І я паверыў,
Што
Не ўсё яшчэ,
не ўсё яшчэ ў жыцці
аджыта.
Што ёсць яшчэ
і моц душы,
і ранам сэрца — акавіта [1],—
Я так паверыў!..

О гай праменны,
Табе паклон
за хараство пачуццяў весніх,
За ўсе, за ўсе,
што ўзыдуць у дрыготкім сэрцы,
песні,—
О гай праменны!

Дзе ні іду я,
Што ні страчаю —
ці трывогу,
ці навалу злую,—
Заўсёды, ўсюды
сябе вясновай радасцю ратую,—
Дзе ні іду я.

---

[1] Акавіта — жывая вада.

Заўсёды бачу
Свой шлях
        у сонечнай святой купелі,
Дзе песні ў гаі
        мне на шчасце
        на жыццё ўсё празвінелі,—
Заўсёды бачу!..

*1984*

## КРЫНІЧКА РАДЗІМЫ

Я спаткаўся
        з крынічкай бруістай,
Я напіўся гаючай вады.
І з тых дзён
        яе звонам вячыстым
Звоніць сэрца маё праз гады.

Я пачуў над крынічкаю гоман
Векавых прамяністых вяршынь.
І з тых дзён
        па дарогах без стомы
Я іду —
        як іх радасці сын.

Б'е гарачымі кроплямі ў жылах,
Не сціхаючы,
        звон вечавы.
Жыццядайнай,
        нястомнаю сілай
Поіць сэрца струменьчык жывы.

Калі цяжка —
        абудзіць, спатоліць,
Калі сумна —
        званчэй зазвініць.
Я з крынічкі Радзімы ніколі
Не пакіну свет сонечны піць.

*1984*

## КРЫЖНЫЯ ПЛЫЛІ ПАЎЗ БЕРАЖОЧКУ

Крыжныя плылі паўз беражочку,
Промнямі цвілі
насустрач дню.
Чалавек падняў над імі стрэльбу,
Ды не стрэліў сёння ўпершыню.

Крыжныя плылі шчасліва міма,
Плыніў з воч іх
шчырасці давер.
Чалавек дастаў патрон са стрэльбы,
Рады, што нарэшце ён не звер.

Крыжныя куляліся ў чаротах,
Голасна камандаваў качар.
Чалавек правёў рукой па вейках —
Нешта стаў вільготным яго твар.

Крыжныя ўзнімаліся на крылы,
Весела выгуквалі: лячу!
Чалавек упершыню —
у сэрцы
Песню сваёй раніцы пачуў...

*1985*

## НОЧ

Што гэта за песня там уночы? —
Нешта пра затоенасць начэй...
Пра святую праведнасць дзявочых
Сцішаных, задумлівых вачэй...

Што гэта за промень там свіціцца? —
Тоненька кладзецца на траве...
Лашчыцца ў чаротах, мітусіцца...
Човен... Быццам сам сабой плыве...

Што гэта над хваляй
б'ецца струнка? —
Быццам крылле звонкае звініць...
Нехта звіў сярэбраную ніць
Стоеным, салодкім пацалункам...

Ноч усё схавала і стаіла,—
Таямніцай чыстай ад бяды...
А кагось каханнем акрыліла,
Падарыла шчасце на гады...

*1984*

## У ТАНЦЫ

Толькі граў бы гармонік
ды бубен не ціх.
Толькі б слухаць загады
рук цёплых тваіх.
Толькі ў вочы б глядзець,
не ўпусціць іх святла.
Толькі ўсмешку ўтрымаць,
што душу апякла.
Толькі б ногі траплялі
усё ў такт, усё ў такт.
Толькі б бачыць ухвалу:
«так, мой міленькі, так!»
Толькі б сэрца да сэрца
імкнулі насгрэч.
Толькі б хустка шаўковая
пырхнула з плеч.
Толькі б позіркам ты —
паказала падняць...
Толькі б вусны сышліся —
не разняць, не разняць...

*1984*

## ЧАКАННЕ

Яшчэ нядаўна
гусі — клін за клінам —
Крычалі штось з-пад воблакаў зямлі.
А сёння сэрцы поўняцца ўспамінам:
Яны былі!..
Яны плылі, плылі!..

Яны былі — і ў гэтым наша шчасце!
Ажно на вейкі слёзы набягуць.
Ды слёзы шчасця
і вачэй не засцяць
І сэрцу аніколі не салгуць.

Цяпер далёка, мусіць, птахаў бераг,
Ля цёплых рэк крыжуюцца сляды.
А нам да дзён вясны —
свяціцца верай:
Што ёсць яны
І вернуцца сюды.

Настане дзень —
ударацц промні ў вокны,
Паўночным злым вятрам наперакор.
І зазвініць наш свет —
лагодны, цёплы —
Вясёлым клічам птахаў ад азёр.

Вяртання кліч! — Яго душа пазнае.—
Як труб гучанне — ў гулкіх галасах...
Жыве, жыве
крынічная, лясная
Зямлі нашай
адвечная краса!..

І мо пра гэты міг —
нядаўна, ўчора —
Крычалі гусі голасна з-пад хмар,
Журботна пакідаючы прасторы —
Азёрны край, захмураны абшар?

І, можа, вось таму падчас на вейках
Вясёлкай яркай слёзы зіхацяць?..

Прыслухаешся — ў небе голас нейкі...
Няўжо яны?..
Няўжо назад ляцяць?!.

Няўжо, няўжо мінулася расстанне?..
Напружліва ўзіраешся ў блакіт...
З дрыготкім сэрцам,
з радасцю чакання
Стаіш пад капяжамі ля ракіт...

*1984*

## ТРАВІНКА І КРАСКА

Травінка і краска,
Спеў-гоман лясны.
Праменная казка
Дзіцячай вясны.

Няўжо гэта вы мне
Ад роднай зямлі
Любоў да Радзімы
Навечна далі?

Няўжо гэта вам я
З дзіцячых тых дзён
Душою адданы
Ў салодкі палон?

Травінка і краска
Цвітуць і маўчаць.
А ўцеха іх, ласка
Трымцяць на вачах.

Слязінкамі свецяць,
Нібы прамяні,
Пра самыя
ў свеце
Чароўныя дні.

І гэта — што ў гімне —
На ўвесь, мусіць, час
Для ўсіх неадымны
Ад сэрца
адказ...

*1985*

## У ГАСЦЯХ У МАЦІ

І вось я зноў у тыя сцены
Прыйшоў,
дзе родны ёсць парог...
Дзе голас добры, летуценны
Маленства ціхае сцярог...

Ручнік, іконка, шчэпцік мяты,—
Усё, як калісь, на куце.
А вунь і працаўнік зацяты,—
Мярэжку павучок пляце.

Усё ён лесвічку майструе
Да столі, да сваіх нябёс,—
Парвуць старую —
пагаруе
Ды склеіць новую са слёз...

Аб ногі трэцца котка мілы,
Мурлыка, даўні мой сябрук.
А вунь і пеўнік шызакрылы
У хату скочыў,
просіць з рук

Якога-небудзь пачастунку,
Крупінак нейкіх ці зярнят...
Прыліп да шыб сталетнік стрункі,—
Вазоны — нібы ў іх парад...

Няйначай кветнік цэлы ў хаце —
Нат ружам тут — ані бяды...
А дзе ж сама ты зараз, маці,
Чаму не стрэла як заўжды?

Ды вось яна,— дарма трывога! —
Бяжыць, спяшаецца яна.
«А сыначку!» — крычыць з парога.
І бачу: маці не адна...

Як і раней,— свае, не хтосьці,
Чужых ніколі тут няма,
Прыйшлі за ёй, вітаюць госця
Суседкі — цэлая гурма...

І вось ужо шуміць застолле,
Як спаконвек, ва ўсе часы,
Бяседа чуйная прывольна
Прабуе дружна галасы.

Да дна асушаны кілішкі,
І звоніць песняў звонкі лад,—
Бо ў песнях —
хто калі быў лішні?
Хто дасць,
каб спеў пайшоў на спад?

Зялёная вішня
З-пад кораня выйшла.
Не аддай мяне, мама,
Дзе я не прывышна.

Я выйду да долу
Дый крыкну дадому:
Вары, мама, вячэру
Дый на маю долю.

Варыла, варыла
Ці многа, ці трошкі.
Няма табе, доню,
Ні міскі, ні лыжкі.

Я міску разбіла,
Я ложку зламіла,
Ідзі туды, доню,
Дзе лета рабіла...

Ты думаеш, мама,
Што я тут паную,
Прыйдзі падзівіся,
Як я тут гарую.

Ты думала, мама,
Што я тута скачу,
З-за дробных з-за слёзак
Я свету не бачу.

Успомні мяне, мама,
Хоць раз у аўторак,
А я цябе, мама,
На дзень разоў сорак.

Ты ўспомні мяне, мама,
Хоць раз у суботу,
А я цябе, мама,
Йдучы на работу.

Ты ўспомні мяне, мама,
Хоць раз у нядзелю.
А я цябе, мама,
Сцелючы пасцелю...

Зялёная вішня
З-пад кораня выйшла,
Не аддай мяне, мама,
Дзе я не прывышна...

— А вой, як сумна загулі мы,
Хіба не можам весялей?
Ты маладзейшая, Куліна,
Вядзі далей спявацкі рэй!..

Куліна доўга не трывала,
Ахвотна, шчыра пачала.
І ўміг — як бы таго чакала —
Паўстала песня з-за стала:

Ой біла ж мяне маці
Бярозавым прутам.
Каб я не гуляла
З маладым рэкрутам.

А я ўсё гуляла,
Пакуль пеўні пелі.
На дзверы воду ліла,
Каб жа не рыпелі.

На дзверы воду ліла,
На пальцах хадзіла,
Каб маці не чула
Ды мяне не біла...

— Ну во, азвалася вясёлай!—
Сама Куліна сее смех.—
Як завялі якое кола...
Ох, грэх мне, любкі, ці не грэх,
А ногі скокаў так і просяць,
Нібы іх чэрці зараз носяць!

Ох, ох, п'ю за трох,
Не хачу я за парог!
Іграй, скамарох,
На сачыўку, на гарох!
Я сачыўку змалачу,
Скамароху заплачу,
Заплачу, заплачу,
Заскачу, што захачу!

І так нагамі маладымі
Сыпнула проста за сталом,
Што падалося: ўсіх падыме,
Ўсё зараз пойдзе хадыром.

Але ўтрымаліся жанчыны,
Спакусу смехам адбылі.
І згодна, зладжана
з Кулінай
Далей спяванку павялі.

Ой, краса завяне,
Шчасце не падмане.
Не радзіся красны,
А радзіся шчасны.
Не радзіся красны,
А ні ў дні, ні ў ночцы.
А радзіся ў шчаснай
Матчынай сарочцы.

Шуміць застолле ўцехай поўнай,
Ніхто ад згоды не ўбаку...
А я з адданасцю сыноўняй
Цалую любую руку.

О маці добрая мая ты,
Мой непаўторны, добры лёс!
Чым жыў бы я без гэтай хаты,
Без серабра вось гэтых кос!

Без воч тваіх, задумных, чыстых;
Без іх чароўнай цеплыні!
Без спевак гэтых
галасістых,
Што слухаў і ў маленства дні,
Без успамінаў незабыўных,
Якія так хвалююць тут
І сэрца поўняць дзівам дзіўным —
Святлом, што тоіць родны кут!..

Гляджу на шчырасць твараў ясных
І думаю — амаль услых
Аб хараstве дарог сваіх,
Што са сцяжын усіх, сцяжынак
Сюды прыводзяць на спачынак,
Дзе сонца роднае і зоры,
А лёс заўсёды радасць дорыць:
— Не радзіся красны!..
А радзіся шчасны!..
Ой, краса завяне,
Шчасце ж не падмане!

*1984*

## СЯБРАМ І ВОРАГАМ

...І будзе ёкат, і зубоўны скрыгат,—
Ну што ж, няхай...
Не для адзнак, не для шыкоўных выгад
Я жыў, любіў свой край.

Адзін народ, яго душа святая —
Мне суд-суддзя...
Так кожнаму скажу,—
няхай пытае,—
Крывёю сэрца я.

І ні паклёпам чорным, ні спалохам
Не кіне цень
Ніхто, ніхто
на шлях мой, дзе эпоха
Вядзе ў свой светлы дзень.

Яе вясною сэрца апавіта,
Каб з сонцам днець
І ў шчодрым свеце
красавацъ, як жыта,
І ў буйных зернях спець...

*1984*

## БЕРАГ

Вяселіць дзень
нябёсаў просінь,
Гамоніць кут лясны, глухі.
Ты помніш? —
Так і мы пад восень
Калісь тут бралі арахі.

І мы смяяліся, дурэлі,
Гукалі рэха між ляшчын.
Тады і мы маўчаць не ўмелі
І знаць не зналі пра спачын.

І столькі ты дарыла спеваў
Узлескам, сонечнаму дню,
Нібы жадала
ў кожным дрэве
Напоўніць звонам цішыню.

Як я хацеў бы, каб і сёння
Твой голас быў тут не чужы,
Узрушваў
клёнавы, сасонны
Зялёны бераг на Сажы.

Зліваўся з водгуллем юнацтва,
Будзіў лятункам кут глухі.
І клікаў, клікаў —
не спыняцца,
Ісці ў далёкія шляхі.

*1984*

## ЖАНЧЫНЫ

Сівая, старэнькая,
Апіраючыся на кіёчак,
Ну, ледзь, здаецца, тупае,—
Вось-вось трапіць пад колы...
Убачыла маладзенькая,
Кінулася насустрач:
«Дазвольце, бабуля,
Я вам памагу!»
Беражліва ўзяла пад руку,
Перавяла цераз вуліцу...
Сталі...
— Ты чаго кідаешся
Насустрач? —
Раптам пытае бабуля.
І злосна:
— Хіба я без цябе не абышлася б,
Ці што?
Іш, якая прэнткая!
Што я табе —
гэткая ўжо старая?!
Дзяўчына сумелася,
Дзяўчына — нібы ў агні:
— Даруйце, цётачка,
Я цяпер буду ведаць...

*1984*

## У ПАЛАЦЕ

Ціха ўвойдзе сястрычка,
Нібы вінаватая...
Перапросіць:
— Даруйце,
Да вас я няпрошана зноў...
І апусціцца шпрыц.
І праз момант —
Хіснецца палата,
Гайдане̂ галаву
Нейкі гул —
можа, ў сотню званоў.

Эх, сястрычка, сястрычка...
А ты ж абяцала...
Абяцала мне
зелля такога
Не прыносіць
ні кропелькі больш...

А палата плыве.
І кудысь адступаюць памалу,
Але як жа памалу! —
Глухая самота і боль.

Зноў, як кожнага дня,
Ужываешся ў будзень бальнічны,
Зноў ідуць думкі-думы
Па тых жа, штодзённых, кругах.
Ловіш мройны, далёкі
Аціхаючы гром навальнічны,
І няма сутрымання —
Аж абпальвае скруха-туга.

Але хай хоць і скруха,
Найсамая горкая ў свеце,—
Толькі б зноў бы —
хутчэй бы, хутчэй бы
Адпусціла вось гэта турма.
Толькі б вырвацца к сонцу —
У сцежкі, у ліўні, у квецень!..
Ды куды ірванешся?..
Ці ўзнімешся з ложка?..
— Эх-ма!..

Цяжка дыхае побач
Ветэран —
грудзі ў ордэнах Славы,—
Стогне колькі ўжо дзён
Ад іржавых асколкаў вайны;
Трызніць гулам атак
Пад Масквой, пад Арлом і Варшавай...
Ды і ўвесь тут шпіталь —
Пра баі успаміны адны...

Ды і ўвесь тут шпіталь —
Быццам водгулле
бітваў далёкіх;
Ад уздыхаў гарачых
Аж кругам ідзе галава...
Хоць бы хто здагадаўся —
Зусім
Нашы выставіў вокны! —
Хай бы нас пагаілі
Спеў ліўняў,
трава,
сінява...

*1984*

* * *

Лятунак мой і ява, родны свет...
Мой спеў, мая дарога, край Айчыны...
На ўсё жыццё
праменісты, адзіны
Наказ бацькоў — як долі запавет.

Усё, што ў сэрцы маю,— падару
Яму, абранцу велічнага веку,
Вялікай, шчырай праўды чалавеку,
Натхнёнасці маёй гаспадару.

Вось ён ідзе — з паходняю ў руках...
А вунь у стратасферы
трасы мерае...
А там — перад людзьмі, са звонкай лераю...
А там — дажынкі ладзіць на палях...

Ён сейбіт, ён шукальнік, ён пясняр,
Ён летуценнік, волат і няскора...
І нават там,
дзе яшчэ ўстане плён не скора,
Ён сам сабою —
як жыцця чароўны дар...

Святлом яго ўзвышаюся, люблю
Жыццё яго —
як дзён сваіх аснову.
Які б ні выпаў на астатак лёс суровы,
Ад любасці сваёй не адступлю.

Лятунак мой і ява, родны свет...
Мой спеў і мая песня —
людзі, людзі...
Пакуль дыханню радуюцца грудзі —
Жыць будзе
мой бацькоўскі запавет.

І будзе сэрца
з радасцю служыць
Высокай, мужнай велічы народа.
І светлай явай — шчасце і свабода! —
Як нічым на свеце
даражыць!..

*1984*

* * *

Я і сёння б падняўся ў атаку
На той на грымотнай вярсце,
Дзе цяпер пад журбой абеліска
Каліна расце.
Я і сёння ў агонь і пад кулі
Зноў пайшоў бы — ці дзень, ці зара —
Толькі б крыкнуў таварыш камроты:
«За Радзіму, наперад, ура!»

Я ізноў напаіў бы зямельку
Сваёй чыстай салдацкай крывёй,
Толькі б знаць, што для ўсіх ён — апошні,
Мой цяжкі, мой рашаючы бой.
Без спалоху, без крыўды, без жалю
Я пайшоў бы ў сырую зямлю,
Толькі б знаць, што жыццю застанецца
Ўсё, што сэрцам так моцна люблю,

Хай мяне узяло б без астатку
Ненажэрнае пекла вайны.
Толькі б болей ніколі, ніколі
Не хадзілі на бітвы сыны.
Толькі б сонца, прамністае сонца,
Ззяла ясна ў сваёй вышыні.
Толькі б краю
навечна, навечна
Мір і радасць, шчаслівыя дні.

*1984*

## ПІСЬМО АД СЯБРА

...Сумую па белых бярозах,
Па вязу за сценкай глухой,—
Па тых, па далёкіх, з маленства,
Над ціхай бацькоўскай страхой.

Бярозы шапталі, як сёстры,
З пяшчотай —
ці радасць, ці сум.
А вяз у высокай вяршыні
Пеў песні пра сёстраў-красунь.

Няма ні бярозаў, ні вязу,
Ні брата няма, ні сясцёр.
Пажар ненажэрнай навалы
Хаціну бацькоўскую сцёр.

Прыйдзéш на дзірванны падворак,
Як нейкі змярцвелы стаіш,
Глядзіш на сляды запусцення
І з горкаю жальбай маўчыш.

І ўвесь задрыжыш, калі раптам
Хтось ціха кранецца рукі.
А гэта атожылкі вяза
Пускаюць галіны ўшыркі.

Як быццам у гэтае ранне
Мой сум па далёкай вясне
Падслухалі
                і спачуваннем
Сваім суцяшаюць мяне.

Расціце ж, расткі маладыя,
Хай ваша мацнее сям'я.
Вас многія тут прывітаюць...
Ды толькі ўжо, мусіць, не я...

*1985*

## РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Чаго не бачыла ты, наша
Зямля-зямелька.
Якой навалы над табою
Ні прашугала.

Якімі страшнымі цапамі
Цябе ні білі.
Якой трухой твае загоны
Ні пасявалі...

А ты ідзеш жывой і чыстай
У век, у векі.
А ты красой нязгаснай ззяеш,
Пляцеш вяночкі.

А над табой, вясновай, сонца
Ўсё вышай, вышай.
І шчасцем свеціцца
                ў праменнях
Твой лік чароўны.

І верыш ты,
што ў цэлым свеце
Няма, не будзе
Нідзе, нідзе
святлейшых сэрцам,
Чым твае дзеці.

І гэту веру чуем змалку,
З калыскі чуем,
Таму й мацнее
дух наш вольны,
Дужэюць крылы...

*1984*

* * *

О колькі я за век свой непаўторны
Набудаваў палацаў і святліц!
А хата матчына са смольных бёрнаў
Вышэй за іх, святлей за іх стаіць.

Заўсёды-ўсюды бачная здалёку,
З усіх на свеце сцежак і дарог,
Няспынна вабіць позіркамі вокан,
Цяплом і ласкай кліча на парог.

Праменіцца, не меркне аніколі,—
І ў буру свеціць, і парой любой...
І ўсе палацы ўзняць таму я здолеў,
Што хату маці бачыў прад сабой.

Што праз жыццё праносіў, як святыню,
Спамін пра велічны, зіхотны кут...
Дзе бог сівенькі ціха мовіць: «Сыне...»
І зніме з сэрца болі ўсіх пакут.

І адвядзе рукою мудрай гора,
Каб у душы лятунак ажывіць...
А потым — без карання і дакору
На шлях наступны ціха благаславіць...

*1984*

* * *

— Хлеб-соль! — пераступаючы парог,
Спакон вякоў жадаў мой род суседу.
І нездарма — ці быў абед, а ці бяседа —
Сусед адказваў:
— Просім за стол!..

Якое шчасце, што з матулі малаком
Перанялі мы незваротна звычку гэту.
І сэрцам
сёння і заўжды жадаем свету:
— Хлеб-соль!..

Якое шчасце, што вялікі і шматмоўны свет
Працягвае нам прывітальна, шчыра рукі!
І чуем мы, і дзеці нашы ўсе, і ўнукі:
— Просім за стол!..

*1984*

* * *

Наніжы мне сонечных праменняў
Каля возера за жытнім полем
На званочкі — і пастаў на стол мне —
Хай асвецяць роздумы мае.

Сабяры мне іскры свайго смеху
І з прыгоршчаў высып на дарогу —
На пясок гарачы, па камені,—
Каб лягчэй у свет было ісці.

Колькі можаш,— кінь у маім сэрцы
Цёплай ласкі, слоў, нібы сузор'яў,—
Каб зусюль — і ў цемры, і ў навале —
Да цябе вярнуцца мог лягчэй...

*1984*

## МАЛАДЫ ЛЕС

Калі наспеў ён гэтак гонка
Над родным шляхам шугануць?
Рады —
　　　　бярозы ды сасонкі —
Ажно пад воблакі імкнуць.

Стаіш, захоплены, глядзіш:
Якая выш, якая выш!

Лес малады — і шэптаў поўны,
І звонаў сонечных мясцін.
І рэха
Голасам чароўным
То мару ўзбудзіць, то ўспамін.

То пазаве: ідзі, не стой,
Юнацкі скарб здабудзеш свой...

І вольна ў гэтым лесе дыхаць
Сунічным водарам густым.
І паблукаць, падумаць ціха
Пад мройным полагам лясным.

І лёгка ў светлым пачуцці
Удзячны спеў яму знайсці.

Адно шкада: высокі ростам,
Яшчэ ён слаба ўроссся ў дол.
Віхура ўсходзіцца —
　　　　　　　　і проста
Упаў, бач, вывернуты ствол.

А там ляжаць другі і трэці...
Хоць плач — ну быццам нашы дзеці...

Глядзіш з тугой на невясёлы
Нягоды след на паласе
І хочаш крыкнуць,
　　　　　　　каб наўкола
Цябе пачулі дрэвы ўсе:

— О стройныя, любой парой
Гартуйце свой прыгожы строй!

Шукайце дужасці ў зямліцы,
Бярыце сокі ў глыбіні.
Хоць як хай грозяць навальніцы,
А вы мацуйце карані.

А вы пускайце іх шырэй!
За дол трымайцеся шчырэй!

Глядзіце зырка ў сонца высі,
Шукайце ў небе цуд-красы.
Ды помніце: з зямлі ўзняліся
Усе магутныя лясы!

Мацней, надзейней, чым сама
Зямля,
нічога больш няма!..

*1984*

* * *

Чаму я забываюся,
Як білася ў роснай траве
Скрываўленая перапёлачка,
Калі яе разанулі касою?

Чаму я забываюся,
Як з трэскам гарэлі ля маіх ног
Галовы пшанічных снапоў
Пасля цяжкага ўдару снарада?

Чаму я забываюся,
Як прамарудзіў пайсці аднойчы
На голас слёзнай самоты,
Што з цемры
чакаў чыёйсь вернасці?

Чаму я ўсё помню,
Як не раз аж трымцеў,
Задаволены,
Калі мне казалі няпраўду
Пра маю непагрэшнасць?..

*1984*

* * *

Куды ты спяшаешся, пліска,
Патанцуй каля майго акна.
І сонца ж яшчэ не нізка,
І яшчэ на зямлі вясна.

Я знаю: нямала аблётаць
Табе трэба гэткіх, як я.
І ўсё ж
з маёю самотай
Пабудзь,
сінякрылка мая.

Пабудзь, пагутар са мною,
Бліжэй, як сястрычка, сядай.
Вясёлаю мовай лясною
Навіны дуброў перадай.

З маленства мне верыцца, пліска,
Што дзеці адной мы вясны,—
Адна нас гайдала калыска,
І лёс нам, і сонца — адны.

Пабудзь жа!
Тваім хай ён стане,
Дзень гэты мой, шчасны такі!..
На цёплы ўспамін аб спатканні
Клюнь хлебчыка — з братняй рукі...

*1984*

## З НАРОДНЫХ МАТЫВАЎ

Ранкам, на золку,
Дзе свецяцца сны,
Едзе мой любы
Дадому з вайны.

Едзе здалёк
На кані вараным.
Будзе нарэшце
Нам люба дваім.

Зноў сваю песню
Спяю яму я.
Чуеш, юнача?
Вось песня мая:

Едзе мой любы
На быстрым кані,
Ты яго, леце,
Нідзе не спыні.

Хай ён з чужыны
Даедзе хутчэй.
Скіне мне белую
Хустку з плячэй.

Быццам крыламі,
Яго абаўю.
Ласку хай любы
Пазнае маю...

Лета не слухае
Просьбы маёй...
Едзе юнача,
Ды толькі не мой...

Леце, а леце,
А дзе ж, скажы, мой?..
Твой за далёкай
За сіняй гарой.

Пад каліною
Рачулка імжыць.
Твой даражэнькі
Там сны старажыць.

Смутак твой чуе
І прагне вітаць.
Толькі не можа
Насустрач устаць.

Толькі ўздыхае
Пад звон раўчука,—
Нават твая
Не падыме рука.

*1984*

## НЕ ЗДЗІЎЛЯЙСЯ

Не здзіўляйся,
Калі
Ноччу хтось табе ў шыбу пастукае.
Не спяшайся святло патушыць,
За маўчаннем схавацца замкоў.
То самота мая
Да цябе зноў працягвае рукі.
Адкажы ёй спагадай,
Падары ёй хоць некалькі слоў.

Не здзіўляйся,
Калі
Нешта ўстане няшчотнае, ціхае
Перад тварам тваім,
Перад самымі ўстане вачмі.
Гэта позірк мой шчыры,
Каб ніколі не знала ты ліха,
Як вартоўнік надзейны,
Прыйдзе,—
сэрцам яго ты прымі.

Не здзіўляйся,
Калі
Ты пачуеш, як раптам знянацку
Нечы подых гарачы
Апячэ твае вусны агнём.
Гэта радасць мая —
Зноў прыйшла табе ў шчасці прызнацца,
Што ёсць свет у мяне,
А ў тым свеце — ты з сонечным днём...

*1984*

* * *

Наш даўні дзень прыйшоў да нашых вокан
І стаў пад засень дрэў.

А ў гэты час ты мне сабрала кайстру —
Як свой апошні дар.

І я напружваў слых, але — ні-ні —
ні слова
Не ўчуў я ад цябе.

І ў вочы я твае глядзеў, ды вочы
Былі глушэй агню.

І я пайшоў. І жалю ў маім сэрцы
Ні кроплі не было.

Бо я не мог паверыць, што за мною —
Не іншая, а ты...

Адно шкада было дзень даўні — дзень
кахання,
Што ў госці завітаў.

Бо ён глядзеў мне ўслед, не знаў:
за мной спяшацца
Ці тут мяне чакаць...

*1984*

## КАЛІ БУДЗЕ ШКАДАВАННЕ

Калі будзе шкадаванне —
Дык пра сіняе світанне,
Што ўпусціў, не стрэў, не ўгледзеў,
Не збярог для сэрца недзе.

Калі будзе шкадаванне —
Дык пра сумнае пытанне,
Што ў вачах тваіх — у просінь —
Так маўчаць і засталося.

Калі будзе шкадаванне —
Дык пра след расяны ўранні,
Што і жальбою нязмернай
Не прыпыніш, не павернеш...

*1984*

# З ФРАНТАВОГА БЛАКНОТА

## 1. СА СЦЯГАМ ВОЛІ

Чужыя мне далі,
Прысады і гоні.
Чужыя мне рэкі,
Лугі, абалоні.

Чужыя мне — неба,
Дарогі і сцежкі.
Чужыя — лятункі,
Трывогі-няўцешкі.

І боль, і клапоты,
І вочы з тугою —
Усё не маё тут,
Усё мне чужое!..

Чаму ж я для іх
Перайшоў свае межы?..
Лугі Наднямоння,
Лясы Белавежы?..

Чаму для чужога
Сябе не шкадую,
Хоць знаю — магчыма,
За іх і памру я?..

Таму, што я воін
На свеце адзіны —
Сын маці пяшчотнай,
Савецкай Радзімы.

Таму, што суровай
Парой баявою —
Сцяг волі ірдзее
Над светам са мною.

## 2. Я ВЯРНУЎСЯ З ВАЙНЫ

Я вярнуўся з вайны.
Што ж ты брата не стрэла, Марыся?
Маці слёзы глытае:
— Сынок, не журыся...
Ціха... Ціша і боль...
Я пайду — ля магілы прысяду.
За ракою ляжаць у варонках
Дубенскія ляды.
Ніцма ўпалі на луг,
як салдаты, дубы векавыя.
Толькі яблыні-дзічкі
ўздыхаюць над імі жывыя.
З іх зрываюць вятры,
бы тужлівыя ўсмешкі, пялёсткі
І нясуць над знявечаным полем
да нашае вёскі.
І ляцяць тыя ўсмешкі,
ляцяць, шалясцяць над табою...
Снег вясны... Помніш, мы
разышліся таксама вясною.
Вось і той талісман,
што на шчасце ты мне падарыла.
Вось і сам я. А ты...
Груд зямелькі шыпшына укрыла.
Ціха... Дзічкі ўздыхаюць —
з жальбою гукаюць на ўзлессі:
— Марыся... Марыся...
— Вярніся...
— Прыйдзі
Адгукніся хоць песняй!

*1944*

## ЦІ БЫЎ У ЛЕНІНА...

Заўсёды, як з Масквы дамоў вяртаюся,—
Ці сонца на вясну, ці на зіму,—
І маці, і суседзі ўсе пытаюцца:
— Ці быў у Леніна? Ці кланяўся яму?..

Я з радасцю вітаюся з сябрынаю,
Сядаю ў шчыры круг, як і раней.
І слухаюць сардэчна землякі мае
Расказ пра родны Крэмль, пра Маўзалей.

Гараць людскія позіркі натхнёныя
І бачаць у лятунках праз абшар,
Як па ступеньках крочу я да Леніна,
Як горача гляджу ў ягоны твар.

Хачу ярчэй запомніць рысу кожную,
Заўсёды ўсхваляваны перад ім,—
Ці радасны, ці нечым устрывожаны —
З ім раюся —
як з самым дарагім.

Мо сто разоў тут быў,
а ўсё па-новаму
Я чую ў сэрцы гордай праўды кліч.
І новай думай — сонечнай, вясноваю —
Праводзіць мяне ў новы шлях Ільіч.

Мо сто разоў, пяшчотай сэрца поўнячы,
Пра Леніна вяду я шчыры сказ.
А людзі ўсё адно — сядзяць да поўначы
І слухаюць —
нібыта ў першы раз.

Сядзяць памаладзелыя і радыя,
Гамоняць, з круга доўга не ўстаюць.
Пакуль з Масквы, з Крамлёўскіх веж,
па радыё
Куранты ў свет «дабранач» не праб'юць.

Тады, свае канчаючы адведзіны,
Ад шчырасці, што ў дружбе здабылі,
«Дабранач, браце!..» —
кажуць і суседзі мне,
І гэта — як «будзь шчасна» ўсёй зямлі.

Усёй, усёй — і з роднымі прасторамі,
І з тымі, што далёка, не відаць...
Якую так любіў Ільіч
пад зорамі
Насустрач ранку яснаму вітаць.

Яна і ў кветках дзён, і з завірухамі,
Яна ў агні і ў ззянні кумача...
Заўжды і ўсюды ў свеце чуйна слухае,
Як б'ецца ў сэрцах сэрца Ільіча...

*1983*

## АНКЕТА ПАЭТА

Ці бачыў, ці стрэў ты, паэце,
    сёлетні крыгалом?
Ці слухаў
    пчалы на дасвецці
    звонкі ўзлёт над вуллём?
Ці вёў праз агністую лотаць
    каня —
    з быстры́ напаіць?
Ці бачыў, як вучацца лётаць
    крыжанкі — аж крылле звініць?

Ці чуў ты, ці слухаў, паэце,
    ранняй вясны «ку-ку»?
Ці кланяўся ў спелым леце
    жытняму каласку?
Ці мераў напружлівым крокам
    жніўнай пары шляхі?
Ці дыхаў духмянаю спёкай,
    глытаючы водар сухі?

Ці зведаў ты радасць, паэце,
    руплівага будаўніка?
Ці благаславіў, ці прывеціў
    у вокнах успых аганька?
Ці ўстаў хоць аднойчы ля гоняў,
    дзе варыцца гулкая сталь?
Ці рваўся хоць думкай да зораў,
    свідруючы неба крышталь?

Ці плыў ты хоць раз, паэце,
    на хвалях вандроўных вятроў?
Ці здолеў прыдбаць у свеце
    новых сабе сяброў?

Ці склаў у гарачым натхненні
песню для іх і пра іх?
Ці сталі твае захапленні
іхнімі хоць бы на міг?..

Сумеўся, маўчыш ты, паэце,
на твары хмурынка відаць.
У позірку згадка не свеціць,
штосьці цяжка табе прыгадаць...
Жывую паэта анкету
няўпэўнена ў рукі бярэш...
Дык з чым жа ты, браце мой,
свету
Свой верш, адкажы мне, пашлеш?..

*1983*

## НЯМА РАДАСЦІ НАЙЛЕПЕЙ

Няма радасці найлепей,
Чым, адольваючы змогу,
Быць з людзямі ў тыя хвілі,
Калі ўдаль кладуць дарогу.
Расступаюцца гушчары,
Адступаюць багны, цені.
І бяры ўвесь свет — у волі,
У блакіце, у праменні!..

Няма радасці найлепей,—
Гэткай зычыш толькі брату! —
Чым быць там, на той сядзібе,
Дзе будуюць людзі хату.
Устаўляюць вокны, дзверы,
Лямпы вешаюць да столі.
І бяры — святло і ўтульнасць,
І жыві ў праменнай долі!..

Няма радасці найлепей,—
Можа, роўна толькі дзіву,—
Як чысцюткім, звонкім зернем
Засяваць у полі ніву.

Прыгравае шчыра сонца,
І ўжо, бач, і рунь дыміцца.
І ўжо — чуеш — пахне хлебам
Маці родная — зямліца!..

Няма радасці найлепей,—
Хоць і высніць бы хацелі,—
Як сядзець за тым застоллем,
Дзе гуляецца вяселле.
Дзе гуллівая бяседа,
Добрай славай велічанне.
Дзе і песенныя вусны,
І пяшчотнае каханне.

Дзе заўсёды добра знаюць:
Пойдуць годы, пойдуць дзеці,
А то знача, што ніколі
Не спыніць жыцця на свеце.
Будзе радасць, будуць людзі,
Іхняй велічы не скрасці.
І заўсёды ў свеце будзе
Прага сонечная шчасця!..

*1983*

## ФРАГМЕНТ

Усё далей, усё далей
Гадоў былых шляхі вячыстыя.
І сумна ўспомніць той ялей,
Што ліў камусь
праз слёзы чыстыя...

Ах, маладосць, ах, маладосць,
Якой ты ўсё ж была адданаю!
Табой круціў часамі хтось,
А ты ў адказ
плаціла славаю.

А ты кідала сэрца сцяг —
Жывую кроў —
да статуй бронзавых,

На смерць выходзячы ў палях
І ў цішыні гаёў бярозавых.

Ну, што ж, было... Грэх тым усім
Сябе ўпікаць часінай сённяшняй...
Ну, што ж, быў час, і сам быў з ім...
Але з тых даўніх лет і зім
Нясу, як скарб,
 прамень я сонечны...

Ах, мой прамень, ах, мой прамень,
Прамень прачыстасці і святасці!
А ці ў палац, а ці ў курэнь —
Ісці з ім — нібы ў светлы сад ісці.

Прамень вясны, жыцця прамень —
У шлях народа вера мужная...
З ім самы горны, смутны дзень
Не быў ніколі мне засмужаны.

З ім я праходзіў праз агонь,
Нікім нідзе не пераможаны.
І з ім
 вучыўся справай кожнаю
Служыць Радзіме дарагой...

Прамень вясны, душы прамень —
Свайму народу вернасць ясная.
Ніхто нідзе не кіне цень
На мой прамень —
 жыццём нязгасны ён!..

Усё далей, усё далей
Гадоў былых шляхі вячыстыя.
Даўно раздаў я свой ялей,
Сабе пакінуў слёзы чыстыя.

Ды ўсё ідзе са мной, ідзе
Прамень мой —
 самы ў свеце сонечны,
Радзімы любай кожны дзень
Сабою велічна баронячы...

*1983*

## САДОЎНІК

«Ліст ападзе, а вочка прыжывецца,
І прыйдзе зноў вясна ў вясёлы свет.
І вочка
Клічу сонца адгукнецца —
Падорыць на прышчэпе першацвет.

Клапотнік май
на першацвет ружовы
Прышле сваю шчыроўніцу — пчалу.
Тады сардэчным позіркам і словам
Скажы зямельцы плодлівай хвалу.

Ты вер,—
зямелька чуе, што і з ёю
Гаворацъ словам ласкі,—
і заўжды
Таму яна і поўна дабрынёю,
Таму ў садах і шчодрыя плады...»

Прыйшла вясна,
і вешчае збылося:
Глыбінны сок спазнаў сваю пару...
Настаўніку ж майму не давялося
Убачыць новай квецені зару.

Устаў над ім —
над вечным пералогам —
Пясчаны з ціхім крыжыкам грудок...
Ды не сумуй ты, польная дарога,
Што шоргату не ўчуеш яго ног.

Глядзі, вунь цуд вясны:
не ў адзіночку,
А разам з усім садам маладым
Цвіце, праменіць ярасное вочка,
У любасці прышчэпленае ім.

Праз тое вочка сад глядзіць шчаслівы
На свет, што перад ім аж зіхаціць.
І верыць: сам садоўнік рупатлівы
Пад той ружовай яблыняй стаіць...

*1983*

## СПЯШАЮ Ў ВЯЗЫНКУ

Спяшаю ў Вязынку...
Не паказаць сябе
Пад медзі звон,— маўляў, які Купалаў я...
Не, не! Звон медзі сціх... Ужо вянкі апалыя
Дарожны вецер стомлена скубе...

Спяшаю ў Вязынку —
нясу душы паклон
І думы чыстыя з прызнаннямі сыноўнімі,
Спынюся ў цішыні, чаканнем перапоўнены:
Ці ўбачу Песняра? — а можа, прыйдзе ён...

А можа, прыйдзе ён, і мо пабыць са мной
Ён знойдзе час, каб паблукаць сцяжынкамі,
Дзе пахне мурагамі і дажынкамі,
Даспелым кменам і парой грыбной.

Як многа трэба мне яму сказаць!
Як трэба мне параіцца пра многае!
Якой здаўна жыве душа трывогаю...
Якія перад ёй шляхі ляжаць...

Як навучыцца мудрасці святой —
Змагчы ўсе кволасці,
што сэрца свет наведваюць...
Спяшаю ў Вязынку —
ён, дарагі Пясняр мой, ведае...
Не пашкадуе мне ён дабрыні сваёй...

Не пашкадуе позірку, ў якім
І дух магутны, і спагада месцяцца.
Падкажа — як пад сонцам і пад месяцам
Жыць для людзей, як быць патрэбным ім.

Падслухаць сэрцаў гулкае біццё...
Паверыць у сваё прызванне светлае...
Песняру дарагі,
святое, запаветнае
Ў цябе вучуся
аддаваць вякам жыццё!..

Спяшаю ў Вязынку...

*1983*



Камусьці здавалася,
Што калі ён не будзе глядзець
у бок усходу,
Дык сонца не ўзыдзе,
Не асветліць свету,
І зямля зальецца слёзамі
І папросіць літасці...
А сонца ўзышло
І ўсё радаснае аддало зямлі,
І зямля ў сваёй шчодрай светласці
Нават і не глянула
На прыкрага пыхліўца.

Камусьці здавалася,
Што калі ён заткне вушы
і адвернецца ад жыцця,
Дык на свеце сціхнуць усе гукі,
Змоўкнуць песні
І людзі не стануць
Гукаць адзін аднаго.
А жыццё не спынілася —
Спяваюць птушкі,
Гучыць музыка
І людзі імкнуцца
ў дружную, згодную сям'ю.
І весела гучыць іх мова,
Яднаючы шчырыя сэрцы.

Камусьці здавалася,
Што калі ён назаве
ўсіх на свеце недарослымі,
Дык людзі паглядзяць у яго бок
І скажуць: — Які ён вялікі
І наймудры над намі!..
А людзі паслухалі
Яго заклінанні
І сказалі:
— Гляньце,
Гэта ж так пышчыцца,
Так пнецца,
А які быў нікчэмны,
Такі і застаўся!

*1983*

* * *

Не, я не хачу пісаць
        апошняга пісьма...
Страшней яно,
        чым прагучаць
        апошнім вершам...
Заўсёды да цябе прыйду
        са словам першым.
А ў першым слове —
        колькі ласкі —
        ведаеш сама.

Каханая,
Як нельга ў дзень вясновы
        салаўю
Перавязаць, каб не спяваў ён,
        Песеннае горла,
Так нельга любасць да цябе
        трывожную маю
Спыніць ці зменшыць
        без таго,
        каб сэрца не памерла.

Я знаю: гэта можа стацца —
        назаўжды
Ты адсячэш мінулае
        няўмольнай,
        сцюжнай рыскай...
І ўсё ж, хоць і балеснаю,
        а самай блізкай
І самай дарагой
        мне будзеш і тады...

Я і тады
        па тваім следзе
        рэха год знайду,
Бясконца буду верыць
        хуткаму твайму вяртанню.
Няхай хоць і самоту перайду,
        няхай хоць і бяду,
Але не здраджу
        аднаму на ўсё жыццё
        каханню...

Не, я не напішу
        апошняга пісьма...
Каханая,
        як не плывуць назад
        ад мора рэкі,
Так мне не павярнуць святло душы —
        яно навекі,
Яму дарогі без цябе
        нідзе няма.

Дзень набірае зноўку
        вышыню.
Няўхільна, неадступна
        прыбывае промняў.
І веру я,
        зноў веру у вясну —
Яе ўсім сэрцам бачу
        самай векапомнай!

Я веру —
        толькі ўскіне прамяні
Світальнай песні
        жаваранак стрункі,—
Не зможаш ты стрымаць
        пра наш наступны дзень лятункі,
Не зможаш не гукнуць
        далёкіх вёсен дні!..

*1983*

## САЛАЎІ НАД САЖОМ

Не разумею,
        што стала з гэтай зямлёй!..
Тыя ж самыя
        лугі з водарам,
І тыя ж самыя
        сосны стройныя,
І тая дзявочасць
        белых бяроз...

А нечага
        ўсё ж не пазнаць...
Нешта дзіўнае сёння над ёй,
Нешта на душу
        нападзе такое,
Чаго і матчынай песняй не зняць...

Ступіш на сцежку,
Дзе з сябрамі
        ваду з крынічанькі браў —
Як паміж працай калісьці
Пускалі коней
        на кароткі папас,—
А тут замест ціхай «А ў полі...» —
Сярод кветак і траў —
Ці свой, ці чужы, заморскі,
        гучыць аглушальны джаз.

І па кутках медунічных,
І на сцяжыне лясной —
Што вы за бурныя рытмы,
Што за мелодыі вы?
Дзе вас знайшлі
        і як параднілі
        з маёй старанай?
І як ён зміры́ўся з вамі,
        краю спакой веснавы?!.

Толькі салаўі
Не здрадзілі аранжыроўкам старым:
Як калісьці,
Пяюць
        на стары, на адвечны лад.
Ні ўзмацняльнікаў,
Ні мікрафонаў
        не трэба ім,
Ні нават электронныя буры
Не могуць спыніць
        іх рулад.

— Як я табой даражу, вясна! —
Заліваецца голасна ў лазняках
        адзін.

— Няма ў свеце за цябе прыгожшай! —
Гучыць прызнанне другога
ў лісці палян.
— Ты чыя, вясна? Чыя ты?
Мая ты, вясна! Мая! —
Пытае і адказвае трэці
праз колькі хвілін...
Ну, няйначай —
бясконцай любасці
песенны акіян!..

Стаю над Сажом
і аж дрыжу: о мае салаўі!
Далёкага майго юнацтва
руплівыя песняры!
Што са мною было б,
каб не вы,
каб не гэтыя вашы гаі,
Каб не гэтыя родныя,
апетыя вамі бары!

Чым гаіў бы
аглушаную сваю душу,
Панявечаную громам
незнаёмых, няродных ладоў?..
О салаўі, салаўі! —
не магу стрымацца, прашу...
Як малітвай малюся...—
Вы ж не моўкніце
ў засені наскіх садоў!

Вы ж,— прашу,— ні на міг не сціхайце,
вызваньвайце кроплі святла,
У расцяробах, на гацях,
на ўзлессях, у лазняках,
Вы спявайце, спявайце,
каб вечная радасць жыла,
Каб ніколі ні ў кога
лятунак вясны не зачах.

Вы спявайце,
каб белай бяростаю ззялі гаі,
А нашчадкі мае
не цураліся песень сваіх...

Стаю і слухаю...
Пяюць!.. Пяюць салаўі!..
І ніякія прыблудныя рытмы
не адольваюць іх!..

Пяюць, пяюць салаўі...
Зіхатліва струменіцца Сож.
Вее водар з лугоў.
П'юць прасторы
вясновай лагоды пітво.
І здаецца — гаворыць мне край:
— Ты сябе не трывож,
Чуеш, як яны шчыра пяюць! —
значыць, шчырым і вечным
будзе любай зямлі харαство!..

І здаецца:
зноў стала душа
і зырчэй і нібы маладзей,
Як на крыллях ляціць,—
салаўіныя лічыць сады...
Вырываю якуюсь
балючую стрэмку з грудзей...
Выпіваю якойсьці
гаючай глыбіннай вады...

*1982*

## РОЗДУМЫ

* * *

Расхадзіўся апаўночы
Між хмурын вятрун-вятрыска,
Папасоўваў іх па небе
Ды ў адзін сабраў куток.
І гайдаецца над лесам,
Як зялёная калыска,
У вышынях васільковых
Цёплы месяца сярпок.

Колькі радасці іскрыстай,
Шчодрай светласці навокал,
Колькі шчасця прад табою
Ў гэтым свеце залатым!
А чаму так прагне сэрца
Апынуцца там, высока,
У зялёнай той калысцы —
У сярпочку цёплым тым?

Знаеш, лепш, чым тут, не будзе
Анідзе,—
нат не прысніцца...
Знаеш, лёс твой паяднаны
Толькі з роднаю зямлёй...
А чаму душа імкнецца
У нязнанасць таямніцы,
Усё ўвысь, удаль імкнецца,
Усё нешта трэба ёй?..

* * *

Ад Праметэя,
Ад першай успышкі агнёвай,
Праз нягоды і буры,
Праз бясконцых стагоддзяў сутонь,
Прабіваўся наказ —

Спаконвечнае ўладнае слова:
— Сейце, людзі, агонь,
Сейце мужнае праўды агонь!

Ад Праметэя,
Ад першай за праўду пакуты,
Людзі ў бурах суровых
Гартаваліся праўды агнём.
Не спыніла нішто іх:
Ні навалы, ні здзекі, ні путы,
І таму мы жывём,
Вось на гэтай зямлі і жывём.

Край мой любы,
Нашчадак зямлі Праметэя,
Дай жа сілы і мне —
Без прыстання, заўжды, да канца —
Сеяць праўды агонь,
Спаконвечную праўдзіць надзею,
Што агонь той — нязгасны,
Які ўзыдзе
ад праўды сяўца...

* * *

Сягоння ўранку
заспявалі горны,
Чырванагальштучны збіраюць збор...
О мой азёрны,
Дзень жыцця мой непаўторны,
У смолках бераг
І ў суніцах смольны бор!

Праз цэлы век —
у цішыню, ў спакой імкнуўся,
А тут — жадання сэрца не таю:
Спявайце, горны,
хоць і ўсе вы, горны Беларусі,
Будзіце заспакоенасць маю.



Кастусь Кірэенка ў складзе дэлегацыі
Беларускай ССР на XXVI сесіі ААН.
Першае пасяджэнне. Хвіліна маўчання.
Нью-Йорк. 1969 г.



Старшыня Савета Міністраў БССР Ц. Я. Кісялёў
уручае Кастусю Кірэенку Дзяржаўную прэмію БССР.
Мінск, 1972 г.

Бярыце ўсё: утульнасць, слодыч цішы...
Адно пакіну для жыцця свайго:
Каб — між юнацтва анідзе не лішні —
Заўжды патрэбным чуўся для яго...

* * *

Трэба радасцю аддзячыць
Смутку і журбе.
Трэба шмат што растлумачыць
Самому сабе.

Трэба жыць —
не плыць па плыні,
І гарэць — не тлець.
Трэба ў самыя глыбіні
Сэрца паглядзець.

Што там ёсць,
што ў ім для свету
Вынес —
дзень за днём?
Можа, трэба штосьці дашчэнту
Выпаліць агнём?

Можа, трэба спахапіцца,
Пакуль ёсць зара?..
Пакуль дрэмле бліскавіца,
Дзе прысуд: пара...

* * *

Пяшчота жаночага сэрца
Прыйшла да суровага воіна.
І, каб умацаваць яго літасць,
Узвілася галубкай над ім.

Пяшчота жаночага сэрца
Прыйшла да суровага воіна.
І, каб падтрымаць яго мужнасць,
Удыхнула яму мару ў душу.

Пяшчота жаночага сэрца
Прыйшла да суровага воіна.
І, каб ён стаў пераможцам,
Напаіла яго соллю слязы...

* * *

Не патрэбна мне багацце векавое,
А дайце толькі мудрасць вякоў.
Не патрэбна аніякая слава,
А дайце толькі любасць жаночую.

Ад багацця
        аніхто яшчэ не быў шчаслівы.
Ад мудрасці яшчэ
        ніхто не зведаў слёз.
Не спыняла жальбы-гора
        найвышэйшая слава.
І толькі любасць вернасці
        ратавала ад любой бяды.

Любасць ціхая. Як радасны прамень зары.
А няхай і як віхура —
        бурная, бунтоўная.
Усё роўна —
        толькі ёй, прашу, душа, напоўніся...
Толькі любасці прашу тваёй —
        чакаю, веру ёй...

* * *

Я б мог чаборам стаць на ўзгорках,
Паўз сцежак смолкамі мог стаць,
А хоць і піжмай, самай горкай,—
Абы цябе не пакідаць.

Я б мог дажджынкай падаць весняй,
У небе жоравам трубіць
Ці хоць бы слоўцам зліцца з песняй,—
Абы з табою ўсюды быць.

Я б мог навечна стаць заранкай,
Каб твой будзіць світальны сон,—
Абы магла сказаць ты ўранку:
— То ён прыходзіў, зноў быў ён...

* * *

Самы нялёгкі для мяне той дзень,
Калі мне нікольні не бывае сумна...
Тады я баюся,
што забуду цану радасці
І перастану яе шукаць і любіць...
Самыя трывожныя для мяне хвіліны,
Калі пачынаю адчуваць,
што ўсім задаволены,
І асабліва — самім сабой...
Тады я не ведаю,
куды падзець рукі,
Што рабіць з сэрцам і думамі,
Як іх суцешыць...
Куды хутчэй кінуцца, што зрабіць,
Каб доўга не заставацца ў такой часовасці,
Каб менш было сораму,
Калі ачнуся,
Калі зноў стану сапраўдным,
сабой самім...

* * *

Хто, браце, вінават, калі не пазнаюць
Цябе сягоння нават даўнія твае суседзі...
Хто вінават, што доўга так блукаў
па свеце недзе,—
Ажно забыў, як птушкі
пад страхою роднай гнёзды ўюць...

Хто, браце, вінават, што смагу наталіць
Табе ў дарозе нечым
на зямлі такой знаёмай...
Хто вінават, што, апынуўшыся
нарэшце дома,
Не можаш прыгадаць
юнацтва сцежкі,
адрасы рачулак і крыніц.

Глядзі ж пільней,
вунь матухна твая, глядзі,
Стаіць пахіленая,
як вярба сівая, над дарогай.
Прасі яе, каб суд судзіла
праведна і строга,
Да ног яе падбітай птушкай упадзі.

Прасі за ўсё,
чым боль прыносіў, даравáць...
А толькі не прасі таго,
што час ніколі не вяртае...
Ёсць раны сэрца...
Іх не загоіць і вада святая...
Ты іх пабачыш сам...
Як будзеш кроў нашчадкам аддаваць...

* * *

Хай сабе абпаленая сонцам зямля,—
Зямля адыдзе і зноў акрыецца зелянінай;
Хай сабе залітыя залевамі поймы,—
Вада спадзе,
і зноў падымуцца ў травах лугі;
Хай сабе галодныя дні неўраджаю,—
Настане новае лета,
і ніва дасць новыя каласы;
Хай сабе самая чорная скруха,—
Скруха рассеецца,
і вернецца святло радасці;
Хай сабе самы пякельны боль,

Усё, усё хай сабе самае страшнае,
што ведама чалавеку,—
Толькі не той няўмольны,
жудасны гром над галовамі,
Не той віхар, не тая спякота,
Пасля якіх — што будзе? —
ніхто не ведае...

* * *

О не! Не загіне планета!
Смерць не будзе ўладарыць на ёй!
Паглядзіце, як бабка сівая
Вымуроўвае печку сабе.

Хоць трасуцца старэчыя рукі,
Бач, як з глінаю месіць пясок.
Бач, як цешацца рупныя вочы,
Хоць і цемраць іх пот і сляза.

— Ну-тка ж, дзеткі,—
загадвае ўнукам,—
Дайце корчык, падліце вады!..—
І лажацца раўнютка цагліны
Згодна, ладна, нібы напаказ.

Людзі крочаць, здзіўляюцца людзі,
Прыпыняюцца, доўга глядзяць...
А навошта ёй гэткая печка? —
Папытаюцца, перш чым ісці...

Толькі ўнукі і праўнукі моўчкі
Падсабляюць бабульцы сваёй...
Бо даўно ўжо вядома ім:
печку
Вымуроўвае бабка для іх...

* * *

Сонца і Песня
спаткаліся ў небе пад вечар.
— Няўжо ты не чула? — спыталася Сонца.—
Няўжо не чула?

Забілі яшчэ аднаго чалавека.
А ты весялішся — як быццам
З жалеза глухога або з камянёў тваё сэрца...

Песня сумелася.
Але адказала без боязі Сонцу:
— Ты, Сонца, высока —
Усё ты павінна і бачыць, і ведаць.
Чаму ж ты не знаеш, што сёння
на свет чалавек нарадзіўся?
Чаму ты не знаеш, што зараз
лячу я адтуль
і ўсім слаўлю народжання радасць?..

Сонца хацела разгневацца.
Але ўспомніла, што яно — Сонца
І павінна быць справядлівым і шчодрым
да ўсіх і ўсяго на свеце.
І абагрэла Песню народжання,
і правяло яе ўдаль прамянямі.
І Песня стала яшчэ больш радаснай
і яшчэ больш звонкай.

А ўнізе каля забітага
узнімалася песня другая,—
Жалобная і халодная.
І было ад яе горка ўсім.
Нават і Сонца пачувала сябе няўтульна.
Як ні старалася,
а не магло яе абагрэць.

І людзі, хоць і шкадавалі брата свайго,
а хто-ніхто і плакаў над ім,
І хоць усім было крыўдна,
ніхто не крывіў душой,—
Усе цягнуліся
да цёплай, радаснай песні.
Да той, што апявала
шчасце чалавечага нараджэння...



Будзем помніць дыханне тужлівае,
Васільковыя вочы самотныя,
Трапятлівыя ласкі гарачыя,
Несуцешлівы голас разгневаны.

Будзем помніць куткі запаветныя,
Сярод бору спатканні вячэрнія,
На світанках сцяжынкі жытнёвыя,
У расстанні ўспаміны трывожныя.

Будзем помніць хвіліны вясельныя,
Перамовы гармоніка з бубнамі,
Крыкі «горка» і позіркі чыстыя —
І дрыготкія вусны салодкія.

Будзем помніць...
Усё — і адзінае,
І заўсёды — бясконцае, вечнае...
З акіяна жыццёвае радасці —
У душы зіхатлівыя кропелькі...



Хацеў бы я да дзён астатніх
Палёгкі лёсу не чакаць,
А знацца з прагай нераспратнай —
Шукаць, знаходзіць, зноў шукаць.

Хацеў бы, каб жыццё давала
Не ў млявых мроях тупікі,
А хай і з бурай, і з навалай,
Але дарогі — бальшакі.

Хацеў бы стрэць сваё сутонне
Не пад малітву «не грашы»,
А як і ўчора, і сягоння —
З гарачай гордасцю душы.

* * *

Адшчыравалі вясёлыя ластаўкі,
Згаслі ўзвівы
далёкіх зарніц.
Пад гронкамі полымнымі
арабіна
Песняй-сказам
пра лета звініць.

Заспакоена,
як заўжды ад шчодрасці,
Кружаць пчолы
над поўным вуллём.
І вавёрка
ніжа падасінавікі
На сучкі
над сваім жыллём.

Ціха ў свеце,
а рэха коціцца...
Што за рэха
ды ў светлай цішы?..
Паслухаеш —
а гэта ж водгулле
Нейкай стоенай песні ў душы.

Нешта нараджаецца
ў душы
светла-зорнае.
І хоць і не абудзіцца ўраз,
А не спыняецца,
а пад сонечнымі прасторамі
Благаслаўляе —
на добры час...

*1983*

## СТАРАЯ ГРУША

Якія сны, бывае, часам сняцца!
Усю зіму,—
　　　　　　　　пад пошум сіберпай слаты,—
Я сніў, што мне прыносіць пошта
　　　　　(і тых сноў было не дачакацца!)
Ад грушы ад старой тужлівыя лісты.

То на карынцы,
　　　　　то лістку зліня́лым, пералётным
Пісала груша
　　　　　пра адзін свой непазбыўны боль заўжды:
Пра свой нялёгкі,
Пра маркотны
Лёс гаротны —
Пра старасці журботныя гады.

«Мой дружа!
　　　　　Ты, відаць, зусім-зусім забыў памалу
Старую грушу па-над роднаю мяжой.
Якую так калісь любіў,
Якая на руках сваіх
　　　　　　　　　　цябе калісь люляла...
А я цяпер адна стаю пад сцюжнаю імжой...

А я ж цяпер нядужа...
　　　　　Мой ты дружа, так нядужа...
А мне ж цяпер так сняцца
　　　　　дні былой пары...
Каб ведаў ты,
　　　　　як цяжка,
　　　　　калі ўсцяж лютуе сцюжа,
Калі мне ў грудзі б'юць паўночныя вятры.

Каб ведаў,
　　　　　як баліць маім старым галінам,
Пасечаным
　　　　　　　　і бурамі, і градам, і свінцом вайны.
Здаецца часам мне за век адна хвіліна.
Адна хвіліна, калі паліць сівер ледзяны.

Такой хвілінай, дружа,
　　　　　хоць бы позірк, хоць бы слова.

Стаіш, дрыжыш, чакаеш —
нехта ж прыйдзе, цеплынёй дыхне...
Ды ўсё дарма... нікога...
І зіма мяце сурова...
І вось і ты таксама і не ўспомніш
пра мяне...»

Ах, груша...
Колькі раз я прачынаўся ў ноч глухую.
Цвяліў дакорамі шчымлівую душу.
І горача шаптаў у цемру:
— Вер мне, сум твой чую!
Ды толькі — што табе я, любай, адпішу?

Што адпішу, калі і сам я —
быццам дуб пахілы,
Пабіты цяжка немалым сваім жыццём.
І сам гукаю ў смутку
час юнацтва мілы
З такім далёкім светлым пачуццём.

І сам не раз хацеў пісаць з журбою
Тым маладосці дням,
дзе столькі ззяла мар! —
Калі душой заўжды сам зацвітаў з табою
І жыў адной вясной,
адной вясной без роспачы і хмар.

Я знаю, любая,
тых дзён для нас ніхто не верне...
Але ўспамін пра іх
не загасіць нічым...
І ўвесь я, ўвесь з табой,
і я прыйду, павер мне,
Няхай,
калі ўжо боль,
дык будзе нам дваім!..

...Зіма сышла ў нябыт
апошняй хмарай нізкай,
Зашчыравала ўладна сонца над зямлёй.
І вось я зноў стаю
перад далёкіх дзён калыскай
Ля сцен замшэлых,
над бацькоўскай сходжанай мяжой.

Стаю зусім збянтэжаны:
як быццам
Усё мне тут знаёмае, да рысачкі адной,
А не магу паверыць, не дзівіцца:
Няўжо яна,
мая старая груша, прада мной?!

Няўжо яна — вось гэты вадаспад цвіцення?..
Вось гэты пчолаў бой —
салодкі ў кветках гуд?..
А груша — ўся бялюткая,
нястомная ў натхненні —
Цвіла, цвіла...
Ажно свяціўся мой бацькоўскі кут!

Цвіла — і велічнасцю павявала строгай
Ад белай яе, чыстай пекнаты...
О груша! — я ёй кланяўся, шчаслівы,
і, шчаслівы, зразумець не мог я,
Чаму ж яна,
чаму журботныя
пісала мне лісты?..

«Чаму? Скажы мне, любая...—
пытаўся я нясмела.—
Адкуль быў сум твой?»
А яна — маіх як і не чула слоў —
Усё яснела, пчолаў гуслямі звінела,
І новыя суквецці прамянелі
замест тых, што падалі далоў.

І хараство яе, краса яе ўладарна
Ішлі ў зачараваны шчасцем новы дзень...
І я пакінуў грушу —
дарагой зямлі бясхмарнай,
Лагодзе сонца, песням, радасці людзей.

І я дамоў вярнуўся,
светлы, мрояў поўны...
А хутка —
непазбыўна паміж сноў —
Ізноў мне сніўся сон і сумны, і чароўны:
Што груша мая ліст прыслала зноў.

«Ах, дружа добры,
ты даруй,— яна пісала,—
Што прад табой бязмоўнаю тады была.
Ты ж бачыў, дружа,
як мне часу не хапала,
Як мала было часу мне, калі цвіла.

Цяпер даў шчодра завязь цвет маёвы.
Аж звоніць плодны сок — з глыбінь імкне.
І я спяшаю да цябе...
Вось тое слова,
Што ў сонцы вёснаў выспела ўва мне.

Дык ведай жа, мой дружа:
колькі болю,
Які б цяжар ні слалі нам гады,
А трэба, каб да скону дзён
ніколі
Не пагасаў дух прагі маладыі.

Хоць і з пакутай горкае насланне
Гняце цябе —
штораз цяжэй днець,—
А трэба да апошняга дыхання,
Усё перамагаючы, квітнець.

Вось так праз век і буду так да скону
Прымаць глыбіняў сокі для лісця,
Для квецені над кронаю зялёнай —
Дзеля бясконцай плоднасці жыцця.

І ты —
калі бяда, магчыма, крыкнуць змусіць
Ад роспачы —
ўсё роўна прэч гані адчай!..
Квітнець, як прыйдзе час, нанова пачынай...
І ў той цяжкой,
мо самай слёзнай скрусе,
Прашу цябе:
мяне, старой, не забывай!..»

*1980*

* * *

Нашы вусны прывыклі да песень калісь.
А сягоння... Замкнула іх думак туга...
Усё мне здаецца,
слаўная мая дзяўчынка,
Што я не спраўдзіў тваіх надзей...

Пасярэбраны косы, паблеклы пагляд...
О няўжо гэта тая вяснянка зямлі,
У якой
для сябе
я знайшоў
цэлы свет...

Колькі ж бураў прайшло,
прагуло над планетай,
Калі ты стала
кволай, сівенькай такой!..

Падыходжу.
Сядаю побач.
Ведаю — не прагоніш,
Бо і думаць мы можам,
толькі калі сядзім удваіх.
Бо калі ўсміхаемся
самі сабе ў думках,
Трэба, каб нехта заўважыў —
ці ты, ці я...

*1983*

* * *

І ўсё ж няма шчаслівейшай долі,
Чым жыць, яшчэ раз — жыць.
Глядзі,
вунь кружыць птах над полем —
Так будзе й век кружыць.

Расце трава, струменяць промні,
Імкне сцяблінка з цьмы.
Хіба ж не шчасце, што ў нястоме
Між іх заўжды і мы?

Што жаль, што боль,
                    нуда клапотаў,
Гадоў трывожны след? —
Ёсць мы, ёсць радасць,
                    мёд ёсць сотам,
Ёсць свет — наш добры свет.

Давай жа ўстанем,
                    зладзім крокі...
Адкінем смутку ком...
І пойдзем...
І ўздыхнём з палёгкай,
Як жнеі над снапком...

*1984*

* * *

Раптам хмаркі,
Што роспачна беглі па небе
І пырскалі сумнымі
Кроплямі дажджу,
Палагоднелі і павесялелі,
Афарбаваліся золатам
Ранішніх прамянёў
І, быццам абкрыленыя,
Выраўняліся над галавою.

Белы сад
Адкінуў слёзную заслону імжы
І зазвінеў
Ружовымі струнамі цішыні;
А з узлесся вавёрка
Выбегла на дарогу
І зацокала радасна: «Я тут, я тут!..»
Нават дрозд,

Якога я ўжо даўно не бачыў,
З'явіўся,
Сеў на вяршыню яблыні
І заліўся дзівоснай ранішняй песняй...

Я азірнуўся здзіўлена:
Што сталася ў свеце?..
А гэта ты
Падышла нячутна
І спынілася побач...

*1984*



## НАД ВОЗЕРАМ

Замоўкла люстраная роўнядзь
азёрнае далечыні.
Душу неўтаймоўную поўняць
пачуцці начной цішыні.
Душа непазбыўныя мары
імкнецца лагодай абняць...
А чайкі...
А чайкі чамусьці не спяць...

А чайкі, як быццам ім мала
было вольнай волі на дні,
Ныраюць ля ціхіх прычалаў
у сум цішыні з вышыні.
Крычаць, бы гукаюць камусьці:
— Нам цяжка палёт свой
суняць...
Ах, чайкі...
Чаго яны, чайкі, не спяць?

Чаго яны просяць, чаго ім
ад цемрадзі трэба начной?
Ці, можа, сваім неспакоем
карціць падзяліцца са мной?
Ці мо без людзей ім няўтульна,
надзеяў без іх не стае?..
А можа, зусім то не чайкі?
А можа, трывогі мае?..

Ляцяць — то ўсё ўдалеч, то кружаць
у бляску люстранай красы.
То — раптам па нечым затужаць,
то ў радасці іх галасы.
То — нібы якая ўрачыстасць
над возерам іх узвіне...
Ах, чайкі!
Ці знаеце, чайкі,
Што падарылі вы мне?!

Стаю над вадою азёрнай,
гляджу ў яе зорны прасцяг
І чую ў душы непаўторны
лятунак на вольных крылах.

Імкліва крыляе лятунак
        у цішу, што край абняла...
Ах, чайкі...
Ад сэрца вам дзякую, чайкі,
За шчасце начнога святла!..

*1984*

## ПАЧАТАК ЗІМЫ

Па-грознаму з самых азоў,
Нібы з-за сямі пячатак,
Дыхнула агнём маразоў —
І вось і зімы пачатак.

Як свеціцца сад! На зары
Яшчэ з неастылымі снамі
Гайдаюць яго снегіры
Чырвонымі ў снезе званамі.

Хоць сонца яшчэ не ўстае,
Яшчэ затрымалася недзе,
А ліст неапалы пяе
Пра дзень,
        што ўжо ў золаце едзе.

Ляцяць з-пад падковаў камы
Парошы,—
        спеў вызваніў полаз:
— Я еду! Вам радасць зімы
Вязу я! — Чуваць яго голас.

Усё ёсць у бурнай у той
У радасці — казкі і спевы,
І сны пад лядовай бранёй,
І сцюжы — аж крышацца дрэвы.

Не моўкне ў ёй прага —
                пазнаць
Свет цэлы — а што там чакае?
Ісці, захапляцца, шукаць —
Імпэт ні на міг не змаўкае!..

І слухаюць поле, і сад,
І бор, і азёрныя тоні,
Як гулка ляцяць
                    між прысад
Дня зімняга
                ў золаце коні.

І слухаю сэрцам і я
Той лёт па дарозе іскрыстай.
Імкні ж туды, песня мая,
Дзень новы вітай урачыста!

Няма адступленняў, няма,
Хай снег свае віхры ўзвівае!
О добрая казка — зіма,
О радасць мая снегавая!

*1984*

## ФЕЛЬЕТОН ПРА ФЕЛЬЕТОН

Напісаў аднойчы слон
Фельетон.

Фельетон быў — пугай пуга.
Прысвячаўся ж фельетон
Тым, хто п'е за ўсю акругу
Самагонку...
        Ох і слон!
        Даў п'янчугам дыхту ён!

Як ён біў іх, як пясочыў,
Распякаў ды ганьбаваў!
Сыпаў смела праўду ў вочы —
Так ім, так! — разгон даваў.
        Лес дзівіўся: ну ж і ну!
        Вось дык слон! Хвала слану!..

Толькі...
Стой! Чаму ў трывозе
Сёння ў лесе жыхары?

Чый там п'яны пры дарозе
Крык?
Хто ломіцца ў бары?
Гэта ж... слон...
Гэта — слон?!
Быць не можа, каб то ён

Так хістаўся, так гайдаўся,
А там — потарч, а там — шась...
Ой-вой-вой... Вось дык набраўся...
Слон?..
І праўда ж...
Быццам гразь...
Лес стагнаў: ох, ну ж і ну...
Вось і вер, браткі, слану!..

*1959*

## «САМ» І ІВАН

Меў я справу да «самога»...
Ды пачуў такі адказ:
— У самога
вас тут многа.
Сам прыняць не можа вас.
А зайдзіце ўніз да нама!..

Я зайшоў...
Ды нам таксама
Быў сабе не проста «нам»,
А як самы чынны «сам»,
Улюбёны ў чын і сан...

— Але ніжай ёсць Іван,—
Мне сказалі.— Да яго
Стукайцеся смела,
Дамагайцеся свайго,
Калі так прыспела.

Я пастукаў да Івана...
І адразу —
дзіва з дзіў! —

Той рупліва і старанна
Маю справу рассудзіў.

Рассудзіў, руку падаў:
— Будзь, браток, здаровы...
Калі здарыцца бяда,
Памагчы гатовы!..

Вось і ўсё... А колькі тлуму...
Я ішоў дамоў і думаў:
Дык наліха ж «сам» той здаўся
І той «нам» пусты, як збан...
Калі ўсё рабіць
Узяўся
І вязе за іх Іван?..

*1959*

# НА МІЖНАРОДНЫЯ ТЭМЫ

## Памфлеты

### ГРУГАН І МЕЖЫ

Адзін груган,
драпежнік хцівы лесу,
Што звык жыць правілам:
хачу, дык і гражу,—
Штодня дзе-небудзь перасоўвае мяжу.
Ахвяру выбраўшы, дзярэ гарляк:
«Я тут кружу,
Тут скрозь абсяг
маіх жыццёвых інтарэсаў,
Таму — імчы адсюль,
пакуль твой род не спрах!..»
І кідае ахвяра родны кут...
Што ж, гоніць страх:
Каму ахвота апынуцца ў кіпцюрах?!
Апошнім часам
у разбойным шале
Знявечыў пліску ён каля яе гнязда,
Напаў бязлітасна на пеўчага дразда,
Асіраціў малінаўку — без жалю
Скрывяніў яе дзетак і сясцёр,
А зараз — крывапівец-жывадзёр
Па-над галубкай крылле распасцёр...
Што будзе?..—
Край лясны ў трывозе сцяўся:
Няўжо ізноў удасца генерал груган
Злачынства?..
Але не...
Ажно ўсхадзілася зямля ўся,
Зямля, што бедаў вызнала цану,
Што ў бітвах, у пакутах
уздымала веліч века,
Устала ў вобразе асілка-чалавека,
Грыміць, б'е штормам
абурэння акіян...
І адступіў, хітнуўся ўбок
раз'ятраны груган...

Галубка радая,—
шле чалавеку песню славы,
Буркуе пра свабоду, пра вясну...
Зямля ж — уся на варце:
Хоць і спынены напад крывавы,
Не верыць яна хціўцу-討ругану!
Не верыць! — і збірае ў шэрагі
змаганцаў мужных,
Каб адагнаць бяду
ад кожнай старанны...
Баліць, баліць зямлі,
пакуль яшчэ над светам кружаць,
Ахвяры выбіраючы, ліхія груганы...

*1984*

## ШАКАЛ-МІСІЯНЕР

Адзін шакал,
каб лепш яму абдурваць барсукоў
І мець ад іх прыбытак адмысловы,
Звучыўся пець малітвы барсучынай мовай...
І так ужо ён кляўся, што забыў свой род,
Так напускаў туману ў вочы,
Прыкідваўся такім прыхільным,
хіжы патароча,
Што барсукі, хаця патыліцы і цёрлі,
Бо самі часам
квасам прабіваліся ледзь-ледзь,
А грошыкі таму місіянеру спраўна пёрлі...
— Паслухайце,— сказаў аднойчы
барсукам мядзведзь,—
Чаму вы так шчыруеце
прад гэтым валацугам,
Няўжо не бачыце, што ён —
хітрэц на ўсю акругу?!.
— Але ж ён так нам спачувае,
так усхваляе наскага ён бога,
Прыхільнік нашых звычаяў
і нашага парога...
— Эх-хе,—
са шкадаваннем уздыхнуў мядзведзь,—

Дык ён жа робіць так таму,
што выдзірае вашу шчэць!
Даеце многа вы яму,
а паспрабуйце — дайце мала...—
Праверылі...
І што ж?..
Увесь лясны народ валіў на дзіва валам:
Адразачку
шакал завыў шакалам!..

*1984*

## РАЗ'ЮШАНЫ СЛОН

Адзін гвалтоўнік-слон,—
хоць стаў ужо стары
І смерць прад ім з касой на падыходзе,—
Паўсюдна ўсімі
прагне верхаводзіць...
А каб яго баяліся лясныя жыхары,
Стараецца,
чым можа,
ім нашкодзіць...
Там — пастку некаму тайком падстроіць,
Там — пашу ў лесе спляжыць, там — сціха
У гразь растопча бераг вадапою,
А там,— не баючыся ні граха,
Ні сораму,—
З нянавісцю сляпою
Разыдзецца, ўсё нішча: ці страха,
Ці сцены для жылля — ўсё для яго труха...
Блакады, ультыматумы, дактрыны,
Эмбарга, санкцыі, пагрозны тон,—
Чым толькі ўсіх не запалохваў ён,
Зласлівы і разбойны гэты слон,
І заўсягды —
без дай якой прычыны...
Адна бяда ў слана:
хоць хто-ніхто
прад ім, як катам,
І хіліцца яшчэ ў спалоху вінавата,
Ды свет вялікі ўжо мацней яго.

Ідзе вялікі свет да светлага свайго
Лятунку,— не зважае ні на звады,
Ні на заявы з грозьбай, ні бравады
Гвалтоўныя,—
У будучыню свет ідзе, сваім жыццём жыве,
Таму так часта
слон
раз'юшана раве...

*1984*

## КАРМУШКА

Адзін махляр,
Каб пра сябе пусціць як пра зычліўца сказ,
Рашыў
Зрабіць кармушку...
Напаказ, вядома,
толькі напаказ...
Павесіў дошку на суку — высакавата,
Але навідавоку, каля самай хаты;
Пафарбаваў кармушку ў колер неба —
Хоць і маркі,
Але затое дастаткова яркі,
Каб заклікаць:
вось глянь, і ты, як я, падбай...
Павесіў,—
і гайда адсюль, гуд бай...

Прыйшла зіма... Снег паваліў
нястомна, густа,
У полі і ў лясах — усюды стала пуста,
Занесены сумётамі сцяжынкі,
Ні зернятка не знойдзеш, ні травінкі,
Сям'я жывёльная — і зблізку, і здаля
Імкне да чалавечага жылля,
Хоць з бояззю, з трывогаю, крадком,
Усё ж імкне пад чалавечы дом...
Ды сумна водзяць позіркам
і звер, і птушка —
Пустая сустракае іх кармушка...

Ні хлебца, ні сянінкі — ані трошкі...
Адно цярушыць снегам з яркай дошкі...

Затое ў лаўкача,
у махляра,
у бізнесмена —
Ёсць тэма для хвальбы,
для хітрасці нязменна:
Які, маўляў, ён бескарыслівы, які
Сардэчны,— ўсім дае з сваёй рукі,
Нікому не шкадуе, верце, верце,
Усіх ратуе ад бяды, ад смерці,
Ідзіце да яго, маўляў, усе ідзіце,
І душы, і давер яму нясіце!..
Хоць не аблашчыў ні звярка, ні птушку,
А лоўка скарыстаў махляр кармушку...

*1984*

## ХАЎРУСНІКІ

— Гэй, жонка, смаж яешню
ды хутчэй нясі на стол! —
Крычаў аднойчы
прайдзісвет адзін — асёл.—
Ды не мыляйся,
не пастаў, глядзі, аўса,
Бо ў госці я чакаю
аж заморскага ліса!..
А ты ж, вядома, знаеш,
ад каго залежаць нашы лёсы,—
Не самахоць сабе калісьці
мы яго абралі ў босы...

Вось госць прыбыў,
пачаставаўся чынна,
Пабыў там-сям,
агледзеў двор гасцінны,
Наставіўшы трубою
хвост лісіны,

Парады даў, як загадаў:
— Вось так і так рабіць павінны!..—
Ды і адбыў
у свой абшар айчынны...

Здавалася б, усё — зэр гут...
Ды вось пачуў асёл,
Што, хоць лісу яны
і шыкавалі, аж пацелі, стол,
Хаця і поўзалі прад ім лісліва
пры спатканні-развітанні,
А ліс забыў адразу
пра ўсе тыя абяцанні,
Што ім даваў
за чаркай, за абедам...

І нават,
завітаўшы да іх блізкага суседа,
Не мог успомніць,
як завуць асла з асліцай,—
То зваў шакаламі,
то бугаём з цяліцай
І бэсціў, колькі мог,—
не пасаромеўся нізвання! —
За дрэннае нібыта
віншаванне-частаванне...

— Ах ты ж пыхлівы балабон,
заморскі хлус,
Ты між гнусоў —
найгоршы самы гнус!..
Ты любіш не сяброў адданых,
а падліз,
Пёс ты смярдзючы, а не ліс!..—
Крычаў асёл,
хоць сам падліза быў і блюдаліз...

Хоць сам быў прайдзісвет,
хоць разумеў, вядома,
Што на ліса заморскага налётваць
небяспечна нават дома,
Але стрымаць сябе не мог,—
у зяпе аж замлела,
Аж чэрава ад злосці засмылела,

А ён крычаў, пугаючы ваколле,
І капытамі біў у плот —
ажно трашчала колле...

Вось так закончыўся
заморскага ліса вяж —
Развеяўся хлуслівых слоў міраж,
І ад любошчаў між хітругамі
застаўся след адзіны —
Як рэзанага —
несутрымны крык асліны.

А што далей?..

## ПАСЛЯСЛОЎЕ

Далей — пабачым... Што ў хлуслівым,
у глумлівым будзе стане,—
У хеўры гэтай вераломнай,—
хто́ яшчэ хітрэйшым стане,
Хто́ пыху, жорсткасць і злабу
прымножыць,
Хто́ слабшага
ў кішэнь сабе паложыць,
Хто́ ў некага — уладу вырве з рук,
А мо, дасць бог,
ім будзе ўсім — каюк,—
Мо ўсіх іх — назаўжды! —
драпежнікаў адпетых
Змяце гнеў праведны і велічны
з планеты,
І ў свеце ўсюды запануюць —
дружба, згода,
Святло, сумленне, праўда і свабода!..

*1984*

## КАЛЫСКА ВЯТРОЎ

### Паэма

Разгайдалася калыска вятроў,
Пушча грыміць грозна...
Просіць маці сваіх сыноў:
— Не баўцеся ў лесе
позна.

Не баўцеся позна,
Бо на пароме завозна,
Не паспееце
Сож
Пераехаць да ночы...
А калыска вятроў
Сціхаць не хоча:
Чуеце? —
Стогнуць яловыя шаты?
Чуеце? —
Дуб скаланаецца ў гудзе?..

— Не бойся,
Мамачка,
Доўга не будзем:
Дроў напілуем
І —
Га́йда дахаты!..

Чакае маці
Сыноў дамоў,—
Вось ужо і ноч у вокны,
А іх няма...
Ад сумных думоў
Сэрца
Трывожна ёкае.
Што з вамі сталася,
Дзе вы, сыны,
Чаму вы
Зараз
Не ў хаце?! —
Гукае маці
Сыноў...
А яны...
Дзе ім
Да клопату маці!..

Захацелася ім,
Цікаўным, пазнаць —
Далёка яна ці блізка,
Тая вятроў калыска;
Штó там вятры
Растрывожана сняць,
Чаму так
Шумяць над прасекай?..
Даруй ім,
Матулька,—
Як скрозь даравацъ
Ты ўмела
сваім дрывасекам...
Апынуліся
Любыя твае сыны
Каля кастра начнога...
Не бойся,
Матулька,
Яны не адны,
Хай сціхне
твая трывога...
Ёсць возера ў лесе,
Лугі навокала,
Зялёная сенажаць.
Тут партызанскія
Мужныя сокалы
У брацкіх магілах ляжаць.
Паставіў калісьці,
Як светлы будан,
Хатку сабе тут
Герой-партызан,
Жыве ў ёй дагэтуль,
Не можа пакінуць,—
Як вартавы
Пры адвечным агні,—
Месца,
Дзе ў грозныя даўнія дні
Брат яго родны
Адзіны
Загінуў;
Дзе над матулінай
плакаў дамоўкай,
Выйшаўшы
З лютай блакаднай начы...

Дзе развітальнае
Слова
Не моўкла:
Таварышаў
Паўшых
На вечны спачын
Праводзілі...
Тут, каля гэтае хаткі,
Хлопцаў і стрэў
Партызан-ветэран...
Побач, за хаткай,
Зялёныя лядкі:
Звесіў сланечнік
Галоў на паркан,
Пахне
Мацейкамі,
Мятаю, кропам,
Мальвы цвітуць —
Як адна, на падбор...
Тут, над старым,
Здзірванелым акопам,
І падкідаюць
Дроў хлопцы
Ў касцёр...
— Вось яна, тут,—
Партызан ім гаворыць,—
Тут яна,
Тая калыска вятроў...
Ранкам,
Як стухнуць
Высокія зоры,—
Возера ўбачыце...
Тут, між бароў,
На неаглядных
прасторах азёрных
Колькі вятры панасілі чаўны!
Колькі
Радзімы сыноў непакорных
Тут
Узрасло
Ў дні вялікай вайны!
Колькі тут гневу
Народнага выспела!
Многа

Байцоў
Рыхтавалася ў бой —
На берагах азяровых,
На выспах,—
Каб ахаваць
Край бацькоўскі
сабой.
Вось дзе для ворагаў
спелі вятры,
Вось дзе для іх
нараджаліся буры!
Як усходзіцца бой —
Ажно стогнуць бары,
Ажно неба
хмурынамі хмурыцца!
І тады — узвіхрыцца
Азёрная даль,
Аж падысці не можна...
Калыска вятроў
Кідае трывожна
Азёрныя хвалі
Пад неба амаль.
І гоніць валы,
І — бы ў звон які б'е,
Нікому на свеце заснуць не дае;
І толькі тады сціхае,
Калі пасля бітвы
Прыйдуць да яе
Абаронцы
Роднага краю.
Тады
Так лагодна
Вадзіцай сваёй
З гаючай, глыбіннай
Яе чысцінёй —
Напоіць змаганцаў,
Абмые ім раны...
І свеціцца далеч
Ласкава, люстрана,
І дыхае возера
не разгайдана,—
Вартуе іх сны,
Пакуль зноў ім
у бой...

Вядзе сваё слова
Змаганец былы
Геройскай зямелькі
айчыннай,—
І хлопцам здаецца:
Сціхаюць валы
Азёрныя,
Што без спачыну
Грымелі ад ранку
па гэты вось час —
Хвалюе і іх, мусіць,
воіна сказ...
І хочацца хлопцам
Пад ззянне кастра
Ўсё слухаць героя,
пакуль аж зара
Не скажа аб новым світанні,—
І просяцца
З сэрцаў
У хлопцаў пытанні
Пра ўсё, што ашчадна
У памяць сабраў
Герой,—
Пра народа змаганне.

Я н к а:

— Дзядуля,
Скажы, а ці праўду
мы чулі,
Што самым адважным —
З герояў — герой —
Лясны камандзір быў?
Ні бомбы, ні кулі
Яго не кранаді
ніякай парой?..
Ці праўда, дзядуля,
Што лютыя каты
Заўжды абміналі
Той гай і той бор,
Дзе — зналі —
Нахопіцца
коннік крылаты —
Лясны камандзір,
У баі — як віхор?



Аўтограф на памяць. Кастусь Кірэенка
на сустрэчы з чытачамі.
Мінск. 1975 г.



У час адпачынку на возеры Нарач
з жонкай Лідзіяй Пятроўнай,
унукам Дзімам і дачкой Алёнай.
1984 г.

І куляй гарачай
фашыста загубіць,
І шабляю вострай
Нашчэнт пасячэ?..

— Так, так, гэта праўда,
Саколе мой любы,
Герояў такіх
Свет не бачыў яшчэ!
Нават нельга
Злічыць чужаніц,
Колькі
У бойках лясных
Ён панішчыў!
Шчэ й цяпер
У вушах зазвініць
Яго шабля
І грозна засвішча.
І цяпер,
Хоць зайдзі ў кожны двор,
Табе ўсе —
І стары і малое —
Скажуць сказ
Пра асілка-героя,—
Які быў ён
Змагар-вярнігор.
Як ішлі з ім
мы ўсе,
змагары,
У атакі
на сілу ліхую,—
Аж да сённяшняй
Светлай пары
Люд вакольны
«Ура» наша чуе.
Як пускаў
наш атрад
цягнікі
З падарваных мастоў
пад адхоны,—
Гэта ўспомніцца
і праз вякі,
Пакуль жыць будзе
Свет наш зялёны.

Як ішлі
з камандзірам сваім
Прарываць
чужаніцаў аблогі,—
Знайце, дзеткі,—
Ніколі аб тым
Не забудуць
Шляхі Перамогі!..

Д з і м к а:

— А скажы нам, дзядуля, ці знала
За франтамі
Радзіма пра вас?
Як вам свой
прысылала наказ?
Як падтрымку сваю
прысылала?
Вось каб быў я,
Дзядуля, тады
Сярод вас
Вашым чуйным
радыстам!
Я злавіў бы
Ў эфіры ўсё чыста,
Усе далечы,
Ўсе гарады.
Я б звязаўся
з зямлёю Вялікай,
З усёй роднай
савецкай зямлёй,
Дзень і ноч
неразлучны быў з ёй,
Калі трэба —
падмогу клікаў,
Расказаў бы,
як славіць рады я
Партызанскую
Нашу сям'ю...
Як люблю я, дзядуля,
радыё!..
Каб ты ведаў,
як я люблю!..

— Добра, ўнуча,
Што ты ў нас такі! —

Ажно свеціцца
Твар ветэрана...
Разгарацца
Ў касцёрку
Сучкі,—
І агеньчык
Шчыруе,
Старанны...
То адзін
З цемры выхапіць твар,
То другі —
Асвятляе ў мігценні.
Быццам шле
Пазыўнымі ў абшар
Светлым шыфрам
Хлапцоў летуценні.

— Добра, ўнукі,
Што гэткімі ўсе
Вы ўзрастаеце
Ў час ясназоры!..
Ўсё пяройдзе
Да вас
Пакрысе...—
Партызан
Да нашчадкаў гаворыць.—
Давядзецца
Канчаць
Усё вам,
Што бацькі пачалі,
Што стваралі,
Што ў жыцці
Рыхтавалі сынам,
За што ў бітвах
Нязломна стаялі.
Можа, й нам
Яшчэ выпадуць дні! —
Ратаваць
Ад навалы
Край родны.
Выявяць
Мужнасць сэрца
ў агні,
У цяжкой

Выпрабоўцы
паходнай.
Вось тады,
Як заўжды,
зноў і зноў
Кожны з вас
Неаднойчы спазнае,
Што Радзіма
Ніколі
Сыноў
Без пяшчоты сваёй
Не кідае.
Так і ў нас было...
Ў буднях цяжкіх,—
Ці баёў,
Ці шалёнай блакады,—
Не кідала яна
Ні на міг
Нас
Без ласкі сваёй,
Без спагады.
Знай, і ў нас там
Радысты былі,
Пасылалі дэпешы ў палёты.
І спяшалі
з Вялікай зямлі
З дапамогай
Сюды
Самалёты.
І граміла
Ліхіх чужаніц
Ад Народа
Прысланая зброя.
Вось таму
На шляхах навальніц
І раслі ў нас
Бясконца
Героі...

К о с ц і к:

— А скажы нам, дзядуля,
Чаму так,—
Хоць баі
Адгрымелі даўно,

Часам кожны
                    у лесе закутак
Так цямнее —
Аж зор не відно?
Хоць пара баявая
Не блізка,
Зараслі дзірваном
Курганы,
А — вятроў
                    не змаўкае
                                        калыска,
Быццам чуе шчэ
Грукат вайны?
Вось як сёння —
Няспынна, няспынна
Гоніць возера
                    горы-валы,—
Аж трашчаць
У хваін вершаліны,
Аж дубовыя
Стогнуць
Ствалы?..
— Гэ, саколе,
Хоць доля-нядоля
Сёння бачыцца
                    толькі здаля,
Ды вайны ліхалецця
Ніколі
Не забудзе
Ўся наша зямля,
Хоць і сталі
Легендамі былі,
Песняй стаўся —
Хто яваю быў,—
Хоча край,
Каб мы
          бур
               не забылі
І ніхто каб
Пра іх
          не забыў.
Вось таму
І грыміць часам
                    з болем

І лясная
Й азёрная даль,—
Замест
Светлых уцех і патолі
Нясе ў сэрцы
Журботу і жаль.
А яшчэ —
Каб не ціх напамінак
Катам лютым,
Чужынцам усім,
Што навечна
Пра нашу краіну
Нават сніць
Не дазволена ім!
Рэха боек
Хвалюе прасторы —
І зямельку,
І сінь-небакрай,—
Каб знаў-ведаў
І памятаў вораг,
Што заўсёды
На варце
Наш край!..

А бывае,
Што хоча даць выйсце
Свайму смутку
Калыска вятроў —
Ў тыя дні,
У якія калісьці
Мы хавалі
тут
Паўшых сяброў.
Ці ў час сцюжны,
Ў зімовую замець,
Ці ў час летні,
як сёння,— такі,—
Пабягуць
ва ўсе свету куткі
Да людзей,
і ўстрывожаць іх памяць,
І ўсхвалююць іх
Гулкія ветры,
Каб згадаліся даўнія дні,—

І лясныя
гудуць тады
нетры,
І няма
і для душ
цішыні...
Але заўтра
Вы ўбачыце ўранку,
Калі сціхнуць
вятроў галасы,
Толькі золак
расой адтуманіцца,—
Колькі тут
Навакола
Красы!
Як лагодліва
І непрытворна
Лашчыць ранак
Дыханнем сваім.
Колькі ўцехі
Ў раздоллі азёрным,
Колькі радасці
Ў гуле лясным.
Аж зайздросна
З вышынь пазірае
Само сонца
ў закуцце бароў,—
Так люстрана
праменіцца, грае
І смяецца
калыска вятроў!..
То ледзь дыхае
чуйны касцёр,
А то ўвысь раптам

Полымя ўсхопіцца...
Усю ноч
Аж да ранішніх зор
Партызана
слухалі хлопцы.
Колькі раз
То ў паходах крочылі,
То ўяўлялі баі
ў задуменні.

Але вось
Знебылася і ноч,
І зайгралі
На ўсходзе
праменні...
І адкрыўся
Гарачым вачам
Кут,
Хвалюючай радасці поўны.
Вунь пад шатамі вольхаў —
прычал,
Вунь — паўз сітніку
Гонкія чоўны.
Гладзь азёрная,
Неба блакіт,
Бор аж бронзавы
Ў сонечных промнях.
І буслы
На вяршынях ракіт,
І стрыжоў
Лёт нястрымны, нястомны.
Быццам зніклі
Ў глыбінях зямлі —
Гул вятроў,
Хваль азёрных буруны.
А над краем
Плылі,
І плылі,
І звінелі
чароўныя струны.
Столькі ў сэрца
Ішло пекнаты,
Што здавалася:
дзе яе змесціць...
О матуля!
Сказала б хоць ты,
Як яе
Да цябе ім данесці?..
Не хвалюйся,
Матуля, за іх,
Не сумуй,
Не схіляйся ў трывозе:
Хутка ўбачыш усіх.—
Утраіх

Хутка ўстануць
На родным парозе.
Толькі ты
Не здзіўляйся, калі
Што-нішто
Не пазнаеш у любых,—
Бы адразу
За ноч падраслі,
Бы аддаў хто
Свой гарт русачубым.
Вось стаяць яны
З ціхай журбой
Пад святой
Цішынёй
Абеліскаў.
І зусім
не калыска вятроў,
А іх думаў
Тут зараз калыска.
Іх пачуццяў,
Дзе прага вясны,
Дзе нашчадкаў
Удзячнае слова
За нягаснучы
подзвіг суровы,
За жыццё
На шляхах без вайны.
Ярка блішча
Азёрны прасцяг.
У дубровы
Задумлівы гоман.
Затрымаліся хлопцы ў гасцях,
Паўз рачулкі
Спяшаюць дадому.
А праводзіць іх
Мужны герой —
Партызан,—
Вось рукой ім махае,
На жыццё
Самай шчаснай парой
Ад герояў усіх
Бласлаўляе...

*1985*

# ПУШЧАНСКАЯ ПАМЯЦЬ

**Вершы, паэмы, казкі**

## ДАРОГАМІ ЛЕГЕНД

...Чапаеўская конніца ў пагоні,
Як спеў маланак — вострыя клінкі.
Ляцяць над стэпам вогненныя коні,
Бягуць прад імі ў страху белякі.

...Грыміць віхура, б'е асілкаў сіла
Нашчэнт — франты памешчыцкіх сынкоў.
У свет легенд —
Будзённы, Варашылаў
Вядуць праз славу шэрагі палкоў.

...А вунь узлёты віцязяў крылатых
Вітае падмаскоўная зіма.
Ірвецца ў бой праслаўлены
Даватар,
І сілы сутрымаць яго няма.

...А вунь гараць чужынцаў эшалоны,
У гуле бітваў Волга і Данец.
Ўстаюць над светам волаты —
Заслонаў,
Матросаў, Смалячкоў і Гаравец.

Мільёнаў незгасальная адвага —
Святое да Радзімы пачуццё.
Крывінкі ад Кастрычніцкага сцяга
У кожнае ўліваюцца жыццё.

Усе шляхі — што перазоў былінны,
Усе шляхі — героям след у след.

Ішлі, ідзём
                                і будзем несупынна
Ісці ў жыццё дарогамі легенд.

І на зямлі, і там, дзе ў сцюжных зорах
Ракеты і лятуць і палятуць,—
Хай памятае, хто б ні быў ён, вораг,
Якія пакаленні ў нас растуць.

Хай памятае,
                                што душа ў нас сталь і крэмень,
Што ў бляску славы росцім мы сыноў.
І ў кожным сэрцы —
                                з мудрай думай Ленін,
І ў кожным сэрцы —
                                гул ад перуноў.

*1984*

# ПУШЧАНСКАЯ ПАМЯЦЬ

**Паэма**

Часу, сябры,
Прамінула не многа.
Слухаў я гоманы
Лесу старога.
Гоман ці дума —
А шчырая мова —
Пра непрабудны
Схоў-засень яловы.
Пра непраходны
Той закут ласіны,
Дзе паміж купін
Паўзуць журавіны.
Дзе — як ні ступіш —
Заходзіцца багна,—
Пільна глядзі,
Бо засмоктвае прагна!..

Гоманы слухаў
Пра сонца палянак,—
Колькі сустрэнеш
Там ягад духмяных!
Ягад-суніц,
І чарніц, і ажыны,
Церпкіх брусніц,
Буякоў і каліны!..
Колькі грыбоў —
Без канца, незлічона —
Па дубняках,
Між бяроз, між сасонак!..
А тых крыніцаў
Пад засенню волкай —
З чыстай вадзіцай,
Люстранай і колкай!
А яшчэ —
Птахаў
Запеўнасці палкай!..

Гоманы лесу
Запомніў я змалку...

Чуў я ў тых гоманах
Часу дыханне,

Казку і песню,
Наказ і паданне,
І запавет,
І легенду жывую...

Сёння адну з іх
Вам сэрцам нясу я.

Быль і легенду
На сонечных крыллях...
Чуйце ж, сябры мае,
Слухайце пільна!

*

Жыў пад аховай
Адвечнае пушчы
Слынны каваль
Па прозванню — Сілюшчы.
Мусіць, таму
Меў празванне такое,
Што нават восі
Адной гнуў рукою.
Молат цяжэнны
Ўскідаў, як пярынку.
Трушчыў жалеза,
Бы хлеба скарынку.
Што ні прасілі —
Рабіў без адмовы:
Востры нарог
І баронаў асновы,
Звонкі сярпок
І сталёвую шыну,
Нават дэталь
Мог зрабіць для машыны,
Нават — казалі —
Са срэбра каралі
Рукі яго
Для нявест
выраблялі!..

Жыў гэты майстра,
І слынны, і чынны,

Не адзінокі:
Меў добрага сына...
Хоць і нямнога
Было йшчэ гадочкаў
Сыну яго,
Васілю-Васілёчку,—
Толькі што
дзесяць
Праглянула сціпла...
Але памочнікам
Быў ён дасціпным...
Мог быць да месца
Ля шумнага горна;
Прэнт на кувадле
Трымаў бездакорна,
Калі татуля
Прыстукваў пакоўку...
Мог ужо й сам
Штось скаваць:
Ці падкоўку,
Ці вухналя,
Ці шавецкае шыла...
Словам —
Хацяі не надта
Меў сілы,—
Але на ўцеху
Быў бацьку багаты:
Кузню глядзеў
І даглядваў і хату,
І ў агародзе
Любіў паўвіхацца,—
Любай заўсёды
Была яму
праца...
З часу,
як маці памерла,
А гэта
Сталася гора
Йшчэ ў сёмае лета
Ад нараджэння яго,
Васількова,—
З часу таго
Ў хаце ціхай лясовай
Часта, абняўшы,

Казаў яму тата:
«Сынку,
Табою
Святлее мне хата!
Будзем мы, сынку,
Заўсёды з табою —
Сэрцам адным
І душою адною!..»
Слухаў ён тату,
Трымцеў ад пяшчоты,
І хоць
Часамі
І плакаў употай,
Маці згадаўшы,—
Ды шчыра, аддана
Татку любіў;
Быў заўсёды
жаданым
Сябрам яму
І зычлівым дарадцам;
Так памагаў,
Каб менш татку
стамляцца,
Каб весялейшай
Была яму хата...

Гэтак
Удвох
І жылі яны з татам...

Гэтак і стрэлі
Ліхую навалу —
Буру вайны,
Што над краем
паўстала...

*

Край дарагі наш,
Адважны і горды,
Знішчыць
Імкнуліся
Ворагаў орды,—
Горш, чым агнёвыя
Лютыя хмары,

Гора ўсім несці,
Пакуты, пажары...

Ды не скарыліся
Сэрцы людскія —
З мужнасцю ўсталі
Ў страі баявыя...
Грозна, сурова
Змаганне ўзнялося...
І ў тым змаганні —
Ўсім месца знайшлося...
Хутка і ў кузні
Занятак быў новы:
Стала майстэрняй
Лясной адмысловай,
Дзе гаспадарылі
Помсты героі —
Неслі сюды
Партызанскую зброю,
Каб аднавіць,
Даць ёй новы мацунак...
Тут жа і новы
Кавалі рыштунак,
Тут і найхітрыя
Міны рабілі,
Каб
Як найзлей яны
Ворагаў білі...
О, як стараўся
Васіль-Васілёчак! —
І вартавым
Быў і ўдзень ён і ўночы,
І веставым,
І разведчыкам пільным...
З кузні —
Ў глыб пушчы,
Да старае пільні
Бегаў не раз
З тэрміновай навінай...
Ці на сяле,
Улучыўшы хвіліну,
Танкі фашыстаў падлічваў,
Гарматы,
Каб пераможна

Даў бой ім заўзяты
Мужны атрад партызанскі
З засады...
А ці ў кузні,
Пястуючы радасць,
Што вось і ён
З партызанамі, з татам
Ворагам лютым
Рыхтуе адплату,—
Дні шчыраваў
Каля горна, ля печы,
Робячы справы
З імпэтам хлапечым...

*

А яшчэ быў
У кавальскага сына
Даўні занятак:
Цяжкою часінай,
Як замятае
Бары і дубровы
Гурбамі снегу,—
Пад сховай хваёвай
Шчыра склікаць,
Як да роднае хаты,
Кволых казуляў,
Дзікоў, ласянятаў...
Ды іх карміць,
Даглядаць іх ад сэрца:
Сена прынесці,
Вадзіцы вядзерца,
Бульбы падсыпаць
Ці моркаўкі ў ночвы...
Здаўна —
Не толькі што
                    ў цёмныя ночы,
А ўжо і днём
Сюды звыклі
                    без страху
Зверы ісці,—
Да знаёмага даху...
Ў дні, як шчэ

Маці жыла
Васількова,—
Зверы паверылі
Ў добрыя словы,
Ў добрыя позіркі,
Добрыя рукі
І самахоць,
Без ніякай прынукі
Дружна ішлі сюды —
Падсілкавацца,
Цёплай, сяброўскай
Спагады набрацца...
Так і цяпер вось,
Парой гэтай грознай,
Ці на світанні,
Ці вечарам позна,
Выйдзе Васіль,
Свісне ў пушчу
Ціхутка,—
І перад ім
Так і вырастуць
Хутка,
Бы з-пад зямлі,
Ці ласіха з сям'ёю,
Ці, заваражаныя
Цішынёю,
Шэрыя козачкі
Ўстануць, як цені,
Ці часам
Чуйна
Вандроўцы-алені
Вынесуць з пушчы
Рагоў калыханне,
Або дзікоў
Цэлы статак загляне,—
Ўсе тут, як дома,
Пазбыўшы апаску,
Шчыра прымаюць
Сяброўскую ласку.
Нават і зайчыкі
Ў куртачках белых,
Хоць і сцярожка,
Хаця і нясмела,
Але — пасядуць

Ля морквы з капустай, —
Прагна ласуюцца
З хрупатам, з хрустам...
— Ешце, каштуйце,—
Ўсім кажа з пяшчотай
Вася-Васілька...
Паддаць ім ахвоту
Не праміне ён...
— Каштуйце
Ды будзьце
Пільнымі ўсюды,
Лясныя вы людцы...
Чуеце? —
Гром
Пасылаюць гарматы?..—
Паліць чужынец
Сялянскія хаты,
Нішчыць жыццё,
Не шкадуе нічога...
Можа, і ў пушчу
Прасочыць дарогу...
Дык жа пільнуйцеся
Стрэць нечаканасць... —
Так ён ім кажа,
А зверы аддана
Слухаюць,
Быццам вядома ім гора...
Бы разумеюць,
Пра што ён гаворыць...
Топчуцца побач
Ды хрумстаюць ціха...
Нават часамі
Падыдзе ласіха,
Пысаю тыцне
Ў плячо Васількова,
Быццам штосьці скажа
Ласінаю мовай,
Быццам свайму
Штось параіць
Дзіцяці,
Як найласкавая,
Добрая маці...
— От жа дзе здружанасць...
От жа шчасліўцы...—

Скажуць ад сэрца
Народныя мсціўцы,
Як давядзецца
Ім часам пабачыць
Сцэну такую...
Бы родных, няйначай,
І Васілька,
І ўсіх госцяў ягоных
Бралі яны
Пад сваю абарону...

*

Колькі дзён цяжкіх
Мінула ў змаганні...
Рэйды начныя,
Ў атаках світанні.
Дні агнявыя,
Часіны адплаты.
Колькі ў баях
Былі
Пушчы салдаты!
Колькі ўзбраенняў
Прайшло партызанскіх
Праз
Рукі майстравы
Ў кузні пушчанскай,
Колькі чужынцаў
Скарала краіна...
І ў барацьбе той
І бацька быў з сынам!..
Горан у кузні
Гарэў несціхана,
Шчыра каваль
Сустракаў партызанаў;
Бацька і сын
Не цураліся змогі,
Сіл не шкадуючы
Для перамогі,—
Дні свае значылі
Працай суровай...
Пад непадступнаю
Пушчы аховай!..

Ды не мінула
Ўсё ж
Доля ліхая
Кузні пушчанскай...
Адкрыла ўсё ж
Зграя
Карнікаў хіжых
Да кузні сцяжыну...
Хто іх правёў
Па глухіх баравінах?
Па непрабудных
Ласіных балотах?
Праз
Неагляднае
Мора чаротаў?
Па хмызняках,
Цераз
Багнаў гайданне?..
Хто падказаў ім
Той час на світанні,
Калі —
Пасля
Працавітае ночкі —
Толькі каваль быў
Адзін
З Васілёчкам
Дома?!.
Хто сцежкай нападу
Вёў тут фашыстаў? —
Ці чорная здрада,
Ці люты выпадак? —
Ды толькі —
ой рана
Рушылі з кузні
Байцы-партызаны...
Бою рыштунак,
Зарады, гранаты,
Розную зброю
Лясное адплаты
Ў пушчу панеслі...
У золак-світанак...

Вораг
З'явіўся

Зусім нечакана...
Люта ашчэрыўся
З першай хвіліны...
Шквалам па кузні
Ударылі міны...
Чэргамі ўспорвалі
Лес
Аўтаматы...
Білі па вокнах
Кавальскае хаты,
Білі па даху,
Па ціхіх паветках,
Нават — па студні,
Па травах і кветках;
Нават курэў
Пыл ад куль
Па пясочку...

— Сынку...—
Абняўся каваль з Васілёчкам.—
Сынку!
Ты ж ведаеш
Лесу сцяжынкі,
Будзь жа, як птушка,
Не траць ні хвілінкі!
Лётам ляці
На пушчанскія ляды,
Хай падымаюцца
Мсціўцаў атрады,
Хай акружаюць
Варожую зграю...
Хуценька, сынку!..
А я іх стрымаю...
Я не пушчу іх...
Пакуль хопіць сілы...
— Татка!
Я буду з табой!
Татка мілы!
Я не пакіну цябе
Без падмогі!..—
З плачам казаў Васілёк...
Ад трывогі
Ён ледзь трываў
Ды хінуўся да таткі...

— Сынку! Ляці
Як хутчэй, без аглядкі!
Слухай загад!..
І —
Хаця й неахвотна,—
Кінуўся хлопчык
Па сховах чаротных...
Кінуўся, быццам
На крыллях імклівых...
Бег па нізінах
Ажынных;
Па грывах
Над раўчукамі;
Па сцежках палянных,
Што пратапталі
Праз лес партызаны,—
Слухаў, як б'е
Кулямёт басавіта —
Таткаў!..—
І бег!..
Бег, тугой апавіты,
Але з надзеяй,
Што пушчы салдаты
Хутка
Супыняць тут карнікаў-катаў,
Будзе чужынцам
Апошні рахунак!..—
Татку ягонаму
Прыйдзе ратунак...



Грозна
Да кузні
Прарваліся з боем
Помсты байцы...

Партызанская зброя
Смелым,
Раптоўным,
Нястрымным ударам
Бурна

Развеяла
Карнікаў хмары...
Густа ля кузні
Палеглі чужынцы...
І паміж дрэў,
І на кожнай сцяжынцы —
Помсты агонь
Папяліў іх без жалю...
Дзе ні паглянеш —
Іх каскі ляжалі...

Толькі...

Не стала
Ў баі тым суровым
І Васілька...

О шум-гоман
Хваёвы!
О колькі жалю
Нясеш ты
Для сэрца!..

Не, ён не думаў
Аб страху, аб смерці,
Наш Васілёк...
Найадважны наш хлопчык...
Калі
Пад кулямі
Ў дымны акопчык,
Дзе свайго любага
Татку пакінуў,
Бег напрасткі...
Ці ж ён знаў,
Што загінуць —
Гэта так проста?..
Адной толькі марай
Жыў Васілёк:
Каб чужынцы-пачвары
Спрахнулі,
Зніклі
Усе без астатку...
Татку!
Жывога!
Хутчэй!

Свайго
Татку
Бег ён пабачыць!..
Ды —
Ніж пад касою,
Ніцма
Упаў
І заліўся крывёю...

*

Бойкі лясной
Адгуло адгалоссе.
Стоенасць глуха
Ступала між сосен...
Глуха маўчаў
І акопчык пясчаны,
Калі знайшлі
Каваля партызаны...
Быццам абняты
Бясконцай самотай,
Моўчкі ляжаў ён
Каля кулямёта,
Зранены ўвесь...
Ледзьве дыхаў,
Нябога,
Не пазнаваў
Ля сябе
Анікога,
Здэцца, блукаў дзесь
Адзін адзінока,
Быў —
Ад сяброў —
У вандроўцы далёка...

Вейкі
Узняць
І тады не меў сілы,
Калі салют
Прагучаў над магілай,
Дзе
Разам з іншымі
Раніцай тою

І Васілька
Пахавалі героем...
Толькі пасля,
Поўны смутку і жалю,
Як зноў вярнуўся
Сюды са шпіталю,—
Па-над лясною
Магілай зялёнай
Часта і горка
Стаяў задумёны...
Ды ў летуценні
Бацькоўскім сірочым
Бачыў
Жывыя
Васількавы вочы...
Ды не знаходзіў
Сабе апраўдання,
Што не ўбярог
Васілька
Ў тое ранне...

*

Водгуллем гулкім,
Салютам ваяцкім
Дзень прагучаў
Над магілаю брацкай...
Рэха згайдалі
Хмызы і паляны.
Зноў у глыб пушчы
Пайшлі партызаны.
Стомлена йшлі
Па пушчанскіх дарогах.
Неслі з сабой
Каваля ледзь жывога...
На папялішчы
Кавальскае хаты
Вецер прабег
Неспакойны, заўзяты,
Попел узняў,
Гіцнуў, нібы стаенны,
Порстка абдзьмуў
Кузні чорныя сцены,

Ды і заціх...
І аблеглася ціша...
І вось тады
З пушчы лось
Сюды выйшаў...
Выйшаў адзін,
Асцярожны, задумны,
Доўга маўчаў,
Бы чакаў чагось
Сумна.
Потым нырнуў
У гушчар
Вербаў ніцых,—
Быццам
Збаяўся чагосьці
Ці быццам
Нешта згадаў...
Але нават хвіліны
Там не пабыў,—
З цэлым гуртам ласіным
Па-над магільным
З'явіўся грудочкам...
О, кліч душы
Васіля-Васілёчка,
О, стук хлапечага
Добрага сэрца! —
Пэўна,
Іх чулі
Й пасля яго смерці
Гэтыя,
Мусіць,
Найшчырыя самыя
Роднай зямлі
Жыхары паміж намі...
З ціхай жальбой,
Бы аплаквалі брата,
Моўчкі стаялі
Ласі, ласяняты
Па-над магілай...
Хоць не гаманілі,
А было бачна:
Пяшчоту дарылі
Светлым абшарам,
Барам і дубровам,—

А праз іх —
Светлай
Душы Васільковай...
Потым
Узняў галаву
Лось цыбаты,
Штосьці сказаў,—
І пад хвойныя шаты
Ціха падаўся,
Ступаючы чынна...
А за ім
Гурт
Увесь рушыў ласіны;
І, мусіць, горача
Сумную вестку
Неслі трывожнаму,
Чуйнаму лесу,
Бо праз хвіль колькі —
Пад голас салоўкі —
Выйшлі з гушча́ру
Касулі-сяброўкі,
А хутка
Побач
Аленіха ўстала,
І не адна тут
Зязюля кувала,
Сумным куваннем
Лес будзячы родны;
Потым
Дрозд пеўчы
Азваўся журботна...
Так над магілай,
Над жоўтым пясочкам
Лес
Памінаў
Васіля-Васілёчка,
Подзвіг яго
Памінаў
Партызанскі,
Кланяўся шчыра
За клопат пушчанскі...



Да́ўна было...
Ды хоць да́ўна мінула,—
Але й сягоння —
Пяшчотна і чула
Над той магілай
Схіляюцца людзі...
А на світанках —
Не проста заблудзяць,
А з ціхай думай,
З журбой-летуценнем
Над тым грудком
Часта ўстануць алені,
Часам зубры
Сюды збочаць з дарогі
Ці волат-лось
Узнясе свае рогі...

Часта сядзіць тут
Дзядок састарэлы...
Думае думу,
Увесь белы-белы...
Бацька Васількі,
Герой былы пушчы...
Слынны каваль
Па празванню Сілюшчы...
Сядзе, сядзіць
Пад куванне зязюлі...
Ціха гамоніць
З ласём ці казуляй...
Ці зайчаню
Прынясе пачастунак:
«Еш, зайчанятка,
Прымі мой ласунак...»

Часта і я
Тут стаю пад дубамі,
Слухаю пушчу
З яе галасамі.
Ці раніцой,
Ці вячэрняй парою

Гоманы лесу
Прымаю душою.
Гоманы лесу,
Што змалку знаёмы.
Гоманы звонныя...
Гоманы-бомы...
Гоманы роздумаў...
Скрухі расстання...
Памяць вялікага
Ў краі змагання...

*1985*

## ЖУРАЎЛІНЫ ПОМНІК

Плыў клін жураўліны
Ў праменлівай высі.
Звінелі «курлы» пералівы.
І бегла па полі дзятва
І гукала:
— Куды, журавелькі, куды вы?

Куды вы,
Нашто пакідаеце нашы
Лясы, пералужжы, балоты?
Няўжо вас не ўсцешылі,
Не прытулілі
Рэк нашых празрыстых
Чароты?

Няўжо вас пакрыўдзілі,
Не шкадавалі
Імшары, азёры, прылессі?
І зараз вас клічуць —
Імкнуць аж у неба
Абшараў крынічлівых песні.

— Спыніцеся ж!..—
Дзеці крычалі.—
Сядзіце
На нашы разлогі, даліны!..

І сум іх
Адчуў
У вышынях праменных
І зрушыўся
Строй жураўліны.

І строю прамовіў
Важак сівакрылы:
— Вы чуеце —
просяць як дзеці?..
Яшчэ з такой ласкаю
Нас не гукалі
Нідзе так, нідзе так
На свеце!

Давайце ж прывецім мы
Гэтыя гоні
І здружымся
З гэтай дзятвою.
З лясамі, імшарамі і чаратамі —
З усёй іхняй
Вабнай зямлёю!..

І з высі праменнай
Нырнуў ён імкліва
Да поля,
Дзе мчаліся дзеці...
І следам за ім —
Паў і строй жураўліны,
Каб дзіва-зямельку
Прывеціць...

Ды тут,—
Не паспелі й агледзецца птахі,
Прад дзецьмі
І ўстаць не паспелі,—
Як раптам уздыбіўся
Свет навакола —
Бы нетры глыбінь
Загрымелі.

І ўбачыў важак:
Ля варонак,
Ля чорных,
Якіх шчэ не бачыў ніколі,—

Упалі ў крыві
І палеглі маўкліва
Ўсе дзеці,
Што беглі па полі.

Якая іх лютая сіла
Спыніла?
Хто смерць ім паслаў
На разлогах? —
Не ведаў важак.
Толькі бачыў:
Жывога
Нікога навокал, нікога...

Ні звонкага бегу
Па полі па ясным,
Ні тлуму,
Ні шчырага ўскрыку...
Ляжала
дзятва,
Бы зламаў яе крыллі
Віхор
Нейкай буры вялікай...

І крыкнуў тады
Журавам сваім хмурным
Важак,
Як між віцязяў віцязь:
— Пастаньце ж, сябры мае,
Трубы ўзніміце,—
Па дзецях
Жалобу трубіце!

Трубіце журботна,
Высока трубіце —
Па злёгшых
Братах нашых любых!..
І строй жураўліны
Узвысіў над полем
«Курлы» сваё
Ў срэбраных трубах.

Над полем, над борам,
Над цэлай зямлёю
Плыла

Ўсхваляваная дума;
Трубіла, трубіла
Па светлых і паўшых
Сям'я жураўліная
з сумам.

Трубіла —
Спяшалася ў рэквіем шчыры
Боль сэрцаў сваіх
Перанесці...
Але не паспела...
Грымотамі зноўку
Прастора
Ўзарвалася дзесьці.

Ад выбухаў новых
Здрыгнулася поле,
Агню
Праграмелі лавіны...
І поплеч з дзятвой
Абяскрылены, мёртвы
Улёгся
і строй жураўліны...

Адзін што важак
Яшчэ здолеў на крылы
Узняцца
Над дымнаю пожняй...
Ды змогся і ён...
Злёг уполеч з другімі
З «курлы» развітальным,
апошнім...

Даўно адпачыла
Ад буры ваеннай
Зямля
Пад садамі і жытам...
Ды толькі тых дзён
Ні трывога, ні смутак,
Ні слава, ні боль
Не забыты.

Паставілі людзі
Праменісты помнік

На самым шляху,
Над палямі.
А ў помніку —
Дзеці
Імчацца пад сонцам —
Няйначай, лятуць
З жураўлямі.

Лятуць у адзіным,
У згодным і светлым
Страі
Ў некранальную вечнасць.
Як дзеці —
Зямлі,
Неўміручай, любімай,
І добрай сям'і чалавечай.

І ўсе, хто ні пройдзе
Прад помнікам гэтым,—
З пашчотнасцю
Голаў пахіліць...
І кожнае сэрца —
Любоў да Радзімы
Пачуццем гарачым
Акрыліць...

І кожнае сэрца
Шчыміць нематліва
Найсветлаю нават
Часінай,—
Пачуўшы,
Як дзеці
Крычаць у нябёсы,
Вітаючы
строй жураўліны...

*1985*

## ПАД ЗОРКАЙ ЧЫРВОНАЙ

То далеч разлогаў,
То нівы, то ўзмежжы ў сіўцах...
Дарога, дарога
Бяжыць і бяжыць без канца...

Дарога, дарога,
Куды ты, куды ты бяжыш?
Дарога, дарога,
Чаго ты, чаго ты маўчыш?..

Сказала дарога:
— Я з светам пазнацца хачу.
А колькі бягу я —
Нідзе я, нідзе не маўчу.

Пабачце, пабачце,—
Як толькі пагляду стае,
Высока, далёка
Стаяць абеліскі мае.

На кожным — імёны,
На кожным — бяссмерця пячаць.
Пачуйце, пачуйце —
Ні хвілі яны не маўчаць...

Вось тут, куды сёння
Прыйшлі вы шчаслівай гурбой,
Калісьці
Гарачы
Грымеў над дарогаю бой.

Назад ані кроку! —
Такі быў героям загад...
Ніхто не забудзе,
Як біўся тут мужны салдат.

Вяртаўся з разведкі
Ён ранкам да штаба свайго.
Чужынцы ліхія
Вось тут акружылі яго.

Над ім самалёты,
Над ім агнямёты раўлі,
Каб выпаліць з сэрца
Любоў да бацькоўскай зямлі.

Над ім аж шалелі
Разрывы снарадаў і мін.
Каб духам скарыўся,
Забыў,
Чый баец ён і сын...

Ды ўсё ён адолеў,
Адданы Радзіме салдат.
Да кулі апошняй
Біў катаў
яго аўтамат...

Да кулі апошняй
Крывавых караў чужаніц...
Пакуль на дарогу
Не ўпаў, дол крывавячы, ніц...

Героем няскораным
Ён у той ранак упаў.
Таму над дарогай
Навек абеліскам і ўстаў.

Пад зоркай чырвонай
Стаіць,
Наш вітаючы час,
І маці-Радзіму,
І новых сяброў сваіх —
вас...

Сказала дарога,
Не пынячы бег па зямлі...
І ясныя зоркі
Над ёю плылі і плылі...

Дарога, дарога,
Бяжыш ты да сонца амаль.
Вазьмі ты, дарога,
Нясі нашы роздумы ўдаль.

Паклон наш героям,
Удзячнасць ад сэрцаў вазьмі,
Пра нашу адданасць
Радзіме —
Скажы між людзьмі...

То далеч разлогаў,
То нівы, то ўзмежжы ў сіўцах...
Герояў дарога,
Ў жыццё нас вядзі без канца!..

*1985*

## НАСТУЛІНА КАЗКА

Плакала Настулька
Слёзна і без слёз,
Каб хутчэй татулька
Казку ёй прынёс.

А татулька ў лесе,
Між хваёвых стром,
Сосны там пілуе,
Рубіць новы дом...

Вось і кажа маці:
— Таткі, бач, няма.
Мо складзеш, дачушка,
Казачку сама?..

— Не! — Настулька просіць.—
Не, мамуля, не!
Казкі я заўсёды
Бачу толькі ў сне.

А прачнуся —
Ўсюды
Скрозь — адно святло...
Бы са мной нічога
Ў сне і не было...

— Што ж,— гаворыць маці,—
Сціхні ж, не тужы
Ды прыдумаць казку
Маме памажы...

Чуеш? — за сцяною,
Між зялёных ніў,
Быццам у званочкі
Нехта зазваніў?

Чуеш?..
— Чую, мамка...
— А хто ж звоніць там?..
— А то едзе казка,
Вязе радасць нам...

Едзе яна борам,
Там, дзе татка твой,—
Татка нам вітанне
Пасылае з ёй;

Едзе казка полем,
Дзе жытоў сцяна,—
Покліч перапёлкі
Нам вязе яна;

Едзе паплавамі,
Берагам ракі,—
З казкай
Табе песню
Дорацъ сітнякі...

Слухае Настулька,
І карціць ёй знаць:
А на чым жа
Казка
Едзе іх вітаць?

Як вязе ім казка
Кліч і спеў чужы?..
І так шчыра просіць:
— Мамка, адкажы...

— А паглянь, дачушка,
Выглянь за акно:
Колькі там іскрыстых
Прамянёў відно!

Расстаецца сонейка
На ўсю ноч з зямлёй.
Дый на развітанне
Дорыць ласку ёй.

Каб уноч па-цёпламу
Дыхалі палі,
Нівы падняліся,
Дрэвы падраслі.

Бачыш — небасхілы
Ззяюць да краёў? —

Колькі там
ясноты,
Колькі прамянёў!

Як яны імкліва
Плыняць, прамяні!
Як ляцяць
над светам!
Аж звіняць!
Зірні!..

Бачыш?
— Бачу, мамка!..
А дзе ж казка там?..
— А яе
Сам сонечны
Вязе конік нам...

Села казка —
у вазок
З залатымі коламі,
Закілзала коніка
Стужкамі вясёлымі.

Залатая грыва
Ў коніка, пабач,
Аж гарыць,—
Імклівіць
Конік наш наўскач.

— Дзілінь-дзінь, дзілінь-дзінь! —
Пад дугой званочак.
Ляціць казка
з-пад вышынь
На твой галасочак.

А за ёй услед —
Сярпок
Месяца —
Імчыцца,
Каб табе
ў вясёлым
сне
Усю ночку сніцца:

То гарэзнай птушкаю
Пырхнецца ў акне,
То цябе па шчочках
Пёркам чыркане,

То асыпле бліскамі —
Ліўнем серабра.
А то ўстане з песняй:
«Баю, спаць пара...»

— Чуеш гэты голас?..
За сцяной гучыць?..
Ды Настулька
Нешта
Ўсё маўчыць, маўчыць.

— Што з табой, дачушка? —
Сціхла ля акна...
Паглядзела маці —
А ўжо спіць яна...
Пэўна што — прыспала
Захадам вясна...

— Што ж, дачушка...—
Кажа
Маці шчыра ёй...—
Заўтра нашу казку
Скончым мы з табой...

А цяпер — дабранач,
Спі ды сноў насні...
Аб вясновым, шчасным,
Самым ясным дні...

Я ж з табою буду
Тут,
Не адыду.
Ды яшчэ мо казку
Новую складу...

Казку-непагаску,
Казку — сэрца сказ,
Казку — слова шчырае,
Слова без прыкрас...

*1986*

## РУЧАІНКА

Ззяе, ззяе прамянямі
Тонкая ільдзінка.
А пад ёй —
звініць, булькоча
Дзіва-ручаінка.

Ўсю зіму мароз-марозка
Стужыць яе, стужыць.
А яна —
бяжыць імкліва
І тужыць не тужыць.

Не, ні разу не ўдалося,
Як мароз ні браўся,
Каб над звонкай ручаінкай
Лёд цяжэнны ўзняўся,

Каб забіў яе дыханне,
Засланіў ад промняў,
Бо ўсё ў працы ручаінка,
Ўсё бруіць нястомна...

Не дае ўзмацняцца лёду,
Тончыць яго, тончыць
З прагай жыць у светлай волі,
Пад пяшчотай сонца...

Апусціў марозка рукі,
Стомлена пытае:
— Адкажы мне, ручаінка,
Ты чаму такая?

Ты адкуль бруіш-імкнешся,
Як і дзе ўшчалася.
І ў каго ты, невялічка,
Рупнасцю ўдалася?..

Адказала ручаінка
Шчырым, чыстым словам:
— Ад матулі ад крынічкі
Я цяку з дубровы.

Мая мамка
бурна, звонка
З глыбіні ўзнікае.
І ніколі ні на хвілю
Плыніць не сціхае.

Ані сцюжы, ані віхры,
Ані бураў шалы
Яе плыні не спынілі,
Ні твае навалы.

Вось таму і я такая —
Бы лячу на крылах.
Бо такою мая мамка
Быць
мяне вучыла...

Так сказала ручаінка
З-пад ільдзінкі тонкай.
І далей
пад прамянямі
Паляцела звонка...

А мароз стаяў пануры,
Адзінокі, ніцы...
І без моцы, без ахвоты
Біў у рукавіцы...

*1985*

## СНЕГІРЫ

Сёння ў сад наш
На зары
Прыляцелі снегіры.

На ўсіх яблынях
яны,
Дзе ні глянь, гайдаюцца.
Як чырвоныя званы,
Ветру адгукаюцца.

— Ты пытаеш, вольны вецер,—
Чутна ў садзе гамана,—
Ці мы хочам,
Каб на свеце
Зноў была вясна-красна?

Ты пытаеш, дзьмеш нястомна,
Дык жа ведай,
Дык жа знай,
Мы так хочам
зноў дадому —
У паўночны родны край!
А ў свой край
Ляцець
Лясны —
Мы не можам без вясны!..

Я пачуў гамонку тую
Ды бягу да снегіроў...
Радасць сэрца ім дарую
І вітаю, як сяброў...

Хай вам сад наш, снегіры,
Будзе ласкі поўны!
Дзе чакацьмеце пары,
Каб ляцець на Поўнач.

А каб менш цягнуўся час вам,
Каб было ўсё менш чакаць,—
Буду з вамі я тут разам
Кожны дзень
вясну гукаць!..

*1985*

## ПРАДВЕСНЕ

Яшчэ мяцеліць снег, яшчэ
Злуе, віхурыць віхар
гонка.
А сонейка як прыпячэ —
Ляцяць са стрэх
ільдзінкі звонка.

Яшчэ трашчыць на ранку лёд,
За нос мароз
не кінуў брацца.
А ўдзень — бяжыць праз агарод
Ручай —
з ільдамі паспрачацца.

Засцеле ноччу пухам бель
Сцяжынку ў сад, у луг іскрысты.
А днём —
вясновы карабель
Плыве ў праменнях
небам чыстым.

Махне туды-сюды
вясна
Рукой —
і ў полі рунь ачнецца.
І спеў жаўронка
ад цямна
І да цямна
ў пратаплле льецца.

І хоць ізноў у час начны
Ільдзінкі
сцягнуць воды хрустка,—
Ды чуй:
усё званчэй яны
Звіняць наўсцяж, вясны званы,
Ды бач:
бы ветразь ільняны,
Праменіць ярка яе хустка!..

*1985*

## ЯНКАВЫ ЗАНЯТКІ

Я пашыла свайму Янку
Сарачульку-дзіваткапку,
А на ножачкі —
малыя
Чаравічкі віхравыя.

Чаравічкі — цок ды цок,
А ножачкі скок-скок.
Ах, вы, ножкі, не скачыце,
А лепш Янку памажыце.

Трэба, трэба майму Янку,
Перш чым бегчы на палянку,
Хатку чысценька падмесці,
Вады свежанькай прынесці.

Трэба Настачку-сястрычку,
Дарагульку-невялічку,
Пакарміць — хоць раз на дні,
Ды прыспаць — бай-бай, засні.

А яшчэ яму патрэбна
З печы дух падслухаць хлебны,
Каб прыбегчы:
— Бачыў сам:
Хлеб паспеў, вынь хлебца, мам!

І, счакаўшы з Янкам троху,
Мы вымаем з печы бохан:
Як ён пахне!.. Аж расцеш!..
Рэж, сыночак,
еш, еш!..

І тады з духмянай скібай
Імчыць Янка за сялібу,
І яго мне не пазнаць,—
Яго й ветру не здагнаць!..

*1985*

## КАТРУСІНА ВОЙСКА...

На ўсю плошчу: га-га-га...
Гэта што за войска?..
Без камашаў на нагах
Крочыць так геройска?..
А важак які! Важак!

Глянь — сягае важна як!
Крочыць з гонарам, шыпіць,
Ні на кога не глядзіць!..

Шыю выгнуў наперад,
Маўляў, вось я, бач-ка!
— Уцякай! — сігналіць кот
Сябруку-сабачку...

Раптам выбегла з дзвярэй
Шчырая Катруся.
Ды з прутком туды хутчэй:
— Ну-ка, гыля, гусі!

Гыля, гыля, арш, чародка,
На балонне, на лужок!..
Ну, а вам, сабачка й котка,
Вот —
салодкі піражок!..

*1985*

## ХМАРКІ

Запытала ў хмаркі хмарка:
— Ты куды плывеш так шпарка?..
Хмарка хмарцы адказала:
— Бачыш — поле там завяла?
Ажыўлю яго дажджом...
— Хочаш — разам паплывём?!.

Паплылі дзве хмаркі ў пары,
Напаілі ўсе абшары.
І шчаслівыя ў той хвілі,
Што зямлі дабро зрабілі,
Ад высокіх неба стром,—
Як салют, паслалі гром...

*1986*

## СЕЛІ-ПАЛІ КАЎКІ...

Селі-палі каўкі,
Занялі ўсе лаўкі.
Ды гавораць да Настулі:
Твае клічы мы пачулі.
І прынеслі табе, любай,
Хто ў кіпціках, а хто ў дзюбах —
А хто пітачак шаўковых,
А хто пёркаў прамянёвых,
А хто голкі, хто пруточкі,
Каб нам вышыла сарочкі;
Дый тэпцікі нам пашыеш,
Дый шалікі ўсім на шыі,
Дый на лёгкія крылочкі —
Пуховыя рукавочкі...
А яшчэ табе прынеслі
На твой кожны дзень — па песні,
Каб, працуючы, спявала
Ды ў радасці падрастала...

— Дзякуй, дзякуй вам, кавулі,—
Птахам дзякуе Настуля.—
Я пашыю вам, кавулі,
Прамяністыя кашулі,
Я іх вышыю ўзорам —
Сцежкай летняю з чаборам,
Ды з жоўтымі каласкамі,
Ды з сінімі васількамі,
Ды йшчэ будзе
                    кветка тая,
Што на шчасце зацвітае...
Я і тэпцікі пашыю
І ўсім шалічкі на шыі,
Каб вы толькі прыгажэлі,
Не калелі, не хварэлі...

Каўкі гоманка ўзняліся,
Паляцелі ў неба, ў высі.
А Настуля хату мае
Ды ўсё строі птахам шые.
Шые, шые, вышывае,
Штодня песенькі спявае...

*1985*

# БАБУЛІН ДВОР

## 1. ІНДЫК

Распусціўшы хвост трубою,
З горда ўзнятай галавою,
Хоць і ўпэцкаў ногі ў гразь,
Ходзіць важна, нібы князь,
Ды любуецца сабою:
— Ось які я хвацкі, гожы,
Самы дужы і прыгожы!
Ось які я, докі-дык,
Не абы-хто, а — індык!

## 2. КАЧКІ

— Ах, і што ж бо тут такога?
Што такога?..— ад парога
Падымаюць качкі крык.—
Хоць надзьмуты твой кадык,
Што з таго, што ты індык?
Чым ляпейшы ты ў бабулі?
Толькі ходзіш — докі-гулі,
Ды глядзіш, каб ад стала
Больш за ўсіх
табе дала!..
А што ўмееш ты, лайдак?
Хоць, як мы, крычаў бы так!..

## 3. КУРЫ

І курыная чародка,
Што піла ваду са сподка,
Не ўцярпела...
— Кок-ко-кок!..
Скокнуў пеўнік-певунок.—
Праўда, качкі! Даўся ў знакі
Ён хвальбою задавакі,
Зіркам кожнага пратне...
А чым лепш ён за мяне?..
— Так, так! Праўда!..

Ко-ко!.. Ко-ку!.. —
Закрычалі куры збоку.—
Знаем з першага дзянька:
Многа пыхі ў індыка!..

### 4. БАБУЛІНА СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

І курыны, і качыны
Не сціхаў запал птушыны.
Гэткі ўзняўся тлум і крык,
Ажно ходу даў індык...

Гэта ўбачыла бабуля
Ды сказала: — Эйш, шумнулі!..
Ціха, ціха, забіякі!
Для мяне вы ўсе — аднакі!..—
А пасля —
да ўнучкі Светкі:
— Там ёсць крупкі пад паветкай,
Сыпані-ка ім сюды...
Ды налі пайдзі вады...
Ды бульбінак
трохі ўкінь...
Хай есць кожны... не адзін...

### 5. СВЕТКА

Светка выбегла таропка,
Сыпанула круп чарпкай,
Затым выставіла ў кадках
Вады, бульбы па парадку...
І гукнула:
— Раз, два, тры!..

Што тут сталася, сябры!..

Качкі, пеўні, і чубаткі,
І гусак, як слівень, гладкі,
Што прыбег сюды на крык,
Ды і самы той індык,
З-за якога тлум учнуўся
Ды што раптам — бач — вярнуўся,—

Ўсе сям'ёй адной, заўсёдпай,
Дружна, весела і згодна
Ля паветкі так шчыруюць,
Што — нічогачкі не чуюць...

### 6. СЛОВА ПАВУЧАННЯ

І не чуюць, і не бачаць,
Як з пяшчотаю, няйначай,
Стала тут, бы ў каравуле,
Гаспадыня іх — бабуля.
За іх гуртам назірае
Ды, як родным, прамаўляе:
— Ешце, дзеткі! Ешце з мірам!
Трэба жыць заўсёды шчыра!
Каб дабрэлі ўсцяж другія...

— Ешце, ешце, дарагія!..

І з любоўю ў кожным слоўцы —
Светку
гладзіць па галоўцы...

*1985*

## КЛУБОК

З рук бабуліных
Клубок —
Шась! —
Нырнуў
Кудысь убок.

— Ах ты ж, шустрык!..—
Каб не чулі,
Шэпча стомлена бабуля.—
Дзе ж ты?..—
Рупіцца сама...

Ды клубка —
Хоць плач —
няма.

Тут прыбег
Унучак Міша,
Следапыт дамашні
Ўвішны.
— Адпачні, бабуля!..—
Крыкнуў...—
Гляну я,
Куды ён знікнуў...
Я знайду
Яго куток!
Не схаваецца
Клубок!..
Міша кінуўся
Старацца,—
Шчырай працай
Спадабацца...
І бабуля —
Рада, рада!
Люба
Ўнукава
Спагада!..
Стала, шэпча
Ля парога:
— От, даў бог,
І дапамога...

*1985*

## ЖАРТ

— З кім ты ў садзік
Ходзіш, Вацік?
— А са мной
Мой
Меншы брацік.
— А што робіце
Вы ў садзе?
— А мы з ім
Будоўлю ладзім...
Я з цаглінак
Дом збіраю.

А Ясь
Працу правярае.
Сам ён
Хоча ставіць дом,
Хоча быць
Будаўніком,
Ды не можа
Дом сабраць,—
Можа
Толькі правяраць...
Правярае ён
руплiва,
Карпатліва і зычліва,
Каб нічога
Не ўпусціць:
Усё прэч,
Набок ляціць...
Ляцяць з грукам
Вокны, дзверы,
Столь, падлога з шуляком,
Тынк ды клямка з касяком...
Калі ўсё ён
Мне праверыць,—
Трэба нанаў
Ставіць дом...

*1985*

## ВОЖЫКАВЫ СНЫ

Вожык зграб іглiцу і заснуў,—
Цёпла спаць
з маленства ён прывык.
А за ноч —
пад самую сасну
З-пад іглiцы
вылез баравік.

Накалоў аб вожыка свой твар,
Адхіснуўся,
войкнуў на ўвесь бор.

Аж здалося —
            быццам на пажар,
У звон з медзі
            ўдарыў мухамор.

Вожык нездаволена праз сон
Чмыхнуў,
            ды ізноў пайшоў па сны.
І салодка
            сніў у снах тых ён
Самы смачны ў свеце
            пах грыбны.

*1983*

## БАБЧЫНА ПАМОЧНІЦА

Вачаняткі — васілёк,
А валосікі — лянок,—
От такая ў бабкі ўнучка —
Бабчына памочніца.

Ледзьве ранічкай прачнецца,—
Хопіць звонкае вядзерца
І да студні —
                        скокам-скок! —
Бабчына памочніца.

Курак беленькіх напоіць,
Куранятак супакоіць:
— Не сумуйце, тут я, тут!..—
Кажа ім памочніца.

Толькі пеўніка як быццам
Іншым разам забаіцца,—
Не спяшае падступіцца
Да яго
Памочніца.

Стане ліць яму вады,
А той раптам:
                        — Куд-куды! —

І стаіць прад ім нясмела
Бабчына памочніца...

Пеўнік, мусіць, знае гэта,
Бо ўзлятае на штыкеты
Ды крычыць адтуль:
— Не бойся,
Будзь смялей, памочніца!

— Ко-ко-кó! Ку-ка-рэ-кý!
Я любога засяку
За цябе, сяброўку нашу
І для ўсіх памочніцу!..

*1986*

## КАЗКА ПРА ДЗЯТЛА І ДРАЗДА

Казаў дзятлу пеўчы дрозд:
— От каб мне твой дужы хвост!
Ды дзюбу, як у цябе,
Што так хвацка ствол дзяўбе!..
Я б у дрэвах —
Дзень і ноч —
Дуплы біў, аж іскры з воч,
І крычаў на ўсю зямлю:
— Хто бяздомны —
жыць сялю!

Казаў дзяцел да драздa:
— От каб мне твая дудá!
Я б такую песню спеў —
Лес бы ўвесь зазіхацеў!
І хто сумны, хто знямог,
Ад усіх ішлі б дарог —
Каб пачуць яе
Ды з ёй
Крочыць к радасці сваёй!..

Гэту гутарку ў бары
Чуў той час арол стары...
А здаўна быў
той арол
Чарадзеем навакол...
І махнуў арол крылом —
Дзяцел стаў ураз
драздом,
І другім махнуў для іх,—
Дрозд стаў дзятлам
той жа міг...

Азіраюцца, глядзяць —
Пёркі ярка зіхацяць,
Як змяніліся яны!..
Праўдай сталі думы й сны!..
Толькі ў дзятла —
вось бяда! —
Не пяецца спеў дразда;
І дразду — ну, хоць памры:
Не прабіць у дрэў кары...

Дзень прайшоў, мінуў другі...
Дрозд марнее ад тугі.
Дзяцел сціх,—
Сярод ляшчын,
Як чужак,
сядзіць адзін.
Хоць наўкол той самы лес,
Ім адна згрызота — спрэс...
Кожны думае з журбой:
Як зноў стаць самім сабой?..

— Што ж...—
Сказаў стары арол...—
Добра ўдарцеся аб дол...
Тады зноў —
крыла кіўком
Я зраблю
дразда — драздом,
Дзятла — дзятлам...
Зноў каб вы
Лес будзілі векавы...
Ды ўсім сэрцам

Бераглі
Дар,
што маці вам далі...

— Дзякуй, мудры наш!..—
Хвалу

Птахі крыкнулі арлу
Ды зрабілі ўсё
хутчэй,
Як сказаў ім чарадзей...
І на радасць лесу —
зноў
Дрозд запеў між певуноў
І, на смольны сеўшы сук,
Дзяцел свет вітаў: тук-тук!..

З той пары
па гэты міг
Чуем мы сяброў лясных:
Зранку, ўдзень
здалёк чутны —
З ласкай, з любасцю
яны!
Калі дрозд пачне свой спеў —
Дзяцел цішыцца між дрэў,
А як дзяцел дуплы б'е —
Дрозд ціхусенька пяе...

І заўсёды люба ім
Жыць па-свойму абаім,
І заўжды па ўсіх лясах —
Шчасце ў іхніх галасах...
Вунь стаў дзяцел на ўвесь рост —
І яго вітае дрозд;
Дрозд заліўся
сэрцу ў такт —
Дзяцел хваліць:
— Так, так, так!..

*1985*

## ХМАРНЫ ДЗЕНЬ

Чаму сёння, сонейка,
Ты яшчэ не ўстала?
Чаму хмаркі з дожджыкам
З неба не сагнала?

Не чуваць у садзе
Пчалінага звону.
Апусціў галоўкі
Мак яшчэ зялёны.

Барсік, лепшы сябра мой,
Нешта плюшчыць вочы.
І каток ад прыпечка
Адысці не хоча.

З кім жа я на рэчку
Скокну сёння з вудай?
З кім гуляць на поплаве —
На мураўцы буду?

З кім, скажы, прымераю
Картузок свой новы?
Перад кім прамчуся
На кані лазовым?

*1986*

## КОЗАЧКА

Козачка
З гары да рэчкі
Збегла асцярожна.
Бытта
Ў нас пытала:
— Тут мне
Пераплыць ці можна?..

Мы сказалі ёй
Сардэчна,
Шчыра і па-свойску:

— Плыві, козачка,
Без страху,
Нічога не бойся!

Мы абмералі
Ўсю рэчку,
Сто разоў
Ці болей,—
І ні віру ў ёй,
Ні ямаў
Не было ніколі...

Толькі там,
На той старонцы,
Пільнай будзь,
Гарэза...
Каб аб крэменьчык,
Аб востры,
Ножку
Не парэзаць...

*1986*

## ДЖАЛА

Муха ўбачыла з двара
На коніку камара.
— Куды едзеш, кум-камар?
— Еду, кумка, на базар.
— А што купіш на базары?
— Ўсякай ўсячыны па пары.
Мо цукеркаў, мо прысмакаў,
Абы танны быў тавар.
А яшчэ —
яхі-ніякі
Купіць трэба самавар.
Вельмі ж мая камарыха
Аслабела — чуць ліпіць,—
Усё б ёй сядзець бы ціха
Ды чаёк салодкі піць...

— Ах ты ж, мілый камарок,—
Муха куму кажа,—
Бачу — добры твой канёк,
Справіцца з паклажай,
Дык ці ж будзе табе цяжка,
Я прашу так мала:
Пашукай там, калі ласка,
Новае мне джала!..
— Добра!..— сказаў кум-камар
Дый паехаў на базар.

Як ён ехаў, як было там,
Як купляў ён свой тавар,—
Што казаць... Была б ахвота,
То ўсё купіш — то ж базар...
Спакаваў камар пакупкі,
Абчапляў імі каня.
— Н-но!..—
І конь, слухмяны, цупкі,
Не абы-каму раўня,
Бы стаенны, ўзвіўся, скочыў
І памчаў — усё шпарчэй...
Так і бачылася: хоча
Ён адолець шлях хутчэй...

Дзе нізінай, дзе гарою,
Праз лясы, палёў абшар
З добрым, сонечным настроем
Кіраваў дамоў камар.
Аглядаў, як май узвесніў
Ўсю навокал старану...
І не раз ад сэрца песню
Тонка-ценька зацягнуў...
Быстры конь імчаў заўзята,
Седака з ахвотай нёс...
Але вось ужо і хата —
Ціхі дворык
між бяроз...

Пазнімаў з каня паціху,
Як руплівы гаспадар,
Рэчы ўсе —
і камарыху
Скарб прыняць
гукнуў камар.

І стаяў, падзяку слухаў:
— Малайчына ж ты, дальбог!..

А той самай хвіляй
муха —
З-зум! — прыджгала на парог...

— Ах, мой мілы камарок,—
Крыллем замахала,—
Ці купіў жа ты, кумок,
Новае мне джала?
Я ж не ела, не піла,
Спаць, кумочак, не магла,
Свет без радасці зусім
Стаўся з жалам мне тупым...

— Як жа, як жа! —
мусе кажа
Задаволена камар,—
Разбяромся от з паклажай,
Знойдзем, кумка, твой тавар!
Бач! Авой, і тлуму мала! —
От жа, кумка, і яно,
Тваё новенькае джала,
Ну, нібы верацяно!..

Як убачыла, пазнала
Муха джала,— запляскала
Гучна ў ладкі:
— Ой, кумок,
Дзякуй табе, камарок!..—
І, не трацячы дарэмна
Ні хвіліны,—
спрытна, кемна
Тут жа, проста на вачах,
Жала мігам памяняла,
Ды так досціпна і ўдала,
Што нат нехта крыкнуў «ах»
Ад здзіўлення...
Камарыха ж
Пажадала,
каб больш ліха
Муху-кумку не чапала,
Каб ніколі яе джала

Не псавалася нічым,
Не рабілася тупым...

І камар жадаў для мухі
Надалей жыцця без скрухі,
І камар —
душою ўсёй
Толькі ўцехі зычыў ёй...
Але раптам — што за штука? —
Чаму скурчыўся камар?
Зеляне ягоны твар?..
Чаму раптам — быццам мука
Камарыху апякла,—
Ледзьве долу не ўлягла?
Ледзьве дыша немым дыхам,—
Мо канае камарыха?..

А то муха —
перш чым стала
З новым джалам адлятаць,—
Пажадала
гэта джала
На кумочках паспытаць.
Дзеўбанула, секанула
Камарыху з камаром —
Бы маланкай пеканула,
Бы працяла тапаром...
Секла-біла з лютай пыхай,
Быццам віхар нёс удар...
І зайшлася камарыха,
І не войкае камар...

Што такое? —
ў злосці муха
Аж сіпіць:
— Чаму маўчаць?..
— Ах, дык вось як ты паслухаў
Сваю кумачку-сяструху!..—
Пачала яна крычаць.—
Замест джала, мой ты мілы,
Што, скажы, ты мне прывёз?
Хоць сяку з усёе сілы —
Ані енку, ані слёз...
А ці ж ты не мог уважыць

Сваю бедную куму?..
Хай жа самы горшы цяжар
Роду выпадзе твайму!..

...Муха з лютасцю крычала,
Бы яе падсмольваў жар...
Камарыха не ўставала...
З болем курчыўся камар...
Толькі конік трохі збоку
Стаў, чакаў непадалёку,
Ды прытоена маўчаў,
Ды ўсё пільна прыкмячаў...
Хоць даўно была пара
Ўжо ісці яму з двара,
Але шкода камара
З яго кволай камарыхай
Пакідаць яму было...
І стаяў ён, сумна, ціха,
Бы засілены ў сіло...
І стаяў ён, колькі можна,
І шаптаў сабе трывожна...
А шаптаў ён — вось што:
Знайце —
Ад стара да мала:
— Аніколі не спяшайце,
Аніколі не купляйце
Анікому джала!..

*1986*

## НАШЫ БАБРЫ

Раўчук
Плыў ціха па яры.
Ды сажалкай
Зрабіўся.
А то —
Паклалі
Гаць бабры,
І ён —
Шырэй разліўся.

Цяпер хаджу
Заўсёды я
Да сажалкі
З сябрамі.
— Дзень добры вам,
Баброў сям'я!..—
Вітаемся з
З бабрамі.

На сінім золаку
Заўжды,
Да сонечных праменняў,
Сядзім
Ціхутка
Ля вады
Ў сцярожкім задуменні.

Чакаем пільна
Той пары,
Хвіліны той —
Як свята,—
Калі пакажуцца
Бабры
З таемных,
Цёмных хатак.

І вось яны!..
Нібы жывы,
Стаў
Бераг трысняговы!
Плывуць,
Ныраюць
Паўз травы
Бліскучыя галовы.

Плывуць,
Куляюцца бабры,
Сваволяць,
Весяляцца.
Бо пэўна знаюць:
Мы — сябры!..
Нас
Нечага баяцца!

I кожны раз
Бліжэй, бліжэй
Да берага
Імкнуцца.
І ўсё радней нам,
Даражэй
Іх позіркі
Здаюцца...

*1984*

## ВЫПАДАК СА СВЕТАЙ

Ах, што стала з нашай Светай,
А не ўгодзіш ёй ніяк!
Ёй і гэтае —
не гэтак,
Ей і тое —
ўсё не так!

Ці хоць плач, ці хоць крычы:
Як нам Свеце памагчы?

Света, Светачка, дачушка,
Ты зірні, што за пампушка! —
Тут разынкі, тут і мёд,
Так і просяць: кінь у рот!..

— Не хачу разынкі ў мёдзе! —
Света ўбок руку адводзіць.
— Не хачу! — ды туп нагой,
Ды аж слёзы з воч — ракой.

— Света, Светачка, галубка,
Сціхні, нашая ты любка,
Вытры слёзы, што з табой? —
Без канца наперабой
Суцяшаюць тата з мамай.—
Мо схадзіць з табой у краму?

Купім сушачкі, сардыны,
Апельсіны, мандарыны,
Шакалад і мармелад,—
Нават коцік будзе рад!..

— Не! — Ў адказ сваволіць Света.—
Не! — Па хаце — што ракета! —
Не хачу я, не хачу!..—
Скачуць іскаркі ўваччу...

Вось такая ў яе мова...
Вось такая скрозь размова...
Як сваво́льства ёй пазбыць?..
Хто падкажа,—
што рабіць?..

Ў хаце ўсё параскідана,
Кніжка новая стаптана,
Ад стала і пад парог —
Няма месцейка для ног,—

Там панчошкі, там спаднічкі,
Там шнуркі, там чаравічкі,
Лялькаў, цацкаў — неўпапад,
Бой тут быў
ці маскарад?..

Раптам — дзынк! —
званок у дзверы,—
І бабуля ўжо ў кватэры...
— Ой, а Света ж —
тут ці не?!.
Дзе вы дзелі ўнучку мне?!.—

Так бабуля ўсім прапела,
Бо ўсё ўмомант зразумела.
— Дзе вы ўнучку мне звялі?..
Мо камусьці аддалі?..

Хіба ж гэтая вось штучка
Наша Света, мая ўнучка?..
Рук няма, адзін жывот,
Нос распух, крывы стаў рот,

Не на месцы вочы, здэцца,—
Бабка позіркам смяецца,—
Ды і голас — вох цяжкі! —
Не!.. У Светы не такі!..

Света выбегла
на хату —
Ды да бабкі
вінавата:
— Бабка!..
Любая мая!..
Вер мне, бабка,
Гэта — я!
Я! Я!..

— Ты?! Тады, ану-тка мігам
Падымі з падлогі кнігу,
Цацкам, лялькам месца дай,
Рэчы ладам паскладай!

Ды за венік! — толькі хутка! —
Падмяці пакой чысцютка!..
Падмяла?
Цяпер — бяжы
Татку, мамцы далажы...

Ну, а зараз — нут-ка ў ванну
Ды памыйся мне старанна!
Ды не лі праз верх вады...
А пасля — хутчэй сюды!..
Разбяром з табой пакункі —
Там гасцінчыкі, дарункі...

Света ўсё зрабіла чынна,
Заслужыла:
— Малайчына! —
З'ела бабчын піражок,
Пончык з мёдам і сырок,
Бабку ўсмак абцалавала,
«Дзякуй, любая!» — сказала.
Папрасіла: «Будзь са мной!..»
Што, скажыце,
стала з ёй?..

*1985*

## ШПАЧЫНАЕ НАВАСЕЛЛЕ

Я прачнуўся ўранку, чуць паверыў:
Захапіўшы ў садзе
Ўсе куткі,
З радасцю,
Ажно праменіць пер'е,
Свішчуць
Над шпакоўнямі шпакі.

Свішчуць, спавядаюцца —
Хто дужай,
Хто ў якіх краінах
Пабываў...
А яшчэ чуваць мне:
— Дзякуй, дружа,
Дзякуй,
Што нам хаткі
Збудаваў!..

Я пабачыў
Іхні тлум вясёлы,
Дарагую сэрцу
Сумятню,—
І жадаю шчасця
Навасёлам:
Міру,
Сонца —
Кожнаму іх дню.

— Дарагія, родныя,
Жывіце!
Засяляйце ўсё тут! —
Ім кажу.—
Радуйцеся
Кветкам, і жывіцы,
І святлу,
І хмаркам,
І дажджу!

Весяліце
Кут наш —
Дол і неба,—
Ўсю наўсцяж

Цудоўную зямлю!..
Ну, а я,—
А я вам, калі трэба,
Яшчэ болей
Домікаў зраблю!..

*1985*

## БАРАВІК

Рудагаловы,
З крамянаю ножкай,
Вылез з-пад шыгалля,
Глянуў сцярожка.

Ціха навокал,
Нібы і не ў лесе.
Бліскі між дрэваў
Раскідвае месік.

Можна ўзнімацца
Ўсё вышай ад моху!
Сіл набірацца
Паволі, патроху...

Прагна дыхнуў
Цёмна-дымнаю парай.
Стаў юнаком —
Малайцом круглатварым.

Цёпленька ўмыўся
Парлівай расою.
Аж засвяціўся
Лясною красою.

Можна гукнуць:
«Я ўжо вырас!» —
сасонцы.
Можна паказвацца
Ўрэшце
І сонцу!..

*1986*

## ЧАМУ ДОЎГА ЗЯЗЮЛЬКА КУВАЕ...

Чаму ў леце
Так доўга,
Так доўга,
Так трывожна
Зязюлька кувае?..
Мо таму,
Што дзяцей сваіх
Любых
Па ўсім краі
Нястомна шукае...

Па чужых,
Дзе яечкі вясною падкінула,
Дуплах
І гнёздах,
Па гаях,
Па барах,
Па дуброўных закутачках,
Схованках розных.

А кувае зязюлька
Чым далей —
Тым больш галасна,
Палка і звонка...
Каб запомнілі
Добранька
Дзеці,
Што яны
На зямлі —
Зязюлёнкі.

Ку-ку!
Ку-ку!..—
Калі ж ёй, зязюльцы,
Спачнуць
У зялёных разлогах?..
А тады,
Калі ўсе яе дзеці
Адказаць ёй,
Назваць яе мамкаю
Змогуць...

Загучаць
Галасы
Зязюлёнкаў
Адусюль
Па ўсім сонечным
Краі...
Вось тады,
Супакоіўшы сэрца,
На год цэлы
Зязюлька змаўкае...

*1985*

## ВУЧУСЯ Ў ТАТЫ

Мой тата —
Слынны камбайнёр,
Яго ў нас кожны знае.
У таты — Зорка на грудзях
Агніста,
Ярка
Зззяе.

Умее тата
Ўсё ў жыцці,
І я ім ганаруся.
І я гарнуся да яго,
І з ім я
Жыць вучуся.

Вучуся ў таты —
Рана ўстаць
На працу
Разам з сонцам.
Вучуся
Ўсіх людзей вітаць,
Быць іхнім
Абаронцам.

Як тата мой,
Хачу я быць
Сумленным,

Добрым,
Чыстым.
Як з нівы зернятка —
Любіць
Свет цэлы
Прамяністы.

І будзе ў мяне
Ўсякіх спраў —
Я ведаю —
Багата.
І веру:
Ўсе іх параблю,
Як дарагі мой
Тата!..

*1985*

## БАЙ

— Ехаў Бай па сцяне
У зялёным жупане...
Будзеш спаць, сынок, ці не?..
— Не! — адказвае Алесь.—
Бай, хутчэй са сценкі злезь,
Бая слухаць не хачу,
Я за казкай палячу!..

Бай хутчэй са сценкі злез,
Бай пайшоў у цёмны лес,
Бай знайшоў там ціхі ўскрай
І адтуль спявае: бай...
Бай-бай, засынай,
Бая ў снах успамінай...

Як ні тузаўся Алесь
З Баем дужацца, ды ўвесь
Узмакрэў,— нарэшце сціх
Сярод казак, сярод кніг...

Спіць...

*1986*

## ЧАЙКА

Белая-белая
Чайка побач бегае,
Крычыць, разрываецца...
Што з табою,
Чаіца?..
— Мусіць, хоча есці,
Згаладнела дзесьці,
Кінь вось ёй
скарыначку,—
Маці мне сказала...
Кінуў я скарыначку —
Чайка ціхай стала.
І ў адказ —
пярыначку
На пясок паклала...

Надышлі віхурныя
Сцюжы-снегапады...
Я прыйду са школы,
За стол з кнігай сяду...
Ды згадаю чаіцу,
Адчыняю скрыначку,
Дастаю бялюткую,
Лёгкую пярыначку...
Там, дзе даль далёкая,—
Мая чайка лётае,
Над тым самым морам,
Над валамі тымі,
Дзе так мару —
скора
Паслужыць Радзіме...

Чайка мая, чайка,
Лёгкая, як ветразь,
Беражы, прашу цябе,
Мне прастор абветраны,
Шлях маркі
ахоўвай мне
З хвалямі, з прыбоем,
Дзе заўсёды побач
Будзем мы з табою.

*1986*

## ЖАВАРАНАК ПРЫЛЯЦЕЎ...

Чуйце, чуйце, прыляцеў
Жаваранак, дзеці!
Чуйце — звоніць яго спеў.
А пра што на свеце?..

Бачыў ён цясніны, горы,
Буры-штормы ў сінім моры,
Джунгляў цёмныя абшары,
Дзе вяршыні дрэў пад хмары...
Бачыў дзюн пясчаных соты,
Ды сум стэпаў пад спякотай...
Ды не раз глядзеў у вочы
Сінякрылых бліскавіц...
Ды чуў подых неаднойчы
Чарадзейных таямніц...

Толькі, чуйце, не пра гэта
Жаваранак звоніць.
Не пра гэта
перад светам
Свае спевы роніць.
Ён пра шчасце нам спявае —
Што вярнуўся ў родны край.
Дзе ўсё зноўку ажывае:
Поле, рэчка, луг і гай.
Ён пяе аб ясных далях,
Дзе зайграў вясны струмень.
Пра цяпло-святло праталін
Нам пяе ў вясновы дзень...
Чуйце, чуйце —
як званочак —
Раптам —
нават сярод ночы —
Усіх будзіць:
Досі спаць,
Час вясну-красну страчаць!..

І званочка таго срэбра —
Быццам з промняў ранку ніць...
Здэцца, свет увесь пад небам
Струнна, сонечна звініць...

*1986*

## КРЫЛАТАЯ ДАЛЯЧЫНЬ

Сем рэчак пад чоўнам,
Сем поўных азёр,—
Блакітнае мора,
Блакітны прастор.

Вальнейшае волі
Нідзе не знайсці:
Куды ні захочаш —
Бы птушка, ляці.

Распраўлены ветразь
Вятрыска напне.
І сэрца рванецца
Насустрач вясне.

Аж свішча паветра,
Пяе, нібы сталь.
Прымай нас абдымкамі,
Родная даль!..

Далі нам прастору
І волю бацькі.
Шляхі падарылі
На векі вякі.

Заклікалі лётаць
І хвалі скараць.
Вучыцца плаціны
І моры ствараць.

Трымай жа, мой сябра,
Мацней свой штурвал.
Бач — вецер мацнее,
Зноў высіцца вал.

Крылатая ў вочы
Імкне далячынь.
Узносіцца ветразь
Пад самую сінь...

Сем рэчак пад чоўнам,
Сем поўных азёр,—
Блакітнае мора,
Блакітны прастор.

А колькі іх, сонцаў,
Настрэчу ў вадзе!..
Няма такой волі
На свеце нідзе!..

*1986*

## ЛЕС

Сын-дубок на горку ўзбег,
Стаў ля бацькі-дуба.
Наўкруга
Гамоніць лес.
Слухаць лес,
Бачыць лес —
Сэрцу люба.

Лес, лес,
Што табе
Падарыць у час у весні?
Рэха вынесла адказ:
— Песню!
Толькі песню!..

Мы з сябрамі
Песню склалі,
Песню звонка заспявалі:
— Лес, лес,
Вольны лес
Роднае старонкі!
Будзь заўсёды
Перад намі
Сонечны і гонкі!..

Лес спыніў
Задумны гоман,
Цішай
Нас вітае.
І ўсе бачым:
Ён пад сонцам
Прагна падрастае!..

*1986*

## ЛІВЕНЬ

Бягуць дзеці
Гурмой пад радугу:
— Ой радуга, радуга!
Ты скажы,
    адкуль,
        дзіва-радуга,
Твая колерная дуга?

Ты пакінь, пакінь,
Дзіва-радуга,
Нам на поплаве
Сваю дугу!..
Ды адказвае
З громам радуга:
— Не магу, не магу!

Пада мной
Наўсцяж
Лівень коціцца,
Ён здалёк сюды
Ўпарта ішоў.
Бо даўно-даўно
Нівы родныя
Ссумаваліся
Без дажджоў...

Бягуць дзеці
Па волкім поплаве
Пад радугу,
Радугу.
І аж свецяцца
Сонечнай радасцю
На бягу, на бягу.

І ад радасці іхняй
І радуга
Весялей яшчэ
Громам грыміць.
А ў лугах, у палях, у аселіцах
Пераможна
Ўся зелень шуміць...

*1986*

## ЖЫТА СПЕЕ, ДАСПЯВАЕ...

Жыта спее, даспявае,
З буйным, поўным зернем,
Нават вецер
Важкі колас
Ні ўбок не паверне.

Жыта спее, даспявае,
І чуваць у жыце:
— Вы ж глядзіце —
у час жніўны
Да мяне прыйдзіце!..

— Мы з табою,—
вер нам, жыта,—
Станем дружбакамі:
Толькі дзень жніва пачнецца —
Будзем тут з бацькамі.

За камбайнам
пойдзем крочыць
Кожную хвіліну.
І ніводнаму зярнятку
Не дамо загінуць...

Жыта спее, даспявае,
Дыша спевам-гулам...
Гэта нас яно,
напэўна,
З радасцю пачула...

*1986*

# РАДЗІМА

## Паэма

Даўно Міхась блукаць любіў
Па сцежках
Родных пушчаў, ніў,
Што ў хлапчукоў — у звычаі;
Даўно ён марыў, нават сніў,
Каб татка
ў дар яму купіў
Стрэльбу паляўнічую.

Казаў ён:
— Татачка, таток,
Мне ўжо дванаццаты гадок,
Ужо я ўмею добра сам
Быць —
як ахоўнікам лясам:
Дуб пад святло перасадзіць,
За птушкай кволай пахадзіць,
Пакуль на крылле ўстане;
Крыніцы голас ажывіць
На сонечнай паляне;
Зімою ў хлюпу і пургу
Агонь раскласці сам магу,
Каб абагрэць нясмелую
Казулю згаладнелую;
Глухой імшарынай сырой
Умею
кожнаю парой
Прайсці па хісткіх кладачках...
Не бойся, татачка,—
нідзе
Не апынуся я ў бядзе...
Купі мне стрэльбу,
татачка!..

Якому бацьку не ў ганор
Мець гэтакага сына?..
І родны двор, і ніў прастор,
І лесу свет ялінны,—
Глядзець,
усёй душой
любіць —

Такі
да скону
здолее...
— Што ж,— мовіў бацька,—
так і быць...
Куплю ўжо... Дыхай воляю...

А быў татуля ў Міхася,
Як і радня амаль уся,—
Быў ён ляснік —
лясоў, дуброваў
Надзейны, дбайны вартаўнік.
З маленства
Родны край ахоўваць
І памагаць яму
Прывык.
Усё, чым вабіць
Край надсожны:
Гаі вясёлыя,
Бары,
І лес задумлівы стары,
І малады хмызняк
Абложны;
І дрэўца кожнае,
І краска,
І кожны птах,
І звераня,—
Нібы спрадвечная радня,
Пазналі леснікову ласку.
За ўсю прыроду
Меў турботу ён,
За ўсю з маленства
светлую,—
Заўжды, заўжды
Для сэрца родную
Зямельку запаветную!..
Ці ж дзіва,
Што кранула гэтак
Яго,
Руплiўца слыннага,—
Да краю роднага,
Да свету
Такая
Любасць сынава;

Ці ж дзіва,
Што бацькоўскім словам —
Так шчыра, так аддана
Вітаў ён
Мару Міхасёву,
Калі ўручаў
у дзень маёвы
Яму
Свой дар жаданы...

— Вось табе стрэльба,
сыне любы,
А стрэльба — адмысловая,—
Не прынясе нікому згубы,
Не будзе і суроваю;
Не будзе карнаю ніколі,
А ўсюды
з ёй ты, сыне,
Уславіш роднае прыволле,
Свой Сож —
У сховах сініх
Лясоў, азёраў, даляў мройных;
Свае сцяжынкі ўсюды:
На ўзлесках,
Пажыцях,
На поймах,
Дзе што ні дзень —
то цуды,
То явы светлыя нам дорыць
Жыццё —
без меж, без ліку,
І шчыра з намі так гутарыць
На мове мнагалікай;
Аддзячыць любасцю
Гукае
За вольны свет
Айчыне...
Бяры ж свой дар
І радасць краю
Шануй, прымнажвай, сыне...

Узяў Міхась у рукі стрэльбу;
А стрэльба —
Дзіўная нейк вельмі:

Ані ствала ў ёй, ані мушкі,
Адно — ўсё грані чыстыя,
Ды вока
зыркае, бы ў птушкі,
Празрыстае, святлістае.
Зірнуў Міхась
праз тое вока —
І аж душа зайграла:
Усё, што ўсцяж, навідавоку,
Што блізка, побач
ці далёка,
Усё, усё паўстала
Прад ім:
Унь — сосны над ракою,
Унь — арабіны талакою
Сышліся,
Штось рашаюць згодна,
Купаюць голле ў сонцы...
А вунь блакіт
над даллю воднай:
Бы хтось у ім красёнцы
Там заснаваў —
рукой руплівай
Тчэ ўзор з хмурын над лугам;
А вунь
шырокім кругам
У небе плаваюць ляніва
Буслы;
А вунь казуля,
Каб і сябры нат не пачулі,
Крадзецца ціха між асінак
Да расцяробных азярынак...
Міхась
Напэўна знае —
дзе там
Яе што прывабляе:
Часнок салодзенькі
між кветак,
Макрыца лугавая;
Вадзіца колкая
з крынічкі
Пад ценем арабіны...
А вунь —
сінічкі-невялічкі,

Як неразлучныя сястрычкі,
Ля звонкай азярыны
Танцуюць дружна на пясочку
Свой весні танец стрункі...

Лясы надсожныя, лясочкі,
Лугі мурожныя, лужочкі,
Малюнкі ўсё, малюнкі...

Куды ні глянь —
Зямлі краса,
У згодных, чуйных галасах,
Наўсцяж шчыруе,
                любая,—
І кліча сэрца Міхася —
Як мара гучнатрубная.
Куды ні кінь
Цікаўны зрок —
Усюды радасці куток,
Аб новых дзівах згадка...
І зззяе шчасцем Міхасёк
І кажа:
        — Дзякуй, татка!..

Хоць не такую —
                ўсю зіму —
У снах ён стрэльбу бачыў...
Даўно ўяўлялася яму
Усё зусім інакш:
У нетрах восеньскіх аблог
Чуў ён,
Як гучна трубіць рог —
Склікае паляўнічых:
«Ту-ту! Хутчэй!
Хутчэй сюды!
Вось тут, дзе дол крынічыць,
Са знакамі чыёйсь бяды
Пакінуў воўк свае сляды,
Бярыце ж стрэльбы, людзі,
Нясіце смерць прыблудзе!..»
І ён, Міхась,—
                там, сярод іх,
Вясёлых, смелых і мажных,
Што выйшлі на аблаву;

Са стрэльбай новаю —
і ён
Святую робіць справу:
Нясе драпежнікам
заслон;
А ўсё,
Што тут жыве здавён,—
Ахоўвае
Ад згубы,
Каб рад быў
край наш любы...
Хоць
Гэтакі
Праз доўгі час
Малюнак бачыў ён не раз;
Хоць чуў душой:
І потым
Згадае мару...
Стрэлаў гром,
Як гук маланак
з неба стром,
Праз сэрца пройдзе —
Ўскалыхне
Усё,
Што сніў употай...
Ды шчыра
Ён у рукі ўзяў
Дар таткаў,—
Не, не шкадаваў,
Што мо адзін у старане
Мець будзе
стрэльбу-ФОТА...
Ужо ўяўляў ён,
Як ад ранку
Да вечаровай цішыні
На ўсіх сваіх
лясных дзялянках
У дні вандровак,
Лета дні,
Ён з фотастрэльбаю
бязгучнай
Заўсёды будзе неразлучны;
З жыццём дуброў,
Лугоў, залужжаў,

Рачулак, сцішаных сцяжын
Быў і дасюль ён сэрцам здружаны,
Бясконца раз
па іх кружыў;
Але цяпер!..
З якою ўцехай
Ён пойдзе ў далі таямніц,
У шлях,
Дзе мройна звоніць рэха
Над гулкай радугай крыніц,
Дзе прамяні
Ў мядзяных соснах,
Нібы жывыя дзеці дня,
Бягуць, вядуць
у свет дзівосны,
Дзе шэпча казкі цішыня;
Дзе кожны кут
Загадкі тоіць
І сэрцу соладка пяе
Пра штось такое дарагое,
Што поплеч з сонцам паўстае...
А шыр палёў!..
Бязмежжаў звонкіх
Палеткаў роднае старонкі!..
Дзе ад прадвесня
да зазімкаў,
Каб урадзіў зямелькі плён,
Шчыруе люд...
Якія здымкі
Пра час працоўны
Зробіць ён!..
Мо і не скрозь яшчэ
Спачатку
Дружыць удача будзе з ім,
Ды сэрца ўсё —
свайму занятку
Аддасць Міхась;
каб і другім
Карысным быць
жыццём сваім...—
Так думаў,
Стоячы прад таткам,
Міхась
З дарункам дарагім...

А ўжо была пара канікул,
Бясконца светлая пара.
Ужо дзятву
Нястрымна клікаў
Кліч сонца,
сцежак,
траў з двара...
Куды іх толькі не цягнула,
Сяброў цікаўных Міхася!
Зямля —
З яе лагодай чулай,
З яе дажджамі, громам, гулам,
Уся ў красе,
У росце ўся;
Уся ў жытах запалавелых,
У росах
З водбліскамі зор,
У харастве рамонкаў белых,
У стромых соснах на падбор;
Зямля,
Адкрытая для сэрцаў,
Што поўны радасці заўжды
Перад святлом з яе азерцаў,
Перад цвіценнем маладым,—
Зямля
Гукала іх, шчаслівых
Сяброў, вандроўцаў, непасед,
У свой праменны, зіхатлівы
З прыгодай,
З казкай,
Вабным дзівам
І працай,
дружнай, рупатлівай,—
Нястрымна
Ў свой
Гукала
Свет!..
І колькі выхадзіў за лета
Міхась
Дарожак і дарог
З сябрамі школьнымі,—
Пра гэта
Ён спамінаць
Бясконца б мог!

Дзе падымаў,
падсушваў жыта
Пасля залеваў і грымот;
Дзе ў кут
лясовы, неабжыты
Вадзіў
Экскурсію
Ў паход;
Дзе сустракаў,
Вітаў
Дажынкі —
Кружыў
Апошнія кругі
З камбайнам...
Дзе ў лугах
Сцяжынкі
Таптаў,
Стагуючы стагі...
А тыя сонечныя ранкі,
А тыя ўцехі вечароў
Ля звонкіх рэчак,
На палянках,
У коле песенным сяброў!
А дні турбот,
А дні клапот
На вырубах хваёвых,
Дзе з таткам,
Як і кожны год,
Аблашчвалі абновы
Зямлі,—
Жаданых сеянцаў узлёт,
Каб вырас
лес тут новы!..—
Усё, усё знайшло адбітак
На шчырых здымках Міхася,—
Нібы жывое ўсё,
Нібыта
Прайшла зямля
Праз сэрца ўся!..
І колькі ж радасці сардэчнай
Было ў дзяўчынак, хлапчукоў,
Калі дзе-небудзь
Па-над рэчкай,
Ці на ільнішчы,

Ля снапкоў,
Ці сярод бору
Ў светлых соснах,
Ці там, дзе ўсцяж
цячэ на ток
Рака зярнят;
Ці ў тых дзівосных
Кутках,
Дзе б'е крыніц выток;
Ці ў сонцы польным, рупатлівым,
Дзе прамянёў
аж звоніць вязь,—
Здымаў,
Няўрымслівых, шумлівых,
На фотастужку іх
Міхась...
І колькі палкага чакання
Было ў сяброў:
Калі ж настане
Той дзень,
Які званком вясёлым
Пакліча іх ізноў у клас!
І ўся даведаецца
Школа:
Вось дзе вадзіў іх
Летні час!
Вось як яны
Свой край любілі,
Бы скарб найлепшы,
Бераглі!..
І прад усімі
Пройдуць хвілі
Спатканняў
З працай на зямлі;
Спатканняў з песняй
Несціханай,
Што чулі
Ў радасцях людскіх...

І ўрэшце
Ён прыйшоў,
Жаданы
І слаўны верасень,
Да іх...

Настаў аднойчы
Звонкі вечар:
Сабраў дзятву
Ўрачысты збор.
На ўскраі бору
Ў гонар стрэчы
Ўзвіваўся весела
Касцёр.
Пасля
Пад спеў аб краі любым
Скіроўваў крок
Дзіцячы люд
Ў калгасны клуб.
Бо зналі:
Ў клубе
Чакаў усіх
Дзівосны цуд!..
А там
Паўстала прад вачыма
Усё,
Што ў сэрцах адбыло,—
Пад светлай назваю
— Радзіма —
У здымках
Лета іх жыло.
Гарэлі
Ў яркіх лямпах сцены
І скрозь —
З пакоя ды ў пакой —
Свяціўся ў здымках
Цуд натхненны,
Ўлюбёнай
Зроблены рукой...
— Глядзіце! —
Чуўся вокліч бурны.—
Вось наша школа!
— Вось наш сад!
— А вось наш Сож,
як бы зажураны...
— А гляньце,
Наш ідзе атрад!

— А от сюды,
Сябры, зірніце! —

То ж я
На трактары сяджу!..
— А вунь жаўронак
Ў спелым жыце
Шукае сховы
Ад дажджу!..

Ішлі, глядзелі,
З захапленнем
Успаміналі
Лета дні.
І нат у хвілі
Задумення
Тут не ставала
Цішыні.

Ды раптам —
Быццам хтось маланкай
Раскроіў
Плыннасць пачуцця...
Устаў хмызняк...
Гармата танка
Глядзела
Сумна
Ад трысця.

А побач —
Над магілай блізкай,—
Нібы яе ахоўваў сон,—
Слупок задумны
Абеліска
Стаяў
Пад засенню
Сасон.

Па-над слупком
Лунала
Зорка,—
Нібы крыляла
Па-над ім...

І сціхлі ўсе...
Нясцерпна, горка
Дыхнуў
Вайны грымотны дым...

І ўспомнілі
Дзядоў расказы —
Герояў
Грознай барацьбы.
І ў сэрцы
Ўдарыла адразу
Шырокай
Хваляю журбы...

Але нядоўга
Сум жалобы
У юных сэрцах
Крэсліў след.
Бо крыкнуў нехта:
— Гляньце побач! —
І запраменіў
Зноў ім
Свет.

Ды так заззяў,
Так засвяціўся,
Што дых
Ад шчасця заняло!..
Вось раўчучок
Між соснаў віўся...
Вось Сож
Кідаў на луг
Святло...

А вось заранка,
Птаха ранку,
Карміла
З дзюбы
Птушанят...
А вось сям'ю дзікоў
Палянкай
Вядзе сякач,
Бы на парад...

А вунь пчала
З пылком салодкім
Шчыруе ў кветцы...

Матылі
Снуюць над сітнікам
Чародкай...

Грак
Важна ходзіць
Па раллі...

Працар-мураш
Дахаты едзе,—
Сцяжынку значыць
Праз мурог...

Як ён, Міхась,
Усё падгледзеў!..
Зямлі
Сакрэты
Вызнаць змог!..

Чым больш ішлі
Ад залы ў залу,
Тым багацей
І яскравей,
Тым даражэйшай
Паўставала
Зямля іх мараў і надзей...

Ішлі —
І кожны
Ў думках бачыў
Свой край —
Прасторы,
Берагі,
Шляхі,
Што радасцю пазначыў
Ім час маленства дарагі.

Дзе ўцехі, любасць,
Песні, квецень,
У Сонцы —
Вёскі, гарады...
Зямля,
Шчаслівейшая на свеце,
Радзіма,
Любая заўжды!..



Даўно Міхась блукаць любіў
Па сцежках
Родных пушчаў, ніў,
Што ў хлапчукоў у звычаі...
Даўно ён марыў,
Нават сніў,
Каб татка ў дар яму купіў
Стрэльбу паляўнічую...

Гукалі хлопчыка не раз
Грымлівым рэхам у барах —
Засад, аблаваў водгуллі.
І неаднойчы
Сніўся сон,
Што стаў і самым трапным ён,
І самым стаў харобрым ён...

Ды толькі потым,—
Як займеў
Ад таткі дар зычлівы,—
Адчуў сябе
Шчаслівым...

Усёй душою зразумеў,
Што на зямлі
Без стрэльбаў жыць,
Жыццё з пяшчотнасцю любіць,
Нікому свет не засціць,—
Найлепейшае
Шчасце!..

Нямала ў клубе пабывала
У Міхася сяброў, гасцей...
І без канца — падзяку, ухвалу
Ён чуў, шчаслівы, ад людзей...
Але ўсё ж
Самай найбагатай
Хвілінай радасці была,
Калі з'явіўся ў клубе
Тата...
За ім і маці падышла...
Нібы прымаючы экзамен
На любасць сына

Да зямлі,
Якую так любілі самі,—
Яны з задумаю
прайшлі
Па клубных залах...
Кожны здымак
Душой пакраталі нібы...
Як бы хацелі знаць:
Радзіму
Іх сын
Ці шчыра палюбіў?..
Ці так шануе,—
Як вучылі
Яго з калыскі,—
Край бацькоў?..
Што бачыць нàперш
Прад вачыма?..
Ці ўмее
Выбраць дружбакоў?..
Ці зразумеў,
Што найдарожай
Няма нічога
на зямлі,
Чым справы,
Што пяшчоту множаць,
Каб сэрцы
Шчаснымі былі?..
Ішлі,
І не маглі стрымацца —
Не хваляваць
Сваіх надзей...
І падышла да сына маці
І прыхінула да грудзей...

— Любі, сынок,— сказала гучна,—
Заўсёды гэтак родны край...
Хай любасць
Будзе неразлучнай
З табою,—
Ў сэрцы захавай...
— Любіце, родныя, любіце,—
Лагодна мовіла да ўсіх,—
І васілёк ціхмяны ў жыце,
І росы ў травах лугавых.

Любіце ніў багацце, квецень,
Нябёсаў зорную ірдзень...
А больш, мацней за ўсё на свеце
Любіць
Вучыцеся людзей...
З людзьмі
Вам будзе спраў багата,
З людзьмі
І ўцеха ваша ўся...

Тут падышоў,
Стаў побач тата...

— Сынок...—
Сказаў да Міхася...—
Няхай і нас
Твой здымак прыме...
І мы
Хай будзем між другіх,
Як дзеці
Мацеры-Радзімы...

І непаўторным гэты міг
Стаў Міхасю...

Мо лепшы самы
Зрабіў у дзень той
Здымак ён...
Быў там —
І яркі стэнд відзён,
І гурт сяброў там быў таксама,
А буйным планам —
Тата з мамай
Глядзелі ў цёплым пачуцці...
Два чалавекі,
Два жыцці...
Радней якіх —
Няма нікога...
Святлей якіх —
Нідзе няма...
У іх, Міхась,
Твая дарога.
Радзіма ў іх
Жыве сама...

*1986*

# АПАВЯДАННІ

## У МАЛАДЫМ ЛЕСЕ

Чэрвеньскім адвячоркам, калі шапатлівыя суцемкі пасунуліся ад хмызнякоў на пясчаныя плёсы, з цёмнай Грабскай пушчы ў маладым лес над Сажом пераплылі лось і ласіха. На жаўтапёсе лазовага берага яны спыніліся, з асцярогай агледзеліся. Лось чуйна ўскінуў галаву і доўга да нечага прыслухоўваўся, засланяючы сабою ласіху з таго боку, адкуль яны прыплылі. Спакой над ракою быў, аднак, самы жывы, сапраўдны; ласі не адчулі навокал ніякай небяспекі. Лось, нібы адганяючы дакуку, матнуў галавою, лагодна дакрануўся кончыкам рога да вуха ласіхі. І, так пастаяўшы і быццам параіўшыся адно з адным, ласі рушылі паціху да пашарэлых альшанікаў Сямёнаўскага рова.

Усё гэта бачыў ляснік Грыша Завадка. Натрапіўшы на ласіную пераправу, ён, стаіўшы дыханне, стаяў пад ляшчынаю на строме і назіраў радасна, як у яго любімы лес перасяляецца гэтая прыгожая сям'я.

Грыша Завадка гэты лес, калі можна так сказаць, атрымаў у спадчыну ад свайго бацькі, які быў тут лесніком да вайны. Праўда, пасля бацькі леснікаваў яшчэ Лабоцька, але ён лічыў сябе толькі паслядоўнікам Антося Завадкі. Бо Грышаў бацька не толькі вартаваў стары бор, а засадзіў новы лес — на шырозных прасторах палыннага пяску, што цягнуліся ўздоўж Сажа на многія вёрсты. То было за сем вёснаў да вайны, калі Грышу ішоў толькі трэці гадок.

Старому бору ў вайну не пашанцавала. Тут, на беразе Сажа, немцы рабілі абарону і амаль увесь барок высеклі на зямлянкі і бліндажы. А малады лес, хоць і яго не абмінула кара вайны, усё ж астаўся і закрасаваў. Цяпер яму было за чвэрць веку, ён вырас гонкі і пявучы, у ім з'явіліся глухія, патаемныя куткі.

Праз дзесяць гадоў па вайне, перад сваёй смерцю, стары Лабоцька напісаў у лясніцтва пісьмо, у якім прасіў толькі аб адным: каб лесніком пасля яго назначылі Рыгора Завадку. Бо ўсе ведаюць, пісаў Лабоцька, што Грышаў бацька быў сапраўдны гаспадар, можна сказаць, абараняючы лес і загінуў. Дык каму ж, як не сыну, даглядаць тое, што пакінуў у спадчыну бацька?

Грышаў бацька, маці і дзве сястры загінулі ад рук нямецкіх карнікаў. Яны не проста загінулі, а іх спалілі жывымі ў роднай хаце.

Вёска іхняя, з прыгожаю назваю Мальва, мясцілася на шырокім схіле Сямёнаўскага рова — адным канцом выбягала да Сажа, а другім заглядала ў стары бор. З цёмнай Грабскай пушчы, дзе атабарыліся партызаны, сюды часта прыязджалі землякі па хлеб і адзежу, прыносячы з сабою ваяцкія весткі і смелыя парады. У Мальве ўсе лічылі сябе партызанскімі памочнікамі. Фашысты даўно пагражалі Мальве. Праўда, пагражаючы, яны доўга не асмельваліся тут з'явіцца. Аднак нарэшце яны ўсё ж прыйшлі. Грыша добра памятае тую жахлівую раніцу. Карнікі абкружылі вёску нечакана. Ніхто не паспеў уцячы. Людзей пазаганялі ў хаты, пазабівалі дзверы і вокны, аблілі сцены газай. І падпалілі... Ніхто не выратаваўся з таго крывавага агню. Бо калі хто і вырываўся якім чынам на вуліцу, дык яго тут жа кідалі ў вялізны вірлівы агонь... Грышава душа пастарэла ў тую раніцу на многа год. Ён адзін астаўся жывы. У тую раніцу Грыша з вудаю выправіўся да свайго шчаслівага плёсу — два дні ён прынаджваў там ляшчоў. Страляніна ў вёсцы дагнала Грышу яшчэ ў дарозе. Халадзеючы ад трывогі, ён пабег назад. Затаіўся ў дупле старога дуба на ўзваллі Сямёнаўскага рова — адтуль і бачыў усё, што сталася з яго вёскай. Як нежывы, праляжаў Грыша ў сваёй схове ўвесь дзень. Яго трымаў тут не страх, а зваліў страшэнна цяжкі, не па Грышавых гадах, смутак. У адну раніцу мінула яго маленства і юнацтва.

Ноччу Грыша выйшаў са свае сховы абыякавы да ўсяго на свеце. Яму было ўсё роўна — заб'юць яго фашысты ці не. Ледзь пазнаў ён тое месца, дзе была іхняя хата. Папялішча яшчэ дымілася. Час ад часу на папялішчы чуўся лёгкі трэск, і з-пад попелу вырываліся дробныя іскры. Грыша знясілена прыхінуўся да абгарэлага клёна, глытаючы рыданне, асунуўся на знявечаны падворак.

На гэтым крывавым папялішчы Грышу знайшлі мальвінскія мсціўцы. Ноччу яны прыйшлі сюды з надзеяй

хоць каго-небудзь застаць, уратаваць. Але перад імі курылася глухая магіла. Нікога жывога не знайшлі партызаны. Аднаго Грышу...

Да канца вайны Грыша жыў з землякамі на партызанскай базе. Тут яго і ўсынавіў дзядзька Лабоцька, бацькаў прыяцель з суседняй вёскі Пароньki.

Ляснік Лабоцька быў зачараваны прыродай чалавек. Ён усё любіў — усё, што хоць як-небудзь упрыгожвае спакутаваную зямлю. Пасля вайны ён узяў пад сваю ахову і малады лес, пасаджаны Грышавым бацькам. Грыша ніколі не бачыў, каб хто-небудзь так любіў лес — ну, хаця б тую зялёную стрэлку, што за адну вясну выганяе ўдалую сасонку над яе сёстрамі. Ад Лабоцькі Грыша ўзяў навуку глядзець на лес як на самае чыстае месца на зямлі. Лес павінен быць такі, каб усё благое ў ім забывалася, каб любой жывой істоце было лёгка і светла... З такім запаветам Грыша і стаў леснікам...

Месца, дзе стаяла вёска Мальва, пасля страшнага пажару запусцела, зарасло сасоннікам і дубняком. Ніхто не пасяліўся там. Па рашэнню сельсавета ў дзень Перамогі на мальвінскім папялішчы паставілі помнік. На самым высокім грывішчы Сямёнаўскага рова каля магутнага каменя-валуна ўкапалі дубовы абеліск з чырвонаю зоркаю. І на камені высеклі словы трагічнага лёсу вёскі... Звычайна адсюль Грыша пачынаў абход сваіх зялёных уладанняў. Адсюль чэрвеньскім адвячоркам і ўбачыў ён, як пераплылі ў яго лес лось і ласіха...

Са свае высокай стромы Грыша доўга сачыў за ласямі. Па Сямёнаўскім рове яны дайшлі да так званай Гліняцкай канавы і нырнулі ў яе зацененае крынічча. Там, далей, куды падаваліся ласі, было Навіньскае балота. У апошнія гады яно амаль высахла. Але між купкамі хмызнякоў яшчэ шмат асталося глыбокіх вокнаў-балачын, якія блішчалі чорнай вадою пад зелянінай мячэўніку і кугі. Па краях балота пульсавалі крынічкі. Як жылкі зямлі, яны выбіваліся то тут, то там з-пад карэнняў якога-небудзь дрэва. І нідзе болей не было такіх бязладна-нагушчаных зараснікаў асінніку і альшэўніку, часам перапле-ценага ўчэпістымі ажынамі і маліннікам. Паміж парэпанымі балонкамі зелянелі палянкі свежай асакі, а дзе-нідзе нават і мурагамі магло пачаставаць Навіньскае балота. «Ідзіце туды, ласі! — думаў Грыша.— Ідзіце смела, вы ўсё знойдзеце сабе ў маім маладым лесе!»

Наставала ноч. Пара было дамоў. Але Грыша яшчэ

доўга стаяў на сваёй строме. Толькі калі зусім счарнела, ён нехаця пасунуўся на ціхія Пароньki..

Як і спадзяваўся Грыша, ласі не пайшлі нікуды далей з яго лесу. Назаўтра Грыша знайшоў іх у самым глухім закутку Навіньскага балота, дзе гушчэча самасеенага асінніку зліваецца з балотным бярэзнікам. Лось, як і ўчора на пераправе, стаяў, стройны і насцярожаны. А што з ласіхай? Яна ляжала ў такой паставе, быццам апусцілася ў цяжкой знямозе. Час ад часу як бы парывалася ўзняцца на пярэднія ногі і не магла. «Што з ёю?» — падумаў Грыша. Можа, ласі таму і перабраліся з нелюдзімай Грабшчыны, што ласіха занядужала? Як памагчы ім?

Ступаючы так асцярожна, як умее гэта рабіць толькі ляснік у сваім лесе, Грыша наблізіўся да ласёў. І хутка ён убачыў тое, што адразу зрабіла яго самым шчаслівым на свеце. Ласіха ляжала на зямлі не адна. Да яе хінулася маленькае ласянятка! Дык вось чаму ласі перабраліся ў малады Грышаў лес! Ласіха тут радзіла. Значыць, яны выбралі яго лес як самы спакойны і самы бяспечны! Бо іначай яны пайшлі б далей. Грыша заходзіўся ад шчасця. Ён зняў з пляча стрэльбу і з ласкай на яе паглядзеў. Цяпер ён ведаў, навошта ў яго стрэльба. Гэтая стрэльба павінна ахоўваць тых, што выбралі яго лес.

Нечаканы клопат соладка ўстрывожыў Грышаву душу. Не толькі днямі, але часам і кароткай летняй ноччу Грыша знаходзіў сабе які-небудзь занятак у лесе — абы не пакідаць ласёў без нагляду. Грыша, ідучы сюды праверыць ласёў, ужо загадзя ведаў, што ён убачыць: лось высіцца ў зялёнай засені, чуйна ўскінуўшы гордую галаву; ласіха заклапочана тупае між асінак, як бы ўспомніла, што нечага недарабіла; і ласянятка, чуючы матуліну ласку, ляжыць у траве, палажыўшы пысачку на доўгія ножкі, і ўзіраецца ў сонечны свет... Гэты малюнак ляснога жыцця так уразіў Грышу, што іначай ён ужо і не ўяўляў сабе свайго лесу.

Але на сёмым ці на восьмым ранку Грыша не ўбачыў ласёў на старым прыпынку. Пэўна, штосьці напалохала ласіную сям'ю: самахоць наўрад ці пайшлі б яны адсюль... Грыша крадком абышоў пакінутую стаянку і, дзе-ніндзе разбіраючы сляды, падаўся за ласямі ўслед. Сляды вялі па краі Навіньскага балота, то прасякаючы гушчыню ўзбуялай зеляніны, то вырываючыся на шыгалле светлых лясных радоў. Па ўсім было відаць, што ласі ўцякалі.

Але ад каго, ад чаго?..

На самым краі аднаго з балотных зараснікаў, у глыбіні сасновай дзялянкі, Грыша спыніўся як укапаны. Якраз на лініі яго дарогі нешта цёмнае мільганула між дрэў. Ляснік па старой звычцы прынік да ствала хваіны, паціху зняў з пляча стрэльбу. У першы момант Грышу здалося, што ўперадзе бяжыць звер,— так хутка і бясшумна перамяшчалася нізкая істота, як бы слалася па зямлі, мабыць, прынюхвалася да слядоў. Але праз нейкі міг тое цёмнае вырвалася з засені на кароткі лясны прамень, і Грыша ўбачыў, што гэта — чалавек. Адкуль ён і як тут з'явіўся? Што чалавек ідзе па ласіных слядах — гэта было Грышу ясней яснага. Але адкуль ён узяўся ў маладым лесе, як высачыў ласёў? Грыша адарваўся ад свайго дрэва і кінуўся наперарэз таму чалавеку. Навіньскае балота скончылася. Густым рабінавым крылом урэзалася ў яго старое курганне. І тут незнаёмы як пад зямлю прапаў з Грышавых вачэй. Ляснік спыніўся, замёр, услухаўся. Ні шолаху, ні гуку. Або чалавек заўважыў пагоню і затаіўся, цікуе за Грышам, або здолеў ад яго адарвацца... Раптам у насцярожанай цішыні лесу ляснік пачуў, як шчоўкнуў узведзены курок паляўнічай стрэльбы. І зусім блізка! Грыша, нібы лясная кошка, скочыў на гук. Паміж двух курганоў у засені разгалістага дубка стаяў, згарбаціўшыся, каржакаваты чалавек і цэліўся... Цэліўся ў ласёў!..

— Што ты робіш! — гнеўна і спалохана крыкнуў ляснік, і разам з яго крыкам грымнулі дуплетам два аглушальныя стрэлы. Там, дзе стаялі ласі, пачуўся цяжкі трэск ламачча і бязладны тупат ног.

— Што ты робіш, бандзюка! — яшчэ раз на бягу закрычаў ляснік.

— Не падыходзь! Га!..— пачуў Грыша халоднаскрыпучую пагрозу сабе ў адказ. Браканьер спяшаўся разламаць стрэльбу, каб перазарадзіць яе. Стрэльба чамусьці не слухалася. Тады чалавек кінуў стрэльбу ўбок і выхапіў з-за пояса паляўнічы нож-фінку.

— Не падыходзь!..— Пагрозна наставіўшы фінку, ён ступіў насустрач лесніку.

Але гэта толькі паскорыла развязку. Моцны Грышаў удар кінуў чалавека на пясок. Фінка яго адляцела далёка ў траву. Грузным мяшком бандыт з'ехаў пад абгарэлы пянёк, адну руку падкурчыўшы пад сябе, а другой хапаючыся за прыламаныя галінкі.

Грыша ўбачыў распластанага перад сабой недарэку, і яго злосць гэтак жа хутка сціхла, як і прыйшла. Ужо

зусім спакойна ён агледзеў свой правы бок, куды ўсё-такі дамахнуўся браканьер. Сарочка, як брытвай, была распората амаль да нізу. Яго самога, можна лічыць, не кранула — толькі, як вішнёвыя вочкі, выступілі на скуры дзве зыркія крывінкі. Грыша прыгладзіў сарочку: «Нічога, не так страшна!» — і падабраў браканьераву стрэльбу і нож. Стрэльбу ён павесіў сабе за плячо і падышоў да аглушанага прышэльца. Твар гэтага чалавека быў Грышу незнаёмы. Значыць, браканьер дапяў сюды здалёку. Як жа ён ведаў пра ласёў у Грышавым лесе? Грыша стаяў, думаў. Раптам ён усё зразумеў. Гэты чалавек — адтуль, з-за Сажа. Ён не даваў жыць ласям у Грабскай пушчы! І, безумоўна, ён прыйшоў сюды за імі па іх слядах. Значыць, гэты чалавек шкодны і небяспечны. Трэба назаўсёды адвадзіць яго ад чорнай справы.

Скрыпучы стогн спыніў Грышава задуменне.

— Уставай! — загадаў ляснік браканьеру, як толькі той расплюшчыў вочы.

Браканьер утуліў галаву ў плечы і, падхапіўшыся на калені, аберуч учапіўся за пянёк.

— Чаго ты сукаешся, га?! — залямантаваў ён прарэзліва.— Табе мала лесу, га?..

— Падымайся! Ідзі! — спакойна, але з пагрозай паўтарыў ляснік.

— Нікуды я не пайду! Нікуды не пайду!..

Грыша перасіліў сваю агіду, адарваў пачвару ад пня і, прыўзнімаючы за каўнер, лёгка павёў. Ляснік кіраваўся туды, дзе стаялі ласі, калі ўдарылі злачынныя стрэлы. Яму не цярпелася даведацца, што стала з ласямі.

На яго радасць, на месцы тым нічога не было відаць. Асталося толькі як бы цёплае яшчэ ласінае дыханне.

А магчыма, ласі паранены? Ну, што ж, Грыша потым вернецца сюды і ўсё па слядах пабачыць. А зараз яму трэба нешта зрабіць з бандытам. Што з ім рабіць? Ці ёсць у ім яшчэ хоць трохі чалавечай душы? Да браканьера як быццам дайшлі лесніковы думкі, ён перастаў лаяцца і па-дзелавому спытаў:

— Стой, га?.. Сам пайду, га?.. Пусці...

Ляснік адпусціў яго. Прыблуда паправіў на сабе адзежу.

— Куды ісці, га?..

— Сюды!..

Нечакана для сябе Грыша прыняў важнае рашэнне, што і як зрабіць з гэтым чалавекам. Вёў яго да Сямёнаў-

скага рова, туды, дзе пад зялёнай аховай ляжала магіла дарагіх яму людзей. Браканьер ішоў не азіраючыся і не спрабуючы ўцякаць — відаць, разумеў, што ад такога асілка не ўцячэш. Ён толькі адзін раз спыніўся і, гледзячы ў зямлю, млява спытаў:

— А можа, адпусціш, га? Я табе заплачу, га?..— Але не пачуў адказу і зноў пайшоў, і больш не спыняўся.

Ляснік вывеў браканьера да чырвонага абеліска на грабяні Сямёнаўскага рова, паставіў да каменя-валуна.

— Чытай!..— сказаў ён яму, паказваючы рулямі стрэльбы на выбітыя на камені словы.

— Што чытаць?.. Га?..

— Што напісана, чытай!..

Браканьер палахліва замармытаў жахлівыя словы, быццам прадчуваў, што яны нясуць яму нейкі страшны прысуд.

— Як ты чытаеш!.. Чытай, каб і я чуў!.. Чытай, я табе кажу!..

Запінаючыся траха не на кожным слове, але на высокай ноце, прышэлец пачаў чытаць з самага пачатку.

— Тут... дзе цяпер ляжаць папялішчы... была вёска Мальва... Летам 1943 года нямецкія бандыты-карнікі... абкружылі вёску Мальву... спалілі яе нашчэнт... а жыхароў 143 чалавекі... пазабівалі і спалілі... жывымі ў хатах... Толькі сем чалавек... шэсць партызан... і адзін хлопчык... выратаваліся ад смерці... Вечная памяць і слава... пакутнікам і змагарам роднай нашай зямлі...

Браканьер скончыў чытаць і стаяў, унурыўшы галаву.

Хвіліну між людзьмі панавала цішыня. Раптам над вухам браканьера загучаў суровы голас Грышы Завадкі.

— А ты ведаеш, хто я такі? — загаварыў ляснік.— Ведаеш — хто? Я той хлопчык!.. Адзін з тых сямі... што асталіся ад гэтай вёскі!.. А што я бачыў сваімі вачамі — ведаеш?! Я бачыў, як фашысты стралялі ў матак! Забівалі на вачах у дзяцей... А дзетак — забівалі на руках у матуль. Спакойна цэліліся і забівалі... каты... як ты цэліўся і, можа, забіў ласянятка...

— Я не забіў! Я добра бачыў, што не забіў! — замалаціў сабе ў грудзі браканьер.— Далібог, не забіў!.. Га... Ты закрычаў, і я не забіў! Адпусці, га?!.

Але Грыша не слухаў яго, а спакойна загадаў:

— Кланяйся, цалуй зямлю!

— Ты звар'яцеў, га? Што ты хочаш, га?! Я не буду цалаваць зямлю! — Чалавек, быццам збіраючыся біцца,

павярнуўся да лесніка, выстаўляючы рукі. І тут ён убачыў вочы лесніка. І нешта ён угледзеў у іх такое, што зараз жа кінула яго на зямлю. Ён упаў грудзьмі на адпачыўшы пасля ўсіх ліхалеццяў дол і, рассоўваючы губамі вогненныя смолкі, таропка, нібы ўгрызнуў, пацалаваў яго.

— Яшчэ цалуй... Тры разы цалуй! — сказаў яму Грыша, а сам шырока ступіў да валуна і разбіў аб яго браканьераву стрэльбу.

— Што ты робіш!.. Ты вар'ят, га?! — ускочыў з крыкам чалавек.— Нашто ты паламаў стрэльбу, га?!. Ты не маеш права!..

— Права, ты кажаш?! — Ляснік павярнуўся да бандыта.— А хто табе даў права, скажы?!. Хто даў права катаваць зямлю... што паліта крывёю маіх бацькоў?!. А?!. Хто даў права?!. Няма ў цябе такога права, кат!..— Ляснік падышоў да браканьера, і той адразу панік, панікжэў.— Ідзі адсюль і ніколі са зброяй не пападайся мне на вочы!.. Не пападайся, бо заб'ю цябе, як шалёнага сабаку!..— Грыша Завадка яшчэ раз ударыў ствaламі былой стрэльбы аб камень і далёка кінуў іх у Сямёнаўскі роў.

Злачынец з усяе сілы кінуўся наўцёкі, скаціўся па ўзваллі ўніз і, пасылаючы праклёны, знік у прыбярэжным хмызняку.

Грыша Завадка не чуў, што там крычаў той чалавек. Як у забыцці, ён стаяў заклапочаны перад каменем-валуном і сумна ўзіраўся ў выбітыя на ім словы, нібы чытаў іх упершыню ці як бы сіліўся нешта важнае ўспомніць. Раптам ён крута павярнуўся і рынуўся пад Навіньскае балота. Хутка ён быў ля кургання, там, дзе стаялі ласі, калі ў іх стрэліў бандыт. Асцярожна, шукаючы рэдкія знакі слядоў, ляснік рушыў адсюль па знаёмых яму лясных мясцінах, шукаючы ласіную сям'ю.

Сляды ласёў, пужлівыя і трывожныя, скіравалі Грышу да Сажа. Вось і апошні астравок залацістага сасонніку перад затоенай гушчэчай дубнякоў і арэшніку, за якімі хаваецца паласа пясчанага абрывістага берага. Няўжо ласі пераплылі назад, пакінулі маладзы лес? Ціха рассоўваючы галінкі, Грыша выйшаў да той самай ляшчыны на строме, адкуль зусім яшчэ нядаўна наглядаў за шчаслівай пераправай ласёў. І тут зусім недалёка ад сябе Грыша ўбачыў лася і ласіху. Яны стаялі над самым абрывам, каля пясчанага спуску да вады, глядзелі за Сож, на сіняе

крыло Грабскай пушчы, і, здавалася, пра нешта цяжка думалі.

Грышава сэрца замерла ад вялікай трывогі. Без яго віны лес ягоны зараз можа асірацець, а значыць, яшчэ адзін раз жалобна асірацее і яго сэрца. Каб ласі маглі зразумець! Ён бы не стрымаўся, ён бы крыкнуў ім: «Вярніцеся! Ніхто вас тут болей не кране. Вярніцеся! Вазьміце сабе навек сцежкі майго лесу!..»

Так прайшло некалькі бясконца доўгіх хвілін. Ласі, як прыкаваныя, стаялі, а Грыша, хвалюючыся, не спускаў з іх вачэй.

Нарэшце ласіха, лізнуўшы ласянятка, падняла галаву і ціхенька капатнула задуманага свайго дружбака.

Лось нічым ёй не адказаў.

Тады ласіха, як бы сярдуючы, часта затупала каля ласяняці, але зноў пацалавала яго і зноў, больш настойліва, і раз і два зачапіла лася. Што яна яму сказала? Пра што напомніла?.. Аднак лось, быццам павесялеўшы, у адказ прыхінуўся да ласіхі і, яшчэ раз глянуўшы на Грабскую пушчу, рашуча павярнуўся і пакрочыў назад да Навіньскага балота. Ласіха падштурхнула за ім ласянятка і, ківаючы галавою над хвосцікам дзіцяці, лёгка і радасна патупала ўслед...

*1965*

## МНЕ ТРЭБА КУПІЦЬ БАЯН

У санаторый я прыехаў пасля хваробы. Я цвёрда запомніў і прывёз сюды з сабою наказы дактароў: жыць спакойна і ціха, ні на што не траціць лішняй увагі, адпачываць, набірацца сіл. Ды і што наказы дактароў. Я і без іх разумеў, што мне трэба правіцца. Я быў пасля хваробы як бы сам не свой. Стамляўся нават гаворачы з кімнебудзь, нават гледзячы чалавеку ў твар. Таму я стараўся як толькі можна адасобіцца ад людзей. Калі сястра-гаспадыня прывяла мяне ў сталовую паказаць маё месца за сталом, я не стаў разглядаць сваіх суседзяў. Я прывітаў іх дзяжурным «добры дзень» і адразу ўтаропіўся ў меню. Выбраў сабе абед, заказаў яго. А далей ад няма чаго рабіць стаў прыпамінаць сваю апошнюю рыбалку. Бо так

вучылі мяне ў бальніцах: не думаць ні аб чым сур'ёзным, а прыгадваць што-небудзь лёгкае, прыемнае.

Я ўспомніў вясёлае надрэчча ў зялёнай засені кучаравых вязаў і бяроз, пах і шэлест аеру ля Акунёвага віру, звонкі лясны касцёр і ўсхваляваныя рыбацкія прамовы пры ім. Словам, перада мною ў сваёй прывабнасці толькі пачалі ажываць дарагія малюнкі, ажно я забыўся, дзе я і што я, як раптам правым бокам адчуў, што на мяне пільна нехта глядзіць. Плынь маіх успамінаў прыпынілася. Я нездаволена павярнуўся, каб збавіцца ад пранізлівага позірку. Але гэта мне не ўдалося: праз хвіліну ад таго позірку пахаладзела мая спіна. Нарэшце я рашыў давецца, хто мяне так вывучае. Я скасіў вока і побач з сабою ўбачыў жанчыну. Ёй стала, мусіць, няёмка. Яна апусціла вочы і нізка схілілася над сталом.

Я не ведаў гэтай жанчыны. Я разумеў, што бянтэжу яе, ды, забыўшы пра ўсё, цяпер ужо сам не мог стрымлівацца, не мог на яе не глядзець. Мяне дужа ўразіў яе твар. Гэта быў твар знясіленага чалавека; пабітыя маршчынамі шчокі так і казалі аб пакутах і нялёгкіх перажываннях, а пышныя косы жанчыны былі амаль сівыя.

З самага таго часу, як я ўгледзеўся ў яе, жанчына не падымала вачэй. Таму я не мог пазнаць, колькі ёй год. Але вось нам паставілі на стол нашы дыетычныя супы, жанчына пацягнулася рукой па хлеб, я паспяшаўся падаць ёй хлебніцу, і тады яна ўзняла на мяне вочы. Я не скажу, што гэтыя вочы раптоўна ўзрушылі мяне. Я, мусіць, на выдатна засвоіў павучанні дактароў — усё прымаць звычна. Але ж гэтыя вочы не пакінулі мяне спакойным. Я ніколі не бачыў такіх вялікіх шэрых вачэй. Яны свяціліся, як два начныя небы. Яны былі хоць і стомленыя, але маладыя, і цяпер я мог з упэўненасцю сказаць, што гэтай жанчыне не больш як трыццаць пяць гадоў.

Пасля абеду, калі ўсе іншыя падняліся, і я і жанчына асталіся за сталом. Жанчына загаварыла першая:

— Вы прабачце, што я на вас так глядзела.

Я пайшоў ёй насустрач, спытаў:

— А чаму вы так на мяне глядзелі?

— Вы...— яна прымоўкла, як бы набіраючыся сіл,— вы... дужа схожыя на аднаго чалавека... Вы — проста — ну, як бы ён...

— Ён быў вам дарагі?

— Але...

— Дзе ж ён цяпер?

— Забіты... У сорак чацвёртым... У Прусіі...

Мне трэба было памаўчаць, але я сам калісьці апёкся ў попеле вайны, штурмуючы тую праклятую фашысцкую Прусію, і мне стала шкада самога сябе, і я забыў пра боль жанчыны. І я сказаў ёй, мабыць, вялікае глупства.

— А вы не верыце,— сказаў я,— што за столькі год чалавек мог уваскрэснуць?.. А можа, я — гэта і ёсць той самы забіты...

Жанчына паглядзела на мяне спалохана і ўстала. Вочы яе, мне здалося, на момант як бы ўспыхнулі суровым бляскам, ды адразу ж яшчэ больш пацямнелі.

— Даруйце,— прамовіў я, а яна кіўнула галавой і, прыкметна накульгваючы, хуценька выйшла са сталовай...

Мы ўбачыліся з ёю толькі заўтра на снеданні. Жанчына была ўжо ў сталовай, калі я туды зайшоў. Яна снедала, але не спяшалася есці. Я пастараўся павітацца з ёю сардэчна і проста. Яна адказала мне сваімі глыбокімі вялікімі вачамі, і я адчуў, што паміж намі лягла і нейкая няпэўнасць і нейкая прыхільнасць. Спяшаючыся, я з'еў сваё рыбнае філе. Некалькі разоў за гэты час я лавіў на сабе позірк жанчыны і зразумеў, што яна хоча яшчэ нешта сказаць. Усе канчалі дапіваць чай, а жанчына ўсё корпалася над талеркай з амлетам. Яна адломвала маленькія кавалачкі хлеба і, тоненька намазаўшы іх маслам, адкусвала па крупінцы.

— Лена! Ле-на... Вы ж такая кволая, Ле-на. Вам трэба многа есці,— сказаў жанчыне наш сусед, адстаўны генерал.— А вы... Хіба ж гэта яда?

А яго таварыш дадаў:

— Ешце! Бо інакш мы прыдумаем вам нейкую цяжкую кару!..

Жанчына стомлена ўсміхнулася, заружавелася, адказала:

— Не магу. Нешта не есца.— Ды нечакана ажывілася: — Ведаеце, я столькі перахварэла... столькі перахварэла... што прывыкла мала есці... Але нічога! Я цягавітая!

— Але вы ўсё-такі мусіце есці,— сказаў генерал.— Вам трэба, Ле-на...— Генерал з ноткай глыбокага бацькоўскага замілавання зноў вымавіў яе імя, чым трохі здзівіў мяне.— Вы ж яшчэ маладая, а выглядаеце...— Ён сумеўся.— А выглядаеце не зусім добра... Хадзем! — прапанаваў ён суседу, і яны ўсталі.

Мы з жанчынай зноў асталіся ў сталовай адны. Трохі

маўчалі. Я дагэтуль не ведаў яшчэ — хто яна, адкуль прыехала. Праўда, па яе гаворцы я з самага пачатку быў пераканаІы, што яна беларуска. Жанчына, як і ўсе мы тут, гаварыла па-руску, але яе вымаўленне да глыбіні душы было мне роднае, з добра адчувальным навагрудскім акцэнтам. І я не памыліўся.

— Вы з Мінска? — спытала яна шчыра і з ноткай надзеі, па якой я зразумеў, што для яе гэта мае вялікае значэнне.

— З Мінска,— адказаў я і ў сваю чаргу пацікавіўся: — А чаму вы падумалі, што я з Мінска?

— Я нічога не падумала,— паволі адказала жанчына, пераходзячы з рускай на беларускую мову са сваім дзівосным напеўным вымаўленнем.— А я тут ад некага пачула пра вас. Скажыце,— загаварыла яна больш энергічна,— а вы не ведаеце ў Мінску Генадзя Цітовіча?..

— Генадзя Цітовіча? Хто ж яго не ведае! Я крыху ведаю яго нават асабіста. А ён вам знаёмы?

— Ён некалі раіў мне пайсці ў хор Шырмы. Вы не падумайце,— занепакоілася яна,— не падумайце... ён раіў не таму, што не хацеў узяць да сябе. Я і не прасілася ў Цітовічаў хор. Ён проста пачуў, як я спяваю, і параіў пайсці да Шырмы. Я добра тады спявала... Я спявала...— хацела нешта яшчэ сказаць жанчына, але як бы засаромелася. Праз момант зноў ажывілася, быццам нічога і не было...— Я калісьці і на баяне грала...

— А што ж вы не паслухаліся парады такога чалавека? Чаму ж не пайшлі да Шырмы?

Яна ўся наструнілася, здаецца, сабралася ў камячок, а счакаўшы сказала, нібы зусім пра чужое, раўнадушна:

— Я выйшла замуж...

— Ну, але хіба...

— Выйшла я замуж,— перапыняючы мяне, загаварыла жанчына, як бы жадала хутчэй збавіцца ад нейкай думкі,— за вайсковага. Ён служыў непадалёку. Я тады спявала ў самадзейнасці. Выйшла замуж... а яго адразу ж перавялі ў Арол. А потым...— голас яе пацішэў і паглушэў,— ён мне здрадзіў...

Далей жанчына доўга маўчала. Я не ведаў, як мне быць. Але адчуваў, што не вольны цяпер яе трывожыць. Памаўчаўшы і нібы ачнуўшыся, жанчына сказала:

— Я не ведаю, хто вы, але нешта не дае мне супакоіцца... Вы дужа схожыя на аднаго чалавека. Я ўжо сказала. А вам, можа, гэта нядобра слухаць...

— Не думайце так! — запярэчыў я.— Вы ж ведаеце, што так казаць не трэба! І прашу вас: не спыняйцеся! Калі я нагадаў вам дарагога чалавека, дык ведайце: я не засмучу вас!

— Праўда, ведаю...— Голас жанчыны стаў сухі. Яна глядзела кудысь далёка, як бы ў летуценні.— Ну, дык што ж... Кінуў ён мяне не адну. На трэцім месяцы хадзіла... Ды яшчэ і грошы сабе забраў. Што мне было рабіць? Прадала я сукенкі, якія былі, і паехала ў свае Баранавічы. А ў Баранавічах у мяне жыла адна старэнькая маці. Спецыяльнасць была ў мяне нішто сабе — я да замужжа вышывала ў мастацкай арцелі. Але, ведаеце, сорамна мне было туды паказвацца. І я пайшла прыбіральшчыцай на хлебазавод...

Я слухаў яе як бы ў нейкім сне. Мне хацелася крыкнуць ёй: колькі яна нарабіла памылак! Што чаму яна не пайшла да Шырмы, што як яна пабаялася вярнуцца да сяброў... Але я між тым падумаў, што — ох-ох — як жа гэта лёгка папікаць чалавека. Папікаць за тое, што ён гэтакі, а не такі! Жанчына быццам прачытала мае думкі, бо сказала:

— Можа, я зрабіла і не так. Ды цяпер не вернеш. Нейкая я вот такая... Ну, працавала я на хлебазаводзе. А пакоі там вялікія. Пакуль памыеш тыя падлогі. Ну, тады і нарадзіла я свайго Барыску... Нарадзіўся ў мяне сынок...— Жанчына пасвятлела, горда ўскінула галаву.— Тут і весялей мне стала і цяжэй. У вас жа, мабыць, ёсць свае дзеці, ведаеце, як іх гадаваць. Стала ўжо нас трое. А працую я адна. Маці старая, куды яе пашлеш. Добра, што хоць дзіця было дагледжана. Ну, узяла я сабе яшчэ адзін пакой прыбіраць. Каб больш зарабіць.

Я не мог стрымлівацца, перапыніў жанчыну:

— Ну, а, даруйце, а ці сказалі вы таму чалавеку, што ў яго ёсць сын?.. Няўжо ён кінуў вас без помачы?.. Гэта ж сын! Сын!..

— Сказала. Хоць не. Я, можа, не стала б гаварыць... Маці напісала...

— І ён нават не прыехаў?

— Не, ён прыехаў. Аднойчы прыехаў. Ды толькі не на радасць мне. Прабыў у нас два дні. І цішком знік. Як злодзей. Нават не сказаў, што едзе. Пайшоў папярос купіць. І не вярнуўся. Вось ужо хутка дзевяць год пройдзе. Барыску майму цяпер адзінаццаты. У чацвёрты клас перайшоў...

— Але што ж гэта за чалавек такі? Як жа вы выйшлі за такога?

— Хто ж яго ведаў...

— Ну, а вы, калі выходзілі замуж, ці кахалі хоць трохі яго?..

— Кахала? — Жанчына задумалася.— Можа, і кахала... Раптам яна скаланулася.— Ведаеце,— хутка загаварыла яна,— я, мусіць, кахала яго за таго, другога. Што загінуў. Я, мусіць, тады шмат чаго не разумела. Я думала, ён такі, як той. Абое ж былі пад адной бурай. У адным агні...

Падышла афіцыянтка прыбіраць са стала. Мы выйшлі ў вестыбюль. Селі за маленькі столік.

— За такім столікам,— сказала жанчына,— я цяпер вышываю.

— Вышываеце? Дык, значыць, вы вярнуліся ў арцель? — узрадаваўся я.

— Вярнулася. Але, ведаеце, да гэтага шмат чаго было. Я толькі з год як вярнулася...

— Чакайце: дык гэта ж, як вы сказалі, прайшло аж дзевяць год? Што ж з вамі было? Няўжо за такія гады вы не маглі ўладкаваць свой лёс? Вы ж, і сёння гэта відаць, былі прыгожая жанчына! Няўжо вам ніхто больш не сустрэўся, каб вы маглі пакахаць!

Жанчына паглядзела на мяне, мне здалося, як на хлапчука. Прынамсі, у вялікіх яе вачах засвяцілася нешта накшталт мацярынскай спагады. Яна не адказала мне адразу. Яна, меркаваў я, шукала слоў — як сказаць, каб я лепш зразумеў. Нарэшце яна загаварыла:

— От вы сказалі — уладкаваць свой лёс. А ці ведае хто-небудзь... ці ведаеце вы, які лёс спасціг... дзяўчат...

— Азаронак! Ле-на!..— грымотна прагучала на гэты момант у дрымотна-сцішаным калідоры.

— Гэта мяне! Даруйце...— Жанчына паспешна ўзнялася.

— Да ўрача, Леначка! — ужо ціха і ласкава даляцела адтуль, і, пакуль не заціхлі крокі маёй знаёмай, я таксама падняўся — мне хацелася пабачыць, каму належаў гэты рашучы і такі інтымна-лагодны голас. Але я ўбачыў толькі белы халат ды па-анёльску завязаную хусцінку медыцынскай сястры. Жанчына, накульгваючы, крочыла побач з ёю, але раптам, нібы нешта пачуўшы, павярнулася і пасяброўску памахала мне рукой...

Думаючы аб тым, што хацела сказаць і не дагаварыла

жанчына, я выйшаў на галоўную алею парку, які абкружаў санаторый. Я здагадаўся, пра што яна хацела сказаць. Бо я ж перажыў гэту вайну. Яна хацела сказаць не толькі пра свой лёс, а пра лёс многіх і многіх... Чыіх хлопцаў пабрала ліхалецце вайны... Чыя прыгажосць завяла, не дачакаўшыся юнацкага ўслаўлення... Чыё каханне не знайшло сабе жаданага адказу... А я, дзівак, яшчэ пытаў, чаму яна не ўладкавала свайго лёсу... Як добра, што яна не паспела мне растлумачыць!.. Я ішоў усхваляваны, і мне якраз было слухаць затоены гоман стогадовых дрэў над галавою, добра жмурыцца ад бліскотнага летняга сонца, добра проста глядзець на алею, зацярушаную сухімі пялёсткамі касачоў... Ды раптам як бы вогненным тугім крылом маю памяць разануў нейкі ўспамін. Нечакана ўдарыла па сэрцы прозвішча гэтай жанчыны. «Азаронак... Азаронак... Азаронак!..— білася ў галаве.— Дзе я чуў гэтае прозвішча — Азаронак?..»

Я не заўважыў, як завярнуў з галоўнай у бакавую алею. Мая трывога, мусіць, бясконца ўзяла мяне ў палон, бо я машынальна сеў на лаўку, нават не ўбачыўшы, што тут ужо сядзіць другі чалавек.

— Ну, як справы, сусед, прывыкаеце патроху?..— вярнуў мяне да рэчаіснасці знаёмы голас, і я ўбачыў перад сабою сур'ёзна-ўсмешлівы твар генерала.

— Даруйце, таварыш генерал! Я, мусіць, крыху лішне задумаўся...

— Нічога! — адказаў генерал.— Што за важнасці! Ці толькі з вамі так здараецца. У мяне, брат, у самога бывае — нешта пачне мроіцца... Ці мала чаго перажылі...

У генерала тоненька забілася сіняя жылка на самай скроні ля правага вока, і ён, нібы незнарок, прыцісну́ў яе двума тонкімі пальцамі.

— А скажыце,— загаварыў ён потым.— Вы даўно знаёмыя з Ленай?..

— З Ленай?.. На жаль, я спаткаў яе ўпершыню...

— Дык вы толькі тут з ёю пазнаёміліся? Дзіўна. А ўражанне было такое, што вы даўно знаёмыя.— Генерал адняў руку ад заспакоенай жылкі. Раздумна сказаў: — Гэтая жанчына... жанчына!.. яна ж тады была амаль дзяўчынка!.. Дык вось... гэтая жанчына... была калісьці славутай партызанскай разведчыцай...

— Пад Слонімам! — ажно падскочыў я перад генералам.— Гэта было пад Слонімам!..— Цяпер я ўспомніў, дзе чуў прозвішча Азаронак!.. Гэта было пад Слонімам, у па-

сечаных снарадамі лясах.— Там быў цяжкі бой, і там партызаны вельмі памаглі нашай арміі. Там я і чуў пра Азаронак!..

Генерал глядзеў на мяне з хваляваннем. Яго пальцы зноў леглі на няўрымслівую жылку ля вока.

— Вы былі ў тых мясцінах? Вы і родам адтуль? Дык, значыць, мы з вамі як родныя. Я, праўда, сібірак сам. Але я ваяваў там, у вас, у партызанах. Пад Слонімам і ваяваў! І гэта ж мы і памаглі вам тады! — Генерал перадыхнуў.— Даруйце, я заўсёды хвалююся, калі ўспамінаю. Вашы беларусы — не простыя людзі! Я думаю... кожны беларус быў воінам. А Лена... Лена наогул вялікі чалавек! Вы ведаеце, чаму Азаронак сівая? Яна ж трапіла аднойчы ў гестапа! Як яна адтуль вырвалася — легенда. Павялі яе расстрэльваць. Два фрыцы. Дык яна не толькі вырвалася, а і прывяла аднаго фашыста ў лес. Як ёй гэта ўдалося? Яна і сама не памятае. Напэўна, паспадзяваліся фашысты — дзяўчо, змучанае, ледзь жывое дзяўчо, што яна здолее... А яна здолела!..

Генерал дастаў хусцінку, выцер пот. Хваляванне яго вельмі стаміла. Але маўчаў ён нядоўга, відаць, чалавек ён быў просты і адкрыты, а такія не могуць спыніцца, не дагаварыўшы ўсяго да канца.

— Між іншым...— сказаў ён ужо спакайней.— Вы не заўважылі тут адной сястры, з Ленай бывае часта? Марусяй завуць. Лена яе выратавала калісьці. Вярталася з разведкі (а яна заўсёды адна хадзіла, у яе свая сістэма была) і бачыць: каля аднае вёскі на ўзлеску два паліцаі распінаюць дзяўчыну на крыжы. Вы можаце паглядзець — у Марусі на руках і цяпер знакі ад цвікоў ёсць... Дык вось... Лена і стукнула тых паліцаяў. Праўда, ёй потым наківалі за гэта. Бо яна вельмі важныя звесткі несла і магла не данесці, загінуць... Але, браце, наківаць наківалі, а паважаць сталі яшчэ больш. Бо хто ж на яе месцы прайшоў бы міма? Марусю ў партызанах вылечылі. Яна і ваявала потым... І вось бачыце, як бывае! — Генерал усміхнуўся.— Каб мне сказалі, не паверыў бы, што мы трое ўбачымся раптам! Маруся з Ленай спісаліся, а я са свайго Омска выпадкова трапіў. Хаця, чаму ж выпадкова? Захацелася пабываць бліжэй да тых мясцін, дзе прайшлі вогненныя гады. Як кажуць, дыхнуць паветрам маладосці. І гляджу — божухна мой! — як у казцы, стаяць дзве мае сястры названыя. Лену, праўда, я не адразу пазнаў. Што зрабіла з гэтай жанчынай жыццё!..— Генерал зноў зацiснуў сваю сі-

нюю жылку.— Хаця не, пры чым тут жыццё? Вы ведаеце, як з ёю адзін паганец абышоўся?

— Ведаю, таварыш генерал. Крыху ведаю,— сумна адказаў я.

— Тады я не буду пра гэта. Але не, вы, мусіць, не ведаеце, што ён зрабіў з Ленай, калі прыехаў на два дні?..

Я са спалохам глянуў на генерала. Што ж той чалавек мог зрабіць яшчэ? Хіба мала і так ён зрабіў ёй няшчасця?..

— Прабачце,— як вінаваты, праказаў генерал.— Лена пра гэта не сказала б. Гэта мне Маруся адкрыла. Ён жа за тыя два дні зноў пакінуў яе цяжарнай. Гвалтам і хлуснёю, можна сказаць. І ўцёк... Колькі подласці ў адным чалавеку! Я б расстрэльваў такіх паганцаў! Але скажыце мне,— загрымеў ён грозна,— скажыце, адкуль узяліся такія бяздушныя піжончыкі ў нашым пакаленні?.. Адкуль яны ўзяліся, дайце мне адказ! Істоты, якіх нават смерць не навучыла любіць чалавека!..

— Смерць? Любіць чалавека?

— Можа, я не так сказаў.— Генерал аддыхаўся.— Смерць тут проста сімвал барацьбы за жыццё. Разумееце, мне сорамна: мы ж заўсёды нясём адказнасць за сваё пакаленне! Хіба не так? Нам усім павінна быць сорамна, што такія былі сярод нас і мы іх не раскусілі. І вось вынік... Калі б я не ведаў Лены, магчыма, я так не перажываў бы гэтага злачынства... Але ж я ведаў Лену! Адно яе імя падымала людзей у атаку! І вось вы бачыце, якая яна сёння? Вы бачылі яе рукі?.. Ведаеце, колькі яна год лячылася ад раматусу? Колькі па бальніцах паляжала? Я калі гляджу на яе, то думаю: на яе ж маліцца трэба!.. Вы заўважылі — яна накульгвае?.. Дык гэта ж яна, працуючы ў аптэцы, грузчыка ўратавала. Прыладзіўся той несці скрынку з медыкаментамі, а другая — з машыны яму на галаву. Дык гэтая Лена кінулася і засланіла грузчыка сабой. Як на фронце — помніце? — закрывалі сваім целам таварыша... Вось ёй і разбіла каленную чашачку...— Генерал павярнуўся да мяне, узяў за плячо.— Вы маладзейшы за мяне... Але мы прайшлі адно выпрабаванне... І, я думаю, вы адчуваеце тое ж, што і я... І што, па-мойму, асабліва ў гэтай гісторыі, дык гэта тое, што Лена Азаронак асталася Ленай Азаронак! Ані крошелькі мужнасці не страціла яна ў жыццёвай нягодзе. Пенсію ёй далі — адмовілася ад пенсіі, перамагла свае немачы, зноў пайшла на працу! І сына выгадавала! Вы ведаеце, што ў яе ёсць сын?..

— Але, таварыш генерал! — Я ўзрадаваўся, што магу

выказаць свой непакой гэтаму сталаму, мудраму чалавеку. Бо якраз пра лёс хлопчыка я і думаў увесь гэты час.— Адно мяне хвалюе, таварыш генерал: як бы подласць так званага бацькі не надламіла дзіцячай душы...

— Не хвалюйцеся! Вось я гэта якраз і хацеў сказаць. Лена Азаронак асталася Ленай Азаронак! Нішто не ўнізіла яе! І сына сабе выгадуе,— будзьце ўпэўнены, гэта будзе сапраўдны чалавек! Помніце, як у адной паэтэсы: «Жизнь горит во мне, неугасима. У меня две вечности — два сына». Я ганаруся, што ведаю Лену!.. Падружыцеся з ёю! Не пашкадуеце!..— сказаў ён мне на развітанне.

Узрушаны ўсім, што пачуў і ўбачыў за гэтыя дні, я, не разбіраючы куды, крочыў па ціхай дарожцы. Бясконца суровы лёс цудоўнай жанчыны Лены Азаронак глыбока ўскалыхнуў маю душу. У вушах гучалі словы генерала аб адказнасці кожнага за сваё пакаленне. І я думаў: ні адзін з нас не мае права паступіцца хоць кропелькай вялікага гераічнага сумлення. Ні адзін з нас, чаго б тое ні каштавала, не мае права аддаць на здзек мужнасць свайго вогненнага веку! Так я дайшоў па алеі да самага берага сцішанага ляснога возера і, магчыма, тут і спыніўся б — прыладзіўся б дзе-небудзь, глядзеў на ваду, думаў, успамінаў. Ды нечакана зусім недалёка пачуўся ціхі мілагучны спеў. Я прыслухаўся: ломкі, але прыемны голас спяваў беларускую песню. «Не плач, міла, не плач, люба, не плач, не журыся...» — хутчэй угадаў, чым пачуў, я знаёмыя з маленства словы. «Значыць, тут ёсць яшчэ нехта з Беларусі!» — узрадаваўся я, хутчэй кіруючыся на голас. Я абышоў падстрыжаную алейку шыпшыны і на лавачцы ўбачыў Лену Азаронак. Яна сядзела да мяне плячамі, абапёршыся на лавачку рукой, і выспеўвала і свой і бясконцы чалавечы смутак. Я агледзеўся: якраз на самай сцяжынцы — так, што даводзіцца яго пераступаць,— ляжаў выслізганы шэры камень — і сеў на гэты камень. Жанчына мяне не заўважала.

...Не плач, міла, не плач, люба.  
Не плач, не журысё.  
Дам табе такоё зеллё,  
Вазьмі і напісё.  
Тоё зеллё, тоё зеллё  
Вышай пералазу.  
Як напарыш, як нап'ессё  
Забудзеш адразу...—

спявала жанчына, па колькі разоў паўтараючы асобныя словы, і я раптам убачыў яе партызанскай разведчыцай,

якая вырвалася з пасткі гестапа, каб прынесці мне нейкае важнае паведамленне. «Што гэта за паведамленне? Што гэта за паведамленне? — трывожыла думка.—Куды мне ісці? Чаго асцерагацца? Што я павінен рабіць? Што я абавязкова павінен рабіць?..»

...Буду піці, буду есці,
Капелькі не ўпушчу.
Хіба цябе пазабуду,
Як вочанькі сплюшчу.
Павей, павей, ціхі ветрык,
З высокага гаю.
Павярнісё, мой міленькі,
Ой, з чужога краю!

Ага, дык якое ж тое важнае паведамленне? Можа, мне трэба нешта выкінуць з душы і трэба нешта ўзяць у сваю душу? Што ж мне выкінуць з душы? І што мне ўзяць у сваю душу? Ага... Можа, мне трэба выкінуць з душы нейкага і свайго піжончыка? І можа, мне трэба ўзяць у сваю душу з нечым болем і нечую надзею?..

Колькі я так думаў — не ведаю, ачнуўся ж я ад стрункай летняй цішыні. Ценькала ў лісцёвай гушчэчы пеначка, церліся аб чараты лагодныя хвалькі, буркавалі галубы на даху санаторыя, недзе недалёка чулася: жахжах! — падразала траву звонкая каса. Я ўспомніў, чаго тут прыпыніўся. А дзе ж песня? Я ўзняў галаву — і позірк у позірк сустрэўся з вялікімі, заклапочанымі вачамі Лены.

— А я ўжо доўга тут стаю,— сказала яна збянтэжана.— Вы пра нешта думалі. Дык я чакала.

— Я думаў пра вас. Я чуў вашу песню. Я хваляваўся.— Яна ласкава абдала мяне задумнасцю сваіх вачэй.— І наогул, я багата цяпер ведаю... пра вас, Лена... Лена Азаронак.

Жанчына нічога мне не адказала. Толькі яе вочы прасвечвалі мяне наскрозь. Магчыма, яна хацела ўпэўніцца, праўду я сказаў ці не... Потым яна пайшла.

Крок яе быў такі павольны, што я не мог ніяк падладзіцца пад яго з маім цяжкім салдацкім крокам.

— Праўда, я цяпер зноў спяваць пачала... Цяпер ужо мне нічога... Голас у мяне не змяніўся, толькі, праўда, дыхання трохі не хапае. Ну, ды нічога. Гэта, кажуць, пройдзе. І Барыска мой удаўся ў мяне. Слых у яго добры, мелодыі так і запамінае!.. Я, як пачала зноў спяваць, дык узяла адзін раз яго на спеўку. От зайграла я на баяне. А Барыска пачуў песню і просіць: «Дай, мамачка, зай-

граць...» І што ж вы думаеце?.. Падабраў адразу мелодыю. Просіць ён мяне пасля таго часта: «Вазьмі з сабой, буду, кажа, граць!» А дзе ты яго будзеш браць? Думаю вось, як збяруся, баян яму купіць... Хай падвучыцца... А потым аддам яго ў музычную школу!.. З мяне нічога не выйшла, дык хоць з яго, можа, будзе...

Я горача запратэставаў:

— Што вы кажаце! Як гэта з вас нічога не выйшла! Вы такая жанчына! Вам трэба быць настаўніцай у школе жыцця! Той чалавек, што вас так подла пакрыўдзіў, ніколі не будзе мець шчасця!

Жанчына прыўзняла плечукі, сціснула кулачкі ў кішэньках кофтачкі.

— Дзякуй вам,— сказала яна такім шчырым шэптам, што гэты шэпт, мабыць, чуўся далёка.— Дзякуй вам за добрыя словы. Можа, я іх і не заслужыла. А пра шчасце... Не ведаю, ці мае той чалавек шчасце. А ведаю толькі, што ён як вораг. Цяпер, калі падрос мой Барыска, мне гэта стала яшчэ ясней.

— Дык няўжо ж той чалавек не пашкадаваў і сына? Ці ведае Борка што-небудзь пра свайго бацьку?

Відаць, жанчыне не хацелася пра нешта гаварыць, бо яна доўга не адказвала.

— Хоць і шмат гора прынёс мне той чалавек, а ўсё ж я не заніжала яго перад Барыскам... Не заніжала дзеля тых, хто ў агонь вайны хадзіў... Барыска, пакуль падрастаў, нават ганарыўся ім... А цяпер, бачу, сорамна яму, калі хто скажа пра бацьку... А здарылася гэта нядаўна. Як стала я Барыску вучыць на баяне, ён і напісаў таму чалавеку пісьмо. Я і не ведала. Барыска мне потым прызнаўся. Як адказ атрымаў. Адрас ён у бабулі дапытаўся. Напісаў, што вучыцца граць на баяне... Дык што ж вы думаеце?.. Адпісаў сваёй рукой, што ніякіх Бораў не ведае. Падумаць толькі! Да чаго дайшоў чалавек!.. Вось тады Барыска мой і засумаваў. Малы, а і ён зразумеў... Ну, ды што ж, інача і не магло быць. Бог з ім.

Незаўважна мы падышлі да галоўных варот санаторыя. Тут Лену чакалі. З зацененай лавачкі насустрач ёй падняласся высокая поўная жанчына, трохі маладзейшая за Лену. Тоўстая русая каса, як у дзяўчынкі, была перакінута ў яе ззаду на самыя грудзі. Адной рукой яна падтрымлівала гэту касу, а другой цягнула за сабой мажнога ўсмешлівага мужчыну.

Лена заспяшалася развітацца:

— Гэта мае сябры. Як нядобра. Мусіць, я іх затрымала. Гэта ж яны скончылі змену. І захацелі паказаць мне гарадскі музей...

Мы сустрэліся з Ленай толькі за вячэрай. Яна была сумная, задуменная. Дапіўшы чай, адразу ўстала і выйшла. Аднак на выхадзе са сталовай яна мяне чакала.

— Ведаеце...— стомлена прамовіла яна.— Вы мне даруйце, што я вам усё расказала. У вас і сваіх клопатаў хапае. Я ж бачу, вам нядобра. Даруйце...

— Хадзем! — Я ўзяў жанчыну пад руку.— Аб чым вы кажаце! За ўсё, што вы мне расказалі, што пачуў пра вас, я вам так дзякую! Каб вы ведалі, як я вам дзякую! Не здзіўляйцеся. Я вам дзякую за тое, што вы добра пра мяне падумалі, адкрылі мне сваю душу. І я спадзяюся, што мы надоўга сталі з вамі сябрамі!..

Я не думаў, што гэта размова будзе апошняя.

Назаўтра раніцай жанчына вінавата сказала пасля снедання:

— Паеду я. У адзінаццаць гадзін.

— Але чаму так хутка?!

— Вы толькі прыехалі, а я ўжо тут даўно. Ёсць у мяне яшчэ некалькі дзён. Ды я іх недабыла. Не магу. Так і стаіць у вачах Барыска. У школу пара збіраць. У чацвёрты клас! — сказала яна горда, шчасліва.— Вось...— Яна хуценька адкрыла сумачку і падала мне акуратна складзены лісток са школьнага сшытка.— Учора прыйшло...

«Дарагая, любая мамачка,— пісала яшчэ няцвёрдая, але старанная дзіцячая рука.— Мы з бабуляй вельмі, вельмі цябе чакаем. Але ты не хвалюйся, мамачка, не думай пра хату, у нас усё добра, мы з бабуляй усё робім, каб табе спадабалася. Папраўляйся, любая мамачка, і прыязджай хутчэй да нас...»

Пакуль я чытаў пісьмо, жанчына з высока паднятай галавою стаяла і прамяніста ўсміхалася ўсяму свету, абдаючы мяне гарачай ласкаю сваіх вачэй. Я адчуваў гэты ўсёабдымны радасны позірк, і яе шчасце перапоўніла і маё сэрца. Я моцна-моцна паціснуў яе руку... Праз паўгадзіны цэлай капэлаю — і я, і генерал, і Маруся з мужам, і яшчэ многія Леніны прыяцелі — праводзілі яе да аўтобуса. Я быў побач з Ленай, мы ішлі моўчкі, думаючы кожны аб сваім. Але, магчыма, гэта было не сваё, а наша,— я адчуваў, што нам цяжка развітацца, як тым аднапалчанам, што прайшлі разам праз цяжкое выпрабаванне.

На развітанне я папрасіў:

— Зрабіце ласку, дайце адрас вашага Боркі. Можа, я напішу яму.

Лена згадзілася з маёй просьбай. Яна паехала, а я пайшоў у свой пакой і, як любяць казаць пісьменнікі, сеў працаваць,— сеў пісаць, не, не пісаць, а запісваць у блакнот расказ яе жыцця. Маім гераізмам было тут толькі тое, што я адкінуў усе парады і наказы дактароў. Я закінуў у чамадан прывезены градуснік. Потым пайшоў у магазін і купіў пачак папярос. Падумалася: няўжо я дзеля таго толькі павінен жыць, каб не курыць і не хваляванца, каб вымяраць тэмпературу цела і збіраць нейкія недатыкальныя сілы? Дзеля чаго не курыць і не хвалявацца? І дзеля чаго збіраць сілы, калі не хвалявацца? Дзеля чаго жыць, калі не хвалявацца?..

Вярнуўшыся ў Мінск, я зайшоў да рэдактара.

— Вось, брат,— сказаў я яму.— Я прывёз з санаторыя апавяданне. Мне абавязкова, што б ні стала, трэба яго надрукаваць. Пачытай...

Рэдактар прачытаў апавяданне. Я бачыў — ён, чытаючы, не астаўся абыякавы. Прачытаўшы, доўга думаў, праціраў хусцінкай акуляры. Потым, давяраючыся, сказаў:

— Ну, добра. Добра. Я з табой згодзен, такія гісторыі ў жыцці бываюць. Магла быць такая гісторыя. Але ў чым тут твая ідэя? Што я скажу крытыкам?

— Мне трэба купіць баян,— адказаў я.— Мне трэба купіць баян Борку, а грошай у мяне цяпер няма...

— А што ж, гэта ідэя. Добрая ідэя!.. Хай будзе так!

І ён загадаў аддаць апавяданне ў друк.

І вось хутка міне месяц, і я атрымаю ганарар. І тады мы з маімі сынамі пойдзем у магазін і выберам прыгожы пявучы баян.

І потым па пошце пашлём яго Борку.

Мы ведаем, што наш баян будзе ў надзейных руках. Бо ёсць у Боркі слаўная маці, якая абавязкова навучыць яго іграць. Яна ведае, чаму яго вучыць, за жыццё шмат усякіх мелодый сабралася ў яе глыбокай душы. А Борка — няхай ён думае, што гэты баян прыслаў яму бацька. Няхай забудзе сваю крыўду. Няхай верыць, што людзі на свеце ўсе добрыя, такія добрыя і шчырыя, як яго маці.

І мы верым, што праз нейкі час прыедзе ў Мінск самадзейны калектыў з Баранавіч і сярод выканаўцаў будзе і Борка з нашым баянам. І мы будзем сядзець у зале і апладзіраваць яму.

*1965*

# СТАРЫ

Расліне патрэбны: вільгаць, паветра, святло, харчаванне, цяпло...

(З батанікі)

Стары ляжаў на канапе ў адбітым посцілкаю кутку на кухні і слухаў радыё. Ён любіў, калі перадавалася музыка. Апошнім часам, аслабеўшы зусім, стары чамусьці вельмі прагнуў музыкі. Ён навучыўся распазнаваць шмат якія мелодыі, яны прыходзілі да яго як даўнія, добрыя сябры. Стары не разумеў — чаму, але сёння ў яго быў дужа мройны настрой. Імёны кампазітараў, якія раней ён хоць чуў неаднойчы, ды не запамінаў, сёння нешта паўставалі ў яго памяці. Стары па музыцы стараўся ўявіць сабе твар кампазітара, адгадаць, што ён тады думаў, калі складаў сваю музыку. Душа старога як бы адкрывала ў сабе новы талент.

Па радыё выконвалася п'еска Шумана. Мелодыя лілася светлая і лёгкая, і стары адразу намаляваў у думках твар кампазітара: малады і рухавы, з тонкімі рысамі, з яснымі летуценнымі вачыма. Кампазітар узіраўся некуды ўдалеч, і стары здагадаўся: гэта ён выглядае сваю каханую. Стары паддаўся настрою кампазітара,— праз музыку яму ажылі былыя пачуцці. Ён адчуваў сябе ў далёкай маладосці, бачыў сцяжыначку над Сажом і ўяўляў, як па той сцяжынцы ў лесе са смехам бяжыць бялявая дзяўчына. «Хто ты? Чыя ты?» — як бы пытала музыка. А дзяўчына бегла і не адказвала. І толькі спяваў вакол дзяўчыны замілаваную песню бор, і наўсцяж слалася вясёлае летняе рэха...

Стары расхваляваўся, шчокі яго трохі разгладзіліся і паружавелі. Але вось тая музыка скончылася, пачалі перадаваць нешта новае ў зусім іншым настроі. Стары пачуў, як дыктар сказаў: элегія Маснэ. Стары не ведаў, што такое элегія. Ён падумаў, што гэта імя кампазітара, і зараз жа па мелодыі ўбачыў яго твар. То быў твар мужны і разам з тым нейкі знепакоены, на ім было напісана штосьці надта балючае, ад чаго старому стала не па сабе. Шырокаю хваляй, з магутным уздымам, элегія перакрыла пявучыя ўспаміны старога, і гэта яго нават трохі пакрыўдзіла. Аднак хутка стары зразумеў, што глыбокая, задуменная плынь, магчыма, нават яшчэ больш імпануе ягонаму настрою, і праніклiва ўслухаўся ў гукі. Цяпер ён

адчуў сябе ўжо не юнаком, а сталым і дужым чалавекам. Ёе па-гаспадарску ішоў па зямлі, абдымаў вачыма шырокія прасцягі, калі раптам пачуў, як нявестка голасна сказала ў суседнім пакоі:

— Вось, ляжыць на нашу галаву... І доўга ён будзе ляжаць!..

— Сціхні!.. Гэта мой бацька! — пачуўся прыглушаны голас сына.

Нявестка пра нешта злосна засыкала, сын падышоў да бакоўкі і сказаў:

— Бацька, устань, ідзі еш...

Стары прыўзняўся на локцях, ды зноў лёг. Апошнім часам яму ўсё цяжэй стала падымацца. Каб можна было, ён бы зусім не ўставаў. Яму хацелася крыкнуць гэтым людзям, якія былі яго дзецьмі: «Чаго вы хочаце ад мяне? Што я вам зрабіў, каб вы на мяне злавалі? Ці вы не ведаеце, як мне ўсё цяжка, нават слухаць вас, нават есці!..»

Яму хацелася так крыкнуць, але не хапала сіл, каб так крыкнуць. І ён крычаў гэта толькі ў сваёй душы, і гэта таксама было яму цяжка, пот выступіў у яго на лобе і на маршчынах пад вачмі. Грузна падняўшыся, стары кволай рукою схапіўся за шурпатую спінку канапы і некальнкі хвілін пастаяў. Ён хацеў набрацца сіл, каб не шоргаць нагамі па масніцах. Ён ведаў, што калі ён шоргае, то нявестка злуецца. Але ён усё роўна шоргаў. Ён ужо не меў сіл хадзіць інакш. Стары даваloкся да стала знясілены, усцягнуўся на край лавы і ўспёрся ўпалымі грудзямі на стол. Рукі калаціліся. І хаця яму даўно хацелася есці, але, як ён ні змагаўся, варыва не зачэрпвалася. А калі і заставалася нешта ў лыжцы, дык потым вылівалася на вышываны абрус. Стары адчуваў на сабе гняўлівыя позіркі нявесткі. І таму яшчэ больш губляўся. І так, амаль нічога не з'еўшы, ён барабаніў лыжкай па місе, пакуль не ўбачыў, што сын і нявестка ўстаюць з-за стала. Тады і ён палажыў лыжку. Дрыготкімі пальцамі падабраў блізкія хлебныя крошкі, укінуў у рот і, падняўшы сухія паблеклыя вочы, доўгім позіркам агледзеў адлегласць да дзвярэй, за якімі была яго канапа на кухні.

Нявестка стала прыбіраць са стала. Яна са злосцю шмарганула заліты бацвіннем абрус, вырвала яго з-пад локцяў старога. Ад нечаканасці стары тарганууся галавою і жаласна паглядзеў на сына. Яму так хацелася, каб сын сказаў хоць слова. Тады, магчыма, стары набраўся б смеласці і папрасіў бы правесці яго да кухні. Бо яму рабіла-

ся страшна пры думцы, што ён зноў будзе шоргаць нагамі. Але сын як знарок задумана глядзеў у акно. Стары адарваўся ад лавы і, выцягнуўшы рукі ўперад, пацёгся да свае кухні. На сярэдзіне пакоя ён моцна пахіснуўся і, мусіць, абавязкова забурыўся б, калі б не падскочыў сын. Стары пачуў у сынавай руцэ крутую моц жалеза — такая калісьці была і ў яго самога. «Малайчына Ціша... Будзе доўга жыць...» — забываючы згрызоты, падумаў стары. Ён радаваўся і, пакуль сын вёў яго да канапы, зноў адчуў сябе дужым і здаровым.

— Ляжы тут, тата, і не падымайся без мяне,— сказаў сын.

Стары нічога яму не адказаў. Але ўдзячна падумаў: «Усё ж малайчына Ціша...» Раптам у самую глыбіню яго душы зноў уварвалася музыка. Музыка была з глыбокім роздумам, крышачку нават з жальбою і сумам, і стары прыняў яе як песню аб даўно пражытых гадах. Ён лёг на канапу і адчуў, што яго вочы самі сабою плачуць. І ён ляжаў і думаў пра гэтыя слёзы і пра свой доўгі век. «Чаму,— разважаў стары,— жыве чалавек, чаму ён нараджаецца і расце?... Ён жыве не таму толькі, што есць, п'е і спіць. А таму ён расце і жыве, што адчувае ласку з першага свайго дня... Калі б чалавек не ведаў ласкі, ён бы не рос. Без ласкі чалавек каржанее, сохне, душа яго вяне, ёй нельга ўзняць сваіх крылляў...» Стары так думаў, а музыка вярэдзіла яго сэрца, глыбока чапала яго, і слёзы, дзіўныя, неадчувальныя слёзы цяклі самі сабою з сухіх выцвілых вачэй.

Стары чуў, як сын запрагаў на двары каня. Потым сын і нявестка паехалі. Стары ведаў, што яму нельга пакідаць хату. Але музыка не давала яму сёння спакою. Яму так захацелася хоць трошкі пагрэцца на сонцы. Музыка клікала яго на паветра, на волю. Стары доўга баяўся, але ўсё ж не вытрымаў, намацаў пад канапай свой кій. Сеў, аддыхаўся, адпачыў. Падняўся. Пераносячы ногі ўслед за кіем, даклыпаў да парога.

Гарачае зыркае сонца ўдарыла па вачах, закружыла галаву. Стары па прывычцы ступіў два крокі ўлева, дзе — ён добра памятаў — стаяла даўно-даўно ўкапаная ім лавачка. Ён і раней, не гледзячы, апускаўся на яе і заўсёды сустракаў цвёрдую знаёмую апору, як падарожнік, вярнуўшыся ў родны край. Але сёння спінка лавачкі не падтрымала старога. Ён грымнуўся вобзем, слаба разумеючы, што такое з ім стала. Гарачая зямля і спякотнае сонца

трохі сагрэлі старога. Як малы, ён хутка забыўся пра свой боль. А ўсё ж, дзе яго лавачка? Ён прыўзняўся на локцях, не падымаючыся зусім. Яго цягнула яшчэ хвілінку паваляцца на цёплым. Ага, гэта ж ён не ведаў, што сын памяняў падмурак у хаце. Падмурак новы, цагляны. Вось таму і прыбрана старая лавачка. Усё ж такі Ціша малайчына. Глядзіць за хатай. Што яму сам пра падмурак не сказаў, ну, што ж, гэта ўсё, мусіць, праз нявестку. Чаго яна такая? Хіба ён яе пакрыўдзіў? Ён жа так быў рады, калі сын ажаніўся.

Сонца сваёй пяшчотай як бы ажывіла, падбадзёрыла старога. Ён знайшоў сілы, каб дацягнуцца рукой да акна. Напружыўся, схапіўся за раму, падабраўся і падняўся на ногі. Трэба было вярнуцца ў хату. Але ўхапіўшыся за акно, стары расчыніў яго, і з хаты пачулася чароўна-летуценная музыка. Ах, што гэта была за музыка! Малады і ўрачысты, як світальны маладзічок, ішоў у свет кампазітар і клікаў усіх за сабою ў шчаслівыя далі. «Ну, чаго ты стаіш? Чаго стаіш? Можа, ты не верыш у тыя шчаслівыя далягляды?.. Яны ёсць! Я іх табе пакажу. Хадзем за мною! Ну, чаго ж ты стаіш?.. Чаго стаіш?..» Старому так гулка чуліся гэтыя словы складальніка музыкі, што аж сэрца заходзілася ў яго ўпалых грудзях.

— Я не магу пайсці! Мне нельга! — намагаўся крыкнуць стары ў адказ. Але музыка не давала яму так крыкнуць. Яна ўсё вышэй уздымала яго душу, і ён, не помнячы сябе, пусціў кій уперад і адарваўся ад сцяны хаты.

Ружова-зыркія смолкі загайдаліся насустрач старому. Пахкае жыта кінула пад ногі ацяжэлыя хвалі. І ўся зямля здавалася старому, як вялікі карабель, які хістаецца на высокіх сонечных валах, збівае з ног, не дае ісці. Але стары ўсё ж неяк трымаўся на гэтым караблі. Крок за крокам пасоўваўся наперад. Можа, то была сіла такая ў закліку музыкі? А можа, гэта шчасце, аб якім гукаў кампазітар, так уладарна клікала да сябе?

Травяністая сцежка паўз жыта, пераваліўшы цераз сіўцовы ўзгорачак, заходзіла ў сасновы бор. Стары даўно сніў і мроіў яшчэ хоць разочак пабываць у гэтым бары. І ён адчуў тое самае, напэўна, шчасце, аб якім спявала музыка, калі над яго галавою зазвінела настоеная жывіцаю песня бору. Стары ўбачыў шырокую лысіну яшчэ свежага пня і далей ужо не мог ісці. Ледзь не аддаўшы лесу зямнога паклону, ён неяк патрапіў сесці на пень. Цяпер можна было адпачываць і думаць. З гэтым лесам у старо-

га столькі было звязана ўспамінаў. Вунь там, над Сажом, калі перайсці заглушанае зелянінаю кургание, уецца ціхая дарожка. Там юнаком ён сустрэўся з бялявай дзяўчынай. Божа мой! Як гэта ўсё далёка, а як і сягоння шчыміць сэрца ад любага ўспаміну. Хто ты, чыя ты? — пачулася яму пытанне музыкі. І зноў дзяўчына нічога не адказала, а толькі цяпер яна і не смяялася. Сумна паглядзела ў твар старому, і яму, здалося, пачуліся дакорлівыя словы: «Эх, Аўдзей, Аўдзей! Хіба не пражылі мы з табою сорак гадоў... Хіба не вырасцілі шасцёра дзетак!..»

— Анютка! Анютка!..— спалохана зашаптаў стары.— Даруй мне... я вінаваты. Анютка!..

Можа, ён і на самай справе вінаваты. Забілі Анютку фашысты. Забілі з двума меншымі сынамі і дачушкай. Каля самай хаты забілі... Застаўся Аўдзей з сярэднім сынам Цішам, а два старэйшыя ляглі на вайне... Эх, Анютка, Анютка, не думай, што Аўдзею так было лёгка перажыць страты... Багата ён аддаў бы, каб клыпала ты цяпер побач з ім, а ўсе дзеці стаялі б ля яго, як дубы і дубочкі...

Недзе далей, за курганам, там, дзе Сож прымае ў сябе глыбокія рукавы непрыступнага ляснога возера, засталіся патаемныя сцяжыны да партызанскай базы. Адтуль ён са сваім Цішам не раз ішоў у разведку... Ціша... Адзін, што застаўся яму на апору. Адзін. Эх Аўдзей, Аўдзей. Можа, ты і вінаваты перад Анютай, што не забраў яе ў лясныя зямлянкі. Ведаў жа, што могуць наляцець карнікі... Але хто чакаў, што яны будуць такія лютыя. Што закатуюць нават дзяцей з маці...

Стары расхваляваўся, успамінаючы, і хваляванне зусім расслабіла яго. Успёршыся на кій, ён сядзеў, цяжка звесіўшы галаву. Раптам з бору, аднекуль зусім зблізку, мабыць, з-пад кургання, дайшлі да слыху старога мілагучныя дзіўныя гукі.

«Зум-зум... Зум-зум... Зум-зум... Зум-зум...» — з кароткімі перапынкамі гулка і настойліва плыло ў зацішаным пад спёкаю лесе. «Што гэта магло б быць? — дзівіўся стары.— Можа, зноў музыка?! І праз колькі хвілін старому загучала песня, якая падняла яго, паставіла на ногі. Ён чуў усё тую ж ранішнюю музыку Шумана. І зноў бялявая дзяўчына бегла па лесе і настойліва заклікала яго сваёй прываблівай прыгажосцю. Гукі лесу, музыка ўспамінаў як бы ўскалыхнулі старога. Не гледзячы пад ногі, ён намацаў кіем дарогу і ўсё далей паглыбляўся ў засень бору, кірую-

чыся на незнаёмыя гукі. Нечакана перад ім адкрылася вясёлая лясная палянка. Стары пазнаў яе. Перайсці палянку, а затым яшчэ кавалачак бору, і пачнецца курганне, за якім ціха ўецца тая юнацкая дарожка. Ах, калі б яму ўдалося туды дацягнуцца!.. Стары расхінуў тонкія сасоначкі паляннага падлеску, каб выйсці на сонечны прастор. І тут проста перад сабою ўбачыў каня, запрэжанага ў рыкрывалы. Конь стаяў прывязаны лейцамі да маладой рабінкі. А крыху воддаль, ля адзінокай на паляне сасны, замахаліся мужчына з жанчынай. Сасна была высокая і магутная, сапраўдная прыгажуня лесу. Што яны там робяць? — занепакоіўся стары. Раптам — «зум-зум, зумзум» — паплыло ад сасны, і старога ўсяго скаланула. Сасну пілавалі. Стары ведаў гэту сасну. Сюды прыходзіла Анюта з дзецьмі ў дні вайны, калі ён з Цішам быў у партызанах,— ці каб пабачыцца, ці каб пакінуць перадачу. «Каму забалела спілаваць гэту сасну?.. Эх, людзі, людзі...» — пакрыўджана шаптаў стары. Сэрца яго зайшлося ад жалю, і ён абмяк, сілы сталі пакідаць яго. Але неспадзявана стары пазнаў людзей, што пілавалі сасну. «Божа мой! Божа мой! Ціша!!!» — захліпнуўся жалем стары і аднекуль знайшоў у сабе адчаю кінуцца ўперад. «Зум-зум... Зум-зум...» — звінела сталь пілы. Гэты дужы звон грымнуў у сэрцы старога неспадзявана балючай трывогай. То была трывога за дзяцей. Яму пачулася вакол іх якоесь няшчасце. Ах, божа мой... Ці ж бывае шчасце там, дзе забываюць маленства... А нявестка ж цяжарная... Летась у яе памёр сынок... Трэба, каб усё было добра... Каб род не звёўся. Ах, Ціша, Ціша... Нашто ты забыў маленства!

Старому заставалася прайсці зусім няшмнога, калі зумканне пілы сціхла. Сын паклаў пілу, узяўся за сякеру. Нявестка адышлася да кусціка ядлоўцу. Дастала біклагу, стала піць. Сын размахнуўся, каб ударыць па сасне — падсячы яе з таго боку, куды ёй падаць. І раптам старому здалося, што дрэва непрыкметна для Цішы ўжо нахілілася і падае. «Яно падае, падае! — здавалася старому.— І падае туды, дзе стаіць нявестка!»

— Вера-а-а-а!...— з усіх сіл, якія ў яго яшчэ былі, крыкнуў стары і аберуч схапіўся за белую галаву.

— А-а-а-а! — пакацілася па лесе рэха, а ў вачах старога заскакалі і замітусіліся чырвоныя кругі. Затым стары пачуў страшэнны трэск і ўдар, ад якога закалацілася зямля, і ўпаў разам з навакольным гулам. У галаве яго, як полымя, закалыхаўся гэты гул, не даючы зразумець, дзе

ён і што з ім. Стары здзівіўся. Потым ён пачуў над сабою знаёмыя галасы.

— Тата... Татачка! Нашто ты не паслухаўся мяне! Нашто кінуў хату!

Старому стала як бы і добра, нават радасна. Малайчына Ціша. «Татачка...» Значыць, не забыў Ціша маленства. Не забыў, як гадавалі яго на гэтых сцежках...

— Тата-а. Трэба яго дахаты, Ціша... Ціша-а...— разгублена гучаў голас нявесткі, і стары супакоена падумаў: а яна ўсё-такі добрая. Малайчына Ціша.

Старога ўзялі на рукі, і ён чуў, як цяжка дыхае нявестка і як глытае слёзы сын, чуў, але нічога не бачыў і не мог нічога сказаць. А як яму хацелася цяпер загаварыць! Як хацелася сказаць ім, сваім дзецям, што яны добрыя, што ён благаслаўляе іх на вялікае жыццё, што ён шчаслівы сёння, як не быў ужо даўно. І раптам старому загучала мелодыя элегіі, і ён зноў адчуў сябе гаспадаром жыцця. Пад вокліч сына «тата, скажы хоць слова, тата!» стары напружыўся і зрабіў бадзёры і ўпэўнены крок у нейкі зіхоткі свет...

*1966*

## СІРОТЫ

Васіля Рудніка больш за месяц не бачылі на вуліцах сяла, хоць усе чулі, што ён вярнуўся. Чым ён жыў і як жыў — ніхто пра гэта нічога не мог сказаць. Але ўсе ведалі, якое ў Рудніка гора, і верылі, як яму цяжка. Многія хацелі б пагаварыць з Васілём, суцешыць яго. Ды Руднікава хата нікому ніколі не адчынялася. Адну старую Анэту, сваю цётку, якую ўсе тут звалі проста Тарасіхай, Васіль і пускаў у хату. Аднак Тарасіха была жанчына не гаманкая, на ўсе роспыты махала рукою і безнадзейна адказвала:

— Бяда-а-а... Ой, бяда-а-а...

Васіль Руднік быў чалавек яшчэ малады, год каля трыццаці.

Перад самай вайною ён ажаніўся. Узяў за сябе прыгожую дзяўчыну Алену Падвысоцкую, даярку з Забароўя. Ён доўга ведаў і любіў сваю Алену. І яны былі б, можа, самыя між людзей шчаслівыя. Ды не паспеў Васіль і за

рукі павадзіць маленькіх сваіх дзетак — дзяўчынку і хлопчыка,— як грымнула вайна. У першыя ж дні яго прызвалі. І ад таго часу да апошняга стрэлу па ворагу ён прабыў на фронце. Два разы Рудніка раніла, але, праўда, не цяжка, так што далей медсанбата яго не адпраўлялі. І так са сваёй часцю ён прайшоў ад Беларусі пад Маскву і ад Масквы да самага Берліна.

Сям'я Васілёва — жонка з дзецьмі і старая маці заставаліся пад фашысцкай акупацыяй. Пра іх Васіль нічога не ведаў аж да тых дзён, калі яго вёску вызвалілі. Тады ён атрымаў пісьмо ад свае цёткі. Тарасіха напісала, што маці яго памерла, а Алена з дзецьмі жыве не тут, а пайшла ў Забароўе да маці... А хата цэлая. І стаіць пустая, чакае гаспадароў...

Васілю адразу дужа падазроным здалося тое пісьмо. Чаго жонка кінула хату, што яе пагнала ў Забароўе? І чаму яна маўчыць, ён жа напісаў і туды? Сумна шчымела Васілёва сэрца. Хоць спачатку яшчэ і спадзяваўся: можа, палявая пошта па іншых дарогах носіць Аленіна пісьмо? А можа, варожаю бомбаю знішчыла дзе-небудзь дарагое жончына слова?

Фронт каціўся ўсё далей на захад, ужо баі ішлі на зямлі праклятых фашыстаў. Было відно, што вайна хутка скончыцца. А да Васіля Рудніка гэта як быццам і не даходзіла. Балючая трывога прыгнятала яго душу. Колькі ён ні пісаў пісем, усё не было яму ні вестачкі пра жонку і дзяцей. З адчаем пачаў ён думаць пра вялікае для сябе няшчасце. І нарэшце самае горкае стала вядома: яго Алены, яго дзетак няма і ў Забароўі. Пісала сама цешча.

*

Пасля пісьма ад цешчы Руднік спахмурнеў зусім. Што стала з яго сям'ёю? Што будзе з ім? Нявесела сустракаў ён Перамогу. Яго надоўга не затрымалі ў арміі. Ужо ў канцы векапомнага месяца мая адпусцілі дахаты. І тут, вярнуўшыся, ён ад Тарасіхі пачуў тое, чаго баяўся больш за ўсё: Алена і дзеці загінулі. Яны прапалі, калі пераязджалі Сож. Іх загубіў мясцовы паліцай Чапялюка. Ён доўга прыставаў да Алены. Таму яна рашыла перабрацца да маці. А паліцай падсцярог яе. І дагнаў на сярэдзіне Сажа. Хацеў завярнуць лодку назад. Алена адбівалася, і той бандыт перакуліў лодку. Гэта бачыў пастух з іхняе вёскі Ігнат Маркуська.

Чапялюка многа прынёс гора аднавяскоўцам. І таму хацеў уцячы з фашыстамі. Ды не ўдалося. Каля Быхава яго злавілі. І потым расстралялі...

Расказ Тарасіхі скрушыў Васілёву душу. Яму, які вызнаў столькі нягод дзеля адзінай радасці — сустрэць дзетак і жонку,— стала пуста ў гэтым свеце, не хацелася жыць. Ніякай цяпер мэты не было перад ім. І ён замкнуўся ад людзей. Кожны куточак у роднай хаце, кожная рэч, кожная дзіцячая драпінка на сцяне ці на лаве нагадвалі яму Алену і дзяцей — Паўліка і Маруську. Нічога цяпер у Васіля не было. А чалавек хіба можа так сабе жыць, калі знікла ўсё, што было яго першай апорай?

Сціснуўшы рукамі галаву, Васіль падоўгу сядзеў моўчкі перад цёткай. «Бяда-а-а...» — шапталі зморшчаныя, паблеклыя вусны Тарасіхі. Амаль не дакранаючыся да валасоў, Тарасіха гладзіла Васілёву галаву. Ён адчуваў гэту яе чалавечнасць і ніжэй апускаў і заплюшчваў вочы — каб не выдаць раптоўных мужчынскіх слёз. Тарасіха глядзела, як Васіль сцямнеў і асунуўся, і ўсё думала: чым бы яго ўскалыхнуць, як бы вывесці яго з хаты? «На волю трэба, да людзей трэба!» — падказвала ёй сэрца. І нарэшце яна прыдумала. Асцярожна настроіла Васіля на думку: а ці не пара яму пабываць там, дзе загінулі яго дзеці і жонка. Васіль прыслухаўся да цётчыных слоў. А пасля і запытаў, а як жа знайсці тое месца?..

Праз колькі хвілін Тарасіха за руку ўвяла ў хату крыху непаваротлівага Ігната Маркуську, таго самага, што ведаў, дзе ўтапілася Алена з дзецьмі. Мужчыны павіталіся без слоў, амаль не гледзячы адзін на аднаго. Нібыта даўно паміж імі ўсё было дамоўлена, і няёмка і сорамна ім варэдзіць старое...

Маркуська прывёў Васіля з Тарасіхай на высокую белую гару за Пікаварняй. Унізе шырока і вірліва каціўся Сож. Адным крылом ён урэзаўся ў мелавыя кручы наструненага саснов ага бору, а другім абмываў пясчаныя трыснікі заліўнога лугу. «Там...» — паказаў Маркуська ўніз, у серабрыстае шалясценне быстры, дзе завіхраліся два сустрэчныя струмені. Васіль добра ведаў гэтую мясціну. Гэта быў славуты Асінаўскі пераезд. Як калісьці, і сёння тут натоўпам стаялі прымкнутыя і непрымкнутыя лодкі. Бо з гэтага пераезда лягчэй за ўсё трапіць у бліжэйшыя засажоўскія вёскі. У адной з іх — у Забароўі — вырасла і яго Алена...

Васіль доўга стаяў нерухома пад сасною... Ён успамі-

наў сваё юнацтва. Вунь там віецца ў расцяробах дубенская дарога. Колькі разоў ён хадзіў па ёй з Аленай. А за пясчанымі гарбамі каля Дубні ёсць разгалістая вярба над крынічкай. Васіль уявіў сабе тую вярбу і тую крынічку, і яму пачулася з глыбіні гадоў, як ціха спявае Алена... І раптам яму так захацелася кінуцца да тых сцяжын, да тых гадоў і сустрэч, да таго спявання і таго шчасця!.. Адарваўшыся ад сасны, Васіль размашыста скочыў на мелавую сцежку, пабег уніз.

— Што з ім?!.— спалохана запытаў Маркуська, убачыўшы, як кінуўся Руднік да лодачнага прычала.

— Нічога... Хай... Хадзем дахаты... Усё будзе добра...— адказала Тарасіха. І кранула Маркуську, які збянтэжана назіраў, як Руднік таропка адпіхвае ад берага човен.



Руднік вярнуўся дадому толькі назаўтра і пасля гэтага стаў як бы зусім іншым чалавекам. Ён не сядзеў цяпер у сваім закуцці. Праз некалькі дзён яго ўбачылі ля хаты, на вуліцы, ля калодзежа. Ён тупаў у садочку, папраўляў сенцы, страху, прасла. Прыходзілі да яго людзі, і ён нікога не цураўся. Тарасіха радавалася. Але нешта яе і непакоіла. Васіль ладзіў сваё гняздо, а між тым, заўважала Тарасіха, ён збіраўся яго пакінуць. Пачысціў свой шынель, склаў у чамадан няхітрыя салдацкія набыткі. Хадзіў задуманы, здаецца, да ўсяго прыглядваўся апошні раз...

Тарасіха глядзела-глядзела на маўклівага свайго пляменніка і не вытрымала.

— Васіль...— сказала яна, падышоўшы да стала, за якім сядзеў пляменнік.— Скажы ты мне, няўжо ты такі кволы, а? Няўжо вайна не навучыла, каб ты ўсё мог? Ты ж малады, ты ж дай шчасце людзям, яны яго шукаюць... А, Васіль?!.

Васіль Руднік збянтэжыўся, прыслухаўся, пра што гаворыць цётка. Ніколі б ён не падумаў, што яна будзе яго судзіць.

— Падумай сам, хіба ж ты вінаваты,— між тым гаварыла Тарасіха.— Хіба ты вінаваты, што яны прапалі?.. Нашто ж табе кідаць свой кут, а? Ты сірата. А колькі ёсць яшчэ сірот. Дай жа ты руку другой сіраце. І жывіце, лягчэй вам будзе... А, Васіль...

— Цётачка, любенькая,— сказаў ён, як калісь у маленстве. Ступіў да яе, узяў маленькую, лёгенькую, скаржэлую руку, пацалаваў.— Ты ж у мяне адна. Як маці мне. Дык павер... Не магу я тут заставацца. Не магу... Кіну хату на цябе... знойдзецца хто бяздомны — хай жыве...

— Бяда-а-а...— скрыпуча вымавіла Тарасіха сваё прывычнае слова. Падцісну́ўшы губы і ківаючы галавою, глядзела некуды міма Васіля, нешта, відаць, абдумвала. І нечакана кінула ў Рудніка балючымі словамі:

— Не любіў ты іх... Не любіў... А то не бег бы ад іхніх дарожак... Не!.. Не...

Усё так жа ківаючы галавою, Тарасіха пасунулася ў трысценак, забразгала посудам. Васіль стаяў ашаломлены. Гэта няпраўда, што ён іх не любіў!.. Ён не ўцякае ад дарагой зямлі, ад дарагіх дарог! Але што ж яму зрабіць? Як пазбавіцца ад пакутнай скрухі?..

— А вось каб ты любіў іх...— вярнуўшыся, далей гаварыла цётка.— Каб любіў... дык назваў бы сваю другую дачушку Аленай, а сына зноў Паўлікам...

— Цётка!..— крыкнуў Васіль. Тарасіха адчула, што сказала мо і лішняе, але не змоўкла, праказала нават чорства:

— Мала ў вёсцы людзей засталося, мала. Вунь на трактар шукаюць, а ты ж вучыўся. Падумай. Ад сябе не ўцячэш.



Канчаўся дзень, наставаў самы маркотны для Васіля час. Тарасіха пайшла. Васіль хадзіў па хаце, не ведаў, куды дзецца. Цётка сказала праўду. Гэта так — дзе, у якой старане ён схаваецца ад свайго гора, ад самога сябе? Усё роўна ён будзе бачыць гэту зямлю, чуць родныя галасы. І тым больш яму будзе балець, чым далей апынецца ад сваёй стараны...

Быў ужо зусім вечар, калі дзверы ў Васілёву хату з грукатам расчыніліся. Васіль Руднік не паспеў і здзівіцца, як перад ім вырасла мажная постаць маладога мужчыны.

— Друг! — радасна загаварыў ён да Васіля.— А, браточка, колькі гадоў! Дай руку, Васіль!.. Пазнаў?.. Пазнаў, пазнаў!

Пецька Грамец, Рудніка́ў прыяцель даваенных год, добры хлопец, трактарыст і вясёлы запявала, ціснуў Васі-

лю руку і, не даючы яму нічога адказаць, важка кідаў гулкія ў руднікаўскай сіроцкай хаце словы:

— Ведаю, ведаю!.. Толькі, братачка, вярнуўся і ўсё ведаю. Гэткае ў цябе гора. Ды што зробіш? Нельга так марнець, пара жыць. Пара, пара, браце Васіль!..

Васіль Руднік, ашаломлены шумным націскам сябра, не заўважыў, як выйшаў з ім на вуліцу, не разумеў, куды з ім ідзе. Ён і не спрабаваў нічога зразумець, ён быў нават рады, што ўсё так адбылося.

— У мяне, братачка, таксама гора...— гаварыў Пецька, моцна трымаючы Васіля пад руку.— Ты не чуў? У мяне ж бацьку немцы забілі. І Міша наш на вайне прапаў. Адно, братачка, шчасце — маці засталася. Будзем жыць! Як-небудзь жа трэба жыць, Вася!

Так яны пасоўваліся наперад — адзін, можа, нават занадта ўпэўнены і шумна-гаваркі, а другі — як быццам выпадкова трапіўшы на гэту цёмную вуліцу. І раптам апынуліся перад чатырма цьмяна-асветленымі вокнамі. Ляпнулі дзверы, пачулася, як рыпнуў гармонік. Васіль пазнаў гэтыя чатыры акны: то быў калгасны клуб, у якім прайшло столькі яго вечароў да вайны. Грамец мацней сціснуў Васілёву руку, лёгка падштурхнуў уперад. Руднік не стаў супраціўляцца. Што ж, нарэшце патрэбна ўзбівацца на нейкую дарогу, ён жа не чужы людзям, ён заслужыў, каб яго падтрымалі.

Пецька Грамец ірвануў дзверы клуба і, прапускаючы Васіля, весела крыкнуў:

— Надымілі, як чэрці ў пекле! Ану, не курыць! Падпальшчыкі!

У клубе дружна засмяяліся. Было відно, што весялун-Грамец ужо быў тут сёння, і ўсе радаваліся, што ён вярнуўся. Сціх рыпаць гармонік, Грамца і Рудніка абкружылі, паціскалі рукі, некалькі дзяўчат-падлеткаў паднялося, каб даць ім месца. Грамец павярнуў туды Васіля, і Руднік, адчуваючы на сабе дзесяткі цікаўных позіркаў, цяжка апусціўся на шурпатую лаўку.



Як і ўсе людзі, якія па нейкай прычыне страчваюць сувязь са сваім асяроддзем, Васіль Руднік адчуў сябе зусім адзінокім у гэтым людскім акружэнні. Яму хацелася схавацца за Пецькаву спіну або рашуча падняцца і ру-

шыць адгэтуль. Але ў той жа час яго цягнула скончыць са сваёй адзінотай, нешта падбівала яго пайсці насустрач цікаўным позіркам, аддацца ва ўладу калектыву. Бо іначай ён не ўяўляў, што і як з ім будзе рабіцца далей. І, слухаючы нейкія далёкія-далёкія, як бы з другога канца вёскі, словы Грамца і слабы голас гарманіка, які падбіраў бязладна-вясёлае папуры, Васіль усёй душою рабіў намаганні, каб вярнуцца ў свет, назусім пакінуць глухі і беспрасветны закутак у самім сабе. Ён падняў вочы, абвёў позіркам залу. Кіўнуў аднымі вейкамі гарманісту, аднаногаму Івану Якуціку, які стаў калекам яшчэ да вайны. Іван у адказ шырока разгарнуў мяхі гармоні, зайграў песню аб дарогах, якія прайшоў салдат, каб вярнуцца дамоў. Васіль Руднік убачыў, што многія са сваіх лавак радасна ківаюць яму галовамі. І адчуў, як яго душа мякчэе, наліваецца цеплынёй, раскрываецца насустрач жыццю. Як родныя, азіраў ён твары аднавяскоўцаў. Людзі сядзелі на лаўках усцяж чатырох клубных сцен. Большасць тут было дзяўчат і маладзіц і зусім мала хлопцаў. Дзяўчаты былі ўсе маладыя, многіх Васіль пазнаваў, ведаў па імёнах, а багата пра якіх толькі здагадваўся — яны нагадвалі знаёмых яму сваіх бацькоў. Гэтыя дзяўчаты падраслі за вайну. Руднік, як брат, глядзеў на іх такія чыстыя, мілыя, слаўныя твары. Калі раней яму ні на міг не давала спакою думка аб сваёй самоце, то зараз, як пасля цяжкога бою, ён пачынаў як быццам сцішвацца, адпачываць збалелым сэрцам.

Раптам адна маладая дзяўчына, можна сказаць, зусім яшчэ дзяўчынка, якая сядзела побач з гарманістам, паднялася і спытала ў Васіля:

— Дзядзечка, а можа, вы тут хочаце сесці?

Нічога незвычайнага не было ў гэтым пытанні, але Рудніку зноў стала скрушна і цяжка. Страшна балюча Руднік усвядоміў, які ён ужо стары. Ён успомніў словы Тарасіхі: «А ты ж ствары тут новае жыццё...» А як стварыць? Вось тут сядзяць дзяўчаты... добрыя, шчырыя... Яны шмат пабачылі гора. Ведаюць, як баліць душа. Але ж яны ўсе такія маладыя... Ці зразумелі б яны яго скруху, яго ўспаміны аб днях і пачуццях, якія не могуць паўтарыцца, але не могуць і забыцца?..

Гармонік парыпваў адзін за адным то павольныя, то ўзлётныя танцы. Але ніхто з маладых не ўставаў, не выходзіў на круг. Васіль азірнуўся на Грамца: чаму ж моладзь не танцуе?..

Пецька, які, мабыць, даўно чакаў такога пытання, падхапіўся ўзрадаваны:

— Эх, братачка, братачка, яны ж ведаюць, усё ведаюць... Як жа яны пойдуць перад табою?.. Ідзі сам, пакажы ім!.. Ідзі! Друг...

Васіля скаланула ад Пецькавых слоў. Яму танцаваць! Як гэта можна? Лепей ён пойдзе адсюль, не будзе ім замінаць. Але ён не падымаўся, яму страшна было ўстаць і выйсці з клуба і тым парваць ценькую нітачку, што звязала яго сёння з людзьмі. Нечакана яго позірк спыніўся на светлай задуманай маладзіцы, твар якой быў яму незнаёмы. Яна сядзела ў гурце маладых дзяўчат, такая ж, як яны, маладая, але з нейкай такой журботнасцю ў абліччы, якая гаварыла, што гэта ўжо не дзяўчына. Васіль яе не ведаў. Значыць, яна ці прыйшла сюды з другой вёскі ў госці, ці з'явілася тут за вайну. Нешта вельмі роднае кінулася ў ёй Васілю. Што гэта такое, што роднае? І раптам Рудніку зноў краянуў сэрца яскравы ўспамін. У яе, здалося яму, было ўсё, як у яго Алены! У яе былі такія ж летуценныя, крыху стомленыя, вочы, у якіх затаілася вялікая рупнасць за жыццё; і губы, трошкі падпухлыя, сціснуліся ў куточак, са складачкай смутку, якраз як у Алены, калі яна праводзіла яго на фронт: і рукі, спрацаваныя, шырокія, як мужчынскія, рукі, ляжалі на каленях, нібы два натруджаныя крылы ў птушкі...



У адзін міг убачыўшы ўсё гэта, Васіль адвёў вочы ўбок, стараўся не глядзець туды, не рабіць сабе лішняга болю. Але ён ужо не мог не думаць пра яе. Ён адчуваў, што з першай хвіліны, калі ён на яе паглядзеў, між ім і той незнаёмай жанчынай паўстала нябачная душэўная сувязь. Безумоўна, ён не ведаў, што яна таксама думала аб ім. Ды калі ён нічога не ведаў ні пра яе, ні пра тое, што яна думае аб ім, дык яна ведала пра яго ўсё. І таму, што яна так добра ўсё пра яго ведала,— ёй балела яшчэ больш, чым яму.

Адчуўшы пільны яго позірк, яна думала пра пякельны свой лёс — пра тое, як люта абышлася з ёй маладосць. Прыйшоў ліхі чалавек, зусім дзяўчынкай узяў яе ў жонкі, а потым зрабіў яе жыццё горай, чым у горкай няволі... А потым падвёў пад расстрэл яе бацьку і маці — за тое,

што заступіліся за яе... А пасля... Колькі нарабіў няшчасця, колькі крыўды пакінуў... I вось яна глядзіць на чалавека, якога бачыць упершыню, і думае, што зараз ён выкажа сваю нянавісць... А за што?... Хіба не прыняла яна здзекаў на сто год уперад?.. Хіба не заслужыла яна спагады?.. Толькі хто ёй дасць тую спагаду... Ад каго ёй чакаць спачування і жалю?!.



От жа бачыш, як бывае...— хваляваўся між тым Васіль.— Чаму яго цягне да гэтай жанчыны? Ён жа нават не ведае, хто яна такая... Вунь сядзяць побач з ёй дзяўчаты... можа, і прыгажэйшыя... можа, нават надта прыгожыя... А ён усё ж, калі б пайшоў зараз танцаваць, дык толькі з гэтай...

Васіль сядзеў і мучыўся пакутным сумам. Яму раптам захацелася стаць блізка ля гэтай жанчыны. Хай бы яе шырокія рукі закінулі яго неслухмяныя валасы за скроні. Хай бы яна і не дакранулася да яго. А ён бы стаяў і нічога не помніў, адпачываў ад вайны, ад гора, ад самога сябе...

Можа, таму, што ўсё ў ёй нагадвала яго Алену, Васіль адразу вельмі паверыў у гэту жанчыну. Ён верыў, што яна зразумела б яго мінулае і яго будучае, якога ён не ўяўляў сабе яшчэ і сам. I ён падумаў: а што, калі і праўда — устаць яму зараз, ды падысці да гэтай жанчыны, ды ўзяць яе за руку і павесці ў круг?.. Калі-небудзь ён жа зробіць такі крок... Васіль павярнуўся да Пецькі Грамца.

— Што ж, Пецька...— сказаў яму аднымі губамі, слухаючы, як тахкае ўзрушана сэрца.

— Вальс! — усё зразумеўшы, гучна і ўладна выгукнуў Пецька Грамец, і гарманіст Іван Якуцік шырока разгарнуў мяхі.



Усе вочы ўставіліся на Васіля Рудніка, і цяпер ён ужо не мог не ўстаць першы. Ён правёў рукою па колкай барадзе, як бы просячы ў людзей выбачэння, і паволі падняўся. Усе замёрлі. Каго выбера сабе гэты бядак, мужны франтавік і адзін з лепшых у вёсцы мужчын? Васіль разумеў, што сваім выбарам ён, магчыма, вынесе зараз сабе

прысуд. Але ўсё ж ён зрабіў ужо гэты выбар. Цвёрдым крокам ён перайшоў залу і спыніўся каля сваёй незнаёмай. Яна спачатку збянтэжана адхіснулася ад яго, закрыла вочы рукою, потым хуценька паднялася. Твар яе гарэў.

Васіль, разгубіўшыся, раптам адступіў назад, але авалодаў сабою. Узяў жанчыну за локці, даў зразумець, што іх чакаюць, што трэба ісці на круг. Крыху прыцягнуў да сябе, адчуў яе дзявочую лёгкасць і рашуча павёў пад задумлівае гранне гармоніка.

І ў гэты момант на ўсю моц пачуўся прарэзлівы спалоханы голас нейкага падлетка:

— Гэта ж Чапялюкава жонка!..

Гарманіст рэзка спыніў гранне. Клуб замоўк. Цяжкая цішыня ўсталявалася над усім. Чапялюкава жонка! Дык вось каго выбраў Васіль Руднік для першага вальса! Адны са здзіўленнем і спалохам, другія з трывогай і жалем глядзелі на Васіля. А яму гэты крык падлетка пасек сэрца на балючыя кавалкі. Чапялюкава жонка! Таго, хто загубіў Алену і яго дзяцей... Божа мой!.. Як жа гэта так адбылося!.. Што ж яму рабіць з гэтай жанчынай... Гарачая і дрыготкая, як зусім непрытомная, яна стаяла, прыхінуўшыся да яго грудзей. І ён падумаў: а можа, ён, адштурхнуўшы яе, і сам зараз заб'е чалавека?.. Можа, яна пабачыла гора не меней, чым ён... Але што ж яму рабіць... Трэба, каб маладыя танцавалі... А яму льга пасядзець... Не абяртаючыся, ён махнуў свайму рашучаму другу, Пецьку Грамцу, і той зразумеў яго.

— Вальс!!! — з шырокім дыхам выгукнуў Пецька, і яшчэ нешта скамандаваў, і, нібы прапячатаў, прытупнуў нагою. І ўслед за ім Іван Якуцік грымнуў страдаўнюю прыгожую «Бярозку», заглушаючы людскія трывогі і сум, суцяшаючы збалелыя сэрцы пяшчотным граннем. Васіль Руднік адхінуў ад сябе Чапялюкаву жонку, за руку падвёў да лаўкі, сеў сам побач з ёю. Яна схіліла нізка галаву, горка заплакала. Васіль закалаціўся, нібы ў ліхаманцы. Нешта казала яму, што нядобра сядзець з гэтай жанчынай. А нешта другое пытала ў душы: а за што? За што ён павінен пакрыўдзіць жанчыну, якой зусім не ведае, да якой так пацягнула яго нейкая сіла?.. Раптам ён убачыў, як часта і цяжка дыхаюць жылы на яе шырокай спрацаванай руцэ, і нечакана для самога сябе спытаў:

— А ў цябе... у цябе ёсць... хто-небудзь?..

Жанчына рогам хусцінкі прыкрыла вочы, спыніла дыханне. Глыбока хліпнуўшы, адмоўна паківала галавою.

Васілю стала сорамна. Які ж ён слабы чалавек. З усіх сірот перад ім была самая, можа, пакутная ў свеце! Як жа ён мог падумаць, што яму з ёю зрабіць? Яму захацелася сказаць ёй нешта вельмі цёплае. Але ён не знаходзіў у сабе такіх вартых слоў, і яму зноў кінуліся ў вочы яе добрыя рукі. Як бы зусім недарэчы, ён спытаў:

— А табе... табе гладзіў руку... хто-небудзь?..

— Н-не...— тужлівым шэптам, адnымі слязамі, адказала жанчына.

Васіль Руднік пракаўтнуў у горле нейкі свербны ком. Рыпаў гармонік, скована і стомлена круціліся пары, і несусветная самота варушылася ў самім Васілю і плакала побач з ім... І Васіль раптам сваёй агрубелай рукою мінамётчыка рашуча пагладзіў руку жанчыны. Жанчына скаланулася, усхапілася пайсці. Але адразу села, здранцвелая. І Васілю зноў захацелася зрабіць ёй хоць нейкую ласку. І ён прыкрыў мокрую ад слёз усю паверхню яе рукі сваёй памякчэлай рукою і адчуў сэрцам, што як бы там ні было, а ён ніколі не дасць у крыўду гэтую жанчыну.

Вакол іх сядзелі, кружыліся, любілі, марылі аб нечым дзесяткі і сотні сірот. І Васіль Руднік, як вернуты да жыцця скарб, трымаў у сваёй руцэ гарачую жаночую руку, якую ніколі дагэтуль не гладзілі мужчынскія рукі...

*1966*

## БАРАВІКІ З КУРГАННЯ

Пасля цэлага месяца ліпеньскай спёкі сабралася над нашай вёскай навальніца. Грымела ўсю ноч, і спорны аж да раніцы дождж шчодра мачыў перасохлую зямлю. Раніцаю як быццам праяснілася: вырвалася з-за хмар пасвяжэлае сонца, усё наўкруга заіскрылася, заспявала, зазвінела. Але ненадоўга. Хутка зноў захмарыла, дождж разахвоціўся і дробна ды густа ліў да самага вечара і ўсю наступную ноч.

Распагодзілася толькі на трэція суткі. І адразу вёску абляцела навіна: у Кургапні баравікоў хоць касой касі.

Курганне — гэта ў нас недалёка ад вёскі славутая мясціна над Сажом, дзе па шырокім полі калісьці шмат было насыпана курганоў. Незадоўга перад вайною на гэтым

месцы пасеялі сасновы лес. Мусіць, таму пасеялі, што зямля тут надта неўрадлівая — пясок ды падзол. Я памятаю, і ў майго бацькі была тут палоска, і заўсёды яна ляжала нечапаная, укрытая парэпанымі, аброслымі як бы нейкай соллю, камякамі. Калі-нікалі бацька ўзорваў яе, раскідаючы плугам закрайкі старых курганоў. Але ніколі нішто тут не радзіла. І ў іншых было таксама. І мне гэтае поле запомнілася толькі тым, што мы любілі гуртам узбірацца на высокія курганы і перагуквацца, уяўляючы сябе палкаводцамі ці арламі...

Вось цяпер у лесе на Курганні, на маладых імшаніках, і з'явілася безліч баравікоў, якіх, як ішло па вёсцы,— «хоць касой касі». Я быў здзіўлены і злосны на самаго сябе. Гэта ж я такі грыбнік, такі аматар — як жа не мог падумаць пра маладым лес? Трэба было чакаць, што тут з'явяцца баравікі, ды яшчэ пасля такога цёплага дажджу. Давядзецца цяпер ісці па чужых слядах, хоць і вельмі прыкра натыкацца толькі на абрэзаныя карані. Але што ж, нічога не зробіш. Заўтра, безумоўна, я ўжо не прасплю — устану раненька, калі яшчэ і грыба таго не відаць. А што рабіць сёння?

Усё-такі я не вытрываў, узяў лазовы кошык (у нас іх робяць вельмі прыгожа — белыя, з ружова-сінімі закрайкамі) і сцяжынкаю цераз грэчневае поле пашыбаваў да лесу.

Да Кургання ад вёскі недалёка — можа, вярста, не больш, аднак ішоў я туды даўгавата. Не ведаю нават, з чым параўнаць, як я люблю пах грэчкі, гэтага малочнага, са светла-ружовай пенай, далягляду. Столькі тут асалоды ды пекнаты, галава пачынае злёгку кружыцца; садзішся на камлюгу або на купіну і не можаш надыхацца такім салодкім зямным хараством. Я і сёння не абмінуў грэчкі, таму ў лес прыйшоў ужо крыху стомлены ад пахкага налявога настою. Але ўсё ж у лесе аджыў; вочы радасна забегалі па імшаніку паміж сосен, і хутка — ах! — толькі-толькі абветраны баравічок з рудаватай цёмнай галоўкай як бы схіліўся ў паклоне мне насустрач. Я не адразу да яго падышоў. Я ніколі не падымаю грыба адразу. Мне так прыемна палюбавацца на яго, агледзецца. Паставіў кошык і, азіраючы мясцінку навакол знойдзенага баравіка — а ці няма тут яго брацікаў? — палез у кішэню па ножык. Я дужа не люблю адрываць грыб з карэннем ад зямлі. Заўсёды падразаю баравік ножыкам на кoрані, і ён сам адвальваецца набок, пакідаючы ў зямлі сваю белую пу-

павіну, гэта значыць — новую завязь. Але сёння мне не пашанцавала. Я не знайшоў у кішэні пожыка. Мабыць, забыў дома. Гэтая непрыемнасць адразу сапсавала мне настрой. Я стаў шукаць хоць якой-небудзь трэскі, каб неяк падрэзаць корань грыба. Але і трэскі ў гэтым чысценькім лесе нідзе не было. І ўпершыню за сваё жыццё я рашыў падняць баравік не падразаючы, з коранем. Злёгку націснуў на корань — пясчаная, сыпкая зямля падалася паслухмяна. Баравічок павіс у руцэ з леташнім шыгаллем і пяском, і мне здалося, што нешта абарвалася ў тую хвіліну паміж мною і лесам.

Потым я вельмі хутка знайшоў яшчэ два баравікі, і абодва маладзенькія, крамяныя. Я ўжо радаваўся: мусіць, натрапіў на некранутую мясціну. Аднак на гэтым мае знаходкі і спыніліся. Пасля трох баравікоў, колькі ні хадзіў па лесе, натыкаўся толькі на свежае карэнне, і гэткае грыбаванне хутка мяне зусім стаміла. «Усё роўна няма пожыка, чаго хадзіць»,— падумаў я і рашыў адпачыць. Я ў гэту хвіліну быў якраз каля высокага кургана, на вяршыні якога стаіць каржакаватая з вузлаватымі ніжнімі галінамі сасна. Мне помняцца з маленства і гэты курган і гэтая сасна. Калісьці курган быў каля самай дарогі; потым, як сеялі лес, дарогу зааралі, а ў маленстве мы любілі ўзлазіць на курган і куляцца ўніз на дарогу. Узлазілі мы і на каржакаватую сасну. Таму ў яе і галіны вузлаватыя, што неаднойчы сукі былі абдзёртыя і паламаныя.

Вясной на гэтым і суседніх курганах пышна расцвітала кветка сон, і з часу маленства ў мяне асталося сваё тлумачэнне, чаму кветка так завецца. Гэта яна таму так завецца — разважаў я тады і думаю так і дагэтуль,— што расцвітае на магілах, дзе і напраўду спяць людзі, і кветка сон устае як іхні вартаўнік, як помнік ім; а вясною, яшчэ з-пад снегу, яна расцвітае таму, што вельмі многа збіраецца за зіму ў магілах смутку. І кветка расцвітае сінім колерам смутку, і ніхто не можа прайсці міма Кургання, не падумаўшы тут з журбою аб лёсе людзей і часін...

А тым болей наша Курганне — яно палілося крывёю і зусім нядаўна. Калі лютавалі на нашай зямлі фашысты, то недзе ля гэтых курганоў па-зверску забілі чатырох вясковых камуністаў. Пятаму, якога кінулі ў агульную яму і завалілі ламаччам яшчэ жывога, удалося ўратавацца. Ноччу, акрываўлены, ён неяк вылез з-пад таго ламачча. Гэта быў наш каваль Андрэй Якушок, чалавек жылісты.

моцны, рэдка вырастаюць такія асілкі. Праўда, потым Якушок загінуў у партызанскім наступленні. Але яго страшны расказ — як забівалі камуністаў — памятаюць і сёння людзі ўсёй акругі.

Камуністаў прывялі сюды звязаных. Канваіравалі іх гестапаўцы і вясковы здраднік, фашыстоўскі паслугач — люты і бязлітасны кат. Гестапаўцы прыдумвалі розныя катаванні, а ён са скуры вылузваўся, каб ім дагадзіць.

— Я слышаль, чшто большэвік не любійт умірайт звязаны,— з усмешкай сказаў гестапаўскі обер-лейтэнант і паглядзеў на здрадніка.

— Так, так, пане обер-лейтэнант, не любіць, не любіць... а-хм...— выгнуўшыся, адказаў той.

— Нада развязайт большэвік...

— Так, так, пане обер. Я ўмею, гм, я ўмею, пане обер...— угодліва адказаў здраднік і кінуўся да камуністаў. У яго руках бліснуў сякач, якім ссякаюць качаны капусты. З размаху біў ён секачом па руках сваіх ахвяр да таго часу, пакуль тоўстая пяньковая вяроўка не разлязалася. Рукі ахвяр былі скалечаны страшна. У некаторых нават адсечаны пальцы. Калі здраднік скончыў сваю работу, то і сам ён быў з галавы да ног запырсканы крывёю. Нават обер-лейтэнант, убачыўшы яго такога, гідліва плюнуў.

Фашысты, мусіць, чакалі, што хто-небудзь з камуністаў не вытрымае, папросіць літасці. Але здарылася наадварот. Пяць знясіленых катаваннямі чалавек рынуліся на здрадніка. Можа, яму тут і былі б канцы, каб не аўтаматчыкі з аўчаркамі. Што там было! Кроў, стрэлы, шалёны енк сабак... Камуністаў, ледзьве жывых, збілі ў цесны гурт — адзін да аднаго — і, як сноп вязьмом, звязалі адной вяроўкай. І пачалі біць арэхавымі кіямі. Білі доўга і па чым папала. А калі ўбачылі, што і гэта не зламіла іх мужнасці, то сталі расстрэльваць. Стралялі з аўтаматаў проста ў гэты сноп, і сябры па барацьбе так і ўпалі разам, як разам прымалі мукі за родную зямлю...

Бываючы на Курганні, я заўсёды ўспамінаю Якушкоў расказ. І не магу пазбавіцца ад сумнага настрою. Хоць і ведаю, што такія жахі ў дні варожай навалы былі не толькі тут. Але я думаю: а што ж, калі не толькі тут? Хіба ад гэтага можа быць лягчэй?

Сёння я адразу пазнаў свой знаёмы курган, хоць ён многа змяніўся. Ён не бліпчаў голымі пясчанымі бакамі, як калісьці, а ўвесь наўкруга аброс, як барадою, гусцень-

кім дубняком, а на вяршыні, вакол старой сасны, чамусьці выпырхнуў маладзенькі бярэзнічак. Гэты бярэзнічак нагадваў нечым вясковых худзенькіх дзяўчатак: такі ён быў зыркі і сарамлівы, і нейкі, я сказаў бы, цікаўны — маленькія востранькія лісточкі пад лёгкім подыхам ветру ўсё нібыта імкнуліся зазірнуць уніз, на мяне, а вецер адхіляў іх назад.

Мне так захацелася пабываць на вяршыні кургана, як у маленстве: гоп-гоп! — некалькі падскокаў, і ты ўжо дзярэшся пад самую сасну. Ну ж, пабачым, які яшчэ астаўся спрыт у былога аматара ваяўнічых прыгод? Праўда, цяпер нешта тая лёгкасць не ўдалася; пакуль пралез праз дубняковую бараду, дык ледзь стрымліваў дыханне. Але затое з якой асалодай апусціўся я на зялёны мох кургана, перасыпаны светла-чырвонымі пасмамі ўжо амаль што даспелых брусніц! Набраў жменю сакаўных ягадзін і ўкінуў у рот — дзівосна! — іх лясная, нейкая трохі сцюдзёная кіслінка злёгку затуманіла зрок, што аж галавой закруціў. Аднак хацелася пакаштаваць іх яшчэ і яшчэ. Я прыхінуў кошык да цупкіх бярэзінак, сам абапёрся спінаю аб сасну і стаў выдзіраць з моху буйнейшыя і чырванейшыя брусніцы. Не памятаю, як доўга я частаваўся курганнымі ягадамі. Усё разам: і стома, і сонца, і водар сасновага церпкага настою зрабілі мяне нейкім лёгкім-лёгкім, і, як тая пярынка, я апусціўся на мох...

Па-мойму, я не спаў, я мог бы прысягнуць, што тады не спаў, калі раптам нехта шумна наступіў мне на нагу. І прытым наступіў так цяжка, што я нават прыўскочыў, гатовы вылаяцца на поўны зарад. Але як толькі павярнуўся ў той бок, адкуль пачуўся шум,— аслупянеў. Перада мною стаяў чалавек, страшны сваёй запушчанасцю, нейкай дзікай першабытнай жахлівасцю. З галавы да ног ён аброс нечым накшталт моху ці ляснога лішайніку; з вушэй тырчалі доўгія і, відаць, шорсткія, як дрот, валасы. Калматыя, нераблытаныя, злямчаныя бровы навісалі над вачамі, у якіх нічога не было відно, як у цёмных ямінах, але зрэдку адтуль бліскалі іскрынкі чорнай пагрозы. Апрануты быў чалавек у страшэннае рыззё, што між тым нагадвала ўсё ж нейкую вайсковую форму.

Чалавек паківаў валасатай галавою і разявіў рот — і калі ён рабіў гэта, то пачуўся скрыгат, як быццам разыходзіліся паржавелыя бэлькі, звязаныя такім жа паржавелым дротам. Прызнаюся, ад гэтага скрыгату ў мяне пахаладзела па душы. А чалавек ужо гаварыў, калі можна

было так пазваць хрыплы і глухі, як падземнае рэха, голас, у якім усё ж чулася, я б сказаў, нейкая падкрэсленая тэатральнасць.

— Ты, значыцца, сюды з'явіўся. А-хм. Гм. Мала таго, што калісьці блазнюком не даваў мне спакою... хм... дык і сёння прыйшоў... а-гм...— Чалавек памаўчаў, пасоп, пажаваў брудныя вусы і раптам, як бы для вялікага мноства людзей, крыкнуў: — Ніхто не павінен нікому перашкаджаць! А-хм. Ты хіба не бачыш гэтых метак на моху? Гм... Гэта я тут сяджу, а тут стаяць мае ногі, калі я адпачываю. Ты чаго сюды ўспёрся? Табе другога месца няма? Зямля табе малая? А-хм... Гм...

Я глядзеў на страшнага чалавека не толькі з жахам, але і з нечаканай цікавасцю. Бо нешта ў яго манеры гаварыць мне пачулася знаёмае. Да таго ж гэтыя словы: «Ніхто не павінен нікому перашкаджаць...» Чаму яны так круцяцца ў памяці? Я пакуль што не мог вымавіць ні слова. Толькі думаў, што, як нідзе, трэба тут быць вельмі асцярожным. Пакуль не ведаю, з кім маю справу. І калі чалавек змоўк, то маўчаў і я. Праўда, я пакасіў вокам туды, куды паказваў гэты дзівак, і напраўду, побач з месцам, дзе я толькі што ляжаў, убачыў выціснутую ад сядзення ямку па купіне, а спераду купіны — выбіты нагамі мох. І ўсё ж я не мог ніяк спыніцца на думцы: што са мною робіцца? Можа, на мяне найшоў нейкі псіхоз? А можа, сплю і сню недарэчны сон?.. Але ж усё навокал было як і раней: свяціла сонца, глыбока дыхаў лес, абдаючы парнай стомай перагрэтых соснаў, і вунь мой кошык каля бярэзінак, і вось мох, дзе я быў прылёг...

Нечакана я адчуў, што ў маёй душы пачынаецца змена настрою. Пачала прыходзіць тая бязмежная злосць, якой, часамі бывае, і сам не разумееш. Відаць, зараз яна была вынікам нежаданай сустрэчы. Мяне пачыналі злаваць словы гэтага бруднага страшыдлы, ды і наогул яго з'яўленне перада мною я пачынаў лічыць вялікай і грубай непрыстойнасцю. Адкуль ён узяўся? Што яму трэба. Хіба я яго клікаў?.. Але між іншым — усё ж цікава: хто ён, гэты чалавек? Ён мяне ведае? Значыцца, і мне ён знаёмы? Але хто ён? Каго нагадваюць мне гэтыя задзірлівыя ноткі ў голасе?

Чалавек жаваў губамі вусы, як быццам усё смакуючы сваё глухое і скрыпучае «а-хм, гм...», а я думаў... І нарэшце ўспомніў, каго ён мне нагадвае. У ім праглядвала многа падобнага на аднаго былога жыхара нашае вёскі —

Івана Дульку. Ён быў у нашай вёсцы самы славуты жыхар. Я помніў яго яшчэ з тых дзён, калі пайшоў у школу. Не ведаю, дзе ён што рабіў. Магчыма, ён ніколі нідзе не працаваў. Але ў любой справе, пры любой падзеі Іван Дулька з'яўляўся як нейкая затычка. Усе дзівіліся: адкуль Дулька ўхітраецца ўсё ведаць і да ўсяго прычапіцца? Не паспее, напрыклад, нехта з некім перакінуцца словам, а Іван Дулька ўжо там, як дурань на памінках. Ужо нешта крычыць, махае рукамі, за нешта ваюе. Дзе людзі маглі б мірна разысціся, дык Іван Дулька падліваў масла ў агонь. Заўсёды ён спрачаўся і нешта даводзіў. І выходзіла ўсюды неяк так, што вёска была вінаватая, а адзін Іван Дулька справядлівы. Асабліва любіў Іван Дулька змагацца за розныя правы. Нечага ўсё для сябе дабіваўся. Для сябе! — я хачу падкрэсліць, бо ў тым якраз і была яго барацьба: ніколі не здаралася, каб ён крычаў за каго-небудзь. З якога выпадку ні біў сябе ў грудзі — усё пераводзіў на тое, што вось які ён пакрыўджаны. Ён часта сам сябе называў змагаром, і казалі, што і мянушку «змагар» ён выдумаў сабе сам. Было відаць, што ў яго ўсё прадумана. Пачала нават выпрацоўвацца свая поза і голас — самаздаволены, з прыпынкамі «а-хм... гм...».

Ці ведаў Іван Дулька калі-небудзь пэўна, чаго хоча,— сказаць было цяжка. Але скаргаў і патрабаванняў у Дулькі было хоць гаць гаці: то яму не так нешта сказалі, то не так нешта зрабілі. То ён крычаў, што сельсавет не паважае яго як грамадзяніна. То абвінавачваў праўленне — нібыта яму не захацелі прырэзаць да сядзібы кавалка зямлі, помсцячы за Дулькаву крытыку. Вось так, змагаючыся за свае незвычайныя правы, Іван Дулька да таго распусціўся, што ўсім рабілася гідка. У яго з'явілася новая прыхамаць: ніхто не павінен яму перашкаджаць, што б ён ні рабіў. Бо гэта будзе парушэннем яго свабоды.

Іван Дулька ў нашай вёсцы быў, аднак, не якім-небудзь прыблудам з іншай планеты. У яго тут была сям'я: жонка і двое дзяцей — Лідачка, хваравітая дзяўчынка, і Раманька, добры, ціхі хлопчык. Лідачка і Раманька намагалі маці ўсё рабіць па гаспадарцы. Таму трохі і жылі, бо каб паспадзяваліся на бацьку, то, напэўна, хадзілі б па хатах, збіралі кавалкі. Вяскоўцы ведалі, як цяжка жонцы Івана Дулькі, і выручалі яе ахвотна; яна была добрая, сціплая жанчына, то суседзі стараліся нават не гаварыць з ёй пра яе няўдалага гаспадара. Але затое самога Дульку калі не лічылі апошнім ёлупнем і прайдзісветам, дык усе

звалі дзіваком без клёнкі ў галаве. І, вядома, усе з яго пацяшаліся. Праз гэтага Івана Дульку слова «змагар» стала ў нас амаль кплівым. Я потым, стаўшы дарослым, доўга не мог прывыкнуць да сапраўднага, высокага сэнсу гэтага слова.

Асабліва не любілі Івана Дульку мы, дзеці і падлеткі. Можа, за Лідачку і Раманьку, якія былі нашымі сябрамі і якіх Дулька часта біў і ганяў. Ад Івана Дулькі заўсёды нечым вельмі смярдзела. Напэўна, таму, што ён ніколі не хадзіў у лазню. Дык да мянушкі «змагар» яму прычапілі яшчэ і «ўдод», бо вядома, якая смярдзючая гэтая птушка. Бывала, Дулька бяжыць куды-небудзь, каб зноў за нешта «пазмагацца», а мы схаваемся за праслам і крычым:

— Удод! Змагар! Удод!

Іван Дулька спыніцца, павернецца туды-сюды, пашпырыць вачамі, потым пагрозіць кулаком.

— Ну, дачакаецеся! — крыкне і зноў пабяжыць.

Людзі нашай вёскі, ды і не толькі нашай, такі дачакаліся: Іван Дулька паказаў нарэшце чаго ён хацеў. Калі палыхала вайна, я ўжо служыў у арміі і не быў сведкам таго, як Дулька ажыццявіў мары аб поўнай для сябе свабодзе. Але ўся акруга ведала і з жахам гаварыла пра яго злачынствы. Гэта Іван Дулька быў тады памагатым у гестапаўцаў, калі расстрэльвалі вясковых камуністаў. Стальным секачом крывяніў рукі і спіны сваім ахвярам. Я скалануўся, успомніўшы расказ каваля Андрэя Якушка, і ў гэту хвіліну яшчэ больш выразліва ўявіў сабе малюнак катавання герояў недзе вось тут, на Курганні...

Пакуль я думаў, чалавек, мабыць, пільна за мною сачыў. Бо сказаў:

— Што крывіш лоб, пчанюк? Не можаш успомніць? А-хм. Ды я ж Іван Дулька, хіба забыў Івана Дульку?! Івана Дульку ведалі ўсе! А-хм... гм... Хоць Іван Дулька не хадзіў у начальніках, а Івана Дульку ведалі ўсе. А-хм. Усе! Ну, успомніў? Га-а... А-хм. Гм...— пачварна ўсміхнуўся чалавек зарослым тварам, бо, мусіць, заўважыў, як мяне ўдарылі дрыжыкі.

Дык я такі не памыліўся, гэта быў ён! Гэта быў Іван Дулька! Здраднік, што выдаў фашыстам усіх камуністаў і іх сем'і. Расправіўся з кожным, хто, па яго думку, не прызнаваў яго асаблівых правоў. Ад каго вымушаны былі хавацца нават жонка і дзеці... Але адкуль ён узяўся? Ён жа знік, як у ваду прапаў яшчэ ў дні вайны. Знік, калі

пранюхаў, што партызаны прысудзілі яго да расстрэлу. І ніхто з таго часу нічога пра яго не чуў.

Як ён мог зноў тут з'явіцца?

Я адчуў, як у кожнай маёй жылцы падымаецца нястрымны гнеў. Тым болей што цяпер ад Івана Дулькі смярдзела яшчэ страшней. Я з нянавісцю глядзеў на яго тоўстыя рукі. Здалося, што з іх і цяпер яшчэ сцякае кроў бязвінных ахвяр. А магчыма, і сёння з ім той страшны сякач... «Як жа мне быць з гэтым Дулькам? — думаў я.— Як зрабіць, каб ён не паганіў болей зямлю? Вось жа бадзяўся недзе, валацуга, уцёк ад смерці...» Каб выйграць час (можа, што-небудзь прыдумаю), я загаварыў:

— Ты Іван Дулька, праўда, я цябе пазнаў. Хто ж цябе не пазнае. Але скажы мне, Іван Дулька, дзе ты столькі валачыўся? Па-мойму, цябе даўно не было дома. І хіба ты забыў, колькі людзей ад цябе плакалі, а можа, і яшчэ плачуць? Хіба забыў, колькіх ты пазбавіў жыцця і шчасця?

Мае катэгарычныя словы ўздзейнічалі на Дульку зусім не так, як я чакаў. Я спадзяваўся, што час усё ж зрабіў сваё і Дулька як-небудзь перахварэў сваю віну. Але дзе там. Гэты чалавек не толькі не разгубіўся, але тут жа перайшоў у наступленне, амаль кінуўся на мяне.

— Жыцця? Шчасця? А-хм... Шчасце! — закалаціўся ён.— А хто табе сказаў, шчанюк, што бывае шчасце для ўсіх? Калі ты верабей, то якое табе шчасце быць арлом? А-гм? Ты хіба не ведаў, што ў нашай вёсцы я быў самы разумны? Га-а-а! — яшчэ мацней закіпеў Дулька.— Я ведаю, што ты думаеш!.. Вы ўсе мяне лічылі без цара ў галаве... А-хм... Гм... А вы не бачылі — што я на галаву за ўсіх вышэй?.. Я павінен быў жыць лепш за ўсіх... гэта маё права! А-хм... А што было? Хто мяне паслухаў? Хто са мной лічыўся? А-хм... Гм... Хто паважаў маё права?.. Ніхто не павінен нікому перашкаджаць! — раўнуў Дулька, аж слінаю запырскаў у бакі.— Прыдумалі мяне зацугліваць?.. Закон?.. Правіла?.. Пляваў я на тваё правіла? А-хм... Гм... Га-га-га-а-хм... га...

Ён закалаціўся ў дзікім д'ябальскім рогаце, калі можна было так назваць скрыпучае калыханне гэтай смярдзючай багны. Нахабнасць ягоная была варта ягоных спраў. Я з агідаю глядзеў на дзікае Дулькава калыханне і ўвесь час прыкідваў, што б такое зрабіць, каб ён болей не здолеў схавацца ад суда. Але раптам Дулька спыніўся і без усякага роздыху закрычаў:

— Вось ты зараз думаеш, каб мяне схапіць, судзіць,

расстралянь!.. А-хм. Гм... А хто мае права мяне судзіць?.. Я пляваў на твой суд! А-хм... Так я табе і папаўся!.. Ты спачатку паспрабуй вазьмі мяне. А-хм. Шчанюк. Я мог бы цябе задушыць... Гм... Але ты шчанюк... шчанюк... Жыві... калі хочаш, а-гм... Хм... Шчанюк, а-хм...

Нягледзячы на маю злосць, я ніяк не мог скрапуцца з месца. Хаця прыпыніць шаленства гэтага чалавека трэба было абавязкова. Я ўспомніў яго жонку і хваравітую дачку Лідачку. Раманька загінуў недзе пад Берлінам. Папрасіўся ваяваць добраахвотнікам, калі нашы войскі вызвалілі вёску. Хацеў, казалі, хоць трохі змыць пляму ганьбы, якую паклаў на іхняе прозвішча звяруга-бацька. А Лідачка вырасла ў добрую дзяўчыну, хоць хваравітай і асталася. Цяпер, праўда, яны з маці жылі спакойна, даўно забыўшы пра свайго бацьку-злачынцу. І нашто з'явіўся сюды гэты кат? Каб зноў напаскудзіць у чыстыя душы? Бо і ўспомніць аб ім, а не тое што ўбачыць, нават дачцэ ягонай будзе балюча. Не, гэтага ката нельга дапускаць да людзей! Я ліхаманкава над гэтым думаў, але зрабіў выгляд, што супакоіўся, і нібы памяркоўна сказаў:

— Ну, добра, кінем усё. Але скажы мне, чаго ты тут з'явіўся, а, Іван Дулька? Навошта сюды прыйшоў? — Мне было гідка глядзець, як ён зноў закалыхаўся, нібы рагочучы, і я адвярнуўся.— Гавары!! — прамовіў я строга.— Бо не пара з табой жартаваць!..

— Га-а!..— выгукнуў Іван Дулька.— Вось што цябе турбуе. А-хм. Дык што ж... А-хм... Я з'явіўся, а-гм... жоначку сваю пабачыць... гадзюку... Ніхто не павінен нікому перашкаджаць! Гэта маё права! А-хм... Гм... А-а!.. А дзеці тых людзей, што былі маімі ворагамі? Хіба яны не падраслі? А-хм. Пара з імі пагаварыць... Так, так. Я ўмею, я ўмею, так, так... Пара... Пара... А-хм. Пара... Я ўмею, я ўмею пагаварыць. Разумееш, га? Пара... Гм... А-хм...

Мне пачулася, што голас Дулькі раптам змяніўся. Са скрыпуча-пагрознага пад канец стаў шапялява-сцішаным, прымірэнчым. Я ўзняў вочы і пахаладзеў ад новага жаху. Перада мною стаяў не страшна запушчаны Іван Дулька, а зусім мала на яго падобны чысценькі, прылізаны, як бы памазаны алеем, прыгладжаны тыпчык. У яго былі маленькія, як у кнура, вочкі, ліслівая ўсмешачка блукала па твары, і ўвесь ён быў такі ўгодлівы, пачцівы, ліпкі.

Дык вось як павярнулася дзея. Як ніколі да гэтай хвіліны, я адчуў, што такога крывасмока, ваўкалаку, нельга выпусціць з рук. Я ўбачыў побач з маім кошыкам дубовы

кій. Гэтым кіем трэба аглушыць Івана Дульку, а тады накінуцца і звязаць. Ваяваць да апошняга, загінуць, калі трэба, але не пусціць яго далей. Я пацягнуўся рукою па кій. I ў той жа момант пачуў моцны шолах. Падскочыў, але Дулькі на месцы не было. Толькі чутно было, як пад нечымі нагамі трашчыць галлё. Я схапіў кошык і кінуўся з кургана. Прадраўся праз дубняк. I зляцеў амаль пад самыя ногі пажылой жанчыны, якая з поўным кошыкам баравікоў ішла паміж сосен. Напэўна, выгляд у мяне быў незвычайны, бо жанчына спынілася як укапаная і пранікліва на мяне паглядзела.

— Даруйце,— сказаў я жанчыне.— Даруйце, вы не бачылі тут якога-небудзь мужчыны?

— Якога-небудзь мужчыны? — Яна зноў паглядзела на мяне з трывогай.— Чаму ж не бачыла? Ці мала іх сёння ходзіць?.. Баравікі ў лесе...

— Ды не, цяпер, толькі што, не бачылі?

— Цяпер? Толькі што? — Жанчына паставіла кошык і паглядзела кругом.— Не, нікога не бачыла...

— Даруйце,— сказаў я і пайшоў ад жанчыны. Узбіўся на сцяжынку, пакрочыў з лесу. Як жа цяпер быць? — думалася мне.— Як знайсці Івана Дульку? У якім абліччы ён зараз бадзяецца па нашай зямлі? Што яму трэба ад дзяцей маіх аднагодкаў? I хто яго сябры?

Павольна і стомлена ішоў я з тужлівымі і нявырашанымі пытаннямі, а ў кошыку гулка барабанілі мае тры баравікі з Кургання. Сонца млява гайдалася над самай галавою. Звонкай трывогаю трымцела сэрца. I на босыя ногі час ад часу журботна сыпаўся цёплы курганны пясок...

*1966*

## ВІНА

Уночы ля высокага зыркага цяпла паляўнічыя доўга не маглі ўгаманіцца. Ужо на ўсходзе неба добра пасвятлела, нібыта зара сышлася з зарою. Халадком пацягнула ад буйных жнівеньскіх рос. А ля цяпла яшчэ ніхто не паклаўся спаць. Не дзіва. Даўно паляўнічыя не былі разам. Цэлы год. Колькі ўсякіх гісторый назбіралася ў кожнага. I дзвюх ночак не хопіць, каб усё расказаць.

Цяпло весела гарэла на высокім беразе Сажа. Унізе журботна плюхала ў аерах вада, а на ёй, а то і ў самой

глыбіні, часам, як на казачным экране, адбіваліся языкі полымя і дзіўна-зменлівыя постаці паляўнічых. То была нейкая незразумелая гульня святла і ценяў, і паляўнічыя, падзівіўшыся на такую, трохі нават дзіўную з'яву, стараліся не глядзець на зацемраную паверхню вады. Яны размясціліся ля кастра ў самых разнастайных позах і, здавалася, забылі пра ўсё на свеце, акрамя сваёй вясёлай гаманы. Былі сярод паляўнічых людзі зусім маладыя, нават юнакі, а былі і такія, пра якіх кажуць — панёс косці на вецер. Гаварылі ўсе — то раптам, як па камандзе, дружна, то па адным, але найбольш слухалі старэйшых. І часам нейк таямніча сціхала ля цяпла — быццам нечакана адбылося штосьці жахлівае. А то знянацку — гулкі рогат каціўся ў задрамаўшыя далі. Самыя розныя гісторыі ішлі адна за адной. Былі тут і расказы пра незвычайныя стрэльбы, была і некарыслівая мана аб дзівосных трафеях; былі замілаваныя словы аб прыродзе і калектыўнае спаборніцтва на лепшы анекдот.

Нарэшце ля кастра трохі паспакайнела. Здавалася, стома канчаткова змарыла ўсіх. Пара і адпачыць крышку — падумалася, мабыць, не аднаму. Але невядома ад каго, ніхто не ўзяўся б сказаць пэўна, адкуль яна прыйшла,— раптам ля цяпла прагучала дзіўная прапанова: хай кожны раскажа пра самае страшнае здарэнне ў сваім жыцці.

На беразе адразу стала надта ціха. Адзін агонь кідаў высока ў цемру свой залацісты пошчак, ды выразна пачулася, як шамацяць у вадзе чараты. Людзі задумаліся. Шмат чаго ўсякага было ў іхнім жыцці. Але самае страшнае... Хто яго ведае, што было самае страшнае...

Бліжэй за ўсіх да цяпла сядзеў на пянёчку сухарлявы бязвусы мужчына гадоў пяцідзесяці пяці. Антон Аўдзеевіч,— так часта звярталіся да яго людзі ля цяпла, што, напэўна, сведчыла аб яго паважнасці. Ён не прымаў удзелу ў агульнай гаворцы, усё больш займаўся цяплом: падкідваў у агонь новыя плашкі, падварушваў недагарэлыя канцы. Але слухаў ён уважліва, і ўсё самае цікавае адразу знаходзіла адбітак на ягоным твары. Вочы яго то іскрыста ўсміхаліся, і твар рабіўся маладым, прываблівым. А то хваля сумнай цемнаты набягала на твар, і тады чалавек мяняўся, намнога старэў, выглядаў стомленым і як бы зусім хворым.

Калі пачулася прапанова расказаць самае страшнае здарэнне, Антон Аўдзеевіч рэзка павярнуў галаву і пашукаў вачыма таго, хто гэта сказаў. А потым, як і ўсе, заду-

маўся. Глядзеў у чырвонае вуголле, абапёршыся на адну руку, а другою падбіраў адлятаўшыя ад цяпла вугельчыкі і кідаў назад у полымя. Вонкава нішто не нагадвала пра якую-небудзь усхваляванасць гэтага чалавека. Наадварот, ва ўсім яго выглядзе выдавалася нейкая надта раўнадушная абыякавасць. Як быццам чалавек хацеў сказаць: «Вам цікава, дык і гаварыце, а мяне гэта зусім не кранае».

Прайшло некалькі хвілін. Ніхто не парушаў задумлівага маўчання. Самаму страшнаму здарэнню, мусіць, не так лёгка было пакінуць сцяжыны былога. І ў гэтай цішыні поўнай нечаканасцю для паляўнічых быў голас Антона Аўдзеевіча.

— Самую страшную гісторыю...— праказаў Антон Аўдзеевіч.— Самую страшную гісторыю, браткі, расказаць і цяжка і няцяжка...— Ён нервова ўскінуў галаву, і ад абыякавасці не засталося і следу на яго твары. Увесь ён, здавалася, успыхнуў гарачым і галасістым адбіткам шуганўшага ў яго бок полымя.— А я вам, калі дазволіце, раскажу самую сумную гісторыю. Самую сумную... Яна была са мной... Я раскажу вам, як я стаў забойцам.

Усе паляўнічыя пазіралі на Антона Аўдзеевіча са здзіўленнем. Яны даўно ведалі яго як прыемнага чалавека. Праўда, ён быў мала гаваркі, мала пра сябе расказваў. Але неаднойчы яны бачылі яго сяброўскую чуласць, яго дабрату. І няўжо ж ён мог стаць забойцам? Можа, ён не так сказаў?

— Так, так, забойцам. Не здзіўляйцеся. Я забіў чалавека. Не, не, гэта не тое... Я яго не забіваў, яго забілі фашысты. Але гэта я зрабіў так, што яго забілі... Хаця не... Што я кажу. Я не рабіў. Я не хацеў гэтага зрабіць. Але так выйшла... А зрэшты — чаго я цягну. Я раскажу вам, а вы самі рашайце.

Словы Антона Аўдзеевіча былі надта дзіўнымі. Яны як бы нагадвалі сабою аўтаматныя стрэлы — проста ў самае сэрца, і выклікалі рашучы душэўны пратэст. Нешта адштурхоўвала ад прапановы Антона Аўдзеевіча. А нешта і цягнула даведацца — а што ж з ім было? Тым болей што ўсе ўбачылі: Антону Аўдзеевічу, напэўна, даўно гэта баліць, трэба даць яму выказацца.

— Гэта было ў 1943 годзе,— гаварыў далей Антон Аўдзеевіч, не чакаючы, пакуль хто-небудзь яго заахвоціць.— І было не так далёка адсюль. У Гомелі было...— Расказчык уздыхнуў, зморшчыў лоб, як бы нешта прыпамінаючы.— Я тады быў капітанам,— працягваў ён,— і ка-

мандаваў асобным сапёрным батальёнам. Былі гэткія батальёны,— павярнуўся расказчык да маладзенькага свайго суседа, які нясмела ці нешта сказаў, ці пра нешта ў яго спытаўся.— Гэтыя батальёны прыдаваліся асобным баявым часцям. Сапёры, браткі, такія людзі... Ні на кога, мусіць, на вайне столькі не ўзвальваецца, як на сапёраў. Нездарма кажуць, што сапёр памыляецца адзін раз... Хаця... Каму на вайне лёгка... Але я хацеў не пра гэта... Дык вось. Восенню 1943 года наша дывізія фарсіравала Сож і ўварвалася ў Гомель. Мой батальён быў не апошнім у наступленні. Пакуль ішлі баі, змянілася амаль палова ўзводных і ротных... Ды толькі я зноў не тое... Карацей кажучы, пасля цяжкіх баёў фашысты адступілі. Але на ўскраінных вуліцах дзе-нідзе яшчэ ішоў бой. Хто жыў у Гомелі...— Антон Аўдзеевіч агледзеў твары прысутных, чакаючы, што, можа, хто-небудзь адгукнецца: маўляў, «я жыў у Гомелі». Але ніхто нічога не сказаў. Расказчык працягваў: — Дык вось, хто жыў у Гомелі, павінен успомніць, як завуцца вуліцы па дарозе на захад. Там успыхвала яшчэ страляніна.

Ну, вядома, нам, сапёрам, была задача ачысціць ад мін увесь горад на ўчастку наступлення дывізіі. Сапёры, такім чынам, першымі пачыналі і апошнімі канчалі баявую работу... Але я зноў, здаецца, не пра галоўнае. А галоўнае... Вось...— сказаў ён і пасля трохі памаўчаў.— У маім батальёне было некалькі беларусаў. Гэта я ведаў. Але я не ведаў, што адзін з іх — лейтэнант Саша Якінка — гамяльчанін.

Якінка быў яшчэ зусім бязвусы хлопец, намнога маладзейшы за мяне. Але смелы, спрактыкаваны сапёр. Апошні час камандаваў ротай. Як я ўжо сказаў, я ведаў, што Якінка беларус. Неаднойчы бачыў, з якім запалам ён ірваўся ўперад у кожным баі. Гэта зразумела. Што ж... Родная зямля так да сябе цягне заўсёды. Асабліва пасля расстання. Але вось неяк так выйшла, проста нейкае вар'яцтва, я думаю, са мной адбылося... да самага апошняга моманту я не ведаў, што Гомель для Сашы Якінкі не проста беларускі горад, а яго радзіма...

Раніцаю аднаго хмурнага дня да мяне падышоў лейтэнант Якінка.

— Таварыш капітан,— сказаў ён, пераступаючы з нагі на нагу,— праз два кварталы адсюль — мой завулачак. І ён ужо вызвалены.

— Твой завулачак? Які твой завулачак?

— Ну, я там нарадзіўся...

Я амаль збянтэжыўся ад нечаканасці. Мой зампаліт быў якраз тут. Ён заківаў галавою: маўляў, так, так, гэта правільна.

— І родныя мае там засталіся,— гаварыў Якінка.— Бацька і маці. І яшчэ меншы брацік...

— І ты дагэтуль маўчаў? Не сказаў нічога мне? Нядобра так, лейтэнант, не па-таварыску.

— Я думаў, вы ведаеце,— сарамліва сказаў Якінка і зірнуў на зампаліта. Зампаліт то падбадзёрваюча паглядаў на лейтэнанта, то на мяне. Я бачыў, што Якінка нечага чакае, але не асмельваецца сказаць. Але тут мяне паклікалі да тэлефона. Гаварыў начальнік штаба дывізіі. Толькі што завязаўся бой з нямецкім заслонам, які асядлаў мост на шашы. Абысці мост немагчыма, бо аказалася, што ўсе завулкі і подступы да моста замініраваны. Ужо тры танкі падарваліся. Трэба паслаць вопытных сапёраў. Размініраваць шлях для абходнага манеўра...

Я не магу сказаць і сёння, што са мной тады здарылася. Можа, падзейнічала стомленасць. А можа, таму, што начштаба сказаў: паслаць вопытных сапёраў. А ў мяне іх засталося — па пальцах пералічыць...

Я звярнуўся да Якінкі, узрадаваны, што ён тут.

— Слухай, лейтэнант, такая справа... Ты сам чуў, што трэба зрабіць. Абы-каго не пашлеш. Табе ж гэта — адна прагулка... Ідзі... А потым — і да бацькоў... Хоць на два дні...

— М-да-а...— нехта хмурна выгукнуў ля кастра.

Антон Аўдзеевіч скасіў вочы туды, адкуль пачулася гэтае «м-да». Але не спыніўся, напэўна, баяўся застацца адзін на адзін са сваімі думкамі. Ён працягваў расказ.

— Шкада...— сказаў зампаліт Мяшчэрскі, калі мы засталіся адны.— Столькі хлопец чакаў. Хай бы зараз жа пабываў дома, даведаўся, што там... Слухай,— прапанаваў ён,— давай я пайду замест Якінкі, а?

— Глупства, зампаліт! — Я быў зусім спакойны, калі гэта гаварыў.— Якінка не такое рабіў. Вернецца праз гадзінку, факт...

Я бачыў, што зампаліт усё роўна са мной не згадзіўся. Хоць больш нічога і не сказаў. Ён патаптаўся хвілінку побач, а потым успомніў нейкую тэрміновую справу і пайшоў. Не сядзелася і мне. Я скіраваўся па чыгунку. Там дзейнічала другая наша рота — аглядала чыгуначныя пуці. З Нова-Беліцы да перадавой гатоў быў падысці браня-

поезд. Заставался забяспечыць яму ўчастак для вядзення агню.

Тут Антон Аўдзеевіч раптам змоўк і доўга глядзеў у дагараючае цяпло. Ніхто яго не чапаў. Усе чакалі. Ачнуўся ён гэтак жа раптоўна, як і спыніўся.

— Калі я гадзіны праз дзве вярнуўся на камандны пункт,— сумна сказаў Антон Аўдзеевіч,— мяне чакалі дзве смерці... Дзве смерці... Лейтэнант Якінка ўжо быў тут... Колькі ён падастаўляў мін, колькі разоў хадзіў па краі бездані... А вось — так... А зампаліта Мяшчэрскага прынеслі пазней...

— М-да-а...— зноў лаканічна выказаўся адзін з паляўнічых. А другі павольна, як бы дзелавіта, праказаў:

— Вы не забойца, вы — горш...

— Горш? Чаму горш?!.— нервова выгукнуў Антон Аўдзеевіч.

— Пачакайце, хлопцы, нельга так адразу,— сказаў нехта са старэйшых.— У жыцці ўсякае бывае...

Антон Аўдзеевіч быццам супакоіўся. Паварушыў кіёчкам у агні.

— Можа, і горш...— сказаў ён, сціскаючы лоб.— Але зразумейце, больш дваццаці год я жыву і пакутую, успамінаючы гэты дзень. Нашто я так зрабіў. Не, я не забіваў лейтэнанта Якінку! — сказаў ён энергічна ўбок, дзе хтось кашлянуў у кулак.— Але ж я мог зрабіць, каб яго не забілі. Толькі каб трошачкі быў тады чалавекам... Як я не даў яму ўбачыцца з бацькамі? Як я мог так зрабіць?..

— Чаго цяпер біць сябе ў грудзі...— сказаў нехта.— Нашто гэта...

— Я і не б'ю. Паверце, тут не тое... Проста я не магу знайсці сабе спакою... Я разумею — у мяне ёсць тысячы апраўданняў. Чаму паслаў Якінку. Там жа, ля моста, таксама былі людзі. Яны гінулі. І чакалі дапамогі... Але гэта не суцяшэнне. Я мог пайсці туды і сам. Сам мог пайсці замест Якінкі. А Якінка — хлопчык бязвусы. Ён павінен быў убачыць бацькоў...

Выказаўшы ўсё гэта адным залпам, Антон Аўдзеевіч доўга хмурна маўчаў. Потым узняў галаву:

— Пра зампаліта Мяшчэрскага я ўжо не кажу... Зампаліт, зампаліт... Ён такі адразу скіраваўся ў роту Якінкі... Хацеў замяніць яго. І замяніў. Але ўжо мёртвага...

— Пад вечар таго дня мы знайшлі завулачак лейтэнанта Якінкі... Вы самі разумееце...— Антон Аўдзеевіч упершыню за ўвесь вечар абвёў вачыма прысутных. І паляўні-

чыя не пазнавалі яго,— ён стаў як быццам яшчэ больш хударлявы, пры водбілісках цяпла яго вусы, бровы і рэдкі чуб здаваліся нейкімі папяловымі.— Вы разумееце,— гаварыў Антон Аўдзеевіч, журботна ківаючы галавою,— што, не знайшоўшы бацькоў Якінкі, я ўжо больш не мог бы лічыць сябе чалавекам... Маленькі домік сустрэў нас так, як быццам нас вось-вось тут чакалі.

— Саша! Вы ад Сашы?..— трывожна выгукнула сівая інтэлігентная жанчына, расчыняючы браму, ледзь толькі мы пастукалі. І тут яна ўбачыла Сашу.

— Саша! — крыкнула маці, падаючы перад ім на калені.— Сыночак, я ведала, што ты прыйдзеш!.. Што з табой, родны, ты ранен? — Яна прыпала губамі да яго твару і ўсё зразумела. І, хапіўшыся за сівую галаву, зарыдала.— Божа мой! Божа літасцівы,— прычытала яна.— Няўжо яны не ведалі, што ў цябе ёсць маці? Ты ж дома, Саша! Дома! Дома!..— Яна павярнулася і крыкнула туды, дзе кананадным гулам яшчэ агрызаўся вораг.— Нашто яны цябе забілі! Нашто, хлопчык мой!..

Антон Аўдзеевіч распасцёр рукі, як быццам гэта ён замест маці кідаў зараз суровыя словы. Але раптам стуліўся, ледзь чутна сказаў:

— Даруйце мне, таварышы. Даруйце. Я не прызнаўся. Я не меў духу, каб прызнацца. Што гэта я забіў... Не, я не забіў!.. А што я вінаваты ў смерці Сашы!..

— Калі маці рыдала, выйшаў брацік Сашы Якінкі,— гаварыў Антон Аўдзеевіч у сумнай, наструнена-трывожнай цішыні.— На кавілах... Калека... «Брацік... Брацік...» — гаварыў ён толькі адно слова. І на гэта страшна было глядзець. Даўно гэта было, а я не магу нічога забыць. Памятаю нават і ў сне, як гладзіў малодшы брацік руку лейтэнанта Якінкі... Паверце, я тады стаяў і гаварыў сам сабе: калі выжыву... калі выжыву... Многа чаго ёсць у нашым жыцці. Многа... Ды толькі ёсць адно, дзеля чаго і варта жыць,— каб заўсёды берагчы ў сабе чалавека...

Антон Аўдзеевіч замоўк. Цяпло амаль дагарала. Цішыня стаяла ў лузе, у расцяробах, і рака амаль не хлюпала, а людзі сядзелі маўклівыя, задуманыя.

— А што было далей? — нечакана спытаў малады паляўнічы са звонкім хлапцоўскім голасам.

Усе здзіўлена паглядзелі на юнака. І ён зразумеў, што сказаў нешта зусім не тое.

Бадзёрым перадсвітальным халадком цягнула ад Сажа, ад тумановых балоцістых азярын. Неба на ўсходзе, хоць

яшчэ не на ўвесь край, але ўжо свяцілася залаціста-малінавай паласою золаку. Спаць нікому не хацелася. Ды больш ніхто так нічога і не сказаў. Нікога не цягнула гаварыць пра страшныя гісторыі.

*1966*

# МАЦІ

Была золкая туманная раніца; над азярынай клубіўся туман, калі яна пачула блізка ля сябе гарачае дыханне сабакі. Сэрца падказала ёй, што гэта — вораг. Першым яе жаданнем было нырнуць сярод густых траў, затаіцца ў сітняку. Але яна ўспомніла, што тут жа яе дзеці, крыкнула маленькім трывогу і рашуча ўзнялася на крыло. Яна паднялася і, адляцеўшы, зноў села, прыкінулася непрытомнай, забіла крыламі. І так яна рабіла некалькі разоў, пакуль аддалілася ад дзяцей. Хітрасць яе ўдалася. Сабака ўвесь час гнаўся за ёй. Ёй здавалася ўжо, што яна выратавала сябе і сваіх птушанят, як раптам нешта са страшэннай сілай ударыла ёй па крыле. Яна пачула гулкую грымоту і кінулася на ваду.

Яна была яшчэ маладая качка. Толькі адзін раз злётала да мора, дзе перажыла зіму. Багата чаго яна яшчэ не разумела, але інстынктам адчула, што больш ёй ужо не паляцець. Ударыўшыся аб ваду сярод жоўтых гарлачыкаў так, што пырскі паляцелі ва ўсе бакі, качка глыбока ўдыхнула паветра і нырнула. Яна здагадвалася, што сабака будзе яе шукаць і што ёй нельга вынырацъ. Вада з сілай імкнулася выкінуць яе наверх, але качка трымалася дзюбай і нагамі за карэнні траў і так пасоўвалася ўсё далей ад таго месца, дзе ўпала. Толькі праз нейкі час, калі ёй стала цяжка стрымліваць дыханне, моцна трымаючыся за сцяблінy гарлачыка, высунула галаву з вады і прагна хапанула паветра. Але тут жа ёй давялося схавацца зноў. Яна агледзелася, што не туды ўзяла напрамак пад вадой,— зусім недалёка ад яе чулася хаўканне і лопанне па вадзе сабакі. І тут жа пачуўся голас таго, хто адабраў у яе права лётаць на сваіх крылах.

— Шукай, Дукат, шукай! Ды хутчэй жа, брат, хутчэй!..

Ёй было страшна далей чуць і гэты голас, і хрыплы брэх сабакі; яна нагледзела далёка ад берага азярыны ма-

ленькую купку сітняку, амаль на самай сярэдзіне, на глыбіні, і, нацэліўшыся туды, зноў нырнула. Хутка-хутка перабіраючы нагамі, яна імкнулася наперад, адзін раз ледзь не выскачыла на паверхню, але зноў сабралася, і вось перад ёю на глыбіні затрымцеў пад вадою сітняк. Качка схапілася за яго, перабралася ў яго гушчар і тады спакойна, нячутна ўсплыла. Цяпер яна была ў бяспецы. Сабака шукаў яе зусім у іншым баку, а паляўнічы закінуў стрэльбу за плячо. Яна пачула:

— Хадзем, Дукат... Пашукаем другі раз...

Яна бачыла, што сабака не хацеў адыходзіць, ноздры яго раздзімаліся, і ён нават непаважна паглядзеў на гаспадара. Ёй было ясна, што сабака чуе яе. Але гаспадар гукнуў на сухое, і сабака паплёўся за ім, раз-пораз азіраючыся на азярыну.

Качка доўга яшчэ сядзела, адпачываючы. Перабітае крыло моцна балела, з яго ў ваду сцякаў тоненькі, як ніточка, струменьчык крыві. Яна не ведала, што можна зрабіць, каб памагчы свайму гору, і верыла, што ўсё роўна загіне. Думка яе спынялася зараз толькі на тым, каб вярнуцца да дзяцей, каб пажыць хоць, пакуль яны трошкі падужэюць. Вельмі хацелася ёй зараз жа вырвацца са свае сховы, ды яна стрымлівалася, бо ўспомніла расказы сваіх старэйшых сяброўак, якая хітрая гэта істота на дзвюх нагах — чалавек. Качка чакала, перабіраючы дзюбай пярынкі на ўцалелым крыле. І толькі тады, калі доўгія ногі чалавека ўзышлі на далёкі лугавы пагорак, яна выплыла з сітняку, хуценька перабралася цераз чыстую ваду да маладога чаратняку,— туды, дзе пакінула сваіх дзяцей, і ціха выгукнула заклікальнае «ка-а».

Восем шэра-рудаватых мячыкаў высыпала з розных бакоў. Усе былі цэлыя, і ўсе радасна кінуліся да маці. Яна паглядзела на іх жаласна-замілаваным позіркам і горка ўздыхнула: якія яны ўсе яшчэ малыя! Толькі трое дужэйшыя ўмелі падлятаць, і зараз яны, радуючыся сустрэчы, дурэлі: падымаліся на крыльцы, узляталі, куляліся ў ваду. Астатнія таксама спрабавалі адарвацца ад вады, але няўдала.

Маці ведала, што хутка будуць лётаць і яны, трэба не так многа часу, але ці дачакаецца яна гэтага, ці хопіць у яе крыві, якая па кроплі ўсё сочыцца і сочыцца з балючай раны?

Качаняты не ведалі, што здарылася з іхняй маці. І яна хавала ад іх сваю бяду. Нашто іх засмучаць! У гэты адказ-

ны момант у яе жыцці яна зрабілася яшчэ ласкавейшай і, займаючыся з дзецьмі, перабірала ў памяці ўсе знаёмыя ёй мясціны на гэтым забалочаным лузе. Яна старалася ўспомніць такую, дзе можна было б захаваць дзяцей ад небяспекі, пакуль яны змогуць самі выбраць сабе шлях, паляцець далёка, куды захочуць.

І яна прыгадала такі куток. Гэта было не так далёка адсюль, хоць, праўда, шлях туды быў і не такі бяспечны. Яна ўспомніла, што зусім ранняй вясной, у пару свайго кахання, калі кругом на лузе яшчэ стаяла вада, прыляцеўшы з цёплага краю, яны з сяброўкамі, а найбольш з яе прыгожым дружбаком-качарам, бавілі час пасярод вялікага возера на выспе, зарослай непралазнымі вербалозамі і маладым крушыннікам. Вельмі спадабалася тады ёй тая выспа, яна, магчыма, і засталася б там гнездавацца, калі б не залішне бесклапотны характар яе маладога сябра, які адразу паказаў, што не любіць ні гнязда, ні сям'і, а толькі вечнае каханне. Ёй было незразумела гэтае пустое каханне, яна прагнула мець дзяцей. І таму аднойчы, калі качар заснуў пасля яе ласкі, яна непрыкметна слізганула ў гушчу маладой асакі, не падымаючыся, перабралася на пазелянелы бераг лугу, што некалькі дзён ужо быў без вады, і там яшчэ доўга паўзла, не падымалася, бо ведала, што яе пільны сябра, адзін на холадзе ночы, хутка прачнецца. А прачнуўшыся, кінецца яе шукаць, знойдзе і верне назад. Толькі як выспа схавалася ўдалечыні, качка паднялася і над самай зямлёй паляцела. Ужо на ляту яна чула, як крычыць і лямантуе пакінуты ёю халасты бедалака. Але яна не спынілася. Нічога, хай палямантуе, можа, знойдзе сабе новую сяброўку, такую, якой таксама падабаецца бесклапотнае каханне.

Вось тут яна і спынілася і зрабіла гняздо, дзе сёння падстрэліў яе паляўнічы. Добра было тут: і сітнік, ля якога стаялі аконцы чыстай вады, і красачкі з цёплай гразёю ля берага, дзе многа чарвякоў і салодкіх стрэлак, і густы мяккі мурог... Добра было б тут падрасці качанятам, ды нельга больш тут заставацца. Яна была цвёрда ўпэўнена, што паляўнічы сюды вернецца, а сабака, нарэшце, пазнаходзіць і перадушыць яе нявопытных дзяцей. Нельга тут пакідаць іх адных. Пакуль яна жыве, яна павінна перавесці іх у такое надзейнае месца, дзе яны падрасталі б спакойна...

Качка хацела зараз жа кіравацца да знаёмай выспы, але заўважыла, што і яна і выводак пакідаюць на траве

прыкметны след. Яна здагадалася: гэта таму, што яшчэ не знікла раса. Значыць, трэба перачакаць. Яна гукнула дзецям, усе разам заплылі ў густы чаратняк і там прытаіліся. Паднялося сонца, прайшоўся лёгкі ветрык. Чыстыя росы-слязінкі, што віселі на суквеццях сітняку, менелі, менелі і хутка прапалі. Званчэй зашумела асака. Вербалоз, які раней адсвечваў светлымі кропкамі з вострых лістоў, зрабіўся цьмяным. І, наадварот, сталі бліскучымі шырокія лісты жоўтых гарлачыкаў. Усё гэта падказала качцы, што можна выбірацца.

Каб дасягнуць возера з запаветнай выспай, трэба было перайсці лугавую нізіну і шырокі пагорак. Калі б качка і яе качаняты маглі ўзняцца і паляцець — ім спатрэбілiся б на гэта лічаныя хвіліны. А так перад імі ляжаў нялёгкі шлях. І, хоць луг быў пустынны, качка больш баялася небяспекі з паветра, дзе мог з'явіцца маланкавападобны драпежнік-ястраб ці не менш драпежны балотны лунь. І таму качка пільна наглядала, каб качаняты не паказваліся на адкрытых мясцінах, а трымаліся гусцейшай травы і там, дзе зямля найбольш куп'істая. Затое якая ж была ад гэтага ёй пакута самой! Вострая асака агаліла на параненым крыле пераламаную костачку, і нават лёгкі дотык чаго-небудзь цвёрдага прыносіў качцы нясцерпны боль. Яна старалася перасоўвацца бокам — здаровым крылом наперад, аберагаючы параненае. Але гэта не дужа памагала. Травы, як на злосць, вярэдзілі рану, сцябалі па ёй, а часам сцябліна чаплялася за пералом, і тады качка, знепрытомнеўшы, вымушана была спыняцца, каб вызваліцца з балючага палону. А кроў з раны сачылася і сачылася. Калі качка дабралася з качанятамі да берага возера, сіл у яе заставалася мала.

Аднак, убачыўшы ваду і сваю зялёную выспу на ёй, качка адразу пажвавела. Агледзеўшыся і пераканаўшыся, што навокал — ні на зямлі, ні ў небе — нічога небяспечнага няма, яна спусцілася з берага, а за ёй плюхнуліся ў ваду і качаняты. Здаровай і дужай яна нізавошта не павяла б сваіх дзяцей днём па чыстай вадзе. Яна павяла б іх блізка ля берага, дзе чараты перапляліся з сітняком і лісцём рагозу, утварыўшы цяністую надзейную схову. А цяпер яна не магла гэтага зрабіць,— ёй трэба было спяшацца, бо яна адчувала, што жыць заставалася мала.

На вадзе качку не так мучыў боль, і была яшчэ радасць, што яна зноў на родным улонні. Гэтая радасць значна ёй дапамагала. Вось ужо і выспа, усё мінулася добра.

З вялікім намаганнем яна выбралася на выспу, каб паказаць качанятам, дзе яны будуць падрастаць. Яна выбралася і адчула, што хутка загіне. Нешта цёмнае пачало насоўвацца ёй на вочы. І, можа, яна так і памерла б тут на вачах сваіх дзяцей. Але раптам яна пачула,— на тым беразе, адкуль яны нядаўна адплылі,— такі ненавісны ёй брэх сабакі. І гэты брэх ажывіў ужо затухаўшую яе думку, абудзіў яе апошнія сілы. У яе бліснула здагадка, што гэта, мабыць, тая кроў, якую яна пакінула на траве, дала сабаку след да возера. І, значыць, яе дзеці зноў будуць у небяспецы, калі яна чаго-небудзь не зробіць. І яна рашыла не чакаць сваёй смерці, а пайсці ёй насустрач.

Ціха гукнуўшы качанятам, каб яны хаваліся, качка спаўзла ў чараты, абагнула выспу і паплыла да берага, супроцьлеглага таму, дзе шукаў яе сабака. Яна плыла ў гэтым напрамку датуль, пакуль не пачаліся зараснікі сітняку. Тут яна змяніла свой шлях: рассоўваючы сцяблiны, яна ўзяла кірунак на брэх сабакі і свіст паляўнічага. Яна плыла туды, увесь час хаваючыся. І толькі тады, калі блізка ад сябе пачула варожыя галасы, перастала хавацца. Больш таго — яна выплыла на чыстае месца, каб яе хутчэй заўважылі.

Першы стрэл, які грымнуў усё ж нечакана для качкі, не зрабіў ёй новай шкоды, і яна інстынктыўна сабралася ў камяк, каб нырнуць пад ваду, залапатаўшы здаровым крылом. Але другі стрэл не даў ёй гэтага зрабіць. Безжыццёва павісла яна на чараціне і ўжо не чула, як крычаў паляўнічы:

— Дукат, сюды!.. Не шукай там нічога, вось яна!..

Калі сабака дастаў і прынёс забітую качку, паляўнічы здаволена пахваліў сябе і свайго памочніка:

— Ну, брат, і малайцы мы з табой! Колькі яна ні хавалася, а ўсё ж не ўцякла ад нас! Хадзем адсюль!..

Паляўнічы, паляўнічы!..

*1966*

## КАНЕЦ КАЗКІ

Ах, як яны чакалі таго дня, калі выйдуць з парахода на мурожысты, над сінімі незабудкамі бераг Сажа, пераначуюць у пахкім сене на гарышчы бабулінай хаты, а на-

заўтра пойдуць у бязмежнае хараство летняга лугу і лесу, у бясконцую казку роднай, шчырай зямлі!

У партызанскія сховы, пад векавечныя дубы надсажоўскіх вышынь.

У птушыныя спевы пад салодкімі зорамі світальных вандровак.

У легенду крэйдавага ўзвалля, каля недагарэлых старажытных паляў невядомага паселішча.

У ціхую стому змярканняў, дзе касуля, прабуючы ножкамі сыпкі пясчанік, таемна спускаецца з высокай дубровы да Сажа — напіцца.

Колькі вечароў бацька расказваў сыну адну нескончаную казку крылатага белага воблака, што з-пад самага сонейка падае ў чашу празрыстага азёрнага крышталю; сіняга касача на крушынавым балотцы; качынага лопату над ціхімі краскамі заток; зіхотнага следу радугі на даляглядзе; жураўлінага клічу — труб сярэбраных...

Бацька... Татуля... Хто ён быў для Іванкі? Віцязь з таго падання, якое чуў хлопчык ад маці? Чараўнік, якому ўсё на свеце падуладна? Дзівосны вандроўнік, які ўсё ведае і ўсё ўмее? Магутны ўладар сонца і зор, дня і ночы? Асілак, які падужае любое страшылішча і нікога слабога не пакрыўдзіць?..

Трымаючыся моцна за бацькаву руку, Іванка ступіў на сходні парахода.

А далей...

Былі абдымкі бабуліны, сцяжынка да хаты па курасляпе пахучым, яечня і хлеб на кміне і сырадой з пузырыстым шумком.

А потым — ноч.

З шэптамі.

«Татка, ты чуеш, нешта цвіркае? Во — цвірк, цвірк».

«Гэта, сынку, цвыркунок такі маленькі. Можа, хоча з табой пазнаёміцца. Адкажы яму».

«Цвірк... цвірк...» — адгукаецца Іванка.

Нічога... Ціпыня. А потым зноў ціхенька — цвірк, цвірк. Прызнаў цвыркунок Іванку.

«Татка, а што гэта ў шчыліне? Татачка, глядзі, нейкі стручок бліскотны».

«Гэта месяц. Узышоў і плыве па небе. Вітаецца з зямлёю. Зараз ён і цябе бача. Спі. Ён любіць, каб усе пры ім ціха адпачывалі. Спі, Іванка».

І вось — раніца. Прачнуўся Іванка, як на пейкае свя-

та. Што гэта? Чаму так б'ецца сэрца? Чаму есці не хочацца? Куды яго цягне? Ага, сёння ж з бацькам яны ідуць на луг. Як даўно дамовіліся. У першую казку іхняга жыцця.

Паснедалі. Бацька ўзяў стрэльбу.

— Вунь там, за Сажом,— сказаў ён,— бяжыць паміж вольх залатая рэчачка. Чаму яна залатая? А таму, сынку, што цячэ з крыніц лясных праменістых, пясок жоўценькі гоніць з-пад сасновых карэньчыкаў, у золаце сонца купаецца, між залатых гарлачыкаў спаць кладзецца... Пойдзем туды?

— Пойдзем! Пойдзем! — закрычаў Іванка.— А стрэльбу — каб ваўка забіць? Не, не, забіваць не будзем, а толькі спалохаем — уцякай, воўк, ад нашага краю. Так, татачка?

— Так, так!

Спіхнуў татка човен на ваду. Трымайся, Іванка! А чаго тут трымацца. Глядзі, татка, нічога я не баюся. Усміхаецца татка, налёг на вясло. «Шуль-шуль-шуль-шуль!» — зашамацела вада. Шамацела-шамацела, і раптам — гоп! Аж перакуліўся Іванка. Човен урэзаўся ў пясок лугавога берага. Выходзь! Глядзі, які прастор! Колькі хараства на свеце!

Не абняць, не агледзець лугавоеростані зіхоткай, даляглядү сонечнага, званлівага; ціхай лагоды, задумнай радасці няскошаных грыў і лагчын.

Не спяшаецца Іванка. Ля азярыны спыніцца — вось дык справа, эх, не ўзяў сшытак і алоўкі. Пахаджае паўз сітнякоў птушка. Боты чырвоныя, нос, як моркаўка, штаны чорныя, а кашуля белая. Паважна птушка пахаджае. Нават на Іванку з таткам не звяртае ўвагі. Падумаеш, задавака. Іванка ведае — гэта бусел.

Бусла ўсе шануюць. Таму і не баіцца чалавека — ходзіць як быццам з гонарам. Але чаму гэты такі смелы, а другі вунь сарваўся, паляцеў, ледзь толькі ўбачыў людзей?

— Гэта ж чапля, Іванка. Птушка палахлівая, асцярожная.

Чапля? Чаплі Іванка яшчэ не бачыў зблізку. Абавязкова-абавязкова ён падкрадзецца, як разведчык, абавязкова замалюе гэтую птушку! Вось толькі не забыцца на паперу і алоўкі.

Татка смяецца. Ды яна ж зусім і непрыгожая. Уся брудная, вочы злосныя — нашто табе тая чапля. А лепей будзь чуткі, Іванка. Зараз грыва пачынаецца. З купінамі

брусінчнымі, з ажынамі ў зарасніках. Вось там пільнуй! Там як залапаціць — не на жартачкі спалохаешся!

І праўда. Толькі пралез Іванка праз сцяну крушын ды ажынніку, выйшаў на пясчаны пагорак — бац, бух, ча-ча-ча-ча! Залапацела, затрашчала, пясок завіхрыўся, пыл з красак узняўся. Абмёр Іванка. Але глядзіць пільна. І дзіву даецца. Гэта ж дзве вялікія птушкі, з-пад самых ног вырваліся. Як дзве бомбы. Выбухнулі, і ўсё знікла. Глядзіць Іванка на татку, вочы гарацць, усміхаюцца збянтэжана.

— Ну? — пытае бацька.— Вось дык цецерукі. Ай, ды лапатуны! Ну, нічога, Іванка. Я ўжо колькі іх пападымаў, а ўсё роўна сэрца кожны раз заходзіцца. Гэта, мусіць, ад радасці.

— Ад радасці, ад радасці! — бурна згаджаецца Іванка.— А толькі дзе яны сядзелі? Што рабілі?

— А яны купаліся. Вунь глядзі на пясок. Як яго спрасавалі. Раненька, калі сонца прыгрэе ды ціха навокал, цецерукі любяць папесціцца ў пясочку.

Далей ішоў Іванка асцярожна. Усё ўперадзе выглядаючы. Можа, яшчэ сустрэнуцца цецерукі, падпусцяць, дадуць сябе разгледзець? Скончылася першая грыва, лагчынку перабеглі, і вось — грыўка новая. Якраз перад самым лесам. Спыніўся Іванка ля арэшынкі, прыслухаўся. Дзіўныя гукі нейкія. Як спеў жаваранка вясновага. «Ці-ці-ці, буль-буль-буль-буль, цірні-цірні»,— быццам сярэбраныя расінкі перасыпаюцца. Татка глядзіць, усміхаецца. Вачамі нібыта кажа: ступі яшчэ крок, Іванка.

Ступіў Іванка. Арэшыну адхінуў, а перад ім — рачулка. Бяжыць, звініць вада па жоўтым пясочку, каменьчыкі белыя з пясчынкамі перацірае. Падбіваецца пад камлі арэшын, адтуль выбягае на краскі залацістыя, пявучым струменем абдае кожную галоўку. Коціцца, як жвавая жывінка, у зялёную засень чаратоў, расхінаючы звонкія паклоністыя сцябліны.

Загледзеўся Іванка. Унізе рачулка — душа перад ёю расхінаецца. А справа — бор, такі ж прываблівы, чароўны. Сосны адна за адну стрэйнейшыя, гонкія, на вачах цягнуцца ў неба. Ціха гудуць сосны, быццам нейкую думу думаюць, даўно чакаюць Іванку, каб яму перадаць тую думу. А злева — лугавыя расцяробы. Магутныя вербалозы, дубнякі ды альшанікі падбіваюцца да лесу, цягнуцца некуды ў бясконцую даль. Глядзіць Іванка на расцяробы — і яны яму здаюцца вялікай чарадою казачных зялё-

ных караблёў, што па чароўных рачулках плывуць у зялёным лузе.

— Татачка, а куды яна бяжыць, наша рачулка?

— А калі пайсці за нашай рачулкай,— будзе спачатку арэхавая грыва. Далей — дзве крынічкі, а над імі дубы. На трыста гадоў дубам тым, Іванка. А пасля — сасновае ўзвалле, а потым — Сож. Бяжыць рэчачка ў Сож, перад Сажом разліваецца на тры рукавы і, падаючы з высокага берага, вызвоньвае тры песні пра сваю радасць.

— А якую радасць?

— З братам сустракаецца рачулка. Сож — яе брат старэйшы, разумееш?

— Татачка, пойдзем за рачулкай?

— А ты не стомішся?

— Не, не!

— Ну, тады хадзем.

Узяў бацька Іванку пад руку, павярнуў ад бору. Абышлі арэшынку, ступілі ўніз, расхінулі мяцёлкі чараціп. На нагах забруіла сцюдзёная вадзіца, ай любата! — так прыемна ісці па струменістай прахалодзе. Пералезлі цераз імшаністы камень-валун, на сыпучым гарачым пясочку ногі абсушылі. Дзівата! А вунь і арэхавая грыва пачынаецца. Лёгка ўзбег Іванка на чабаровы грудок. Пацягнуў татку за руку. Глядзі, татка, якая сіняя пад грудком рачулка. Глыбіня, мусіць, глыбіня! Татка! А вунь рыбіна! Рыбіна мільганула!

Татка сціскае сынаву руку. Добра, добра, Іванка. Шчаслівая ласка залівае бацькава сэрца. Добра, добра, Іванка. Глядзі ў свет на поўныя вочы, убірай у душу лагоду роднай зямлі.

І раптам...

Залаціста-шэрая маланка высеклася за арэшынай, скочыла ў густой траве. Касуля! Божа любы. Як яна скочыла! Здавалася, струны ўсёй зямлі зазвінелі чароўнай песняй. Скочыла касуля, адным вялізным махам пераляцела цераз рачулку. І каля тонкай бярэзінкі замерла, стаілася.

— Іванка,— шапнуў татка,— касуля... Касуля!

— Дзе, татка, дзе?

— Ды вунь за рачулку глядзі, за рачулку. Каля бярэзінкі!

— Я не бачу, не бачу!

І раптам...

Як жа гэта здарылася... Бацька... Татуля... Дзівосны вандроўнік, які ўсё ведае і ўсё разумее... Ён і сам не памя-

тае, як зняў стрэльбу. Як стрэліў. Стрэліў, каб напалохаць касулю, толькі спудзіць. Гулкі разложысты стрэл скалынуў лугавы спакой. І тады Іванка ўбачыў. Ля тонкай бярэзінкі выбліснула, як прамень, касуля,— выбліснула, падламілася і зарылася пысачкай у пахучы драсён... Забілася, затрымцела тонкімі ножкамі... І сэрца Іванкава ўпершыню пахаладзела ад страшнага суму.

Бацька апусціў стрэльбу. Што адбылося — і сам не разумеў. Лёгкі дымок яшчэ выходзіў з яе ствала. І здавалася, з гэтым дымком выходзіць і прападае ў смузе дня нешта такое, што бывае ў жыцці толькі адзін раз.

«Сынок... Іванка...» — хацеў сказаць бацька. І не мог. Хоць і бачыў сэрцам, як аддаляюцца, аддаляюцца ад яго разгубленыя, спалоханыя дзіцячыя вочы, як скача і падае ў іх непаўторны казачны свет.

Бацька... Татуля... Чараўнік, якому ўсё на свеце падуладна... Ціха і млява ішоў бацька ля Іванкі. Спатыкаўся аб купіны, не заўважаў, што даўно адышлі ад рачулкі. Што цяпер тая рачулка?... Што свет... Як гэта ўсё здарылася? Як адбылося? Ці даруе яму Іванка? Ці зразумее? Ці забудзе гэты стрэл? Ці забудзе ціхі стогн касулін, яе трымценне пад жахлівым болем чалавечага ўдару?..

А Іванка. Шырокімі вачамі, усёй збянтэжанай душою ён глядзеў некуды далёка-далёка,— нешта так хацеў там убачыць! Ды чамусь нічога там не было, усё было пуста, пуста. Толькі калыхаўся квяцісты драсён ды ляжала да тонкай бярэзінкі падкошаная касуліна галоўка.

Двое неразлучных сяброў ішлі поплеч, а ўпершыню думалі, журыліся розна.

Гэта быў канец іхняе казкі.

Што будзе з імі далей?.. Хто ведае...

*1966*

## ПАВОДКА

**Аповесць вясковага настаўніка**

Я пакахаў дзяўчыну і аднойчы няўмела прызнаўся ёй. Я гаварыў ёй пра свае пачуцці і раней, многа разоў, але гэта было не тое. Я гаварыў ёй пра гэта вершамі Пушкіна і Лермантава. Яна выслухоўвала іх з нейкай няпэўнай усмешкай, заўсёды зазначала адно і тое ж:

— Як усё прыгожа! Цудоўна!

Нарэшце я асмеліўся — прысвяціў ёй і ўласны верш, у якім, як горан у кузні (так і было сказана), палаў агонь майго кахання і гучаў енк не пакідаць мяне. Яна спытала:

— Гэта чыё?

— Гэта... я сам...— павольна, каб не разарвалася адразу маё сэрца, сказаў я і палахліва падняў вочы на сваю адзіную.

«Адзіная» пачырванела і цяжка дыхала. «Ну, вось, зараз яна мне адкажа. Які я буду шчаслівы!..» — усхвалявана чакаў я. І яна мне адказала...

— Ведаеце, вы... Ведаеце...— губы яе скрывіліся і голас перарываўся.— Я прашу вас больш да мяне не заходзіць... Займайцеся лепш сваім паляваннем!..— адрэзала яна і злосна адвярнулася ад мяне.

Я пасядзеў яшчэ некалькі хвілін — як тая «персона нон грата», якая, хоць ёй і загадалі пакінуць чужую дзяржаву, усё ж імкнецца да захавання ўласнай годнасці. А прасцей кажучы,— я надта разгубіўся. І мне было не проста выйсці з яе хаты...

Але нарэшце я падняўся. Ціхенька, як бы ў задуме, зачыніў дзверы, гэтак жа ціха перайшоў гразкую вясковую вуліцу. Хата, дзе кватараваў я сам, была амаль побач. Я не помню, як зайшоў і ўзяў сваю стрэльбу. Можа, хацеў пакончыць самагубствам? Не... Толькі я доўга блукаў па асенніх палях, каля ўскаламучаных дажджамі рачулак, па гаях, што пажаўцелі і ўжо асыпаліся, пакуль мае юхтовыя боты не зрабіліся рудымі і, як пудовыя гіры, цяжкімі, а галаве не стала лёгка і ясна...

«Нічога,— думаў я, заспакоены, ідучы дадому.— Што ж, мы рассталіся... Але не можа гэта быць надоўга...»

Для такіх думак я стараўся знайсці свае падставы. Мы з ёю толькі ўдваіх у вёсцы настаўнічалі, і як жа, здавалася мне, яна зможа доўга не бачыць маёй адданасці? А каханне маё разгаралася ўсё мацнейшым агнём. Праўда, я ўлічваў, што, магчыма, мы і не зусім з ёю пара. Яна, «мая», як я ў думках зваў Надзю, была такая шыкоўная, гарадская. Яна ўмела так хораша гаварыць і апранацца і любіла ўсё толькі прыгожае. А я быў няўклюдны вясковы хлопец, зусім просты, нават і пасля вучобы ў горадзе апіяк не мог наладзіць свой няхітры гардэроб. А яшчэ я любіў паляванне. А яна яго не любіла.

Бывала, яшчэ да нашага разладу, яна, хоць і захоўвала суседскую ветлівасць, заўсёды неадабральна ставілася да маіх паляўнічых паходаў. Асабліва мне пападала тады, калі ўдавалася што-небудзь падстрэліць.

— Як вам не сорамна! — крычала Надзя, тонкімі сваімі пальчыкамі закрываючы вочы, каб не глядзець на ўпаляванага мною цецерука.— Як вам не брыдка забіваць такую красу! Гэтая ліра яшчэ нядаўна ўпрыгожвала малінавыя зараснікі, пакуль вы не патапталі іх сваімі падкаванымі ботамі! Гэтыя прыгожыя птушыныя вочы так прагна глядзелі на свет! А вы, што вы зрабілі!..

Мне такія яе прамовы заўсёды здаваліся крыху мнагаслоўнымі і не зусім дакладнымі. Аднак перад сінім гневам яе вачэй я і на самай справе пачынаў адчуваць сябе вінаватым. Пакорліва, як чалавек, які зрабіў злачынства, стаяў, пакуль яна не казала свайго злоснага «бывайце». А тады панура плёўся дахаты, спатыкаючыся і грукаючы аб каменні сваімі і напраўду падкаванымі ботамі...

Так было раней. А цяпер, пасля нашага разладу, яна некаторы час наогул ігнаравала мяне. Толькі яе вусны іранічна крывіліся, калі я казаў «добры дзень, Надзя...».

Прайшла восень, і настала зіма. Не думалася мне, што так упарта будзе сердавацца на мяне «мая» Надзя. А яна ўсё маўчала і маўчала. І што мне было рабіць? Кожны дзень пасля заняткаў браў сваю стрэльбу ды ішоў на заснежаныя палі і балоты, да сваіх зайцоў. З імі, даўгавухімі шаракамі, было ў мяне самае сумленнае спаборніцтва. Удасца яму напятляць слядоў так, каб я пратаптаўся да вечара, нічога не разабраўшы, ці даць драпака з-пад самага носа,— ну што ж, жыві, касы, і няхай гудуць ад стомы мае ногі. А не ўдасца перахітрыць мяне — тады ідзі, дружа шэры, за мае плечы і целяпайся там сваімі доўгімі вушамі, пакуль іду да вёскі...

Прыемна, вядома, кожнаму паляўнічаму паказацца перад людзьмі са сваім трафеем. Асабліва калі трафеі здараюцца не часта. Я ж у апошні час быў пазбаўлены такой асалоды. Хацеў менш трапляцца на вочы Надзі — можа, хоць так, спадзяваўся, даб'юся з ёю прымірэння. Вось і стараўся, несучы касога, ісці загуменнямі, ды яшчэ і прыцемкам.

Але я, відавочна, не заўважаў, што ў Надзі маёй нешта змянілася. Неяк раз у школе звярнуўся да яе з дзелавым запытаннем, і яна — о дзіва маё дзіўнае! — яна не толькі адказала мне вельмі шчыра і прымірэнча, а нават назвала

мяне па імені і па бацьку — упершыню пасля нашага разладу. Не скажу, што я аслупянеў, я не так здзівіўся, колькі разгубіўся. Рукі мае дрыжалі і пад нагамі вагалася падлога, калі, забыўшыся падзякаваць, адыходзіў ад Надзі, Надзі Пятроўны, надзеі маёй і смутку майго... Расхваляваны ішоў я на ўрок, і на ўроку ў тлумачэннях маіх не было ранейшага складу і ладу. Я так ліхаманкава думаў усё аб адным і тым жа, што потым з пакутай гэта ўспамінаў: баяўся — а ці не зразумелі майго стану вучні. А думаў я з дакорам і гневам пра сваю бяздушнасць, пра сваю, як дапякаў сябе, «мужыцкую» няўважлівасць, пра сваю нават грубасць. «Ёлупень ты няшчасны, нягоднік у падкаваных ботах! — лаяў я сябе ў думках.— Бяздушная ты істота! Бадзяга бяздомны! — знішчаў сябе, успамінаючы задумна-лірычныя Надзіны вочы.— Дзяўчына, можа, даўно ўжо чакае ад цябе чулага слова, твайго першага кроку да сябе, а ты ходзіш загуменнямі, гойсаеш па зайчыных сцежках і нічога не разумееш і не заўважаеш!..»

Магчыма, я знішчыў бы сябе назусім і надоўга, калі б не вырataваў мяне апошні ў гэты дзень школьны званок. Ён уварваўся ў мае думкі аглушальна і заклікальна, як быццам хацеў падвесці рысу пад усімі маімі трывогамі. Каб нічога сумнага пад гэтай рысай не засталося, а было б нешта новае, добрае, якое мне так хацелася ўбачыць...

Званок празвінеў, я сказаў вучням прывычнае «можаце ісці дадому». Вось ужо сціх грукат партаў, і дробны тупат ног пачаў аддаляцца ад класнага пакоя, а я ўсё стаяў каля акна, там, дзе засціг мяне званок...

Боязна мне было ісці ў нашу маленькую настаўніцкую, бо я зусім не ведаў, не адчуваў, як пасля такога хвалявання загавару з Надзяй...

Так я прастаяў, пакуль, як мне здалося, нікогачкі не засталося ў школе.

Усё было ціха і пуста.

У гэтай цішыні і запусценні мне лягчэй стала аднаму са сваімі пераблытанымі думкамі.

Я выйшаў з класа і ўжо не баючыся — грук-грук падкаванымі ботамі — скіраваўся да настаўніцкай, дзе заўсёды заставаўся на паўгадзінкі пасля ўрокаў, каб навесці такі-сякі парадак у школьных справах. І тут нечакана сустрэў Надзю... Дзверы настаўніцкай, калі толькі я да іх наблізіўся, гулка адчыніліся,— перада мной з'явілася Надзя. Нейк незнаёма глянуўшы на мяне, яна кінулася

да выхаду. Вочы яе як быццам былі заплаканыя, і мне стала сорамна.

«Эх ты,— зноў упікнуў я сябе.— Эх, ты ж чалавек! Можа, з ёю што здарылася, а ты, а ты баязліва недзе стаяў, чакаў!..»

У настаўніцкую, такім чынам, я зайшоў ужо зусім разгублены. А тут яшчэ засталіся яе водар, яе дыханне, якія я пазнаў бы, здаецца, у цэлым свеце. Гэта быў пах яе духоў, пах вясновых палісаднікаў, пах бэзу, змешаны з нечым такім асаблівым, непаўторным, што было толькі з ёй адной і вакол яе аднае. Можа быць, то было дыханне яе маладосці, яе пекнаты... Усё гэта разам з маёй разгубленасцю абдало мяне, як хваляй, з ног да галавы. Цяжка, стомлена апусціўся я на табурэтку перад сталом і абхапіў рукамі галаву.

Што мне рабіць? Як вызначыць правільны шлях сваіх паводзін, каб не страціць свайго шчасця? Вядома, ні да чаго я не дадумаўся.

«Пайду дамоў,— рашыў я.— Вазьму стрэльбу. І на поле. А там, дзе марозны вецер і хруст ільдзінак, там мне не раз так добра думалася...» Я ўзняўся, каб апрануцца, і раптам заўважыў на другім рагу стала груба разарваны канверт і побач — скамечаны ліст. Даўно гэта было, сябры, але не магу не прызнацца ў сваёй слабасці. Я здагадаўся, каму гэта было пісьмо. Нас толькі двое бывала ў настаўніцкай. Калі пісьмо не мне, значыць — ёй. А калі яна плакала — значыць, пісьмо благое. У тую хвіліну я і не падумаў звязаць гэтае пісьмо са зменай Надзіных адносін да мяне. Я толькі адчуў, што менавіта гэтае пісьмо прынесла ёй слёзы. І мне так хацелася даведацца, што ў ім. Я, безумоўна, разумеў, што гэта брыдка і непрыгожа. Але тут жа я разважаў: чаму пісьмо засталося на стале? Магчыма, яна, пачуўшы мае крокі, хацела хутчэй выйсці з настаўніцкай і забылася пра пісьмо. Тады я не павінен да яго дакранацца. А можа, у гэтым пісьме вестка пра нейкае няшчасце з роднымі, і яна, такая гордая, такая ўпартая, не захацела сказаць мне і знарок пакінула пісьмо, каб я сам даведаўся?..

Словам, я абышоў стол і прачытаў адрас на канверце. Так, гэта было пісьмо ёй. Зваротнага адраса не стаяла. Тады я разгарнуў скамечаную паперу. У самым версе буйнымі літарамі былі адзначаны дзень, месяц і год напісання пісьма. А далей ішло: «Прывітанне, Надзя! Не сярдуй і мяне не дакарай... Патрохі я ўпэўніўся, што мы розныя

з табой людзі, і гэта цяпер канчаткова... Раней я яшчэ вагаўся, але ты ведаеш з маіх пісьмаў...» Далей я не мог чытаць, бо і ад прачытанага на душы стала вельмі прыкра. Я паклаў пісьмо на старое месца, замкнуў настаўніцкую і, аддаючы ключ вартаўніку, папрасіў, каб сягоння ў настаўніцкай уборкі не рабілі... Не хацелася, каб яшчэ хтонебудзь даведаўся пра таямніцу Надзі...

Не трэба даказваць, колькі слоў абурэння выклікала ў мяне пакінутае ў настаўніцкай пісьмо. Я не помніў пра сябе. А помніў толькі, што Надзі, маёй Надзі, зроблена крыўда. І жадаў самай лютай кары аўтару гэтага пісьма, чалавеку, які пасмеў растаптаць узаемнасць і павагу такой цудоўнай, такой адной на свеце дзяўчыны...

Назаўтра я надумаўся прыйсці ў школу пазней звычайнага: няхай, рашыў я, Надзя першая зойдзе ў настаўніцкую і забярэ пісьмо. І таму пераступіў парог нашага пакоя за якіх паўдзесятка хвілін да пачатку ўрокаў. Надзя, вядома, была ўжо тут. Я пастараўся прывітацца, як рабіў гэта і заўсёды,— ветліва і спакойна, хоць схаваць свае пачуцці мне было не так лёгка. Надзя не адказала мне ніводным словам. Яна толькі ўскінула на мяне свае сінія вочы і падала маленькую, але дужую, учэпістую руку.

Цяпер я ўпэўнены, што Надзя тады, мусіць, усё ж распазнала мой настрой. І, відаць, у тыя хвіліны стаяла на зямлі мацней за мяне. Прынамсі, у яе позірку я не ўбачыў таго смутку, які чакаў убачыць. Гэта крыху мяне здзівіла. Хоць, праўда, позірк гэты быў амаль мімалётны, бо я адразу, баючыся выдаць сябе, павярнуўся да сваёй вешалкі. Затое ўжо зусім я быў здзіўлены, калі ўбачыў, што ўчарашняе пісьмо Надзяй не прыбрана, нават не скранута са свайго месца!

Я кахаў Надзю, Надзю Пятроўну, а гэта вельмі многа значыць! Гэта значыць, што мне ў кожным яе ўчынку бачылася толькі разумнае і светлае, толькі пяшчотнае, сардэчнае. І я ў думках зноў вылаяў таго чалавека, які прыслаў Надзі пісьмо. Падумаў: калі Надзя не змагла нават сёння справіцца з гэтым пісьмом, значыць, ён прынёс ёй многа болю, значыць, аўтар пісьма не варты Надзіных хваляванняў. І, значыць, я, як мужчына, павінен прыйсці Надзі на дапамогу. Я адчыніў дзверы і паклікаў вартаўніка.

— Андрэй Антонавіч,— сказаў яму як мага больш спакойна.— У вас якраз гарыць печка, а ў нашым пакоі валяюцца розныя паперы... Зрабіце, каб тут было чыста...

Андрэй Антонавіч чамусьці паглядзеў спачатку на мяне, потым на Надзю, але нічога не сказаў. Парэпанай далонню згроб ён са стала дзве паперчыны — пісьмо і канверт, падняў яшчэ нейкую непатрэбшчыну каля шафы і ўсё панёс да печкі. Я чакаў, што Надзя ў апошні міг можа спыніць яго, але яна маўчала. Андрэй Антонавіч кінуў паперы ў агонь, яны зараз жа ўспыхнулі яркім полымем. І мне здалося, што я ўбачыў, як на попеле курчацца з крывавым водблiскам, з немым крыкам дзень, месяц і год напісання слоў аб расстанні двух сэрцаў...

Я паглядзеў на гадзіннік і павярнуўся да Андрэя Антонавіча. Той дастаў з кішэні свой, як ён казаў, балабон. Адчыняючы дзверы, падняў яго над галавой, і па калідоры паплыў прастуджаны медны звон. Я ўзяў класны журнал і прапусціў перад сабой Надзю. Яна выйшла на калідор. Але нечакана павярнулася. Не гледзячы, знайшла маю руку і моцна пацiснула...

Так я стаў шчаслівым. Што мне была за справа да Надзінага мінулага? Я ж кахаў яе заўсёды — з таго часу, як яна прыехала ў школу. А калі той чалавек, да якога імкнулася яе сэрца, здрадзіў ёй — дык для яго ж і горш. Так я сказаў сабе раз і назаўсёды, а таму для мяне насталі радасныя, светлыя дні. Надзя ўсё больш гарнулася да мяне. Нават мой выгляд, мая бобрыкавая паляўнічая куртка і мае боты выклікалі ў яе лагодны настрой. Яны нагадвалі ёй, як яна казала, хараство заснежаных пералескаў, задумную гамонку соснаў і мілы птушыны шчэбет. Яна толькі прасіла:

— Вася! Ты сабе хадзі на паляванне, але шкадуй усё прыгожае! Хай яно жыве, бо гэта ж для сэрца!..

Так змянілася мая Надзя, але змяніўся і я. Ні на што на свеце не памяняў бы я раней свае моцныя юхтовыя боты, без якіх, як без лепшага сябра, не ўяўляў свайго існавання. А зараз купіў сабе ў нашым сельмагу модныя замежныя камашы з вострымі доўгімі насамі. І на кожную ноч клаў пад сяннік, як гэта рабіў у студэнтах, свае новыя шарсцяныя штаны, каб яны адпрасаваліся. Словам, рабіў усё, што магло б дагадзіць Надзінаму гарадскому, не, не гарадскому,— меркаваў я цяпер,— а тонкаму дзявочаму густу.

Ды і на паляванне стаў я хадзіць радзей. А калі выходзіў у поле ці ў лес, ад чаго не мог адвыкнуць, дык стараўся страляць так, каб не нарабіць шкоды, каб усё прыгожае, што так любіла Надзя, заставалася цэлым.

А што ёсць у прыродзе непрыгожага? Нічога непрыгожага ў прыродзе няма. Нават і без той чубатай сойкі, што гойсае па лесе з прарэзлівым непрыемным крыкам,— і без яе стаў бы лес не такім цікавым і прываблівым. А што ўжо казаць пра белага, як першы чысты снег, лясного зайца ці пра даверлівую да чалавечага жылля — вынослівую шуструю курапатку? Або пра ціхую цяцерку з яе непераможным інстынктам маці? Ці хаця б пра таго нязграбнага барсука, які можа перавярнуць гару зямлі, робячы для дзяцей цёплае, утульнае сховішча?..

Нічога няма непрыгожага ў прыродзе. Нічога такога, што не было б для нашых сэрцаў. І цяпер я, заядлы паляўнічы, усяму гэтаму дараваў жыццё. Дараваў дзеля сваёй Надзі.

Цяпер, выходзячы за вёску, я быў больш следапытам, чым паляўнічым. Я адводзіў душу тым, што падоўгу расчытваў складаныя заечыя сляды, зайчыныя хітрасці. І заўсёды выходзіла так, што заяц яшчэ здалёк мяне заўважаў і, усклаўшы на плечы доўгія, як нажны, вушы, шыбаваў у зацішны куток.

Праўда, часам здаралася так, што мой паляўнічы запал усё ж перамагаў. Тады я, неўпрыкмет для самога сябе, хутка і ўпэўнена перасякаў хітрыя спляценні заечых слядоў і выходзіў проста на лёжку шарака. Раней такому бедаку ўжо не было б выратавання. А цяпер... Я і цяпер ускідваў стрэльбу, і рэха гулкага стрэлу кацілася паміж пералескамі. Не стрэліць не мог — гэта было звыш маіх сіл. Але шрот ад майго зарада толькі баранаваў заснежанае поле ці ссякаў сучкі на бярэзінках... Той, хто хоць адзін раз адчуў магутную трапную сілу свайго стрэлу, хто хоць адзін раз трымаў у руках здабыты паляўнічы трафей,— той зразумее, чым я — усёй душой паляўнічы — ахвяраваў. Але я тады не лічыў гэта ахвярай. Проста хацеў стаць вартым сваёй Надзі, быць роўным ёй,— такім жа чыстым, улюбёным у свет, як і яна. Бо я яе вельмі кахаў...

Не ведаю, ці здагадвалася Надзя пра тое, што са мной адбываецца. Я не імкнуўся што-небудзь перад ёй падкрэсліць. Гэта было пераўтварэнне маёй душы перад маім каханнем, і я радаваўся, што яна робіцца мацнейшай і больш шчодрай.

З Надзяй мы сустракаліся і гаварылі ўсё часцей і часцей. Яе пяшчотныя адносіны да ўсяго жывога мяне проста акрылялі. І, нашто таіцца, мае думкі пачалі настойліва

перасяляцца ў маю будучыню, якую сабе за гэты час намаляваў. Я ўяўляў сабе нашу новую з Надзяй хату на высокім беразе Сажа — з чатырма вокнамі: два — на палявы і лясны прастор, а два — на вёску. Каб усё радаснае, чым жывуць зямля і людзі, было відаць сэрцу маёй Надзі і каб яна заўсёды магла даць гэтаму радаснаму свой адказ. Кожнай раніцы ў гэтай хаце я вітаў Надзю з новым днём, а ў яе сініх вачах бачыў той непагасны прамень, што навекі злучыў нашы сэрцы... Словам, як відаць з маёй мары, я быў напярэдадні самага адказнага ў жыцці прызнання. Хоць і баяўся яшчэ падумаць, як гэта станецца, але з кожным днём усё мацней адчуваў, што без гэтага пражыць не здолею. Мне хацелася бясконца чуць Надзін голас, яе цёплае, такое веснавое дыханне, бачыць задуму яе добрых вачэй, трымаць яе рукі — мне хацелася бясконца быць з ёй! І як жа я быў удзячны ёй, калі яна, зайшоўшы ў настаўніцкую, яшчэ з сіверам на шчоках і інеем на кудзерках валос, замест звычайнага прывітання ішла да мяне і падавала свае сцюдзёныя рукі:

— Пагрэй, Васіль...

У такія хвіліны я жадаў для сябе нечага самага небяспечнага, дзе я змог бы аддаць усё, нават сваё жыццё, за Надзю.

Але нічога небяспечнага ў нас не здаралася, усё ў нас было добра, і ў школе і па-за школай. Нейкае як бы сонцастаянне спакою і радасці панавала над намі. Праўда, быў адзін прыкры выпадак з Надзяй у класе. Але што ён мог значыць перад нашай узаемнасцю! Надзя пра гэта хутка забылася, а я не хацеў і памятаць.

Было вось як. Аднойчы, амаль у самым пачатку ўрока, да мяне нехта нервова пастукаў. Прыадчыніў дзверы ў калідор,— а там стаяла Надзя. Я ажно спалохаўся: такой ніколі яе не бачыў. Вочы яе гарэлі шалёнай сухой злосцю, твар быў пунсовы, прычоска збілася. Губы дрыжалі. Надзя не магла вымавіць ні слова.

— Адну хвіліначку,— як мага цішэй сказаў я, вярнуўся ў пакой, наспех даў вучням самастойнае заданне і выйшаў да Надзі. Яна за гэтыя хвіліны трохі авалодала сабой, але нервовая слабасць яшчэ засталася. Надзя неяк асунулася да непазнавальнасці. Мне было так яе шкада, я ўзяў сваю дарагую сяброўку пад руку. І, каб далей з чыіх-небудзь вачэй, хуценька накіраваўся з ёю ў настаўніцкую.

— Надзя, што здарылася? — трывожна запытаў, падаючы Надзі стул.— Хто-небудзь з вучняў?..

— Ідзі ў трэці... Сам даведайся... Конанаў...— толькі і змагла вымавіць яна, на вочы яе набеглі слёзы.

— Ну, нічога, ты тут пастарайся супакоіцца, а я за-раз...— Усёй душой шкадуючы Надзю, я падбадзёрыў яе і накіраваўся ў трэці.

Школа наша была двухкамплектнай, кожны з нас, я і Надзя, вялі па два класы. У Надзі былі першы і трэці. Можна сабе ўявіць, які я чакаў сустрэць там цяпер гармідар. Але, падыходзячы да класнага пакоя першага і трэцяга, спыніўся, здзіўлены выключным спакоем, які пануе ў школе. Гэту акалічнасць я заўважыў толькі зараз, бо тады, калі праводзіў Надзю, устрывожаны за яе, неяк не звярнуў на гэта ўвагі.

У незразумелым для сябе роздуме зайшоў я да Надзіных вучняў. Усе былі на сваіх месцах, усе ўсталі. Я прывітаўся, выслухаў шумны дружны адказ і, пасадзіўшы вучняў, паволі падышоў да стала. Я не спяшаўся, бо абдумваў, як ліквідаваць прыкрае непаразуменне. Каб і вучняў не пакрыўдзіць і не пашкодзіць Надзінаму аўтарытэту. А што адбылося непаразуменне — у гэтым я адразу ўпэўніўся, толькі глянуў на вучняў. Яны былі невінаватымі, гэта было напісана на іх тварах. І гэта прачытаў бы кожны, хто хоць трохі калі-небудзь займаўся са школьнікамі. Яны ўсе глядзелі на мяне адкрыта і шчыра, і ў іх вачах было чаканне маёй справядлівасці. Толькі Конанаў, прыгожы бялявы хлопчык, сядзеў, апусціўшы галаву на парту. Ён плакаў. Становішча маё было з няпростых. Аднак я зайшоў сюды не для таго, каб толькі пастаяць перад вучнямі.

— Дзеці,— сказаў я цвёрда, але спакойна.— Вы пакрыўдзілі сваю настаўніцу Надзю Пятроўну. Гэта першы выпадак у нашай школе, і мне непрыемна за вас. Конанаў, раскажы, што ты тут нарабіў?..

Конанаў нічога не адказаў, нават не ўстаў, ён толькі яшчэ мацней усхліпнуў. А затое ўзняўся яго сусед, сын нашага калгаснага брыгадзіра Ваня Капуста. Ён, неяк збоку пазіраючы на мяне, сказаў:

— Васіль Іванавіч, паглядзіце на яго галаву...

І сеў. А ўвесь клас адразу падняўся і загаманіў.

— Яна яго крэйдай па галаве ўдарыла... У яго кроў... Яна яго цягнула разам з партай...

Яна.. яна... Не Надзя Пятроўна, а яна...

Пачуццё настаўніцкага вопыту ўмомант падказала мне, што я не здолею быць справядлівым, калі хачу хоць трохі выратаваць Надзін аўтарытэт. І я рашыўся на не-

справядлівасць. Разумеў, што падысці мне да Кананава і пачаць разглядаць яго галаву — значыць, вынесці прысуд Надзі. А не падысці — сабе. І я не падышоў. Тым больш што чырвоная пляма на бялявых валасах хлопчыка была мне відаць і адгэтуль. Я пастаяў, пакуль вучні сціхлі.

— Усе накрычаліся?.. Цяпер няхай хто-небудзь коратка раскажа мне пра ўчынак Кананава...

І тут я адчуў, што прысуд нада мною пачаў дзейнічаць. Яшчэ некалькі хвілін таму назад душы вучняў былі для мяне адкрыты насцеж, а зараз яны ціха, але моцна зачыніліся. Чакаць добраахвотніка было толькі горш для справы, і я падняў Ваню Капусту.

— Ваня Капуста, раскажы ты...

Ваня ўстаў неахвотна.

— Кананаў ураніў сцірку і пачаў яе шукаць пад партай... А яна не разабралася...

— Не яна, а Надзя Пятроўна...

Капуста падняў на мяне вочы. Апусціў іх.

— А яна... Надзя Пятроўна... не разабралася, загадала яму выйсці з класа... Кананаў стаў ёй казаць... А яна...— Ваня зноў падняў на мяне вочы,— Надзя Пятроўна... Яна падскочыла і ўдарыла яго крэйдай па галаве... А потым стала цягнуць яго разам з партай... А Кананаў спалохаўся і трымаўся за парту...

Усё было ясна. Надзя дапусціла памылку — толькі так, а не горш, расцаніў я тады яе ўчынак. І, зразумейце, інакш расцаніць тады я не мог. Бо я ж кахаў Надзю. Пакуль Капуста апавядаў мне пра гэта непрыгожае здарэнне, у мяне змагаліся два пачуцці: адно — педагагічнага асуджэння Надзі, а другое — чалавечага шкадавання яе. І перамагло апошняе. Уявіў сабе, як зараз пакутуе Надзіна сэрца, і мне самому стала вельмі балюча. І мая несправядлівасць да вучняў пайшла далей. З чыста прафесійнай педагагічнай бясстраснасцю я ўхапіўся за адзін фармальны выкрутас і кінуў яго на маўклівых дзяцей.

— Кананаў вінаваты перад Надзяй Пятроўнай. Згубіўшы сцірку, ён павінен быў папрасіць у настаўніцы дазволу знайсці яе... А калі Надзя Пятроўна загадала Кананаву выйсці, ён павінен быў выканаць загад настаўніцы...— Я маўчаў... Вучні сядзелі панурыя... Мне не заставалася нічога іншага, як працягваць сваю тыраду.— Трэба разумець, што вас многа, а настаўніца адна... Яна хоча, каб вы былі добрымі, выдатна вучыліся, і для гэтага аддае ўсе сілы і здольнасці... Таму прапаную, каб Кананаў папрасіў

у Надзі Пятроўны прабачэння... І ўсе запомніце: такім выпадкам не месца ў нашай школе... Ваня Капуста, схадзі ў настаўніцкую, пакліч Надзю Пятроўну...

Калі Надзя ўвайшла ў клас, я зноў не пазнаў яе. Ад яе слабасці не засталося і следу. Зноў яна дыхала такім спакоем, вочы ззялі такой усёдаравальнай светласцю, што я, хоць і непрыемна ўсхваляваны, мімаволі ёю залюбаваўся. «Так, яна вельмі добрая, я дзейнічаў правільна»,— сказаў сабе. Калі ж яна, не чакаючы прабачэння Конанава, хуценька падышла да яго, пагладзіла хлопчыка па галоўцы, ледзь не абняла яго,— я і зусім расчуліўся.

Конанаў, шчырая дзіцячая душа, прыўзняў галаву і, як мне здалося, прыхіліўся да Надзінай рукі. Праворныя Надзіны пальчыкі выхапілі са спаднічнай кішэнькі флакончык з духамі, і па пакоі разліўся знаёмы і дарагі мне бэзавы пах. Потым у паветры мільганула Надзіна з карункамі насавая хустачка. Надзя акуратненька змыла чырвоную пляму на галаве Конанава, прыгаварваючы: «Вось так... Вось так... Нічога, Конанаў, ты такі чароўны хлопчык... Ты крыху памыліўся... Але ўсё будзе добра, усё добра, мы яшчэ падружымся...» Конанаў, здалося мне, павесялеў, і ўсе вучні нібы нанова акрыялі... Я пажадаў дзецям добрых поспехаў і выйшаў задаволены, што справа хоць так скончылася...

Пасля ўрока не хацелася нічога казаць Надзі. Яна падышла да мяне сама.

— Вася,— пакорліва загаварыла Надзя.— Ты забудзь сённяшняе, добра? Я разумею — як педагог, я паступіла кепска. Якім чынам усё атрымалася — бог ведае... Сэрца разрываецца... Дараваць сабе не магу...

І мне зноў стала яе шкада! А за тое, што яна сама сябе дакарае, нават адчувалася да Надзі цёплая ўдзячнасць...

Вось такое было адзінае непрыемнае здарэнне ў нашым жыцці. Я пра яго не хацеў памятаць, а Надзя і зусім забылася. І ўсё ў нас было проста і светла, як бывае ў пагожы вясновы дзень, калі далёка і бясконца адкрываюцца сонечныя далягляды...

Як я сказаў раней, я ўжо марыў бачыць Надзю сваёй жонкай, толькі яшчэ не прыдумаў слоў і не набраўся смеласці для адказнай сваёй размовы. Але хутка я ўпэўніўся, што нездарма так кахаў Надзю. Хутка яшчэ раз даведаўся, якое чулае і спагадлівае ў яе сэрца. Надзя, мусіць, адчула маю трывогу, бо неяк, калі мы прыйшлі на заняткі, засаромеўшыся, сказала:

— А ведаеш, Вася, пра нас у вёсцы пачынаюць гаварыць... Пра нашу дружбу... Табе прыемна?..

Прызнацца, я трохі сумеўся. Аб такім чамусьці ніколі і не падумаў. Аднак тут жа разважыў, што нічога дзіўнага ці асаблівага ў гэтым няма. Бо мы ж не на пустынным востраве жывём з Надзяй. Можа, і добра, што ўсе заўважылі. Значыць, наша каханне (так, у той момант я сказаў сабе **наша** каханне) стала вялікай сапраўднасцю, калі яго заўважылі. І як толькі я так падумаў, маё сэрца перапоўнілася пачуццём бясконцай шчырасці да Надзі. Шчасце само ішло да мяне.

— Надзя! — сказаў я. Голас мой ад хвалявання гучаў глуха.— Надзя... Я даўно хацеў сказаць... прасіць цябе... быць разам... навечна...— З цяжкасцю так сказаў і, як тапелец за саломінку, хапіўся за Надзіну руку. Надзя зараз жа забрала руку. Гэта балюча мяне кальнула. Але я такі яшчэ не зусім ведаў сваю Надзю. Яна забрала руку, але тут жа паклала яе на маю ўскудлачаную гарачую галаву. І ў наплыўшым на мяне тумане я ўбачыў перад сабою, як дзве зоркі, яе пасвятлелыя вочы.

— Вася!..— шаптала Надзя.— Няўжо ты не верыў, што я цябе кахаю... Мы будзем разам... я згодна... Настане лета... канікулы... і справім сваё вясёлае вяселле...

Не памятаю, мне здаецца, Надзя пацалавала мяне. Асеплены і аглушаны ад шчасця, я не помніў нават, як у той дзень праводзіў урокі... Словы «згодна... лета... вяселле...» гучалі ў вушах і стаялі ў вачах, яны засланілі ўсё іншае на свеце, такое мізэрнае ў параўнанні з маім шчасцем...

А пакуль настала лета — прыйшла вясна. Вясна ў тым годзе выдалася дужа ранняя. У сярэдзіне сакавіка нечакана з'явіліся цёплыя сонечныя дні з тымі вострымі паўднёвымі ветрамі, якія завуць смерцю зімы. Вясна была такая імклівая, што нават не паспеў пачарнець снег — яшчэ чысты пасля нядаўняй завірухі, ён ператварыўся ў шумную імклівую ваду і каламутнымі патокамі збягаў на ўзбугрэлую кажушыну Сажа.

І вось аднойчы многія жыхары вёскі былі ўзбуджаны як бы далёкай кананадай. Насельнікі вялікіх рэк ведаюць, што гэта такое. Яны чуюць гэта кожнай вясной, калі бурныя вясновыя воды ўзломваюць моцныя ледзяныя закрайкі на берагах і бягуць над лёдам і ў так перапоўненае рэчышча. Тоўсты зляжалы лёд не вытрымлівае націску нястрымнай маладой сілы, пачынае ўздувацца і

трэскацца. І тады далёка ў наваколлі чуваць яго стогн, падобны на гарматны гул. Я заўсёды любіў і люблю час крыгалому. І ў той раз ноччу я доўга не спаў, слухаючы, як гудзе зямля, скідаючы знелюбелыя зімовыя путы.

Раніцай, перш чым зайсці ў школу, я доўга стаяў над Сажом. Ён ужо выходзіў з берагоў. Крыгі трушчыліся і насядалі адна на адну, дыбіліся і кідаліся на кручы, а моцная вада гнала іх далей і далей. Сапраўднай паводкі яшчэ не пачалося, але адчувалася, што не пройдзе і дня — і ўвесь пасінелы луг на пяць-шэсць вёрст перад вачыма схаваецца пад ачышчальнай плынню вясновага мора. А потым... Я зноў падумаў пра сваю бліжэйшую будучыню. Потым памалу сыдзе вялікая вада, зацвіце лотаць, праб'ецца першая, да болю ў вачах зялёная, трава. А потым — луг на ўсю бязмеж убярэцца ў кветкі, травы стануць рослымі, настане лета. І мы з Надзяй пачнём будаваць свой новы дом. Ну, хаця б вось на гэтым месцы, дзе я зараз стаю.

Я агледзеўся — сапраўды, добра! — і ў радасным настроі пашыбаваў да школы.

На парозе настаўніцкай — такая ж сонечна-прыўзнятая — сустрэла мяне Надзя.

— Вясна, Вася! — урачыста прамовіла яна. Моцна пацiснула абедзве мае рукі і зазірнула ў вочы.

— Так, Надзя! Вясна! А хутка — і лета! — гэтаксама на высокім дыханні адказаў я. І ўсё нам было зразумела, і мы абодва вясёлыя пайшлі на ўрокі.

Прамінула яшчэ некалькі дзён. Мы адпусцілі дзяцей на вясновыя канікулы. Цяпер у нас было багата вольнага часу, і мы дамовіліся з Надзяй часцей бываць разам. У прыродзе за гэтыя дні адбыліся бурныя змены. Снегу не стала нідзе, ні ў полі, ні ў лесе. Толькі ў глыбокіх заценёных равах ды на прамёрзлых балацяных нізінах ляжалі яшчэ зледзянелыя зярністыя касякі. А які стаў Сож! Ад самай нашай вёскі і да ныблізкага сіняга лесу на другім беразе ён раскінуў магутную шырыню вады. Паводка ўвайшла ў поўную сілу, падступіла пад сцены вёсак, шумела не сціхаючы, хоць стаялі ціхія дні. І чаго толькі не было ў яе шуме. Ён нёс у сабе і нядаўні шоргат ільдзін, і стук тапароў з суседняга пасёлка, дзіцячы плач і песні дзяўчат, звон кавальскіх малатоў і спеў жаваранкаў. Як збіраліся ўсе такія розныя гукі на імклівую гладзь вады — невядома, але яны не толькі не змаўкалі, а шырыліся, запаўнялі ўсё наўкруг. Мне было вялікай асалодай разам з

Надзяй слухаць гэтую сімфонію вясны. Душа рвалася ў палёт, хацелася, расклаўшы крыллі, кружыцца над неаглядпай ажыўшай даллю зямлі і вітаць людзей з хараством жыцця. Надзя, відаць, перажывала тое ж самае.

— Божа мой! — шапталі яе губы.— Няма нічога на свеце лепей прыгажосці!

Вось у адну з такіх хвілін у нас нарадзілася думка, хоць не на крыллях, дык на звычайнай лодцы пагойдацца на плынях паводкі. Пераплыць разліў, пабываць у тым лесе, што цёмна сінеў на даляглядзе. Я быў чалавекам энергічным і адразу ж узяўся за справу. Схадзіў да знаёмага бакеншчыка, папрасіў лодкі. І вечарам паведаміў Надзі, што заўтра раніцай можам здзейсніць нашу задуму, за што атрымаў мілую ўсмешку яе вачэй і поціск рукі.

Новага дня цяжка было дачакацца, і ледзь толькі ўстала сонца, я быў на нагах. Сабіраўся нядоўга. Хуценька тым-сім паснедаў, узяў стрэльбу і падсумак з некалькімі патронамі і неўзабаве стаяў пад вокнамі Надзі.

Стрэльбу я ўзяў проста так, па закаранелай паляўнічай звычцы,— як гэта накіроўвацца ў лес і не ўзяць стрэльбы? Мала што бывае. Хоць паляваць я амаль адвык, ды і сезон палявання скончыўся. А да таго ж я выпраўляўся ў шлях не адзін, а з Надзяй. Баяўся, што яна наогул забароніць мне браць стрэльбу.

І не памыліўся. Надзя, як толькі выйшла, адразу кінула позірк на маю гармату.

— Стрэльба, Вася? Нашто ты яе ўзяў?

— Проста так, Надзя. Зразумей, Надзя...— бараніўся я скорагаворкай.— Зразумей, гэта прывычка. А страляць я не буду. Толькі, можа, па ваўку. Ведаеш, воўк такі драпежнік...

Надзя рассмяялася.

— Ну, добра, бяры сабе... Але, Вася, запомні — страляць толькі па драпежніку!..

На беразе з трох лодак бакеншчыка я выбраў самую лепшую. Гэта была новая пласкадонка на пяць ці шэсць чалавек, не такая цяжкая і не хісткая, а да таго ж вельмі гонкая. Такія лодкі, як мне здаецца, умеюць рабіць толькі на Сажы. Бо потым, дзе ні бываў, я не сустракаў ім падобных.

— Слухаць каманду капітана! Карабель, поўны наперад! — з вясёлым смехам скамандавала Надзя, і я ўзмахнуў вёсламі. Надзя рулявала ўпершыню, і лодка, вядома, больш слухалася маіх двух вёслаў, чым яе аднаго.

Я ўзяў такі напрамак, каб менш змагацца з імклівай плынню паводкі, і наш карабель стаў хутка аддаляцца ад берага. Вяслуючы, я глядзеў на Надзю,— як яна сябе адчувае, бо на такой вялікай небяспечнай вадзе яна знаходзілася першы раз. Надзя была спакойная, як быццам аб гэтым вельмі марыла. Вочы яе блукалі ўдалечыні, а губы ціха ўсміхаліся. «Мілая...» — прашаптаў я сабе, паддаючыся і сам радаснаму роздуму. Я падумаў аб чароўнай сіле кахання. Вось увайшла ў маё сэрца дабрата Надзі, і якім іншым стаў я ў гэтым чароўным свеце. Плыве над паводкаю цёплае веснавое неба, трубяць у блакіце жураўлі, са свістам крыл кружацца качкі... Усё гэта было і раней, ды толькі было яно неяк само па сабе, ніколі так, як зараз, не адчуваў я бясконцай роднасці з навакольным жыццём...

— Надзя,— усхвалявана сказаў я.— Надзя... Мне здаецца, я чую, як б'ецца тваё сэрца...

Надзя кінула сваё месца, апынулася побач са мной. Лодка разгайдалася, але гэта Надзю не спалохала, яна парывіста абняла мяне. І мы ўпершыню моцна пацалаваліся — пад позіркам сонца, сярод пляскотных лагодных хваляў, што неслі нашу лодку наперад і наперад.

Хутка наша вёска стала ледзь бачнай, мы наблізіліся да свайго запаветнага лесу. Лодка прыстала крыху ніжэй, чым я меркаваў, але і тут мясціна была выдатная — на сыпкім пясчаным беразе пачыналася сухая звонкая дуброва. На нас дыхнула па-вясноваму густым лясным водарам. Вясёлыя малінаўкі і зяблікі адразу нам кінулі столькі спеваў і клічаў, і такое рэха ішло ад іхняга перагуквання, што Надзя запляскала ў далоні.

— Птуша-а-чкі, лю-быя-я-а!.. Дзя-я-куй ва-а-ам! — крыкнула Надзя і пабегла ў лес. Я ўсцягнуў лодку на бераг і скіраваўся за ёй. Надзя стаяла ў гушчары каля гонкай сасны і, убачыўшы мяне, зрабіла знак, каб ішоў цішэй.

— Глядзі...— шапнула яна і паказала на вяршыню дрэва.— Гняздо... Птушка гняздо будуе...

Уверсе завіхалася сарока... Я чамусьці вельмі не люблю гэтых лясных крыкух, можа, за тое, што яны скрытныя, лютыя драпежнікі. Мне брыдка на іх глядзець. Але я зразумеў Надзін настрой. Захаплялася яна не самой птушкай, а тым, што перад намі будуецца новае гняздо. Для нас, безумоўна, гэта быў не звычайны сімвал. І я, хоць нічога не адказаў Надзі, стаў побач з ёю — плячо ў плячо — і таксама глядзеў на старанні нялюбай мне птушкі. Рап-

там сарока прыпыніла свой занятак. Паківала галавою, як бы аб нечым шкадуючы, на нашых вачах дзюбай і кіпцюрамі напалову разбурыла сваё збудаванне і пераляцела на другое дрэва непадалёк. Я паглядзеў туды і здзівіўся, убачыўшы, што сарока пераляцела не проста так: яна пачала там новае будаўніцтва.

— Надзя,— папрасіў я.— Давай даглядзім, што будзе далей!

На самай вяршаліне сасны было, мусіць, дагэтуль заціснута паміж сукамі некалькі дзябёлых сухіх галін. Сарока аднекуль прынесла сюды галінак драбнейшых. І, хутка працуючы дзюбай, расклала іх роўным паўкругам на ранейшыя. І яшчэ прынесла, і зноў уладкавала. Так яна лётала некалькі разоў, і вось яе ўжо не стала відаць за краем наношанага ламачча.

— Мусіць, нас заўважыла, схавалася,— выказала меркаванне Надзя.

Не, яна не заўважыла нас. Але, напэўна, ёй зноў надакучыла яе праца. Бо, вылезшы з-пад толькі што наношанага ёю будаўнічага матэрыялу, сарока пасядзела, агледзелася і, капырснуўшы нагой так, што частка ламачча зашумела ўніз, некуды сама знікла.

— Дзівачка нейкая...— перадыхнуўшы, сказала Надзя. Я з ёю згадзіўся, і мы пакрочылі па схілу ляснога ўзгорка, збіраючы свежыя пралескі. Іх выбілася тут вельмі шмат, хутка ў Надзі быў вялікі букет. Яна сказала, што засушыць і захавае іх, як памяць аб нашым першым сумесным падарожжы. І я стараўся назбіраць гэтых сініх кветак вясны як мага больш. Падносіў іх да Надзі і параўноўваў з яе вачамі. Не, хіба можна было параўнаць гэтыя халодныя кветкі з жывымі, цёплымі, такімі глыбокімі і яснымі вачамі Надзі!

Надзя смяялася, ёй было прыемна, а гэта надавала мне сіл — я не стамляючыся гойсаў па лесе, выбіраў ёй прыгажэйшыя і буйнейшыя кветкі, рознай формы і велічыні шышкі для калекцыі, паказваў, куды вядуць шматлікія лясныя сцежкі. Так мы прабылі ў лесе досыць доўга і напэўна блукалі б і яшчэ, калі раптам я заўважыў, як трывожна закалыхаліся і загулі вяршаліны магутных соснаў.

— Трэба ехаць, Надзя, пачынаецца моцны вецер...

— Так рана? Вася! Калі мы яшчэ сюды прыедзем — невядома. А тут зараз так добра!.. Пабудзем крышачку, Вася! — не згаджалася Надзя.

Але я лепш яе ведаў, што такое дабрацца нам да свае

вёскі ў моцны вецер. І ўстрывожыўся не на жарт, чуючы, як увесь лес пачынае шумець глуха і пагрозна. Я схапіў Надзю за руку, і хутка мы былі каля свае лодкі. Тут я ўбачыў, што непакоіўся недарэмна. Вялікая веснавая вада была далёка не лагоднай. Яна ўзнялася белымі грабянямі, кідала пену на бераг, біла ў нашу лодку. Дзьмуў паўднёва-заходні вецер, а я ведаў па вопыту, што ў гэтай мясцовасці ён заціхае не скора. Таму, не доўга думаючы, спіхнуў наш карабель, стараючыся, каб не зачарпнуць вады. Надзя зноў села на карму, а я з усіх сіл налёг на вёслы.

Аднак пасоўваліся мы досыць марудна. Вецер узмацнеў, хвалі пачалі пераліваца цераз борт лодкі. І я, хоць знешне і заставаўся вясёлы, па-сапраўднаму засумаваў.

Мы ад'ехалі ад лесу не больш двух кіламетраў, заставалася яшчэ ўсіх тры ці чатыры, калі я ўпэўніўся, што справа наша кепская. Хвалі цяпер сталі вышэй нашай лодкі, мне з вялікімі намаганнямі ўдавалася трымаць лодку супраць іх, бо калі б яна павярнулася бортам к ветру, яе ў той жа момант заліло б вадой. Развярнуць лодку назад, да лесу, нечага было і думаць — хвалі білі б нам якраз у борт. Кіравацца далей таксама не стала ніякай магчымасці. Карацей кажучы, мы апынуліся ў поўнай уладзе стыхіі. Надзя, відаць, яшчэ не поўнасцю гэта ўсвядоміла,— яна толькі крычала мне праз шум паводкі і ветру, каб я менш ліў вады ў лодку вёсламі, бо вада падступае ёй пад ногі.

У небяспечныя хвіліны для жыцця з думкай чалавека адбываецца што-небудзь адно: яна або замірае — гэта тады, калі чалавек паддаецца свайму лёсу, або развінаецца, як спружына, знаходзячы выйсце з цяжкага становішча. Паддацца сумнаму лёсу, што навіс над намі, мне было б вельмі недарэчна. Бо я ж быў на парозе свайго шчасця. Мне трэба было абавязкова выратаваць сваю Надзю і сябе. Як толькі мог, я шукаў у думках гэтага выратавання.

І я прыдумаў. За кіламетр ад таго месца, дзе зараз знаходзілася наша лодка, ёсць на лузе невялікая выспа Кавыча, якую ніколі вясной не залівае. Вецер дзьмуў, праўда, не прама ў бок тае выспы. Але я прыкінуў, што калі трымаць лодку наўскасяк па хвалях, дык, магчыма, і ўдасца да яе дабрацца. Самае галоўнае было цяпер выбраць момант і развярнуць лодку. Калі адна бурная хваля разбілася аб кіль пласкадонкі і вада наўкруг закіпела,

як у гаршку, я, маланкава працуючы адным вяслом, а другім накіроўваючы, павярнуў лодку ў патрэбным напрамку. Хоць у лодку і ўлілося трохі вады, аднак цяпер яна пайшла шпарчэй, бо мне памагаў вецер. Надзя нічога не разумела, яна чула, што хвалі б'юць зараз у карму, дзе яна сядзела, і, мусіць, дужа напалохалася.

— Куды мы едзем, Васіль! Што ты робіш! Ты мяне ўтопіш! — чуўся яе рэзкі голас. Але я нічога не адказваў, а веславаў і веславаў, бо не было часу ні адказваць, ні разбірацца ў адценнях нашых настрояў.

Выплылі мы на выспу толькі нейкім цудам. Нас проста выкінула на бераг Кавычы: амаль залітую вадой пасудзіну і двух напаўзледзянелых людзей. Напэўна, у нашым выратаванні немалая заслуга і лодкі, вельмі пад'ёмістай і ўстойлівай на вадзе. Таму я і лічу, што нідзе няма лепшых лодак, чым на Сажы...

Змагаючыся з бурай, я дастаткова напрацаваўся. Да таго ж усё цела было ў нервовым напружанні,— таму, ступіўшы на зямлю, адчуў вялікую стомленасць. Ногі былі мокрыя вышэй каленяў, і я з жалем успомніў пра свае юхтовыя боты, сумна глянуўшы на камашы з вострымі насамі. І як гэта я не надзеў боты! Добра, што яшчэ не расстаўся з бобрыкавай курткай. Аднак пра сябе я адразу ж перастаў думаць, глянуўшы на спахмурнелую Надзю. Ёй у яе туфельках-вылівайках, безумоўна, было яшчэ горш, чым мне ў маіх модных камашах. І наогул — трэба было падбадзёрыць яе. Я звярнуўся да Надзі як мага весялей:

— Вось і рабінзонамі пабудзем, Надзя! А ведаеш, што нам пагражала...

— Ведаю...— неахвотна адказала Надзя.— Бачыла. А толькі я лічыла, што ты лепшы марак...

— Што ты, Надзя! Зразумей, якая бура... Добра, што мы апынуліся хоць тут...

— Не вялікая радасць. Глядзець тут адзін на аднаго...— «Што ж, падумаў я, яна ж таксама стамілася...» — Ну, а чым жа мы зоймемся, рабінзон? — раптам яна змяніла тон, усміхнулася.— Ты даруй, Вася, у мяне, мусіць, нервы...

— Ну, вядома, нервы... Не хвалюйся, Надзя. Зараз распалім цяпло, потым сціхне бура, і мы дабяромся дадому. Вось, пагрэйся...

Я зняў сваю бобрыкавую куртку, ускінуў Надзі на плечы, а сам падаўся ў дубняк, які рос побач. Набліжаўся

вечар, трэба сабраць дроў пабольш. Бо мне было ясна, што да наступнай раніцы нам выбрацца адсюль не давядзецца...

Хутка на беразе ляжала гара сухога хворасту і карчоў. Я выбраў найбольш зацішную мясціну і расклаў цяпло. Агонь разгарэўся, Надзя павесялела, павесялеў, убачыўшы гэта, і я. Прынёс яшчэ столькі ж дроў, а потым пайшоў шукаць чаго-небудзь сушэйшага, чым можна было б усцаць сырую зямлю каля кастра. Мне пашанцавала: паміж зараснікамі дубняку наткнуўся на старое астожышча, дзе засталося нямала сена. Зімой, мусіць, яно ўмерзла і яго не забралі. Я перанёс знойдзенае багацце да кастра, з адной часткі сена зрабіў добры ложак на зямлі. Затым нассякаў нажом дзябёлых дубовых парасткаў і з боку ветру загарадзіў імі нашу стаянку, пакрыўшы другой часткай сена. Рабіць усё гэта мне было вельмі прыемна, бо я заўважыў, што з кожнай хвіляй да Надзі вяртаецца яе мілы настрой.

— Ну, як, Надзя, добры з мяне будаўнік? — з усмешкай спытаў я, закончыўшы працу і радуючыся, што цяпер нам не страшны самы моцны вецер.

— Добры, Вася... Ведаеш, Вася, я толькі цяпер адчула, як мне было страшна там, на паводцы...— Яна скаланулася.— Ты малайчына ў мяне, Вася...

Лепшай узнагароды, вядома, ніхто на маім месцы не стаў бы і жадаць. А калі яшчэ дадаць, што Надзя пасля гэтых слоў прыхінулася да маёй шчакі сваёй агністай шчакою, дык вы зразумееце, на якім я апынуўся небе.

Касцёр наш гарэў весела: пакуль сцямнела, мы добра абагрэліся і абсушыліся. Я падбіў сушэйшага сена для Надзі, накрыў яе сваёй курткай, і яна, падкурчыўшыся, хутка заснула. «Ну, вось і добра. Няхай адпачывае, заўтра ўстане бадзёрай і вясёлай». Я паклаў на агонь кавалак вялікага дубовага пня і пайшоў паглядзець лодку.

Бура за гэты час не толькі не пацішэла, а яшчэ больш расхадзілася. На выспу ляцелі грозныя высокія валы, паводка нібы злосна гневалася, што застаўся незатоплены ёю кавалак зямлі. Лодку нашу заліло вадой амаль да краёў, можна было не баяцца, што яе знясе. Аднак я ўсё ж убіў у зямлю адно з нашых моцных вёсел і некалькі разоў абкруціў вакол яго жалезны ланцуг, прыкаваны да лодкі.

Усю ноч змагаўся я з дрымотай, седзячы ля кастра, пазіраючы, каб ён не звёўся. Па-першае, шкадаваў Надзю — мне хацелася, каб у яе не засталося дрэнных успа-

мінаў аб гэтым начлезе. А па-другое, мне самому было дужа холадна. Курткай маёй накрылася Надзя, на мне, праўда, быў яшчэ лыжны шарсцяны світэр, без яго я цяпер наогул выглядаў бы бедаком. Але ўсё роўна даймаў холад. Таму я ўсю ноч шураваў агонь, не шкадуючы дроў. Мяне заспакойвала тое, што Надзя адчувае сябе добра, ды яшчэ надзея, што раніцай усе рабінзонаўскія пакуты скончацца. Не павінен жа вецер лютаваць так доўга. На світанні неба закрылася хмарамі, пасыпаліся дробныя ледзяныя крупкі, якія адразу ж раставалі. І я лічыў, што гэта добрая прыкмета — на змену ў надвор'і.

Аднак ні світанне, ні сама раніца нічога новага для нас не прынеслі. Бура грукатала па-ранейшаму, сонца не паказвалася. Стала яшчэ халадней і самотней. Надзя, прачнуўшыся, спачатку была развесялілася, назвала мяне сваім добрым анёлам, пакуль не ўсвядоміла, што ехаць дадому мы яшчэ не маем магчымасці. Пасля таго яна сядзела панурая, чужая, зусім далёкая ад мяне. Як быццам яе падмянілі.

Мяне, прызнацца, пачынала трохі здзіўляць гэта Надзіна няўважлівасць. Яна не пацікавілася, як я правёў ноч, не спытала, ці не холадна мне, кутаючыся сама ў маю бобрыкавую куртку.

Але, дарагі чытач, улічы, што гэтыя словы пішуцца зараз, а тады я самаадданa тварыў свой маленькі подзвіг, робячы ўсё, каб было лепш Надзі. Дрэнны настрой Надзі я тлумачыў сабе часткова тым, што яна, такая інтэлігентная, кволая, шмат перажыла за апошнія суткі. А часткова і больш празаічнай акалічнасцю. Трэба ўлічыць, што мы выбраліся з вёскі ўчора раніцай і з таго часу нічога не елі. Я гатоў быў забіць сябе за тое, што не здагадаўся ўзяць з сабою хаця б акрайчык хлеба. Але ж як я мог разлічваць на такое здарэнне? А цяпер, карай сябе ці не карай, а прапанаваць Надзі чым-небудзь падсілкавацца я не мог. Мяне хоць выратоўвала мая махорка, добра, што ў кішэні быў цэлы пачак. Для агульнага ж спажывання я меў толькі некаторы запас духоўнага рацыёна: вершы любімых паэтаў. І, не выбіраючы, стаў чытаць адзін з іх, нечакана здзівіўшыся, як здорава падыходзіць ён па свайму зместу да нашага становішча:

И ветер, и дождик, и мгла
Над холодной пустыней воды.
Здесь жизнь до весны умерла...

Надзя рэзка скінула з сябе маю куртку.

— Кінь, калі ласка, сваё глупства! Зноў, відаць, пра каханне, і зноў сваё! Лепш падумаў бы, як выбрацца адсюль!

Але яна, мусіць, зараз жа апамяталася і захацела паправіцца:

— Васіль... Зразумей, трэба знайсці нейкі выхад. Нельга быць такім эгаістам... Ты зусім не думаеш, што будзе са мной...

Эгаістам?.. Гэта было больш чым недарэчна. Што эгаістычнага вынікала з маіх паводзін?..

— Надзя...— спакойна загаварыў я, хоць у душы збіралася ўжо нешта трывожнае.— Ты бачыш, я звычайны чалавек, я не магу спыніць буру. Падумай сама, ці варта нам злавацца за тое, у чым ніхто не вінаваты? Лепш давай заспяваем песню! І, ведаеш, Надзя, калі-небудзь мы з прыемнасцю ўспомнім, як перажылі непагоду...

— Ты сабе спявай і перажывай. А я не маю намеру далей тут заставацца. Хадзем да лодкі! — Надзя стала зусім грубай і злоснай.

Я і зараз прабачыў ёй жорсткасць, улічыўшы цяжкасць яе становішча, і моўчкі пайшоў услед.

— Што будзем рабіць?

— Ехаць!

Да лодкі цяжка было падступіцца, так бушавалі хвалі. Гэта была проста нямыслімая задума — спрабаваць пры такім шалёным ветры не тое што ехаць, але нават спусціць лодку на ваду. Аднак, паколькі Надзя гэтага не разумела, я пайшоў на ўсё. Не спыніўся перад непрыемнасцю лезці ў ледзяную ваду. Скрануць з месца залітую лодку я не здолеў, таму зняў свой картуз і стаў выліваць ім ваду. Праца гэта была надзіва бязглуздай, бо колькі я выліваў вады — амаль столькі ж адразу яе набіралася. Аднак на мяне напаў настрой поўнай абыякавасці; я не спыняў працы, здзіўляючыся толькі, як Надзі не надакучыць стаяць і назіраць за мной. «Што ж, усё роўна няма чаго рабіць, хай лепш так, чым лаяцца».

Нарэшце вады ў лодцы ўсё ж паменела. Цяпер я трохі падцягнуў лодку вышэй на бераг, прылаўчыўшыся, з цяжкасцю перавярнуў яе і выліў амаль усю ваду.

Надзя сказала рашуча:

— Сядай. І мы зараз жа едзем...

Я не стаў пярэчыць. Кожная дзея павінна мець свой натуральны фінал. Што лодку не ўдасца спусціць на ваду, у гэтым я быў упэўнены. А таму не пайшоў нават па

стрэльбу, якая засталася пад сенам ля кастра. Няхай хоць яна пабудзе сухою.

Аднаму сцягнуць з берага набраклую пласкадонку не лёгка нават у ціхую пагоду. А тут мне перашкаджалі вецер і хвалі. Доўга я змагаўся, пакуль лодка апынулася на вадзе. Гэта была сумная работа. Але самае сумнае адбылося потым: лодку адразу ж заліло гарой вады. І не толькі заліло — яе кінула мне пад ногі і перакуліла амаль на мяне.

І тут я пачуў: Надзя звонка-звонка рагоча. Я таксама шчыра рассмяяўся ўслед за ёй. Хоць быць аблітым сцюдзёнай вадою не так і смешна, ды зараз Надзін смех мне здаваўся канцом яе раздражнення. «Што ж,— падумаў я,— пасмяёмся і мірна пойдзем да кастра».

Між тым усё атрымалася наадварот. Надзя прыжмурыла вочы, якія цяпер былі не сінімі, а злосна-зялёнымі, і гучна прашаптала...

— І ты таксама смяешся?.. Я думала, ты толькі няўмека, а ты яшчэ і дурань...

Гэтага вытрымаць я ўжо не мог. Цярпенне маё скончылася. Я дагнаў Надзю, калі яна павярнулася ісці да кастра, і моцна схапіў за плячо.

— Што ты сказала? — крыкнуў сумна і разгневана.— Ты падумала, што ты робіш? Ты падумала, што не я эгаіст, а ты эгаістка! Ты...— Я задыхаўся... Я не здолеў вымавіць слова, якое было на языку — што яна дрэнь...

Надзю ці перапалохаў мой выгляд, ці яна раскаялася. Ці прыкінулася вінаватай і пакорлівай:

— Вася... Ты дарэмна думаеш, што я дрэнная, злосная... Мне цяжка... Хіба не бачыш?..

Я хацеў крыкнуць, што мне таксама не лягчэй. Але — дзіўная рэч! — змоўк, як было шмат разоў: мне стала шкада Надзі. Я ж малады хлопец, мужчына, намнога мацнейшы, сорамна раўняць сябе з дзяўчынаю! І зноў узяў сваю куртку, накінуў Надзі на плечы, правёў да кастра. Агонь амаль звёўся за гэты час, дровы скончыліся. Я крыху падбадзёрыў касцёр недагарэлымі галавешкамі і пайшоў па дубняк. А калі вярнуўся, Надзя плакала, апусціўшы галаву. Плакала яна не саромячыся, як бы напаказ. Сэрца маё трывожна сціснулася, але я палічыў, што лепей зараз Надзю не чапаць... Сеў і доўга глядзеў на касцёр, думаючы. На мяне напала, напэўна, нейкая філасофская плынь... Сам таго не заўважыўшы, я пачаў разважаць услых. Гаварыў аб тым, што самым прыгожым у чалавеку

ёсць яго мужнасць, здольнасць і ў малой і ў вялікай нягодзе захаваць свае светлыя пачуцці... Што найвышэйшым выяўленнем гэтых светлых пачуццяў чалавека з'яўляецца яго каханне, якое трэба берагчы ад наносаў дробнага самалюбства... Што ўсё няпэўнае змятаецца жыццём, а моцнаму нічога не страшна...

Ачнуўся я ад гнеўных слоў Надзі...

— Ты не ўмееш цаніць прыгажосці!.. Ты!.. Каб ты ўмеў цаніць прыгажосць, я не пакутавала б на гэтай тваёй выспе!..

Эх, каб яна зараз сказала, як гаварыла яшчэ зусім нядаўна, заходзячы з марозу ў настаўніцкую: «Пагрэй рукі, Вася!..»

Але яна ўсё больш разгаралася злосцю. І скончыла заявай, што не хоча сядзець разам са мной ля цяпла...

Надзя падхапілася з месца. Падымаючыся, яна неспадзявана зачапіла нагой стрэльбу. Спынілася.

— Твая стрэльба?..— Надзя як быццам нешта ўспомніла.— Аднак ты забыўся, што я галодная... Ты не падумаў, што са мной стане. Вось тваё каханне!..

— Надзя! — сказаў я летуценна. Мне хацелася вярнуць ёй супакоенасць душэўнага хараства.— Успомні, любая. А ці не ты вучыла мяне шанаваць усё жывое, усё чароўнае? Прыгажосць. Ах, прыгажосць! Ці не маё каханне да цябе, Надзя, прынесла мне столькі радасці, калі я бываў на прыродзе!

Надзя ці прыгадвала тое, што яна раней гаварыла, ці шукала мне адказ. Глядзела то на стрэльбу, то на мяне. Раптам, ужо зусім лагодна, сказала:

— Вася!.. Праўда... я казала... Толькі ёсць розніца... Там, дзе я хачу і дзе я не хачу, там, дзе ёсць у мяне патрэба... Ты чуеш, Вася?.. Я так хачу...

Мяне кінула ў дрыжыкі ад яе слоў. Перада мною раптоўна паўсталі усе этапы, усе драбніцы нашага знаёмства з Надзяй. Я ўспомніў і яе колішнюю пагарду да мяне, і тое пісьмо, кінутае ў печ, і чырвоную пляму на галаве Конанава. І ўсе нечаканыя змены ў яе паводзінах. Усё гэта паўстала ў зусім іншым святле. Нешта з цяжкім звонам абарвалася ў маім сэрцы. Прыгажосць... У адзін час яе можна папікадаваць, а ў другі — можна задушыць... Гледзячы па тым — ці ёй трэба, ці не трэба. Вось была яе філасофія... Я глядзеў на Надзю з непрыхільнасцю.

— Я не магу страляць...

— Чаму? Ну, скажы, чаму?!.— Яна, відавочна, вельмі

сябе любіла, бо зусім не падазравала, што зрабіла сваім апошнім прызнаннем.

— Замоклі патроны...

Я сказаў няпраўду, бо надта баяўся гібелі сваіх светлых мар. У сэрца, мабыць, не было яшчэ слоў, якія выказалі б стан маіх новых пачуццяў. Ці, магчыма, не так проста перакрэсліць створанае самім уяўленне аб чалавеку.

Надзя не заўважала маіх перажыванняў. І цяпер гэта мяне не так ужо здзіўляла. Што ёй да маіх пачуццяў? Яна думае пра іншае. Зараз ёй трэба, каб я зрабіў прыкрую для сябе справу. Згодна з яе філасофіяй, ёй трэба ўгаварыць мяне. І яна ўніжалася:

— Ты надсушы патроны, Вася... Вася... Не зважай на мае ранейшыя глупствы...— учапілася ў руку.— Давай Вася... Любы... а?.. Добра?..

Калі б гэтыя словы я пачуў раней, да таго, што тут адбылося,— якой песняй гучалі б яны для майго сэрца! А зараз яны мяне абуралі. Каб як-небудзь адбіцца, я сказаў:

— Так, добра... Але гэта будзе не хутка...

Патроны былі сухія — мой скураны патранташ быў накрыты сухой карой пад сенам. Але я паклаў два патроны на дубовую трэску і доўга трымаў іх высока над кастром. Дзень між тым канчаўся. Цёмныя хмары паскорылі змярканне. І калі пачулася пытанне, ці хутка я спраўлюся, то сказаў:

— Ужо сцямнела. Зараз усё роўна нічога не падстрэліш...

Тады яна ўсхапілася і стала проста непазнавальнай.

— Ты слімак і раб! — крычала Надзя.— Ты мне заўсёды быў агідны, а зараз... я не магу на цябе глядзець!

І, так шалеючы, яна ўпала на сваё сена... Сціхла... Каб яна хоць заплакала... Я зноў дараваў бы ёй... Ноч прайшла для мяне ў невясёлых думах... Як зусім чужыя, праваляліся мы ля кастра... Яна не спала, бо яе душыла злосць. А я не спаў, бо ніколі не быў у такой бясконцай адзіноце...

Раніца пакуль што нічога не змяніла ў надвор'і. Пачыналіся трэція суткі, як мы выехалі з дому. Я паглядзеў на чалавека, што ляжаў перада мной ля кастра, мне стала страшна, як яна апусцілася. І пашкадаваў яе. Гэта было не тое шкадаванне, якое з каханнем — родныя браты, і якое давала мне столькі шчасця раней. Гэта было іншае шкадаванне — у якім няма ні павагі, ні крыўды... Я ўзяў стрэль-

бу і, папярэдзіўшы, што «трэба панаглядаць за агнём, бо іду страляць», пасунуўся да берага.

Над выспай часта пралятаді дзікія качкі. Свіст іх крыл часам быў чуцен і праз шум хваль, і тады можна было ўбачыць іх вясновыя пары і чародкі. Я стаў у лазовым зарасніку ля самай вады і закрычаў, падрабляючы голас пад голас качкі, бо добра ўмею гэта рабіць. Хоць і сумняваўся, што заклік мой будзе пачуты, але крычаў па ўсіх правілах гэтага мастацтва. Мне не хацелася забіваць матку, я наважыўся падвабіць качара.

І нарэшце адзін з быстракрылых летуноў з'явіўся над хвалямі. Як забойца, я ўскінуў стрэльбу. І калі прагучаў стрэл, птушка, склаўшы крыллі, падганяемая ветрам, чмякнулася на бераг каля самых маіх ног. Гэта быў качар. Ніколі ён не бывае такім прыгожым, як вясной. Як маладая радуга, усімі, што ёсць на свеце, фарбамі ззяла яго вясновае ўбранне. Адно вока птушкі было выбіта шротам, а другое пільна глядзела на мяне і нібы ўсміхалася. Ён ляжаў каля маіх ног, паміраючы, і, здавалася, гаварыў, што гэта не будзе мне даравана. Я з сумам успомніў, што паляўнічыя такі стрэл, калі птушка падае да ног, завуць каралеўскім стрэлам... Што ж, хоць сам не кароль, дык ёсць тут каралева...

А яна між тым была ўжо каля мяне. Адной рукой схапіла яшчэ трапечучага качара, а другой, не паспеў я адхіснуцца, бурна мяне абняла.

— Дзякуй, Вася... Мілы!.. Ты малайчына, Вася!.. Так... Цяпер мы з табой паснедаем!..

Божа мой! Што яна са мной зрабіла! Усё, што падспудна накаплялася ў маёй душы за гэтыя дні і хвіліны,— усё ў адзін міг ператварылася ў бясконцую і зацятую нянавісць да гэтай нікчэмнай жанчыны! Яна душыла мяне і прыніжала, яна, гэтая нянавісць, усё ва мне разрывала і кідала ў прадонне...

А «каралева» ўжо завіхалася каля агню. Калі я падышоў туды, вясёлка пераставала існаваць. Спрытныя пальчыкі шумна рвалі вясёлае ўбранне, зялёныя і сінія, ружовыя і светлыя, жоўтыя і рудаватыя пярынкі разляталіся па баках, вецер падымаў іх і каціў па выспе... Я пачуў запытанне, ці ёсць у мяне нож. Паклаў ёй нож, а сам пакрочыў ад кастра. Падышоў да берага, дастаў з падсумка астатнія патроны. І, шырока размахнуўшыся, кінуў іх на бушаваўшую ваду... Потым доўга блукаў па выспе. Я не мог знаходзіцца там, ля кастра, побач з ёй...

У другой палове дня вецер прыкметна сціх. Неба разгладзілася, пачалі разыходзіцца хмары. Хутка з'явілася сонца. Водная стыхія патроху супакойвалася. Я стаў рыхтаваць сваю лодку да адплыцця. Калі валы ўлягліся настолькі, што можна было ехаць, не рызыкуючы, запрасіў Надзю... Надзю Пятроўну... былую маю мару... сядаць у лодку.

Я рашыў пераехаць спачатку на бліжэйшы бераг, туды, дзе стаяў «наш» лес. Ніжэй гэтага лесу прытулілася на міжгор'і вёска. Пакуль што, на ўсякі выпадак, падумаў дабірацца туды, гэта было значна лягчэй. Хвалі хоць ішлі яшчэ высока, ды не было ўжо ў іх шалёнай сілы і злосці — то былі хвалі заміранння... У вёсцы мы зайшлі да знаёмага мне калгасніка. Гаспадыня дастала з печы гарачую капусту, наліла ў шклянкі малака. Нічога смачнейшага ў жыцці ні да таго, ні пасля я ніколі не еў...

Незадоўга да захаду сонца паводка, нарэшце, зусім супакоілася. Я падзякаваў гаспадару і гаспадыні, і хутка наша лодка, гайдаючыся на лагоднай стомленай вадзе, узяла кірунак да роднай вёскі. Яшчэ не зусім і змерклася, калі яна прыстала да берага.

На гэтым можна было б і скончыць сваю быль. Але, мне здаецца, чытачу цікава будзе даведацца, што, выйшаўшы з лодкі, Надзя падышла да мяне. І, як быццам нічога паміж намі не адбылося, весела прашчабятала:

— Вася!.. Мы абавязкова павінны яшчэ раз з'ездзіць на тую выспу... Толькі калі будзе ціха... Ведаеш... Там, мусіць, такая бывае прыгожая цішыня!.. Праўда, Вася?..

Я ўзяў вёслы і моўчкі пайшоў на гару. Ад хаты бакеншчыка далёка ўсё было відаць навокал. Вунь той «наш» лес, вунь выспа Кавыча... А каля іх, і за імі, тут і ўсюды, хоць і сціх вецер, шумна кацілася паводка. Яна шумела не так сабе; яна змывала з лугоў і далін увесь леташні бруд, каб на іх, чыстых і пасвяжэлых, зацвіла лотаць, прабілася новая, да болю ў вачах зялёная трава...

*1966*

## ЗМЕСТ

Роздумы



На міжнародныя тэмы. *Памфлеты*

## Пушчанская памяць

*Вершы, паэмы, казкі*

## Апавяданні

**Кірэенка К.**

К 43 Збор твораў: У 3 т. Т. 3. Вершы, паэмы, апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 510 с., 1 л. партр., [5] л. іл., партр.

ISBN 5-340-00093-1

Трэці том склалі вершы і паэмы 1981—1986 гг., а таксама празаічная паэма «Вандроўнае шчасце» і апавяданні, напісаныя ў розныя гады.

К $\frac{4702120200-104}{М\ 302(03)-88}$ 93—88

ББК 84 Бел7

**Константин Тихонович**
**КИРЕЕНКО**

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ В ТРЕХ ТОМАХ

**Том**
**3**

**Стихи**
**Поэмы**
**Рассказы**



Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *Хв. Д. Жычка.* Мастак *Ю. М. Цюрын.* Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін.* Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо.* Карэктар *Л. П. Бялова.*

ІБ № 2697
Здадзена ў набор 18.09.87. Падп. да друку 22.04.88. АТ 09595. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 26,88+0,53 укл. Ум. фарб.-адб. 28,04. Ул.-выд. арк. 28,53. Тыраж 3700 экз. Зак. 800. Цана 2 р. 70 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.